# ІВАН МЕЛЕЖ

## ЗБОР ТВОРАЎ У ДЗЕСЯЦІ ТАМАХ



Мінск
«Мастацкая літаратура»
1983

# ІВАН МЕЛЕЖ

## ТОМ 7

## ЗАВЕІ, СНЕЖАНЬ

Раман з «Палескай хронікі»

Рэдактар тома
А. М. АДАМОВІЧ

Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі
Т. М. ДАСАЕВАЙ

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1983

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### 1

Снег пацерушыў трохі і перастаў. Вецер за дзень вымеў белую муку, пазаганяў яе па шчылінах, па закутках. Яркія белыя пасы і латкі толькі дзе-нідзе пярэсцілі панурасць двароў і агародаў.

А холад не толькі не адступіў, а як бы нават узяўся мацней. І днямі, і начамі ўсё стыла на роўнай, шкляной халадэчы. І днямі, і начамі, не сціхаючы, гайсаў над зямлёй сухі, сіверны вецер, сунуліся нізкія шэрыя хмары. Пад нелагодным небам, вылізаныя ветрам, цьмяна льсніліся заледзянелыя лужы на вуліцы, балотныя разлівы, што падступалі да голых зараснікаў. І тыдзень, і другі лічылі толькі халады ды сцюдзёныя вятры: на самым разыходзе восені і зімы нібы раптам прыпыніўся адвечны рух прыроды; восень адышла, а зіма не бралася як след. Усё жыло, здавалася, чаканнем снегу. Чакалі парадзелыя, чорныя алешнікі на балоце, гладкая, бліскотная роўнядзь разліваў і луж, гарбатыя, крывыя рады хат і гумнаў, цвёрдыя, у скамянелых грудках і каляінах дарогі, бясколерная, нежывая трава...

Далёка да позняга ў гэтыя дні світанку ўставала Ганна, вобмацкам выбіралася ў вузкую каморку кухні, поцемкі намацвала запалкі, лямпу. Лупіла бульбу, паліла ў печы, распальвала дзве грубкі ў калідоры, што павінны былі грэць класы, грубку на пакой другой настаўніцы, пачынала варыць снеданне. У клопаце сваім ніколі не прапускала той момант, калі на звонкім, намерзлым двары паяўляліся першыя галасы, патрэскваў ад першых крокаў ганак. Пад тупат і гоман, што ўсё мацнелі, множыліся, весялей было ўпраўляцца са сваім клопатам, самую поўніла беспрычынная радасць. Яна ўжо без здзіўленасці і без няёмкасці хадзіла ў калідоры сярод таўхатні дзяцей, якім да самага званка не

сядзелася ў класе; ды і дзеці ўжо не дзівіліся ёй. Яна цяпер нямала каго ведала: з якога класа, як зваць, які характарам, з кім дружыць. Амаль са ўсімі яна абыходзілася, як знаёмая.

Пад той час, калі дзеці сыходзіліся ўсе, грубкі былі выпалены, у класах было цёпла, утульна, снеданне для Параскі прыгатавана. Калі звінеў званок і Параска з журналам, кніжкамі і сшыткамі, важная, строгая, выходзіла ў клас, Ганне наступаў доўгі час цішыні, у які можна было не спяшацца; можна было чуць сябе дзіўна, нязвыкла вольнай ад пільных абавязкаў. Колькі таго трэба было хуткай Ганне, каб прыбраць у пакоі, прыгатаваць абед: яна часта не ведала, што б яшчэ зрабіць, куды дзець сябе. У такім настроі Ганна любіла прыслухоўвацца да галасоў у класах, радавалася вірліваму тлуму перапынкаў, не разумела Галіну Іванаўну, якая моршчылася ад галаўнога болю і крычала на дзяцей, каб прыціхлі.

Ганна была давольная, што школа жыла з ранку да позняга вечара. Толькі перад вечарам і ў пачатку вечара — гадзіны дзве-тры — маўчалі пустыя класы. Тады ўвальваліся хлопцы, дзядзькі, цёткі: уціснуўшыся ў світах і кажухах у дзіцячыя парты і між доўгіх сталоў, разгортвалі па загаду Параскі газеты і кніжкі, чыталі, адказвалі ёй; часам збіраліся самі, на сход,— гаманілі, крычалі, іншы раз да мацюкоў, абмяркоўвалі свае арцельныя справы; дымілі так, што ў калідоры кашлялі. Раз сабралася купка маладых, дзверы зашчапілі з калідора: развучвалі з Параскай спектакль. Доўгі, нязграбны хлопец Мікалай, запхнуўшы пад сарочку згорнуты пінжак, паказваў пузатага багацея-кулака; другі, трохі шапялявы Апанас, выдаваў з сябе папа. Злосны Мікалай з хітрым Апанасам згаворваліся, як настрашыць людзей, каб яны баяліся ісці ў калектыў. Удвух яны пускалі ўсялякія плёткі, гразіліся божаю караю, і людзі дрыжалі перад калектывам і адмаўляліся ісці, але прыходзіла Параска, смелая і разумная камсамолка з горада, выкрывала плёткі кулака і папа, звала людзей у калектыў, і людзі дружна падымалі рукі за калгас і спявалі «Інтэрнацыянал»...

Параска, у чырвонай хустачцы, завязанай ззаду, у белай з кароткімі рукавамі кофтачцы, не толькі з запалам гаварыла за камсамолку, але і паказвала Міка-

лаю, Апанасу, усім іншым, як трэба ім хадзіць, гразіцца, паказваць страх. Пакуль дайшлі да канца п'есы, Параска стамілася, але гаварыла весела, падбадзёрвала ўсіх; згарнуўшы сшытак з п'есаю, здаволена сказала, што будзе добрая пастаноўка. Ужо калі засталіся адны, падміргнуўшы Ганне, пагразілася, што ў новай п'есе і Ганне падбярэ ролю!

Ганна смехам жа адказала, што нічога, мабыць, у яе не выйдзе! Не здатная яна, Ганна, на такія штукарствы!

## 2

Ганна і Парасцы, і ўсім, хто цікавіўся, як ёй жывецца цяпер, паказвала, што яна шчаслівая і нават бесклапотная. Але калі праўда, што яна, як бы там ні было, радая была вялікаю, такою чаканаю пераменаю ў сваім жыцці, то ніякай бесклапотнасці яна не знала.

Пільна схаваны ад людскіх вачэй неспакой жыў у ёй, насцярожваў, не даваў поўна, шырока цешыцца радасцю вызвалення. Як ні цвёрда стаяла перад Яўхімам, калі ён дабраўся сюды, як ні смела, ганарліва адказвала на яго пагрозы, абяцанне яго: «Усё роўна без мяне табе не жыць» — увесь час помніла; як папярэджанне, якое абавязвала быць заўсёды напагатове. Яна знарок пасміхвалася са сваёй трывогі: і сцены школы, і Парасчына заступніцтва, і само новае становішча, нагадвала яна сабе, давалі ёй чуць сябе тут усё ж у бяспецы, але цвярозы розум не драмаў, напамінаў няспынна, што бяспека гэта не вельмі надзейная. Хто яго можа астрымаць, калі ён уварвецца сюды, разлютаваны, з нажом; або ж хіба цяжка яму падцікаваць яе на двары, на ганку. Ледзь не ўвесь час цягнула яе да акна на вуліцу, прымушала ўслухоўвацца ў крокі дарослых, у галасы.

З гэтым неспакоем жыў у Ганне яшчэ адзін, пра які ніхто не толькі не ведаў, а і не мог здагадвацца, але да якога яна ўсё больш звыкала і які ўсё больш вызначаў, як ёй быць, што рабіць далей. Трэці месяц у Ганне расло, дужэла, заяўляла пра сябе дзіця. Не сказаўшы нікому слова пра яго, Ганна, мяркуючы, як жыць далей, ужо нязменна прымяркоўвала і яго. З ім у Ганні-

на жыццё ішло багата невядомага, багата такога, што давала яе думкам пра будучыню няпэўнасць. Як ёй, аднОЙ, з ім, калі і самой між зямлёй і небам жыць даводзіцца? Калі — гэта ж ясна — давядзецца выйсці з гэтага, няхай сабе не вельмі надзейнага, а ўсё-ткі ж знойдзенага прытулку. Гэта ж ясна — не жыць жа ёй тут, калі прыйдзе пара раджаць! Трэба будзе кудысьці ісці — куды, хто прыме ад яе малое? Цяпер, калі яна і думаць не можа пра тое, каб хоць пад якім прымусам вярнуцца ў Курані...

У гэтыя турботы нязменна ўлазілі горкія думкі, што от суджана маламу, якое яшчэ не нарадзілася, спатыкацца з бядою. Паявіцца, быць без бацькі. Невядома як быць. Не раз сярод гэтых развагі цяжка, супярэчліва ўспаміналa яна Васіля. Яна ведала, што дзіця — не Васілёва. Ад Яўхіма. Цяпер, калі гарачкавы чад хапатлівых сустрэч, хваравітай прагі шчасця, ліхаманкавых надзей сышоў, яна думала цвяроза, што Васіль, калі б сышліся, сталі жыць разам,— пакуль не прывык бы, мабыць, нядобра глядзеў бы на малое. Злаваў бы на яе. Раней, у тым гарачкавым імкненні, гэта не толькі не стрымлівала яе, а нібы не даходзіла добра да галавы; дзіўна ўпэўнена, лёгка думала: прывыкне хутка, зладзіцца. Цяпер, працверазелая, яна не думала пра гэта з такой лёгкасцю, але, хоць і ведала, што няпроста і не адразу прымірыўся б ён з малым, была і цяпер упэўнена: прывык бы ўсё ж, прымірыўся б. Маглі б жыць добра, шчасліва! Малое не шкодзіла б іх шчасцю, як і яго сын, калі б ён узяў з сабою! Таму і цяпер, між блытаніны развагі пра сённяшняе, пра заўтрашняе, не раз ажывала, ныла крыўда на тое, што ён, Васіль, мала любіў яе, не захацеў пераступіць усяго. Не паслухаўся яе, не падаўся разам. Удваіх было б усё інакш.

У хвіліны спакойнай разважнасці крыўду змяняў одум: ці ж Васіль вінаваты ў тым, што не можа пайсці? Ці ж можна вінаваціць чалавека, што ён жыве так, як умее? Як душа вядзе? Што ён не можа іначай, што яму так цяжка мяняць? Што тое, што аднаму лёгка, другому — такое цяжкае, што сілы не мае пераступіць! Была пара, лёгка было ім, вольным, само, здаецца, шчасце ішло. Бяры яго, шчасце, ды дзякуй долі, дык — не ўзяла, дурная! Страціла з-за дурной сваёй галавы!

Назаўсёды страціла! Не хлопец, не вольны цяпер. Гаспадарку зладзіў сваю, столькі сілы ўпяў, столькі агораў. Прыкіпеў душою, душу ўсю аддаў. Калі б і кінуў усё, пайшоў з ёю, багата б там асталося. Не вольны. Не можа. Свая дарога. Неахвотна, прымушаючы сябе, адступалася, адрывала яго ад сваіх надзей: няма чаго хапацца за тое, што прапала. Трэба жыць тым, што дае доля. Жыць адной. Меркаваць адной.

Думала не раз пра Курані: што там гавораць пра яе? Стараючыся адгадаць, яна амаль чула галасы: спачуванне, асуджэнне, ухвалу. Сярод іншых згадвала — насцярожана — мачыху, лагодна, журліва — бацьку: як ён перажыў падзею гэту ў несамавітай долі сваёй дачкі?

Даведаліся ж, пэўна, дзе яна. Не могуць не даведацца. Павінны, мабыць, прыехаць скора...

Яны прыехалі на другі дзень пасля таго, як заявіўся Яўхім.

Ганна толькі памыла падлогу ў Парасчыным пакоі, выйшла з вядром бруднай вады на ганак, калі ўгледзела, што з вуліцы на шырокі школьны двор уязджаюць калёсы. Адразу насцярожана стала: пазнала — перад калёсамі ступаў сівы бацькаў конь. Яна кінулася назад, ткнула вядро ў куток кухні, хапатліва апусціла падаткнуты край спадніцы, хутка выцерла ногі, рукі.

Ступіла ў Парасчын пакой, па мокрай яшчэ падлозе падышла да акна. З хваляваннем, з неспакоем сачыла: бацька спыніўся сярод двара, няўпэўнена агледзеўся. Мачыха кіўнула ў бок школы, штосьці сказала, але ён, крутнуўшы нязгодна галавою, палез з калёс, стаў наматваць вожкі на ручку. Кінуў каню сена. Мачыха таксама злезла з калёс, навастрылася позіркам на школу. Ганна схамянулася, выйшла на ганак. З ганка ступенька за ступенькай сышла ўніз.

Мачыха ўзрадавана заспяшалася насустрач. Бацька замітусіўся, узяў з воза клунак, таксама пайшоў хапаючыся, быццам баяўся спазніцца. Мачыха паздаровалася, пацалавалася, бацька ад хвалявання толькі любасна, жаласна заморгаў вачыма.

— Мы тут падушку ды коўдру прывезлі,— сказала дзелавіта мачыха. Яна трымалася спакойна, з такім выглядам, быццам нічога і не здарылася асаблівага.

— От ето добра,— спакойна ж адказала Ганна. Са

спакойнай жа гасціннасцю запрасіла: — Заходзьце. Гасцямі будзеце!.. Дайце мне клунак, тато!

— Да ўжэ данясу,— не згадзіўся бацька.

Яна першая пайшла ў калідор, у баковачку кухні. У кухні заўважыла: мачыха, прыціхлая, пільная, азіраецца, разглядвае ўсё навокал, бацька стаіць няёмка, не зварухнецца — трымае на руках клунак. Ганна ўзяла клунак, ускінула на печ, каб не маўчаць, растлумачыла:

— Ето — кухня. Тут я гатую...

Мачыха кіўнула спрытнай галоўкай:

— Аге.

Падала абаім табурэткі. Бацька сеў асцярожна, сядзеў напружаны, не зводзіў з Ганны ўважлівых, спачувальных вачэй. У пакой убегла вясёлая, з бляскам у вачах Параска, мачыха адразу падхапілася, дала «добры дзень». Устаў, пакланіўся бацька.

— Ето бацько з маткаю прыехалі,— сказала Ганна.

— Праведаць захацелася...— памагла мачыха.

— А-а! Я так і падумала! Як пабачыла, што ідуць,— рашыла: не інакш — бацькі!.. Вельмі добра! — пахваліла яна так, быццам прыехалі да яе.— Сваякі не павінны забывацца на сваіх!

— Хто ж думае...— падхапіла мачыха.

— Я і кажу — вельмі добра!.. Толькі што гэта вы сядзіце так? Чаму гэта вас не просяць распранущца? Не частуюць чаму? — Бацька сказаў, што нічога не трэба, але Параска слухаць не хацела: — Ганначка, самавар гасцям! Чаю з варэннем клубнічным!..— Яна прыслухалася: з класа, які яна пакінула, ішоў гоман, недавольна пакруціла галавой: — На хвіліну пакінуць адных нельга! — Выскачыла з кухні.

Мачыха сказала, як бы не верачы: харошая якая. Ганна адазвалася з захапленнем: харошая! Схамянулася, падбегла да самавара, дастала з печы гарачага вугалля, укінула ў трубу. Пакуль яна гнулася каля самавара, мачыха не ўтрывала, прыадчыніла дзверы ў Парасчын пакой, зазірнула. Зачыніўшы, стуліла сухія губы, паківала галавой Чарнушку:

— Чысто, як у паноў!

Яна хацела глянуць і ў другі пакой, Галіны Іванаўны, але раптам зазвінеў званок, і яна спалохана адскочыла ад дзвярэй. Борздзенька села на табурэтку, ураз

нагнала на сябе выгляд ціхі, нясмелы. Адразу пасля гэтага ўвайшла Галіна Іванаўна, нелагодна зіркнула на абаіх, моўчкі прайшла ў свой пакой. Пазней зноў зайшла Параска, стала распытваць, як жывецца, хваліць Ганну за працавітасць, за розум. У калідоры між тым бушавалі тупат, крыкі, потым — было падобна — пачалася нават бойка. Параска ўсхапілася, кінулася туды...

Пасля перапынку, калі Галіна Іванаўна зноў моўчкі прайшла праз кухню і ў калідоры стала ціха, распрануўшыся ўжо, асцярожна налівалі ў сподачкі чай, сёрбалі і амаль увесь час маўчалі. Мачыха піла ўпраўна, і варэнне спытала добра, і хваліла яго, бацька цягнуў ваду без смаку, да варэння не дакрануўся. Глядзеў усё жаласнымі, трывожнымі вачыма; па вачах відаць было, як шкадаваў, трывожыўся. Ганне аж супакоіць яго хацелася.

Напіўшыся, выціраючы яшчэ чырванейшы, потны твар, мачыха хвіліну сядзела важная, сур'ёзная. Як бы паказваючы, што цяпер пара пра галоўнае пачаць.

— Буў ужэ?..— ні то запытала, ні то адзначыла проста. Ганна зразумела — пра Яўхіма гаворыць.

— Буў.

Мачыха сур'ёзна стуліла губы. Уздыхнула.

— І к нам прыходзіў. Гразіўся.

— Няхай грозіцца! — Ганна весела ўстала, накрыла слоік з варэннем.— Тут таксамо страшыў! Да я астудзіла трохі!

Бацька не павесялеў ад яе слоў. На твары паявілася нешта нават такое, нібы папракнуць хацеў.

— Ты асцярожней будзь,— папрасіў лагодна.— Ён — паганы...

— Аге, ён калі пагразіўся, дак нешто думае,— павучальна дадала мачыха.— Ты ўсё-такі бойся!

— Не такі ён страшны,— разважліва ўжо, каб не трывожыць лішне бацьку, прамовіла Ганна.

— Страшны не страшны, а — асцярожней будзь.

— Да ўжэ ж, сама не палезу на ражон.

Зноў папілі чаю са сподачкаў і сталі збірацца. Ужо каля калёс, перад тым як развітацца, бацька яшчэ нагадаў:

— Ён — паганы. Не адступіцца так... Ну, і тое — беражонага — бог беражэ...

— Ето праўда,— стуліўшы губы, кіўнула мачыха.

Ганна не стала пярэчыць. Бацька раптам болесна скрывіўся, ледзь не заплакаў. Але стрымаўся.

— Калі што трэба будзе, накажы.

— Накажу.

Пасля іх было маркотна, трывожна думала пра Яўхіма. Але з усім была і палёгка: цяпер ведала, як яны там, пасля ўсяго, што яна зрабіла.

Пад вечар таго ж дня заехаў Міканор. Прывязаў каня каля плота, доўга атрэсваўся каля калёс, выціраў запыленыя боты. На ганку ўжо прыпыніўся, агледзеў сябе яшчэ раз, абцягнуў пінжак, з калідора громка, смела пастукаў.

Ганна, хоць у акно бачыла ўжо, запыталася, хто там; а калі ён брава ўвайшоў, акінуўшы позіркам яго нацятую постаць, сказала радасна:

— О, Міканор сам! Не забывае сваіх куранёўскіх!

— А чаго ж забываць,— у тон адказаў Міканор.— Ето от штоб некаторыя куранёўскія не зазналіся. Не забылі сваіх!..

Ён, адразу заўважыўшы, што Парасці няма, прыслухаўся, ці не чуваць на кухні, у класах. Ганна перахапіла яго, з насмешачкай памагла:

— Параскевы Андрэеўны няма. Пайшла на сяло. Саўсім нядаўна.

Ён нібы не заўважыў яе насмешкі, знарок спакойна патупаў, зірнуў у акно да каня.

— Ехаў от з Юравіч. Дай, думаю, пагляджу, як жывуць...

— Жывем от неяк. Не жалуемся.— Падчапіла: — Каб часцей заязджалі некаторыя, дак можа б шчэ лепей жылі.

— На адчот у райком вызывалі,— нібы не заўважыў ён жарту.— Як да зімы падгатовіліся.— Міканор сеў на крэсла каля стала са сшыткамі, узяў адзін, разгарнуў.— Ето ж сколькі труда трэба, штоб навучыць чалавека розуму!..

— Ну, і што там у раёне? Пахвалілі?

— Усяго было. Трохі пакрыцікавалі. Далі саветы. Усё як паложано.— Міканор устаў, ступіў некалькі крокаў спакойна, павольна. Глянуў на Ганну, што сачыла з усмешачкай. Нібы не бачачы гэту ўсмешачку, пахваліў: — Усё-такі набралася духу! Дала адстаўку Глушаку! Даўно трэба было!

— От не магла дадумацца сама! А ты не падказаў!

— Сама думаць павінна б! Е галава на плячах!..— Прайшоўся яшчэ трохі, сказаў тонам, у якім таілася нешта грознае: — Нічого. Скора возьмемся так, што заенчаць Глушакі! Канчаецца іх панаванне! Так што ты не бойся!.. Буў, кажуць, ужэ?

— Буў...

— Не бойся!

— Дзякую за падмогу. Толькі я — не баюся.

— От і правільно.

Ганна падумала раптам, што і ходзіць, і гаворыць ён так, быццам Параска бачыць і слухае яго. Ёй стала смешна за яго. Міканор улавіў кпліві яе позірк, незадавольна нахмурыўся.

— Твой Дзятлік от за розум не бярэцца! — прамовіў строга, з папрокам.— Пагано можа кончыцца!

Ганна перастала смяяцца.

— А ты б памог яму. Падышоў бы як трэба!

— К яму падыдзеш! Толькі загаворыш, морду адварочвае!

— Значыць, гаворыш так! Ты ж так гаворыш, што часто і не зразумееш, ці ты раіш, ці загадуеш! Як камандуеш усё адно!

— Нагаварыўся ўжэ, аж у роце горко! Увесь час таўчэш адно, а яны хоць бы варухнуліся!

— Так ето проста варухнуцца! Даў загад — і зразу ўсе штоб пагналі ўсё ў камуну! Пабеглі, падскокуючы з радасці!

Міканор зазлаваў. Не стрымліваўся ўжо:

— Ты ўсё знаеш! Усе падходы!

— Знаю,— сказала яна, зноў нібы ўсміхнуўшыся.— А і табе знаць бы трэба! Калі за гуж узяўся.

Ён толькі ўзлавана зіркнуў. Хаваючы злосць, падышоў да стала, зноў разгарнуў сшытак, стаў разглядаць.

— Ты ето можа прыйшоў, кеб указанне Парасцы даць, як вучыць?

— А што ж, думаеш, не магу? — Ён зноў гаварыў паблажліва: — Маю право на ето!

— То-то я і гляджу: прыйшоў важны! Прыбраўся! — Хацела стрымацца і не магла, дадала кпліва і сур'ёзна: — Е ўжэ ў яе, каму ўказваць!

— Мало хто е...

— Не мало і не багато. Адзін.

Міканор момант вагаўся. Зірнуў з асцярогай.

— Хто ето?

— Ён. Знаеш...

Міканор спахмурнеў. Знае. Невясёлы, ссутулены, доўга маўчаў. Лістаў, не бачачы, сшыткі. Нарэшце схамянуўся, устаў.

— Трэба ехаць.— Пастараўся ўсміхнуцца.— Есці хочацца. А зямлячкі не частуюць... Бацьку можа што перадаць?

— Буў тут сам.

Падаў здаровую, абыякавую руку. Ужо без смеху, шчыра яна папрасіла:

— Прыязджай. Хоць — па дарозе...

— Будзе час — заеду...

Яна потым пашкадавала: нашто растрывожыла яго? Але адразу ж запярэчыла сабе: няхай не дзярэ галаву вельмі! І попусту няхай не цешыцца!..

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### 1

Наступным вечарам неспадзеўкі прынесла Дубадзела. Дужы, жылаваты, у шынялі і ў ваеннай шапцы, Крываропы, адразу заўважыла Ганна, трымаўся неяк нязвыкла лісліва і разам афіцыйна, і гэта зацікавіла яе. Ён неахвотна прысеў на крэсла, калі Параска, таксама цікаўна зірнуўшы на яго, запрасіла сесці, мякка сказаў, што сядзець асабліва няма калі — справы. Пра гэта гаварыў, здавалася, не толькі ўвесь яго выгляд, але і палатняны партфель, які Дубадзел трымаў на каленях і па якім неспакойна бегалі яго пальцы.

— Ну, не ўвесь час справамі аднымі займацца? — хітравата зірнула Параска, падымаючы галаву ад сшыткаў, якія правярала.

— Увесь не ўвесь. А гуляць, можно сказаць, некалі...

— Вам жа не трэба сшыткаў правяраць! І неписьменных вы грамаце не вучыце! Часу ў вас павінна быць аж лішне!

— Дыхнуць некалі! Як у раён перайшоў!

Ён, пасля таго як не выбралі ў сельсавеце, уладзіўся раённым упаўнаважаным. Невялікае, але ўсё ж начальства, з партфелем ходзіць! І палёгку даць, і прыціснуць можа, што ні кажы — раённы прадстаўнік! Не дарэмна частуюць ледзь не ўсюды! Ганна заўважыла неспакойны бляск у яго вачах, падумала: і цяпер от, не інакш, з пачастунку! Аж шрам каля рота пачырванеў!

Дубадзел перахапіў яе позірк, кіўнуў, каб выйшла на ганак. Яна павяла плячыма, нібы не зразумела. Ён падумаў, устаў, строга афіцыйным тонам вялеў:

— Ганна, прашу выйсці.

— Чаго ето?

— Дзело есць! Выясніць трэба...

— Дак выясняй тут.

Ён ніякава памаўчаў. Скоса, асцярожліва зірнуў на Параску. Перавёў позірк на Ганну, недавольна пакруціў галавою: нездагадлівая!

— Пры пастаронніх нельга...

Параска адразу адгукнулася:

— Дык я магу выйсці!

— Не, вы работайце! — Ён сказаў нецярпліва, патрабуючы: — Часу няма. Выйдзі!

Ну што ж. Ганна, не апранаючыся, выйшла ў калідор. Ён папрасіў выйсці на ганак. Паслухалася. На ганку стала.

— Ну, выясняй.

— Хадзем трохі шчэ,— лагодна ўзяў за руку.

— Не хачу.

— От скула ж ты! — засмяяўся, як бы хвалячы.— Усё па-свойму гнеш!

— Ну, што ты хацеў выясніць?

Ён выпусціў яе руку, важна прамовіў:

— Ты ето правільно зрабіла, што Глушака кінула.

— Дак ты для етаго і пазваў — штоб пахваліць?

— Ну язык! — Ён зноў засмяяўся, як бы хвалячы. Сказаў: — Правільно. Хваціць гнуць карак на іх!

Дубадзел узяў яе за руку. Ганна хацела зразу ж адабраць яе, але ён не аддаў. Пацягнуў Ганну да сябе. Аж заваніталава: дыхнуў гарэлкай.

— Т-ты што ето?! — здзівілася нібы.

— А нічого! — забулькаў брыдкі смех.— Паўхаджуваць от хочу за табою.

— Унё! Дак для етаго трэба было цягнуць сюды? На холад.— Холад такі браў яе. Асабліва мерзла спіна.— Паўхаджуваў бы там. Перад Параскаю.

— Наравішся ты мне! — як бы не заўважыў ён кпіны, усё цягнуў да сябе. Яна цвёрда ўперлася яму ў грудзі.— Ну, чаго ты? Н-не нараўлюся?

— Не наравішся.

Рукі яго трохі паслабелі. Але ён усё ж не выпусціў яе.

— Чаму ето?

— А не знаю. Проста — гадкі.

Чула: гэта яго нібы ўдарыла. Момант разгублена маўчаў. Потым сказаў злосна:

— Чаго дзярэш нос?

Яна спакойна загадала:

— Пусці!

Дубадзел пусціў.

— Няма чаго дзеўку строіць з сябе! Не знаю, думаеш, як ты з етым Дзятлікам на гумне?

— Знаеш?

— Знаю.

— Дак старайся не забыць!

Гэта здзеклівая парада раз'ятрыла яго.

— Чаго дзярэш нос, кулацкая падсцілка!

Яна стрывала, прамовіла з пагардай:

— Ето ўсё, для чаго ты пазваў мяне?

— Т-ты шчэ пашкадуеш аб етом! — выціснуў ён люта.

— Тады тое будзе!

Ганна спакойна зачыніла дзверы.

Калі ўвайшла, Параска зірнула ад сшыткаў гуллі-ва, падсмейваючыся:

— Ну што, пагаварылі?

— Пагаварылі,— Ганна сказала такім тонам, што ўсмешка на Парасчыных губах замерла.

Параска ўгледзелася ўважліва і не стала распытваць. Нахілілася зноў над сшыткамі. На кухні, на адзіноце, Ганна дала волю гневу: «Ах ты, гад, гад, як абазваў, аж успомніць гадко!» Старалася суцешыць сябе: добра ўпякла яго — адскочыў адразу; але гнеў не сціхаў. «Думае, як я адна, дак і ўсё можна. Прыходзь дый бяры, рада будзе... Кінецца сама! Аге, толькі цябе мне і не хапало... Ждала, не магла даждацца!.. Грозіцца

яшчэ: «Пашкадуеш!» Пашкадую, ды пра другое! Што не плюнула ў вочы!..»

Неўзабаве супакоіла сябе зусім: ёсць перажываць з-за каго!

Праз дзень прыйшоў яшчэ чалавек. Быў вечар, позні вечар, хутка павінны былі кончыцца вячэрнія заняткі — са старымі, калі Ганна пачула, што ў калідор нехта зайшоў. Пашаргаў у цемры лапцямі, стаў, мабыць, не ведаў, куды ісці.

Яна адчыніла дзверы ў калідор, глянула ў змрок.

— Хто тут?

Ён стаяў наводдаль, са святла ў змроку калідора ледзь відна была постаць. Яна не так пазнала, як здагадалася.

— Ты?..

Голас яе дрыжаў. Яна ў момант захвалявалася. Узрадавалася: прыйшоў! Радасць нядаўніх сустрэч першая ажыла.

Ён паволі, таксама ўзрадаваны, падаўся насустрач.

— Заходзь!

Калі ён асцярожліва зайшоў, амаль заплюшчыўся ад святла, у яшчэ летняй шапцы, у расшпіленай світцы, яна ўзрадавана прыпала да яго позіркам, але амаль нічога добра не бачыла. На міг недарэчы заўважыла нейкі белы пыл на рукаве: снег, ці што? — і больш нічога, што б здзівіла неяк. Усё было такое знаёмае, роднае. Гледзячы на яго, яна не так бачыла, як адчувала, можна сказаць, толькі адчувала. Быццам стаялі, прытуліўшыся...

Ён, хмурачыся, няёмка, як бы недаверліва агледзеўся. Хмурыўся ён можа ад святла, але ёй падумалася, што яму не падабаецца тут. Яна схамянулася. Накінула на плечы хустку. Рашуча ступіла ў калідор.

— Хадзем!

Выйшлі на ганак — на цемру, на вецер. Момант здавалася, быццам нічога іншага не было, толькі спатканні. Усё было, як тады перад гумном, пад яблыняю. Як у гумне.

Ішлі хутка, нецярпліва. Нецярплівa стала. У баку ад дарогі, каб не зашкодзіў ніхто.

— Прыехаў! Не забыў! — Голас яе перарываўся.

— Не...
— Я думала, забуў!
— Скажаш!..
— Не прыязджаў доўго!
Ён памаўчаў.
— Не так просто...
Яна зразумела недагаворанае: не так проста вырвацца. Маня, матка, суседзі. Усе сочаць. Абавязкі перад сваімі. У радасць яе ўліўся нядобры халадок. Не так проста. Не так проста!
— Ты прыйшоў? — спытала стрымана.
— Прыехаў...
— З дому?
— З Алешнікаў...— Ён дадаў: — Муку малоў...
Яна запытала, абы не маўчаць:
— А дзе — калёсы?
— На вуліцы.
Узялі дрыжыкі. Пачула, які халодны вецер. Трэба было хоць бы накінуць каптан. Выскачыла згарача!
— Як ты тут? — пачула.
Смутак, трывога, любоў былі ў голасе.
— А нічого.— Пастаралася схаваць гаркату.— Жыву... Добра жыву... А — ты?
— Ат...
Многа сказала ёй гэтае «ат»!
— Маня — як? — не стрымала раўнівае.
— Што ёй...
— А сын?
— Расце...
Нялёгка было гаварыць: за тым, што казалі, было багата іншага, пра што і казаць не хочацца, і забыць не забываецца. Таму ахвотна маўчалі.
Але і маўчанне было поўнае хвалявання.
— Землю адабралі! — нібы паскардзіўся ён. Яна пачула ў голасе адчай.— Усю, што каля цагельні.
— Мне казалі,— паспачувала яна.
— Пасеянае перааралі. Міканор усё...
Ён, здалося, чакаў, што яна паспачувае. Скажа нядобрае пра Міканора. Яна не сказала. Нашто вярэдзіць лішне боль яго.
— Не знаю, што будзе,— зноў пачула адчай.
— Будзе нешто.— Спакойна, супакойліва сказала: — Горай, як було, не будзе.

Ен падумаў над тым, што сказала.

— Можа і горай буць.

— Не будзе.

Яна была ўпэўнена ў гэтым. Зноў маўчалі. Гуляў вецер, халадзіў шыю, плечы. Бралі дрыжыкі.

— Ты не абіжаешся на мяне? — прамовіў ён ціха. Як бы нясмела і вінавата. Насцярожыўся, чакаючы, што яна адкажа.

— Не-а,— сказала яна спакойна. Нібы здзівілася: — Чаго абіжацца?

Ён узрадаваўся. Памкнуўся да яе, хацеў, здалося, абняць. Але стрымаўся. Не наважыўся. Усё ж нейкая вясёласць, зухаватасць была, калі гаварыў:

— Чорт яго знае, запуталася ўсё!..

— Запуталася...

— Што будзе, адзін бог знае!..

Ён быццам апраўдваўся перад ёю. Вінаватым усё чуў сябе, хоць яна і знаку не падавала на гэта. Нашто ён пра гэта — вінаваты не вінаваты, што ад таго? Лягчэй хіба стане?

— Як ты будзеш далей? — пачула зноў вінаватую заклапочанасць.

— А так і буду.

— Ты не абіжайся,— зноў папрасіў.— Калі б можна було!..

Ну, нашто ён гэта! Як бы яна вінаваціць! Не вінаваціць яна нікога: кожны жыве як можа. Кожны сам за сваю долю вінаваты.

— Не абіжаюся я.

Ён усё ж наважыўся. Абняў на развітанне, нясмела, нязграбна. Быццам не абдымаў ніколі. Яна не разняла яго рукі, але і не прыгарнулася вельмі. Як бы не ўзрадавалася. Ён адразу чула заўважыў гэта, стрымаўся. Дужыя, нецярплівыя рукі яго аслабелі. Абняўшы, ён нібы не ведаў, што рабіць. Стаялі моўчкі, нерухома. Было непагана, але ўжо не было так, як раней. Чагосьці ўжо не хапала. Халаднаватасць была ўжо нейкая.

Ён пацалаваў. Яна адказала. Але таксама спакойна — нібы з успаміну пра тое, што было.

— Дак бувай...

— Бувай...

Пастаяла, паслухала, як стукаюць яго калёсы ўпоцемку. Па мёрзлай, скамянелай зямлі.

2

Тады, як Ганна кінула Яўхіма, жыццё, здавалася яму, страціла ўсякі лад. Як ні няскладна ішло несамавітае яго жыццё дагэтуль, усё ж быў яшчэ ў жыцці гэтым хоць трохі звыклы, заведзены людзьмі распарадак, быў хоць для людскіх вачэй нейкі выгляд гаспадаркі, сямейнай асновы. Была, няхай ненадзейная, паганая, гаспадыня, жонка, было каму загадваць, каго ўпікаць, на кім спаганяць злосць...

Ён і не ведаў раней, як багата значыла ў нецікавым жыцці яго паганая, здавалася, ненавісная жонка. Толькі цяпер, калі яна ўцякла, знікла, адчуў, злуючыся на сябе і на яе, Яўхім, як дзіўна, неадольна апусцела ўсё ў хаце, ува ўсім жыцці яго, якім зрабілася ўсё бяссэнсным, бязглуздым. Злосць была на Ганну тым большая, што ў шал злосці амаль нязменна ўліваўся непатрэбны, горкі струменьчык прыкра кволай крыўды за тое, што от, паганая, не палюбіла, не пашкадавала, кінула ў такі час, кінула на сорам перад усім сялом; што з-за яе, паганай, столькі болю, прыкрасці яму, што, як ні стараецца, не можа плюнуць на яе, сцерці са свае памяці; не можа, нібы наканавана, жыць без яе.

«Сука! Гáдзіна!» — кляў ён не раз. «Закаешся! Навек закаешся! Папомніш!» — гразіўся ён. Сланяючыся па двары, пакутуючы бяссонніцай начамі, ён у гарачай ліхаманцы, прагнучы помсты, строіў сабе малюнкі адплаты, біў у салодкім шале па ненавісным твары, ламаў упартыя рукі. Былі хвіліны, калі ён, прагнучы патолі, гатоў быў ухапіцца за сякеру, згадваў схаваны ў застрэшшы абрэз. Ні праклёны, ні грозьбы не давалі палёгкі: хоць не ведаў гэтага, любіў яе, паганую, ненавісную, па-ранейшаму любіў дурной, як хвароба, неадчэпнай любоўю.

З таго дня, як Ганна ўцякла, як ніколі, нямілым стаў яму родны двор. Не, Яўхім не ва ўсім быў падобны на старога Глушака: жыццялюбны, ахвочы да жыццёвых уцех, ён і раней без вялікай радасці цягнуў на сабе цяжар гаспадарчых клопатаў, цяпер клопаты гэтыя сталі зусім прыкрымі. Ён амаль перастаў гаспадарыць. Каб не бацькі, якія цяпер трымалі сынаву гаспадарку пад пільным прыглядам, конь, карова Яўхіма век былі б няпоены і някормлены, свінні вішчэлі б з го-

ладу. Стары, што нелагодна сачыў, як сын, заспаны, марудлівы, вылазіць са сваёй палавіны на ганак ледзь не пад абед, як сланяецца па двары, па хаце, быццам рабіць няма чаго, не раз спрабаваў ушчуваць яго, але не дабіўся нічога. Старая шкадавала, угаворвала старога, каб не злаваў, але той з дня на дзень кіпеў усё больш нецярпліва.

Асабліва злавала старога тое, што Яўхім п'е. Ледзь не кожны вечар знікаў ён куды-небудзь і вяртаўся дадому толькі пад ранак або і зусім удзень. З гневам стары заўважыў, што прапалі ўжо некаторыя рэчы Яўхіма, сярод якіх былі дарагія хромавыя боты і пінжак.

Глушак месца сабе не знаходзіў, заўважыўшы гэту прапажу. Увесь вечар і ўсю ноч не спаў, усё прыслухоўваўся, калі вернецца Яўхім. Той зашаргаў п'яна пад вокнамі, зарыпеў варотамі толькі пад раніцу. Стары ледзь стрымаў сябе, каб не кінуцца, не даць волю свайму гневу; ледзь паддаўся голасу развагі: усё роўна п'янаму гаварыць цяпер нінашто. Чуў, як Яўхім паволі сунуўся ўпоцемку сваёй палавінай, як стукнуў конаўкай па вядры, доўга піў ваду, бервяном зваліўся на ложак.

Увесь дзень чакаў Глушак моманту, каб зноў пачаць трудную гаворку. Толькі пасля абеду, калі Яўхім, прытуліўшыся да вушака, закурыў цыгарку, паблажліва пусціў струменьчык сіняга дыму, стары адчуў, што можна пачаць.

— Дзе чобаты хромавыя? — спытаў стрымана, нібы зусім спакойна. Упіўся вачыма ў сына.

Яўхім брывом не варухнуў. Быццам чакаў. Пусціў спакойна яшчэ струменьчык дыму.

— Дзе булі, там няма. Прадаў...

— Прадаў... Каму ето?

Яўхім пусціў яшчэ струменьчык дыму

— А не ўсё адно — каму?

— Грошы палучыў? — не адступіў Глушак. Позірк зноў павастрэў.

— Палучыў.

— Сколькі ўзяў?

— Сколькі можно було, столькі ўзяў...

— А ўсё-такі — сколькі?

— Небагато. Ды і, сказаць, нямало...

— Дзе яны, твае грошы?

— Каторыя — пры мне,— Яўхім гаварыў так, нібы здзекаваўся,— а каторыя — спажыў...

Глушака затрэсла ад гневу.

— І пінжак — спажыў?!

Яўхім перастаў дыміць. Узняўся, сказаў супакойліва:

— Тато, не трэба так...

Але стары не мог ужо спыніцца:

— Скора ўсе спажывеш! Усе на гарэлку распетрыш!.. Усе дабро!..

Яўхім зірнуў на яго нявесела, як бы са шкадаваннем. Як на малога, што назаляе неразумна.

— Нашто ето ўсе, тато... Ці вы — дзіця, не бачыце нічого?

— Ты — бачыш!.. Засляпіў вочы гарэлкай!

— Ад таго, тато, і засляпіў, што бачу ўсё...

Яўхім гаварыў вельмі шчыра і з вялікім хваляваннем, і старому гэта перадалося. Адчуў балючую праўду сынавых слоў, разгублена, больш з-за абавязку, папракнуў:

— Цераз нейкую галадранку свету не бачыць!

— Тато, не чапайце ето,— папрасіў ён лагодна. Дадаў разважліва: — Не ў адным етым — бяда.— Глушак пачуў злавеснае, калі Яўхім сказаў: — Ето мы пражывём! — Ён не скончыў, але ў тым нясказаным стары адчуў: ёсць большае, горшае! Яўхім не даў старому весці спрэчку далей, папрасіў: — Пагаворым пра ето пазней. Нешто трудно зразу пасля абеду...

Ён выйшаў, і неўзабаве стары пачуў, як у суседняй палавіне рыпнуў ложак.

Увечары Яўхім прыйшоў зноў. Калі сёрбалі боршч, у хату ўваліўся Пракоп Лясун, буркнуў: «Добры вечар, у хату», падзякаваўшы, як заведзена, на абавязковае запрашэнне за стол, глыбай апусціўся на канапу. Павячэраўшы, Яўхім не захапаўся, як звычайна; абаперпыся аб вушак, задуменна задыміў цыгаркаю. Быццам толькі што перарвалі дзённую гаворку, сказаў старому:

— Жыць, тато, усе адно не дадуць...

Стары таксама лагодна і павучальна запярэчыў:

— Дадуць не дадуць, а дзяржацца трэба.

— А як я не магу! Характер у мяне гарачы, знаеце ж!

— Характер дзяржаць трэба! Не распускаць.

— А як не ўмею я!

Стары, спасцярожліва паглядваючы на Лесуна, стрымана і цвёрда заявіў:

— Трэба ўмець! Цяперашнім светам усяму трэба навучыцца!

— А я от не ўмею!

— Трэба ўмець!

Яўхім не адказаў. Дыміў цыгаркаю, думаў пра нешта. Дакурыў, кінуў пад ногі, расцёр апоркам, моцна, злосна. Тады загаварыў гарачкавата, як пра набалелае:

— Робіш на некаго! Як парабак!.. Робіш, а ён — жаба — прыйдзе ды вычысціць пад мятлу! Як бы ето не тваё, а яго! Камандуе ўсякае, а ты слова не скажы!.. Ей-бо,— з лютай шчырасцю, а той раптоўнай, няўтрымнай адвагай, якой заўсёды апасаўся стары, прадказаў: — Не ручаюся: стукну я калі-небудзь етаго Дамецікаваго! Стукну так, што свінячае папрэ з яго! Ей-бо! Рукі даўно чэшуцца!

Стары кінуў позірк на Пракопа, недавольна папракнуў:

— Пляцеш усякае!.. Чалавек падумае: і праўда...

— Праўда, тато! — не хацеў нічога разумець Яўхім.— Стукну! Цярпення ўжэ няма!

— Не балбачы! Здурнеў саўсім!

Яўхім быццам і не чуў старога.

— Толькі от вас ды матку шкода, дак і дзяржуся. А так — даўно б!

— Здурнеў саўсім! — закруціў Глушак галавой, пазіраючы дружбацкі на Лесуна, як бы просячы не браць сур'ёзна.

Пракоп слухаў Яўхіма панура, усхвалявана.

Яўхім неспадзеўкі весела варухнуў плячыма, закінуў рукі за галаву.

— Адзін выхад: з'ехаць куды-небудзь! Покуль суд ды справа!

Глушак зірнуў на Яўхіма: не жартуе.

— От пабуду шчэ трохі,— з вясёлай адвагай сказаў Яўхім,— ды плюну на ўсё! Шчасце, што ні жонкі, ні галапузых — ніхто не ўчэпіцца! Вазьму світу на плечы — ды ў белы свет! Куды душа павядзе! У свеце мест добрых нямала! Буць таго не можа, штоб і мне не знайшлося!..

— Ждуць там цябе! — недавольна, з трывогай папракнуў стары.

— Знайдзецца месца. Цяпер усюды такое будаўніцтва! Абы рукі!

У старым узнялася раўнівая злосць. Сярдзіта, з крыўдай засіпеў:

— А тут — бацько няхай адзін! Бацько няхай адзін мучыцца! Дачакаўшыся добрых сыноў!..

— Не канешне і вам аставацца!

— Не канешне?! — абурыўся стары.— Не канешне?! А дабро на каго?! Чорту лысаму пад хвост?.. Ці мо Міканорку Дамецікаваму? За ласку ўсю яго?

Стары так кіпеў, што Яўхім не стаў спрачацца. Пасядзеўшы трохі з нейкімі сваімі думкамі, скруціў зноў папяросу, прыкурыў ад вугальчыка, які выкаціў з печы. Дыміў, затоена, упарта мружыў вочы.

— От, дачакаў помачы,— ужо спакайней паскардзіўся Лесуну стары. Нібы прасіў спачування.

Лясун прамаўчаў. Глушак бачыў: пад навіссю панурых броваў бляск вачэй трывожны, зацяты.

Калі Лясун глыбай устаў, сабраўся ісці, Глушак падаўся ўслед. У сенцах стары прытрымаў госця, ціха, асцярожліва папрасіў:

— Не помні, Пракопко, што мы тут плялі... Ён усё ето так — абы язык пачасаць!

— Яўхім праўду казаў,— прагрымеў Лясун. Глушак улавіў у голасе адчай і рашучасць.

— Ат,— запярэчыў на ўсякі выпадак.— І ты тое ж... Не пляці, Пракопко!..

Вярнуўшыся ў хату, зіркнуў на Яўхіма, што ўсё дыміў, узлёгшы на вушак. Упікнуў ад душы:

— Плявузгаеш перад чужымі абы-што!

Яўхім варухнуўся, перастаў дыміць.

— Тато, надаело мне! Надаело мне цярпець! Калі на горла становяцца!

Ён сказаў так набалела і так нецярпліва, што старога ўзяў раптам жаль да яго. Ён трывожна павёў вачыма на акно, ці не чуе хто-небудзь. Вунь як набалела: ледзь не крычыць! Як малому, стрымана і лагодна параіў:

— Трэба цярпець! Не канешне знаць кажнаму, што думаеш!..

Яўхім нецярпліва варухнуў плячыма: ёсць пра што клапаціцца! Устаў на ўвесь рост, сумотна павёў позіркам — быццам не ведаў, куды падацца.

— Скруцяць скора саўсім! — прамовіў жорстка, без жалю.

Словы гэтыя кальнулі Глушака ў самае балючае. Але не паказаў кволасці і не папракнуў сына, што не шкадуе вярэдзіць бацькаву збалелую душу. Не да таго было.

— Скруцяць не скруцяць,— сказаў, як мог, спакойна, разважна,— а няма чаго самому шукаць гібелі! Лезці самому ў пятлю!..— Хоць не быў упэўнены, для сынавай карысці, ▪ жыццёвай мудрасцю дадаў: — Як галава будзе на плячах, не канешне скруцяць!.. — Не даў запярэчыць, параіў сваё: — Ждаць трэба! Не пара цяпер! Сіла ў іх!

— Дажцаліся! — нядобра, як бы вінавацячы кагосьці, адазваўся Яўхім.

— Була пара,— згадзіўся стары.— Була — ды сплыла. Дак і астаецца адно — ждаць. Е ж бог, буць не можа — пачуе, літасцівы, малітву нашу. Прышле падмогу няшчасным, прышле!

— Аге, надзейцеся на яе!

— Не смейся! — загадаў строга стары.— Прыйдзе ён, прыйдзе! Пабачыш, усе пабачаць! Прыйдзе пара!

— Доўго, тато, ждаць прыйдзецца!

Стары быццам не заўважыў насмешлівага Яўхімавага шкадавання, ведаючы, што за кожным словам сочаць там, на небе, сказаў горача:

— Сколькі ні прыйдзецца, дажджэмся! Буць не можа, штоб не дажцаліся! Е бог на небе!

— Эх, тато!..

— Дажджэмся!

Яўхім сказаў «дабранач», ляніва пацягнуўся ў сенцы, дадому.

Дома ён доўга не спаў. Варочаючыся бяссонна на ложку, думаў. Думак было багата, самых розных. Асабліва ўцінаЛася, вярэдзіла адна — куды падацца? У ёй бачыўся яму шчаслівы ратунак, адзіны ратунак з усяго, што так заблытала яго жыццё. Кінуць усё. Адразу. Не шкадуючы нічога. І махнуць хоць куды. Паспрабаваць яшчэ раз. Жыць тут усё роўна не дадуць...

У тую ноч ён быў гатоў «махнуць». У тую ноч гэта здавалася самым простым і надзейным. І хто ведае, як склаўся б яго лёс, каб «махнуў» ён тады. Можа інакш, зусім інакш пайшла б яго дарога.

Але не «махнуў» ён. Не так проста было «махнуць»...

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### 1

Праз свае трывогі і клопаты Ганна, як пра далёкае і неабавязковае, чула, чым жыве сяло. Яе мала хвалявалі размовы, якія раз-пораз ішлі ад розных людзей: што ў калектыве — нелады, што ледзь не ўсе, хто ўступіў,— недавольны і што калектыў — ледзь ліпіць і з дня на дзень можа скончыцца.

Без якога-небудзь узрушэння ўзяла яна і чутку, што калектыў такі скончыўся. Спакойна, са звычайнай цікаўнасцю слухала яна неспакойны гоман на вуліцы, глядзела, як ехалі порстка адна, другая фурманкі, накладзеныя розным прыладдзем,— з гаманлівым натоўпам, што рушыў побач.

Як больш блізкае, што неяк датычыла і яе, адзначыла, што там, у натоўпе, з дарослымі — дзеці, што ў школу ідуць сёння толькі нямногія і нядружна. Двор у гэты ранак не віраваў дзіцячымі постацямі і не звінеў бесклапотнымі галасамі, у класах і ў калідоры было нібы прасторней, чым у іншыя дні. Дзеці збіраліся купкамі, дзяліліся навінамі, штосьці меркавалі, твары ў большасці былі ўзрушаныя і не па-дзіцячы заклапочаныя. Заклапочанасць гэта, аднак, была не панурая: у вачах малых больш паблісквала цікаўнасці, так і відаць было — іх хвалюе асабліва сама навіна, яе новыя праявы.

Небагата было ў калідоры і ў класах і тады, калі падышоў час пачынаць заняткі. Ганна з неспакоем паглядзела на гадзіннік над Парасчыным сталом: большая стрэлка набліжалася да самага верху, да лічбы «12»,— хутка трэба было даваць званок, а Парасکі не было дома.

Параска прападала недзе на сяле. Пабегла яшчэ давідна і не паказвалася.

Стрэлка дабралася да «12» і пачала сыходзіць уніз, Ганне трэба было даваць званок, але яна не брала яго. Яна то корпалася на кухні, то спакойна выходзіла ў калідор, і выгляду не падаючы, што нешта здарылася. Каб трэба было, яна і не такое зрабіла б для сваёй Параскі. Не такую дробязь. Толькі ў пакоі яна неспакойна паглядвала ў акно: Параскі ўсё не было відаць.

Параска паявілася, калі большая стрэлка мінула трэцюю лічбу. Яна ішла хутка, здалёк было відаць — узрушаная, неспакойная. Ускочыла на ганак, убегла ў пакой, нецярпліва развязала хустку, кудлатая: валасы ва ўсе бакі, апусцілася на табурэтку. Расшпіліла паліто.

— Званка не было? — запытала, але такім тонам — нібы пра нешта неабавязковае.

— Не.

Тады ўжо яна павяла позіркам на сцяну і, убачыўшы гадзіннік, не здзівілася. Невясёлы, прытомлены твар кранула мілая Ганне змоўніцкая, хітраватая ўсмешка. Пахваліла ўсмешкай: добра зрабіла, скеміла!

Ганна падміргнула ёй: можаш не сумнявацца, не схіблю. Абедзве зарагаталі, радыя адна адною. Ад гэтага рогату Параска быццам ажыла, [illegible] раптоўнай жвавасцю ўскочыла [illegible] табурэткі, кінула хустку на ложак, павесіла паліто. Рашуча, імкліва рушыла на кухню, стала шумліва плюхацца над тазікам. Выцершыся, падбегла да люстэрка на стале, узялася хутка прычэсвацца — зашчаміла ў чарнату валасоў вялікі, [illegible] рудаватымі жылкамі грэбень.

— Давай званок,— загадала яна, абцягваючы, убіраючы ў спадніцу ніз кофтачкі.

Яна не стала снедаць. Ледзь выпіла паўшклянкі малака, ухапіла вялікі школьны журнал, кніжкі, сшыткі, знікла за дзвярыма.

Ёй было, відаць, не да заняткаў: пакуль ішоў урок, яна некалькі разоў пакідала клас, вярталася ў свой пакой, неспакойна бадзялася па ім, паглядвала ў бок вуліцы. Неспакой яе не прайшоў і калі пачалася перамена і калідоры напоўніў гул і гоман дзяцей, і калі ў прыціхлых класах пачаўся другі ўрок.

Недзе ў сярэдзіне другога ўрока прыйшоў хлопец у чорнай паддзёўцы, у ботах. Пакуль ён абмятаў венікам боты, Параска выйшла на ганак. Разам з ім вярнулася ў пакой.

Хлопца Ганна ведала: ён ужо не раз быў у Параскі. Глінішчанскі актывіст, камсамолец, Барыс Казачэнка. Глінішчанскі Міканор, жартам называла яго ў думках Ганна.

Глінішчанскі Міканор толькі хмурна пазадароваўся і ўжо не заўважаў Ганну. Павярнуўшы даўгаваты, з гарбінкаю твар да Параскі, глядзеў трывожна і стомлена. Нібы чакаў парады ці дапамогі. Параска маўчала, знарок не глядзела на яго. Ці то вінавація яго, што такі бездапаможны, ці то вінаватай адчувала сябе. Што не можа ні памагчы, ні парадзіць.

— Трудна цяпер, канешне...— прамовіла раздумліва і, мусіць, працягваючы гаворку, пачатую на ганку.— Калі дайшло да гэтага...

— Слухаць нічога не хочуць. Хоць ты кол на галаве чашы! А некаторыя — дак кінуцца зразу гатовы. Учапіцца ў цябе за адну гаворку... І ўсё — мацюкі ды мацюкі...— Ён гаварыў з прысвістам: замест «чашы» ў яго выходзіла — «цясі», «мацюкі» падобны былі на нейкія «масюкі».— Асабліва жанкі пашалелі!.. Так і глядзі, штоб каторая не кінулася з кіпцюрамі!..

Яму было, відаць, няёмка прызнавацца Парасцы ў сваёй няздольнасці пераконваць. Ён нібы трохі і падсмейваўся з сябе.

— Трудна, канешне...— зноў адгукнулася Параска.— І ўсё ж нельга апускаць рукі. І кіпцюроў жаночых баяцца! — раптам пакпіла з яго. Узяла сваю ролю.

— Ды я і не баюсь. У мяне шкура тоўстая. Толку от ніякага! — павесялеў Барыс.

— Нам цяпер так: ці пан, ці прапаў! Выбіраць няма чаго!

Параска пастаяла момант, разважаючы, тады раптам рашуча загадала:

— Пастой тут.

Цвёрдым крокам падалася ў клас. Амаль адразу ж там пачуліся радасны гоман, ляскат парт, шоргат і стукат ног у калідоры. Дзеці, як чарада, што выпушчана з загарадкі, з галасам вывалілі на ганак.

Параска кінула на стол журнал, кніжкі, сшыткі, зняла з цвіка паліто. Хутка завязала хустку, скамандавала Барысу:

— Хадзем!

Барыс рушыў за ёй.

Зноў убачыла Ганна Параску пад вечар. Параска ішла не адна. За ёй, акрамя Барыса, кіравалі з вуліцы да школы Дубадзел, Гайліс, Чарнаштан. Дубадзел, у кароткай паддзёўцы, у галіфэ, з ваеннай сумкай цераз плячо, рэзаў побач Парасні — наперадзе, лёгка і нібы весела. Гайліс крочыў у зашпіленым шынялі, вецер ірваў полы шыняля і, было відаць, замінаў ісці. Але Гайліс не зважаў на вецер, ішоў роўна, цярпліва. Барыс ступаў каля Гайліса. Ганна не дала яму ніякай увагі. Яна адзначыла: Чарнаштан дыбаў ззаду ўсіх, уткнуўшыся позіркам кудысьці ў зямлю, вінавата прыгорблены...

Ганна намерылася была падацца на кухню: у момант згадалася агідная сустрэча з Дубадзелам, але агіда гэта і боязь адразу ж і стрымалі яе. Яна знарок узяла на кухні вядро і пайшла насустрач: не хапала толькі, каб яна ўцякала ад яго. Паглядзім яшчэ, як ён сустрэне!

Калі выйшла з калідора, яны якраз уздымаліся на ганак. Ганна весела, як бы знянацку сустрэўшы, прывіталася, кінула востры позірк на Дубадзела. Той важна паправіў сумку, глянуў, быццам на незнаёмую. Яна знарок строга загадала:

— Дайце дарогу.

Дубадзел саступіў ёй, прапусціў.

Калі яна вярнулася, яшчэ з калідора пачула: гаманілі ў класе. Не пайшлі ў Парасчын пакой. Можа таму, што не хацелі несці гразь, а мо таму, што гаворка сакрэтная. Заўважыла: дзверы ў клас зачынены. І гавораць не надта голасна.

Сакрэтная, няхай — сакрэтная. Цікава, канешне, што там яны мяркуюць, але калі ім так трэба зачыняцца — няхай зачыняюцца. У яе галава поўна сваімі «сакрэтамі». Не да іх сакрэтаў. Праходзячы і раз, і другі калідорам, яна мімаволі чула за дзвярыма то спакойны гоман, то нібы спрэчку, але не прыслухоўвалася. Не мела такой звычкі. Не магла прыніжаць сябе. Адзначала адно: за дзвярыма сцямнела, яны сядзе-

лі ўпоцемку, не адразу запалілі лямпу. Мабыць, нялёгка было.

Калі яны разыходзіліся, Дубадзел раптам заявіўся на кухню. Убачыўшы яе, важна патрэбаваў вады. Яна падала карэц. Дубадзел зачэрпнуў з вядра. Да таго, як піць, пацікавіўся:

— Як жывеш?

— Анігадкі.

Ён выпіў карэц, выцер бараду. Важка ўпяўся позіркам.

— Не ўзялася за розум?

— А чаго? У мяне яго заўсёды было даволі...

Ён паставіў карэц на стол. Заявіў стрымана і з пагрозай:

— Не з тым гуляешся!

Цвёрда застукаў ботамі ў калідоры.

Параска правяла ўсіх на ганак, пастаяла. Зайшла ў клас, патушыла лямпу, вярнуўшыся на кухню, накінулася на яду.

— Згаладалася я! — нагнала на сябе весялосць.

— Дзіва! Цэлыя паўшклянкі выпіла ўранку!

— Дзень такі! Падумаць не было калі!.. Пападзе нам, Ганначка, за гэты дзень! І Гайлісу, і Чарнаштану, і мне за кампанію!

— А ты пры чым?

— Пры тым. Пры ўсім.

Ганна чакала, што яна раскажа пра дзённыя прыгоды, пра трывогі свае, але Парасцы сёння было не да гаворак. Ужо калі лажыліся спаць, Ганна не вытрывала, нібы жартам, пацікавілася:

— Пра што ето сакрэтнічалі так доўго?

— Ат, пра ўсякае.— Яна, белая ў сарочцы, з распушчанымі валасамі, прыкруціла лямпу, дзьмухнула ў шкло. Упоцемку дадала клопатна: — Галоўны сакрэт: заўтра будзе сход.

2

І ў гэты дзень многа дзяцей не прыйшло. Заняткі пачаліся ў час, але Параска, было відаць, падалася ў клас без ахвоты. За гадзіну яна зноў раз і другі выходзіла з класа — нібы не магла дачакацца канца ўрока.

Амаль адразу пасля таго як адзвінеў званок з перамэнкі і ў класах прыціхла, у калідоры затупалі боты. Крокі адразу спыніліся: чуваць было, што з класа выйшла Параска. Яна з кімсьці ўзрадавана прывіталася, разам з ім ступіла ў свой пакой.

Калі Ганна зайшла ў пакой, госць, не распранаючыся, у паддзёўцы, сядзеў на табурэце. Адно зняў каракулевую, стаўбуном, шапку, пакручваў у руках. Блішчэў шырокаю, ледзь прыкрытаю рэдкімі бялявымі валаскамі лысінаю. Ганна пазнала госця: Парасчын дзядзька з Юравіч, Іван Анісімавіч. Ветліва прывіталася.

Апейка ўстаў, падаў ёй руку. Запытаўся, як жывецца.

— Жывецца. Грэх жалувацца.

— Назад не думаеш уцякаць? — Іван Анісімавіч усміхнуўся добрай, прыязнай усмешкай.

— Назад мяне вяроўкай не зацягнуць.

— Ого, значыць — цвёрда.

— Цвёрда.

Ён ужо не толькі з усмешкай, і з пашанай паглядзеў на яе. Тады зірнуў да Парасі, мусіць, вярнуўся да перарванай гаворкі:

— Нічога не скажаш — нарабілі клопату...— У голасе яго былі нездавальненне і папрок, але лагодныя, паблажлівыя.

— Ой, не кажыце...— Параска не таіла шкадавання.

Апейка пакруціў галавою. Момант штосьці затоена думаў. Быў недзе далёка з думкамі. Потым ускінуў позірк, запытаў дзелавіта:

— Гайліса тут не было?

— Учора быў. І сёння, канешне. Недзе на сяле, не інакш.

— Ага! — Апейка кіўнуў, узняўся, намерыўся ісці. Зірнуў на абедзвюх, нібы разважаў: развітвацца, не развітвацца?

— А можа б перакусілі пакуль? — паспрабавала затрымаць яго Параска.

— Потым.— Ужо клопатны, засяроджаны, насунуў стаўбун, дзелавіта сказаў: — Ну, я к Чарнаштану!

На двары ён адразу адвязаў каня, ускочыў на таратайку і пакіраваў на вуліцу...

І сёння Параска не вытрывала, адпусціла дзяцей да часу. Спехам перакусіўшы, яна надзела хутка паліто, завязала хустку і знікла на вуліцы. За ёй неўзабаве адпусціла дзяцей і Галіна, і ўва ўсёй школе наступіла цішыня. За ўвесь дзень ніхто больш не паказваўся ў школе. Прыйшоў толькі, як заўсёды, да Галіны яе кавалер — Пятро. Як звычайна, яна, хапатлівая, вясёлая, спачатку частавала яго, потым яны зачыніліся на зашчапку, і з-за дзвярэй даходзілі толькі ціхія галасы. Потым і яны сціхлі.

Ужо збіралася цямнець, калі да ганка хтосьці пад'ехаў. Ганна думала, што вярнуўся Парасчын дзядзька, але каня прывязваў хтосьці незнаёмы: малады, чарнявы, у скураной фуражцы, у акуратнай, добрай шынельцы. Праз хвіліну ён, стройны, танканогі ў хромавых ботах, пругка і лёгка ўзбягаў на ганак.

Пастукаў для прыліку ў дзверы і, не чакаючы адказу, ступіў у пакой. Ганна падала выгляд, нібы прыбірае стол. Калі ўвайшоў, адарвалася ад занятку, зірнула знарок без цікавасці.

Незнаёмы кінуў прывітанне, мелькам паглядзеў на яе. Позірк яго чорных вачэй быў неспакойны і цвёрды і насцярожыў яе. Але ён тут жа абыякава адвёў позірк.

— Таварыша Апейкі не было? — Голас у яго быў прастуджаны, з хрыпласцю.

— Быў. Зранку.

— Гэта я ведаю. Цяпер не заязджаў?

— Не.

Ён гаварыў адрывіста, упэўнена. Зноў цвёрда, аж непрыемна было, паглядзеў на яе. І зноў заўважыла ў яго позірку нецярплівасць і нібы недавер'е.

— Вы — хто? — У голасе яго была строгасць.

У ёй ускінулася ўпартасць.

— А вы?

Ён не чакаў, зірнуў, нібы не разумеючы.

— Я? — Ён прыгледзеўся да яе, недавольна, але ўжо з увагаю. Быццам хацеў зразумець, што за гэтым пытаннем.— Я — Башлыкоў.— Ён заўважыў у яе вачах незразумелае недавер'е. Яна яшчэ як бы чакала тлумачэння, і ён дадаў: — Сакратар райкома.

Яна і не ўтаіла здзіўлення. Бачыла яна Башлыкова ўпершыню, але прозвішча яго чула не раз: Башлыкова слухаліся, пабойваліся, і Ганне думалася, што

ён — высокі, плячысты, грозны з выгляду. А тут аказваецца — звычайны, нічым не адметны чалавек. З выгляду — нават зялёны хлопец!

— А я — Ганна,— адказала яна знарок спакойна, паблажліва. Ён хацеў яшчэ штосьці запытаць, але стрымаўся.

Зноў нездаволена павёў позіркам па хаце. Ступіў крок, строга аб'явіў:

— Я пачакаю тут.

— Пасядзіце. Табурэта не праседзіце.

Але ён не сеў. То стаяў, то ступаў крок, другі, вяртаўся назад. Ступаў, як бы стрыножаны. І ўсё думаў пра штосьці сваё невядомае. Адно толькі відаць было, што думаў ён — пра непрыемнае, важнае, якое гняло яго. І якое рабіла яго старэйшым, непадобным да таго, якім ён здаўся Ганне ўпачатку. Не хлопцам зялёным, а рана пастарэлым чалавекам, незвычайным, незразумелым. Яна мімаволі сачыла, як ён нецярпліва ходзіць, далёкі думкамі, і старалася адгадаць, што яго гняце так. Відаць, толькі што быў у сяле, хадзіў, глядзеў. І от, мабыць,— успамінае пра тое, што пабачыў, пачуў, пахадзіўшы ў нашай гразі. От, мабыць, і гняце яго — у навінку. Гарадскі ж сам, відаць...

Гарадскі. Не з нашых балотных. Можна і не пытацца. Прысланы, пэўне, калектывы рабіць. Вучыць цёмных нас розуму... Граматны вельмі, не інакш. Граматны. Канешне. Не нашага поля ягада... Штосьці і далёкае, адасоблівае, і разам — цікаўнае, прывабнае было ў гэтым — гарадскі, невядомы. І цікаўнае, і — дзіўна параўнівае: што от ён такі, граматны, гарадскі. Не іх поля ягада... Таму, пэўне, і паставілі — такога маладога — над цэлым раёнам. Таму і слухаюцца ўсе, маладыя і старыя. Не глядзяць, што — малады... Апейку колькі давялося паспытаць усяго-ўсякага, пакуль падняўся, займеў такое права, а гэтаму — усё зразу. Гарадскі, адукаваны...

Канешне, яна думае пра яго не таму, што ён неяк кінуўся ў вочы. Нічога ў ім такога асаблівага, калі глянуць добра. І не відны вельмі, і плечы,-што ў малалетка. І характарам — відаць — не лёгкі. Проста — не падобны ні на кога, што бачыла раней. Упершыню бачыць такога. Усё ад гэтага...

А наогул — пустое ўсё гэта, схамянулася Ганна. Не цікавіць яе ніхто. Ані трохі. Яўхім — от што цікавіць яе. Ды тое, пра каго ніхто яшчэ не ведае...

Дзе ж гэта Параска? Ці хоць бы Апейка. Няхай бы сядзелі ўдваіх, гаварылі пра свае справы.

То выходзіла на кухню, паліла ў печы, то вярталася ў пакой, для прыліку прыбірала. Паказвала: ёй няма чаго сядзець склаўшы рукі.

Заходзячы ў пакой, яна бачыла, што ён тупае і тупае, як на прывязцы. Часцей ён не заўважаў яе, нібы яе і не было блізка. Але калі-нікалі яна лавіла яго позіркі. Ён паглядваў недавольна, непрыхільна, быццам яна замінала яму. Ці можа так здавалася: ад таго, што думаў непрыемнае. Перажываў.

Дзіўна, яна мімаволі чакала, што ён загаворыць, запытае нешта. Але ён маўчаў. Тупаў і тупаў. Далёкі, незразумелы.

## 3

Ішоў вечар. У пакоі цямнела, што далей — больш. Але Ганна не запальвала лямпы: па звычцы берагла газу.

Ужо добра сцямнела, калі ўбегла Параска. У цемры адразу пазнала госця: ці можа ўжо хто-небудзь пераказаў, што ён тут,— ледзь прычыніла дзверы, аб'явіла здзіўлена, узрадавана:

— А я і не ведала! Уцякла з хаты і не спяшаюся назад!.. Даўно вы тут?

— Не,— Башлыкоў гаварыў яшчэ нібы здалёк.

Параска адразу захадзілася гаспадыняю.

— Што ж вы так! У цемры! Не распранаецеся! — Яна жвава скінула хустку, паліто, падказала госцю: — От тут цвічок! — Крыкнула Ганне весела, загадна: — Зараз жа лямпу! Святло!

Тады, як Ганна запальвала лямпу, звонка — ну, чыста артыстка! — папракнула:

— Хіба ж так, Ганначка, сустракаюць гасцей! Ды яшчэ — такіх!

Ганна знайшлася:

— Госць думаў вельмі нешта. Не хацелася перабіваць...

Башлыкоў не адказаў.

Ледзь стала светла, Параска схамянулася, кінулася да люстра. Хапатліва прыгладзіла валасы, паправіла кофтачку. Тады зноў гасціннай гаспадыняй зірнула на Башлыкова:

— Госць, пэўна, галодны!

Башлыкоў, ужо без шынялля, танклявы ў сіняй гімнасцёрцы, перацягнутай шырокім бліскучым поясам, уціснуўшы пад пояс пальцы, адвёў складкі назад, адказаў няцвёрда:

— Паабедалі...

— Кажыце! — не паверыла Параска. Бадзёра супакоіла: — Нічога! Мы зараз з Ганнай арганізуем! Уміг!

Вясёлая, дзейная, пацягнула Ганну на кухню.

— Ты што ж гэта? — зашаптала з папрокам, пасяброўску.— Так сустрэць! Самога Башлыкова!

— А што ж — лістам перад ім слацца?

Шчыра прызналася:

— Усё глядзела, гадала: што ў ім такое, асобае?..

Параска не стала слухаць, перабіла. Не да гаворак цяпер. Уткнулася галавой у печку, адсунула засланку:

— Што тут у цябе? — У скавարадзе — бабка, з чыгунка, ледзь узняла покрыўку, вырваўся духавіты, нецярплівы пах баршчу. Галасна, давольна, каб, пэўна, чуў і ён, прамовіла: — От добра! — Распарадзілася шчодра і неадхільна: — Усё, што ёсць,— на стол! — Дадала шэптам, па-змоўніцку, як бы тлумачачы: — Настрой у яго — бачыш які?

— Гарэлкі можа дастаць? — параіла пошапкі ж Ганна, завіхаючыся ўжо каля печы.

— Гарэлкі! — Параска пакруціла галавой: прыдумала! Шэптам, стрымліваючы смех, гулліва падахвоціла: — Пастаў! Пакажы яму! Пабачыш, што ён скажа!.. — Сур'ёзна ўжо растлумачыла: — У рот не бярэ! Добрай нават. Завадской!.. Тым больш — у такі дзень!

— Глядзела я ўсё, глядзела на яго,— зноў вярнулася Ганна.— Нічога ў ім такога, асобага...— Яна нібы чакала, што Параска растлумачыць. Ёй чамусьці карцела гаварыць пра гэта. Параска, што памагала ёй, быццам не чула яе.— Чаму ён такі пануры, недавольны. Няўжэ з-за етаго, з-за калгаса?

— Нічога ты не разумееш! — толькі і сказала Параска на яе шчырасць. І тонам адказу; і адказам спы-

ніла Ганну: не да гаворкі цяпер. Загадала па-прыяцельску: — Давайма жыва ўсё на стол!

Убегла ў пакой. Кнігі, сшыткі са стала — на падаконнік. Стол — ад сцяны. На стол — чысты настольнік.

— Вось так! Пачатак ёсць!..— Кінулася на кухню, унесла бохан хлеба, нож. Загадала ўжо Башлыкову: — Памагайце!

Ён паказаў на рукі, яна спахапілася.

— Ганна! Госцю трэба памыцца! — Папрасіла Башлыкова: — На кухню, калі ласка...

Башлыкоў выйшаў. Расшпіліў гузікі на рукавах, закасаў іх па локаць. Расшпіліў каўнер, адсунуў яго ад шыі, нахіліўся над тазікам. Ганна зачэрпнула карцом з вядра, асцярожна — каб не абпырскаць! — стала ліць на яго далоні. Яны стаялі нязвычна блізка, галовы іх амаль сыходзіліся, было ў гэтым штосьці неспадзявана дамашняе, свойскае — ад гэтага ўсярэдзіне ў Ганны нешта чула насцеражылася. Ёй кінулася ў вочы: рукі яго, з цёмнымі валаскамі, былі белыя, далікатныя. Шыя, акуратна паголеная, загарэлая вышэй за каўнер, ніжэй была таксама белая і кволая. Зусім юначая. Штосьці мяккае, жаллівае няпрошана ўвайшло ў яе чуласць.

Ён то паслухмяна выцягваў жменькай далоні, то старанна цёр мылам рукі, шыю. Не падымаў галавы, не глядзеў на яе, рабіў усё моўчкі, але і ў ім, здалося ёй, паявілася раптам тая ж чуласць блізкасці. Без слоў, без позіркаў на час штосьці як бы ўзнікла між іх.

Падаючы ручнік, яна старалася не глядзець на яго і паказвала сябе абыякавай. І ўсё ж, здалося, улавіла няпросты, пільны яго позірк.

— Дзякую,— сказаў ён, падаючы ручнік. І ў тым, як сказаў, пачулася таксама незвычайнае.

— Ну, памыліся? — уварвалася ў кухню Параска.

— Як абнавіўся,— ён гаварыў спакойна, стрымана, але Ганна адзначыла ўдзячную нотку ў яго голасе.— Вада — добрая, свежая. Мабыць, нядаўна з калодзежа.

— Нядаўна,— Ганна стаіла сябе.

Вярнуліся ў пакой Парасні. Башлыкоў, зашпілены ўжо на ўсе гузікі, стройны, прычасаўся, стаў як бы сваім у пакоі. Параска намерылася запрасіць за стол, калі схамянулася:

— Гуркі ў нас, капуста — аб'ядзенне! Можа — любіце?

— Люблю.

— Тады — даставім! Яны тут — у пограбе!

Параска з Башлыковым удваіх узнялі за колца века ў падлозе на кухні. Ганна спусцілася ў прапахлы зямлёй халаднаваты прыцемак, падала Парасцы адну талерку, другую: гуркі і капусту-шаткаванку. Калі ўзнялася па лесвічцы, Башлыкоў працягнуў руку, памог выйсці. Рука была моцная, гарачая.

Селі за стол, сабраліся вячэраць, і тут Параска з усяе сілы стукнула рукою па стале. Глянула на госця з адчаем:

— Прыйдзецца грэх на душу ўзяць! Карайце не карайце!

Устала і, вярнуўшыся з кухні з адважным выглядам, са стукам паставіла на сярэдзіну стала пляшку наліўкі.

— От ён, мой грэх!

Яна тут жа хітра змяніла кірунак гаворкі:

— Вада, закрашаная вішнямі! Для дзяцей хіба!

Апярэдзіла Башлыкова.

Башлыкоў, што хацеў быў штосьці сказаць, няўпэўнена прамаўчаў. Моўчкі, не ўхваляючы, але і не пярэчачы: пэўна, з далікатнасці становішча госця, сачыў, як паставілі чаркі, як налілі, па абавязку чокнуўся. Але выпіў да дна. І нават дазволіў сабе стрымана пахваліць наліўку.

— Ат, вада ды вішні! — няшчыра запярэчыла Параска.

Вячэра пайшла ўдала. Башлыкоў, відаць, добра такі нахадзіўся за дзень: і гуркі, і капуста, і боршч — усё было ўсмак. Наліўка аказалася проста акрасай вячэры: яшчэ тройчы бутэлька ў спрытных руках Парасі абыходзіла чаркі, пакуль Башлыкоў не прыкрыў сваю цвёрда далонню. Даў знак, што — даволі. Упіцца гэтай вадою не ўпіліся і жанчыны, а ўсё ж наліўка зрабіла сваё. Хмель на час разгладзіў твар нават Башлыкова, які тут, за сталом, сярод павесялелых, незласліва кплівых жанчын, ужо не так паныла глядзеў на свет.

Ён помніў сябе і цяпер: ніякіх жартаў асаблівых не дазваляў сабе; Параску распытваў пра тое, як да-

водзіцца працаваць, ці хопіць дроў, ці памагае сельсавет, як наведваюць школу дзеці. Параска адказвала то сур'ёзна, то жартам — строіла з сябе весялуху, і ён час ад часу, хоць і неахвотна, пасмейваўся з ёю. Калі ён смяяўся, здаваўся яшчэ нібы прыгажэйшым, а галоўнае — станавіўся хораша таварыскім. Нібы бліжэў.

Ганну ён не распытваў; ёй думалася — таму, што лічыў — яе няма аб чым распытваць. І праўда: пра што ён можа яе запытацца — пра тое, як яна варыць, мяце падлогу? Ад гэтага ў ёй уздымаліся, вярэдзілі ганарлівую душу рэўнасць і злосць: гарадскія, грамацеі абое! Тады мацнела, пякло нездавальненне: трапіла ў шчасце, служка, прыбіральшчыца! У ёй расла непрыхільнасць да абаіх. Уздымалася ў душы дзёрзкасць, што рвалася на свет.

— А вы, якія ў вас планы? — зірнуў нарэшце Башлыкоў на яе.

— Вялікія! У мяне кожны дзень — вялікія планы! — Яна ледзь стрымлівала сябе.— Пойла зрабіць. Карову накарміць. Падаіць. Печ выпаліць. Выпаліць грубкі. Памыць падлогу...

Ён адчуў яе настрой. Зніякавеў крыху, хацеў паправіцца:

— Мне здаецца, вы да большага здатны...

— Мало што можа здавацца! — нелагодна перабіла яна. Цішэй ужо, стараючыся вярнуць спакойную кплівасць сваю, дадала: — Гэта так — з выгляду я такая. Нібы разумная. А папраўдзе...

— Ганна! — знарок весела папракнула Параска, якая дасюль са здзіўленнем углядвалася ў Ганну. Засмяялася знарок: — От выдумала!

— Чаго выдумала! Ці ж не такая я?

— Вы — граматная? — пастараўся прытушыць спрэчку Башлыкоў.

— Дзе там! Навука не па мне. Галава не тая.

— А вы вучыліся?

— А няўжэ ж не?

— Брэша яна, брэша! — абурылася Параска.— Розуму ў яе — на пяцярых. Доля ў яе от — нясхладная...

— Ах, Параскева Андрэеўна! Ну нашто вы ето! Доля. Ці доля — горб ад бога? Доля — ад чалавека! Ад розуму!..— Стрымана, кпліва папракнула: — На-

што хлусіць таварышу сакратару.— Яна раптам ветліва, гасцінна зірнула на госця: — Ешце бабку! Не крыўдуйце!

Башлыкоў больш не распытваў яе. Яна хоць тым была давольна: не хапала, каб ён палез у яе долю: вучыць стаў, што трэба было рабіць, а чаго не трэба! Параска, выхопліваючы момант, калі Башлыкоў не глядзеў, пакручвала нядобра галавой: што ты гэта выдумала? Але яна падавала выгляд, што не разумее Парасчыных знакаў, старалася хаваць неспакой. Зрабіла тое, што трэба было. Дайшло там да іх ці не дайшло, а хоць сябе паставіла як належыць.

Спрэчка гэта, раптоўная злосць, што яшчэ жыла ў ёй, аддалілі зноў Башлыкова. Цяпер ужо і знаку не было той дзіўнай паразумеласці, якая чулася там, на кухні, і спачатку тут, за сталом. Тое насцярожлівае, што паявілася раптам тут, было зусім іншым, яно адразу аддаліла, зрабіла іх чужымі.

На хвіліну Параска кудысьці выйшла, і, калі яны засталіся адзін на адзін, гэта насцярожаная чужасць адчулася яшчэ вастрэй. Нядобрае, нацятае было маўчанне...

Ганна была давольна, калі Параска вярнулася. Параска ў момант разагнала маўчанне.

## 4

Калі скончылі вячэраць, Ганна ўзялася прыбіраць са стала. Параска весела памагала ёй: прыбрала тое, што Ганна не змагла забраць, услед за ёй вынесла ў кухню.

Яна амаль адразу ж вярнулася да госця, а Ганна засталася на кухні — мыла, выцірала посуд, складвала на палічцы над лаўкай. Яна хутка скончыла гэта, спынілася ў роздуме — што цяпер рабіць? Можна было б вярнуцца ў Парасчын пакой, але яна тут жа стрымала сябе. Чаго ёй тырчаць там з імі? У іх свой інтарэс, свая гаворка.

Яна, хоць старалася не слухаць, чула: у пакоі гаманілі. У роўную, скупую на словы гаворку госця ўнізваўся звонкі, знарок вясёлы і ўпэўнены Парасчын галасок. Госць, адзначыла, гаварыў мала, гаворка ішла ўвесь час з перапынкамі, але гэтыя маўчанкі, што раз-

пораз наступалі там, хвалявалі Ганну больш за гаворкі. Мабыць жа, не так сабе яны маўчалі.

Кожны раз пасля такой маўчанкі Парасчын галасок, здавалася, спяваў усё весялей. «Толькі і не хапае там мяне»,— кпліва падумала Ганна.

Але сядзець на кухні адной мала было весялосці. Не ведаючы, што рабіць, яна пашкадавала, што ў школе ціха, пуста, што людзі так доўга збіраюцца. Не спяшаюцца на сход. І наогул — не спяшаюцца. А сёння —дык асабліва.

Яна падалася ў цёмны калідор, прайшла паўз Парасчыны дзверы, знізу якіх вырэзвалася вясёлая палоска святла. Стала на ганку. У цемры ночы хаты і хлявы чарнелі маўклівыя, затоеныя. Ні аднаго голасу на вуліцы. Каб не рэдкія, цьмяныя агеньчыкі, можна было б падумаць, што сяло заснула. Што ніхто не прыйдзе.

З балота, з поўначы, густа ішоў вецер, халодны, сіверны. У святле з Парасчынага акна час ад часу мільгалі дробныя, ледзь відныя сняжынкі. Як бы дражніліся, абяцаючы даўно чаканы снег. Распранутая, у паркалёвай кофце, без хусткі, Ганна з ахвотай цярпела холад, што лез за шыю, за спіну, сцінаў бакі. Стрымліваючы дрыжыкі, што бралі ўсё мацней, яна чула, як ціхнуць смутак, адзінота, недарэчная зайздрасць чужому шчасцю.

«Трэба ж, дурная,— пазайздросціла!.. Як усё адно — мала паспытала ўжэ етай радасці!.. Закаяцца навек, здаецца, трэба б, кеб трохі розуму було!.. Дак не ж, не забула смаку той «радасці», як ужэ зайздрасць бярэ на чужую!.. І на чыю?!» Да яе зноў дайшоў вясёлы галасок з-за акна, і Ганна падумала: «Радая... І няхай — радуецца! Няхай цешыцца, калі ўдаецца!.. Не ва ўсіх жа так па-дурному буць павінно, як у мяне!.. Павінно ж буць у некаго шчасце! А калі павінно, то найперш у такіх, як яна. Як Параска. Такая кажнаго зробіць шчаслівым сама».

Яна ўспомніла, як Башлыкоў паявіўся, як хадзіў па хаце, унурыўшыся ў нешта сваё. Маўклівы, зацяты, недавольны, ён мала змяніўся і тады, калі ўбегла Параска. Мала паддаўся ёй. Ці дасць шчасце ён ёй? Шчасце ж робіць не адзін чалавек... Яна ўспомніла: суседка іх, Галіна Іванаўна, казала, што Башлыкоў не

раз калісьці заязджаў да Параскі. Чаму ж цяпер ён так доўга не наведваўся? Заняты быў? Ды ці ж яму доўга было звярнуць са шляху? Зазірнуць на хвілінку? Да таго ж, гэты сённяшні прыезд яго можна і не лічыць. Невядома, да каго ён найперш прыехаў. Паявіўся вунь толькі цяпер, калі абышоў сяло...

«Як паглядзіш, дак і не знаеш: ці любіць ён яе?» — прайшло ў яе галаве, і яна не адчула, што шкадуе Параску. Здалося нават, што давольна, што ў іх, можа быць, не ўсё гладка. Ёй стала няёмка, брыдка за сябе: нібы бядзе Параскі, сваёй збавіцельніцы, рада, і яна зазлавала на сябе. «Любіць не любіць — не знаеш! А што табе да таго?! Любіць! Любіць, канешне! Калі не дурны!»

Думкі яе ўчапіліся ў яго. Нібы ўбачыла зноў, як стаяла побач, ільючы ваду з карца. Адчула дужасць яго рукі, якой памагаў вылезці ёй са склепа. Пасядзеўшы з ім за сталом, паслухаўшы яго скупыя, цвёрдыя заўвагі, яна мала што ўведала пра яго. Паглыблены ў сябе, скрытны, ён нібы знарок хаваў, што там у яго душы. Толькі адно Ганна добра адчула: ёй гэта асабліва кінулася ў вочы і адразу вылучыла, узняла нявіднага Башлыкова сярод іншых.

«Еты знае, куды ісці і што рабіць. І зробіць, што б там ні було»,— падумала яна цяпер, асабліва ясна. І ад таго, што гэта ў цяперашнім яе жыцці было самым важным, што ад гэтага залежала ўсё ў яе лёсе, адчула вялікую павагу да яго. «Еты не нам раўня»,— прызнала яна яго перавагу. Тое ж, што так мала ведала яго, што ён быў незразумелы, яшчэ нібы прыдавала яму значэння.

«Не нашаго поля ягада...» Хтосьці рыпнуў дзвярыма, выйшаў на ганак, і яна азірнулася. Параска.

— Ты чаго тут? — здзівілася Параска.

— А от, пастаяць захацелася...— Параска была ў паліто, у хустцы.— А ты — куды?

— У сяло. Каб не сарвалі сход, чаго добрага.

У голасе яе Ганна ўлавіла прыхаваны смутак. Адчула вінаватасць за нядаўнія думкі, пашкадавала Параску.

— Ідзі ў хату. Прастудзішся.— Параска сышла з ганка, падалася ў цемру.

Вярнуўшыся ў хату, на кухню, Ганна доўга не маг-

ла сагрэцца. Прытулілася спіною да цёплай печкі, уціскала далоні ў цяплынь абтынкаванай цэглы, стрымліваючы дрыжыкі, чула за дзвярыма мерныя, няспынныя крокі. Раз, другі крокі набліжаліся да самых дзвярэй, прыпыняліся, і яна мімаволі чакала, што Башлыкоў зойдзе. Але крокі за гэтым аддаляліся. Яна падумала, што скажа, калі Башлыкоў загаворыць з ёю. Скажа, што ён чэрствы і нялюдскі, калі так абышоўся з такім чалавекам, як Параска. Дасць яму добры ўрок.

Потым яна перастала чакаць, зразумела, што ён не зойдзе. У яго сваё на думках. Свой клопат, зусім іншы. Падумала звыкла: можа б запаліць ужо лямпы ў класах, але стрымала сябе — рана яшчэ. Чаго свяціць у пустым пакоі. Тым больш што сход будзе, пэўне, доўгі. Пагарыць яшчэ газы...

Ганна ўзрадавалася, калі пачула крокі на ганку. Ухапіла запалкі, хутка падалася ў калідор. Прыйшлі Барыс Казачэнка і Дубадзел.

— Чаму святла няма? — патрабавальна сустрэў Дубадзел. Не так запытаўся, як пагразіў.

— Няма для каго свяціць,— спакойна заявіла Ганна.

— Таму і няма нікога, што цёмна! — павысіў голас Дубадзел.— Хто будзе ісці, калі цёмна ў вокнах!

— Хто захоча, прыйдзе.

Адчыніліся дзверы з Парасчынага пакоя, і ў светлай пройме паявілася постаць Башлыкова. Ад таго, што святло было ззаду, постаць віднелася цёмнай і твар ледзь быў бачны. Башлыкоў павёў галавою, аглядваючы ўсіх, мабыць, стараючыся зразумець, пра што была гаворка.

— Ну што? — спытаў ён праз момант Дубадзела строга і патрабавальна.

Дубадзел стаяў выпрастаны, усім сваім выглядам паказваючы павагу і адданасць. Нібы і не ён толькі што грозіўся Ганне.

— Аб'явілі,— амаль тонам рапарта адказаў ён.

— Усім? — У голасе Башлыкова не знікла патрабавальнасць.

— Усім. Некаторым — па два і тры разы.

— Усім,— памог Дубадзелу Барыс.

— Святла от няма,— Дубадзел як бы пазваў Баш-

лыкова на падтрымку, зноў пагрозна павёў вачыма на Ганну.

— Ды будзе святло! — Ганна нібы засмяялася з яго кпліва.

Не хапаючыся, з годнасцю пайшла ў цемру класа, запаліла лямпу ў адным, потым ў другім пакоі. Дзверы між пакояў былі расчынены на адну палавіну, яна адчапіла зашчапку і адчыніла другую — расхінула дзверы на ўсю шырыню. Расхінула дзверы ў калідор.

Тады, калі яна гэта рабіла, Башлыкоў, а за ім Дубадзел і Барыс таксама зайшлі ў клас. Башлыкоў строгім позіркам агледзеў пакой — парты, праходы між іх, плакаты на сцяне. Усё моўчкі, невядома што тоячы. Не сказаў нічога, лёгкім, цвёрдым крокам падаўся ў другі пакой, агледзеў таксама. Ганна цікаўна сачыла за ім, бачыла: цяпер ён быў яшчэ больш незразумелы, загадкавы.

Вярнуўшыся ў першы пакой, ужо каля дзвярэй ён стаў, павярнуўся да Дубадзела і Барыса, сказаў важка:

— Трэба забяспечыць стопрацэнтную яўку ўсіх калгаснікаў. Усе да аднаго павінны быць.

Ён гаварыў і глядзеў так, нібы хацеў перадаць, як усё гэта важна. І як бы папярэджваючы, што ўся адказнасць за няяўку ляжа на іх. Разам з адказнасцю за тое, што ўжо здарылася.

— Мы аб'явілі ўжэ — па два, па тры разы,— пачаў быў Дубадзел, нібы супакойваючы і разам выказваючы сваю стараннасць. Але Башлыкоў так зірнуў, што ён змоўк: апраўдваючыся і стараючыся падмацаваць уражанне дзелавітасці сваёй, дадаў асцярожна: — Не тое што акціў, а і школьнікаў мабілізавалі — каб прасачылі за яўкай!

— Яно і відаць, як вы мабілізавалі! Дамабілізавалі да таго, што выпраўляць становішча трэба!..

Бышлыкоў недавольны падаўся ў Парасчын пакой. Дубадзел і Барыс хвіліну стаялі ў роздуме, мабыць, разважаючы, што рабіць, потым Дубадзел рашуча закінуў вайсковую сумку за спіну, кіўнуў Барысу: «Пайшлі!» — і яны зніклі ў калідоры.

Ганна засталася ў пакоі. Стараючыся не слухаць крокаў Башлыкова за калідорам і разам з тым дзіўна ловячы ўсё, што адтуль ішло, востра адчуваючы, што

ён там, неспакойны, трывожны,— яна знарок нецярпліва чакала: калі ж гэта пачуюцца галасы на двары, калі ж гэта пачнуць сыходзіцца. Яна ўзрадавалася, калі на ганку пачаліся тупат і з ім валтузня за дзвярыма; адразу здагадалася, што — дзеці, ахвотна адчыніла дзверы і весела загадала ўваходзіць.

Увалілася адразу цэлая чарада хлопчыкаў і дзяўчат — школьнікаў. Выткнуўшыся з калідора на святло, усе раптам сціснуліся каля дзвярэй, прыціхлі; паглядваючы насцярожана на Ганну, сталі падштурхоўваць адно аднаго, шморгаць насамі. Ганна загадала ім праходзіць, яны момант павагаліся, нясмела рушылі да парт, паселі.

«Першыя наведвальнікі. Акцівісты!» — мімаволі пажартавала сама сабе Ганна.

— Што ж ето вы бацькоў не папрыводзілі? — папракнула вельмі сур'ёзна малых.

Ёй адказаў рознагалосы гоман:

— Прыйдуць шчэ...

— Сабіраюцца...

— Унё, ён паслухае мяне!

— Куёўдзяцца недзе!..

Яна хутка адчула, што лішняя пакуль тут, і выйшла на кухню. Паспрабавала рабіць, што трэба; хоць стрымлівала сябе, зноў слухала, што чуваць за дзвярыма, у Парасчыным пакоі, мімаволі гадала, пра што ён думае, што адчувае, незвычайны, незразумелы чалавек. «Цьфу, прыліпло!» — зазлавала яна хутка на сябе і падалася да класа, у які, яна чула, зайшло некалькі чалавек. У пакоі былі жанкі, сярод іх Ганне адразу кінуліся ў вочы даўняя знаёмая Годля, глінішчанская швейка, і рослая, дужая цётка Маня, пра якую гаворкі таксама хадзілі ў Куранях, але з якой Ганна пазнаёмілася толькі нядаўна. Пра цётку Маню гаворкі ішлі, пэўна, далёка: казалі, неяк у Алешніках, каля млына, дзе сабраўся добры натоўп мужчын, счапілася яна неяк барацца з мужчынамі. З адным, з другім, з пятым — і ўсіх паклала. З той пары па сёлах ішла слава, што няма такога мужчыны, якога яна не пабарала б. За гэтымі дыміла папяросінай яшчэ адна нядаўняя знаёмая, сухая і злая з выгляду, як вядзьмарка, старая, якую чамусьці звалі Гечыха. З мужчын быў адзін Годлін чалавек — Эля; уціснуў-

шы пад парту доўгія ногі, курыў з Гечыхаю — трымаў папяроску далікатна, няўмела. Курыў, было відаць, каб падтрымаць мужчынскую годнасць.

Амаль адразу за Ганнай з вуліцы паявіўся Апейка з Міканорам і Гайлісам. Сцягнуўшы з галавы стаўбун, расшпільваючы каўнер паддзёўкі, Апейка акінуў позіркам клас, голасна і весела адзначыў:

— Самыя смелыя ўжэ прыйшлі!

— Аге! Можно і пачынаць! — адгукнулася хрыплым басам Гечыха.

— Пачнем! — бадзёра запэўніў Апейка.— Толькі от трохі пачакаем іншых. Каб не наракалі потым, што — без іх.

Ён прайшоў да парт, стаў здаровацца за руку: з аднымі, маладзейшымі ці роўнымі яму па гадах,— як роўны, як таварыш, з жанкамі і старэйшымі — больш стрымана і пачціва. Амаль увесь час жартаваў. Гайліс стаяў каля дзвярэй: вузкі, у зашпіленым шынялі, глядзеў строгімі блакітнымі вочкамі, чакаў. Касцісты, са сцятымі вуснамі твар быў засяроджаны, няўсмешлівы.

Яны неўзабаве пайшлі ў Парасчын пакой. Амаль адразу пасля таго, як яны зніклі, з двара паявіўся зноў Казачэнка Барыс. Заклапочана акінуўшы вачыма пакой, ён кінуў позірк у суседні, заявіў насмешліва:

— Дзе ж ето мужчыны ўсе падзеліся? Ці мужчын ужэ не стало ў Глінішчах?

— Шкадуем... Беражэм!..— адказаў знарок задзірыста хтосьці з жанчын.

— Мы што — не людзі?

— Аге! Не канешне мужчыны!

— Цётка Агапа, а дзе ж ето ваш Пятро? — не саступіў, насмешліва ўкалоў у дружны гоман Барыс.— Чаго ето ён вас прыслаў за сябе?

— Нядужы нешто, Барыско...

— І ваш Апанас занядужаў? — так жа едка пацікавіўся Барыс ужо ў іншай жанчыны.

Не стаў слухаць, паківаў галавою з папрокам, і абурэннем:

— Эх, людзі!..

Ён сабраў дзяцей, разаслаў па сяле — зваць мужчын, адразу ж сам зноў рушыў на вуліцу.

Прыйшло яшчэ некалькі мужчын. Па два, па адным. У світах, у кажухах. Выткнуўшыся з цемры на святло, хмурна мружыліся, пільна аглядваліся і, уткнуўшы галаву ў плечы, стараліся прашыцца між жанок за спіны пярэдніх. Некалькі мужчын у клас не пайшлі, тоўпіліся ў прыцемку калідора, нервова дымілі папяросамі. У прыцемку, каля дзвярэй, дыміў цыгаркаю і Чарнаштан Павел — старшыня былога калгаса. Дыміў, заўважыла Ганна, ніякава і падобна — безнадзейна.

Раз-пораз то там, то тут завязвалася гаворка, але яна амаль адразу ж ірвалася. І ў калідоры, і ў класах найбольш панавала маўклівасць, нядобрая, насцярожаная. Зацятае чаканне, адчувалася, поўніла людзей. Гэтая зацятасць мацнела, чым далей, тым больш. Чым больш сыходзілася народу.

Сярод маўклівасці і зацятасці асабліва вылучаліся двое мужчын, што сядзелі каля сцяны, нібы знарок на самым відавоку. Адзін — чырванатвары, дзіўна бесклапотны, мабыць, п'яны, а другі — худы, высушаны працай, з кепачкай на макаўцы. Чырвоны — лагодны і гаварлівы — штосьці расказваў: мабыць, непрыстойнае, бо мужчыны, хоць нявесела, пасмейваліся, а жанкі — адварочваліся, пляваліся. Сухі, з кепачкай, не смяяўся, уссеўшы на край парты, глядзеў навокал бясстрашна і задзірыста, нібы толькі і чакаў, каб счапіцца.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### 1

Было вельмі позна, але ўсё не пачыналі. Усё збіралі людзей. У пакоях ужо густа вісеў дым і ўсё часцей чуліся недавольныя галасы: «Дакуль жа ето ждаць?», «Ці да рання?»

Нарэшце дзверы з Парасчынага пакоя расчыніліся, і ў іх паявіўся заклапочаны Барыс, за ім — Дубадзел, важны і вельмі энергічны. За імі выйшлі стрыманы, цвёрды ў хадзе Башлыкоў, спакойны, нібы бесклапотны, Апейка, сабраны, нацяты Гайліс, сціплы Міканор. Апошнім, вінавата горбячыся, ступаў Чарнаштан.

Гоман, што прабіваўся там-сям, адразу апаў, але ў суседнім пакоі хтосьці гаманіў. На яго кінуліся нецярплівае шыканне, галасы: «Ціхо вы там!», «Пачынаецца ўжэ!» Пад гэтыя гукі Барыс зайшоў за стол.

— Дак е прапанова выбраць прэзідзіум,— аб'явіў ён у цішыні.

Барыс прачытаў з лістка паперы спіс. Спрэчак не было, прагаласавалі. У тым, як стрымана ўздымалі рукі, як пільна маўчалі, чакаючы далейшага, адчувалася, што насцярожанасць яшчэ павастрэла. З маўклівай насцярожанасцю сачылі, як заходзілі за стол, сядалі Гайліс, Апейка, Башлыкоў. Нават на сваіх аднавяскоўцаў, што ішлі ў прэзідыум, глядзелі недаверліва.

— А вы, цётко Мар'я, чаму не ідзеце? — паглядзеў Барыс ў пакой.

— А чаго я там не бачыла? — адказала пракураным голасам Гечыха.

— Выбралі. Значыць — трэба ісці.

Гечыха адрэзала:

— А я не хочу!

Ускінуўся і адразу аціх смех. Барыс намерыўся ўступіць у спрэчку, але Апейка даў знак: не трэба. Пачынай сход.

Барыс стрымаўся. Памаўчаў, настроіўся на іншы лад.

— От што мы нарабілі з вамі, дзядзькі і цёткі,— пачаў ён засмучона, такім тонам, быццам запрашаў усіх раздзяліць агульную, вялікую бяду.— Нарабілі такое, што на ўвесь раён шум пайшоў. Усё раённае кіраўніцтва кінуло другія справы і зразу прыбуло к нам у Глінішча. На ўсё Глінішча мы палажылі пляму перад цэлым раёнам. Просто сорамно глядзець у вочы людзям. Што пра наша Глінішча ідзе такая слава. Што ў нас такі несазнацельны народ... Трэба адумацца, пакуль не позно!

— Хто шчэ хоча сказаць? — павёў ён вачыма па зале.

— Дай мне! — устаў з падаконніка Дубадзел. Яшчэ да таго, як Барыс даў згоду, Дубадзел рушыў да стала прэзідыума.

Момант стаяў моўчкі, сярод нацятай цішыні. Выцягнуў шыю, ускінуў галаву, рашучы, адважны.

— Граждане, а также гражданкі сяла Глінішча! І асобенно — калхознікі, якія ўчора разабралі сваю маёмасць і тым самым выйшлі з калхоза «Рассвет»! — Голас яго быў поўны настойлівасці і закліку. Нервова абцягнуўшы зашмальцаваны картовы пінжачок, Дубадзел, вастраплечы, з касцістым тварам, на якім крывіўся, торгаўся сіняваты шрам, імкліва кінуўся ў наступ: — Тут ужэ ў сваім выступленні Барыс Казачэнко, які выступаў перада мной, правільно сказаў, што вы сваім учарашнім паступкам паклалі пляму на ўсё сяло. Але ён не сказаў, што ета пляма, якую вы ўчора паклалі, легла не толькі на ваша сяло, а легла яна і на ўвесь сельсавет, Алешніцкі сельсавет, а також і на ўвесь Юравіцкі раён. Бо сваім паступкам, усім тым, што вы зрабілі, а іменно — тым, што вы самавольно расхваталі ў прошлом часных коней і кароў, а также свае ў прошлом часныя калёсы, плугі, бароны і ўвесь іншы абагулены інвентар, вы паказалі ўсяму народу, якое ў вас яшчэ мужыцкае, некалхозное нутро. Якое думае толькі пра сваю выгаду і якому напляваць на тое, што робіцца ў перадавом нашым раёне і ў нашым окрузе, а также ў нашым Савецкім Саюзе, які ў даны мамент акружаны з усіх бакоў рознай буржуазіяй, якая з усіх сіл стараецца задушыць наш Савецкі Саюз, а іменно — стараецца, штоб сарваць нашу пяцілетку, нашу індустрыялізацыю і калекцівізацыю, якія наносяць ёй смярцельны ўдар!

Дубадзел гаварыў амаль без прыпынку, усё высокім голасам — вінавацію, заклікаў. Па тым, як ён гаварыў, адчувалася, што для яго не так важныя самі словы, думкі, якія ішлі часта без ладу, паўтараліся,— колькі тон прамовы, той запал, якім ён не даваў прытухаць ні на секунду.

— От рэжа! Як рэпу грызе! — сказаў нехта каля Ганны, у прыцемку калідора. Яна ўлавіла ў голасе непрыхільнасць.

— Стараецца! — адгукнуўся хтосьці іншы, хрыпаты, прастуджаны.— Прапіўся, паляцеў з сельсавета, дак цяпер са скуры лезе!

— Начальство ж унь, побач сядзіць! Заўважыць можа?

— Аж ахрып! І патыліца — умокла!..

Патыліца, праўда, мокла ад поту, Дубадзел нецярп-

ліва раз-пораз выціраў яе далоняй. І хрып, што далей, то больш: усё часцей вымушан быў прыпыняцца, пракашлівацца. Але і не думаў канчаць гаворку. Ганна не першы раз дзівілася яго настойлівасці і ўпартасці. Здзіўленне яе, як і ў тых, што смалілі цыгаркі побач у прыцемку, было не толькі без якой-небудзь спагады, а рэзка непрыхільным: за ўсім тым, што гаварыў Дубадзел, увесь час адчувала яна жывога яго, даўно ўжо і непрыемна знаёмага ёй. «Даў жа бог сілу чалавеку і зацятасць!..» — думала яна з насмешкай, цярпліва чакаючы, калі ж ён зможацца. Водзячы вострым позіркам па тварах людзей, што сядзелі ў пакоі, яна бачыла, што многія з іх таксама амаль не слухалі і чакалі таго ж самага. Вельмі ж добра вядома была ўсім асоба гарачага прамоўцы! Ганна захацела пабачыць, як слухае Дубадзела Башлыкоў, але з калідора відна была ёй толькі спіна. Усё ж яна суцешыла сябе: «Етага не правядзе, пэўне! Еты бачыў ужэ такіх, не інакш!..»

2

Гайліс пасля Дубадзела загаварыў, здалося, незвычайна спакойна, ціха. Выпрастаны, у вайсковым кіцелі, з акуратна зачасанымі назад русявымі валасамі, стаяў ён за сталом і нехапатліва, старанна вымаўляючы кожнае слова, выразна выказваючы кожную думку, разважаў:

— Былі недахопы ў рабоце. Это — праўда. Былі. І недахопы немалыя. Вялікія...— Людзі і ў калідоры, і ў пакоях глядзелі моўчкі, пільна чакалі. Ён жа спакойна, важка клаў, нібы цагліны: — Чэсныя людзі работалі, работалі, а палучылі — мало. Дзвесце грамаў за дзень — это не палучка. Кілаграм картошкі — тожэ не палучка!..

— Не палучка! — выдыхнуў хтосьці побач з Ганнай.

— Правільно!

У калідоры і ў пакоях завірыў усхваляваны, гарачы гоман. Гайліс нерухома, быццам безуважна, пастаяў, перачакаў яго.

— Мало кармоў нарыхтовано,— павёў ён тым жа роўным, важкім голасам: — Скаціну вясной не будзет

карміць чым. Саломай карміць трэба будзет. Скаціна будзет галадаць — это ўжэ відно...— Кожнае слова латыша адгукалася сярод слухачоў неспакойным гулам. У калідоры так гаманілі, што Ганне цяжка было слухаць. Хтосьці з мужчын не вытрываў, крыкнуў:

— Ціхо бо вы!

Слухаючы, як слова за словам строгі латыш маляваў невясёлае становішча ў калгасе, як рос нядобры гул, Башлыкоў, адзначыла Ганна, нецярпліва павярнуўся да Гайліса. Відаць, быў нездаволены кірункам яго выступлення. Але Гайліс не заўважыў — ці не хацеў заўважаць — башлыкоўскага позірку: вёў і вёў гаворку пра бядоты няўдалага калгаса. Толькі дамаляваўшы становішча, спыніўся.

— Канечно, тут дым без агня не бывает,— нібы падумаў ён услых.— Есць усякія прычыны. Віна есць... Вінавато кіраўніцтва калгаса. Праўленне, старшыня калгаса таварыш Чарнаштан. Это — правільно... Але,— голас Гайліса памацнеў, набраў упартасці,— вінаваты не толькі яны. Не адно кіраўніцтва. Вінаваты і вы самі! Калгаснікі.— Ён перачакаў гоман нездавальнення: — Які ўраджай сабралі?!

Ён глядзеў у залу, як суддзя, чакаў адказу. Адказаў Барыс Казачэнка:

— Жыта — чатыры з палавінаю цэнтнеры з гектара, картоплі — дзвесце трыццаць пудоў...

— Вот! Это не ўраджай!..— заявіў строга Гайліс.— Чаму так палучылось? — Ён абвёў вачыма прыціхлы пакой, патрабаваў адказаць. Усе маўчалі. Адказаў сам: — Так палучылось таму, што — пагано аралі. Пагано сеялі. Пагано ўбіралі... Работалі не так, як на сябе. А як на паноў!— У цемры калідора завязалася нейкая спрэчка, у класе зноў рос гоман, але Гайліс не зважаў, вёў сваё. Многа дабра пакралі зладзеі. А нікога не паймалі. Гайліс судзіў непахісна: у калгасе не было парадку, дысцыпліны. А без парадку, дысцыпліны — няма работы. Або ёсць паганая работа... Ён заявіў горача: у калгасе павінна быць добрая дысцыпліна. І трэба працаваць — як на сябе, а не як на паноў! Скончыў, нібы распарадзіўся: трэба вярнуцца ў калгас! Умацоўваць яго!

Калі ён сеў, у абодвух пакоях хвалямі хадзіў гоман. Гаманілі і ў калідоры, каля Ганны, зацята зыркалі цы-

гаркамі. Гоман быў, чула Ганна, больш нездаволены, але Гайліс хоць бы варухнуўся за сталом.

Устаў Барыс.

— Здаецца, багато ахвотнікаў выступіць паявілася? — У голасе яго была кпінaчка.— Дак хто хоча сказаць слова?

Гоман пачаў хутка сціхаць. Вочы амаль усіх скіраваліся да Барыса, але ніхто не прасіў слова.

— Няўжэ няма нікога?! — з кпінкай здзівіўся Барыс.— Столькі ж унь гуло!..

— Няхай начальство гаворыць! — крыкнуў задзірлівы худы, з кепачкай на макаўцы.

— Начальство ўжэ гаварыло! Добра було б паслухаць трохі і народ!

— Паслухаеце вы! — унізаўся злосна галасок.

— Аге!

3

Зноў пайшоў нядобры гоман. Барыс аб'явіў, што выступіць Міканор, сакратар алешніцкай партячэйкі. Міканор устаў, няёмка сутуліўся сярод гоману, тады як Барыс прасіў сціхнуць, паслухаць.

— Ужэ і куранёўцы вучыць будуць! — мацюкнуўся хтосьці ў прыцемку.

— Не кажы! Усе лезуць!

Ганна ад неспадзяванай прыкрасці стаілася, пачырванела. Тоячы крыўду, з асаблівай раўнівасцю сачыла за Міканорам: нібы яму трэба было абараніць гонар не толькі свой, а і яе, і ўсіх куранёўцаў. Адчула яго раптам самым блізкім сабе: адзін ён быў тут з яе роднага кутка, з яе маладосці.

Міканор пачаў таксама з дакору: усе глядзелі на Глінішчы — як на перадавую вёску, як на прыклад для іншых, на які трэба ўсім раўняцца. А выйшла так, што Глінішчы паказваюць цяпер прыклад таго, як не трэба рабіць.

— От ты і пакажы! — перабілі яго насмешлівым воклічам.

Барыс адразу моцна застукаў па стале, загадаў не перабіваць. Міканор перамаўчаў воклiч, маўкліва сцярпеў яго. Нібы не захацеў увязвацца ў спрэчку. Калгас распусціўся — стрымана вярнуўся да таго, на чым перапынілі,— і гэта ў такі час, калі Алешніцкі сельсавет

у цэлым павярнуў на новую дарогу. Калі ў нас, не сакрэт, ёсць немалыя поспехі — асабліва ў калгасе «Камунар» і іншых. Апярэджваючы гоман, што стаў расці, Міканор тут жа адзначыў разважліва: канешне, у нас ёсць і калдобіны, і ў другіх, бывае, нягладка ўсё ідзе. Ён доўга гаварыў пра тое, як цяжка было спачатку наладжваць калгас у Куранях і як не ладзілася раней у «Камунары». За гэтым стаў расказваць пра тое, што трэба сельсавету зрабіць у гэты год. Гаварыў пра ўсё, што прыходзіла ў галаву, раскідана і дзіўна для яго няўпэўнена. Слухаючы яго, Ганна адчувала, што гісторыя гэта з глінішчанскім калгасам вельмі прыгнечвае яго, што ён не верыць, нібы сход можа паправіць штосьці. І гаворыць толькі таму, што трэба гаварыць па абавязку. Ганне спадабалася, што ён адчуваў настрой людзей і не задзіраўся, як звычайна ў Куранях,— гаварыў стрымана, сціпла.

За ім Барыс звонкім, давольным голасам аб'явіў:

— А зараз выступіць наша настаўніца — Параскева Андрэеўна Дарошка!

Параска пайшла да стала сваёй лёгкай, пругкай хадою, ледзь паводзячы звыкла плячыма, з вясёла ўзнятай галавой. Упэўнена паклала руку на край стала, з узнятай галавой павяла позіркам па пакоі. Ганна бачыла: проста вачавідкі адбылося незвычайнае — хмурныя, недаверлівыя твары па ўсім пакоі яснелі. Вочы глінішчанцаў глядзелі з прыхільнасцю і цікаўнасцю...

— От тут Барыс сказаў,— весела кіўнула яна на Барыса,— сказаў — зараз выступіць настаўніца!.. Я — настаўніца. Я — чалавек, якому па закону трэба вучыць. Мяне для гэтага рыхтавалі. Мне для гэтага далі многа розных парад.— Параска ўсё трымалася таго ж даверлівага, вясёлага ладу.— Вядома, могуць знайсціся такія разумныя людзі, якія скажуць, што я не наогул настаўніца, а школьная настаўніца! Што мая задача адна — вучыць школьнікаў! Ды яшчэ школьнікаў пачатковай школы, самых малых! Але так могуць казаць толькі людзі, якія носа не высоўвалі з горада. Не ведаюць, хто такі — настаўнік у вёсцы!.. Настаўнік у вёсцы,— у голасе пачулася гарэзнасць,— і кум, і сват, і — чорту брат!.. Павінен умець навучыць усяму і малога, і старога! Ён не можа сядзець толькі ў школе і не бачыць таго, што робіцца на вуліцы!..

І от я таксама, на стале кожны вечар — гара сшыткаў, стараюся не сядзець толькі ў школе. Адкладваю сшыткі на ноч, выходжу ў сяло! Паглядзець, што хто робіць! І што наогул у нас робіцца!.. І от я і цяпер гляджу — і стараюся разабрацца: што ж гэта ў нас робіцца?..— Ганну не дзівілі ні бойкасць, ні знарокавая Парасчына шчырасць: ведала добра Параску. Бачыла, што Параска недарэмна старалася падступіцца. Па калідоры, па пакоі ішоў згодны, прыхільны гул. Жанкі ўздыхалі, ківалі галовамі: праўду кажа, хадзіла, глядзела, памагчы старалася! — Бачыла я, як гаравалі, бедавалі ўсе. І дзядзька Змітро, і цётка Мар'я, і цётка Гечыха, і ўсе іншыя... Бачыла я, як гаравалі, і думала сабе: няхай! Цяпер цяжка — потым лягчэй будзе! Наладзіцца!.. Быць не можа, каб не наладзілася! У іншых жа ідзе на лад, чаму ж у нашых не наладзіцца?.. Хіба ж нашы горшыя, як другія? Хіба ў нашых рукі горшыя ці рабіць яны не прывучаны? Ці не такія разумныя?..— Параска горка пашкадавала: — А вось жа не выйшла ў нас!.. Чаму?!.— Ганна пільна чакала: што яна далей скажа, як павядзе далей? Параска не адказала адразу. Толькі шчыра, разумна адзначыла: — Я ведаю, кожнаму з вас баліць. І мне таксама баліць, вельмі баліць... А калі баліць, то хочацца крычаць, а не думаць!.. Але не трэба і гарачыцца вельмі! — асцярожна параіла яна.— Трэба падумаць добра. Падумаць, што зрабіць, каб паправіць усё, што не так!..

— Думай не думай, адна трасца! — перабіў яе нечы безнадзейны басок: відаць, Гечыхі.

— Паламалася ўсё! Сам чорт не разбярэ!..

— Няма чаго папраўляць!..

— Не збівай хоць ты, Параска!

— Я хіба кажу, што гэта лёгка... Баліць, кажу, і мне... Трудна гэта... Я кажу, што не трэба гарачыцца... Падумаць цвяроза трэба...

Яна гаварыла і цяпер са шчырасцю і спагадай, з вопытнай дасведчанасцю, але яе ўжо, як і Мікакора, не раз перабівалі, слухалі нязгодна. Спрачаліся, праўда, мякка — стрымлівалі, відаць, даўняя пашана да Параскі і яе спачувальная далікатнасць. Усё ж яна, хоць і хавала гэта, было відаць Ганне, трымалася няўпэўнена, бянтэжылася. Збівалася ў гаворцы, нялёгка знаходзіла доказы. Яна, заўсёды такая знаходлівая, хуткая...

4

Апейку сустрэлі насцярожанай увагай. Ён жа падняўся ленавата, з нейкай нядбайнасцю хіліў галаву. Ва ўсёй постаці была дзіўная расслабленасць.

— Была ў нас калісьці гісторыя...— мірна, паблажліва загаварыў ён. Загаварыў так, быццам вагаўся: гаварыць ці не гаварыць.— Я быў тады смаркачом. Чужыя агароды правяраў... Пажаніліся ў нас хлопец з дзеўкай. Ён быў наш, праз дзве хаты жыў, Іван, канешне, зваўся. А дзеўка з-за ракі, з Барбарова. Алена...— Ён пальцам будзённа пачасаў макаўку. Успомнілася — от і гаворыць. Вочы глядзелі на яго збольшага спакайней. Дзе-нідзе — з цікаўнасцю.— Дзеўка — як дзеўка. І хлопец — як хлопец... Але от пабраліся, аддзялілі іх. Хатку сваяцтва скляпала. Сталі жыць сабе. Самі па сабе... Не ўломкі. Старацельны хлопец ён. І яна — як тая мурашка. З рання да вечара — у полі, у хляве. Шчыруюць абое... Не ўломкі... А от што выйшла... Пасеялі. Нізінка ў іх была. Дак вясной усё вымакла. Сена накасілі. Дождж. Пагніло... Зімой у нас каля ракі — ночы вялікія. І лучыны мала. Дак — дзело маладое — летам яна ўжо раджаць гатова. А часу няма. Усё — на бягу. На бягу, у разоры, і радзіла!.. Мёртвае!.. Як наканаваў хто — то адно, то другое. Як напасць якая! Не там — дык тут!.. Праўда, калі разабрацца, дык і самі там-тут вінаватыя. Маладыя, нявопытныя... Яно можа б і нічога ўсё — мала ў каго не бывае! Толькі ж яны да ўсяго папаліся і гарачыя. Як от некаторыя ў нас, у Глінішчах! — падчапіў раптам Апейка. Барыс засмяяўся. Засмяялася яшчэ некалькі з тых, што глядзелі насустрач.— Яна — што не так — на яго, ён — на яе. Такая-сякая! А часам і з кулакамі!.. Яна вартая была яго. Ён ёй слова, яна — два! Век на іх двары гвалт! Як на юравіцкім базары ў нядзелю! — Зноў пайшоў смяшок. Апейка ж будзённа павёў далей: — Чубіліся, чубіліся. Не вытрывала яна. Уцякла! Чалавек яе спачатку: ну, няхай! Можа і на лепшае! А потым — жаль узяў. Ды і гонар мужчынскі, мабыць, загаварыў!.. Адно — калі ты кідаеш, а калі цябе — ето саўсім другое!

— Аге! — чула адгукнулася некалькі галасоў. Найбольш — жанкі.

— Зашчымела ў Іванавым сэрцы! — паспачуваў Апейка.— А тут — матка і бацько з уговорамі. «Дзе ето відано такое! Пазаві!..» Угаварылі. Селі на паром — і цераз раку. Што там было — не чуў. Не скажу. А тылькі — прывозяць яе... Ва-ажная прыехала!.. А ўсё-такі ўжэ не крычыць! А пра яго і казаць не трэба: цішэй вады. Абыходлівы — не пазнаць! Людзям ужэ нудна стало — спектакля няма!.. Зімой ён — на заработкі ў лес. Вясной добра ўгнаіў, пасеяў у пару. Лета ўдалае. Добра выспела ўсё. Да збожжа — сена добрае... Парадак стаў... Даўно ето было,— задумаўся, пастражэў голас Апейкі.— Як я яшчэ цялят не ганяў. Даўно ўжэ абое пастарэлі. А жывуць усё разам. Жывуць — не горай, як людзі... Усяляк, праўда, і цяпер часам бывае: загаворыць раптам гарачая кроў. А не чубяцца, як было. І не кідаюцца ў розныя бакі. Ведаюць: жыццё пражыць — усяго пабачыць. Не трэба адразу — у адчай!..— Не разабраць было спачатку: ці то разважаў проста, ці раіў.— Усякая гаспадарка цяжка зладжваецца. Не адразу — бывае — усё складна выходзіць. Трэба часам прыцерціся, як кажуць. Ето — што да сям'і, да двух чалавек. А што казаць ужэ пра вялікую гаспадарку. Пра калектыў.

Ён памаўчаў. Як бы даваў падумаць пра тое, што сказаў, ці збіраўся з думкамі.

— От тут я і хацеў бы сказаць, што думаю пра ваш калгас...— Ён гаварыў па-ранейшаму будзённа, але ўжо вельмі сур'ёзна, значна.— Вы можаце сказаць, што — позна. Аднак, я думаю, агледзецца з толкам не позна ніколі. Трэба разабрацца, высветліць усё. Трэба выясніць: што ж такое здарылася? У чым прычына, што так здарылася?.. Я згодзен з тым, што сказаў таварыш Гайліс пра ўраджай і пра дысцыпліну. Я лічу, што таварыш Гайліс асабліва правільна сказаў: вялікая віна ва ўсім кіраўніцтва. У тым ліку і наша віна — што не паправілі ў час, не папярэдзілі... Мы з гэтай няўдачы зробім вывады. Мы паправім памылкі.— Ён павёў вачыма па ўсіх, хто быў у прэзідыуме, як бы паказваючы: тое, пра што ён гаворыць, усе гатовы ўзяць на сябе. Чарнаштан глядзеў спадылба на стол, выгляд быў такі, як бы яго гняла гэта віна найбольш. Як на судзе падсудны. Гайліс таксама, здавалася, гатоў быў узяць сваю частку віны. Башлыкоў, падобна, віны за

сабой не бачыў. Апейка нібы не заўважыў гэтага, кіўнуў у залу: от прызнаём сваю віну.— Але і вы павінны прызнаць свае! — Ён, аднак, не стаў ушчуваць надта: нашто перабіраць тое, што было, яно і так добра вядома. Вінаваты ўсе. Лепш падумаць разам, як зрабіць, каб не было такога.— От я і хацеў бы даць парады на будучае... Што трэба ўлічыць вам на будучае?.. Першае,— раіў ён па-сяброўску,— не карміць болей гультаёў і трутняў! Карміць толькі тых, хто дае карысць. Па долі той карысці, якую кожны дае. Хто больш — таму больш, хто менш — таму менш. А таму, хто бокі абіваў,— дулю!..— Неспакойны гул ухваліў яго.— Трэба паставіць добры ўлік. Усё лічыць: працу, прыбытак, палучку. Кожную капейку, кожны грам — на ўлік. Усім, у каго рукі лішне доўгія,— па руках... Адным словам — кантроль ва ўсім. Строгі кантроль. Калі не ўстановіце кантроль — усё прападзе. Ніякага дабра не хопіць!..

«От хітры,— падумала Ганна.— Гаворыць так, нібы яны яшчэ ў калгасе! Па-калгаснаму настрайвае!..» Заўважыла: прамова Апейкі растрывожыла людзей, ішоў гоман, чуліся воклічы, але воклічы былі нейкія дзелавітыя: папракалі — кармілі трутняў, разбазарвалі дабро!..

— Хто рабіў, хто не рабіў — усё адно! Кожнаму палачка!

— Хто ўрваў, той і спажыў!..

— Якая тут ахвота — старацца! Карак гнуцы!..

— Усё ветрам пайшло!..

Калі Барыс устаў, гоман, воклічы пачалі хутка спадаць. Ён дачакаўся поўнай цішыні, важна, як асаблівую падзею, аб'явіў:

— А зараз выступіць сакратар райкома таварыш Башлыкоў!

5

Вочы ўсіх — мноства вачэй — глядзелі толькі на яго. Перасталі дыміць у калідоры, падступілі да дзвярэй. Сціснуліся так, што нельга было варухнуцца. Ганне сціснала дыханне.

Бачачы, як глядзяць на яго, як чакаюць, што ён скажа, разумеючы, як цяжка будзе яму разбіць насцярожанасць, Ганна раптам пачала хвалявацца за яго.

Яе не супакойвала тое, што ён, адзначыла сабе, трымаўся спакойна, упэўнена.

І тон, і выгляд яго паказвалі, што тое, аб чым ён павінен будзе сказаць, вельмі сур'ёзнае і нядобрае і паставіцца да ўсяго гэтага трэба належна сурова.

Ён пачаў з міжнароднага становішча. Галоўная асаблівасць міжнароднага становішча СССР, сказаў ён, у тым, што Савецкі Саюз — адзіная рабоча-сялянская дзяржава — з усіх бакоў акружаны капіталістычнымі дзяржавамі, якія вядуць раз'юшаную барацьбу з намі. З той жа строгасцю на твары, з жорсткімі складкамі каля рота Башлыкоў стаў гнеўна расказваць пра разнастайныя злосныя ўчынкі і шкодніцтвы, якія арганізоўваюць капіталістычныя дзяржавы і іх паслугачы для таго, каб сарваць будаўніцтва сацыялізма ў СССР і, нарэшце, знішчыць Савецкі Саюз. Адабраць заводы ад рабочых, ад сялян — зямлю. У сваёй звярынай нянавісці да Савецкага Саюза, бачачы, што Савецкі Саюз не толькі не гіне, а ўсё ўзмацняецца, яны ўпарта выношваюць планы крывавай вайны супраць нас. І тон, якім усё гаварылася, і тое, што малявалася за словамі, асабліва пагрознае — адбяруць зямлю, пойдуць вайной, прынясуць знішчэнне, смерць,— гэта моцна падзейнічала на ўсіх, хто слухаў. Цішыня была важкая, трывожная.

Вайна ў любы момант, паказваў Башлыкоў, гатова ўварвацца ў нашы гарады і сёлы. У нашы хаты. Паліць наша дабро, прымусіць туляцца па лясах нашых дзяцей, нашы сем'і. Вайна ўвесь час стаіць каля граніцы Савецкага Саюза. Вораг гатоў выкарыстаць любую нашу слабасць, любы зручны момант. Гэта абавязвае нас быць увесь час напагатове, трымаць порах сухім. Не дапускаць ніякай слабасці ў нашых радах.

Ганна лавіла кожнае яго слова. Яго клопатнасць, трывога і яго гнеў хвалявалі Ганну, уводзілі яе ў свет, які яна не ведала і які, аказваецца, так грозіўся ёй, усім людзям, і гэтым, і многім іншым на свеце, што жывуць бесклапотна, сляпа. Яго хваляванне пра ўсё гэта і між усяго — таксама ж і пра яе, зноў непрыкметна і хораша збліжалі яе з ім, ядналі. Узрушаная, захопленая тым, што ён гаворыць, яна раз і другі дзівілася, як ён багата ведае. Ведае, што робіцца на ўсім свеце. «Було за што паставіць над раёнам! — падума-

ла з гонарам і неадступнай рэўнасцю.— Е ж такія адукаваныя!..»

Ей падабалася дзіўна тое, што ён часам гаворыць не так, як іншыя, быццам незразумела, па-вучонаму: да таго адукаваны, што дацягнуцца няпроста.

Строгім, трывожным быў Башлыкоў і тады, калі пачаў расказваць, што робіцца ў нашай краіне. Унутры СССР бальшавіцкае наступленне, адкрыта паведаміў ён, ідзе ў няспыннай барацьбе з самымі рознымі варожымі сіламі, якія ўсімі спосабамі імкнуцца падарваць нашу краіну знутры... Не зважаючы на тое, што бальшавіцкая партыя вядзе бой з ворагамі ўсіх масцей, гэтае супраціўленне не толькі не заціхае, а ўсё абвастраецца і стварае яшчэ большыя цяжкасці на нашым шляху. І калі мы ўсё ж дабіліся вялізных поспехаў у будаўніцтве сацыялізма, то гэта толькі гаворыць пра непераможную сілу Савецкага Саюза... Голас Башлыкова палагоднеў, нават павесялеў, калі ён з захапленнем, многімі прыкладамі, пачаў расказваць, як пераварае Савецкую краіну індустрыялізацыя, што разгортваецца па плану пяцігодкі. Далёкія Магнітагорск, Чэлябінск, Харкаў раптам аказаліся быццам блізкімі сваякамі і памочнікамі іх Глінішчаў, іх надзейнымі абаронцамі. Праўда, Ганна заўважыла, што тут увага да Башлыкова і яго ўплыў на людзей прыкметна паслабелі. Людзі варушыліся, у вачах паявілася нецікаўнасць, недавер'е. Нібы казаў пра неабавязковае і пра такое, пра што можна варажыць па-рознаму. У гэты момант прамова Башлыкова страціла багата сваёй сілы.

— Што мы маем у сельскай гаспадарцы? — Башлыкоў зрабіў паўзу, як бы даваў час падрыхтавацца да новага, вельмі важнага. У голасе яго былі трывога і цвёрдая мужнасць, калі ён пачаў расказваць, што наступленне ў вёсцы асабліва абвастрыла шалёнае супраціўленне варожых элементаў, якія, прадчуваючы сваю блізкую пагібель, не спыняюцца ні перад чым. Тут Ганна адчула, як залу зноў працяла пільная, насцярожаная цішыня. Усе зноў глядзелі на яго, чакалі... Па ўсёй краіне кулакі і іх пасобнікі ў бяссільнай злосці ідуць паўсямесна на адкрытыя выступленні. Паляць калгасныя пабудовы, дамы сельскіх актывістаў, страляюць з абрэзаў селькораў... Яны думаюць, што гэтым звярыным тэрорам запалохаюць нас, сарвуць ка-

лектывізацыю! Голас Башлыкова набыў сілы. Башлыкоў заявіў цвёрда: дарэмна яны разлічваюць на гэта! Бальшавікі не з палахлівага дзесятка! Кулацкая барацьба яшчэ больш згуртоўвае нашы рады! Рады бальшавікоў і перадавога сялянства!..

Сіла яго слоў, чула Ганна, была не так у саміх словах, як у тым, што было за гэтымі словамі, у тым пачуцці, з якім яны былі зліты. За ўсім адчувалася шчырая, непахісная перакананасць, адданасць, якая прымушала прыціхаць недавер'е многіх, а Ганну проста звала, захапляла. Такога гарачага пераканання яна яшчэ не адчувала ні ў кога. Ад гэтага да ўсяго прымешваўся непатрэбны раўнівы сум...

— Па ўсёй краіне,— загаварыў ён раўней, але ўсё з той жа перакананасцю,— нечуванымі тэмпамі разгортваецца масавая калектывізацыя... Па ўсяму Савецкаму Саюзу ёсць ужо не толькі такія раёны, дзе калектывізавана больш за пяцьдзесят працэнтаў, але ёсць і раёны суцэльнай калектывізацыі!.. Такія раёны ёсць у Паволжы, на Кубані, на Украіне, у важнейшых зерневых раёнах СССР. Ёсць такія раёны і ў нас, у Беларусі. Напрыклад, Клімавіцкі раён... Ідзе справа да суцэльнай калектывізацыі і ў нас. Мы паставілі пытанне аб тым,— голас Башлыкова зноў набыў асаблівую значнасць,— каб і наш, Юравіцкі раён, уключылі ў вышэйшую групу па калектывізацыі, і ў ЦК падтрымалі нас. Мы ўзялі ўдарную, бальшавіцкую задачу: да вясны наступнага, 1930 года, калектывізаваць раён на ўсе сто працэнтаў!.. Мы паставілі гэту задачу,— загаварыў Башлыкоў моцна, нібы вылучыў,— і мы яе выканаем! Нягледзячы ні на што!

У пакоях, у калідоры была цішыня. Быў момант — здалося, усіх апанавала здранцвенне. Перасталі раптам дыміць цыгаркамі, сапці побач. З павагай і раўнівa Ганна адчула: гэты зробіць! Што захоча — зробіць! От сіла!..

— У гэтым святле ўсім павінна быць ясна,— голас яго пацішэў, стаў дзелавіта стрыманым,— якое значэнне надае райком таму, што адбылося ў вашым калгасе. Гэта ўдар па ўсяму раёну. Таварыш Дубадзел правільна сказаў... Таму мы павінны прынцыпова ўскрыць прычыны, якія давялі да ўсяго гэтага. Тут таварышы, якія выступалі, называлі розныя прычыны, каб вытлу-

мачыць тое, што здарылася. Чаму развалі́ўся калгас... Яны назвалі многа прычын,— у голасе Башлыкова пачулася стрыманая насмешка.— Але не назвалі галоўнай... Галоўная прычына — не будзем заплюшчваць вочы, назавём рэчы сваімі імёнамі! — сур'ёзная, палітычная. Калгас распаўся,— загаварыў Башлыкоў, вылучаючы кожнае слова,— у выніку варожай дзейнасці! Калгас падарвалі — яўнымі і скрытымі метадамі — кулацкія элементы!.. Таму тое, што адбылося тут, райком разглядае як палітычную з'яву, якая патрабуе палітычных вывадаў і мер. Бязлітасных мер.

Варожыя сілы ўсіх масцей,— загаварыў ён выразна, дужа,— дзейнічаюць шырокім фронтам. Яны дзейнічаюць у міжнародным маштабе і на ўнутраным фронце. Яны не грэбуюць нічым, каб падарваць нас. Яны шкодзяць нам і ў вялікіх, дзяржаўных справах, і ў малых. У любым сяле, у любым калгасе...

Класавы вораг дзейнічае. І мы таксама,— голас Башлыкова ўсё цвярдзеў,— будзем дзейнічаць! Мы будзем бязлітасна біць па ворагу і яго пасобніках! Дзе б яны ні вылезлі!

У святле ўсяго таго, што я сказаў,— Башлыкоў, было відаць, сабраўся канчаць,— райком заклікае ўсіх калгаснікаў вёскі Глінішча вярнуцца ў калгас, аднавіць яго. Ударыць па ворагу нашай аб'яднанай сілай, калгасам!

Ён сеў. Была цішыня. Хоць бы хто кашлянуў. Хоць бы варухнуўся хто. Была разгубленасць перад ім. Перад сілай і праўдай, якую выставіў ён. І якую раптам адчулі так моцна. Потым Ганна заўважыла, як з калідора перасталі ціснуць, пачалі адступаць ад дзвярэй, у цемру. Заварушыліся ў пакоі, задымілі, хтосьці закашляў.

Схамянуўся, узняўся Барыс.

— Хто шчэ хоча сказаць?

Ён павёў галавой па класе. Адводзілі позіркі, апускалі вочы, смалілі цыгаркі. Пачакаў. Ніхто не адгукаўся.

— Няма ахвотнікаў?

— Хваціць ужэ! — заявіла спакойна і важка цётка Маня.— І так позно!

Як бы чакалі гэтага, адразу, нецярпліва падхапілі. Па пакоі, у калідоры пайшло:

— Аге! Развідняе ўжэ скоро!.. Дзень унь!..
— Пагаварылі ўжэ!.. Сколькі ж гаварыць!
— Хваціць!..

Барыс нахіліўся да Башлыкова. Той нешта гаварыў яму.

— Ну, калі няма ахвотнікаў,— сказаў Барыс прымірэнча,— дак трэба прыняць рашэнне.

— Якое шчэ рашэнне? — востра нацэлілася Гечыха. Зноў засмактала папяросіну, але вачэй не адвяла. У пакоі ўсе глядзелі на Барыса, чакалі.

— Ну, рашэнне, што мы,— стрымана, з годнасцю павёў Барыс,— аднаўляем калгас. І ўсе, каторыя выйшлі, вяртаемся назад... І будзем работаць, як раней...

Момант зноў была цішыня. Цішыня напружаная і насцярожаная. Позіркі то неспакойна бегалі па тварах бліжніх, што сядзелі за сталамі, на сталах, то ўціналіся ў Барыса, у Башлыкова.

— А нашто ето канешне? — асцярожна запярэчыў хтосьці ззаду.

— Не трэба етаго! — адгукнуўся больш упэўнена другі голас.

— Не трэба! — загуло па радах.

Барыс стаў моцна стукаць далонню, пакуль не прыціхлі. Як неадменнае, заявіў зноў:

— Трэба рашэнне! — Нібы для таго, каб не было сумненняў, дадаў: — Ето — абязацельно.

— Абыдземся! — адрэзаў голасна, як бы з выклікам, худы з кепачкай. Па пакоі адразу пайшло:

— Паслухалі — і хваціць!..
— Хваціць!..

Устаў Башлыкоў. Упэўнена высіўся сярод гоману, чакаў, калі сціхнуць. Але гоман не сціхаў, нават памацнеў. Гаманілі, кідалі неспакойныя позіркі ўжо нібы да аднаго.

Ён не зварухнуўся, пакуль не наступіла мёртвая цішыня.

## 6

— Таварышы, тут, відаць, некаторыя думаюць,— у роўным, мерным голасе Башлыкова Ганна ўлавіла злую ўпартасць,— што мы сабраліся сюды жартачкі жартаваць. І хочуць сход наш ператварыць у вясёлую

гаварыльню. У пустапарожнюю балбатню! — Голас яго ўсё стражэў, усё набіраў жорсткасці.— Дык — каб не было сумнення — аб'яўляю: мы прыбылі сюды не для вясёлых забавак, не для пустой гаварыльні! І мы выступалі, пераконвалі вас не для таго, каб дазволіць некаторым, што таксама прыйшлі сюды, са сваімі мэтамі,— сарваць сход! Мы прыбылі для таго, каб зрабіць важную справу — паправіць становішча, у якім вы апынуліся! Паправіць вашы неабдуманыя дзеянні, якія шкодзяць усяму раёну. Мы спадзяемся, што вы зразумелі вашу цяжкую памылку і — выправіце яе!.. Я прапаную прыняць такое рашэнне: «Мы, калгаснікі калгаса «Рассвет», усведамілі сваю памылку і аднагалосна рашылі аднавіць калгас. Для чаго вяртаем у калгас усю абагуленую маёмасць і абязуемся працаваць па-бальшавіцку!..» Вось так!

Ганна слухала яго з дваістым пачуццём: павагі да смеласці, рашучасці яго і — трывогі. Вельмі ж неасцярожна, напралом лез ён: каб не раззлаваў людзей, не сапсаваў усё. «Без падходу... Не знае нашых. Не знае — нашы не любяць такого... Да шчэ цяпер, калі ўсё так пячэ...» Яна павяла позіркам — твары былі недавольныя, зацятыя. Вочы вострыя, злыя. Не падабалася, не ўхвалялі...

Але маўчалі. Рашучасць Башлыкова, яго моцная пагроза трывожылі. Трывожылі, злавалі і — стрымлівалі. Пагроза Башлыкова — не жартачкі... Нядобрае, небяспечнае было маўчанне...

І раптам прарвалася:

— А як я — не хочу?!

Сказаў той худы, у кепачцы, што тырчаў навідавоку. Сказаў голасна, як бы нават задзірліва. У позірку, ва ўскінутай, з паголенымі вострымі сківіцамі галоўцы быў нібы выклік. Вочы проста шалёныя адвагаю, усмешачка з-пад вусоў. «Ану, паспрабуй! Не хочу, от і не хочу!..»

— Чаго? — не зразумеў адразу Башлыкоў. Ці не чакаў такога.

Глінішчанец з тым жа выклікам заявіў:

— Вяртацца не хочу! У калгас!..

Башлыкову не далі сказаць. Спачатку беражліва, а потым ўсё больш вольна, злосна рынулася:

— Няма такога права!.. Застаўляць!..

— Ето так трэба?! Сілаю?!.
— Паспыталі ўжэ! Хваціло!..
— Не хочам! Не вернемся!
— Няхай другія папробуюць!
— Аге! Каторыя не булі!
— Не канешне нам адным!
— Па чарзе!..

Дарэмна Барыс загадваў, стукаў штосілы па стале — не слухалі. Гаманілі, крычалі ў пакоях, у калідоры мужчынскія пракураныя, жаночыя прарэзлівыя, звонкія маладых, хрыпатыя старых — усё шматгалосе, сабранае з усяго сяла, гневалася, пагражала, клялося. Ганна глядзела на Башлыкова, што стаяў цярпліва побач з Барысам, і ад душы шкадавала яго: «Нялёгко, мабуць, ето яму бачыць, начальніку! Такое непаслушэнства...» Яна быццам моўчкі супакойвала: не перажывай, глядзі спакойна! Чаго было чакаць іншага, калі людзям яшчэ так баліць! Няўжо ты не прадчуваў гэта да сходу! Прадчуваў, канешне, але ж трэба было паспрабаваць! Бо і так пакідаць нельга было!

У тую хвіліну яна асабліва, усім сэрцам і розумам, адчула, што і яго абавязак нялёгкі. Цвёрды і яго хлеб. Адчула і праніклася спачуваннем да яго, як бы наблізіла яго да сябе. Стала побач з ім...

Толькі калі выказаліся, спатолілі нецярплівыя пачуцці, пачалі паволі аціхаць.

— Тут раздаваліся галасы,— адчула яна жорсткасць у голасе Башлыкова,— якія нельга інакш расцаніць, як варожыя. Як кулацкія, антысавецкія заявы.— Ён асабліва важка вымавіў апошнія словы.— Кулацкія элементы, што прабраліся на сход, і іх падгалоскі — відаць за вярсту — паставілі сабе задачу: сарваць сход, любымі метадамі не дапусціць аднаўлення калгаса!.. Але я заклікаю ўсіх сумленных жыхароў вёскі не паддацца гэтай кулацкай і падкулачніцкай вылазцы, даць належны, бальшавіцкі адпор і вярнуцца зноў на калгасныя рэйкі. Аднавіць калгас.

— А калі хто не хоча? — дапытліва, быццам думала ўголас, і настойліва сказала цётка Маня.

— Вам гаварылі ўжо,— разкавата прамовіў Башлыкоў. Ён, адчула Ганна, траціў цярплівасць. Канчалася вытрымка. Выразна, з непрытоенай зласлівасцю

ён аб'явіў: — Таму, хто не хоча вярнуцца ў калгас, трэба будзе вярнуць у калгас маёмасць!

— Ето чаму? — не так запытаў, як запярэчыў незадавольны мужчынскі голас з задніх радоў. Яго адразу падтрымалі гоманам.

— Вы ведаеце,— Башлыкоў і тонам гаворкі, і выглядам паказваў, што не хоча ґаварыць попусту.

— Ведаем-то ведаем. Ды — не разумеем! — Дзядзька вакрычаў злосна: — Ужэ сваім не распараджайся!

— І нашае ўжэ — не нашае!

Башлыкоў адужаў гоман:

— Вы абагулілі яе. Яна належыць калгасу.

Хтосьці запярэчыў зларадна:

— Няма ўжэ калгаса!

Башлыкоў коратка, непахісна адрэзаў:

— Гэта — калгасная маёмасць!

— Калгасная! Аге! — Хтосьці мацюкнуўся на ўвесь пакой. Гарачыя галасы прарэзаў нахабны свіст.

— Не вернем!!! — пачуўся крык.

— Не аддадзім!

— Нашае!..

Башлыкоў не стрымаўся. Паддаючыся агульнаму крыку, адужваючы яго, поўны гневу, распарадзіўся:

— Маёмасць усю неабходна вярнуць! — Відаць, адчуў, што гэта не падзейнічала. Падмацаваў сябе, пагразіўся: — Усе, хто не верне, будуць адказваць! Прыцягнем да строгай адказнасці!

Яго пагроза падліла масла ў агонь.

— Засудзіце? За нашае ж добрае!

— Арыштуеце! За што?

— За тое, што ўступалі!

— Усіх не арыштуюць! — крыкнуў нахабна, са здзекам пярэдні, з кепачкай.

Башлыкоў, разгневаны непаслушэнствам, заўважыў гэты крык. Ледзь Барыс прыцішыў галас, Башлыкоў накінуўся на дзядзьку:

— Гэта — варожы голас! Кулацкі голас! Вы — хто?..

— Я — Свердзел,— адказаў дзядзька. У вусах затаілася ўсмешка.

— Гэта — што, прозвішча? — Башлыкоў прыціх, раптам страціў упэўненасць.

— Так імянуюць. — Дзядзька адчуў увагу на сабе,

яшчэ пасмялеў. Як бы насміхаўся.— Свердзел. Значыць, свердзел...

— Празвалі так,— памог Башлыкову Барыс.— Прозвішча яго — Чарняк Змітро.

Башлыкоў момант вагаўся. Непрыемная выйшла сітуацыя. Стараючыся паказаць сябе па-ранейшаму ўпэўненым, аб'явіў:

— Я пазбаўляю вас голасу!

Ганна пачырванела: нашто гэта ён! Разгубіўся, зусім страціў разважнасць. «Не трэба! Не так!» — проста хацелася сказаць яму. Так захацелася паправіць, памагчы. І так раптам адчула: малады, зялёны зусім! І гарадскі, зусім не ведае нашых!..

Дзядзька азірнуўся, усе глядзелі на яго, чакалі. Ён раптам адкрыта засмяяўся проста ў твар Башлыкову:

— Дак можа мне дадому можно? А то ж цярпення ўжэ няма!

Башлыкоў жорстка прыплюшчыў вочы.

— Ідзіце! — Паабяцаў пагрозна: — А пасмяецеся потым!

Свердзел патаптаўся лапцямі, не пайшоў адразу. Спадабалася роля.

Паспрабаваў яшчэ:

— Дак можа і другіх адпусціце? А то ж — утаміліся ўсе...

— Ідзіце! — загадаў Гайліс Свердлу.

Калі Свердзел выйшаў, устаў Апейка. Паспрабаваў памагчы Башлыкову вывесці сход з тупіка. Загаварыў, што адразу цяжка ўсё рашыць, што ён і яго таварышы спадзяюцца, што калгаснікі абдумаюць усё спакойна, разважліва. І вернуцца ў калгас...

Але і яго не хацелі слухаць.

— Падумалі ўжэ! Хваціць!..

Калі Апейка, Башлыкоў і іншыя ішлі з класа, у калідоры дзядзькі і цёткі прыпыніліся, моўчкі прапусцілі іх. У Парасчыным пакоі было чуваць, як яшчэ доўга, сумна тупалі, шаргалі боты і лапці. У пакоі маўчалі, нібы слухалі гэты тупат і шарганне.

Башлыкоў стаяў адасоблена ад іншых, засяроджаны, затоены з невядомымі, нядобрымі думкамі. Ён быў так паглыблены ў сябе, што не адразу зразумеў, што яму гаворыць Чарнаштан, які нясмела падышоў да яго.

— Што? — нахмурыўся Башлыкоў.

— Я хачу пайсці ў Туманы, у калгас,— асцярожна паясніў былы старшыня калгаса.— Рахункаводам могуць узяць. Дак — ці можна?

— Ідзіце кім хочаце,— Башлыкоў упершыню падняў позірк на Чарнаштана. Позірк быў цяжкі, не зычыў дабра: — Толькі спачатку адчытаецеся за сваю «дзейнасць» камісіі з раёна...

Ён павярнуўся, пашукаў вачыма па пакоі. Важка пайшоў да Міканора і Гайліса.

— А вам прыйдзецца растлумачыць гісторыю з калгасам «Рассвет» на бюро райкома...

Ён прыслухаўся і раптам стаў хутка збірацца. Ганна падрыхтавала яму і Апейку перакусіць, папрасіла на хвіліну затрымацца. Апейка гатоў быў згадзіцца: прагаладаўся, але Башлыкоў не прыпыніўся.

За ім заспяшаўся і Апейка.

— Другім разам,— папрасіў прабачэння.— З лепшым настроем...

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

### 1

На ганку адразу навалілася халодная, з ветрам цемра. Пасля святла вочы першы момант бачылі кепска, Башлыкоў прыпыніўся.

— Мяце! Халадзеча! — апынулася побач Параска.— Сама прырода — каб перачакалі!

— Праўда: заначуйце...— памог ёй Барыс.

Башлыкоў цвёрда кінуў:

— Не! — Прытрымліваючыся за бакавінкі, стаў рашуча сыходзіць па ступеньках.

Цяпер было відаць: не так і цёмна. У шэрым прыцемку зімняй ночы добра значыліся цёмныя абрысы коней, постаці возчыкаў, два вазкі. Башлыкоў гукнуў свайго возчыка, пайшоў на голас. Іншыя, што выйшлі са школы, пайшлі таксама, моўчкі глядзелі, як ён уладжваецца на заднім сядзенні. Было падобна, што чакалі яшчэ чагосьці.

Ён маўчаў. Возчык азірнуўся, шмаргануў лейцамі, і ўсе, хто быў побач — Дарошка, Казачэнка, Гайліс, Глушак,— імкліва пайшлі назад. Зніклі ў цемры.

Паўз самы школьны двор — зімняя дарога да шляху. На самым выездзе з двара вазок нагнаў некалькі чорных постацей, што неахвотна збочылі ў снег. Калі прамчаў міма, здалося: спіну ніжуць нядобрыя позіркі, мімаволі насцеражыўся. Насцярожанасць уздымалася, калі ўслед палезлі ў вочы гарбатыя, варожа затоеныя абрысы: справа — нядаўняя вуліца з хатамі, хлявамі, гумнамі, а злева — загуменне той, старой часткі вёскі.

Праехаў між іх — быццам вырваўся з палону. Вольна, прасторна разлеглася ўперадзе шараватая снежная шыр. Адчуваючы, як у ім не сціхае, гоніць яго нецярплівае, злое— хутчэй, далей адсюль, Башлыкоў чуў у сабе проста патрэбу падганяць возчыка, коней. Не без намагання стрымліваў ён у сабе гэта жаданне: бачыў, што возчык разумее яго, стараецца і без падгонкі. Не першы раз едуць, ведае ездака. Таму, калі ў полі вазок раптам спыніўся, Башлыкоў нервова і нездаволена кінуў:

— Ну што такое!

— Іван Анісімавіча не відно!..— адказаў возчык, гледзячы да сяла.

А, чорт! Башлыкова ў яго нервовым неспакоі ўзлавала не толькі тое, што давялося спыніцца, але і павага, пяшчота ў возчыкавым: «Іван Анісімавіча!» Нібы папракнуў, што — Іван Анісімавіч от затрымаліся, развітваюцца па-людску. Яшчэ адзін дарадчык, інструктар знайшоўся. Нядобра падумаў пра Апейку: затрымаўся, разводзіць лагоду, каб паддобрыцца, набыць сабе аўтарытэту; выставіць сябе шырокім дэмакратам побач з башлыкоўскай рэзкасцю.

Недзе шчымела няёмкасць. Не было цвёрдасці, што зрабіў вельмі добра. Нешта далікатнае не першы раз пярэчыла грубасці. З кім-кім, а з Дарошкай, з Казачэнкам можна было б абысціся лепш. Асабліва — з Дарошкай, з жанчынаю. Але ён не даў раскволіцца, стрымаў сябе. Усё гэта — дробязі, нікчэмнасць у параўнанні з тым галоўным, што адбылося. І значэнне якога ён не будзе прытойваць ніякімі далікацтвамі, як — іншыя дэмакраты... Ён і паказваў, і будзе паказваць, як недавольны. Галавацяпы! Слоў няма такіх, якія заслужылі!..

Ён, не азіраючыся, пачуў, калі пад'ехаў Апейка. Вазок падышоў амаль упрытык: Апейкавы коні саплі ў патыліцу.

Вазок піскнуў і зноў памчаў. Хутка ён, аднак, запыніўся так рэзка, што коні ззаду ледзь не наскочылі на яго. Пад палазамі цяжка зашаргацела: пацягнулася голая, вымеценая ветрам дарога. Адолеўшы гэты адрэзак, коні былі зноў узялі лёгкі бег, але неўзабаве пільны возчык сам прытрымаў іх. Зноў шаргала ўнізе і марудна ішло амаль голае поле. Ехалі так марудна, што Башлыкову хацелася саскочыць на зямлю і пабегчы самому.

Увесь час налятаў вецер, сыпаў снегам у твар, усё намагаўся насыпаць за каўнер. Пасмы снегу раз-пораз перабягалі цераз дарогу, праносіліся ў паветры перад вачыма — ад гэтага ўсё выглядала варухлівым, неспакойным і нібы няпэўным. Уражанне неспакойнасці і няпэўнасці яшчэ ўзмацняла цьмяная шэрань, што атульвала ўсё поле, давала больш-менш добра бачыць толькі блізкае. Неспакойнае было ў бегу коней, у няспынным дзікім варушэнні быльнягу абапал дарогі, на межах, у самім няроўным, кідкім ветры...

Злева, трохі наводдаль, штосьці зачарнела, Башлыкоў не так разгледзеў, як успомніў — невялікі гаёк у полі. Калі цёмная пляма трохі наблізілася і стала няпэўна акрэслівацца, Башлыкоў раптам праз варушэнне снегу заўважыў там, пад покрывам цемры, дзіўныя постаці. Ён прыгледзеўся, і развażлівае сумненне пацішэла: тое, што ён хацеў бы лічыць прывідамі, жыло, варушылася, рыхтавалася. Адчуваючы, як халадзее спіна, ён нервовым рухам палез у кішэню, сціснуў цёплую, цвёрдую рукаятку нагана. Рашуча пераложыў наган за пазуху паліто. Павярнуўся назад крыкнуць Апейку, папярэдзіць, але вазок, нібы знарок, плёўся далёка.

«Не паслухаўся!.. Не застаўся!.. Дурная нецярплівасць!.. Даказаць хацеў нешта!..— хутка, хваравіта, горача білася ў галаве. Апякло крыўднае: — Як гэта мог не бачыць, што і сляпы пабачыў бы! Прагныя, злосныя позіркі. У якіх вачавідкі гарэла: разлічыцца! Кончыць!..— І горкае, кволае: — Так па-дурному ўліпнуць! Так кончыць! Не ўправіўшыся нічога!..»

Пальцам адвёў курок, другі паклаў на спускавы кручок і ўсё ўглядаўся ў цемру ўзлеску, да рэзі ў вачах. Ад напружання вочы завалакло, ён нецярпліва выцер вочы, нязводна сачыў. «З абрэза ці вінтоўкі пекануць,— прайшло ў свядомасці.— Хутчэй — вінтоўкі. З вінтоўкі — больш дакладна...» Як гэта цягуча было: ехаць, адчуваючы сябе пад прыцэлам вінтоўкі, наведзенай вопытнай рукой. Ехаць і чакаць, калі грымне стрэл, які кончыць усё. «Так рана! Калі толькі пачаў!.. І так па-дурному!..»

Стрэлу не было. Ужо ад'ехалі нямала, а сэрца гулка грымела. Супакаенне прыходзіла паволі і няпоўнае: трывога па-ранейшаму гняла грудзі. Быў там хто ці не было? Няўжо толькі здалося?.. Не можа быць, што здалося!.. Ён жа добра бачыў: постаці, рухі нават!.. Чаму ж не стрэлілі? Пабаяліся ў апошні момант?..

З радасцю, што жыве, з супакаеннем — не стрэлілі, абышлося пакуль, увёў сабе клопатнае, значнае: сказаць Харчаву, загадаць, каб прыгледзеўся, высветліў. Няпрошанае ўзяло сумненне: можа не варта казаць — стары, грубы рубака можа не паверыць. Палічыць, што — усё прывіды багатай фантазіі. Страху. Гэта — можа быць. І Апейку не гаварыць, відаць. Гэты наогул мог праспаць і заявіць, што нічога не было. І не дакажаш нічога. Відавочца... Адужаў прыкрую няёмкасць, пакпіў з сябе: а брыдкая была хвілінка! Аж у пот, ліха яе, увагнала!..

За белым поплавам дарога вывела да шляху. Па баках у сухім шорсткім пошуме адна за адной пайшлі старыя бярозы. Вушы зноў востра лавілі гукі, сярод якіх супакойвалі толькі тупат і пырханне ззаду Апейкавых коней; вочы падсцярожліва сачылі за ценямі, за ўсякім рухам. Бярозы за бярозамі, з аднаго боку і з другога, і за кожнай можа чакаць небяспека. А тут злева насунуўся, узняўся чорнай сцяной усутыч лес. Лес да засценка, і далей, да Прыпяці. На многія кіламетры — балота і лес. Райскі прытулак для бандытаў.

Пакуль сунуўся лес, Башлыкоў насцярожана цікаваў яго цемру. За роўнядззю шлях пачаў сыходзіць уніз, уціснуўся ў крутыя берагі. З аднаго боку бераг і з другога — усё закрылі. Знізу не відаць, што на іх, за грэбнем. А стуль усё — як на далоні. Берагі блізка —

нейкія тры крокі ў бакі. Сціснулі так, што і развярнуцца з вазком няпроста. От дзе пекануць зручна!.. Добра адно, што коні, як бы разумеючы небяспеку, з горкі падбавілі бегу. Непрыемнае, цягучае чаканне. Увага адначасна ў адзін і другі бок. Рука, аж нямее, сціскае наган.

Нарэшце берагі пачалі рассоўвацца, рассунуліся. Ні лесу, ні бяроз абапал, шэрая, мутная шыр. Шыр балота. Шлях пабег грэбляй, што выткнулася над заснежанай нізінай. Позірк Башлыкова ўнізваўся ў змрок наперадзе, намагаўся разгледзець цёмны, шырокі бераг. Камунарскі бераг. От ужо масток над Тур'ёй — капыты коней, як у бубен, застуганелі па дошках. За мастком — зусім побач — горка, на ёй цёмныя камунарскія будынкі.

Коні на горку прыцішылі бег, пайшлі спакайней. Нібы адчулі, што небяспека ўжо ззаду. Злева плыў плот, плылі копы яблынь за плотам. Справа — некалькі хат, без адзінага агеньчыка. Уткнуліся ў неба і зніклі ў змроку таполі, і зноў разлеглася, папаўзло па баках мутнае поле. Башлыкоў перастаў ціснуць ручку нагана, сунуў яго ў кішэню. Уткнуў шыю, бараду ў каўнер, прыплюшчыў вочы. Сядзеў расслаблена, слухаў праспорны пошум ветру, чуў халодны пах снегу. Як бы здаля, але суцешліва даходзіла, як паскрыпвалі палазы, што час ад часу чаплялі голую зямлю. Як горача пасапвалі ззаду Апейкавы коні.

Нядаўняе ўтрапенне паволі прыціхала. Трывога жыла ўсярэдзіне ўжо не толькі як рэальнасць, але і як успамін пра перажытае. Успамін гэты вярэдзіў непрыемна: цяпер, калі ўсё цверазеў, няёмка было адчуваць, што так гарачыўся, нерваваўся. Нават нібы спалохаўся. Не, не спалохаўся — няма чаго кляпаць на сябе. Проста быў напагатове, як трэба. Глядзеў адкрыта ў вочы праўдзе. Гатовы быў адказаць у любы момант. І адказаў бы, як належыць!.. Усё ж — непрыемна вярэдзіла яго — не круці: спакою, вытрымкі належнай не было. Хваравіта трымаўся: сэрца хапалася, як у навабранца. Хлапчук! Ледзь не прызваў на дапамогу Апейку!..

Зноў узяло ранейшае: было там, у кустах, што ці не было? Праўдзівы перад сабой, ён адчуваў цяпер, што вельмі магло стацца — не было нічога. Здалося.

Прычаўплося. Ад неспакою. Багатай фантазіі... Ён вылаяўся ўголас: «Ч-чорт!.. Дайшоў!..» Папракнуў: «Праклятыя нервы!..»

Непрыемнае ўзрушэнне, што не хацела адыходзіць, увяло іншае. У памяці ажыло: духата, густы, едкі дым папярос. Цяжкі дух поту, аўчын і світ. Цёмныя, з неспакойнымі ценямі абліччы. Потныя, непадатныя. Злосна ашчэраныя раты. «Няма такога права!» «Ето не па закону!..» За гэтым прыйшло дзённае: як хадзіў па пустым калгасным двары — сіратлівая пустэча канюшні і свірна, сумная адзінокасць паржавелай жняяркі. Як хадзіў з Чарнаштанам, з Гайлісам па дварах уцекачоў, спрабаваў кожнага ўгаварыць адумацца, вярнуцца. Згадаў, як ледзь не кожны, заўважыўшы яго на двары, насцярожваўся, спрабаваў схавацца. Жонкі, злыя іх вочы. І злыя, варожыя крыкі.

Чым больш хадзіў, тым больш адчуваў — марна гэта. І цяпер запякло адчуванне глухаты іх, варожасці, нават — нянавісці. І разам — сваёй слабасці, сваёй прыніжанасці. Брыдкае адчуванне. Ніколі, здаецца, не было такога...

Ён успомніў, што тая ж глухата і варожасць сталі перад ім, калі загаварыў на сходзе. Успамін пра гэта асабліва ўсхваляваў, бо тут ён выйшаў, вытраціўшыся за дзень, звярэдзіўшы ўсяго сябе. Бо тут высільваўся над меру. Аддаваў рэшткі сябе. Дзіўна, хоць, перабіраючы тое, што казаў, не бачыў памылкі, яго ўсё ж гняло нездавальненне сабой. Нібы ўсё-ткі казаў не тое, што трэба, і не так, як трэба. Можа гэта было ад таго, што не пераканаў жа, не змяніў нічога. З прыкрасцю думаў, што не вытрываў пад канец, загарачыўся. І яшчэ больш сапсаваў усё... За гэтым пачаў перабіраць паводзіны, выступленні іншых прамоўцаў. Ад Дубадзела нельга было чакаць большага, стараўся, колькі хапіла. А вось Глушаку можна было б лепш выступіць. Гаварыў, нібы хацеў адбыць. І Дарошка — далікацтва нейкае развяла. Але найбольш «цікавае» ўсё ж — слова старшыні выканкома. Байка пра нейкага Івана — проста анекдатычны ўзорчык сярмяжнай філасофіі. Падробкі пад мужычка. А фактычна — узор апалітычнасці, апартунізму. Якіх далей проста-такі нельга ўжо даравацъ. Якія ўжо чорт ведае куды вядуць.

Ён успомніў, што Апейка з самага пачатку не таіў, што не верыць у поспех гэтага сходу. І хоць цяпер непрыемны вопыт быццам бы паказваў, што ў яго была рацыя, Башлыкову не хацелася згаджацца. Усё-ткі сход трэба было зрабіць, як гэта ні непрыемна. Трэба было! Трэба было выпрабаваць усе сродкі. Высветліць усё да канца. Цяпер сумленне чыстае можа быць. Усё, што маглі, зрабілі...

А што не ўдалося змяніць, не іх, не яго, Башлыкова, віна. Нічога нельга было зрабіць. Цяпер відна, як на далоні: сплялося варожае кубло. Усё заражанае паганым, кулацкім душком. Нават бядняцкая частка заражана. Ці — запалохана кулаччом... «Вылезлі ў адкрытую,— прыйшла, як ясны вынік, думка.— Скінулі маску!.. Вайна ў адкрытую!.. Што ж — тым лепш! Ударам — на ўдар!.. Трайным ударам на паганы ўдар!..»

Ад злосці, што ўздымаецца, у ім мацнее адчуванне сілы, упэўненасць у сабе, у сваёй уладзе. Трайным ударам! Ён не ўдакладняе, як гэта будзе — трайным ударам: думаць цяжка. Даўно ўжо чуе — усё мацней навальваецца, абцяжарвае ўсяго змора. Але ён ведае: гэта будзе, трайным ударам!..

Думаць глыбей яму замінае не толькі стома. Ён знарок стрымлівае сябе, смутна адчувае: са злосцю грозіцца ўпаўзці большы неспакой. Бяда. Катастрофа. Адганяе думкі пра гэта, трымаецца за ранейшае: трайным ударам!

Знарок прыслухоўваецца да сваёй стомы: ах, як ён змарыўся! Хутчэй бы дапасці да дому, кінуцца на ложак. Ці хоць на падлогу. Не распранаючыся нават. Перадыхнуць трохі ад усяго...

Яшчэ ён чуе, як унізваецца, сцінае ўсяго мароз. Ён мерзне ўсё мацней, але трывае, не варушыцца. «Зіма бярэцца... Бярэцца...» — думае ён дзіўна ўсцешана.

## 2

Калі спусціліся ўніз, у цішыню юравіцкай вуліцы, возчык павярнуўся да яго:

— Куды везці?

Башлыкоў апусціў каўнер, трасянуў плячыма.

— У райком...

Намерзлыя губы варухнуліся непаслухмяна, выйшла нейкае «вайком».

Возчык мог бы і не пытацца: кожны раз, вяртаючыся, ехалі найперш у райком. Можа, пакуль ездзіў, адбылося што-небудзь важнае: трэба неадкладна даць распараджэнні. Ды і наогул даведацца пра становішча, быць у курсе апошніх падзей. Ведаць усё... Пасада такая і час такі, што трэба ўвесь час быць напагатове...

З акна райкома прывітаў жоўты агеньчык. Ураз адкідаючы здранцвенне, што сцінала ўсяго, Башлыкоў ахвоча выскачыў з вазка. Левая нага ледзь не падагнулася, ён прытрымаўся, адужаў млявасць у ёй, яшчэ накульгваючы, падаўся на райкомаўскі двор, узышоў на ганак. Паспрабаваў адчыніць дзверы, але яны былі зашчэплены з сярэдзіны. Цёплай пасля рукавіцы рукой энергічна пастукаў па дошках.

Адчынілі не хутка. Дзяжурны, русявы хлопец, убачыўшы яго, лыпаў вачыма санліва і няёмка. Задрамаў. Ухапіўся прыгладжваць валасы.

Башлыкоў з той лёгкасцю, якая заўсёды паяўлялася пры людзях, рашуча прайшоў міма. Не сказаў нічога, папрок вымавіў маўчаннем. Ужо ў прыёмнай прыпыніўся, кінуў:

— Званіў хто?

— Званілі!..— злавіў яго позірк дзяжурны. У голасе была радасць: мабыць, ад таго, што можна выправіцца.

— Даўно?

— Ды — за поўнач. За поўнач добра.

— Адкуль?

— З Мозыра. З округа. Таварыш Галубовіч...

— Казаў што?

— Казаў. Запытаў, дзе вы. «Дзе таварыш Башлыкоў?» Я сказаў: на раёні. Калектывізацыю праводзіць...

— Не пытаў нічога?

— Пытаў: «Як справы?» Я сказаў: «Ідуць». Тады ён папрасіў прачытаць зводку. Я прачытаў. Міша мне пакінуў...

— Больш нічога не казаў?

— Сказаў: «Дзякую. Усяго добрага».

Башлыкоў адамкнуў дзверы ў кабінет. Упоцемку знайшоў у кутку вешалку, павесіў паліто. Падаўся да

стала, дзе павінна была стаяць лямпа. Чыркнуў запалкаю, падняў пад зялёным абажурам шкло, запаліў падгарэлы беражок кнота. Зялёны абажур на лямпе адзначыўся раздражненнем: ч-чорт, не забраў гэтае мяшчанства! Раздражненне было на памочніка, які недзе выкапаў дурны гэты абажур і не выканаў загаду зняць.

Не хапала яшчэ, каб у кабінеце сакратара райкома разводзілася гэта мяшчанская ўтульнасць! «Для вачэй зручнасць, супакойвае зрок!» — згадаў ён з'едліва памочнікаў доказ. Самы клопат — супакойваць зрок, калі трэба толькі глядзець ды глядзець! Не першы раз затурбавала: дзе ён дастаў гэта, ці не ў нэпмана якога? Канечне ж, не ў бедняка. Падумаў строга: трэба прыглядзецца лепш, узяцца як належыць за памочніка. Часу ўсё не знойдзеш, круцішся, як чорт. Ды і хлопец спраўны ж, талковы...

Зняў абажур, сунуў у куток пад вешалку. Заўтра ж загадаць, каб і знаку нэпманскага гэтага блуду тут не было.

На стале на заўсёдным месцы бялеў лісток. Зводка за суткі. Башлыкоў, зайшоўшы за стол, звыкла працягнуў да яго руку і раптам важка спыніў. Зводка! Устарэла, паламалася зводка! Стрымліваючы непрыемнае пачуццё, што адразу ажыло, узяў два канверты, якія ляжалі побач зводкі. На першым ён адразу пазнаў почырк Нінкі — сястры. Ліст з дому. Почырк на другім быў таксама знаёмы, пісаў гомельскі прыяцель Лёня Мандрыка. Аб гэтым сведчыў і подпіс унізе канверта: некалькі літар з адмысловымі кручкамі. Подпіс, годны, як смяяўся Лёня, таго, каб падпісваць грошы. Пісьмо было надпісана пачціва, афіцыйна — «Сакратару Юравіцкага райкома таварышу...» Нават за подпісам гэтым бачыўся вясёлы таварышаў характар.

Башлыкоў адарваў край канверта: захацелася пачуць вясёлы голас. Ледзь разгарнуў сіні, шурпаты, з лінеечкамі лісток, у вочы кінулася: «Алёшка, чарцяка!» Ад гарэзнага, таварыскага ўсярэдзіне адразу пацяплела: быццам раптам аказаўся ў мілым Гомелі, сярод прыяцеляў ці дзе-небудзь у парку над Сожам. Ухапіўся позіркам у ліст: «Як ты там ваюеш? Як ты пераворваеш там старыя ўласніцкія межы? Крышы там кулацкую і ўсякую іншую нечысць! Штоб усе ад-

чувалі тваю цвёрдую, рабоча-пралетарскую руку!.. Алёшка, я чытаю пра цябе ў газетах і — ганаруся! І проста не веру, што гэта з табой лазіў праз плот, у дзірку, на стадыён. Помніш, чарцяка?.. А цяпер я — ганаруся, ты — наша слава!..» За ўсім гэтым Башлыкоў чуў задзірысты, гарэзны голас Лёнькі, якога ён калісьці любіў, з якім так лёгка было глядзець на свет. Сёння голас гэты не толькі не весяліў, а абуджаў непрыемнае ў душы, тое, што не хацелася чапаць. «Ганарымся!.. Ты — наша слава!.. Чытаем!..» — словы гэтыя сёння быццам недалікатна дражнілі.

Ён ужо хацеў кінуць чытаць, калі позірк раптам выхапіў сярод радкоў — «Лена». Чуючы, як часта стала біцца сэрца, ён пайшоў па радках: «Зайздрошчу і ганаруся, між іншым, не толькі я. Я зараз табе напішу такое, што ты — заікам станеш! Падрыхтуйся, чарцяка, і трымайся! Не падай на падлогу! Бачыў я тут на днях, каго б ты думаеш? Век не адгадаеш! Лену!.. Іду па Савецкай і проста — твар у твар! Я аж вачам не паверыў!..» Як бы праз туман, праз гарачы звон, пранізвалася: Лена ў Гомелі. Прыехала ад мужа. Не вельмі шчаслівая — «мякка кажучы!». Хоць і выгляду не падае. Доўга, «аж сцінала ёй дыханне», распытвала пра яго. «Пра Алёшку». Сказала, што ён далёка пойдзе і што яна — «рада за яго»! А пра сябе расказваць не стала: «Нічога асаблівага. Жыву і — усё...» Кожнае слова адгукалася звонам, біла, а апошняе мацней за ўсё: «Праз дзень, сказала, паедзе назад! Нявесела сказала!.. Разумееш ты, чарцяка, што робіцца на свеце?!» — пытаўся недарэчы весела Лёня.

За гэтым Лёня пісаў пра гомельскія навіны, пра тое, якая гэта неспакойная і вясёлая служба — яго клуб. Відаць, здагадваючыся, што растрывожыў напамінкам пра Лену, зазначыў, што ў Гомелі многа павілася дзяўчат харошых, і раіў: на свеце ёсць і іншыя важныя рэчы, акрамя спраў. Вырвіся на дзень-два, шкадаваць не будзеш!..

Башлыкову не спадабаліся пашлаватая гуллівасць апошніх радкоў пісьма і запрашэнне з намёкамі, асабліва непатрэбныя пасля ўсяго, што было пра Лену. Але гэта адзначылася мімаходзь у душы, ва ўсёй істоце было адно: Лена! Ці ад таго, што ён быў стомлены, ці ад таго, што такая навіна абрынулася так неспадзява-

на, Башлыкоў дзіўна не мог думаць, жыў толькі гарачым і важкім адчуваннем: Лена, была ў Гомелі, нешчаслівая, любіць. Любіць усё ж. Лена, Лена, Лена — звінела на розныя галасы...

Ён з намаганнем зварухнуўся, узяў пісьмо ад Ніны. Кожны раз, калі ён браў пісьмо з дому ці проста думаў пра дом, пра родных, яго нязменна апаноўваў складаны свет. Вярталася галоднае, у знясільнай працы маленства, цёмны, сыры барак у залінейным раёне. Уваходзіла ў пакой, станавілася побач, век у турбоце, у страху пра хлеб, пра дзяцей, маці. Пяшчотная і няшчасная на ўсё жыццё сястрычка Ніна, здаровы, пешчаны маткаю Барыс. Ажывала ў памяці даўняя крыўда, непрыхільнасць: мучыліся адны, пры жывым бацьку, які недзе, былі ўпэўнены, раскошастваваў з іншаю жанчынай. Стракатае, поўнае прагнай дзейнасці і шырокіх, на ўвесь сусвет, надзей камсамольскае юнацтва ледзь не ўвесь час хмарылі неадольныя супярэчнасці з тым, што было дома. Старыя бядоты не ўсе засталіся ў бараку, многія пераехалі ў светлы, каменны пакой каля парку, які далі Башлыкову. Пяшчота да маці, што гадавала траіх, мяшалася са шкадаваннем: не ўберагла, дала на памяць яму і Ніне сухоты. Ніну зрабіла калекай. Ніна, мілая, разумная Ніна, з вострымі плячыма, з няшчасцем-горбам...

У супярэчлівы свет памяці заўсёды ўнізвалася, турбавала адчуванне віны: памагае мала. Праўда, грошы пасылае, кожны месяц усё, што можа. Але хіба даволі грошай адных ім. Ніне, якую неяк трэба было б завезці да добрага спецыяліста, паспрабаваць выбавіць з бяды. Барысу, якога трэба было б накіроўваць цвёрдай рукой. Маці, якая адна разрываецца між абаіх...

Сёння з усім гэтым неспакоем мяшалася і свежая, неспадзяваная туга пра Лену. Лена, Лена...

Ніціна пісьмо, як заўсёды, пачыналася пяшчотным: «Добры дзень, любы наш Алёшка!» Пытанні, як жыве, шкадаванне, што, мабыць, работы многа. Не глядзіць сябе, недасыпае і галадае. У дарозе ўсё, на холадзе. А яна —вучыцца, і вучыцца добра. На вельмі добра. І здаровая, і вясёлая. «Дзяўчаты і хлопцы ў нас — як адзін. Дружныя і дасціпныя. На пераменку да нас прыходзяць з другіх груп — каб парагатаць! Ведаюць: у нас сумаваць не ўмеюць!» Маці таксама здаровая.

Толькі ўсё перажывае за яго, за Алёшу. І наказала нават, каб напісала: няхай беражэ сябе! «Адным словам — усё ў нас па-ранейшаму»,— супакойвала, цешыла Башлыкова сястра. Здаецца, сёння яна лішне ўжо старалася супакоіць яго, і ў Башлыкова ў стоме з'явілася прадчуванне, што ў іх там нешта здарылася. І праўда, за гэтым ішло асцярожнае: «Толькі з Барысам — важныя навіны. Барысік наш, здаецца, сур'ёзна сабраўся стаць дарослым! Прыбіцца, нарэшце, да берага і пачаць сталае жыццё!.. Пра тое, як гэта сур'ёзна, можна меркаваць ужо з таго, што ён цяпер усе дні ля адной прыстані... Прыстань гэта — Ліза Шэпель!.. Усе дні, усюды — разам! Проста — галубкі!.. Увесь вольны час — у яе пакоі... Мяркуючы па ўсім, у іх далёка зайшло. Ходзяць чуткі, што можа быць нейкі нашчадак... Так што ў нас, Алёшка, новы сваяк — таварыш Шэпель!..»

Як ні быў знябыты, перапоўнены ранейшымі падзеямі, Башлыкоў некалькі хвілін не знаходзіў месца ад хвалявання. Устаў, закурыў, зацягнуўся, аж зайшоўся кашлем. Нецярпліва, раззлавана захадзіў па пакоі. «Сваяк — таварыш Шэпель!» Тава-рыш Шэпель! Пан Шэпель! Гаспадар некалі багатай аптэкі! І моднага парфумнага магазіна! Нэпман, гандляр, вядомы ўсяму гораду!

Усяго, здаецца, можна было чакаць ад гэтага балбеса, ад Барыса. А такога не чакаў. Дадумацца не дадумаўся б! «Сваяк таварыша Шэпеля! Таварыш Шэпеля!» Сакратар райкома — сваяк Шэпеля, нэпмана, прайдзісвета!

З глузду ён з'ехаў, ці што, дурань гэты? Гэта ж дадумацца — з тысяч дзяўчат, харошых, рабочых дачок выбраць такую спадарожніцу! Нібы знарок! Ды і знарок, каб хацеў, дадумацца б трэба! Каб раней гады два-тры! Зразумець яшчэ неяк можна было б! А цяпер, цяпер!.. Зразумець можна было б, ён бачыў Лізу Шэпель, ведаў красуню. Але ён так абураны быў цяпер усім, што не разумеў, не хацеў разумець! Зрабіць такое глупства ў цяперашні час — калі ідзе такі наступ! Паставіць сябе і яго, брата, у такое становішча!

Ён падумаў, як адгукнуцца на ўсё гэта сябры там, у Гомелі. Загадзя ўявіў, што ледзь не кожны, не інакш, будзе вінаваціць яго, Башлыкова. Не выхаваў як на-

лежыць. Свайго, меншага брата не здолеў выхаваць! Кіраўнік!.. Будуць вінаваціць — і будуць рабіць справядліва! Не выхаваў! Не змог!

Прыйшло ў галаву: цяпер, кожны раз, расказваючы пра сябе, ён павінен будзе паведамляць пра гэта. Тлумачыць у анкетах, у аўтабіяграфіях! Упісваць у сваё жыццё! Якое ён хацеў жыць чыстым! І быў чыстым дасюль!..

Усё так блыталася, што яго раптам узяў адчай. Чорт ведае, што за ноч! Злыя твары на сходзе. Поўны правал у Глінішчах. Непатрэбная, балючая вестка пра Лену. І напаследак — гэтае: сваяк пана Шэпеля! Усё разам, сышлося адусюль!

Не было ўжо сілы ні думаць, ні трываць гэта. Ён раптам перастаў мераць кабінет, кінуў недакурак. Прыдушыў аб прыбор. Рашуча абарваў думанне: хопіць на сёння!

Дастаў з шафы падшыўку газеты, згарнуў на канапе пад галаву. Узяў з вешалкі паліто, шапку, рушыў да стала. Крутнуў колца кнота, дзьмухнуў у лямпу. Падаўся да канапы.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### 1

Устаў рана. Цвёрдая сялянская канапа не давала залежвацца. Ды і пачуў, што мястэчка абудзілася, трэба было пачынаць дзень.

Ад таго, што спаў мала, у галаве нядобра звінела, ува ўсім целе была млявасць. Але ён намацаў шапку, што была за падушку, усцягнуў на сябе паліто. Хістаючыся, няцвёрдай хадою выйшаў на ганак.

Ранішні сіняваты прыцемак сустрэў добрым, вострым халадком. Важка рыпаючы ботамі па снезе, Башлыкоў выйшаў з двара, пакрочыў па вуліцы. Хаты ўжо часта жаўцелі вокнамі, у іх на дварах усюды віднеліся постаці; насустрач выткнуліся, праехалі сані з двума седакамі. Рух гэты, клопат навокал настройвалі і яго на дзейны лад. З турботнасцю жывой рэальнасці прыходзіла звыклае адчуванне нязменнага абавязку дзейнічаць. Цішэла санлівасць, дужэў.

Пачынаўся дзень. Важны, нялёгкі дзень.

Башлыкоў харчаваўся ў сталоўцы, якую называлі райвыканкомаўскай. Сталоўка гэтая служыла ўсім дзяржаўным работнікам раённага цэнтра, розным камандзіровачным, удзельнікам пленумаў і нарад. Непрыкметная з выгляду, стараватая драўляная хата гэта, комін якой дыміў з ранку да вечара, была паважнай, неабходнай установай, значэнне якой асабліва вырастала, калі ў цэнтры збіраліся дэлегаты ці ўдзельнікі.

Гаспадыня, дзе Башлыкоў кватараваў, бралася гатаваць яму дома, клапатліва ўгаворвала нават, што так, як яна, там не згатуюць, але ён ветліва, цвёрда адмовіўся. Акрамя таго, што ён у душы лічыў клопат пра тое, дзе паесці смачней, нечым не вартым дзелавога чалавека, ды яшчэ партыйца, кіраўніка, было тут і іншае меркаванне. Што там ні кажы, харчаванне ў гас-

падыні ў нейкай ступені — мяшчанства, уступка старому быту. Сталоўка ж — гэта разам і асаблівая грамадская ўстанова, і новы быт, які трэба падтрымліваць і ўвагай да якога належыць паказваць прыклад іншым работнікам.

У сталоўцы снедала некалькі чалавек, сярод якіх Башлыкову кінуўся ў вочы Зубрыч, што ўжо разлічваўся з афіцыянткай, строгі, заклапочаны. Башлыкоў в тым уздымам, які звычайна ўзнікаў у ім на людзях, бадзёра паздароваўся, распрануўся каля вешалкі, падамашняму нахіліўся каля ўмывальніка. Вада была халодная, відаць, нядаўна з двара, і ён з асалодай чуў яе сцюдзёную свежасць. Весела пакіраваў у сціплы куток, дзе меў звычай абедаць. Афіцыянтка — паўнацелая, крамяная полька Ліза, з местачковых — чакала ўжо, калі ён сядзе. Адразу падышла.

Ведала: сакратар райкома — чалавек вельмі заняты, сядзець попусту, чакаць яму няма калі.

— Перакусіць чаго-небудзь, Ліза.— У голасе яго былі разам і ветлівасць, і дзелавітая сабранасць.

— Сягоння — рагу і чай.

— Давай рагу і чай,— сказаў ён згаворліва.

Яна адразу павярнулася да кухні, кемлівая полька. Яму заўсёды прыемна было бачыць яе, але цяпер, зірнуўшы ўслед, ён раптам адчуў штосьці прыкрае. Не адразу зразумеў: прыкрасць была з імем яе — Ліза... У пісьме была таксама Ліза... Ён адагнаў успамін. Сапраўднае імя не Ліза, а Алаіза Янкоўская.

Алаіза Янкоўская не дала доўга чакаць. Быццам убачыла, што ён, звычайна спакойны да яды, сёння галодны. Галодны, як звер.

За тыя дзве-тры хвіліны, што яе не было, ён раптам адчуў, як страшэнна хоча есці. Нецярпліва чакаючы, ён згадаў, што не вячэраў учора. Выпадак не быў выключны, раней такое здаралася не раз, і ён гатоў быў папракнуць сябе за нецярплівасць, нявытрыманасць. Але голад не слухаўся.

Шчыруючы над рагу, ён успомніў, як яго запрашалі павячэраць учора. Ноччу. За гэтым, нібы праз туман, але з дзіўнай прывабнасцю згадаў абед у школе. Нібы нанава ўбачыў, як побач стаіць, лье з карца на яго рукі. Адчуў цвёрдую далонь, калі памагаў вылезці са склепа. І пачуў голас, што прасіў застацца, павячэ-

рацЬ... Дзіўны голас. І дзіўная рука. І ўся дзіўная. Хто яна?.. Але адразу ж з гэтым усярэдзіне ажыло глухое, нядобрае — сход, злыя позіркі і крык. І ганебнае адчуванне бездапаможнасці. Ён сціснуў зубы, стрымаў сябе.

Хутка даеў рагу, не чуючы смаку, выпіў шклянку фруктовага чаю. Забыўшы разлічыцца, рашуча апрануўся і выйшаў на двор.

Трэба было пераадзецца з дарогі. Ён не быў франтам, у адзенні імкнуўся да сціпласці, якую таксама лічыў абавязковай партыйнай, сакратарскай адзнакай. У яго было два няновыя, дзе-нідзе ўжо акуратна падлапленыя касцюмы, якія ён насіў з той беражлівасцю, што засталася ў спадчыну ад матчыных павучэнняў і беднасці, зазнанай у залінейным бараку. З той жа прычыны, а можа ад звычкі, якая прыжылася потым, у Башлыкова было разам проста хваравітае правіла: адзявацца заўсёды ў чыстае. Ён зусім не выносіў брудпасці. Чыстымі павінны былі быць не толькі бялізна, але і гімнасцёрка, і штаны, якія ён нярэдка, пад аханне і дакоры гаспадыні, мыў і прасаваў сам...

Гаспадыня — Цыля Савулаўна, або, як яе найбольш звалі, Савельеўна,— убачыла яго праз шыбу, яшчэ калі ён узыходзіў на ганак. Але, калі ён паявіўся ў пакоі, не прызналася: нібы непрыстойна было паказаць, што бачыла раней,— уразілася так, быццам заявіўся сын з Ленінграда, матчыны скруха і гонар.

— Ох, хто прыйшоў!.. Тато, Лёва! — пазвала гаспадыня парадавацца.

Сын — Лёва, што тут жа за сталом снедаў, мабыць, збіраючыся ў школу, хутчэй дажаваў нешта, праглынуў, устаў і, пачырванелы, задаволена прывітаўся. Тады ж з прыадчыненых дзвярэй, прыгорблены, у нязменнай чорнай камізэльцы, выпацканай крэйдай, высунуўся стары Савул. Уткнуўшы вострую бародку ў грудзі, паглядзеў на Башлыкова з-над акуляраў, моўчкі кіўнуў. Быццам падумаў нешта, але не сказаў — моўчкі павярнуўся назад. Спакоем сваім паказаў гэтай мітуслівай, ненармальнай жанчыне, што не абавязкова падымаць крык на ўсё мястэчка ад таго, што вярнуўся чалавек.

Радасць жанчыны, як заўсёды, адразу змянілася цвярозай дапытлівасцю:

— Зноў на сходзе начавалі? — У тоне, як звычайна, чуліся разам дакор і насмешачка старэйшай. І дабрадушная нецырымоннасць.

— На сходзе,— усмешліва пацвердзіў Башлыкоў.

— І вячэралі — на сходзе?

— Пасля.

— А можа і не вячэралі?

— Вячэраў. Нават паснедаў ужо...

Башлыкоў заўважыў, як чырванеў за матчыну недалікатнасць, але стрымліваўся Лёва, што звешваў галаву над талеркай. Цыля ж не зважала на яго, прыгледзелася — зусім як стары Савул, трохі скасабочыўшы галаву,— і раптам заявіла:

— У вас нешта здарылася непрыемнае!

Як ні ведаў яе, Башлыкоў крыху збянтэжыўся. От жа, зіркастая.

— Не... Нічога асаблівага...

Падаўся нарэшце ў свой пакой.

Пакой быў невялічкі, вузкі, але Башлыкоў быў задаволены ім. Нашто яму, адзінокаму, партыйцу, да таго ж вельмі занятаму, харомы. Ды і які ён прыклад паказваў бы ўсім, сакратар райкома партыі, калі б паддаўся харомным прынадам, мяшчанскай раскошы. Якія толькі адрывалі б ад справы, зацягвалі ў балота. Усё тут, у пакоі, ёсць, і больш не трэба. Акенца на вуліцу, з форткай для чыстага паветра. Жалезны ложак, стол пры сцяне з кніжкамі, з двума гнутымі крэсламі. Чысты, адпрасаваны касцюм на плечыках на сцяне, прыкрыты прасцінаю. Пад ложкам — плеценая карзіна з бялізнаю, і рознымі патрэбнымі дробязямі. Падлога памытая, чысціня ўсюды. Што яшчэ трэба дзеламу чалавеку?

Пераадзяваючыся, Башлыкоў чуў праз дзверы, як Цыля разважала:

— Непрыемнасць зноў!.. Адны непрыемнасці!.. Якая радасць так жыць!.. Днём — сход, вечарам — сход! Паесці няма калі!..

— Мама, ты нічога не разумееш,— перабіў яе Лёва. Ён так гаварыў, што адчувалася — яму вельмі няёмка за яе перад сакратаром райкома партыі, які ўсё чуе. Лёва — камсамолец, член бюро камсамольскай ячэйкі школы.

— Ты — разумееш! Ты рана стаў разумны, Лёва!

Такі разумны, што ўжэ матку вучыш! — Цыля не так абураецца, як высмейвае сына. Разважліва наступае: — Чалавек павінен спаць? Павінен есці? Няхай ён і бальшавік... Бальшавікі павінны есці ці не?

— Мама!..

— Што — мама! Я ўжэ скора семнаццаць гадоў табе мама!.. Я — не разумею! Вы чулі, тато, я ўжэ не разумею нічога?!.— Яна, вядома, не чакае адказу, ведае, што стары Савул прамаўчыць. Пытанне — проста так, як звычка. Яна зноў надае гаворцы практычны кірунак: — Ты таксама, калі матка не напомніць, дак не паясі. І спаць не ляжаш у час! Да раніцы будзеш сохнуць над кнігай! Я ўжэ не кажу пра твае бясконцыя сходы!..

— Мама! — Голас у Лёвы ўжо рашучы, пагрозны.

— Ну добра, не буду чапаць сходы! Вы жыць без іх не можаце! Як без хлеба! Ну добра, добра! Не буду! Хадзі на сходы, калі ўжэ так трэба! Будзь актывістам!..— Яна змоўкла, але толькі на момант. Потым зноў павяла — для Лёвы і Башлыкова: — Калі вы не будзеце спаць і есці, вас хопіць ненадоўга... У чалавека галоўнае што? Здароўе! Што навука і пасада добрая, калі няма здароўя? Ноль...

Тут Башлыкоў, ужо адзеты, зашпілены, выйшаў з баковачкі, і яна павярнулася да яго:

— Можа б чаю выпілі?

Башлыкоў не прыпыніў хады.

— Няма калі.

2

Праз некалькі хвілін ён быў каля райкома. Дзелавітым, цвёрдым крокам прайшоў па калідоры, адзначыў: у пакоях яшчэ амаль ціха. Ранішняя млявасць. Быццам знарок, пярэчачы яму, застукала пішучая машынка. Бася пачала працу.

Сакратарка была на месцы, штосьці хапатліва хавала ў стале. Люстэрка, не інакш. Ён прывітаўся, загадаў паклікаць памочніка. Але клікаць не прыйшлося — не быў бы то Міша. Гатовы, ужо стаяў побач, з заўсёднай папкай у руцэ. Следам за Башлыковым увайшоў у кабінет.

Кашчавы, у франтаватым фрэнчы і галіфэ з крагамі, па-вайсковаму выцягнуўся, уручыў папку. Пісьмо,

тэлефанаграму. Паведаміў, што павінны званіць з акружкома, таварыш Галубовіч. Башлыкоў прачытаў пісьмо, тэлефанаграму — нічога асаблівага. Узняў галаву:

— Больш — нічога новага?

У хітрых, зладзейкаватых Мішавых вачах успыхнулі гарэзныя агеньчыкі:

— Яшчэ — Абрам з Хаімам пабіліся. Хаім сказаў, што Абрам — нэпман, спекулянт...

Ён адразу ж асекся: па адным мімавольным руху броў Башлыкова перахапіў — сакратару райкома сёння не да жартаў. Адразу нагнаў сур'ёзнасць і паважнасць на твар, ціха і з годнасцю пакіраваў да дзвярэй.

Башлыкоў пасядзеў хвіліну нерухома. Прыгорблены, стомлены, заклапочаны з выгляду і — бяздумны. Быццам адпачываў, набіраўся сілы перад дарогай, што павінна была пачацца.

Пачуў зноў звон у вушах, трываў цягучую знямогу ў спіне, у плячах. Не выспаўся. Стаміўся. Трэба было б прылегчы на які дзесятак хвілін. На дзесятак хвілін, і ўсё пройдзе. Але ён з намаганнем адужаў сябе: няма чаго кволіцца, песціць сябе. Рашуча зварухнуўся, працягнуў руку да газет, пакладзеных на стол.

Выбраў «Правду» і мінскі «Рабочий»: даведацца пра агульныя і рэспубліканскія навіны. Газеты былі ўжо нязменнай неабходнасцю: чытаць іх было таксама неабходна, як глядзець — каб бачыць.

Радкі за радкамі ўцягвалі яго ў неспакойны і неабсяжны свет, адгукаліся рознымі пачуццямі — радасцю, гневам, нецярплівасцю. Ён уважліва ўчытваўся ў тое, чым жыве свет, лавіў зацікаўлена навіны з Гомеля, весткі пра акругу. З хваляваннем сцярог, ці няма чаго пра раён, мімаволі, нядобра чакаў — можа быць крытыка. Ні хвалы, ні крытыкі не было. Раён не згадвалі. Але гэта не супакоіла. За ўсім, што ён чытаў пра другія раёны, ён чуў свой раён. Усё, што там, блізка і далёка, адбывалася, адгукалася ў ім так, быццам датычыла яго асабіста.

Кожны раз, калі чытаў газеты, Башлыкоў асабліва моцна адчуваў еднасць усяго, што робіцца ў вёсках і раёнах краіны. Уся краіна бачылася ім як адно неабсяжнае вялікае поле, дзе ідзе цяжкае калектыўнае наступленне. Дзе па ўсім полі — кулацкія звярыныя

стрэлы, падпалы, смерць актывістаў і пажары. Дзе ідзе лютая, крывавая класавая барацьба. Ён адчуваў, што наступленне цяпер, можа быць, у самым вялікім напружанні, што іменна цяпер трэба напяць усе сілы, каб зламаць праціўніка, рушыць далей. Кожны крок цяпер бярэцца боем, але яго трэба браць. Кожны раён бярэ, і ён павінен узяць.

Сярод усіх гэтых думак адна мела для Башлыкова асаблівую важнасць. Ён заўсёды помніў, што наступленне гэтае, якое яно ні цяжкае, павінна ісці самымі вялікімі тэмпамі. Тэмпы — гэта мэта, да якой трэба імкнуцца ўсімі сіламі, якой неабходна аддаць усё. Тэмпы — гэта не проста поспех, гэта — жыццё. Ён бачыў, што поле наступлення ўсё ў няроўным руху: адны вырываюцца ўперад, другія адстаюць. Тым, хто ўперадзе,— гонар і слава, тых, хто ззаду,— б'юць. І справядліва.

Сёння ў адстаючых будзе плесціся ён. Яго раён...

Башлыкоў неспакойна згарнуў газету, адлажыў. Сціснуў ручку тэлефона, загадаў звязаць з Апейкам.

— Пагаварыць трэба. Зайдзі.

Пачаў мераць неспакойнымі крокамі кабінет — з кутка ў куток.

У новым яшчэ будынку старога мястэчка, што выцягнулася ўсцяж нізіны паўз Прыпяць, мераў і мераў пакой чарнявы чалавек у сіняй гімнасцёрцы. Адметны як асоба, ён разам з тым клопатам, настроем быў падобны на многіх іншых, што ў мястэчках, гарадах, у палях хадзілі, вялі нарады, спяшаліся цераз заснежаныя прасторы. Тысячы людзей, большасць якіх асабіста не ведалі адзін аднаго, не думаючы адзін аб адным, былі аб'яднаны аднолькавымі турботамі і імкненнямі.

Пры ўсім тым гэта былі вельмі розныя людзі, і розныя акалічнасці былі, у якіх пачыналі яны гэты дзень. Башлыкоў пачынаў яго ў звыклай абстаноўцы. Вакол яго былі няхітрыя, арцельнай, юравіцкай красы стол, канапа, шафа. Звыклыя сцены, бляклыя, з цьмяным «срэбрам» шпалеры, што спадалі з-пад столі няроўнымі хвалямі: шпалеры былі наклеены проста на бярвенне. Будынак не тынкавалі. Ад таго, што тынку не было, унізе там-сям пацёртыя спінамі шпалеры былі прарваны. На сценах ярчэлі ўвесь у чырвані, у магутных літарах і заводскіх трубах плакат «Пяцігодку — у ча-

тыры гады!» і дзве карты — Савецкага Саюза і паўшар'яў. На самым пачэсным месцы, над сталом, узвышаліся два партрэты: чорна-белы — Леніна і каляровы — Сталіна. Ленін стаяў у рост, рука ў кішэні, глядзеў кудысьці лагодным, засяроджаным позіркам. Сталін стаяў за сталом, у жаўтаватым, вайсковага крою фрэнчы, костачкамі сагнутых пальцаў лёгка дакранаўся да стала. Башлыкова хвалявала нязменнаю пашанаю тая сціпласць, якая адчувалася і ў простым фрэнчы, і ў самой паставе, і ў складцы рота пад коратка падстрыжанымі вусамі. Пашана гэта была асабліва трывалаю, бо за сціпласцю Сталіна помнілася такое незвычайнае, вялікае жыццё: ссылкі, уцёкі, рэвалюцыя, грамадзянская вайна.

Больш за ўсё хваляваў Башлыкова позірк арэхавага колеру вачэй з-пад смаляной, без адзінай сівінкі, шорсткай чупрыны. Уважлівы позірк гэты, здавалася Башлыкову, заўсёды глядзеў проста ў яго. Здавалася, пытаўся: як ты тут? Калі справы ладзіліся і быў добры настрой, позірк гэты не толькі не турбаваў, а радаваў. Быццам было каму паказаць сваю працу. Далажыць, што не падвёў. Сёння Башлыкоў, не заўважаючы таго, мімаволі не ўздымаў вачэй. Трывожыўся сустрэцца позіркам...

Як толькі ўвайшоў Апейка, Башлыкоў спыніў меранне. Пацiснуў руку і адразу з заклапочаным выглядам пакіраваў за стол. Не трэба марнаваць часу. Ён сеў і толькі намерыўся пачаць гаворку, калі рэзка, патрабавальна зазвінеў тэлефон.

Башлыкоў мімаволі павярнуўся, але не ўзяў трубкі. Момант марудзіў, насцярожаны, нацяты. Не таіў трывогі. Потым адолеў сябе.

— Башлыкоў слухае,— сказаў раптам упэўнена, з годнасцю. З імя, якое ён назваў, адказваючы на прывітанне, Апейка даведаўся: на другім канцы трубку трымае сакратар акружкома Галубовіч. Апейка стаў зацікаўлена ўслухоўвацца.

Башлыкоў гаварыў:

— Быў у ад'ездзе. Сход праводзіў... Не магу пахваліцца,— прамовіў Башлыкоў, як бы вымушаны прызнавацца ў нядобрым.— Няма чым хваліцца... Трыццаць сем гаспадарак... Так, за тыдзень... Так, менш за працэнт... Так, топчамся...— Башлыкоў не пярэчыў,

самакрытычна судзіў сябе. Ён згаджаўся, трываў тыя жорсткія словы, якія чуў, заўважыў Апейка, з нязвычнай вытрымкай, нават спакоем. Відаць, ад таго, што Апейка добра ведаў: тое, што пакуль паведаміў Башлыкоў, не самае горшае, ён зразумеў прычыну стрыманасці, якую выказваў сакратар райкома. Чаго тут бедаваць, калі ёсць горшае.

Ад таго, што гэтае горшае яшчэ было наперадзе, Апейка чакаў далейшае неспакойна. Скажа ці не скажа, цяпер ці на іншы раз адкладзе?

Башлыкоў, відаць, вагаўся. Апейка зразумеў гэта па тым неспакоі, нават адчаі, што з'явіўся ў вачах Башлыкова. Позірк Башлыкова прабег па пакоі, спыніўся на момант на Апейку, але не ўбачыў яго. Быў невідушчы, сабраны ў сабе.

Раптам у твары Башлыкова з'явілася рашучасць. А, што будзе, тое будзе!

— Дзмітрый Андрэевіч! — загаварыў ён цвёрда.— Я павінен далажыць вам: у нас — прарыў! Распаўся калгас — «Рассвет»! Я якраз там і быў! Разабраўся ў прычынах, правёў сход! Спадзяваўся выправіць становішча, але не змог!..— Нейкі час Башлыкоў маўчаў, чакаў, што там скажуць. Але там таксама маўчалі. Потым запыталіся, ён адказаў: — Дваццаць дзевяць гаспадарак.

З гэтай хвіліны Башлыкоў панура, цярпліва слухаў, што казаў Галубовіч. Сказаўшы самае цяжкае, ён спачатку прымаў тое, што чуў, з нязвычным спакоем. Адчуваў, было відаць, нават быццам палёгку: зрабіў сваё. Амаль абыякава, як асуджаны, гатовы да ўсяго, адказаў:

— Сячыце.

Згадзіўшыся яшчэ раней з тым, што — вінаваты, нават не паспрабаваў апраўдвацца. Як бы ажыў, загарэўся толькі тады, калі абяцаў:

— Зробім сёння ж, Дзмітрый Андрэевіч!

## 3

Паклаўшы трубку, пакруціў галавою, шумліва выдыхнуў: «Уф!» Хвіліну сядзеў моўчкі, быццам не мог апамятацца. Потым глянуў на Апейку, паведаміў аптымістычна:

— Сказаў: галавы здымуць!

Апейка згадзіўся:

— Так, прыйдзецца пакласці іх...

— Пакласці не страшна,— прамовіў нелагодна Башлыкоў.— Калі б было за што...

Апейка сказаў раздумліва:

— Баюся: трэба чакаць горшага.

Башлыкоў кінуў на яго хуткі, неспакойны позірк.

— Дачакаемся! Калі будзем сядзець, як бажкі! Склаўшы рукі...

Ён не вытрымаў, рэзка ўзняўся, нервова захадзіў. Штосьці таіў у сабе непрыемнае. Потым падышоў да Апейкі, стаў насупраць. Упяў вузкія, вострыя зрэнкі.

— Мне не спадабаліся твае паводзіны на сходзе.— Ён гаварыў горача, выразна — слова за словам. Удакладніў: — Тваё выступленне. Тваё і Гайліса.

— Чаму?

— Чаму? — Башлыкоў прамовіў так, быццам не верыў, што гэта незразумела.— Таму, што так не робяць! У такі момант!

Апейка няцямна павёў вачыма.

— Ясней кажы.

— Ясней? — Апейкаў спакой раззлаваў Башлыкова. Цвёрда, тонам абвінаваўцы стаў рэзаць, пункт за пунктам.— Спасавалі ў рашучы момант! Замест таго каб — наперад, туліцца да зямлі сталі! Лавіраваць! Падладжвацца.

Апейка абурыўся:

— Хто — падладжваўся? Хто лавіраваў? Ты ведаеш, што гаворыш?

Шчокі Башлыкова пакрывіла на міг ухмылка.

— Байку развёў!..

— Байка — прыказка! Намёк!..— Апейка стрымаўся. Схаваў хваляванне за насмешкай: — Ты мяне ставіш у цяжкае становішча. Каб апраўдвацца перад табой, я павінен хваліць сябе. А я не люблю гэтага...

— Апраўдвацца няма чаго. Улічыць трэба.— Башлыкоў прапусціў міма ўвагі нязгоду, нават іронію, якія былі на Апейкавым твары, сказаў цвёрда, але спакайней: — Павінен наогул, як таварыш, зазначыць табе, каб ты сур'ёзна ўлічыў: ты не першы раз абыходзіш даваць палітычныя ацэнкі. Быццам пазбягаеш іх.

— Гэта — няпраўда.

— Ты ўлічы гэта,— настойліва параіў Башлыкоў.— Ты — не адзін раз ужо — замест чоткай палітычнай ацэнкі даеш перавагу старасвецкім мудрасцям. Сялянскай «філасофіі». Я разумею, кожнаму хочацца падабацца. Але гэта, глядзі, можа далёка завесці.

Апейка стрымаў сябе.

— Дзякую за папярэджанне. Толькі, думаю, яно мне не спатрэбіцца.

— Глядзі. Усякае забыццё палітыкі — небяспечная штука. І не заўважыш...

— Заўважу! — перабіў яго Апейка. Не мог ужо слухаць больш гэтых парад.— Тым больш што ніякага «забыцця палітыкі» ніколі ў мяне не было. Проста палітыка такая штука, што трэба яшчэ варыць і сваёй галавой. А мы варым — кожны па-свойму.— Але яму не хацелася ў гэты момант весці агульную, наўрад ці карысную спрэчку. Карцела іншае, жывое.— А ты ведаеш,— сказаў ён, ваяўніча падаючыся тварам да Башлыкова,— я таксама не ў захапленні ад тваёй прамовы!

Башлыкоў зірнуў недаверліва.

— Чым жа яна была дрэнная?

— Яна была проста выдатная. Але ў яе быў адзін недахоп. Гэта быў — пусты стрэл. Стрэл — у неба. Абы-куды.

Башлыкоў не разумеў.

— Па-мойму, калі я што-небудзь кемлю, кожнае слова мае значэнне толькі тады, калі яно... як бы сказаць — адказвае людзям... памагае ім разабрацца ў тым, што іх непакоіць... І даходзіць да іх. Да іх душы... Тваё — не адказала ім і не дайшло.

Башлыкоў момант думаў. Хацеў, было падобна, спрачацца спачатку, але стрымаў сябе.

— Трэба людзей падымаць,— прамовіў як канчатковае.— А не плесціся ў хвасце.

Ён пайшоў за стол і, заклапочана-засяроджаны, паказваючы, што дыскусію кончыў, загаварыў пра тое, для чаго запрасіў:

— Абмеркаваць трэба, што рабіць. Давай падумаем.

Апейка моўчкі кіўнуў. Трэба абмеркаваць. Ён гатовы.

— Мы ў прарыве. Трэба зараз жа зрабіць сур'ёзныя вывады. І прыняць неадкладныя захады. Перш за ўсё — вывады пра сябе, пра нашу дзейнасць. Трэба адкрыта паглядзець, назваць рэчы сваімі імёнамі. Мы гулялі ў лібералізм, міндальнічалі. У абстаноўцы, дзе трэба было дзейнічаць рашуча. Праявілі недаравальнае галавацяпства.— Башлыкоў, відаць, адчуў, што Апейка гэта можа зразумець, як папрок яму, дадаў строга: — У гэтым у першую чаргу вінаваты я, як сакратар райкома.— Ён сказаў, бачыў Апейка, не для прыліку. Ды Апейку гэта і не здзівіла: Башлыкоў заўсёды быў строгі да сябе. Але Башлыкоў не быў настроены доўга крытыкавацца. Трэба было дзейнічаць. Рэзка, рашуча стаў весці далей: — Вынікі нашага галавацяпства — на кожным кроку. Самы галоўны — актывізацыя кулацкіх элементаў. Карыстаючыся нашай паблажлівасцю, кулаччо ўзняло галаву! Ідзе адкрыта вайною! Сход учарашні — паказаў гэта вачавідкі!..— Ён стрымаў прыкрасць ад успаміну. Стройны ў абцягненай пад поясам гімнасцёрцы, важка апусціў руку на стол.— Першая задача — ударыць па кулаччу!

Апейка кіўнуў галавою. Згодны.

— Я думаю зараз жа выклікаць Харчава і даць указанне. Выехаць у «Рассвет», расследаваць прычыны. Прыняць неадкладна строгія захады. Найбольш злосных прыцягнуць да судовай адказнасці. Я лічу, што, акрамя кулачча, трэба ўдарыць і па іх саюзніках усіх масцей. Па ўсіх, хто самкнуўся з імі, дзейнічае як іх пасобнік. Па ўсіх падгалосках. Незалежна ад сацкатэгорыі.

— Харчаў — чалавек гарачы,— дзелавіта перапыніў яго Апейка. Разважліва памеркаваў уголас: — Трэба — каб разабраўся цвяроза. Каб пад гарачую руку не перахапіў. Спіскі, меры трэба перагледзець разам. Абавязкова.

Башлыкову не спадабалася ні тое, што Апейка перабіў яго, ні тое, што ён казаў. Неахвотна згадзіўся:

— Прагледзім... Сур'ёзныя партыйныя вывады,— загаварыў ён ранейшым, рашучым тонам,— трэба зрабіць адносна дзейнасці Алешніцкай ячэйкі. Я лічу, што дзейнасць Гайліса, Чарнаштана трэба абмеркаваць на бюро і даць ім належную ацэнку. І даць па заслугах.

Рашэнне бюро шырока абмеркаваць у іншых ячэйках раёна.

Яму надакучыла стаяць. Ён неспакойна варухнуўся, ступіў за сталом крок, другі — туды, назад. Па тым, якія напружанасць, імкненне адчуваліся ў прамой, зграбнай постаці, было відаць, што будзе яшчэ гаварыць. І вельмі важнае.

— Я наогул лічу: тое, што адкрылася ў Глінішчах, служыць нам сігналам, што трэба зрабіць сур'ёзныя вывады ў цэлым па раёну. Мы павінны прыняць неадкладныя меры ў адносінах да кулачча па ўсяму раёну. Усе найбольш злосныя элементы трэба ізаліраваць. Прыняць меры ў адносінах розных іх пасобнікаў, падбухторшчыкаў. Яўных і тайных кулацкіх агітатараў. Адным словам, прыняць рашучыя меры па ўсяму раёну.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### 1

Скончыўшы, Башлыкоў адчуваў сябе ўзрушана і дужа. Рашучасць, з якой гаварыў, нібы падняла самога, надала сілы. Ён гатоў быў дзейнічаць.

Башлыкоў помніў, што яны з Апейкам на многае глядзяць па-рознаму і што Апейка чалавек упарты, але цяпер тое, што выказаў, Башлыкоў лічыў настолькі правільным, неабходным, што ўсё ж чакаў — павінен згадзіцца. Калі ж Апейка пачне зноў гнуць сваё, Башлыкоў гатоў быў і да гэтага: гатоў быў даць бой, сур'ёзны і прынцыповы. Папярэдзіць як належыць.

Ён хацеў толькі аднаго, каб спрэчка не была доўгай: нельга было траціць час попусту. Засунуўшы рукі ў кішэні штаноў, ён праніклівa глядзеў на Апейку.

— Я згодны,— сказаў Апейка,— трэба дзейнічаць. І дзейнічаць зараз жа... І згодны, што трэба вывады па ўсяму раёну... Ты праўду кажаш: тое, што здарылася ў «Рассвеце»,— сігнал. Сігнал — небяспечны... А от вывады, якія ты зрабіў,— у Апейкавым голасе пачулася цвёрдасць,— я лічу аднабаковымі.

— Якія ж твае вывады? — Башлыкоў прамовіў так, быццам паказваў, што ні трохі не здзіўлены. У Апейкі заўсёды свае вывады.

— Вывады мае такія,— павысіў голас Апейка,— што ва ўсім вінаваты перш за ўсё мы самі. Давай глядзець праўдзе ў вочы! І не ківаць на кагосьці! Калі ўжо сказаў, што вінаваты...

Папрок Апейкі, нібы ён, Башлыкоў, не глядзіць праўдзе ў вочы і ўзяў віну на сябе толькі для прыліку, Башлыкову не спадабаўся. Адчуваючы сябе несправядліва пакрыўджаным, ён усё ж больш заўважыў дзіўнае: «не ківаць на кагосьці!»

— Як гэта разумець: «не ківаць на кагосьці»?

— Так і разумець.— Апейка глянуў прама, рашуча.— Узяць віну найперш на сябе. Не шукаць чарцей там, дзе іх няма. А сур'ёзна разабрацца ў сапраўдных прычынах.

— Ты разумееш, што твой намёк — дрэнна пахне?

У тоне Башлыкова добра адчувалася, што ён папярэджвае — пах гэты вельмі небяспечны.

— Я разумею,— сказаў Апейка ўпарта,— што ніякага міндальнічання ў нас не было. Наогул! Тым больш да кулацкіх элементаў! А от ты разумець не хочаш, што сілаю не ўсяго можна дабіцца!

— Ліберальнічанне — у такі момант, як цяпер,— наогул...

— Ліберальнічанне! — непахісна перабіў яго Апейка.— Якое ліберальнічанне?.. Тыя людзі, якіх мы ўчора ўгаворвалі, прыйшлі самі ў калгас. Сярод першых... Значыць, яны не горшыя. Не праціўнікі нашы ва ўсякім разе. Не праціўнікі.— Апейка ўзняў вочы на Башлыкова, позіркі іх сустрэліся. Башлыкоў заўважыў: позірк Апейкі быў настойлівы, патрабавальны.— А от пабылі, паспрабавалі абяцанага і ледзь не ў адзін голас: «Не хочам!» І ўгавораў новых не паслухаліся. І ўгавораў, і пагроз!.. От што зрабілася! От што павінна трывожыць!.. Людзі паверылі нам, пайшлі, куды мы звалі. Пабылі і — расчараваліся і ў арцелі, і разам — у нас... А цяпер мы рашылі,— у Апейкавым голасе пачулася насмешлівасць,— «правільны вывад»: «прыняць меры!». Папомсціць ім! За што? За тое, што яны паверылі нам? За тое, у чым мы самі вінаваты?

Башлыкоў, чым далей, тым больш, слухаў яго нецярпліва. Не толькі таму, што гаворка была не ў час і блытала думкі, а і таму, што чуў у Апейкавых словах непатрэбную, проста шкодную цяпер жаласлівасць.

жаласць, да ўсяго, і фальшывую: тое, што Апейка так чулліва маляваў,— ён, Башлыкоў, сам бачыў — выглядала крыху інакш. Ён хацеў спыніць Апейку, але той сухім голасам апярэдзіў:

— Пачакай! Каб было ўсё ясна, слухай, яшчэ раз скажу: кулацкія элементы, розных крыкуноў і злосных трэба прыціснуць!.. Але ж, зразумей,— голас яго пацішэў,— там былі не адны кулацкія элементы...

— Што там былі не адны кулацкія элементы, я сам добра ведаю,— загаварыў Башлыкоў з раздражненнем.— А вось ты гаворыш так, быццам іх не было. Быццам мы выдумалі «чарцей», як ты выказаўся. Ты фактычна змазваеш, што ідзе жорсткая класавая барацьба...

— Нічога я не змазваю! Я толькі лічу, што даволі нам ківаць на гэту барацьбу адну. Што трэба пачаць нарэшце сур'ёзна працаваць з людзьмі. Прыслухоўвацца да іх, старацца зразумець. І памагаць ім. Што пара нарэшце нам узяцца за калгасы, як гаспадары. Добрыя гаспадары. Разабрацца ва ўсім. Навесці парадак.

— Я гэта ўжо чуў учора.

— Я скажу гэта і сёння. І дадаць магу. От мы заварушыліся — бяда ў «Рассвеце». А пра бяду гэту папярэджваў Чарнаштан два ці яшчэ тры месяцы. У гэтым самым кабінеце. Цябе самога. І мяне — таму, што я быў таксама тут. Казаў: «Недавольны людзі. Хто работае, хто не работае — кожнаму палачка!» За тое, што адбыў дзень. Што ты, што я зрабілі на гэта?.. А такія гаворкі, настроі такія не толькі ў «Рассвеце»!..

— Ты зноў пра гэта! — Башлыкоў нецярпліва захадзіў за сталом.— Няўжо не ясна, што не ўсякім настроям мы павінны патакаць! Што патаканне такое — чысцейшы апартунізм! Прывычкі старога — гэта пустазелле, якое моцна трымаецца. І мы яму не кланяцца павінны, а рваць яго. Змагацца з ім.

— Я не думаю, што гэта «пустазелле старога». І не бачу нічога ў тым, што людзі хочуць, каб той, хто больш зрабіў, больш атрымаў.

— Ты многага не бачыш! — Башлыкоў не таіў, што адчувае перавагу перад гэтым блытанікам, якому ўсё не ясна.— Бярэшся толькі меркаваць аб усім. Дай табе волю: зноў кулакоў новых развядзеш! На калгаснай аснове!

Апейка, запалены сваімі думкамі, не мог спыніцца.

— Мы разгарнулі гаспадарку, а нярэдка сунемся, як сляпыя. Мацаем дарогу кіёчкам. Туды ступім, памацаем, у другі бок ступім. Разгарнулі, а яшчэ спраўляемся, як плаціць. Па едаках, па паі... Не ведаем толкам — што абагульняць?! Адны — толькі коней, кароў, другія — падчыстую...

— Ты, канечне, напалавінку рабіў бы. Каб адной нагой — у калгасе, другой — на сваёй палосцы. Каб у калгасе так, напалавінку. Для выгляду.

— Пры чым тут — для выгляду! Што з тых курачак ды свінак,— зазлаваў Апейка.— Што, калгас на курачках паедзе? А з-за іх столькі галасу ў жанок! Як бы весялей пайшло б усё, каб не гэтыя курачкі!

— Рэвалюцыю трэба рабіць або да канца, або — зусім не брацца! Рэвалюцыю нельга рабіць напалавіну! І жаласць у ёй — штука небяспечная. Асабліва тут, у сяле. Дзе ў кожным жыве ўласнік!.. Дзе гэты самы мужычок і ў табе ўвесь час гаворыць!..

Башлыкоў і выглядам, і тонам гаворкі паказваў: пара канчаць гаварыльню. Ён кінуў нецярплівы позірк на тэлефон: трэба зараз жа выклікаць Харчава, даць указанні.

Але Апейка не хацеў канчаць.

— Я не прарок, Аляксей. Але я прадчуваю: можа быць горш. Калі мы сур'ёзна не перагледзім усё. Калі мы не перастанем лічыць толькі працэнты. Як кура кураняты! Ашукваць сябе і іншых! — Башлыкоў пачуў: Апейкаў голас судзіў. — Ты ўпэўнен, што сярод тых працэнтаў няма такіх, якія мы мелі ў «Рассвеце»? Ты ўпэўнен, што няма яшчэ арцеляў, якія ледзь ліпяць? Няма калгаснікаў, якія глядзяць убок?

— Для чаго ты ўсё гэта разводзіш?

Башлыкоў, засунуўшы рукі ў кішэні, глядзеў на Апейку строга і востра. І ў позірку, і ў тоне адчувалася, што разважанні Апейкі для яго не проста развагі. Што ва ўсім гэтым ёсць, ён разумее, і іншы сэнс.

— А для таго «разводжу»,— павысіў голас і Апейка,— што трэба нам з табою — зразумей ты — сур'ёзна агледзецца, разабрацца. Адзначыць, дзе ёсць слабіны. І «прыняць меры». Своечасова. І яшчэ для таго,



Партрэт Івана Мележа.



Іван Мележ у рабочым кабінеце.

што мы з табой павінны стаць гаспадарамі. Займацца калгасамі, як добрыя гаспадары...

— Я за ўсёй гэтай тваёй філасофіяй,— цвёрда, упэўнена загаварыў Башлыкоў,— бачу адно жаданне: каб мы затрымаліся. Сталі, аглядаліся. Корпаліся. Даўняе тваё жаданне, якое ты ніяк не хочаш кінуць. І якое ты ўжо каторы раз адстойваеш. Раздуваючы нашы цяжкасці і некаторыя памылкі... Я цябе, Іван Анісімавіч, яшчэ раз папярэджваю: ты становішся на хісткую глебу. Твае гэтыя развагі — гэта хістанні, якія маюць небяспечны палітычны характар.

— Давай не будзем падводзіць вялікую палітыку сюды.— Апейка гаварыў таксама рэзка, цвёрда.— Не трэба прыпісваць мне грахі, якіх у мяне няма. Ды яшчэ з палітычнымі ацэнкамі. У мяне сваіх даволі.

— Я папярэджваю цябе яшчэ раз. І раю вельмі сур'ёзна задумацца! Цябе ўжо не першы раз фактычна заносіць управа! — Башлыкоў заўважыў, што Апейка намерыўся быў запярэчыць, але прамаўчаў. Нібы палічыў, што спрачацца — ніякай карысці. Гэта Башлыкову дадало жорсткасці.— Ты ўжо не першы раз рознымі спосабамі фактычна стараешся прытармазіць нашы тэмпы. Як гэта назваць, цяпер, калі партыя патрабуе ад нас — не спыняючыся, з усіх сіл ісці наперад? Калі партыя патрабуе: тэмпы, тэмпы, тэмпы?!

Башлыкоў глядзеў гнеўна: словы, якія ён сказаў горача, узрушылі і самога. Глядзеў, поўны разумення сваёй дужасці: праўда яго думкі, адчувалася, была такою моцнаю, бясспрэчнаю. Апейка адвёў вочы. Сумна маўчаў.

— Ты не быў пад Варшаваю? — ні то спытаў, ні то проста сказаў.— У дваццатым. Калі наступалі.

Башлыкоў не адказаў. Пры чым тут гэтае недарэчнае пытанне? Тым больш што ён добра ведае — не быў.

— А я быў. Ледзь не пайшоў там... у іншы свет... Узводны Сарокін вывез. Паўз уланскія патрулі...— Ён зірнуў на Башлыкова. Вачыма, якія былі недзе далёка, з успамінамі. Загаварыў раптам непрыязна: — Калі мы ішлі на Варшаву. у дваццатым, таксама, помню, былі тэмпы. Дайшлі да самай Варшавы. А потым аказаліся — пад Мінскам...

Башлыкоў наогул не любіў Апейкавых «штучак»: вобразы-намёкі, загадкі. Тут жа гэтае параўнанне проста нібы дражніла.

— Аналогія гэта твая — няўдалая. Палітычна нясмачная.

— Гэта — не аналогія. Проста ўспомнілася дарэчы... Пры любых тэмпах трэба добры тыл. Асабліва — пры хуткіх...

## 2

Башлыкову пачулася насмешачка: «асабліва — пры хуткіх». І гэта дакончыла ўжо цярплівасць яго. Апанаваў гнеў: так гаварыць на яго прынцыповае, партыйнае папярэджанне!

Башлыкоў рэзка абарваў гаворку. Першы. Паказаў, што ён выклаў самае важнае і не дасць сябе заблытаць у непатрэбнай гаварыльні. У разважаннях з нядобрым душком.

З адчуваннем праваты сваёй і дужасці маўкліва стаяў за сталом, трымаючы руку ў кішэні штаноў, адасоблены, замкнёны ў сабе. Не хаваў нездавальнення. Не лічыў патрэбным хаваць.

Была цішыня, няветлівая, нязгодная. Потым Апейка неахвотна ўзняўся, прамовіў панура: «Да пабачэння». Башлыкоў адказаў стрымана, як бы знарок паказваючы тую мяжу, што легла між іх. На момант позіркі іх сустрэліся, і Башлыкоў дадаў — як папярэдзіў:

— Раю падумаць сур'ёзна.

Апейка прыпыніўся, зірнуў спадылба, па-бычынаму:

— Нам абодвум падумаць трэба...

І ўпартасць, і тон гаворкі: нібы звысака гаворыць! — зноў зачапілі Башлыкова, і ў ім ускінуўся гнеў. Нелагодна сачыў ён, як Апейка, угнуўшы галаву, важка сунуўся да дзвярэй.

Калі дзверы зачыніліся, яшчэ нейкі час стаяў за сталом. Не мог адразу адолець злога ўзрушэння спрэчкай, тым, што Апейка не разумее нічога, і не хоча зразумець. Не слухае, па сутнасці. Дазваляе сабе гаварыць так, нібы не сам, а ён, Башлыкоў, чагосьці не разумее. Башлыкоў думаў пра гэта без сумненняў у сабе, з добрым адчуваннем сваёй праўды. Яму было добра

ад таго, што ён веў у спрэчцы не толькі адзіна правільную лінію, але і трымаўся прынцыпова, цвёрда. Ён трымаўся прынцыпова цяпер і, што там ні будуць плясці потым розныя блытанікі, з прынцыповай лініі не саступіць ніколі. Не пахіснецца нават.

Думкі гэтыя давалі адчуванне дужасці, трываласці грунту пад сабой. Яснасці таго, што ёсць навокал і куды трэба ісці. Перавагі над чалавекам, які многае не бачыць. Не можа зразумець.

Ён выйшаў з-за стала і цвёрда, упэўнена захадзіў.

Але дзіўна: якім цвёрдым ні хацеў ён здавацца сабе, у жаданую ўпэўненасць яго ўсё ж штосьці ўнізвалася, трывожыла. Неспакойны, ён стаў перабіраць спрэчку з Апейкам. Амаль адразу памяць нагадала, што Апейка сказаў пра яго выступленне: «Пустое... Пусты стрэл!..» Непрыемна зашчымела ўсярэдзіне — Апейка крануў балючае: выступленне не дайшло, не адгукнулася ў людзях. Памяць адразу за гэтым падсунула новае: Апейка папракнуў, быццам ён ківае на кагосьці. Баіцца глядзець праўдзе ў вочы. Хлусня гэтых слоў пачулася Башлыкову такой відавочнай, што ў ім зноў ускінулася абурэнне. Калі гэта ён, Башлыкоў, спіхваў на кагосьці адказнасць, туліўся за спіны другіх?

Ён успомніў, як Апейка сіліўся даказаць, што ва ўсёй бядзе з калектывізацыяй у раёне вінаваты быццам няправільны падыход да сялян. Мала, бачыце, вучылі, як трэба сеяць і касіць у калгасах, лічыць зробленыя грошы. Мала чуласці да тых, хто ўчапіўся ў сваю латку зямлі і не хоча разумець нічога. Мала чуласці «да душы»! Перабіраючы ўсё гэта нанава, Башлыкоў пранікліва бачыў, што пад усімі гэтымі «мудрымі» прыдумкамі скрываецца, па сутнасці, не што іншае, як імкненне пераканаць, што патрэбна не ясная і цвёрдая партыйная лінія, а туманныя ўгаворчыкі. Не бязлітасная класавая барацьба, а ліберальнае міндальнічанне. Наступаючы ў думках на Апейку і міма волі шкадуючы, што не ўсё выказаў як мае быць, не знайшоў найлепшых слоў, ён з уцехай успомніў, што ўдала, дакладна выказаў формулу дзеянняў. Рэвалюцыю трэба рабіць або рашуча, да канца, або зусім не брацца. Да канца, да канчатковай перамогі трэба ісці!

«Апартуніст. Форменны апартуніст,— з той жа яснасцю, пераконанасцю даў адзначэнне Апейку.— Яўна

кульгае на правую. І відаць ужо — безнадзейна... Не разумее сутнасці. І не хоча разумець...— Тое, што чулася раней, набыло выразнасці.— З такім далёка не пойдзеш, у адной упражцы.— Натуральна вынікла далейшае, практычнае: — Не на месцы. Яўна не на месцы».

Падумаў, што трэба рабіць сур'ёзныя вывады з усяго, даць усім фактам палітычную, бальшавіцкую ацэнку. Што далейшае яго замоўчванне поглядаў Апейкі падобна ўжо на ўласны апартунізм.

Так, яго, Башлыкова, цярплівасць папахвае апартунізмам. Вельмі чутна папахвае. Трэба неадкладна прыняць меры. Абмеркаваць на бюро. Папярэдзіць акружком.

І наогул — дзейнічаць больш рашуча!

### 3

Башлыкоў перастаў мераць пакой, энергічна пакіраваў да тэлефона. Выклікаў Харчава.

У нецярплівым чаканні ўзяўся пераглядаць паперы. Калі ўвайшоў Харчаў, адразу ўзняўся за сталом, моцна пацісну́ў руку.

Башлыкоў з самага пачатку даў зразумець, што гаворка будзе самая сур'ёзная. Ні аднаго пытання папярэдне, выгляд засяроджаны, афіцыйны. Як бы падкрэсліў афіцыйнасць тым, што сеў на сваё месца, па другі бок стала.

Пачаў адразу з галоўнага. Учора быў у Глінішчах. Высветліў, што там адбываецца. Днём прайшоў па многіх дварах, вечарам правёў сход. Яшчэ знаёмячыся з абстаноўкай удзень, пераканаўся: калгас распаўся не выпадкова. У сяле ваўсю ідзе скрытая антыкалгасная агітацыя, якая шырока пусціла карэнне. Сход, які ён рашыў склікаць, паспрабавалі сарваць, сабаціравалі. На сходзе перайшлі да адкрытых выступленняў, да злосных выкрыкаў пад выглядам голасу мас. Асабліва актыўнічаў тып з яўна кулацкім нутром па мянушцы Свердзел. Адным словам, абстаноўка, якая склалася ў Глінішчах, вельмі нездаровая і патрабуе неадкладных і самых рашучых мер.

Ведаючы, што баявому, надзейнаму Харчаву нярэдка не хапае ўмення глядзець на з'явы ў іх шырокім

палітычным значэнні, Башлыкоў спецыяльна падкрэсліў, што ўсё, што адбылося ў Глінішчах, нельга разглядаць як мясцовую з'яву. Варожыя вылазкі ў Глінішчах, бясспрэчна, выклікаюць варожую актыўнасць у іншых месцах. Па ўсяму раёну. Коратка, патрабавальна скончыў: трэба зараз жа выехаць у Глінішчы, расследаваць усё на месцы. Прыняць самыя строгія меры.

Абветраны, важкаваты твар Харчава быў уважлівы. Харчаў толькі раз-другі мелькам сустрэўся з позіркам Башлыкова, але ў Башлыкова было добрае адчуванне еднасці з ім. Гэтаму не толькі не шкодзіла, а нават нібы спрыяла тое, што Харчаў, як заўсёды, трымаўся незалежна, як роўны з роўным. Башлыкоў быў упэўнены ў галоўным: Харчаў разумее ўсё і на яго можна спадзявацца.

Калі Башлыкоў скончыў, Харчаў кінуў позірк: ці ўсё, спакойна ўзняўся. Ад усёй постаці Харчава ішло адчуванне дужасці: моцнае цела пад напятай, бляклай ужо гімнасцёркай, чырванаватая шыя цісне на каўнер. І дужасць гэта, і спакой падзейнічалі на Башлыкова абнадзейліва. Падтрымала і кароткае, гаспадарскае: зараз паедзе, зробіць усё.

Якраз увайшоў Міша, далажыў, што явіўся, чакае карэспандэнт з Мінска. Башлыкоў з афіцыйнай жа стрыманасцю, усё асцерагаючыся паказаць кволасць, пацісnуў руку Харчаву, загадаў Мішу ўпусціць карэспандэнта.

Карэспандэнт аказаўся чорненькім, вельмі маладым хлопцам. Дробны, кірпаты, ён здаваўся проста хлапчуком, але Башлыкоў сустрэў яго з увагай. Башлыкоў паважаў журналістаў. Прывітаўшыся, ён, аднак, папрасіў пасведчанне: парадак ёсць парадак. Пільнасць ніколі не лішняя, раён, можна сказаць, у прыгранічнай зоне. І ён, журналіст, няхай ведае, што тут ёсць парадак.

Журналіст замітусіўся, з-пад пацёртага картовага пінжачка дастаў згорнуты, пamяты лісток паперы. Ого, «Савецкая Беларусь», цэнтральная рэспубліканская газета. Хведар Кулеш, супрацоўнік аддзела калгаснага будаўніцтва. Башлыкоў вярнуў пасведчанне, запрасіў сесці, высветліў, калі той прыехаў, ці ўладзіўся з жыллём, што цікавіць у раёне.

Госця, вядома, цікавіла калектывізацыя. Як ідзе калектывізацыя гаспадарак, і ў цэлым становішча ў раёне і калгасамі.

— Ясна,— сказаў Башлыкоў. Як гавораць пра самае простае.

Ён і выглядам сваім паказваў, што яму ўсё гэта ясна і проста. Але ў душы яго было і няясна, і няпроста. Супярэчліва было. З пытаннем журналіста ў ім як бы памацнела трывожнасць ад учарашняга. Чалавека ўражлівага і праўдзівага перад сабой, яго гэта найбольш вярэдзіла. Але разам з праўдзівасцю жыла ў ім і даўняя звычка не паказваць нікому свайго непрыемнага, слабасці сваёй. Тым больш не любіў ён скардзіцца. Тут жа, да ўсяго, выступаў ён не проста як Башлыкоў, звычайны чалавек, а як сакратар райкома партыі. І быў перад ім не сябра-прыяцель, а работнік прэсы, прадстаўнік рэспубліканскай установы. І патрэбны былі яму не прыватныя адчуванні нейкага Башлыкова, а погляды партыйнага кіраўніка раёна. Прынцыповыя погляды.

Ясна было, перш за ўсё належала даць палітычную характарыстыку становішча ў раёне. У адпаведнасці з агульнымі, прынцыповымі палажэннямі аб калектывізацыі. Ён пачаў з таго, што паведаміў: у раёне ідзе вострая класавая барацьба. Кулацтва, адчуваючы сваю блізкую пагібель, не спыняецца ні перад чым. Дзейнічае ўсімі метадамі. Расказваючы пра варожую дзейнасць, Башлыкоў нанава ўспомніў спрэчку з Апейкам, загарэўся больш. Нібы стаў працягваць незакончаную спрэчку...

Як адзін з прыкладаў, дзе кулацтва асабліва разгарнула дзейнасць, Башлыкоў назваў вёску Глінішчы. Хацеў расказаць пра сход, але стрымаў сябе: непазбежна ён выказаў бы сваё бяссілле, сваё і ўсяго кіраўніцтва раёна. Ды і балела гэта занадта для таго, каб паказваць пабочнаму чалавеку...

— Вы, напэўна, ведаеце, што раён уключан у першую групу,— пайшоў Башлыкоў далей. Карэспандэнт кіўнуў: ведае.— Мы павінны калектывізаваць раён да вясны наступнага года. Гэта наша галоўная задача...— Башлыкоў самакрытычна прызнаў, што тэмпы калектывізацыі ў раёне пакуль недастатковыя. Каб у карэспандэнта не засталося думкі, што ў раёне зміры-

ліся з гэтым, ён адразу ж запэўніў, што раён будзе рабіць усё для таго, каб тэмпы рашуча паскорыць. І што задача, якая пастаўлена, будзе выканана.

Ён помніў: краіна павінна ведаць сваіх герояў, і гонарам стаў расказваць пра лепшыя калгасы, лепшых людзей. Карэспандэнт, схіліўшы галаву, на якой тапырыліся неадрослыя валасы, падобны на маладога шпака, хапатліва пісаў у сшытак, і Башлыкоў гаварыў павольна, каб той упраўляўся. Калі казаў назвы, лічбы, то нават паўтараў, каб газетчык не памыліўся. Сачыў, як той піша прозвішчы, папраўляў. Ён разумее, якая адказная справа — газета.

Перабіраючы ў памяці людзей, ён між іншых успомніў Казачэнку, Дубадзела, Міканора, Гайліса. Да паганай гісторыі з «Рассветам» ён ставіўся да іх па-рознаму, то хваліў, то крытыкаваў, цяпер жа, і то вагаючыся, адзначыў добрым словам аднаго Дубадзела. Башлыкоў параіў, куды лепш паехаць, да каго звярнуцца. Паабяцаў пазваніць, каб там дапамаглі. Тут жа ўстаў, паклікаў Мішу, загадаў арганізаваць падводу. У карэспандэнта было пісьмо з рэдакцыі. Башлыкоў паглядзеў яго: рэдакцыя пісала, што са Слабодкі паступіла скарга — прыцясняюць селькора Корбіта. Башлыкоў тонам, які паказваў, што ён добра разумее палітычнае значэнне скаргі, заявіў, што будуць прыняты строгія меры.

Правёўшы журналіста да дзвярэй, Башлыкоў вярнуўся за стол. Нейкі час сядзеў нерухома. У памяці засталося: у хлопчыка-журналіста быў дзіўна пранізлівы позірк. Зусім не юнацкі позірк. Было смутна на душы: нібы не ўсё сказаў добра. Было неспакойна. У кепскі час журналіст прыехаў...

Башлыкоў як бы прыслухоўваўся да сябе. Яго не палохае, што ён там напіша, карэспандэнт. Самае паганае — напіша ён ці не — гэта ёсць. Правал. Зноў гняло адчуванне ўчарашняй няўдачы. Помнілася сённяшняя размова з Апейкам. І званок сакратара акружкома. Была хвіліна суму, адзіноцтва. Потым ён стаў ліхаманкава думаць: што рабіць, як выбрацца з прарыву?

Трэба ўсё перагледзець нанава, усе сілы. Усё і ўсіх паднімаць на ліквідацыю прарыву. Апошнімі днямі, ездзячы па раёну, ён зусім выпусціў з рук раённыя звен-

ні. Трэба ўзняць іх: агітацыю, моладзь, культурныя сілы. Шэфаў.

Ён даўно збіраўся паставіць пытанне пра шэфскую работу. Трэба сёння ж нарэшце паставіць. Сабраць усіх шэфаў і спытаць з іх. Ён дастаў паперу, пачаў складаць спісак. Спісак сакратароў партячэек. Усіх, каго належыць сабраць на нараду па шэфскай рабоце ў калгасах.

Імкліва рушыў да дзвярэй. Міша ўжо быў у пакойчыку прыёмнай. Загадаў яму склікаць усіх на семнаццаць ноль-ноль. Папярэдзіць, каб прыйшлі з матэрыяламі пра зробленае. Усе павінны будуць далажыць.

4

Было ліхаманкавае жаданне дзейнічаць. У дзейнасці як бы шукаў трываласць сабе, упэўненасць.

То аднаго, то другога выклікаў работнікаў райкома, адказных работнікаў раённых устаноў. І ў райкоме, і ў іншых раённых установах у мястэчку заставалася мала, большасць былі ў вёсках, займаліся калектывізацыяй, але яго гэта не супакойвала. Увесь час, як цень, жыла ў ім памяць пра ўчарашняе, пра спрэчку з Апейкам, званок з Мазыра.

Усе давалі адказ, што зроблена, што плануецца зрабіць. Усе адчувалі яго энергічную, строгую патрабавальнасць, незадаволенасць зробленым.

Пасля некалькіх такіх гаворак ён выклікаў загадчыка агітпропа Каржыцкага. Каржыцкі, чалавек таксама новы ў раёне і таксама малады, амаль увесь час бадзяўся па раёну. Выпраўляць не трэба было, ведаў сваю справу: то з агітатарамі дзе-небудзь у сельсавеце ці школе, вучыць, адукоўвае, то сам — на сходзе, з дакладам, з прамовай. Узялі яго з вучобы, з мінскага інстытута.

Башлыкоў звычайна не папракаў свайго агітпропа. У той павазе, якую ён чуў да загадчыка агітпропа, было нават стоенае разуменне некаторай перавагі таго над ім, Башлыковым. Каржыцкі, не адзін раз заўважаў Башлыкоў, мацней быў у веданні гісторыі партыі, тэарэтычна быў лепш падкаваны. Башлыкова супакойвала тое, што Каржыцкаму было далёка да яго ва

ўменні звязваць тэарэтычныя веды з практыкай, ва ўменні арганізаваць справу. Хіліў Башлыкоў да Каржыцкага мяккі, светлы характар загадчыка агітпропа.

У Каржыцкага і сёння быў чысты, сіні позірк вачэй. Былі дзелавітая сабранасць, акуратнасць ва ўсім. І расказваў ён талкова, з веданнем, роўным, як звычайна, голасам. Усё было ў ім як заўсёды, але сёння ўсё гэта выклікала ў Башлыкова глухую непрыхільнасць. Было такое адчуванне, быццам Каржыцкі, хоць таксама вінаваты ва ўсім, не хоча браць сваю долю віны на сябе. Стрымліваючы нядобрае ў сабе, распытваў Башлыкоў пра работу ў асобных сельсаветах, хатахчытальнях, пра асобных агітатараў. З асаблівай пільнасцю высвятляў, што агітпроп рабіў у Алешніках, у Глінішчах. З раздражненнем слухаў, што было зроблена ў Глінішчах: выходзіла — нямала было зроблена. З нездавальненнем пачуў ён хвалу Парасцы Дарошка, адразу ўспомніў яе выступленне на сходзе. Успомніў так, быццам яна здрадзіла яму, які так спадзяваўся. Здрадзіла ў такі момант, ухілістка...

Вядома, не трэба было хваліць агітпропаўцаў у Глінішчах. Няма за што хваліць, калі на іх вачах развалілі калгас. У неразуменні гэтага выявілася слабасць Каржыцкага, якую Башлыкоў адзначыў зноў: мала практычнай хваткі. З адчуваннем бясспрэчнай перавагі сваёй над Каржыцкім і дакладным веданнем мэты Башлыкоў пайшоў у крытычны наступ на загадчыка агітпропа.

— Там папрацавалі добра,— панура падхапіў думку Каржыцкага. Рэзка павярнуў: — Толькі — не мы, а іншыя. Вынікі іх работы добра відны. Учора сам бачыў у Глінішчах. Добра папрацавалі! Кулакі і ўсе іх падгалоскі.— Сінія, чыстыя вочы Каржыцкага замуціла збянтэжанасць. Вінавата адвёў позірк. На твары вынікла далікатнае, дзявочае ружавінне. Быў, здалося, не згодны, але не запярэчыў. Змоўчаў. Гэта яго нязгода дадала Башлыкову ўпартасці.

— Аб рабоце ўсіх нас будуць меркаваць па выніках,— сказаў ён, усё як бы набіраючыся дужасці.— А вынікі нашы — вось яны. Трыццаць сем гаспадарак за тыдзень новых улілося. І дваццаць дзевяць за дзень — з калгаса. Крок наперад, два назад. Нашы тэмпы. Вынікі нашай работы...

Башлыкоў добра разумеў, што, хоць ён гаворыць «нас», «нашы», Каржыцкі чуе гэта як абвінавачанне яго асабіста і яго аддзела. Гэта зусім адпавядала імкненню Башлыкова, ён і хацеў, каб Каржыцкі ўзяў вялікую долю віны на сябе. Чым большую, тым лепш. Тым лепш будзе старацца рабіць. З гэтым імкненнем Башлыкоў і вінаваціў Каржыцкага ў тым, што агітпроп далёка не спраўляецца з задачамі, якіх патрабуюць ад яго цяперашні адказны момант, тыя тэмпы, якія неабходна ўзяць, каб выканаць абавязацельствы па калектывізацыі раёна. Каб ліквідаваць той прарыў, у якім раён апынуўся. Каб дабіцца рашучага пералому.

Башлыкоў строга, прыдзірліва разгледзеў план агітпрапработы, пакрэсліў яго, пакрытыкаваў, вярнуў дадумаць, дапрацаваць. У плане, на яго думку, недастаткова скіроўвалася ўвага на барацьбу з кулацкай агітацыяй, і асабліва — на барацьбу за ўзмацненне тэмпаў калектывізацыі.

Калі Каржыцкі пайшоў, Башлыкоў адчуваў, што недарэмна стараўся: агітпроп, падобна, зразумеў становішча. Але супакаення ў Башлыкова па-ранейшаму не было. Наперадзе чакалі многія іншыя клопаты: многія звенні яшчэ трэба было мабілізаваць. Перш за ўсё — моладзь.

Кудравец толькі што прыехаў з раёна. Ён увайшоў у кабінет Башлыкова яшчэ чырвоны з холаду. Башлыкову кінулася ў вочы: быў незразумела чаму радасны і нават быццам бесклапотны. Гэта яго бесклапотнасць — у такі час — непрыемна здзівіла. Здзівіла тым больш што Кудравец быў асабліва блізкі. У Башлыкова да Кудраўца было нават адчуванне роднасці: Кудравец жыў у тым свеце, які нядаўна зусім быў і яго, башлыкоўскім, светам, у дарагім камсамольскім віраванні.

Кудравец прыехаў з Бярозаўкі. Башлыкоў спасцярожліва запытаў, што там у Бярозаўцы. Навіны былі добрыя, камсамол дабіўся — калектывізавалі яшчэ дванаццаць гаспадарак. Але Башлыкова гэта не супакоіла, ледзь даслухаў адказ, павёў гаворку на тое, што балела. Коратка, энергічна расказаў пра ўчарашні дзень і вечар у Глінішчах, асабліва вылучыў, як паводзілі сябе камсамольцы і ў цэлым моладзь. Большасць камсамольцаў, павінен адкрыта сказаць, дзіўна сябе

паводзіла: і днём — ззаду, цішком, і ўвечары, на сходзе,— моўчкі. Многіх і наогул нельга было зразумець: за каго яны? Адзін Казачэнка дзейнічаў смела, актыўна. Адным словам, усе факты гавораць пра поўнае разлажэнне цэлай ячэйкі. На вачах у райкома камсамола.

Башлыкоў бачыў, як проста вачавідкі вясёлую бесклапотнасць на твары Кудраўца змянілі вінаватасць і няёмкасць. Заўважыўшы мелькам, як ён стуліўся, як нацята, нібы школьнік, чакае далейшага, горшага, Башлыкоў раптам адчуў жаласць да яго. Але тут жа цвяроза прыглушыў жаласць: не тая абстаноўка, каб паддавацца кволасці. І наогул ведаў: павінен быць як мага строгім, прынцыповым. Цвёрда павёў далей: разлажэнне ячэйкі ў Глінішчах недаравальнае асабліва таму, што яно не выпадак, што ўсё гэта здарылася не за адзін дзень. Гэта, бясспрэчна, паступовае разлажэнне. І тое, што райком камсамола не змог заўважыць яго, гаворыць пра поўную страту пільнасці, пра слепату. Пра галавацяпства. Факт гэты сведчыць і пра тое, што райком у цэлым дрэнна ведае становішча ў ячэйках. Дрэнна ведае — значыць, і дрэнна кіруе імі.

Башлыкоў ніколі не гаварыў так рэзка з Кудраўцом, але ж ніколі дасюль не было і такой прычыны, такога становішча, якое вымагала само па сабе і асаблівай патрабавальнасці, і асаблівай строгасці. Не забываючы ні на момант становішча, Башлыкоў адчуваў як абавязак выказаць жорстка: калі галавацяпства ў кіраўніцтве наогул нельга даравацца, то цяпер — у ганебным прарыве, да якога яны давялі раён,— такое галавацяпства ёсць злачынства. Самае цяжкае палітычнае злачынства.

Адсюль Башлыкоў вёў гаворку пра тое, што найбольш трывожыла: як выправіць становішча ў раёне. Ужо не толькі судзячы, а і нібы далучаючыся, выказваючы спадзяванне на Кудраўца, на райком камсамола, яшчэ нелагодным голасам тлумачыў: трэба ўсё падцягнуць. Усе арганізацыі, усе сілы ўзняць. Дабіцца рашучага павароту ў тэмпах.

Не толькі таму, што перад ім быў кіраўнік моладзі, а і з непахіснага перакanання Башлыкоў падкрэсліў: вынікі ўсёй работы ў раёне будуць вельмі залежаць ад камсамола, ад моладзі. Шукаючы ратунку са сваёй бяды, ён больш за ўсё спадзяваўся на тое, што калі хто і

можа выратаваць, то найперш — камсамол, моладзь. Была гэта вера і ад таго, што яшчэ і сам жыў, можна сказаць, у камсамоле, і ад адчування, што моладзь — самая жывая і дзейсная сіла ў грамадстве. У сельскую моладзь ён, праўда, і верыў, і не верыў. Яна не раз і радавала, і ашуквала. Здавалася — больш ашуквала: больш востра расчароўвала сваёй непадатнасцю, абмежаванасцю, чым старыя сяляне. У маладых вясковых ён проста цярпець не мог прывязанасці да прыватнай уласнасці, недаверлівасці, асцярожнасці. Памяць пра ўчарашняе гэтую звыклую непрыхільнасць яго рабіла яшчэ больш чутнай. І ўсё ж, як бы там ні было,— ён нагадваў сабе цяпер: і ў сяле, у гэтым нерухомым балоце, моладзь часта лягчэй адгукалася на новае. Хоць і не так, як трэба было і як хацелася б. Але хто асабліва абнадзейваў Башлыкова, дык гэта пралетарская моладзь. Яе, праўда, небагата ў мястэчку, дзе самы вялікі завод — паравы млын. Але яна ёсць. А ад таго, што яе мала, асабліва важна ўмела арганізаваць яе. Арганізаваць і накіраваць так, каб яна павяла іншых за сабой. У сяло, на калектывізацыю.

Няпростыя пачуцці турбавалі Башлыкова, калі ён раіў Кудраўцу, як арганізаваць моладзь, каб вывесці раён ■ прарыву, узняць тэмпы калектывізацыі. І надзеі, і сумненні, і цвярозая ацэнка, і легкадумныя мары — усяго было ў яго пачуццях, з якіх упарта лез, намагаўся адолець усё адчай.

Башлыкоў глушыў адчай, стараўся не паддавацца. Практычныя парады, указанні, якія пераказваў Башлыкоў Кудраўцу, то седзячы за сталом, то праходжваючыся, давалі дужасці самому. І давала дужасці яшчэ тое, што сакратар райкома камсамола, худы, русявы, аддана сачыў за кожным словам, кожным рухам яго. Гатоў быў падставіць плячо, верыў яму. Праўда, Башлыкова гэта Кудраўцова вера, наіўная, амаль дзіцячая, трохі і дражніла. Як бы ненадзейным чуў плячо, якое той мог падставіць. Ад таго ў патрабавальную строгасць тону гаворкі Башлыкова не раз унізвалася раздражненне.

Ён стрымліваў раздражненне. Як мог упэўнена і патрабавальна, тонам старэйшага таварыша скончыў:

— Прадумай усё, парайся. Прыходзь з прапановамі. Абмяркуем на бюро райкома.

Калі Кудравец выйшаў, было нейкае супярэчлівае нездавальненне. Відаць, лішне рэзка гаварыў, асабліва спачатку. Пакрыўдзіў несправядліва стараннага, адданага хлопца. Тады ж зазлаваў на сябе, на сваю мяккацеласць: няма чаго шкадаваць, праўду сказаў. Адданы, старанны — гэта так. Але ж таксама факт, што — слабаваты. Мала арганізатарскай хваткі. Настойлівасці малавата... Ці не замяніць? Кім? Можа папрасіць у акружкоме? Пашкадаваў мімаволі: каго-небудзь з Гомеля б, з сяброў!

Пасля Кудраўца Башлыкоў выклікаў яшчэ некалькі чалавек. Самым важным сярод іх быў, бадай, загадчык райана Мормаль.

Мормаль, былы настаўнік, немалады ўжо, увайшоў у кабінет, нібы ў клас, выпрастаны, падрыхтаваны да ўсяго, з папачкай у руцэ. У картовым пінжаку, у чырвонаармейскіх штанах і начышчаных ботах, ён спыніўся каля дзвярэй, няўпэўнены і быццам вінаваты.

Башлыкоў выйшаў насустрач яму, паціснуў руку, запрасіў сесці. Мормаль сеў на край крэсла, папачку ўзяў у абедзве рукі на каленях, ціха глядзеў на сакратара райкома.

Башлыкоў трымаўся з ім ветліва, але строга афіцыйна. За знарокавай ветлівасцю і афіцыйнай халаднаватасцю прыхоўваў Башлыкоў нездавальненне: загадчык райана не падабаўся, глухаваты што да палітыкі, няўпраўны, быў яўна не на сваім месцы. Яго трэба было б даўно замяніць, Башлыкоў і замяніў бы, але Апейка ўпарта пярэчыў гэтаму, заступаўся за старога. Мела, вядома, значэнне і тое, што замяніць загадчыка было не так проста. Адукаваных, з арганізатарскім талентам людзей не хапала і на больш важных месцах.

Мормаль, не інакш, ці ведаў, ці здагадваўся пра адносіны сакратара да сябе. Усё гэта ўскладняла гаворку.

Немаладыя гады і настаўніцкае званне загадчыка райана вымушалі Башлыкова гаварыць як мага далікатна. Абавязак лічыцца з гадамі і званнем былога настаўніка, аднак, не перашкодзіў Башлыкову выказаць усё, што трэба было, з належнай прынцыповасцю. Аддзелены ад загадчыка райана мяжой стала, цвёрда ўсклаўшы рукі на яго паверхню, Башлыкоў слова за словам выкладваў, важка, жорстка. Настаўнікі мала

працуюць з жыхарамі вёсак. Недастаткова вядуць работу па калектывізацыі. Не ўцягваюць сялян ў калгасы, не вядуць растлумачальнай работы пра перавагі калгаснага ладу. Ухіляюцца ад барацьбы з кулацтвам. Амаль не прыцягваюць да калектывізацыі дзяцей. Каб дзеці ўплывалі на бацькоў, дабіваліся ад іх уступлення ў калгасы.

Гаворачы гэта, Башлыкоў успамінаў сход у Глінішчах: дзіцячыя постаці, што гайсалі па хатах, склікалі. Цікаўныя, усхваляваныя вочкі на сходзе, між дарослых. Чуў як бы дакор сабе за няпраўду жорсткіх слоў пра дзяцей, але не мякчыў выразаў — помніў: галоўнае — настроіць загадчыка на рашучы пералом. Неабходнасць такіх слоў падмацоўваў успамін пра тое, як выступала на сходзе Параска.

Як вывад усяму Башлыкоў заявіў Мормалю, што райана, па сутнасці, амаль не займаецца калектывізацыяй, пусціў гэту важнейшую дзяржаўную кампанію на самацёк. Што гэтага ва ўмовах таго прарыву, у якім апынуўся раён, райком трываць далей не можа.

Мормаль, неспакойна соўгаючы папачку на каленях, вінавата спрабаваў пярэчыць: настаўнікі не ўхіляюцца ад калектывізацыі. З дзецьмі работа вядзецца, але бацькі не слухаюць іх. Райана ўвесь час займаецца калектывізацыяй. Бачачы, як недавольна слухае яго пярэчанні Башлыкоў, загадчык райана ніякавеў, згаджаўся: вядома, трэба больш рабіць. Лепш агітаваць.

Башлыкоў разумеў: Мормаль казаў праўду. Настаўнікі рабілі сваё, і райана займаўся калектывізацыяй. І ўсё ж гэтыя адгаворачкі злавалі: загадчык райана імі быццам хацеў адасобіцца. Не хацеў зразумець становішча, напружыць сілы так, як гэтага вымагаў момант. Башлыкоў гаварыў усё больш рэзка, дабіваўся зламаць гэты благадушны, апартуністычны настрой.

Дабіўся нібы нарэшце, бачылася — быццам дайшло. Мормаль пакляўся, што мабілізуе ўсе сілы настаўнікаў і школьнікаў. Башлыкоў дамовіўся, што Мормаль увесь час будзе дакладваць пра зробленае.

Калі развіталіся, не было палёгкі. Было ўсё тое ж адчуванне, што зрабіў мала. Увесь дзень вярэдзіла яно, не аціхала і цяпер.

## 5

Яно было прыціхла на бюро райкома, якое ён сабраў пасля поўдня.

На бюро прыйшло толькі чацвёра, ды і то двое з іх — Апейка і Каржыцкі. З кандыдатаў у члены бюро быў Кудравец. Іншыя былі на раёне. Але сабраць бюро было неабходна, сярод усяго таго, што трэба было мабілізаваць у гэты момант, бюро належала найважнейшая роля. Акрамя таго, што Башлыкоў хацеў узняць супраць прарыву сваіх асноўных таварышаў, бюро неабходна было і для таго, каб арганізаваць некаторыя далейшыя мерапрыемствы. У блішэйшыя дні Башлыкоў рашыў сабраць раённы сход упаўнаважаных па калектывізацыі і партыйнага актыву. Трэба, каб бюро выказала свае меркаванні пра такі сход.

Башлыкоў знарок гаварыў стрымана, каб у членаў бюро не стварылася думкі, нібы ён паддаецца адчаю. Разам з тым ён і не прыхарошваў становішча, зрабіў усё, каб члены бюро зразумелі, які небяспечны момант настаў. Асцерагаючыся, што спрэчка з Апейкам можа адвесці ўвагу ад галоўнага, ён ні словам не зачапіў старшыню выканкома.

Члены бюро ва ўсім падтрымалі Башлыкова: згадзіліся, што ўсім ім трэба раз'ехацца па сваіх сельсаветах, прыняць захады, каб не даць паўтарыцца таму, што здарылася ў Глінішчах. Усе дружна ўхвалілі думку Башлыкова пра сход упаўнаважаных і актыву. Усе згадзіліся, што сход такі ў цяперашні момант проста неабходны. Даклад даручылі Башлыкову, і Апейка згодна кіўнуў з іншымі.

Ці ад таго, што Башлыкоў адчуў падтрымку іншых, што бюро прайшло вельмі дружна і дзелавіта, ці ад таго, што на бюро зрабіў важныя захады на далейшае, upершы час ён адчуваў сябе лягчэй. З адчуваннем дужасці сваёй і з настойлівай нецярплівасцю думаў ён пра заўтрашнюю паездку ў Алешніцкі сельсавет, якую аб'явіў на бюро і якою ён спадзяваўся выправіць тое, што пачалося ў Глінішчах.

З гэтым настроем рыхтаваўся Башлыкоў да нарады пра шэфства. Пераглядзеў звесткі пра работу шэфаў, і даўнейшыя, і новыя, якія толькі што прынёс Міша. Перачытаў падабраныя Мішам рашэнні, у якіх гавары-

лася пра шэфства. Прадумаў і накідаў на паперы план выступлення на нарадзе. Калі ён рабіў гэта, думкі яго адбягалі то ў заўтрашнюю паездку ў Алешнікі, то яшчэ далей — на нараду актыву. Ён быў упэўнены, што дабярэцца там, у Алешніках, да самых каранёў, выведзе ўсякую нечысць напаверх. Навядзе парадак. Навядзе ды яшчэ іншых навучыць. На нарадзе актыву... Да нарады будзе жывы матэрыял. Тое, што ўбачыць сваімі вачыма...

За акном было цёмна, калі сталі сыходзіцца шэфы. Першым аб'явіўся Гірш Кофман, старшыня шавецкай арцелі, рушыў адразу ў кабінет, па-прыяцельску, зычліва прывітаўся. Ён быў у брызентавым плашчы, з пугаю, з чаго Башлыкоў вывеў, што Кофман прыехаў з Прудка. Кофман адразу ўлавіў, што Башлыкоў заняты, у момант нагнаў на сябе заклапочаны, афіцыйны выгляд, запытаў: «Дзе ето будзе?» — папрасіў прабачыць, што перашкодзіў. Проста ён хацеў высветліць, бо там нікога няма. І Мішы таксама...

Роўна [illegible] шостай, нібы хвалячыся дакладнасцю, Міша ступіў у кабінет, далажыў, што народ сабраўся, чакае, і Башлыкоў узяў падрыхтаваныя лісткі, пакіраваў да залы, большага пакоя ў будынку, дзе мелася быць нарада. З-за стала ён агледзеў пакой, зала была не запоўнена і напалову, але галоўныя, хто найбольш патрэбны, былі тут. Акрамя Кофмана, ён вылучыў чарнявага, маўклівага Лазара Голада, старшыню швейнай арцелі, загадчыка млына — рослага, нецырымоннага Сопата, маладога, усмешлівага загадчыка школы Волаха, дырэктара дзіцячага дома Бабуру. Былі сакратары партыйных ячэек, камсамольскія кіраўнікі з ячэек, сярод якіх Башлыкову кінулася ў вочы Міхаленка, што калісьці, на чыстцы, так адважна абараняла Апейку.

Адразу было відаць, што сабраліся далёка не ўсе. Вядома, нямала каго не аказалася тут таму, што былі на раёне, не ўправіліся прыехаць ці не ведалі пра нараду. Як бы там ні было, Башлыкоў ад сваёй, ужо нязменнай звычкі пераглядзеў спісак запрошаных, час ад часу ўздымаючы вочы, пытаючыся ў залы, чаму не відаць на нарадзе таго ці іншага чалавека. У зале то гаманілі, адказваючы, то маўчалі, з самага пачатку, калі Башлыкоў пачаў перабіраць спісак, у ёй усё

больш мацнела рабочая патрабавальнасць. Башлыкоў з самага пачатку даваў зразумець, што размова будзе строгая.

Ён быў сабраны і настроены рашуча, але разам з гэтым цяпер, калі ён чуў і бачыў людзей, у яго было і, няхай ціхае, адчуванне палёгкі. Перад ім нібы было падмацаванне, якое давала права спадзявацца на добрае.

Ён рашыў пачаць з дакладаў кіраўнікоў прадпрыемстваў і сакратароў ячэек. Седзячы за сталом, засланым чырвоным бляклым паркалем, ён запытаў, хто хоча пачаць, узяць першы слова. Хвіліну была цішыня, варушыліся, адводзілі вочы ўбок. Кофман на гэта сказаў, што таварыш сакратар ставіць усіх у цяжкае становішча, бо нікому няёмка першаму выходзіць хваліцца поспехамі. Яго жарт зразумелі, у зале паявіліся ўсмешкі, пачуліся вясёлыя водгукі. Усе ведалі: поспехаў няма, гаворка чакае нялёгкая, і слова Кофмана палагодзіла нядобрае чаканне. Кофман жа першы і ўзняўся ўсё з той жа пугай у руцэ. Хваліцца ён не хваліўся, цікава расказаў пра справы ў вёсцы, з якой прыехаў, але Башлыкову не спадабаўся яго гарэзны і бесклапотны тон, які, бачылася, няправільна, легкадумна настройваў людзей. Башлыкоў рашуча перапыніў яго, стаў патрабавальна дапытваць, што канкрэтна зроблена па шэфскай рабоце.

Ён хутка збіў бесклапотнасць з Кофмана, паказаў яму шэфскія яго «поспехі» ў сапраўдным святле, так што, вяртаючыся назад, Кофман адно круціў галавою ды адхукваўся. Узрушаны размовай з Кофманам, тым урокам, які падаў яму, Башлыкоў ужо не стаў пытацца добраахвотнікаў, а пачаў выклікаць. Уважліва, патрабавальна слухаў кожнага. Раз-пораз перапыняў пытаннямі, адзначэннямі таго, што чуў, найбольш — крытычнымі, незадаволенымі. Часам ён спехам запісваў у лістку думку, каб не забыць, прабягаў вачыма па зале, па тварах, але ні на момант не аслабляў пільнай увагі, цвёрдай рукой вёў належную лінію. Кожнаму прамоўцу і ўсім у зале ён паказваў, як мала і як кепска зроблена такой важнай справы. І якія недаравальныя адносіны да яе.

Не ўсе разумелі яго становішча. Былі спробы апраўдацца рознымі прычынамі, нават — спробы ўхі-

ліцца былі. Слухаючы некаторых, іх абяцанні, ён адчуваў, што яго клопаты мала турбуюць іх. Што змен асаблівых не будзе. Гэта вярэдзіла яго, злавала.

Можа ад таго, што яму так даліся ўчарашнія дзень і ноч, ён так хутка пачаў зноў нервавацца. Праўда, і становішча з шэфскай работай было — горш горшага; але ў тым, як адгукаўся цяпер Башлыкоў на нелады, з якой гарачкавасцю, адбівалася, не інакш, тое, што нервы не вытрымлівалі напружання. Гэтая гарачкавасць была ў ім і калі ён устаў, каб сваім словам скончыць нараду. Ён не толькі не шукаў нейкіх лагодных слоў, а як бы выбіраў самыя палючыя, бязлітасныя, калі маляваў становішча раёна з калектывізацыяй, калі расказваў пра тое, што здарылася ў Глінішчах, пра тую агідную работу, якую вядзе ў вёсках кулацтва і яму падобная нечысць супраць калгасаў. Вядзе ў той час, калі большасць шэфаў спяць абыякава. Ён, як бы выкрываючы, судзячы, гнеўна заявіў, што ў той фактычнай катастрофе, у якой раён апынуўся, вялікая віна і шэфаў, іх слабой дзейнасці, а ў многіх, па сутнасці, выпадках — бяздзейнасці. Такія адносіны да шэфскай работы, якія выявіліся ў некаторых выступленнях і тут, на нарадзе, заявіў Башлыкоў, ёсць не што іншае, як галавацяпства, цяжкае злачынства.

Яго гарачая, вострая прамова, бачыў Башлыкоў, хвалявала, даходзіла. Факт гэты, аднак, з-за незадавальнення станам спраў не толькі не цешыў, але і не супакойваў ні трохі. Настойлівы, зацяты, ён, як бы грозячыся, сказаў, што за зрыў шэфскай работы райком будзе патрабаваць, як за зрыў важнейшай дзяржаўнай кампаніі. Ніякія адгаворкі не будуць прымацца.

Як ні ўсхваляваны быў, не толькі належна настроіў усіх, але і даў канкрэтныя ўказанні. Дакладна падаў, што неабходна зрабіць кожнай установе. Назваў тэрміны, вызначыў адказных.

## 6

За вокнамі была ўжо ноч, калі Башлыкоў закрыў нараду і зала пачала пусцець.

Ён вярнуўся ў кабінет. Тут, за зачыненымі дзвярамі, адзін, нейкі момант пастаяў, як бы на раздарожжы. Як бы хацеў разважыць: што ж далей. Не прыдумаў

нічога. Угледзеў на стале пачак папярос. Закурыў, захадзіў.

Была вялікая стома і разам — узрушанасць. І рабіць больш не быў здатны, і адпачываць не мог. Не першы раз у галаве прайшло: гэтымі сваімі прамовамі, пэўна, не так другіх уздымаеш, як расцвельваеш сябе.

Трэба было б пайсці паабедаць, але есці не хацелася.

Схамянуўшыся, ён пазваў Мішу, распарадзіўся, каб той перадаў возчыку: заўтра да сямі быць гатовым у дарогу. Дазволіў Мішу ісці дадому.

Можна было б і самому ісці. Нават — трэба б. Адпачыць перад заўтрашнім. Але і ісці не хацелася. Нічога не хацелася.

Не зважаючы на змору, душу трывожыў неспакой. Вось жа ліха, разумеў: усё зрабіў як мог, а задавальнення не было. Не толькі задавальнення, а і якой-небудзь палёгкі.

Не, і разумення такога, што зрабіў тое, што мог і павінен быў, не было. Не было такой упэўненасці, тачыла нават глухое, але настойлівае адчуванне, што рабіў не тое, не галоўнае. Што мала зрушыў тое, што павінен быў. Можа быць, зусім не скрануў. І гэта адчуванне было тады, калі ўсё больш ціснула трывога, важкая, вялікая, неадступная. Калі так упарта насядалі паганыя згадкі-напаміны.

Удзень паганае гэта прыціхла за клопатамі, яго можна было стрымліваць; да таго ж тады — дзень быў наперадзе, надзея была. Цяпер дзень быў ззаду, усё, што мог, зрабіў, і цяпер відаць была цана зробленаму. З яснасцю, ад якой брала кволасць, бачыў, што зрабіў мала, нікчэмна мала, амаль нічога не зрабіў, а ў галаву, гарачую, узрушаную, усё ўнізваліся згадкі: учарашні дзень і вечар у Глінішчах, размова з Галубовічам, Нінін ліст, спрэчка з Апейкам. Як бы нанава гучала: «Не пойдзем! Не аддадзім!..» «Галаву здымем!..» «Ты сваяк пана Шэпеля!..»

Сярод усяго ўбілася Апейкава, асабліва жорсткае, таму што і сам чуў значэнне, небяспечнасць яго: «Гэта толькі сігнал!.. Можа быць горш...» Пачуўшы зноў гэта, захадзіў хутчэй, крайне неспакойны. Можа быць горш. Хоць горш не трэба. І так пагана, далей, здаецца, няма куды. Да вясны з такімі тэмпамі — правал

бясспрэчны... Тут думкі яго працяла раптоўнае: «Алёшка, чарцяка! Мы табой ганарымся!..» — і вокліч нагэты стрэмкаю ўчапіўся ў сэрца. Як знарок, як насмешка!.. Не адразу змог вярнуцца да перарванай думкі, даць нейкі лад свайму думанню... Яму даверылі такую важную справу, паставілі на такі важны ўчасток. А ён, відаць ужо, можа не спраўдзіць надзей...

За нядобрымі развагамі ўзяла больш кволасць. Сем месяцаў тут! Не спіць, не есць, можна сказаць — усю душу аддае! А вынікі?!. Узяў адчай, такі моцны, які можа захапіць, толькі калі ты без меры нацяты, калі ты гарачы і табе дваццаць пяць...

У гэту хвіліну агіднай кволасці яго апякла зноў згадка пра ўчарашні сход, пра паводзіны на ім Апейкі і Гайліса. Нанава ўспомнілася ранішняя спрэчка з Апейкам, і ў ім з новай сілай ускінулася нязгода з усім, што Апейка спрабаваў увесці ў яго.

Ён цяпер з яшчэ большай яснасцю ўбачыў усю ілжывасць Апейкавых мудрагельстваў, ілжывасць і нават небяспечнасць іх, якія маглі збіць з правільнай дарогі, аслабіць у той момант, калі так патрэбны цвёрдасць і ўпэўненасць. «Яўна кульгае на правую! Сам кульгае і другіх падбівае!» — падумаў абурана.

Пасля гэтага лепш адкрылася, чаму недавольны пражытым днём. Лепш бачылася, што гэты дзень і тое, што зрабіў, мала што зменяць у становішчы, таму што і Каржыцкі, і Мормаль не тая сіла, якая можа сур'ёзна выправіць тое, што ёсць. І не таму, што Каржыцкі і Мормаль кепскія самі па сабе. Хто б ні быў на іх месцы — нічога не зробіць. Таму што патрэбны не размовы, а дзеянні. Дзейныя, цвёрдыя людзі, сапраўдныя бальшавікі патрэбны там, на месцы. А там — Чарнаштаны ды Гайлісы. Мяккацеласць. Апартунізм. Правы ўхіл.

«Не тое робім, не так,— мацнела ўпэўненасць.— Гаворым многа. Многа спадзяванняў на словы. На ўгаворы. Тут наша няўдача. Угаворы — пустазвонства. Дзейнічаць трэба! Сіла трэба. На сілу сіла! І не чыкацца! Не міндальнічаць! Рашучасць трэба! Націск!.. Націснуць падаткамі! Судзіць злосных! Каб адчулі сілу!..» Ён ухваліў сябе, што добра распарадзіўся Харчавым...

Ад гэтых думак весялей было. Нібы ўбачыў наперадзе прасветліну, ясна ўбачыў, куды ісці, і ўбачыў, што дарога там абяцае яму добрае. Сам не заўважыў, як стаў хадзіць дужа, цвёрда.

У думкі ўнізалася вестка з пісьма: Лена пыталася, цікавіцца, шкадуе. У гэты момант напамінак пра Лену быў лагодны. Лена бачыла яго дужым, прыгожым. Няхай паглядзіць!..

Згадаўшы пісьмо, думаў нейкі час пра маці, пра Ніну, рашыў цвёрда: «Трэба забраць сюды. Забраць...» За гэтым ён намогся, павёў думкі на заўтрашнюю паездку. І раптам ва ўсю яго супярэчлівую турботнасць памяць увяла ўпарта яго новую глінішчанскую знаёмую. Нібы ўбачыў зноў, як яна схілілася да яго, льючы ваду; адчуў цяпло яе рукі, якую яна падала, вылазячы са склепа. Яна раптам нібы стала перад ім. Яе вочы, кплівыя, незразумелыя, уся яна, незалежная, поўная годнасці, была, здалося, побач. І побач, і далёка.

У момант апанавала дзіўнае: як не хапае яе тут. Яе воч, яе голасу, яе смеху. Усёй яе. У гэты вечар. У гэтую хвіліну. Здзівіўся, пашкадаваў: як ён так развітаўся з ёю? Чаму не прыгледзеўся, не распытаў хоць бы толкам?

Так захацелася пабачыць яе, пабыць з ёю, што ўзяла шалёная думка: сесці зараз у вазок ды махнуць туды. Зірнуць хоць. Ён тут жа стрымаў сябе цвяроза: прыхамаць дурная. Гэтага яму толькі не хапала. І наогул — што ён ведае пра яе? Хто яна?

Але развагі не даходзілі. Не знікала: яна павінна быць тут. З ім павінна была быць!..

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### 1

Башлыкоў выехаў з Юравіч зацемна, з такім разлікам, каб дабрацца да Алешнікаў у самым белым ранку. Калі яго вазок узняўся на гару, уся шырокая раўніна, што разлягалася перад ім, была шэрая, непраніклівая. Ішла ад гэтай шэрані ў душу неадольная панылая сумотнасць; толькі вецер, што налятаў тут,

на абдзьмутай вышыні, як бы абяцаў штосьці абнадзейлівае.

Каля Вадавіч, як ён і спадзяваўся, стала прыкметна развідняцца. У гэтай парадзелай каламуці, што ўсё расступалася, вазок Башлыкова шухнуў цераз масток над Тур'ёю, паплыў па шляху паўз Глінішчы. Са шляху Башлыкоў мімаволі неспакойна і востра зірнуў туды, дзе павінна была быць глінішчанская школа. Разам з нядобрым, што засталося ад сходу, як ад павеву ветру, зацяплілася ў душы зноў згадка пра нераспазнаную жанчыну. Спадзяваўся ўбачыць агеньчык з вокан, але яго не было. Можа закрывала поле.

Толькі развіднела, калі ён выйшаў з вазка каля сельсавета. У сельсавеце быў адзін дзяжурны, ён, відаць, драмаў перад гэтым і, калі Башлыкоў, моцна гупаючы ботамі, абабіваючы снег, ступіў у пакой, сустрэў яго нібы вінавата. Глядзеў з незразумелай насцярожанасцю. Башлыкоў знарок весела патупаў па пакоі, паціраючы рукі, паказваючы, што памерз трохі ў дарозе, трэба сагрэцца, весела запытаў пра навіны. На людзях Башлыкоў заўсёды меў звычку трымацца весела і бадзёра. Дзядзька, аднак, трапіўся негаваркі, на пытанне Башлыкова адно няветліва аб'явіў, што Гайліс у Хвойным, па калектывізацыі, а сакратар пакуль не прыйшоў.

Ён павесялеў толькі тады, калі Башлыкоў загадаў яму паклікаць Дубадзела. Пажвавелы ўраз, усцягнуў на калматую галаву бараноўую кучомку і, мякка ступаючы валёнкамі, выбег на ганак. Башлыкоў зноў захадзіў па пакоі, раз-пораз кідаючы позіркі ў акно на вуліцу. Ён чакаў Дубадзела з неспакоем: было б прыкра, калі б Дубадзела дома не аказалася. Дубадзел яму быў вельмі патрэбны. Яшчэ ўчора, думаючы пра гэту паездку, Башлыкоў згадваў Дубадзела, таму ён рашыў, што Дубадзел будзе ў гэтай паездцы пры ім. Башлыкоў хацеў прыгледзецца лепш да яго, прымерыцца, чаго ён варты. З Дубадзелам у Башлыкова былі важныя надзеі. Надзеі гэтыя трэба было праверыць.

Дубадзел быў дома. Башлыкоў убачыў яго, калі ён паявіўся перад акном — ішоў хутка, імкліва, так што крылы яго зашпіленага на адзін кручок шыняля разляталіся ў бакі. Разляталіся ў бакі вушы будзёнаўкі, што трымалася на макаўцы. Ногі ў разношаных ботах

ступалі цвёрда, а на касцістым твары была рашучасць. Чалавек як бы спяшаўся на выручку і гатоў быў на ўсё.

Ён імкліва пратупаў па ганку, ступіў у пакой. Галасна прывітаўся, зычліва і разам з павагай назваўшы: таварыш сакратар. Руку, якую падаў Башлыкоў, паціснуў моцна, як бы пацвярджаючы, што ў ім усё надзейна.

Башлыкоў зацягнуўся, зірнуў спасцярожліва:

— Трэба ў Курані.

У тым, як прамовіў, была значнасць. Значнасць была і ў позірку.

Дубадзел кіўнуў моўчкі і таксама значна: ясна. Твар дзелавіта засяродзіўся; шмаргануў прастуджаным носам.

— Зараз?

— А чаго ж? — Башлыкоў па-таварыску дадаў: — Адклад, кажуць, не ў лад.

— Аге,— шмаргануў носам Дубадзел.— Адкладуваць няма куды.

— От іменна. Так што — збірайцеся. Хутка.

Дубадзел ускінуўся, як па камандзе. Адазваўся ў момант:

— А чаго тут сабіраць?

Рукі хутка, рашуча ўхапілі другі кручок на шынялі, зашпілілі, нацягнулі глыбей будзёнаўку.

— От толькі перакусім,— дадаў дзелавіта.— Паснедаем толькі...

— Вы не снедалі? — спыніў яго Башлыкоў.

— Да я ўжэ, канешно. Я пра вас. Жонка там умэнт...

Башлыкоў улавіў, што ў голасе яго тут не было цвёрдасці, не надта дабіваўся. Відаць, не вельмі верыў у снеданне сваё. Башлыкоў супакоіў:

— Я паснедаў ужо.

— Ну, тады — хоць зараз.

— Заедзьце дадому і паведаміце,— распарадзіўся Башлыкоў.— Каб не турбаваліся. Дні на два, скажыце...

Дубадзел рынуўся да дзвярэй.

## 2

Вазок хутка адкінуў назад рэшту алешніцкай вуліцы, павярнуў за вугал яе, рушыў да грэблі, да зараснікаў. Вымерзлая, наезджаная грэбля ў момант дамчала да цагельні, і вось зачарнелі наперадзе ранішнія дымы над куранёўскімі стрэхамі.

У Башлыкове і дымы гэтыя, і стрэхі, нахмураныя, панурыя, хоць падбеленыя снегам, адазваліся неспакоем. Падыходзіла ўсутыч, уздымалася каменнай сцяной непадатнае, чужое, што належала зрушыць. І што не хацела зрушвацца.

Башлыкоў загадаў кіраваць да хаты Міканора Глушака.

Калі ехалі вуліцаю, чуў сябе пад маўклівым наглядам з двух бакоў. Пільна лавіў насцярожаную чарнату вокан, стракатасць двароў: і вокны, і двары былі амаль усе пустыя, вёска жыла, здавалася, бесклапотна, але ён добра ведаў, што спакой гэты зманлівы. Заўважыў, як выйшаў з хаты, застыў на ганку дзядзька, пільным вокам праводзіў, пакуль не схаваліся за рогам хаты. Двое жанок унізаліся позіркамі ад калодзежа, адна аж перастала цягнуць вочап.

Ад неспакою, ад адчування ўвагі падабраўся, сеў раўней, паставаю ўсёй выказваў рашучасць, смеласць. Бачыў: Дубадзел пажвавеў, выцягнуў шыю, нецярпліва і весела цікаваў за хатамі, за дварамі. Здавалася, трымаўся так, нібы адчуваў блізкую бойку і радаваўся ёй, ірваўся да яе. Гэтая вясёлая задзірлівасць была даспадобы Башлыкову. Перад двума радамі насцярожаных хат Башлыкову добра было чуць такую смелую ўпэўненасць, чуць побач чалавека, які ў любы момант гатоў быў памагчы.

Ля хаты Міканора Глушака Дубадзел першы саскочыў з вазка, рашуча пакрочыў да варот. Ужо ля варот ён схамянуўся, як бы стрымаў сябе, пачакаў Башлыкова, прапусціў яго наперад.

Ледзь ступілі на двор, на ганку паявіўся Міканор Глушак. Быў апрануты ў нефарбаваны, заношаны кажух, з заечай шапкай у руцэ. Падобна было: збіраўся кудысьці ісці, апрануўся за хвіліну перад гэтым. Глядзеў цікаўна, вочы наваспаватым твары былі неспакойныя, пыталіся, чаго наведалася такое высокае на-

чальства. З гэтым была ўсмешка на твары, лагодная, гасцінная.

— Сустракай гасцей! — прамовіў Башлыкоў, весела крочачы насустрач. Ён прыязна працягнуў Міканору руку.

Глушак спехам надзеў шапку, падаў сваю руку. Башлыкоў моцна, дужа паціснуў яе.

— Угадалі! Заспелі дома! — сказаў Башлыкоў зноў, звонка, задаволена.

Ён узяўся абабіваць снег з ботаў, атрэсваць з паліто, з шапкі.

Гледзячы на яго, стаў абабіваць снег і Дубадзел, але без старання, абы-як. Нібы рабіў непатрэбнае.

Міканор няёмка, як належала, папрасіў:

— Ат, чаго тут... Заходзьце!..

У хаце было двое старых. Мужчына, седзячы на палацях, абуваў лапці, накручваў анучы, а старая замятала пры печы гліняную падлогу. Замятала, хапаючыся.

Башлыкоў тым жа звонкім голасам даў ім «добры дзень», працягнуў ружовую з марозу руку да старой. Тая, хапаючыся, выцерла сваю аб прыпол, як бы ўрачыста, лапатачкай падала яму. Рука яе была цёмная і касцістая, Башлыкоў пацісну́ў яе асцярожна, з пашанай. Стары, завязаўшы абору, таксама ўстаў насустрач Башлыкову. На дужы поціск рукі сакратара адказаў ветліва, ахвоча.

Дубадзел растлумачыў, што гэта бацька і маці Міканора: Дамецік і Дамеціха — цётка Аўдоцця.

— Угадалі! Заспелі дома! — зноў сказаў Башлыкоў, ужо да старых. Завязваючы гаворку.

— Аге! — адразу адгукнулася Дамеціха.— То ж ужэ унь шапку ўзяў, сабраўся ісці! Кеб на мінуту пазней, дак і не було б тут!

— Не далеко сабраўся! — далучыўся Міканор.— Хазяйство паглядзець!..

Ён усё з цікаўнасцю чакаў адгадкі, чаго завітаў Башлыкоў. Такая ж цікаўнасць, толькі больш адкрытая, была відаць і ў старой.

Але над усім быў звычай, неадменны закон гасціннасці да чалавека, што ступіў у хату. Міканор запрасіў Башлыкова распрануцца, і старая з ухвалай падтрымала сына. Башлыкоў ведаў «закон», разумеў, што трэба

было гасцінным гаспадарам паказаць сябе прыязным госцем, распрануцца, сесці да стала. Але не цярпелася, дораг быў час. Адно сеў да стала, расшпіліў верхні кручок паліто.

Глушак, пэўна, зразумеў настрой яго; аднак з сялянскай настойлівасцю паўтарыў, што просіць распрануцца, а маці распарадзіўся: накарміць гасцей. З дарогі людзі.

Маці падтрымала яго, але, адзначыў Башлыкоў, не надта цвёрда.

— Паснедалі ўжо,— сказаў Башлыкоў мякка і разам заклапочана.

— Калі тое було! — павёў сваё Міканор.

Башлыкоў даў зразумець, што ён не мае звычкі цырымоніцца, сказаў рашуча:

— Пройдзем па вёсцы. Тады — вернемся!

— Не зарабілі шчэ на снеданне! — весела кінуў позірк на Міканора Дубадзел. Ён зарагатаў.— Зарабіць трэба, ясно!

Трэба было ўсё ж, хоць трохі, аддаць належнае звычаям. Паказаць сябе перад гаспадарамі чалавекам, культурнаю істотаю. Башлыкоў затрымаўся ў хаце, дазволіў пабавіцца тут дзесятак хвілін. Да таго ж, варта было лепш прыгледзецца да Глушаковага жытла, бацькоў яго.

За гэтым адразу пайшло галоўнае, турботнае: высветліць абстаноўку ў сяле, як яна бачыцца іх вачыма...

Седзячы пры стале, не выказваючы цікаўнасці, агледзеўся: хата маленькая, на адзін пакой, падлога з гліны. Можна сказаць, няма падлогі. Палаці, двое палацяў: сына і старых. Даматканыя коўдры. Вялікая скрыня — гонар сялянскіх хат на Палессі. Таксама, мабыць, з даматканым палатном, са святочнай вопраткай. На сценцы — партрэты Сталіна і Калініна. У кутку ўверсе — пуста, абразы зняты. Але ручнік вісіць, як даніна старому... На падаконніку — стосік кніжак. Брашуры... Дзе ж калгасныя дакументы? Пэўна, у скрыні...

Паветра было нясвежае, нячыстае. Нядобра, кісла пахла. Мусіць, у хаце кармілі свінню ці парася. І наогул у хаце не адчувалася чысціні, дбайнасці. Звыкліся. Башлыкоў набачыўся ўсякага, але ў апошнія гады

ўсё ж меў свой пакой, звык да чыстага паветра, да ахайнасці. І тут, як і кожны такі раз, ён адчуваў, што горад — гэта горад, а вёска — вёска і што між іх ва ўсім адлегласць вялізная. Як два розныя светы. І адчуваў востра, нязменна, што ён — чалавек да драбніцы гарадскі, з таго, гарадскога свету. Ніколі не звыкнецца з гэтай чарнатой, нясвежым пахам. Трываць зможа, а звыкнуцца не звыкнецца.

Увайшоў з пугаю возчык, на запрашэнне Дамеціхі распрануўся, сеў каля Дубадзела.

Трэба было весці зычлівую гаворку.

— Як жа жывем, Аўдоцця Пятроўна? — пацікавіўся звонка, прыязна Башлыкоў. Імя па бацьку старой выпытаў ціха ў сына.

Тая на момант перастала завіхацца, азірнулася.

— Да як? Жывем.

Зноў адвярнулася да печы, стала чапялой гаспадарыць у глыбіні печы.

— Сын не крыўдзіць?

— Аге! — адказала насмешліва.— Е калі яму! Рэдко і відаць дома!..

— Нявестку б трэба, пэўна?

— Казала яму. Слухаць не хоча. Усё — дзело адно...

— Пары можа няма? — памог Башлыкову Дубадзел.

— Етаго цвету хапае.— Маці Глушака паставіла чапялу ў кут. Гаворка, было відаць, зачапіла за жывое.— Дзве было дабрэнныя. Адну, Хадоську, дак думалі ўжэ...

— Мамо! — перабіў Глушак-сын недаво́льна. Але яна даказала сваё.

— Празяваў. Хоня забраў.

— Знайдзем другую, цётко! — весела паабяцаў Дубадзел.— І жэнім! У парадку парційнай дзісцыпліны! — Ён зарагатаў.

Старой не спадабаліся і яго жарт, і яго рогат. Не тоячыся, нелагодна зірнула на Дубадзела; Башлыкоў заўважыў, што яна наогул не надта шанавала яго спадарожніка.

Не сказала нічога. Аднак спыніла гаворку, павярнулася да печы, узялася за вілкі. Стала гаспадарыць у печы.

Башлыкоў перачакаў, пакуль маці Міканора ўправілася ў печы, перабіў непатрэбнае маўчанне. Павёў гаворку пра тое, што карцела:

— Аўдоцця Пятроўна, скажыце, калі ласка: чаго гэта ў калгас у вашай вёсцы так туга ідуць?

Яна зірнула на Башлыкова, пільна, як бы з недавер'ем. Башлыкову здалося: позірк яе не верыў, што ён пытае гэта сур'ёзна, не ведае сам. Як бы павагаўшыся, адказала:

— Чаму? Баяцца.

— Чаго?

— Цёмны народ,— растлумачыў бацька Глушака, што звешваў ногі з палацяў.

— Як бы не ўскочыць у пельку, баяцца,— прамовіла яна, не слухаючы мужа, а выказваючы сваё. І ўсё быццам не верыла, што Башлыкоў гэтага сам не ведае.

— Чаго тут баяцца!

Маці Міканора нейкі час маўчала. Святло з печы ўскідвалася і ападала на яе твары, на плячы. Рухавы ад святла, у маршчынах, твар быў засяроджаны.

Міканор глядзеў на яе яўна занепакоена. Баяўся яўна нечага.

— Да і тое,— сказала яна задуменна,— вельмі хутко гоняць. А людзям — агледзецца хочацца. Прымерыцца.

— Хто ето гоніць? — абурыўся Глушак-сын.— Што вы кажаце, мамо!

Дубадзела, здавалася, пацешыў сынаў гнеў. Але ён не выказаў весялосці, строга папракнуў:

— Доўго думаюць, цётко!

— Абдумана ўсё,— заявіў Башлыкоў спакойна, паблажліва.— Па ўсіх пунктах. З усіх бакоў. Сур'ёзна абдумана. Можна не сумнявацца.

— Яно-то, пэўна, так,— кіўнула яна. Ні то не вельмі паверыла, ні то не хацела спрачацца. Далікатна, як бы тлумачачы, выказала: — Толькі ж не ўсе тое знаюць. Да і тое: у кожнаго ж свая галава е.

— У тым-то і бяда! — з'едліва адгукнуўся сын.— Да добра, калі ў каго шчэ разумная!

Башлыкову не давялося сказаць: тут у сенцах стукнулі дзверы і ў хату ступіў дзядзька ў кароткім кажушку і ў ботах. Чыста паголены, з вусікамі, ён з па-

рога скінуў шапку, прывітаўся з усімі: «Здраствуйце». Упэўнена падышоў да Башлыкова, працягнуў руку, з выразнай пачціваспю назваў: «Таварыш сакратар». Абышоў усіх, падаючы руку, назваў кожнага імем яго — бацькавым.

Справіўшы належна гэты абавязак, дзядзька зноў, з годнасцю, пакіраваў да Башлыкова, сеў побач. Дастаў капшук з-пад кажушка, стаў круціць папяросу. Па-сяброўску пацікавіўся ў Башлыкова:

— Рашылі, значыцца, пасяціць нашу куранёўскую глуш? Паглядзець, чым жыве-дыша ў глушы народ?..

Здавалася, ранейшая гаворка перарвалася зусім і будзе цяпер уладарыць іншая, тая, якую завязаў дзядзька — Андрэй Руды. Так яно нейкі час і было: папыхваючы папяроскай, далікатна пускаючы праз ноздры дым, Андрэй растарэкваў пра цемнату людскую, пра калектывізацыю — новы шлях для людзей, паказваючы, што і тут, у глушы, таксама не ўсе лыкам шыты.

Гаспадыня, здавалася, слухала яго і не слухала. То корпалася пры печы, то неспакойна думала. Было відаць: вярэдзяць старую нейкія турботы, не даюць спакою. Недавольна паглядвала на Рудога: трэба ж, прынесла не ў час балбатуна пустога.

— Да і ето,— адважылася нарэшце, нагадала пра перарваную размову,— гаворкі тут усякія. Пра раскулачанне...

Башлыкоў адвярнуўся ад Рудога, уважліва зірнуў на яе.

— Баяцца етаго. Не наравіцца ето,— горача выказала яна.

— Каму «не наравіцца»? — адразу напаў Глушаксын.

— Людзям не наравіцца.

— Сказала!

— А то не? Не баяцца?

— Усе?! Кулакі можа! Кулакам етаго трэба баяцца!

— Правільно, Дамецевіч! — з ухвалай кіўнуў Руды.

Дамеціха не паддалася сынаваму гневу. Нават як бы заўпарцілася.

— Брату на брата нагаворуваюць,— загаварыла галасней, зацята.— Сваяку на сваяка. Як бы кусаць адзін аднаго трэба!

— Кажаце вы, мамо!

Яна зазлавала, ускінулася:

— Дай сказаць людзям! Не з табой гаворацы! Слова ўжэ сказаць не можно!

— Гаварыце, да знайце што!

— Правільно, Дамецевіч! — заявіў важка Руды.

— Ты, Андрэй, прыйшоў, дак сядзі! Не лезь, куды не просяць!..— Яна перавяла дыханне, заявіла сыну, усім: — Знаю! Праўду кажу!..— Стрымала сябе, сказала цішэй: — От тут у нас сваяк е! Брат мой дваюрадны!

— Знайшлі брата!

— Брат! Халімон! Мая матка і яго бацька — сястра і брат родныя!

— Ето — пра Карча Халімона! Халімона Глушака! — растлумачыў Башлыкову Руды, задаволена пыхнуўшы папяроскай. Было відаць: страшэнна рады быў спрэчцы. Як цікаваму здарэнню.

Міканор з нянавісцю зірнуў на яго: знайшоў забаву. Трэба ж, прынесла ў такі момант, заўтра брахня пойдзе па ўсяму сялу...

— Аге, Глушак. Глушак Халімон,— пацвердзіла старая, у запале не заўважыўшы тону гаворкі Рудога.— Дак чаго ўжэ на яго! — Павяла шчыра, горача, верачы непахісна ў сваю праўду: — Мало таго, што налогамі. Дак і ў калгас не пускаюць! Свет чалавеку завязалі! Так ето трэба?

— Сколькі ні талкую, не разумее нічого!

Міканор, ружова-чырвоны, няспрытнымі рукамі скруціў папяросу, схіліўся да Рудога. Прыкурыўшы, патупаў да палацяў, сеў на іх. Згорбіўшыся, густа задыміў. Башлыкоў разумеў яго: Міканор Глушак, як на суддзю, глядзеў на яго, сакратара райкома. Быў разгневаны на маці і адчуваў сябе такім вінаватым, што гатоў быў на любую кару.

Так, было чаго хвалявацца: зганьбіла старая, і перад кім, перад сакратаром райкома. Ды перад Дубадзелам, які яўна не спачувае, а як бы потай цешыцца.

— У адносінах да кулацкіх элементаў, Аўдоцця Пятроўна,— лагодна, стрымана сказаў Башлыкоў,—

лінія ў нас цвёрдая. Кулацкія элементы мы лічым класавым ворагам.

— Які ён цяпер элемент! — старая зняважліва махнула рукой.— Толькі званне асталося — што багацей!

Дубадзел хацеў падчапіць жартам: не ведаў, што яна такая кулацкая заступніца, але старая не адазвалася на жарт.

Міканор Глушак, хапаючыся, нервова дыміў, ледзь стрымліваў гнеў.

— Падгаварыў ён вас, ці што! — У голасе яго з гневам чулася крыўда.

Башлыкоў улавіў: словы гэтыя былі як бы не толькі да яе, а і да яго з Дубадзелам. Можа нават — больш да іх дваіх.

— Не можно — штоб брат на брата! — выказала яна зацята, непахісна.

Сын угневаны саскочыў з палацяў. Зірнуў злосна на старую, захадзіў нецярпліва.

Башлыкоў узняўся з лаўкі, сказаў, што пара ісці. Час не чакае. Старая ўраз схамянулася, згадала пра абавязак гаспадыні:

— Дак калі вернецеся? Кеб знаць...

— От як вызвалімся,— няпэўна сказаў Башлыкоў.— Калі справу зробім...

— Дадзім знак як-небудзь! Калі прагаладаемся!

Старая няёмка папрасіла:

— Мо я што не так. То вы не сярдуйце... Я ад душы. Што думаю...

— Не сярдуем,— Башлыкоў паблажліва ўсміхнуўся.— Але з поглядамі вашымі не згодны...

Ён лагодна патрымаў старую за локаць, рушыў з хаты. На двары азірнуўся: усе выйшлі ўслед, нават стары стаяў, у сарочцы, без шапкі. Башлыкоў паклапаціўся перш пра яго: параіў вярнуцца, не прастудзіцца. Потым сказаў возчыку ісці ў хату, чакаць.

Заўважыў: Міканор Глушак лавіў яго позірк. Башлыкоў зрабіў выгляд, што не бачыць гэтага.

Калі выйшлі на вуліцу, Глушак не вытрываў.

— Падгаварыў, мабуць, гад,— сказаў вінавата. Як бы прасіў злітасціцца, зразумець. Дадаў злосна: — У сям'ю маю ўжэ ўлезці хоча!

— Васпітацельнай работай не займаешся! — укалоў знарок Дубадзел з рогатам.

Башлыкоў адвёў нялітасцівы позірк.

Чуў: Глушак пабойваецца нядобрага свайго сваяцтва, таго, што гэта вядому яму, Башлыкову. Так, трывожыцца ёсць чаго. Такое сваяцтва не ўпрыгожвае... Што там ні кажы, а сваяцтва ёсць сваяцтва. Сувязь. Сувязь з кулаком...

Было незадавальненне сабою: такога факта пра Глушака, пра актывіста, партыйца, не ведаў.

Праўда, віна тут найбольшая Глушака, але і сам вінаваты!

Не першы раз, як пра абрыдлае, непрыязна падумаў: «Усе яны тут перамешаны, паспрабуй разбяры!..» За гэтым як бы нанава пачуў плаканне-войканне старой, плаканне аб крывасмоку, узяло злое: жаласці дурной у людзей аж лішне! Крывасмокаў самых яўных то не судзяць, то — шкадуюць! І каб адзін-два, з дабраты шчодрай, а то ж — не ў адной вёсцы! Чуласць якая!..

Ён з прыкрасцю перарваў думанне, кінуў позірк да Глушака:

— З каго пачнем?

3

Глушак як бы не цяміў. Відаць, усё не мог супакоіцца. Схамянуўся нарэшце:

— Да от, к суседу можно.

Дадаў: адзін з тых, што ўпіраюцца асабліва. Дзяцел Васіль.

Пакіравалі да Дзятла.

Адразу, як ступілі на двор, ля новага зруба, трапілася пажылая жанчына. Ішла з хлява з пустым драўляным вядром.

— Эй, цётко, можно ў госці?! — Глушак як мог нагнаў на сябе весялосць.

— А чаго ж,— жанчына мелькам зірнула на іншых, прамовіла да Глушака: — Сусед, а рэдко заходзіш нешто...

Паяўленне нязваных гасцей выклікала ў яе клопатнасць, але яна схавала гэта. На прывітанне Башлыкова адказала ветліва, прыхільна.



Іван Мележ сярод беларускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў у Дні літаратуры і мастацтва Украіны ў Беларусі.
*1974 год.*



Іван Мележ і Аляксеем Кулакоўскім
у час адпачынку ў Місхоры. *Кастрычнік 1974 года.*

— От госць з раёну,— сказаў Глушак, усё яшчэ з ранейшым хваляваннем і імкненнем разагнаць яго. Глушак назваў Башлыкова, і жанчына зноў зірнула на яго, з большай увагай і цікавасцю.

Запрасіла ў хату, першая падалася на ганак.

У хаце, каля палацяў, была яшчэ жанчына, паўнацелая, маладзейшая, з дзіцем на руках. Перад ёю паволі вяло калыску, што звешвалася са столі,— відаць дзіця ўзяла з калыскі. Полаг на почапках калыскі быў адхінуты.

Башлыкоў і з ёй ветліва прывітаўся, але жанчына не адказала. Паглядзела на яго, кінула позірк на іншых, нядобра, спадылба. Вочы нібы судзілі: чаго прыперліся! Абвяла вачыма і адвярнулася.

Паказала, што ведаць не хоча.

Глушак, як бы і не бачыў маладой, з вясёлым тварам павярнуўся да першай, што паставіла вядро ў кут ля парога.

— От застаўляеце вы, цётко, начальство з раёну трывожыцца!

Башлыкоў прыкмеціў: маладая зірнула злосна, злосна адвярнулася. Лагодна перапыніў Глушака, дзелавіта спытаў у старой:

— Дзе гаспадар ваш?

Дубадзел паясніў Башлыкову, што чалавека ў цёткі няма, загінуў на вайне, гаспадарыць у цёткі сын Васіль.

— Ці дома ето Васіль?

— Дома,— кіўнула Глушаку старая. Момант як бы думала, разважала, не зусім упэўнена сказала:— У хаце новай корпаецца. Ніяк не ўлезем...

Дзядзька ў кароткім кажушку, што аказаўся і тут, варухнуўся быў кінуцца пазваць, але адумаўся. Рашыў, мусіць, што і тут старанне яго можа не спадабацца.

Старая выйшла. Пакуль не вярнулася, у хаце была негасцінная цішыня. Дзядзька ў кажушку не вытрываў, папракнуў маладую:

— Што ж ето ты, Маня, так нявежліва да гасцей? Спінаю, так сказаць...

Тая яшчэ нацялася, прамаўчала. Дзядзька гарэзліва падміргнуў Глушаку, Дубадзелу, пакруціў галавою: «От стварэнне!» Башлыкову прыйшло ў галаву,

што гаспадар, не інакш, бачыў іх з новай сваёй будовы, не пажадаў бачыцца. Думаў, значыць, адсядзецца!

Башлыкоў павёў позірк па хаце: цесна, бедна. Як ва ўсіх беднякоў, ні аднаго ложка. Палаці, на палацях дамотканае рыззё. Падлога, праўда, не земляная, але падгніла ўжо. Гнілыя вушакі ў акенцах. Сцены пакрыўленыя, гнілаватыя таксама. Па ўсіх прыкметах — век хаты нядоўгі. Як і ў іншых хатах — бруду даволі.

— От і хадзяін наш! — аб'явіла жанчына з парога.

Малады гаспадар, у світце, у лапцях, з парога паздароваўся, кінуў позіркам, запыніўся на Башлыкове. У тым, як паводзіў ён сябе, найбольш адчувалася годнасць, іменна яе ён выказваў тым, як спакойна зняў шапку, як стаяў каля дзвярэй. За гэтай знешняй упэўненасцю Башлыкоў, аднак, бачыў насцярожанасць. Позірк, прыкмеціў, быў пільны, нібы пытаў: чаго прыбылі! І ведаў загадзя: не для добрага.

Башлыкоў разумеў: дыпламатнічаць тут няма чаго. Пайшоў адразу напрасткі.

— Прыбылі мы да вас — даведацца, чаму не хочаце ісці ў калгас.

— Чаго ад народу адстаеш! — падмацаваў Башлыкова Дубадзел.

Гаспадар пераступіў з нагі на нагу, адвёў позірк. Адвёў з нудою: чуў ужо такое. І адказваў не раз. Чаго ж тут гаварыць попусту. Знарок зачапіў словы Дубадзела:

— Народ шчэ і там, і тут...

— Перадавы народ увесь там! — заявіў перакананa Дубадзел.

Гаспадар перамаўчаў яму. Перамаўчаў, было відаць, таму, што не хацеў пустой гаворкі, не таіў, што словы Дубадзела ні трохі не змянілі яго ўпэўненасці. Падобна было, што не надае тым словам ніякага значэння. Здавалася, што і самога Дубадзела не надта шануе.

Тут у хату ўвайшоў дзед, зняў шапку, пакланіўся. Лагодна з-пад белых броў агледзеў усіх. Башлыкоў думаў, што прыйшоў хтосьці з цікаўных суседзяў, але дзед, старэча горбячыся, зняў кажух, звыкла палез на палаці. З палацяў, цьмяна свецячы лысінай, ціха папытаў нешта старую, кіўнуў галавою. Башлыкоў ула-

віў, што глядзіць на яго. Разумным дапытлівым позіркам.

— Дак як ты, Дзяцел, на тое, што сказано? — прамовіў строга, патрабуючы, Дубадзел.— Чаму не ідзеш?!

Тон, якім ён гаварыў, добра паказваў, што далікатнічаць, валаводзіцца тут няма чаго. Трэба цвёрда весці сваё.

Маладая ля калыскі неспадзеўкі рэзка крутнулася. Твар яе скрывіла лютасцю.

— Сказалі ўжэ! Сто разоў казалі! — закрычала яна прарэзліва.— Чаго вы ўсё лезеце!

Гаспадар нядобра, строга зірнуў на яе:

— Не тваё дзело.

— Сходаў мало! — не паслухалася жонка.— Сходамі жыць не даюць! Дак шчэ і ў хату век!

Твар гаспадара скамянеў ад гневу.

— Не сунь носа! — узняў голас гаспадар.— Сказано!

У голасе яго чуліся сіла і цвёрдасць. Жонка зірнула на яго, недавольная, яшчэ поўная лютасці, але не запярэчыла. Не наважылася.

— Усё лезуць! — не вытрывала, прамовіла непрыхільна. Цішэй ужо, саступаючы.

— Тым часам, думаем пра ето ўжэ,— прымірэнча, разважліва ўступіў дзед ад палацяў.

У тым, як гаварыў дзед, адчувалася, што ён бачыць, што гаворка пайшла неразумна і нічога добрага з яе не будзе. Што без яго ўдзелу не будзе ладу ў гарачай і бесталковай спрэчцы маладых. У тым, як гаварыў і трымаўся дзед, бачылася, што ён наогул перакананы ў асаблівым значэнні сваім тут.

— Доўга думаеце,— з павагай, нібы становячыся ўпоравень з ім, як роўны роўнаму, зазначыў Башлыкоў.

— Доўго,— не запярэчыў дзед.

— Хутчэй думаць трэба! — параіў Башлыкоў з павагай і зноў як роўны з роўным. Нават непрыкметна для сябе пераняў яго лад гаворкі.

— Да яно б трэба. Толькі ж яно,— з давер'ем сказаў дзед,— тым часам, не просто так і рашыцца! Усё аддаць. Астацца ні з чым.

— Чаму ні з чым! — здзівіўся Башлыкоў.— Усё ваша вашым і астанецца. Толькі што агульным стане.

— Аге,— кіўнуў дзед.

Башлыкову ў гэтым «аге» пачуліся цікаўнасць, разуменне, і ён стаў цярпліва, па-прыяцельску тлумачыць выгады агульнага гаспадарання. Дзед — Башлыкоў ведаў ужо, як яго завуць, казаў да яго пачціва «Дзяніс Ігнатавіч» — слухаў уважліва, ківаў згодна, ухваляў, падобна. Але абяцаў толькі адно: «Трэба падумаць».

Пільны Башлыкоў хутка зразумеў, што лагодны дзед, не інакш, хітруе, адводзіць гаворку ў спакойны кірунак. Змазаць хоча пытанне.

— Думаць цяпер ужо мала,— сказаў Башлыкоў цвёрда.— Дзейнічаць, рашаць трэба! Неадкладна!

Ён адвярнуўся ад дзеда, паказваючы, што ў яго не лішне часу, што чакае рашучых дзеянняў, патрабавальна зірнуў на маладога гаспадара.

— А што гаспадар «думае»?

Ён не таіў іроніі, знарок з націскам сказаў «думае». Малады адразу , як адчуў увагу да сябе, нацяўся зноў, пастражэў позіркам. Выпрастаўся, нібы падрыхтаваўся да бойкі.

— А я пабачыць хачу, што з етаго ўсяго шчэ будзе,— заявіў без хітрыкаў, як бы з выклікам.

— Значыць, вы яшчэ сумняваецеся, што гэта — сур'ёзна?

— Пабачыць хачу.

Спрачацца, даводзіць, адчуваў Башлыкоў, было бескарысна. І ўсё ж, ледзь стрымліваючыся, паказаў, як гэта грунтоўна абдумана і праверана; абдумана партыяй, лепшымі галовамі, праверана мільёнамі людзей. Не першы раз, не першаму гаварыў гэта і не першы раз бачыў, што не даходзяць яго такія ясныя, пераканаўчыя доказы. Як і многія іншыя, нібы не разумеў дарослы, сталы чалавек надзейныя, важкія факты! На шчырае слова Башлыкова ў адказ была тупая глухата.

Бачыў: позірк у гаспадара — упарты, тупаваты. Разумеў: марна даводзіць такому, не дойдзе да такога!

Башлыкова дурная глухата гэта паліла. Трываць не мог ён гэту няздатнасць разумець такі просты сэнс. Гэту дзікую ўпартасць. Каб трохі яшчэ, сарваўся б, нагаварыў бы нястрымных, гнеўных слоў. Але не ха-

цеў наступацца годнасцю, даць ім адчуць перавагу іх. Стрымаў сябе.

Павёў позіркам па хаце, нібы нанава ўбачыў беднасць, убоства яе, гэтага іх «раю», які яны так аберагаюць; варухнулася цяжка, няцямна: чаго яны так чапляюцца за гэта?! Не мог уразумець гэтага. Падумаў ужо без горычы, апанавала раптам душу стома. Надакучыла, без меры надакучыла здзіўляцца глупству. Гаварыць адно і тое ж глухім...

У цішыні, што настала ў хаце, чулася варожасць.

— Мы не праціў, не думайце,— азвалася зычліва і вінавата ад прыпечка старая. Яна глядзела Башлыкову ў вочы з трывогай і надзеяй, як бы прасіла яго злітасціцца.— Толькі ж, праўда,— асмеліцца трудно...

Яна верыла, што ён, такі дасведчаны, адукаваны, зразумее іх.

— Доўга вы асмельваецеся! — не паддаўся ёй, строга вымавіў Башлыкоў. Рэзка заявіў: — А мы чакаць не можам! Не мо-жам!

Не тоячы незадавальнення, нават знарок выказваючы яго, узняўся. Узняліся іншыя.

— Саветуем падумаць, Дзяцел! — з пагрозай параіў Дубадзел. Ён зірнуў так, як бы намякаў на нешта грознае.

Зноў апынуліся на двары. Башлыкову вастрэй кінулася цяпер: новая, з жаўтлявымі, старанна ачышчанымі бярвеннямі хата была нераўня старой — прасторная, з размахам. Трое вокан на двор, два пакоі — відаць у прарэз дзвярэй. Сенцы шырокія пачаты. Гэта ўжо іншая, не бядняцкая хата.

— Выясніць трэба, адкуль лесу набраў! — зазначыў Дубадзел, перахапіўшы позірк Башлыкова. Намякнуў: — Сколькі аплачано.

Калі выйшлі на вуліцу, Глушак вінавата паведаміў Башлыкову:

— Ета — жонка яго — кулацкага роду.— Дадаў з роздумам: — І сам ён, не сакрэт, з кулацкім нутром. Хоць ты цвёрдае давай...

Дубадзел як бы чакаў гэтага, падхапіў адразу ўпэўнена:

— А можно і даць!

Башлыкоў прамаўчаў. Але не запярэчыў.

РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

## 1

Прыпыніліся: куды цяпер ісці. Глушак, не доўга думаючы, параіў — на край, пачаць з першай.

Башлыкоў згадзіўся.

Ступаючы побач з Башлыковым, паведаміў: гэты, калі б не Куліна, жонка, хоць цяпер гатовы ў калгас. Там усё жонка круціць...

Ужо калі ўздымаліся на ганак, Глушак сказаў раптам спакойна, абы сказаць:

— Ето хата той Ганны, што ў школе ў Глінішчах.

Сказаў так, што было відаць: не надае факту гэтаму нейкага значэння. Разумее, што Башлыкову ніякай цікавасці да гэтага, ён можа і не помніць ужо тую Ганну. Сказаў таму, што трэба было гаварыць, тлумачыць.

Башлыкоў і не сказаў нічога. Як бы не выказаў цікавасці да весткі. Зрабіў так, як належала. Але ў душы яго ўсё, што было перад ім, у момант зыначылася. Усё набыло раптам асаблівае значэнне, як бы зазырчэла ў неспадзяваным, яркім святле. На яго як бы абрынулася, апанавала яго моцнае хваляванне. Такое моцнае, што, здалося, не змог стрымаць, здалося, кінулася ўсім у вочы.

Добра, што ступілі ў сенцы, змрок іх памог ухаваць утрапенне. Даў момант, каб абвыкнуцца хоць трохі з неспадзеўкай. Мімаволі падумалася: трэба ж, каб так сышлося! Проста ў хату яе трапіць! Як знарок! За гэтым узяло вострае, новае: «А можа і яна тут?!»

Хваляванне яго ўзяло новы кірунак. Сэрца забілася часта і трывожна прадчуваннем неспадзяванай, блізкай сустрэчы. Сустрэча гэта трывожыла асабліва таму, што чулася важнай яму і ён не быў, зусім не быў гатовы да яе.

Пільны, насцярожаны, ступіў ён у хату. Адразу ўхапіў позіркам: у хаце была адна пажылая, чырванатварая жанчына, што клапацілася пры печы. Як бы не верачы, агледзеў хату: у пакоі нікога больш не было. Ён на момант як бы ўзрадаваўся, адчуў палёгку.

Хаваючы толькі што перабытае, паважна, упэўнена прывітаўся. Жанчына, падгарнуўшы жар у печы, тры-

маючы чапялу ля ног, дапытліва і няцямна ўгледзелася. У позірку яе нелагодных, унізлівых вачэй было насцярожанае: чаго прыйшлі? Гэта, відаць, так турбавала, што не адказала на прывітанне.

— А дзе дзядзько? — са знарочыстай весялосцю спытаў Глушак.

— На печы...— нелагодна і, падобна, неахвотна прамовіла жанчына.

Дзядзька, мусіць, прыслухоўваўся да размовы. Пасля жончыных слоў на печы паказалася яго ўскудлачаная галава, потым і ўвесь ён, хударлявы таксама, у даматканых сарочцы і штанах, босы, з кручкаватымі жоўтымі пальцамі на нагах. Мелькам зірнуўшы на гасцей, павольны і спакойны ссоўваўся з печы.

— Што ж ето ты, Чарнушка! Сярод белаго дня! — папракнуў яго Дубадзел.

Чарнушка зніякавела паскардзіўся:

— Прастудзіўся недзе.— Нібы падмацоўваючы словы свае, сіпла закашляў: — Грэюся от.

Башлыкоў сачыў за ім з цікаўнай увагай. Звычайны селянін, якога ён упершыню бачыў, адразу вылучыўся сярод іншых: гэта быў яе бацька. Як і жонка яго, самы блізкі да глінішчанскай знаёмай незнаёмкі чалавек. Яна, тая загадкавая прысуха, была часцінкай гэтых людзей, у іх нібы таілася адгадка той загадкі, якая карцела яму.

Сочачы за дзядзькам, адзначыў мімаволі: тая, глінішчанская, мала падобная на бацьку. Толькі ў ладзе твару нешта блізкае, у позірку вачэй, спасцярожлівым, разумным. Але ў позірку гэтым няма той жывасці, неспакою, што раз-пораз паблісквалі ў вачах глінішчанскай красуні. З маці яшчэ менш падабенства. Здаецца, зусім няма... Побач з гэтым прайшло мімаволі: колькі зацятасці і непрыязнасці ў твары маці! Як бы загадзя папярэджвае: нічога добрага не чакайце!

Трывогі той, амаль страху, што момант былі апанавалі, ужо не ведаў. Сэрца білася ўпэўнена. Усё ж спакою поўнага не было. Хваляваў, даваў вастрыню адчуванням той факт, што гэта яе хата, яе звыклы свет. Ад таго ■ не абы-якой цікавасцю ўбіраў усё, што бачылася: пафарбаваная, сіняватая старая печ, прыладдзе для печы і венік у куце ля дзвярэй, кажух, кінуты на лож-

ку. Ложак накрыты даматканай коўдрай. Вазоны ў абодвух вокнах, што на вуліцу. Стары, учарнелы стол без настольніка, з непрыбранымі міскай і лыжкамі. Абразы ў куце, здаецца, нявetліва ўзіраюцца ў няпрошаных гасцей... Небагатая, нават — бедная сялянская хата. Кожная рэч у ёй, здаецца, гаворыць пра кепскі дастатак, пра затхлую даўніну, затхлае жыццё.

Гэта дадавала ў адчуванні Башлыкова супярэчлівасці: неяк цяжка было паверыць у тое, што бачыў сваімі вачыма — што тут, у гэтай беднасці, гэтай затхласці, гэтай нікчэмнасці, магла яна нарадзіцца, жыць! Тое, якой ён яе бачыў і помніў, так не пасавала з гэтым, што не ядналася ў адзін свет, ён нібы не мог уявіць яе сярод усяго гэтага. Не мог нават нібы згадзіцца, што такое магло быць.

Гэты факт меў і іншае, добрае значэнне. Тое, што яна не дзе-небудзь, а іменна тут жыла, адсюль выйшла, значыла, што ў яе горнае, блізкае паходжанне. Вядома, паходжанне яе не пралетарскае, не рабочае, але ўсё ж — працоўнае і, як можна бачыць, бядняцкае. Гэты факт значыў, што яна блізкая яму па становішчы, у адных з ім шэрагах. Ён, Башлыкоў, канешне, і не думаў, што яна памешчыцкая дачка, памешчыкаў даўно няма, але магло ж здарыцца, што ў становішчы яе ёсць якая-небудзь закавыка, якая б сапсавала ўсё адразу. Бывае ж такое тут ледзь не на кожным кроку... Не прызнаючыся сабе, пабойваўся гэтага: тым больш што ў глінішчанскай знаёмай чуліся нейкая ганарлівасць, непадступнасць. На шчасце, падазрэнне гэта адпала...

У тым, што хвалявала Башлыкова ў гэты момант, было і яшчэ адно, прытоенае. Ён стрымліваў гэта, як не вартае яго, але яно ўсё ж было і ўсё ж цешыла. Тое, што яна выйшла з такой беднасці, і такой чарнаты, што ён бачыў гэта, можна сказаць, дакранаўся сам да гэтага, рабіла яе ў яго вачах больш звычайнай, блізкай. Як бы там ні было, ад той сустрэчы ў Глінішчах жыло ў Башлыкове неадольнае захапленне ёю, адчуванне нейкай нібы незямной завабнасці, нават нібы недаступнасці. Смешнае, хлапечае пачуццё, дзіўнае ў сталым чалавеку, адказным работніку. І вось бачыў сам, сваімі вачыма: зусім зямная, падобная на іншых, нават звычайная. Даступная.

Поўны супярэчлівых адчуванняў, пільным позіркам вылучыў картку на сцяне ў самаробнай дубовай рамцы. Зацікавіўся ў момант: на картцы было двое, мужчына і жанчына, маладыя, побач. Працяла здагадка: яна з некім, ледзь не ўстаў, не ступіў бліжэй. Стрымаўся, прыгледзеўся зводдалек: на здымку былі бравы, з круглай мікалаеўскай фуражкай, з пагонамі салдат і танклявая, у белай кофце і доўгай спадніцы жанчына. Даўняя, пажоўклая ад часу картка і мікалаеўская, набок, зухаватая фуражка сведчылі, што здымку багата гадоў. Але танклявая маладая жанчына здалася дзіўна падобнаю на Ганну. Хто гэта?

Гадаючы пра гэта, узрушаны яшчэ ўбачаным і адчутым, Башлыкоў цяжкавата сачыў за тым, як Глушак цырымонна, па-сялянску падступаўся да гаспадароў, тлумачыў, чаго зайшлі.

Дубадзел, што нецярпліва і з гаспадарскай упэўненасцю пахаджваў па хаце, не вытрываў глушакоўскай цырымоннасці, перабіў яго, аб'явіў адразу:

— Адным словам, явіліся выясніць: чаго ў калхоз не ідзеце?

У тым, як ён гаварыў, было не так пытанне, як патрабаванне адказаць, адкрыта і ясна. Было і абвінавачанне: чаму валаводзіце ў гэтай, такой простай справе?

Стары, падобна было, і наогул чуў сябе ніякавата ад таго, што засталі на печы, горбіўся, адводзіў вочы. Пасля Дубадзелавых слоў ён, здалося, яшчэ больш угнуў плечы, унурыў позірк. Хвіліну было цягучае, звыклае ўжо маўчанне. Тады стары неспадзявана ажыў, усміхнуўся, дзіўна, па-змоўніцку да гасцей: як бы пасмейваючыся з імі. Вясёлым вокам павёў да печы, да жонкі.

— Да я хоць сягоння гатовы,— прамовіў хітравата, нібы бесклапотна.— Хоць зараз. Калі яна скажа, што згодна. Угаварыце яе!..

У позірку яго, у манеры гаварыць мільгнула Башлыкову знаёмае: так мела звычку паглядваць, гаварыць тая, глінішчанская, яго дачка. Старая ля печы, чырвоная, злосная і да таго, зіркнула на мужа так люта, што і Башлыкову стала не па сабе. Разгневаная, усхапіла чапялу, што трымала, з такім рашучым выглядам, што было відаць — не завагаецца ні на мо-

мант. Чарнушка адразу спрытна ўскочыў. Сур'ёзны, пагрозны, папракнуў:

— Ну, здурнела! Гасцей пасаромейся!

Мяркуючы па тым, як яна глянула на Башлыкова, толькі дзякуючы яму чапяла затрымалася, стала зноў на падлогу. Але старая дала волю гневу свайму:

— Ён хоць сягоння гатовы! Угаварыце яе! Гаспадар, няма чаго! Сам гатовы распетрыць усё! «Хоць зараз аддам усё!..» Кепікі яшчэ строіць!

Чарнушка, мусіць, каб не рызыкаваць больш перад гасцямі, адно прамовіў з папрокам:

— Чаго там распетруваць!..

Старая, разгневаная, не глядзела на яго. Худыя грудзі хадзілі часта, неспакойна. Дубадзел, што сярод хаты сачыў за ўсім весела, як бы забаўляючыся,— на што аптыміст, а зазначыў важка, без радасці:

— З тваёй жонкай, Чарнушка, чорт не згаворыцца! — Ён, аднак, тут жа змяніў тон гаворкі: не яму было паказваць кволасць, ды яшчэ перад Башлыковым, дадаў нібы жартам: — Дажджэцца яна, што прыпаяем цвёрдае!

Жанчына ці не разумела жартаў, ці ведала, што значыць жарт Дубадзела, зірнула люта на яго, урэзала:

— Цвёрдае! Ето нам цвёрдае?! Кеб у цябе язык папух, за такія твае словы!

Яна ў запале вельмі спрытна далучыла да гэтага яшчэ некалькі, такіх жа ласкавых і шчырых пажаданняў.

Было відаць: старая не ведае, што такое далікатнасць. Зацятая, было відаць, і смелая: стоячы за сваё, ні перад чым не спыніцца. Дубадзел, ці то таму, што добра ведаў старую, ці таму, што лічыў не годным паступацца перад жанчынаю, адказаў ёй рогатам: нібы ўхваліў спрыт пажаданняў. Паказаў, што не крыўдзіцца.

Усё ж надышла нядобрая няёмкасць. Няёмкасць гняла і Башлыкова, яго можа нават больш, чым іншых. Усё тое, што ён адчуў ад старой, маці яго завабнай знаёмай, так не пасавала з усім тым, што ад сустрэчы ў Глінішчах было ў душы. Гэтае так груба таптала тое кволае, добрае, што чулася яму як абраза яго шчырым пачуццям.

Абражаны, Башлыкоў не знаходзіў той цвёрдасці, якая прыходзіла заўсёды ў такі момант. Тое, што перад ім быў не нехта чужы, а самы блізкі чалавек загадкавай глінішчанкі, зыначвала, блытала ўсё.

Глушак, відаць, лічыў сябе асабліва вінаватым за нядобры лад гаворкі: як-ніяк, такое было ў яго вёсцы. У вёсцы, за якую ён фактычна адказваў перад райкомам як адзіны партыец і старшыня калгаса. Таму натуральным было, што ён рашыў выправіць становішча. Глушак палічыў самым надзейным сродкам ласкавасць.

— З цёткай Кулінай мы згаворымся,— прамовіў ён па-таварыску, мусіць, тым тонам, якім гавораць добрыя суседзі.

Жанчына, аднак, не адгукнулася на гэту хітрасць. Лісліваспь, што чулася ў голасе Глушака, яе нават запаліла. Яна з дзіўнай радасцю абрэзала:

— Ты сваю матку ўгавары спярша!

Быў у яе словах нейкі намёк. Улавіўшы гэта і, пэўна, зразумеўшы, што гэта адчулі і другія, Глушак занепакоіўся, але зрабіў выгляд, што ў словах Чарнушчыхі няма нічога.

— Чаго яе ўгаворуваць? — нібы здзівіўся ён.— Яна ўжэ ўступіла...

Здзіўленне яго было такім няшчырым, так чулася ў ім трывога, што гэта было відаць усім. Ён, няйнакш, хацеў годна адступіць, не ганьбячыся перад гасцямі.

Лепш бы ён перамаўчаў старой. На яго словы Чарнушчыха зноў ускінулася.

— Аге! — згадзілася яна, радасна-з'едліва.— Уступіла! Улезла! Да не знае, як вылезці!

— Што ето вы кажаце, цётко? — Глушак гаварыў зноў няшчыра і мірна, як бы прасіў перамаўчаць. Не сараманіць перад чужымі.

— Што кажу! А што сяло ўсё чуе! — Не жадаючы гаварыць марна, яна змяніла кірунак размовы. Каб адразу выказаць усё, заявіла непахісна: — І слухаць не хочу пра ваш калгас!

Тут уступіў у спрэчку Башлыкоў. Роўным, стрыманым тонам, з упэўненасцю чалавека, які багата больш ведае і разумее, папракнуў за баязлівасць, за тое, што верыць варожым плёткам. Сказаў, што мільёны працоўных сялян адкінулі паклёпы кулацкіх элементаў,

смела пайшлі па калгаснай дарозе. Што мільёны людзей пераканаліся ўжо на жывым вопыце ў перавагах калгасаў. Выбраліся з галечы, з голаду.

— Хто выбраўся, а хто — улез! — адрэзала нецярпліва жанчына.

Сказала так злосна і непахісна, што было відаць: гаварыць з ёй далей марна. Усё ж Башлыкоў з цярплівасцю, на якую толькі быў здатны, павёў гаворку далей. Паспрабаваў пераканаць, што страхі іх — дарэмныя, што трэба смела выходзіць на новы прастор. Гаварыў то да старой, то да Чарнушкі — Чарнушка, звесіўшы ногі з палацяў, горбячыся, слухаў з пільнай цікавасцю, старая ля печы камянела нерухома. Не таіла, знарок паказвала, што чуць нічога не хоча.

Зацятая злосць і глухата старой панурым ценем захмарылі ўсё, што ўвайшло ў душу Башлыкова ў гэтай неабыякавай яму хаце.

Нарэшце цярплівасць яго скончылася, ён важка ўзняўся з лаўкі. У яго было брыдкае адчуванне бяссілля і нібы зняважанасці, яны асабліва хвалявалі яго ў гэтай хаце. Стараючыся адолець прыкрасць, паказаць як мае быць сваю годнасць, ён строга, з намёкам параіў старой, Чарнушку добра падумаць над тым, што ён сказаў. Тон, якім ён гаварыў, паказваў: гэта вельмі важна. Каб не шкадавалі потым.

Даў стрыманае «да пабачэння» і цвёрда рушыў да дзвярэй. На ганку зіхнула шырокім святлом снежнага дня, дыхнула марозам. Башлыкоў маркотна, няцямна акінуў вузкі, убогі двор, падумаў стомлена: як яна вырасла такая тут, у глухамані, у затхласці гэтай!.. Акінуў неўразуменным позіркам двор, пакіраваў на вуліцу.

За веснічкамі Дубадзел, што выйшаў першы, пачакаў яго, пакрочыў побач, дужа, бадзёра пагойдваючыся ў хадзе. Зірнуўшы на заклапочаны твар Башлыкова, здагадліва зразумеў настрой таго, адгукнуўся па-сяброўску:

— Ету разгаворчыкамі не возьмеш! Етай трэба другое срэдства!.. Меры трэба!..

Глушак гойдаўся в другога боку, маўклівы, з вінаватым тварам. Башлыкоў не дзівіўся: было чаго адчуваць вінаватым. Не дзівіўся і не спачуваў Глушаку:

заслужана атрымаў. Глушак, як бы дабіваючыся вярнуць страчаную дружбу, выказаў раптам горача, гнеўна:

— Злая жмінда!.. Ето ж,— паведаміў шчыра,— з-за прагнасці сваёй Ганну выпхнула з дому! Жыццё дзеўцы пакалечыла!

Вестка гэта праціяла панылае думанне Башлыкова, ён кінуў зацікаўлены позірк на Глушака. Вунь што! Вунь чаму яна ў Глінішчах! — адкрыў ён адну з загадак. У ім зацеплілася спачуванне. Башлыкоў, аднак, тут жа нагнаў строгасць на твар, паказаў, што турбуецца іншым, галоўным, і Глушак перамаўчаў.

Не адгукнуўся на Глушакову вестку і Дубадзел. Не да таго было: падышлі да новага двара.

2

Праз некалькі хат натрапілі на застолле.

На стале, пасярод яго, круглілася чорная скаварада з недаедзенай яечняй. Побач былі глыбокая гліняная міска з мокрымі агуркамі, кацялок з бульбай у мундзірах, паўбохана хлеба. Мутна значыліся дзве пустыя шклянкі.

Бутэлькі на стале не было. Пэўна, прыхавалі спехам, пакуль яны, госці, ішлі па двары, у сенцах.

Было відаць: не ў час прыбіліся.

У хаце было траіх. Адна, старая, сухая, корпалася пры печы. Двое другіх гаспадарылі за сталом, яны найбольш кідаліся ў вочы. Асабліва ўпадаў у вочы той, што быў насупраць: чырвоны, з сальным водбліскам на лбе, на шчоках, здаровы, горбіўся над сталом магутнай глыбай. З-пад нізкага лба дробныя вочы глядзелі нядобра, тупавата. Башлыкову мімаволі падумалася: сустрэнешся з такім у лесе — аднаго выгляду напалохаешся. Другі на першы пагляд не вылучаўся нічым: няdespite рослы, сухаваты, у старым пінжаку, у расшпіленай сарочцы, здаваўся вельмі звычайным. Заўважаўся хіба позірк: светлыя, з-пад чуба, вочы глядзелі востра, пранізліва.

— Здароў, Ларывон! — сказаў Глушак асобна, калі прывіталіся з усімі.

Ларывон зірнуў нібы з недавер'ем, не адказаў. У тупым позірку паявіўся цяжкі роздум.

— Здароў,— выціснуў неахвотна, пільна ўтаропіўся.

Башлыкоў успомніў мянушку Ларывона, якую яму сказаў Глушак: «Бугай». Падумаў з ухвалай: «Дакладна назвалі. Бугай і ёсць».

— Угашчаецеся? — ці то проста адзначыў, ці то папракнуў Дубадзел. Голас быў звонкі, гаспадарскі.— Свята якое?

— Свята,— адказаў Бугай з насцярожанасцю і з выклікам. Башлыкоў прыкмеціў: Бугай павёў пазіркам да таго, у пінжачку, з чубам. Павёў пазіркам не проста так, а нібы пытаючыся.

Глушак помніў сваю ролю, выказваючы тонам голасу належную значнасць моманту, назваў Башлыкова, яго пасаду. Потым, павярнуўшыся пачціва да Башлыкова, сказаў пра гаспадара: Ларывон Глушак. Тут Міканор затрымаўся, вагаючыся, мусіць, знаёміць ці не знаёміць з Ларывонавым госцем. А можа разважаючы — як яго назваць.

Той, у пінжачку, унізаў востры позірк у Міканора Глушака, пачакаў з выразнай насмешкай. Устаў, з гуллівым выразам на твары пакланіўся:

— Яўхім Глушак. Сын Халімона Глушака.

У тоне, якім ён назваўся, пад гуллівасцю таілася значнае, сур'ёзнае.

«А-а, вось ён!» — Башлыкоў не ўхаваў цікавасці, прыгледзеўся: асоба гэта завочна даўно была вядома сакратару райкома. І неабыякаваю была. Таму першым адчуваннем была цікавасць: а, вось які ён знешне. Гэта прабівалася праз даўнюю і трывалую непрыхільнасць да яго, кулацкага сынка, па вестках, якія даходзілі да Башлыкова — небяспечнага тыпа. Тое, што цяпер бачыў Башлыкоў, не мяняючы нічога, дапаўняла ўсё, што ён ужо ведаў, рабіла больш наглядным, жывым. Такою была цікавасць, з якою Башлыкоў глядзеў на Глушака.

Услед за гэтым Башлыкоў адзначыў уважліва, як пранікліва гэты кулацкі выкармак выкрыў сэнс Міканоравага вагання і як спрытна знайшоў, што сказаць. У момант зразумеў, што ад яго трэба. Здагадлівы проста на дзіва. І разумны, відаць. Па-свойму, вядома, разумны.

«Халімона Глушака сынок. Яс-сна».

Яўхім Глушак нібы ведаць не хацеў, што там пра яго могуць разважаць. З той жа насцярожлівай гуллівасцю глянуў да печы, з дзіўнай, задзірлівай весялосцю сказаў:

— Цётко, што ж вы ето! Не прыглашаеце гасцей за стол! — Ён павярнуўся да Ларывона, крутнуў галавой і з дакорам: — І ты, Ларывон!

— Аге! — адразу азвалася старая. Мітуслівa ўзялася перавязваць фартух, як бы паказваючы, што зараз гатова старацца для гасцей.

Ларывон не зварухнуўся, таропіўся ў Яўхіма Глушака, п'яна, няцямна: як бы хацеў зразумець нешта і не мог.

— Такія госці прыбулі! З самаго раёну! — Яўхім Глушак гаварыў без ліслівасці і без насмешкі, нібы тлумачыў абоім: — Можно сказаць, першы чалавек у раёне. І — сваё начальство! — Тут Глушак кіўнуў на Дубадзела.

Пры апошніх словах, улавіў Башлыкоў, зноў пачулася гуллівасць. Гуллівасць была такая, быццам кулачок падсмейваўся з Дубадзела. Быццам лічыў сябе роўным з ім.

Ларывон Бугай кінуў позірк на Яўхіма Глушака і раптам дзіўна павесялеў. І позірк быў вясёлы, гарэзны, як бы змоўніцкі; здалося, паказваў дружку: зразумеў усё, падтрымаю.

Чырвоны твар распоўзся дурнаватаю ўсмешкаю. Дужа ўзняўся, шырока павёў рукою з тоўстымі, нібы распаранымі, пальцамі. Нахабна-шчодра аб'явіў:

— Давайце!.. Прыглашаю ўсіх!..

Башлыкоў паглядзеў на яго са знішчальнай строгасцю, хацеў асадзіць адразу, адкінуць недарэчныя жарцікі. Адрэзаў строга, годна:

— Дзякую. Але мы прыйшлі па справе.

— А што, за сталом хіба не робяць справы? — адгукнуўся адразу той, у пінжаку.

— За сталом толькі і робяць! — падхапіў Ларывон.— Усякая справа за сталом — як па маслу! За яечняй ды з чаркай — адразу йдзе!

Ён зіркнуў на Глушака, як бы чакаючы ўхвалы, галасна зарагатаў. Адчувалася, здаравіла гэты ва ўсім слухаўся таго, дружка. Той кіраваў ім.

Глушак не падтрымаў рогату, і Ларывон сціх.

Тут у гаворку ўступіў Міканор Глушак: адчуў, што настала яго пара. Важна, вельмі недавольна, як бы судзячы, папракнуў:

— Чаго з калгасам валаводзіш? Заяву не падаеш!

Ларывон знарок пачухаў патыліцу. Ашчэрыўся задзірліваю, нахабнаю ўсмешкай.

— Няграматны я. Пісаць не ўмею.

Міканор не адказаў на ўсмешку, але падхапіў яго словы:

— Дак можа — памагці? Напісаць табе?

— Не трэба,— адказаў ён цвёрда. Потым паспрабаваў зноў нібы пажартаваць: — От сам вывучуся...

— Доўго сабіраешся! — аб'явіў упэўнена Дубадзел. У тым, як ён сказаў свае словы, здавалася, быў яшчэ важны, недагавораны сэнс.

— А хіба трэба канешне хутко? — Ларывон, адчувалася, не хацеў адступацца ад свайго тону. Стараўся трымацца малайцом. Нават пакпіў: — Ці вы баіцеся не ўправіцца?

— Каму можа і трэба баяцца,— адказаў рэзка Дубадзел, зноў быццам прытаіўшы важнае, з якім лічыцца трэба.— Толькі не нам. Нам баяцца няма чаго. Цягнуць не хочацца. Ясно?.. Дак як?

Пытанне Дубадзела было грознае. Ларывон сцёр усмешку.

— Што вам канешне я? — сказаў ніякавата. Ён глянуў на дружка, які быццам не бачыў нічога.— У вас ужэ і без мяне багато. Хапае без мяне... А я і граматы не знаю...

— Хваціць граматы! А не хваціць — навучым! Бо ты ж, мабуць, араць, сеяць не вучаны! — паіранізаваў Дубадзел.

Ларывон прамаўчаў.

Башлыкоў адчуваў, што ва ўсім тым, што гаварыў і як трымаўся Ларывон, мела значэнне, што побач быў друг яго, Яўхім Глушак. Ларывон усё рабіў так, каб выглядаць малайцом перад другам.

Друг жа, можна было падумаць, вельмі спакойна сачыў за ўсім, што было з Ларывонам. Выглядам сваім паказваў: тое, што гаварыць і як паводзіць,— клопат аднаго Ларывона, нікога больш не датычыцца. Башлыкоў, аднак, бачыў, што слухае і сочыць за ўсім Глушак гэты неспакойна, нацята. Толькі стрымліваецца, тоіць.

Умее стрымлівацца. Па ўсім відаць, характар дужы. Відаць: цану сабе ведае. Цэніць сябе высока. Больш, чым трэба, няйнакш...

Башлыкоў быў упэўнены, што бачыць яго навылёт. Не з такіх Башлыкоў, каб надта даверыцца таму, што бачыцца звонку. Ды і звонку пільнае вока нямала прыкмеціць можа. Тоіцца Глушак, але выдаюць яго вочы. Не-не ды і пакажуць, што там на душы. Цікаўнасць і непрыязнасць там, схаваныя. Апасліва схаваныя. Башлыкову такое вядома ўжо. Не адзін раз прыкмячаў такое ў іншых.

Яўхім Глушак, аднак, раптам засмяяўся адкрытай, задзірыстай усмешкай. Задзірыста запытаў Дубадзела:

— Дак можа і мяне возьмецеся навучыць грамаце?

Дубадзел памаўчаў строга. Засунуўшы рукі ў кішэні шыняля, стаяў недаступны, непахісны. Паказаў, што не ўхваляе такога несур'ёзнага тону з такім пытаннем. Прамовіў важка:

— З табой не возьмемся. З табой асобы разгавор.

— Чаму ето?

— Ты знаеш.

Глушак раптам парывіста павярнуўся да Башлыкова. Башлыкоў убачыў проста перад сабой яго вочы: яны глядзелі востра, патрабавальна.

— А мяне чаму не завеце? — сказаў ён ціха, з выклікам.

Позірк быў такі смелы і ў тоне была такая ўпэўненасць, што Башлыкоў мімаволі прыгледзеўся: як бы нанава пазнаваў чалавека ў пінжаку. Як бы ўбачыў толькі што.

Башлыкоў не быў чалавекам вельмі ўражлівым. Усяго нагледзеўся і да ўсяго быў гатовы. І ўсё ж тое, з якой смеласцю, нават нахабнасцю глядзеў і пытаў гэты выкармак, адзначылася ў ім. Нібы судзіць, нібы загадвае!

Было ў тым, што адчуваў Башлыкоў, яшчэ адно: вось ён, адкрыўся сваёй сапраўднай сутнасцю, кулацкі выкармак. Паказаў сваё аблічча. Выказаў жаданне сваё.

«Чаму мяне не завеце?» — Чаго захацеў!

— А я — пайду! — сказаў Глушак, нібы задзіраючыся.— Зразу пайду! Ей-бо! От хоць цяпер!

Па тым, як ён глядзеў і казаў, Башлыкоў адчуваў: пойдзе!

Башлыкова не дзівіла гэта: сярод такіх нямала ўжо бачыў, што гатовы былі. Толькі чаму гатовы былі, дзеля чаго? Гатовы — таму, што хацелі ўхавацца ад падаткаў, цёпла ўладзіцца, зашыцца. Каб дачакацца зручнай пары. Каб шкодзіць знутры.

— Пайду! Толькі скажыце!

— Ведаю,— дасведчана, лядзяна аб'явіў Башлыкоў.

— Не хочаце!

— Не хочам.

— Чаму? — наступаў Глушак. — Я здам усё! Рабіць буду, як усе. Старацца буду.— Позірк яго ўсё вастрэў. Усё нецярплівей унізваўся ў Башлыкова.

— Старацца вы будзеце,— губы Башлыкова працяла з'едлівая, мудрая ўсмешка. Уся іронія яго была ў гэтым «старацца».

— Старацца буду! — зацята вёў сваё Глушак. З рашучасцю, як самае пераконлівае, выказаў: — Што я, жыць не хочу?

Башлыкоў падхапіў гэта:

— Іменна таму, што жыць хочаце. Па-свойму! Пакулацкі!

Ён сказаў [redacted] нудою на твары і з нудою ў голасе. Сказаў і адвярнуўся, паказваючы, што кончыў непатрэбную балбатню.

— Не хочаце! — пачуў ён.

Глушак прамовіў гэта так цвёрда і з такой нястрымнай злосцю, што Башлыкоў азірнуўся.

Іх позіркі сутыкнуліся. У вачах Глушака гарэла такая лютая нянавісць, што здавалася: ён любы момант можа кінуцца, учапіцца рукамі ў шыю.

— Не хочаце! Куды ж мяне? Куды ўсіх нас? На падсцілку! На гной! Ці — як вошы, падногаць!

Па тым, як казаў ён, Башлыкоў адчуў, што гэта — не выпадковае. Перадуманае. Што яно збіралася не сёння і вось — вырвалася.

І ад таго, што ён бачыў, якая лютасць за гэтым і якая смеласць у вачах кулацкага выкармка, ён адразу зразумеў, як небяспечны гэты тып. І як неабходна ўжыць належныя захады, каб яго абясшкодзіць.

Ён павёў гаворку [redacted] Ларывонам. Стараўся гаварыць

разважна, стрымана, але ўзрушанасць не адступала. З ёю ён і пакрочыў з хаты.

На вуліцы ён увесь час адчуваў на сабе ненавідны, бязлітасны позірк Яўхіма Глушака. Недарэчна падумалася, што, калі з такім трапіцца сустрэцца на дарозе адзін на адзін!

Тады прыйшла іншая, цвярозая думка, важнасць якой ён адчуў адразу: вось такія тут і верхаводзяць! Разумеючы нядобрае значэнне гэтага факта, Башлыкоў падумаў турботна:

«Чаму ён расхаджвае на волі?»

3

Яшчэ адна сустрэча выдалася асабліваю.

Ігнат Глушак — вядома ж, Глушак,— хударлявы, нервовы, лысы, з нейкай дзіўнай іроніяй ківаў, калі Міканор, Дубадзел, а потым і Башлыкоў тлумачылі прычыну прыходу, папракалі за адсталасць.

Да пары да часу маўчаў, ківаў лысаю галавою, а вочы, пільныя, хваравіта-неспакойныя, сцераглі, высочвалі і ўсё свяціліся іроніяй. Нібы паказвалі: вось слухаю, чакаю, калі разумнае што пачую, а няма ўсё, няма...

Не вытрываў хутка, рынуўся, запалены:

— От зганяеце ў гурт!..

— Не зганяем, а арганізуем,— адразу паправіў Башлыкоў.— У калектыў.

— Ну добра — арганізуеце. Зводзіце, нібыто. А хто — над гуртам... над калекцівам будзе?

— Каго выбера агульны сход калгаса.— Башлыкоў без усмешкі дадаў: — Могуць і вас выбраць.

Ігнат зіркнуў строга, заявіў:

— Хрэн вы мяне, нібыто, паставіце!

— Паставім, калі выберуць! — Башлыкоў гаварыў такім тонам, што і сумнявацца не даваў.

Ігнат на момант задумаўся.

— Не выберуць мяне,— сказаў упэўнена, без шкадавання. Проста канстатаваў факт. Потым з выклікам, не вагаючыся, нібы радуючыся, заявіў: — А калі б і выбралі — я б не пайшоў! От!

Вочы яго свяціліся рашучасцю.

— Гэта — іншая рэч...— сказаў Башлыкоў.

— А чаму б я не пайшоў? — Ігнат глядзеў на Башлыкова так, нібы патрабаваў: ну, дапетры, вучоны чалавек! Адказаў сам, з гонарам: — Бо з такім кагалам, нібыто, зладзіць — не з маім харакцерам! Я пераб'ю палавіну!

Так казаў, што было відаць: не жартуе. Пераб'е. Жонка ля стала ўхапілася за галаву: што гаворыць!

— Ігнатко, што ето ты пляцеш? — амаль прастагнала яна.— Людзі і праўда падумаюць.— Ігнат зіркнуў на яе.

— За ето — знаеш што? — падчапіў яго Андрэй, дзядзька ў кажушку, што зноў аказаўся пры іх. Ён заўна пакепліваў дзеля начальства.— Засудзяць па закону!

— Ты, Андрэй, не лезь! Куды не просяць! Не сунь, нібыто, носа!

— Да, дайце выказацца да канца! — распарадзіўся Дубадзел. У голасе яго чулася незразумелая Башлыкову зларадаасць.

Міканор Глушак маўчаў, было відаць, неспакойны: пабойваўся, мусіць, што гэты несамавіты таксама выкіне што-небудзь на бяду яму.

Ігнат, здавалася, не мог бы ўжо спыніцца. Прагнуў дагаварыць, давесці.

— А чаму я перабіў бы? — зноў патрабаваў ён ад Башлыкова: дапетры.— А таму! Бо за кажным вачэй не зводзь! Тут жа стаў чалавека да за ім, нібыто, наглядчыка! Штоб глядзелі, як робіць кажны! Штоб сцераглі дабро! Вачэй не зводзілі! А не, дак такое нарабяць! Расцягаюць усё па норах сваіх! І не ўгледзіш!.. Кажны, ён што? Да сябе добранькі! Да сябе грабе! От!

Башлыкоў спыніў Міканора, які абурана хацеў запярэчыць штосьці, сказаў дасведчана:

— Калгас хутка пераробіць гэту псіхалогію. У калгасе будзе іншая псіхалогія.

— Іншае? — засмяяўся горача Ігнат.— Адкуль яно возьмецца! — Не даў нікому слова сказаць, заявіў: — А я такога цярпець не магу! Я праўду люблю! А тых, хто за праўду,— не любяць!

— Гэта ў вас — адсталы настрой,— сказаў Башлыкоў.

— Дак от, я не пайду! — вёў сваё Ігнат.— Кеб і выбралі, не пайду! — Ён прыпыніўся на момант, востра зірнуў на Башлыкова: — Да і вы не паставіце! — выказаў непахісна.— Я — непаслухмяны, нібыто. Нязручны! А начальство ўсякае нязручных не любіць! Дак вы не возьмеце! А калі і возьмеце, дак патом — пад зад! А я етаго — не люблю! І не пайду адтаго!

Ён перачакаў пярэчанні Міканора, Башлыкова з усмешачкай, якая казала: гаварыце, гаварыце, не саб'еце! Было падобна, што і не слухаў нікога. Ледзь настала паўза, выказаў сваё:

— Дак вы і паставіце — каго?

Ігнат глядзеў з насмешкай, у якой былі і з'едлівасць і непахіснае перакананне ў сваёй мудрасці. Ён імкліва павярнуўся да Міканора Глушака:

— Яго паставіце! Паставілі ўжэ!.. А ён — які гаспадар, запытайце? Ну, Андрэй, скажы,— загадаў ён раптам дзядзьку ў кажушку.

Дзядзька падумаў, аўтарытэтна адказаў:

— Міканор — чалавек сазнацельны, ідзейны.

— Сазнацельны, ідзейны,— перакрывіў яго Ігнат.— Гаспадар ён які, пытаю!.. Гаспадар ён,— сказаў Ігнат дзіўна зларадна,— нібыто у г... пуля! От які ён гаспадар!

— Вы дарэмна абражаеце,— нелагодна сказаў Башлыкоў. Дубадзел падтрымаў яго.

Ігната гэта яшчэ больш запаліла.

— Я праўду кажу. Ён і ў сваёй гаспадарцы не быў ніколі гаспадаром. Поля сам, можна сказаць, адзін не абрабіў. Бацько ўсё. Ці пад бацькавым наглядам. Няпраўду хіба, Міканор? — бязлітасна сказаў ён да цяперашняга старшыні. Той, гнеўны, не адазваўся.

— Ну от,— Ігнат як пераможца павярнуўся да Башлыкова.— А цяпер яму — усе гаспадаркі!

Зноў з насмешачкай чалавека, якога ніхто не можа збіць з адзіна правільных пазіцый, слухаў, што пярэчылі яму. Перачакаўшы, зацята павёў далей сваё:

— От і вы! Адкуль? — рынуўся ўжо на Башлыкова.— З горада — відно! Знаеце хоць, як, нібыто, адрозніць грэчку ад жыта?

— Ты, Глушак, кінь ето! — адразу важка, з пагрозным намёкам сказаў Дубадзел.— Кінь ету кулацкую анцімонію!

— Ігнатко! Памаўчы! — забедавала жонка. Ухапілася за рукаў, хацела адвясці ўбок, як ад бойкі. Ён нецярпліва адштурхнуў яе.

— Не лезь! — У нястрымным запале сказаў Дубадзелу: — Не, няхай ён паслухае! Бо вы ж не скажаце! — Узрадавана сказаў Башлыкову пра грэчку-жыта: — Не знаеце!

Башлыкоў не спрачаўся, не пярэчыў: смешна, нікчэмна было спрачацца, абараняць сябе ў такой дыскусіі. Годнасць не дазваляла прыніжаць сябе такім чынам.

Ігнат махнуў неспакойнаю, кручкаватаю рукою, як чалавек, што гатовы на ўсё.

— Ну, так і быць! Станьце ў нас старшыном! Пайду! Ей-богу! Хоць зараз! Пайду!

— Ты, Глушак, етыя кулацкія свае штучкі! — заступіўся зноў за Башлыкова Дубадзел.— За агітацыю процiў прадстаўніка ўласці — знаеш што?!

— Дзела нашаго, нібыто, не знаеце,— Ігнат не зважаў на Дубадзела, бачыў толькі Башлыкова,— дак хоць грамату знаеце! А сельскаму хазяйству — навучыцеся! Давайце! Пайду! Ей-бо!

Башлыкоў сказаў строга:

— Маім жыццём распараджаецца партыя. Куды яна загадае, туды я і пайду. Не раздумваючы.

— Ну от! — адгукнуўся Ігнат з насмешкай, якая значыла: я так і ведаў. Не пойдзеце.

— Ты, Глушак, кінь етыя жартачкі! — пагразіўся Дубадзел.— Далеко завядуць яны цябе. Запомні!

Ігнат не паслухаўся папярэджання Дубадзела.

— А я не жартую,— сказаў ён задзірыста.— Дзеці унь. Карміць трэба.

Калі ішлі вуліцаю, Міканор Глушак адстаў, прытрымаў з сабой дзядзьку ў кажушку. Башлыкоў, што неўзабаве спыніўся, азірнуўся, бачыў, як Глушак штосьці недавольна кажа дзядзьку, дзядзька спрачаецца з ім ці апраўдваецца.

Башлыкоў падумаў, што Глушак, няйнакш, хоча адшыць дзядзьку, які невядома чаму круціцца побач. Згадзіўся, што правільна робіць: дзядзька тут ні да чога. Падумаў, аднак, Башлыкоў пра гэта мімаходзь,

хвалявала, турбавала яго іншае: толькі што перабытая размова. Было ад яе на душы нядобра, мутна, адчуваў патрэбу разабрацца, праясніць...

— Усюды трэба ўткнуць яму нос! — сказаў Глушак, нібы апраўдваючыся.

Башлыкоў не адгукнуўся. Дымячы папяросай, паказаў, што ў яго свой клопат, і клопат сур'ёзны.

— Душок нядобры! — прамовіў ён значна, ледзь кіўнуўшы да хаты Ігната. Позірк, якім павёў да Глушака, да Дубадзела, казаў, як гэта важна: «душок».

— Д-да,— адразу падтрымаў Дубадзел. Тон згоды паказаў, што ён разумее цалкам, як гэта сур'ёзна.

Глушак вінавата пераступіў з нагі на нагу.

— Пляце сам не ведае што.

— Знае. Добра знае,— выказаў непахісна Дубадзел.

У тым, як сказаў, чуліся і праніклівасць, і нейкі сур'ёзны намёк. Быццам мудрае папярэджанне: небяспечны тып. Трэба пільна глядзець...

— Ад кантузіі можа... Кантужаны буў...

Дубадзел смыкнуў губамі недавольна, сказаў судзячы:

— Сердабольны ты нешто, Глушак!

Башлыкова таксама здзівілі словы Глушака, паблажлівасць яго. Падумаў: разгублены пачутым ці не хоча, каб палічылі, што ён помсціць за злыя словы? Ці — мяккацеласць?..

Не дадумаў, гледзячы ў вочы Глушаку, выказаў галоўнае:

— Як ён, не займаўся такімі разгаворчыкамі публічна?

Міканор на момант задумаўся. Сказаў няцвёрда:

— Да не. Ён не вылазіць асабліва...

— Што значыць — не асабліва? Значыць, бывае часам?

— Да не. Можно сказаць, не...

— Зноў: можна сказаць!

Міканор зусім зніякавеў. Адолеў сябе:

— Не.

Дубадзел хмыкнуў з пагардай.

— А летам? Калі наразалі землю? — сказаў з намёкам. Як бы выкрываючы.

Глушак пачырванеў, пацвердзіў:

— Схапіўся загрудкі. З каморнікам...

— Узялі пад арышт,— Дубадзел гаварыў да Башлыкова. Адкрыта, аддана.— Адправілі ў Алешнікі, у сельсавет.

— Судзілі?

— Не. Адпусцілі.

— Калі?

— Адразу!

— Хто?

— Гайліс.

— Чаму?

Дубадзел прамаўчаў. Маўчанне яго сказала больш за словы. Твар яго сказаў: ён, Дубадзел, дасюль зразумець не можа такі фокус.

— З-за дзяцей... Пашкадавалі...— адгукнуўся Глушак.

Башлыкоў быццам не зразумеў. Раптам, не дакурыўшы, кінуў папяросу ў снег. Рашуча загадаў Глушаку:

— Вядзі!

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

### 1

Гадзіны за тры абышлі яшчэ дзесятак хат, агледзелі калгаснае, паабедалі ў Міканора Глушака.

Было далёка да вечара, калі выехалі з Куранёў. Башлыкоў хацеў пабыць яшчэ ў Мокуці, адной з самых далёкіх і глухіх вёсак раёна.

За крайнімі хатамі Куранёў было трохі поля, белага, чыстага прастору. Хоць конь бег трушком, не надта хапаўся, поле хутка сышло, падступіў сцяною падбелены, маўклівы лес. Неўзабаве вазок нырнуў у гэту зацятую маўклівасць, ва ўладанні лесу, якому, ведаў Башлыкоў, тут канца-краю не было.

Фактычна лясы тут, а можна сказаць, што і лес, адзіны, агромністы, цягнуліся больш як на сотню кіламетраў. У гэтае вялізнае, зацятае ўладарства і ўехаў цяпер вазок.

Ехалі нейкі час моўчкі. Шархалі адно палазы, ды парыпвалі гужы. Дубадзел, горбячыся побач з Башлы-

ковым, наставіўшы каўнер шынелькі, ні то драмаў, ні то думаў. Не варушыўся, маўчаў Башлыкоў. Адпачываў ад нядаўняга клопату, ад бачанага і чутага.

Ад лясной вусцішнасці аж звінела ў вушах. Пакуль не звыкся, пярэсціла ў вачах ад чорнага і белага, ад дрэваў і галін, што насоўваліся, звісалі, знікалі, зноў ішлі і ішлі абапал, над імі. Хоць быў стомлены і не хацеў думаць попусту, было не надта добра, не па сабе сярод гэтай бясконцай лясной глухамані, зацятай цішыні. Было з прыдушаным неспакоем разуменне пэўнай гераічнасці ад таго, што сам, самохаць рашыў дабрацца ў такую глуш.

Пра гэта, пра гераічнасць, аднак, не думаў. Перакананы, што неабходныя сціпласць і самакрытычнасць, нават стрымана іранізаваў над нікчэмнай гэтай уцехай. Падтрымліваў, не студзіў у душы гарачага імкнення, якое было цяпер самым важным для яго: як бы далёка ні было і якія б нялёгкія дарогі туды, усё роўна даедзе, дабярэцца. І дакапаецца. Усё раскапае. Сам.

Дубадзел зварухнуўся, палез у кішэню. Закурыў. Нейкі час курыў, адвярнуўшыся, каб дым не ішоў да Башлыкова. Пра нешта затоена думаў. У вачах, прымружаных, засяроджаных, было вострае, жорсткае. Сутаргава хадзілі худыя сківі́цы.

Курыў похапкам, нервова. Акуркам апёк пальцы, ледзь не мацюкнуўся. Са злосцю кінуў акурак у снег, плюнуў.

Яшчэ нейкі час мружыў вочы кудысьці, соўгаў сківі́цамі. Не пазіраючы на Башлыкова, нібы думаючы ўголас, хрыпата, горача прамовіў:

— Ім разгаворчыкі етыя...— Ён запыніўся, нецярпліва саўгануў сківі́цамі. Хацеў, відаць, знайсці належнае слова. Грэблівае. Скончыў звычайным, але з грэблівасцю: — Як гарох аб сценку.

Башлыкоў не варухнуўся. Нібы не чуў. Але словы Дубадзела ўразілі яго. Дубадзел быццам пачуў яго думкі, выказаў за яго. Аднак разам з тым думкі гэтыя, сказаныя не ім, а Дубадзелам, былі непрыемныя яму. Башлыкоў як бы пачуў зняважу сваёй рабоце.

— Без разгаворчыкаў таксама нельга,— сказаў ён павучальна, значна. «Разгаворчыкі» — вымавіў з насмешкай: паставіў Дубадзела на месца.

Дубадзел, падобна, не заўважыў іроніі. Таропячыся ўсё перад сабой, сказаў ранейшым тонам:

— Ім не разгаворчыкі трэба!

Былі ў тоне яго гаворкі важкасць і непахісная пераконанасць. Чуліся трывожнасць і нават боль, і Башлыкоў зацікаўлена чакаў, што ён яшчэ скажа.

Але ён сцяў губы, маўчаў.

Башлыкова не раз ужо дзівіла яго ўменне маўчаць. Скажа што-небудзь важнае і абарве гаворку, не дагаварыўшы. Думай, гадай, як разумець.

Гэта дзівіла тым больш што ў выступленнях сваіх Дубадзел быў на дзіва гаварлівы і гарачы: як пачне, паліць без перадыху, здаецца, не спыніцца.

— Тлумачыць трэба,— сказаў Башлыкоў стомлена.— Без тлумачальнай работы — нельга...

Дубадзел абазваўся не адразу.

— Многа разгавораў у нас...— Ён гаварыў з той жа пераконанасцю і нібы судзячы.— А ён слухае, слухае, а сам думае: «Гавары, гавары!»

Словы гэтыя кранàлі чулае ў душы Башлыкова. Можа быць, самае чулае, нават балючае цяпер, вярэдзілі, як свежую рану. Башлыкоў слухаў, як і раней, з адчуваннем: Дубадзел нібы падгледзеў, што яго рупіць.

І ўсё ж непрыемна было чуць гэта. І хацелася пярэчыць.

— Нельга без тлумачальнай работы...

— Разгаворы само сабой...— ні то згаджаючыся, ні то думаючы ўголас сваё, сказаў Дубадзел.— А толькі — мала етаго!

Дубадзел памаўчаў момант, выказаў горача, непахісна:

— Брацца трэба за яго! Крэпкай рукою! Як таварыш Сталін вучыць. Па-бальшавіцкаму.

— А мы што ж, «не бярэмся»? — У Башлыкова ў момант ускінулася абурэнне.

Дубадзел не зварухнуўся.

— Вы-то бярэцеся,— прамовіў ён пазней, як бы разважаючы сваё. Памаўчаў хвіліну: — Да трэба, кеб усе браліся!

Ён нібы вучыў Башлыкова, але гнеў Башлыкова апаў.

— Трэба.

Дубадзел сказаў павучальна і важка:

— Асабліва тыя, каторыя на месце. У нізах.

Башлыкову ўжо зусім не хацелася злаваць і нават спрачацца. Чуў ужо ў Дубадзела не толькі шчырасць і боль, але і гарачае жаданне перасцерагчы, памагчы. І бачыў добрае разуменне рэальнага становішча і цяжкасцей яго.

— Вы кіруеце, даеце ўказанні, як і што,— Дубадзел усё таропіўся кудысьці, раз-пораз сцінаў сківіцы.— А на месцы павінны брацца. А яны — не бяруцца! Від толькі паказуюць. Сердабольныя!

Ён плюнуў. Заявіў цвёрда:

— Ад таго слабо ідзе!

Зноў ехалі моўчкі. Ківаючыся ў вазку, пад ледзь чутны тупат капытоў і парыпванне гужоў, Башлыкоў думаў пра Дубадзела. Нязграбны нібы, не надта граматны, а — з галавой. Недалёкі, здавалася б, а бачыць — і вакол, і ўглыб. Правільна бачыць і мысліць. Лепш, чым некаторыя «далёкія», адукаваныя. Разумны па-свойму. Усё ясна, проста ў яго. Пазайздросціць можна.

І моц ёсць у яго. Надзейнасць адчуваецца. На такіх можна спадзявацца. Недарма, значыць, ён кінуўся ў вочы. Не памыліўся ў ім.

Падумаў з усмешкай: неадукаваны, а такт які! Слова лішняга не скажа. Кожнае слова — са значэннем. «Падумай», маўляў. «Разваж».

А галоўнае — шчырасць якая, адданасць. Усё — з душой, са страсцю...

— Глушак еты, Яўхім — штучка! — прамовіў унураны ў думкі свае Дубадзел. «Штучка» — праказаў так, што Башлыкоў зірнуў пільна.— Выкіне шчэ. Пабачыце.

Прарочыў з такой упэўненасцю, быццам бачыў ужо, загадзя.

— І Ігнат — загадачка!

У памяці Башлыкова надоўга засела гэта: «штучка», «загадачка». Засела тым больш моцна, што сам думаў падобна.

## 2

Цяпер ужо доўга маўчалі. Конь цяпер не бег — клыпаў цярпліва свежым снегам. Вазок не кідала на паваротах і ў ямах, далікатна паводзіла. І дрэвы, чорна-белая пярэстасць, плылі паволі, і можна было думаць, што ім канца не будзе.

Але Башлыкоў думаў пра іншае. Растрывожаная памяць вяртала яго назад, у Курані, да пабачанага і пачутага там.

Найперш вярэдзіла, пякло незразумелае. Неверагоднае. Як гэта магло здарыцца? Чаму гэта здарылася! Што выпусцілі з-пад арышту, пасля такога злачынства! Пасля замаху на савецкага работніка. Замаху фактычна на законы і парадкі, вызначаныя Савецкай уладай. Выпусцілі яўных антысаветчыкаў, ворагаў. Арыштавалі, адправілі і адпусцілі! «Гайліс загадаў: адпусціць!» «Пашкадаваў дзяцей!»

Які дабрадзей! Сам бацька не дбае пра дзяцей, дык ён паклапаціўся! І Глушака дарослага пашкадаваў, відаць, таксама, каб не трывожыць бацьку! Праявіць такую даверлівасць, глухату і слепату! Проста немагчыма паверыць, што гэта — усяго неразуменне, неразуменне элементарных законаў! Не хочацца думаць, што тут горшае, свядомае ўкрывацельства, але ж факты пра што гавораць! Не паведамілі нават райкому, адпаведным органам! Мімаволі прыходзіцца думаць, што спадзяваліся — ніхто ведаць не будзе! І не ведаў бы ніхто ў раёне — каб не прыехаў, не раскапаў! Сам!

І сакратар ячэйкі — дзіва проста. Быў пры гэтым, бачыў усё і хоць бы варухнуўся. Глядзеў, назіраў, як пабочны, не паправіў, не запярэчыў нават! Не паведаміў райкому! Ніякага сігналу не даў!

Не сыходзіла з памяці: «А нас куды? Усіх нас куды? На падсцілку! На гной! Ці — як вошы, пад ногаць!» Помнілася так, быццам гучала яшчэ ў вушах. Быццам пёк вочы люты позірк. Ён добра разумеў значэнне гэтага позірку і разумеў небяспеку, якая свяцілася ў гэтых вачах. З гэтым мяшалася насмешлівае, крыўднае: «Знаеце хоць, як адрозніць грэчку ад жыта?» «Дзела нашаго не знаеце! Дак хоць грамату знаеце! Давайце к нам!.. Ну от!» Вярэдзіла, паліла гэтае злое, зларадлае «ну от» — я, маўляў, так і ведаў: ты

толькі ўгаворваць майстар, а сам сядзець будзеш збоку, у чыстай местачковай кватэры, у кабінеце сваім!

Як яны, Гайліс і Глушак, могуць мірыцца з такімі! Як маглі даравать адкрытае выступленне супраць калгасаў, супраць савецкай палітыкі! Больш таго — арыштаваць, адправіць у сельсавет і — выпусціць! Класавага ворага выпусціць на волю! Башлыкоў ніяк не мог звыкнуцца з гэтым фактам, не мог спакойна думаць пра яго.

У яго даўно былі сумненні, што да бальшавіцкай прынцыповасці Гайліса. І ўсё ж і ад Гайліса ён не чакаў такога.

З гэтым спляталіся развагі пра Міканора Глушака. Чаму ж ён не паправіў, не запярэчыў нават? Не паведаміў райкому? Ці не захацеў сам, са сваіх перакананняў, ці не рашыўся пайсці супраць Гайліса? Вядома, першае слова тут, у гэтай гісторыі, за Гайлісам, Гайліс вярнуў арыштаванага. Гайліс тут непахісны аўтарытэт, камандзір. Але як можна было — сакратару ячэйкі — праяўляць такую мяккацеласць і проста бесхарактарнасць пры Гайлісу, патакаць усім яго фокусам! Як можна так адносіцца да сваіх партыйных абавязкаў, да таго давер'я, якое аказана!

А можа тут прычына не толькі ў мяккацеласці, у паслухмянасці перад Гайлісам. Можа тут прычына перш за ўсё ў тым, што такая «дабрата» па сэрцы самому. Што самому па душы сядзець ціха-мірна, аберагаць свой асабісты спакой. Жыць мірна побач з варожай поганню, таму, што і яна, як кажа маці яго, таксама «людзі». Глушак абурaўся развагам маці, але — наколькі шчырае гэтае абурэнне. Ці не ад таго яно, што — перад сакратаром райкома. І адкуль гэтыя погляды ў маці сакратара партячэйкі, і чаму сакратар ячэйкі не мог зламаць іх?

І ці так ужо бяскрыўдна тое, што сакратар ячэйкі, аказваецца, састаіць, няхай і не ў непасрэднай, а ўсё ж сваяцкай сувязі з кулацкай сям'ёй? Канешне, у вёсках гэта не так і рэдка, але ж ці не пакідае следу ў поглядах Міканора Глушака гэтая сувязь? У поглядах і ва ўчынках. Ці не ў гэтым корань таго, што Дубадзел добра называе — «сердабольнасць»?

Так, чуццё не ашукала яго, што тут, у Алешніцкім сельсавеце, кіраўніцтва не на ўзроўні. Не памыліўся

тады, на сходзе ў Глінішчах, і потым, у Юравічах, калі шукаў прычыны таго прарыву, у які трапіў сельсавет. Тады ён толькі меркаваў, цяпер ён ужо мае факты, дакладныя факты, якія гавораць пра тое, што кіраўніцтва сельсавета і кіраўніцтва ячэйкі, па сутнасці, займаюць апартуністычную лінію, не вядуць належнай барацьбы з антыкалгаснымі, кулацкімі праявамі.

Калі думаў пра гэта, мацнела адчуванне, якое ўжо не раз прыходзіла, што добра зрабіў, выбраўшыся сюды: раскапаў, знайшоў факты, якія праяснілі становішча ў сельсавеце і, што яшчэ больш важна, кірунак таго, як выправіць гэта становішча. Фактычна тое, што адкрылася тут, калі паглядзець шырэй,— а яму і належыць глядзець так, хоць бы абсягам раёна,— паказвае, якім кірункам можна вывесці з прарыву і ўвесь раён. Тое, што адкрылася тут, дае зрабіць вывады для ўсяго раёна. На фактах гэтых вёсак ён навучыць усе вёскі раёна, уздыме ўвесь раён.

Так, трэба брацца. Дубадзел добра сказаў: «Брацца крэпкай рукою!» Брацца не аднаму яму, брацца ўсім! Поспех у маштабе раёна будзе залежаць ад таго, наколькі ўдасца ўзняць усе кадры! Каб зламаць ворага, трэба ўзняць баявы дух усіх партыйцаў, усяго актыву! Для гэтага трэба навесці перш за ўсё парадак у нашых радах! Перш за ўсё вытравіць у нашых радах які б ні было лібералізм да ворага, расхлябанасць. Для гэтага — строгасць, непрымірымасць да саміх сябе! І не на словах, слоў ужо даволі было, а на справе! На канкрэтных фактах, якія ён выявіў тут!

Трэба справу аб злачынствах у гэтым сельсавеце паставіць на бліжэйшым бюро. Трэба Гайліса і Глушака прыцягнуць да суровай адказнасці, пакараць са ўсёй строгасцю! Гайліс за ўсё тое, што ўчыніў, бясспрэчна, заслугоўвае выключэння з партыі. Строгае спагнанне варта даць і Глушаку. Абодвух, вядома, належыць вызваліць ад пасад. Бесхрыбетным згоднікам не месца на такіх адказных пасадах, дзе патрэбны рашучасць і цвёрдасць!

Строгія вывады па справе Гайліса і Глушака павінны, няйнакш, падцягнуць іншых, мабілізаваць усіх. Гэта будзе варты ўдар па мяккацеласці і марудлівасці, гэта прывядзе да пералому ў справах. Наш крок будзе спарнейшы! Пойдзем хутчэй!

Ніякіх мер не прыняць да адкрытых варожых выступленняў, няньчыцца з такімі небяспечнымі элементамі, даваць разгульваць ім на волі! Башлыкоў усё не мог ні зразумець Гайліса і Глушака, ні супакоіцца. Гэта так хвалявала, што хацелася проста павярнуць каня, вярнуцца ў Алешнікі, выказаць усё цяпер жа Гайлісу. Вярнуцца ў Юравічы, расказаць усё членам бюро, пачаць рыхтаваць бюро.

Сярод гэтага ў памяць унізвалася іншае, што бачыў і чуў у хатах. З гэтага першым прыйшло і найбольш хвалявала тое, што ўбачыў у хаце глінішчанскай неадступнай прыгажуні. Было такое адчуванне, быццам раптам, шчасліва адкрылася вельмі важнае і вельмі цікавае аб ёй. І зноў, як у хаце, хвалявала здзіўленне, што такая чулая, багатая душою, такая ганарліўка нарадзілася, вырасла ў такой хаце, у такой затхласці. Недарэчнае, разумеў, здзіўленне. Але яно было, не сыходзіла.

А яшчэ было, ад таго, што ўведаў раптам такое важнае, адчуванне нязвыклай блізкасці і еднасці. Было такое, нібы сустрэўся з ёй самою, нібы дакрануўся да яе, адчуў яе перад сабою, усутыч, так што чуў цёплае дыханне яе. І адчуў, што яны блізкія і што іх нішто не раздзяляе. Што яны людзі аднаго свету.

Яшчэ да гэтага дня незразумела завабная, цьмяная, яна бачылася ўжо блізкаю, рэальнаю, сваёй.

Гэта востра хвалявала ўсяго. Калі думаў пра гэта, глядзеў на бела-чорную пярэстасць лесу, што ішоў і ішоў насустрач, нецярплівым і вясёлым позіркам. У такія хвіліны знікалі з душы трывога і злосць і было толькі гэтае, харошае і дзіўна маладое, бяздумнае. Поўнае добрага чакання і прадчування. Але за гэтым раз-пораз унізваліся некаторыя падрабязнасці ўбачанага ў хаце, і ў душу ішоў неспакой. Неспакой гэты браў кожны раз, калі згадваў маці яе. Чуў зноў Глушакова: «Злая жмінда! З-за прагнасці дачку родную з дому выпхнула. Жыццё дзеўцы пакалечыла!» Так, нялёгка, пэўна, было ёй з гэтай злаcліўкай, якая, здаецца, і не здатна зірнуць прыхільным вокам.

У такія хвіліны ў сэрца Башлыкова лілося спачуванне да Ганны. За спачуваннем быў гонар за яе, за непадатную, смелую душу яе. Душу, як думаў перакапана ён, новага чалавека.

З тым, што пабачыў у яе хаце, мяшалася пабачанае ў іншых хатах. Прыходзіла на памяць, як спаткала жонка гэтага маладога, Дзятла. «Сходамі жыць не даюць! Дак шчэ і ў хату век лезуць!» Успомніў, колькі нянавісці было ў яе зацятым позірку. «Кулацкага роду». Успомніў зноў развагі маці сакратара партячэйкі. Падумаў: з асаблівай упартасцю за старое чапляюцца жанчыны. Самая адсталая і цёмная сіла.

Тады памяць нагадала, як стаяў перад ім, як зіркаў спадылба Дзяцел. «А я пабачыць хочу, што з етаго ўсяго будзе!» Ён хоча яшчэ пабачыць, ён яшчэ наогул не ўпэўнены, што з «етаго» што-небудзь выйдзе! І паспрабуй давядзі яму, як гэта сур'ёзна ўсё абдумана, родавядзі, што думаць тут ужо няма чаго! Не такія розумы думалі, абдумалі ўсё! Прадумана ўсё, і — вырашана! Вырашана, а раз вырашана, то будзе — зроблена! Зноў вярэдзіла адчуванне неадольнай глухаты ўсюды, няздольнасці разумець просты сэнс. І зноў узяло злое: было б за што чапляцца! Быў бы не тое што рай, а было б хоць бы чалавечае жыццё. Былі б гаспадаркі як мае быць. А то ж — беднасць, галеча, цемра, бруд, смурод. І ўсё адно — «асмеліцца трудно!». Нібы паламі рызыкуюць!

Пякла злосць: гэтыя ўпартасць, недаверлівасць, якія не хочуць, здаецца, ведаць нічога! Дурная сялянская глухата і слепата, бяссэнснае чаплянне за старое, за гнілое, абы было сваё. Гэта асабліва пякло таму, што было іменна бяссэнсным. Ну, калі на тое, кулацтва, што цікуе адусюль, шкодзіць усюды, робіць сваё са свядомай мэтай. Абараняе нажытае эксплуатацыяй, нарабаванае, адстойвае свае класавыя інтарэсы. Яго супраціўленне натуральнае: непрымірымы класавы вораг. Але ж як спакойна думаць пра тое, што з ім, з ворагам, заадно фактычна колькі такіх, што павінны быць з намі. Павінны быць з намі, а фактычна стаяць побач з імі, з кулацтвам, з ворагам! Як іх пасобнікі, як іх сіла! Толькі з-за дурной сялянскай глухаты, з-за чаплянння за старое, з-за нежадання бачыць і разумець новае.

І раней не любіў гэтае, а цяпер думаў пра яго проста з нянавісцю.

Была ў яго думанні пра гэта адна асаблівасць. Ён гэту асаблівасць ужо рэдка калі і заўважаў. Кожны раз у такія хвіліны Башлыкоў ці ўспамінаў, ці проста

адчуваў, як звыклае, той час, калі малым, уражлівым хлапчуком упершыню сутыкнуўся з усім гэтым. Можна нават сказаць, што ён ніколі не забываў пра гэта, што гэта як бы назаўсёды было ўжо ў крыві. На ўсё жыццё ўвайшлі ў яго гнеў і злосць тых нелагодных, галодных гомельскіх дзён, калі на вірлівым рынку ён упершыню сутыкнуўся з такімі цёткамі і дзядзькамі. Сутыкнуўся, як з незнаёмым і нялітасцівым светам. Светам чужым. На ўсё жыццё асела ў душы яго непрыхільнасць да цётак і дзядзькоў, што, здалося яму, бесчалавечна дралі з іх, гарадской беднасці.

Пазней да гэтага далучылася вычытанае з разумных кніг. У кнігах было не толькі гэтае, у лепшых і іх таксама было няпроста, але Башлыкоў вылучыў і запомніў больш гэтае: што ён, селянін, у аснове сваёй — двудушны, што ў кожным ім ёсць уласнік. Эксплуататар. Саюзнік не толькі рабочага, а і кулака. Башлыкоў заўсёды помніў, што кулацтва — гэта частка сялянства.

З гэтым было ў Башлыкове набытае ў жыцці і ў кнігах разуменне сваёй гарадской, рабочай перавагі перад цёмнай вясковай масай. Разуменне вышэйшасці перад ёй.

Цяперашнія сустрэчы раз-пораз блыталі гэты цвёрды лад башлыкоўскіх поглядаў. У цёмнай масе сустракаў ён іншы раз такі розум, што дзівіўся: адкуль гэта? Больш таго, адкрываў праявы такой культуры, якая не ўступала ні ў чым не толькі юравіцкай, а і гомельскай. Ці трэба казаць, як блытала адносіны з гэтым светам сустрэча з куранёўскай красуняй, да якой увесь час вяло яго думкі.

## 3

Не раз, не два Башлыкоў вяртаўся думкамі да Ганны.

Хто б мог падумаць, што маладога, але такога сур'ёзнага, засяроджанага сакратара хвалююць такія тайныя думкі.

Мусіць, ад таго, што ў душы так востра чулася нядаўняя сустрэча са светам, у якім яна жыла, з хатаю, з бацькамі яе, у душу лезлі, мроіліся з дзіўнай рэальнасцю, надзвычай хвалюючы, як бы жывыя, відові-

шчы, у кожным з якіх была, жыла яна. Гучалі словы, і ад слоў гэтых аж кружылася галава. І млела, дзіўна, недарэчна, сэрца. Млела, сціналася ад гарачыні, як у хлапчука.

У такія хвіліны мімаволі перасцярожліва паглядваў да Дубадзела, як бы пэўны ў тым, што той сочыць за ўсім, што яму мроіцца. Паглядваў, быццам хацеў пабачыць, што той думае пра яго. Тады цверазеў, адводзіў вочы ад Дубадзела. Сам-насам хаваў у душы тайнае сваё.

Ад моцнага, непадатнага ўзрушэння раптам недарэчна закарцела: загаварыць пра Ганну, запытацца пра тое-сёе, Дубадзел няйнакш ведае. Павінен ведаць, старшынстваваў жа тут, не раз быў, канешне. Не мог не заўважыць такую красуню. Пэўна, ведае, чаму яна ў школе. Ведае, ці была замужам. І наогул, што яна сабою.

Карцела загаварыць. Цяжка было таіцца, утаймоўваць неспакойнае, ліхаманкавае бачанне і думанне. Але не загаварыў, нават не памкнуўся як мае быць. Помніў: не мог, не меў права паказаць такое. Зацікаўленасць такімі рэчамі. Дубадзел адразу зразумеў бы ўсё. Рашыў разважліва: як-небудзь навядзе даведкі ў справах. Ці самую запытае.

У рэшце рэшт — галоўнае ведае. Карэнні яе пабачыў. Бацькоў бачыў, хату яе.

Ад таго, што яна раптам так пабліжэла, мацней брала імкненне — заехаць да яе. Мацней брала і здавалася больш простым: варта толькі збочыць з дарогі. Едучы ў Юравічы, збочыць у Глінішчах да школы. Пакіраваць не на шлях, а на загуменную дарогу.

Калі думаў пра гэта, проста вачавідкі бачыў: кончыліся рады гумнаў і вось — узыходзіць на ганак. Уваходзіць у цёмны калідор, у яе пакой. І вось ужо — удваіх, насупраць, вочы ў вочы.

Кожны раз, калі бачыў ахвочаю ўяваю гэта, сэрца, усяго залівала гарачынь. Горача біла ў скроні. Лес, дарога ківаліся, як у ліхаманцы.

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### 1

Гэта было вельмі дарэчы, што Казачэнка аказаўся ў сельсавеце і цяпер ківаўся разам з Башлыковым у вазку.

Праўда тое, што з Алешнікаў Башлыкоў выправіўся ў Глінішчы, і надта цікаўных не павінна было б, пэўна, дзівіць. Глінішчы як-ніяк проста на дарозе ў Юравічы, ды да таго ж і адна з найбольшых у сельсавеце вёсак. Натуральна, здаецца, павінна выглядаць тое, што сакратар райкома захацеў наведацца сюды.

Усё ж тое, што Казачэнка ківаўся побач, было не лішнім: яно як бы паказвала кожнаму, каго магла зацікавіць сакратарова паездка, дзелавы характар яго наведання ў Глінішчы. Пра гэта гаварыла і тое, што, заехаўшы ў Глінішчы, Башлыкоў адразу падаўся па калгасных дварах, клопатна высвятляў, як ідзе калгас. Можна было бачыць, што ён задаволены: той помны сход быў усё ж не марны, частка людзей вярнулася ў калгас, і гаспадарка жыла. Калгас патрохі як быццам выкіроўваў на лад.

Адсюль Башлыкоў заехаў яшчэ ў хату Казачэнкі. Ад Казачэнкі неўзабаве ён вярнуўся назад на кавярат і збочыў да шляху на Юравічы. На звыклую дарогу...

Яшчэ і тут, пакуль не даехаў да краю сяла, Башлыкоў вагаўся — ехаць, не ехаць у школу. Вагаўся можа нават больш, чым раней, бо трэба было рашаць.

А рашаць было цяжка. Чамусьці думалася цяжка, і ў думках не было пэўнасці. У думкі ўпарта лезла тое, што пабачыў і перажыў за паездку, хвалявала, вярэдзіла яго. Але пэўнасці не было не толькі з гэтай прычыны, а і таму, што тое, што так карцела, не бачылася, як і раней, яму неабходным і годным яго становішча. Разуменне свайго становішча і той адказнасці, якая вы-

нікала з гэтага, рашуча пярэчыла яго незвычайнаму, дзіўнаму імкненню. Але імкненне гэта, як і раней, не хацела саступаць. І не толькі не хацела саступаць, а час ад часу нават брала нібы мацней.

Таму ў яго развагі ішла зноў думка, што заехаць у школу, можа быць, варта хоць бы дзеля таго, каб не тлуміць сабе лішне галаву, вызваліцца такім чынам ад непатрэбшчыны. Каб потым жыць толькі дзеля справы.

Ён цяпер проста-такі быў перакананы, што імкненне яго да куранёўскай прыгажуні — усяго толькі непатрэбная прымха, якую не цяжка будзе адагнаць. Вядома, лепш за ўсё — паглядзеўшы спакойнымі вачыма, пераканаўшыся, што тое ўсё, што ён прыдумаў, дурное. Паглядзіць, пераканаецца — і канец.

Было зноў і такое меркаванне. Канешне, спецыяльна дзеля такога ён не паехаў бы, не стаў бы неашчадна траціць дарагі час. А тут жа школа, можна сказаць, проста пры дарозе. Варта толькі збочыць, запыніцца на нейкія хвіліны.

Не было ў ім яснасці і тады, калі ўжо збочыў на загуменную дарогу, пакіраваў да школы. Як бы паваструлымі вачыма бачыў, як ішлі абапал, глядзелі на яго, сачылі за ім з-пад белых, нізка навіслых шапак стрэх панурыя, непрыязныя гумны. Дзе-нідзе каля гумнаў трапляліся людзі, здавалася, усе яны пранізвалі яго пільнымі, здагадлівымі позіркамі. Пранізвалі, падсмейваліся.

Гэтыя позіркі, аднак, не толькі не кволілі яго, а нібы дадавалі дужасці. Бачачы, як ідуць побач і як цікуюць за ім гумны і людзі, ён насуперак усяму злому, што магло быць, мацнеў душою. І ехаў усё больш упэўнена.

Адно тачылася ў ім, не знікала — няёмкасць. Няёмкасць ад таго, што ў такі адказны час, такі адказны чалавек, сакратар райкома, ён дазваляе сабе губіць час на асабістае, на дробнае. Што дапушчае ўчынак, які не адпавядае яго годнасці.

Што ж да самой сустрэчы ў школе — не трывожыўся надта. Паглядзіць, пераканаецца — і канец. У кожным разе так пераконваў сябе.

Адкуль было яму ведаць, што пачынаецца, завязваецца з гэтага наведання!

Вунь і школа. На дарожцы, найбольш вытаптанай лапцямі і ботамі, звярнуў да яе. Саскочыўшы ля ганка з вазка, загадаў возчыку пачакаць крыху. Лёгкім, дужым крокам узышоў на ганак. Калі ішоў, здавалася, быццам з вокан абапал глядзяць. Таму і ішоў так, як трэба, калі на цябе пазіраюць. Аднак, спыніўшыся на ганку, адчуў з прыкрасцю, што ў нагах няма цвёрдасці. Стаў абмятаць дзеркачом снег з ботаў і пачуў, што сэрца б'ецца мацней, часцей.

І было такое ў душы, нібы вінаваты. І не толькі перад сваім адказным становішчам, але і яшчэ перад нечым, невядома перад чым. З'явілася раптам нейкая незразумелая трывожнасць, стала браць недарэчная млоснасць. Чорт ведае што! Ад гэтай блытаніны ў душы ўскінулася злосць — на сябе, на ўсё на свеце. Найбольш на сябе, на нікчэмнасць сваю. З гэтай злосцю, ■ імкненнем трымацца як належыць і ступіў у калідор, пастукаў у дзверы пакоя.

Ён пачакаў. Чамусьці быў упэўнены, што Параска дома. Чакаў яе голасу. Чакаў, адольваючы дурную трывожнасць. Неспакойна гадаў, як яна сустрэне, як паглядзіць. Мусіць, гэта і трывожыла: зіркне сваім хітрым позіркам і адразу зразумее ўсё.

Ніхто не адгукнуўся, і ён адчыніў дзверы. Параскі ў пакоі не было. Нікога не было. Ён ступіў у пакой і, адразу пачуўшы сябе вальней, рушыў па пакоі гаспадарскім крокам. Пастукаў у дзверы суседняга пакоя, кухні. Адчыніўшы трохі дзверы, запытаў голасна:

— Ёсць хто тут жывы?

У пакоі была *яна*.

Яна ішла насустрач, і яны ледзь не сутыкнуліся ў дзвярах.

Момант яна нібы не пазнавала ці не верыла сабе. Не чакала. Тады раптам, адразу твар яе заяснеў.

— А-а! — сказала яна, уся свецячыся радасцю.

Радасць яе была на дзіва смелая, як бы безразважная. І гэта смеласць, гэта раптоўная, як усплёск, сіла пачуцця рабілі яркія, як вішні, вочы яе, смуглявы яе твар такімі прыгожымі, што хараство іх быццам асляпіла Башлыкова.

Ён не чакаў гэтага. Не быў гатоў да такога. Не ўмеў так адкрываць душу, хоць бы на момант. З падрыхта-

ванымі загадзя асцярогай і важнасцю, якія здаваліся чамусьці абавязковымі, сказаў не надта прыязна:

— Добры дзень!

Ён быў разгублены. Разгублены больш таму, што тое, што яна так проста і шчыра сказала, незвычайна ўсхвалявала яго. Ён ледзь хаваў у сабе гэта хваляванне і з гэтай прычыны асабліва датрымліваўся звыклай ролі.

— Вечар хутка! — адказала яна, здалося, з папрокам, неяк дзіўна ўглядваючыся, як бы стараючыся штосьці зразумець.

Яго бянтэжыў яе хуткі і востры позірк. Быццам у душу глядзела.

Тады ж ён пабачыў, як вочы яе і твар сталі паволі, нібы неахвотна, шкадуючы аб гэтым, хмурнець.

Яна не адразу выйшла насустрач, мусіць, таму, што нешта затрымала яе. Нешта тады рабіла. Рукі яе былі закасаныя за локці, на іх бялела мука. Цяпер яна ўспомніла пра іх і з тым жа выразам шкадавання, одуму стала выціраць аб фартух.

— Д-да, хутка,— сказаў ён важна. Клапоцячыся, каб яна не заўважыла, што там у ім, стоенае. Зняў шапку.— От ехаў міма...

— Работы багато?

Яна прамовіла так, што ён адчуў: запыталася абы не маўчаць. Нацяты, чуў яе вострую ўвагу, праніклівы позірк.

— Многа работы...— Ён трымаўся ўсё важна, незалежна.— Гарачая пара...

— Можно сказаць — ворыва...— Прамовіла так, быццам затаіла, а схавала нешта іншае.

— Ворыва... Скора — пералом будзе... Лягчэй пойдзе...

— Лягчэй? — здалося, не паверыла яна.

— Лягчэй. Пералом будзе!

Ён сказаў цвёрда, тонам чалавека, які добра ведае, як будзе, і ўпэўнены ў сабе. І тым, што сказаў і як сказаў, ён як бы ўмацаваў сваю годнасць.

Яна прамаўчала, але ў маўчанні яе пачулася нязгода. Нібы казала: лягчэй не будзе. Мусіць, сход той помніла...

Дзіўна, ён не мог глядзець на яе проста, адкрыта, адводзіў вочы. І, як ні хацеў, не было ў ім спакою, на-

лежнай яснасці. Было гарачае, збродлівае, недзе там, у глыбіні ўзрушанай свядомасці: якая краса! З гэтым увайшло, важка лягло на душу выразнае, самотнае: «Не трэба было заходзіць! Не трэба было!..»

Разуменне красы яе было такім моцным, што гэтая незнаёмая, вясковая жанчына нібы ўзяла неадольную ўладу над ім.

«Не трэба было... Не трэба было...» — чуў ён у сабе асцярожлівае, цвярознае.

Хаваючы кволасць, шкадаванне сваё, ён прамовіў знарок дзелавіта:

— А дзе... Параска Андрэеўна?

Улавіў на сабе хуткі, праніклівы позірк яе. Здалося: бліснула насмешлівае ў вачах. Убачыла хлуслівасць яго, нікчэмнасць яго паводзін.

— На сяле недзе... Пайшла ў сяло...

І ў тоне слоў яе чулася насмешлівае, упіклівае.

— Пазваць яе?

Іменна таму, што яна бачыла, сачыла насмешліва, ён трымаўся належнай ролі.

— Д-да, канешне...

— Зараз...

Яна, хапаючыся, адвязала фартух, здалося, намерылася ісці, але затрымалася. Ён улавіў на сабе яе позірк. Здалося, яна чакала, што ён спыніць гэту нікчэмную хлусню.

Ён прамаўчаў, і яна рушыла да дзвярэй. Бачачы, як яна ідзе, хутка, імкліва, ён адчуў, што яшчэ момант — і ён страціць яе, і гэта дало яму дужасці, рашучасці. Хаваючы няёмкасць, стараючыся трымацца як можна годна, ён прамовіў:

— Не. Не трэба.

Яна спынілася. Ужо гатовая ўзяцца за клямку, азірнулася, нібы не разумеючы. Ніякай насмешкі ў вачах яе не было. Яна чакала тлумачэння.

Спыніўшы яе, ён зрабіў самае цяжкае ў сабе. Ён зрабіў першы крок, ён пачаў дзейнічаць адкрыта. Ужо не хаваючыся, ён шчыра, цвёрда сказаў:

— Я не да яе ехаў.

Першы момант ён адчуў палёгку, як бы скінуў тое, што замінала. Адкінуў фальш, зрабіў учынак па законах праўды. Але амаль адразу ж за гэтым у яго ўнізалася цвярозае, разважнае: «Што я раблю?» Асцярож-

лівае, яно паспрабавала разумна стрымаць яго: «Не трэба! Не трэба гэтага!» Праз сумяціцу пачуццяў ён добра адчуваў гэтае разумнае: «Не трэба!» — аднак яно не мела над ім належнай улады. Мала было ў ім, у гэтым перасцярожлівым, сілы. Іншае, заваблівае, смелае, было мацней, вяло, звала.

А, чорт, зазлаваў ён на сябе, на таго асцярожнага. Нашто гуляць у хованкі, круціць! Ён усё ж мужчына!

Ён глянуў рашуча. Пайшоў напралом:

— Я — да цябе.

Ён прыпыніўся на міг перад гэтым першым «цябе», але вымавіў цвёрда.

Башлыкоў бачыў, як вочы яе, твар яе ў момант успыхнулі. Яна раптам ураз уся засвяцілася радасцю, быццам дзівосна змянілася. Змянілася так імкліва і такім хваляваннем адкрылася, што гэта ўразіла і ўзрушыла Башлыкова. Захапіла яго.

Услед, аднак, амаль адразу — як у ёй гэта хутка мянялася! — радасць яе саступіла нейкаму клопату і нават, падобна было, недавер'ю.

Цяпер вочы яе, здалося, не зычылі дабра, судзілі. Было відаць, яе мучыць нейкі цяжкі, паганы роздум. Ён улавіў, што гэты роздум пагражае ўсяму таму, чаго ён прагнуў. Гэта разуменне небяспекі ўзняло ў ім рашучасць. Ён паўтарыў цвёрда:

— Я хацеў цябе ўбачыць.

Яна, ўсё яшчэ ва ўладзе панурага роздуму, угледзелася ў яго невясёлымі, уважлівымі вачыма. Угледзелася і адвяла позірк, як раней, клопатны, важкі.

Яму здалося, яна не верыла яму. Ён разумеў, што патрэбны яшчэ нейкія словы, нейкія доказы, якія б пераканалі яе, развеялі б недавер'е. Але ён не шукаў гэтых слоў. Не хацеў шукаць. Як ні быў узрушаны, ён быў усё ж Башлыковым, сталым, дзелавым чалавекам, нават цяпер помніў, хто ён і якім павінен быць. Зрабіўшы і так, здавалася, многа, больш, чым мог бы нядаўна, ён адчуў патрэбу спыніцца, падумаць. Разважыць — як быць далей.

Тое, што выспела ў ім, ён выказаў. Далейшае ж было вельмі цьмяным. Трэба было разабрацца, падумаць. А думалася цяжка. У галаве не было яснасці. Цяжка, горача біла ў скроні.

Было няёмкае, здавалася, доўгае маўчанне, поўнае тлумнага хвалявання і супярэчлівасці ў настроі.

Ён у гэты час не глядзеў на яе. Аднак, чулы, нацяты, адразу ўлавіў незразумелы, неспакойны рух, кінуў позірк да яе. Ён не памыліўся: яна з нейкім новым хваляваннем глядзела ў акно.

— Параска ідзе...— прамовіла, сустрэўшыся з ім вачыма.

З сэнсам гэтых слоў ён улавіў непрытоенае шкадаванне ў яе голасе. Азірнуўся ў акно: Параска была ўжо на двары, блізка да ганка. У яго з Ганнай заставалася цяпер нейкія дзве-тры хвіліны.

Гэта як бы дало знак Башлыкову, што марудзіць нельга. Што ўсё трэба рашыць зараз жа. Інакш будзе позна.

Можна было б, вядома, спыніцца на тым, што ён сказаў. Гэта было б самае простае. Але ў гэты момант, калі ўзнікла небяспека, ён у раптоўным парыве адчуў, што пакінуць усё так, недагаворaным, нявысветленым, нельга. Што можа так абарваць усё.

Чуючы патрэбу дзейнічаць неадкладна, рашуча, Башлыкоў хапатліва загаварыў:

— Слухай... Заўтра. Як сцямнее. Выйдзі на шлях. Добра?

Можа гэта гаварыў і не Башлыкоў, цяперашні сталы чалавек, кіраўнік. Можа гэта аб'явіўся той гарачы, зялёны хлопец, якім ён быў некалі. Такая маладая імклівасць, безразважнасць былі ў гэтым яго парыве...

Яна не адказала адразу. Усё нібы не магла адолець чагосьці, вагалася. Потым моўчкі кіўнула.

Кіўнула стрымана, без радасці.

Але кіўнула. Згадзілася.

Так раптам адбылося тое, што зблізіла іх, звязала адной змовай. Так, у маладым парыве, спехам, Башлыкоў зрабіў крок, які потым даў яму столькі турбот.

## 2

Параска адразу, як увайшла, весела аб'явіла:

— Вось хто, аказваецца, у госці да нас!

Башлыкоў сказаў як мог спакойна, сціпла:

— Да от ехаў міма. Завярнуў...

— І добра! Даўно ж ужо не было! — Параска хутка

скінула паліто, развязала хустку. І так жвавая, захадзілася, загаманіла яшчэ больш — іграла перад госцем, артыстка: — Мы ўжэ думалі тут, што мінае знарок!

— Ды не, часу не было...

— Пачулі пазаўчора: прыехалі ў Алешнікі. Паехалі ў Курані. Праехалі міма!

— Рана ехаў...

— Не адгаворвайцеся! — упікнула Параска весела, гулліва.— Ну, але калі вы ўсё ж заехалі, то віна ваша ўжэ змяншаецца. Можа мы і даруем вам! Даруем? Праўда, Ганна?

Ганна сказала стрымана:

— Трэба даравась, мабуць...

Яна стаяла каля дзвярэй на кухню, зацятая, з ледзь прытоенай гаркаватай усмешкай.

А Параска павяла ўжо новую ролю: гасціннай гаспадыні.

— Хоць рэдка, ды — метка! У час прыехалі! У самы час! У нас — боршч якраз умлеў! Боршч такі! — Параска аж смачна заплюшчыла вочы.

Башлыкоў прамовіў:

— Я на хвілінку толькі... Спяшаюся...

— Такога баршча нідзе не будзе!.. А да яго яшчэ — дранікі! — Параска па-змоўніцку падміргнула Ганне, заклікаючы падтрымаць яе.

Ганна няўпэўнена адгукнулася:

— Праўда, паабедайце...

— Ну от,— як бы ўзрадавалася падтрымцы Параска,— падмацуйцеся на дарогу! Тады і паедзеце! Весялей у дарозе будзе!

Башлыкоў паважна, цверда адмовіўся:

— Дзякую за запрашэнне. Толькі я паабедаў ужо. У «Камунары».

— Што вы там абедалі! — пацішэла, не ўтаіла папроку Параска. А можа знарок паказала, што пакрыўджана незгаворлівасцю на яе гасціннасць.

Башлыкоў першы раз паблажліва ўсміхнуўся:

— Не падбівайце, Параскева Андрэеўна! — Без усмешкі ўжо, значна растлумачыў зноў: — Я на хвіліну. Ехаць трэба.— Дадаў весялей: — Падвезці от магу.

— Не, дзякую,— адказала нядобра Параска. Тон говоркі яе выказваў, што яна ў крыўдзе на Башлыкова.

Вельмі востры цяпер увагай Башлыкоў яшчэ раней

перахапіў, што ў яе вачах паявілася клопатнасць. Нібы яна штосьці заўважыла дзіўнае, хацела зразумець і не магла. Здалося: яна зразумела ўсё, што адбылося тут. Вядома, зразумела. Але не паказвае гэтага.

Ён тут жа, аднак, супакоіў сябе: не ведае і не здагадваецца ні аб чым. Проста яму, Башлыкову, насцярожанаму, здаецца, што ўсё ўсім відаць.

Пасля ўсяго, што адбылося між ім і Ганнай, Башлыкоў перад Параскай чуў сябе вельмі няёмка. Але ён як мог хаваў гэта і, калі глядзець збоку, трымаўся, здавалася, упэўнена, ураўнаважана, як і належала трымацца такому паважнаму чалавеку.

Няёмка было, але трэба было трымацца, годна трымацца.

— А вы?.. А вам не трэба ў Юравічы? — зірнуў Башлыкоў, нібы спакойна і абыякава, на Ганну.

— Не...— У вачах яе мільгнуў неспакой, амаль страх.

Башлыкоў адзначыў: Ганна ледзь прыхоўвала хваляванне. Стаяла, склаўшы рукі на грудзях, моўчкі ціснулася да вушака дзвярэй. Раней такая імклівая, лёгкая ў рухах, яна цяпер хоць бы зварухнулася, ціснулася, невядома што тоячы. Знешняя яе стрыманасць дзіўна не пасавала з тым, што свяцілася на яе твары, у вачах. З вачэй яе проста зырчэў, біўся неспакой. Сляпы і той, здавалася, мог бы бачыць: сама не свая, штосьці здарылася...

— Я пайду...— нарэшце скранулася, знікла на кухні.

Башлыкоў, як і належала, затрымаўся трохі. Павінен быў затрымацца. Зняў паліто, у якім усё яшчэ стаяў, прайшоўся па пакоі. Сказаў некалькі слоў пра тое, дзе быў гэтыя два дні, што рабіў. Павёў дзелавы роспыт пра справы ў Глінішчах, пра настроі. Паказваў, што з заклапочанасцю і вялікай цікавасцю слухае Параску. Тады загаварыў пра раённыя турботы, пра тое, якая небяспечная сітуацыя цяпер у раёне. Пасля ўсяго даў парады Парасцы, што да яе грамадскай працы сярод сялян. Гаворачы гэта, у сваёй звычайнай ролі, набыў нарэшце, хоць на час, нетрывалую раўнавагу, сцішыў насцярогу Параскі.

Сабраўшыся ехаць, надзеўшы зноў паліто, выйшаў да Ганны развітацца. На Ганніным твары былі раней-

шы неспакой, сумяціца. Рука, гарачая, разгубленая, паспешліва адказала на поціск. Ганна не пайшла праводзіць. На двор, накінуўшы на плечы каптанчык, выйшла адна Параска. Ужо без ранейшай гуллівасці, з нядобрай прытоенасцю папракнула, што не застаўся абедаць, сказала не мінаць іх дому, заязджаць. Ён, паказваючы, што заклапочаны ўжо новымі справамі, падзякаваў, паабяцаў, што будзе заязджаць. Калі будзе час.

Была сумяціца пачуццяў і думак, калі вазок выслізнуў з-за гумнаў, пад рыпенне гужоў нячутна паплыў у белае пустое поле. Спачатку гарэў перажытым. Бачыў вочы яе, усю яе, не мог супакоіцца: якая краса! Проста чорт ведае што: нічога, здаецца, такога не бачыў! Як яна тут вырасла такая! У звычайнай сляпой хатцы! Цуд нейкі, і толькі! І краса, і разам — годнасці колькі! Розум які свеціцца! Здзівіўся: як ён не пабачыў гэтага першы раз! Аслеп тады ад няўдачы. За гэтым згадваў, чуючы, як у грудзях гарачэе: «Да цябе прыехаў... Цябе пабачыць хацеў...» Словы гэтыя, здавалася, гучалі ў галаве. Асабліва ж гучала, моцна, нецярпліва, завабна: «Заўтра... Як сцямнее... Каля дарогі...» Згадваў, як яна кіўнула, і нібы не паверыў шчасцю...

Чым далей, тым больш, аднак, у душу ўпаўзала іншае. Жаданае, добрае хмарыла няпрошаная, непрыемная прыкрасць. Згадваў з няёмкасцю, як сустрэўся, гаварыў з Параскаю. Як бы пачуў папрок сабе: таіўся, хлусіў! Хлусіў, і Параска гэта зразумела. Зразумела — ён цяпер бачыў гэта, здавалася, зусім ясна. Ад гэтага на душы было проста брыдка. Тады прыйшла недавольнасць наогул сабою: не ўтрымаўся на ўзроўні, збочыў з лініі. Не паказаў вытрымкі. Падатны аказаўся, слабаваты. Сваё, асабістае не стрымаў. Даў волю свайму, асабістаму. Непатрэбнаму, недаравальнаму ў такі час. Захацелася любові!..

Раптам узяло разважнае: не трэба было заязджаць. Не трэба было сустракацца. Разважнае гэта павяло далей: а можа — спыніцца, адмовіцца? Вядома — адмовіцца трэба. Сказаць, што не мае часу, заняты. І скончыць тым.

Але з гэтым было: якая краса! Яе неспакойны позірк, адчуванне блізкасці. «Заўтра. Як сцямнее...» Не-

патрэбнае, яно хораша цяплела ў грудзях, вабіла. Сціскала сэрца чаканнем.

«Спыніцца. Спыніцца трэба...» — думаў ён.

3

Пакуль ехаў дадому, думкі Башлыкова блыталіся.

Дома, у кабінеце, дзе адразу абступілі звыклыя, значныя клопаты, тое, што адбылося ў Глінішчах, здалося раптам зусім простым і далёкім. Яно, праўда, час ад часу прабівалася ў важны, раённы свет яго кіруючых турбот, адцягвала на момант думкі, але Башлыкоў без асаблівай цяжкасці адганяў яго.

Увечары, калі навалач турбот сышла і застаўся адзін, яно, тое далёкае, зноў падабралася. Дзіўная рэч: удзень амаль рашыў, што ўсё, адмовіцца, скажа, што няма часу, і скончыць тым. А тут як бы і не было той цвёрдасці. Зноў нібы пачуў: «Заўтра. Як сцямнее...» Зноў убачыў, як яна кіўнула. Згадаў, як радасна заблішчалі вочы, калі ўбачыла адразу. Успамінаючы ўсё, чуў, бачыў: любіць яго. Такая красуня любіць! Мала хто ведаў, што Башлыкоў быў вельмі падатны жаночаму хараству. І калі дадаць да гэтага тое, што ведалі многія: што Башлыкоў быў аж занадта самалюбны, то можна ўявіць, як цешыла яго цяпер разуменне, што чалавек такога хараства хінецца да яго. Што заўтра яны будуць разам, адны.

Башлыкоў узрушана захадзіў па пакоі. Засунуўшы рукі ў кішэні галіфэ, молада, імкліва стаў мераць кабінет. Бачыў, здавалася, побач яе, перад сабой, твар у твар. Чуў, здавалася, цяпер яе. Чуў сябе маладым, дужым, удачлівым.

Не адразу супакоіўся. Калі захадзіў спакайней, падумаў: яна ўражвала яго не толькі знешнім хараством, але і неспадзяваным багаццем унутранага жыцця. Нейкай незвычайнай, трапяткой чуласцю. Цэлы свет угадваўся ў ёй, вабіў, клікаў. І хто б мог падумаць — прыйшло недарэчнае: звычайная прыбіральшчыца. Ён, праўда, тут жа спыніўся, цвяроза папракнуў сябе, што разважае, як арыстакрат, як законны дваранін. Дваранін з залінейных гомельскіх баракаў. Падумаў са з'едлівай насмешкай з сябе: адкуль гэта ў яго з'явілася такая вышэйшасць! Нагадаў сабе: кожная кухарка

павінна навучыцца кіраваць дзяржавай. Далучыў упэўнена: гэта так званая прыбіральшчыца зможа. Калі даць толькі падвучыцца.

Ён стаў думаць пра яе. Ён адчуў, што так мала ведае яе. Хто яна? Чаму яна ў школе? Чаму не з бацькамі? Ці вольная, не замужняя? Яна не падобная на дзяўчыну. Відаць, была замужам, відно: нямала паспытала. Успомніў, як стрымлівалася, падумаў: а можа і цяпер замужам?.. Не, запярэчыў адразу — калі і была, то разышлася. Інакш не жыла б адна, пры школе. Свайго кутка няма. А калі быў муж, то хто ён? Чаму разышліся? Ці — з'ехаў куды? Багата пытанняў раптам узнікла, і яны так закарцелі, што Башлыкоў перастаў хадзіць, гатоў быў усё зараз жа высветліць. Ён ледзь не ступіў да стала, да тэлефона — выклікаць каго трэба, загадаць высветліць. У час схамянуўся, што выклікаць нікога нельга. Не толькі таму, што ніхто тут такога не ведае, а і таму, што так лепш — не высвятляць. Нельга дапускаць у гэта нікога.

Пашкадаваў: мог бы высветліць там, былі нагода і час. Успомніў доўгае маўчанне, з-за гэтага, падумаў цяпер недавольна, многае і засталося недагаворанае. Зазлаваў на сябе, што лічаны час быў страчаны так па-дурному. Пра што б ён ні думаў, сярод усяго неадступна тачылася ў яго вінаватасць, што адступіўся ён ад дзённага, належнага: адмовіцца, скончыць, і ён думкаю ўхапіўся за згаворлівае, што апраўдвала яго. Нельга канчаць так, як ён думаў раней. Трэба пабачыцца. Пагаварыць, высветліць усё і тады развітацца. Сумленна і годна...

Аднак ён да гэтага часу пастражэў ужо да сябе і асудзіў гэты хітраваты подступ, што прыхоўваў маладушнасць. Як бы там ні было, трэба называць усё сваім імем. Што ёсць — тое ёсць. Не можа справіцца з сабою, са сваім жаданнем. Непатрэбным жаданнем. Не можа ўтаймаваць дурной крыві, якая не ў час разгулялася. Мужчынскага імпэту, якому захацелася жанчыны. Бабы. З гэтым злым нездавальненнем увайшла няёмкасць за сябе: да чаго ж, відаць, недарэчна выглядаў перад ёю. Як хлапчук. Вярнулася прыкрасць ад таго, як ён нікчэмна маніў Парасцы. У гэты момант у злосць яго, што давала добрую дужасць, раптам увайшло кволае, амаль беспараднае: што ж гэта завязалася, што будзе?

Пачуў жаль: як ён кіне сам такую красу?! Такое шчасце...

Думкам не было ладу. Заблытаўшыся ў думанні, ён зноў зазлаваў на сябе, на ўсё і падужэў. Намогся, адкінуў бескарыснае думанне. Узяўся думаць пра паездку. Згадаў, як хадзіў па Куранях, па Мокуці, гаворкі, адчуванні. У душу ўлілася злосць на людскую дурнату, на сляпую ўпартасць. Зноў убачыў нядобрыя твары, сярод іх вылучыліся Ігнат і Яўхім Глушакі. Нібы паўтарылася, ясна і ўнізліва, размова з Гайлісам. Нічога не разумее, апартуніст аслеплы! З-за такіх вось, з-за ліберальных дабрадзеяў, і бяда ўся, прарыў у раёне! На бюро, гэта правільна, адзіна правільна. І абавязкова — аргвывады! Трэба належныя кадры! З такімі і тое, што ёсць, загубім.

Кадры — аснова ўсяму. Башлыкоў заўсёды надаваў асаблівае значэнне кадрам. Ён потай быў перакананы ва ўменні сваім падбіраць кадры, з таго, што было пад рукой выкарыстоўваць лепшае для справы. Ён бачыў: ідэальных па ўсіх якасцях людзей мала — і таму ведаў, як няпроста выбраць тое, што трэба. З усіх патрабаванняў, якія ён выстаўляў да чалавека, найпершымі былі палітычныя якасці чалавека, яго адданасць справе. Тут ніякіх кампрамісаў ён не рабіў ніколі. Палітычная надзейнасць была неадменнаю ўмоваю прыдатнасці чалавека. Усё іншае даводзілася вырашаць, кіруючыся складанай жыццёвай дыялектыкай. Тут і выяўлялася тое, што Башлыкоў лічыў сваім уменнем.

Башлыкоў ужо і сам не помніў, калі ўзнікла ў ім нездавальненне Гайлісам. Даўно ўжо стала карцець думка, што трэба б замяніць некім гэтага ўпартага, недалёкага чалавека, які нярэдка гне нейкую сваю лінію. Можна сказаць, гэта думка акрэслілася канчаткова на сходзе ў Глінішчах. Тады ж, на недалужным гэтым сходзе, кінулася ў вочы і асоба Дубадзела. Едучы ії Алешнікаў, Башлыкоў не так сабе падсадзіў у свой вазок яго, рашыў прыгледзецца, праверыць.

Мераючы цяпер кабінет, уткнуўшы рукі ў галіфэ, Башлыкоў заглыблена думаў пра Дубадзела. Думаў не з бескарыснай цікаўнасцю, а з дзелавой заклапочанасцю. Як пра кадравага работніка. Развагі былі няпростыя. Ведаў: Дубадзел малакультурны, грубаваты.

П'е. Ва ўсякім разе — піў. Быў ужо старшынёй сельсавета, праваліі. А разам з гэтым — дзелавітасць, веданне народу. Веданне мясцовых умоў. Паходжанне, даныя ўсе — што трэба. Ніякіх заган са сваякамі. Мінулае — чыстае. Былы чырвонагвардзеец. А галоўнае — адданасць якая і рашучасць. І энергія — пазайздросціць можна. Гэты цацкацца з кулаччом не будзе.

Піў — гэта агідна. Пра гэта папярэдзіць трэба, са ўсёй строгасцю. Папярэдзіць, што за такое з партыі гнаць будзем... Малакультурны і грубы — а дзе ты знойдзеш даволі культурных, адукаваных? Мала іх. Ды і ці многа сярод гэтых культурных, адукаваных так адданых, з такой рашучасцю! І гэта ў такой абстаноўцы, дзе неабходны цвёрдыя, жалезныя! Здольныя крышыць ворага, рушыць усё, што на шляху, замінае. Гэты — цвёрды, гэты — крэмень, барацьбіт. Гэта — галоўнае. А недацягвае ў нечым — падымаць трэба. Расціць трэба, правільна накіроўваць! Добра кіраваць — усё ў гэтым!.. Ды калі падумаць толкам — палітычны кірунак ён разумее нядрэнна. Ёсць палітычнае чуццё. Тэарэтычна не афармленае, а ёсць. Стыхійнае, але правільнае. Лепшае, чым у некаторых засохлых ад кніг грамацеяў.

Так што галоўнае выходзіла на карысць Дубадзела. Гэта супакойвала Башлыкова, давала яму адчуванне нямарнасці пражытага дня, абнадзейліва звязвала з будучымі днямі.

## 4

Пасля таго, як Башлыкоў паехаў і Параска вярнулася, Ганна не ведала, дзе дзець вочы.

Стала раптам такою вінаватаю перад Параскаю, было так нядобра перад ёю, а трэба было быць разам. Падаваць абед, сядзець насупраць, абедаючы: так было ўжо ў іх заведзена. Сядзець вочы ў вочы пасля таго, што адбылося, і не паказваць, што ў цябе на душы.

Ганну гняло разуменне таго, што яна стала раптам між Башлыковым і Параскаю. Убілася ў іх дружбу ці можа і любоў, адвяла Параску ўбок, пабурыла, лічы, яе шчасце. Аддзячыла, можна сказаць, Парасцы за ўсё добрае, што тая зрабіла для яе! Аддзячыла — больш

няможна: адбіла кавалера! Няхай не таму, што яна, Ганна, старалася для гэтага; як бы там ні было, на віду будзе адно: адбіла! Улезла ў чужое шчасце, адхапіла!

Ды і то сказаць, калі добра падумаць, прыгледзецца, не такая ўжо яна і невінаватая. Не старалася, праўда, асабліва, але — чаго таіцца перад сабой — хацела ж гэтага, зайздросціла Парасцы. Няхай не старалася, а неяк, пэўне, дала знак, што рада б! І не спыніла ж, не адрэзала, калі здарылася ўсё! Так што не такая ўжо і невінаватая. Вінаватая!

Асабліва няёмка было сядзець перад Параскаю таму, што добра чула: Параска, вострая на вока, адразу прыкмеціла, што яны, Ганна і Башлыкоў, нядобра тояцца. Што між іх, значыць, нешта здарылася, паганае для яе. Кепска на душы было Ганне яшчэ і таму, што, хоць чула сябе вінаватаю перад Параскаю і хоць разумела, што павінна была б расказаць пра ўсё, сама, павінавацiцца, ні расказваць, ні вінаваціцца не магла. Як бы разам адняло мову і сумленне.

Калі праўду казаць, то маўчанне і стрыманасць Ганны тлумачыліся не гэтымі прычынамі, а тым, што яна была яшчэ вельмі ўзрушана ўсім, што раптам звалілася на яе. Яна не магла яшчэ прывесці да ладу свае пачуцці і думкі, разабрацца ў іх.

Параска, прытворшчыца, сёрбала гарачы боршч, ела дранікі з такой ахвотай, нібы згаладалася немаведама як і нібы ў гэтым, у ядзе, была найвялікшая радасць. Яна такі, праўду сказаць, любіла паесці, ведала смак у ядзе, але сёння, бачачы, як яна кідаецца на боршч, на дранікі, Ганна не верыла ёй. Бачыла, здавалася, што тоіцца, што збіраецца, вось-вось выбера момант і скажа. Не, паабедала і хоць бы знак які падала, як яна глядзіць на тое, што здарылася.

Калі ўстала з-за стала, давольная абцерла губы, пахваліла:

— Смачна паела!..— Амаль папракнула весела сябе: — Наелася на два дні!..— Мелькам, весела ж, заначыла: — Дарэмна ён не застаўся! Не пашкадаваў бы!..— Заплюшчыўшы соладка вочы, пацягнулася, нібы спалохалася: — Ой, на сон нешта павяло!..— Яна пазяхнула, потым выпрасталася, нязгодна крутнула галавой: — Не, спаць няма калі! Трэба — за сшыткі!

З выгляду рашучая, нібы ганарлівая, той цвёрдай хадою, якою кіравала звычайна ў клас, на заняткі, падалася ў свой пакой. Крокі там амаль адразу ж запыніліся, чыркнула, пасоўваючыся, гнутае з дручкоў, з фанерным донцам, крэсла, што стаяла каля стала і на якім Параска любіла сядзець, і ўсё сціхла. Падобна было на тое, што Параска села-такі за стол, правяраць сшыткі.

Праверка сшыткаў, ведала Ганна,— доўгі клопат. Калі толькі яна будзе сапраўды чытаць, то гэта надоўга. Надоўга ці ненадоўга ўзяла яна сшыткі, Ганна пачула палёгку. Можна нарэшце пабыць адной, перадыхнуць.

Прыбрала са стала, перамыла посуд, праз калідор выйшла ў клас, стала прыбіраць там пасля дзённых заняткаў. Рабіла ўсё хутка, нецярпліва, як бы хацела перадаць, збыць з душы той неспакой, што неадступна вярэдзіў яе. Сярод класа раптам кінула мокрую анучу, якой мыла падлогу, з адчаем села на парту, бяссіла апусціла рукі на калені. «Заўтра. Як сцямнее...» — біла, здавалася, у скроні.

Горача было. Задыхалася нібы. Аж паверыць няможна. Як бы выдумка якая: «Да цябе прыехаў... Заўтра. Як сцямнее...» Думкі рваліся ў тое заўтра, на шлях. Галава тлумілася ад гэтых думак. Радасць залівала ўсю. Радасць і неспакой. І радасць, і неспакой былі моцныя, грымелі проста, здавалася, на ўвесь пакой. Першы час не магла саўладаць з імі, не магла думаць ні аб чым. Потым ужо вылучылася неспакойнае: што ж гэта значыць? Што будзе? Нарэшце зусім астрымала сябе, зірнула на ўсё стомлена і, як бы працверазеўшы, прысудзіла сабе: «Нічого не будзе. Нічого!»

Калі паспакайнела, стала больш назаляць тая вінаватасць, якую чула перад Параскаю. Нейкі час думкамі горача даводзіла ні то сабе, ні то Парасцы, быццам тая стаяла перад ёй, чула, што не рабіла нічога для таго, не старалася ніяк. Скончылася гэта тым, што яна рашыла смела: пайсці да Параскі, выкажыць ёй усё, як яно ёсць і як было, няхай ведае. І няхай не думае, чаго не трэба. Не думае няхай, што яна, Ганна, такая, як ёй, мабыць, здалося.

Спусцілася з парты, выцерла рукі аб фартух, прыгладзіла валасы. У калідоры, перад тым як адчыніць пакой, прыпынілася, пачула цішыню ў Парасчыным пакоі. Мудра не паверыла цішыні. Не чытае, канешне, сшыткаў сваіх. Не да чытання. Сядзіць, няйнакш, і думае: каго прыгрэла?..

Упэўненай рукой адчыніла дзверы, рашуча ступіла. Ведала: будзе непрыемная, цяжкая гаворка, але гатовая была да яе. Скажа ўсю праўду. Няхай не думае. Ступіла і здзівілася, узяло расчараванне: Параска хілілася за сталом, чытала. Вочы пільна бегалі па лістках, аловак раз-пораз хутка ставіў знакі. Знаёмы чырвоны аловак.

Не азірнулася нават на Ганну. Ганна бачыла: не прыкідваецца, уся ў клопаце. У сшытку сваім.

У такія хвіліны Ганна раней выходзіла з пакоя. Цяпер цвёрда пайшла да стала, села побач на табурэт. Выказаць усё адразу. Скінуць з сябе.

— Параска,— прамовіла строга, тонам загаду.

Тая, не адрываючыся ад сшытка, матлянула галавою: пачакай. Пабегла вачыма далей па радках, паставіла хутка некалькі знакаў.

Ганна зазлавала:

— Ды паслухай ты!

— Пачакай, патрывай!..— зноў крутнула галавой.— Бачыш жа...

Толькі дачытаўшы, паставіўшы ў канцы апошняе — адзнаку, подпіс, узняла галаву. Зірнула на дзіва лагодна, з усмешкай.

— Ну што?

— А от што! — Ганна знарок выказвала злосць.— Не знала ты, каго брала к сабе!

— Ты чаго гэта? — здзівілася Параска. Здзівілася, бачыла Ганна, шчыра.

— А таго! — Ганна гаварыла задзірыста. Нібы падбівала Параску на спрэчку. З націскам, са злосцю аб'явіла: — Папрашчайся са сваім Башлыковым!

Параска, было відаць, не зразумела нічога.

— Папрашчацца... Чаму?

Ганну ўздымала рашучасць.

— А таму! — Рэзаць, дык рэзаць адразу: — Адбіла я яго ў цябе!

Параска, праўда ж, усё не магла ўразумець як след тое, што ёй казалі.

Можа, падумалася Ганне, гэта ад таго, што яна гаварыла Парасцы нібы з насмешкай над сабой. Нібы не сур'ёзна.

— Калі ж ты ўправілася! — засмяялася раптам Параска.— От і не падумала б!

У голасе Параскі было захапленне. Быццам хваліла Ганну.

— Ты не смейся. Спатканне назначыў,— сказала Ганна строга.

Як ні рашуча настроена была, нядобра было. Твар гарэў, дыханне сцінала. Вінаватаю перад Параскаю, навек вінаватаю чула.

— Спатканне? — не паверыла Параска.

— Спатканне.

Параска нарэшце зразумела ўсё, перастала смяццa. Але жалю не паказала. Проста, годна прамовіла:

— Што ж, віншую.

Было трохі маўчанне.

— От каго ты прытуліла! — не вытрывала Ганна.

Параска доўга глядзела ў сшытак. Нерухома ўжо. Ціха сказала:

— Не думай пра гэта. Пра мяне.

Трэба было б пайсці: галоўнае ж зрабіла. Але не магла ўстаць. Не адразу выказала:

— Што ў вас було?

Параска ўсё глядзела ў сшытак.

— Што было? — Павольна, цвёрда прамовіла: — Нічога не было.

— А казалі... Чула я...

— Разы тры заехаў. Увесь грэх.

— А гаварылі ж...— У Ганніным голасе быў папрок.

Параска ўскінула вочы, адолела тугу. Пажартавала нават:

— Глядзі, каб пра цябе гаварыць не сталі...

Ганна бачыла: туга ўсё таілася ў Парасчыных вачах. Не адазвалася на жарт.

— Ні на што мне ўсё ето,— прамовіла цвёрда, шчыра.— Да і не пара мы. Што дуб і лаза... Не дацягнешся... Каб і можно було...

— Ну, ты гэта — глупства,— задуменна запярэчыла Параска.— Невядома яшчэ: каму да каго цягнуцца.

— Сказала!

Параска маўчала. Ганна дадала наастатак:

— Да і ні да чога ўсё ето.

Калі Ганна ўзнялася, Параска адразу ўзяла наступны сшытак, разгарнула, пабегла вачыма па радках.

А Ганна не магла супакоіцца. Вярнуўшыся ў клас, паспрабавала зноў мыць падлогу — і не здолела. Кінула анучу ў вядро. Сядзела за партай, хадзіла па пакоі, тады выйшла на ганак, на халодны вецер. Думала, што можа на холадзе паспакайнее.

Вечарэла. Далячынь — балотны хмызняк — агортваў сумны прыцемак. Сумны вячэрні прыцемак клаўся і на хаты, на вуліцы, на двор перад школай. А ёй было, насуперак усяму, радасна. Цяпер, калі ўсё выказала Парасцы, калі Параска як бы дазволіла, дык радасць гэта нібы выбавілася на волю, падужэла. Захапіла мацней.

Яна не ўспаміна́ла, яна ўся жыла адчуваннем незвычайнага. Такога дзівоснага, што, хоць сама бачыла і чула, проста не верылася. Як гэта магло здарыцца ■ ёй, якой усе гады так не шанцавала? Як магло зваліцца іменна да яе такое шчасце? Як выдумка.

Адно вылучылася з усяго, білася, паліла, спявала: «Да цябе прыехаў... Цябе пабачыць хацеў... Заўтра, як сцямнее. На шлях...»

«Заўтра. Як сцямнее». Заўтра. Заўтра.

Не, і цяпер радасць была нядоўга адна. Не тая цяпер была Ганна, каб так лёгка паверыць у шчасце, ды яшчэ такое. Якое і ўявіць сабе нельга і якое так неспадзеўкі звалілася да яе. Неспадзеўкі і нібы не па закону.

Стаяла ў кофтачцы, без хусткі. Рукі былі яшчэ закасаны. Вецер сцінаў усю. Стрымліваючы дрыжыкі, знарок кпіла з сябе: знайшла шчасце, дурная! Само ў рукі ўляцела! Трымай мацней! Халодны вецер такі выдзімаў тлум з галавы, думалася ясней. Цвяроза прысудзіла сабе: нічога не будзе ■ усяго гэтага. Пустое! Не пара яму! Прыбіральшчыца!.. Не такую яму трэба!

Параска — от хто яму пара!

«Пара не пара, а от выбраў! — запярэчыла ў ёй неразумнае, даверлівае, што вельмі ж не хацела тра-

ціць радасць.— Выбраў! Не Параску, а яе, Ганну, выбраў!» — «Выбраў! — пакпіла яна з той даверлівай дурніцы.— Захацелася пацешыцца мужчыну. Падурэць трохі: маладая кроў! Пабачыў — адзінокая, вольная!..» — «Адзінокая, вольная,— адразу падхапіла тая, якой так хацелася шчасця.— А Параска — не вольная?..» — «Вольная — ды не такая, няпростая. Да гэтай так не падыдзеш, не пазавеш так зразу!..»

Вучыла сябе розуму, а не разумела. Не слухалася ўсё ж сама сябе. Не даходзілі неяк, не бралі цвярозыя перасцярогі. Калі азіралася на тое, што было, які быў ён, калі казаў «да цябе», «заўтра» — чулася, верылася: няпроста і ў яго. Не так сабе казаў. Упадабаў. Бачыла, не сляпая. Упадабаў.

Трымаўся, праўда, важна, аж лішне. Але, відаць жа было, знарок гэта: гонар свой мужчынскі помніў. І начальніцкі гонар не забываў. Ганарлівы аж занадта, відаць. З-за гонару, не інакш, так багата маўчаў, нібы не адважваўся пастуніцца. І сказаў толькі некалькі слоў, і то не адразу, і не абы-як. Дзівілася, згадвала з ухвалаю: далікатны які, не дакрануўся нават, не тое што не палез сляпіцаю, як нашы вясковыя. Ведама, культура.

А можа і ад таго такі — радасна хацелася гэтага,— што ўпадабаў. Як ні стрымлівала гэта, баючыся памыліцца, весела чула: сілу мела над ім. І ён знаў гэта. Таму і быў такі, не падобны на сябе, ціхі, стараўся адолець гэта. Стараўся і не змог! Сказаў: «Да цябе прыехаў!» Да цябе адной. Не магла думаць інакш, як прадзіва: такі чалавек быў неабыякавы да яе. Прыкмеціў, выбраў, захацеў яе, іменна яе. Такі дужы, такі разумны, такі строгі!

Вярнулася ў клас, запаліла лямпу. Стала завіхацца. Потым кінула ўсё, зноў села, задумалася. Зноў судзіла сябе: не строй, дурная, свят. Не будзе ў цябе нічога. Не пара!..

Не будзе, і няхай не будзе, унізалася яшчэ адно цвярозае. Можа ёй нічога і не трэба. Ёй можа і таго даволі, што ёсць. І тое — свята ёй...

А наогул — няма чаго сушыць галаву.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### 1

Познім завейным вечарам, апошнім вечарам дваццаць дзевятага года, вяртаўся Апейка з «раёна» дадому. Вецер, што ні на момант не ўціхаў, налятаў то збоку, то спераду. Збоку і спераду гнаў снег, кідаў яго на коней, на вазок, у твар Ігнату, у твар Апейку. Клубы абодвух коней былі белыя, у вазку было поўна снегу, снег лажыўся на грудзі, на плечы паліто, біўся ў вочы. Коні то беглі, паслізгваючыся, па голым шляху, то грузлі, важка лезлі ў сумётах, якія ўжо часта перагароджвалі шлях. У посвісце ветру амаль няўцiхна было чуваць цягучае, неспакойнае гудзенне правадоў.

Было цёмна. Ад завеі не было відаць агнёў нават недалёкіх вёсак, ды і блізкія слупы ішлі ў цемры ледзь прыкметнымі мутнымі знакамі. Відаць былі адно рухлівы перадок вазка, конскія клубы ў мерным пакалыхванні ды хвасты, якія матляліся ад бегу і ветру. Апейка чуў, што ногі мерзнуць, засоўваў іх у сена, утульваў ад ветру і снегу твар у каўнер. Як праз дрымоту, адзначаў лёгкі лёт, з посвістам, па санных каляінах, важкі скрып па голых прагалінах, павольны, мяккі рух у сумётах. Ён драмаў, дрымота была такая, што ідовішчы сну, ява, трызненне, думкі мяшаліся, зблытваліся так, што і сам не дабраў бы ладу. Ён амаль не спаў некалькі начэй і, як толькі рушылі з сяла, адразу, нібы з надмернай ношай, уваліўся ў сон. Але сцюжны вецер неўзабаве, хоць і не да рэшты, разварушыў сон. Апейка то драмаў, то расплюшчваў вочы і бачыў поле, панылы хмызняк, слупы, то зноў заплюшчваўся і адно чуў снег, вецер, посвіст, пад якія рвана, бязладна ішлі, выходзілі думкі. У дрымотнай душы было то неспакойна, то клопатна, то радасна. У хвіліны яснасці ён некалькі разоў лез рукой пад паліто, нахаладалымі, непаслухмянымі пальцамі даставаў вялікі і нязвычна коўзкі кішанёвы гадзіннік, падносіў да самых вачэй, узіраўся — ці не позна? Ён выехаў пазнавата: нельга было раней ды і спадзяваўся, што дарога будзе лягчэйшая; а гэта завея запыняла, і ён баяўся, што не ўправіцца. У цемры лічбаў на гадзінніку амаль не было відаць: ён хутчэй здагадваўся, чым бачыў —

колькі часу. Позіркі гэтыя на гадзіннік іншы раз былі і ад таго, што сядзець нязрушна станавілася сумна, што таміў нейкі цьмяны, няпэўны, як змрок навокал, неспакой.

У галаву лезлі малюнкі і галасы гэтых пяці неспакойных, амаль бяссонных сутак, амаль няспынных сходаў, гаворак, пераконванняў, спрэчак. Яму раптам у дрымоце так ясна бачыўся які-небудзь твар, чуўся які-небудзь голас, што ўсё гэта як бы нанава станавілася яваю, і ён зноў як бы ўрываўся ў гоман, у галас, гаварыў тое, што не знайшоў тады, як трэба было, што трывожыла і цяпер. Як заўсёды, у гэтыя хвіліны, хвалюючы, гарачачы, набягалі раптам вельмі ўдалыя доказы, трапныя адказы. І ў дрымоце яго таміла адчуванне незавершанасці, неразвязанасці тых гаворак-спрэчак, імкненне адолець, даказаць, пераканаць іх у сваёй, у цяжкай іхняму разуменню праўдзе. Ён ішоў, прабіваўся, даказваў — думкамі яшчэ як бы прадаўжаў тое, чым жыў усе дні і ночы. Ён мог бы быць задаволены: не дарэмна ночы не спаў, расцінаўся, аж у галаве гуло, аж ахрып: за пяцера сутак яшчэ амаль пяцьдзесят чалавек сталі калгаснікамі, дакладна — сорак сем. Але амаль заўсёды цвярозая яснасць хмарыла ўцеху нярадаснай, ужо звыклай рэальнасцю: тое, што ён зрабіў,— як кропля ў моры. Амаль нічога не змяняла. Раён далёка адставаў ад таго плана калектывізацыі, які быў дадзены яму. І Апейка добра адчуваў, што ніякага радаснага дзіва чакаць не трэба. Не будзе яго. Значыцца, раёну і далей давядзецца адставаць, з усімі непрыемнымі дадаткамі для яго кіраўнікоў.

Яго душу трывожыла — і гэта было можа самае даўкае — памяць пра нядобрыя настроі, якія ён заўважаў і раней, але ў гэты прыезд адчуў і пабачыў асабліва моцна. Тое, што ён прыкмячаў яшчэ ўвосень, усё расло і шырылася, гразілася ўсяму раёну, ды можа не толькі раёну. Яны станавіліся ўсё большай перашкодай на дарозе — няўпэўненасць людзей у заўтрашнім, недавер'е да таго, што нёс ён, Апейка, іншыя ўпаўнаважаныя. Нецярплівы націск, несправядлівыя і грубыя меры, якія з часам не толькі не знікалі, а большалі, нібы падмацоўвалі закарэлае, векавое мужыцкае неда-

вер'е ў тое, што збоку могуць прыйсці з добрым, зрабіць добрае...

Няпэўныя ў заўтрашнім, у кожным сяле рэзалі, з нязвыклай для сялянскай ашчаднасці лёгкасцю губілі нажытае — авечак, цялят, кароў. Апейка не з адным загаворваў пра гэта, не на адным сходзе пераконваў, патрабаваў — і бачыў, што нішто не дае толку. «Трэба неадкладна — нейкія строгія меры...» — падумаў заклапочана і расплюшчыў вочы: за завеяю, за рухомай аднастайнасцю прысад разабраў некалькі кустоў вышэй поля. «Курган»,— здагадаўся Апейка; самога кургана не было відаць: выбелены снегам, зліваўся з навакольнай шэраннью. «Скора ўжэ дома... Дацягліся...» Ён палез быў па гадзіннік, але адумаўся: усё роўна ўжо — спазніўся ці не спазніўся. Ён як бы ўбачыў жонку, сына, дачку — уявіў, як услухоўваюцца, ці не пад'ехаў вазок, ці не рыпнулі веснічкі. Нецярпліва варухнуўся, скінуў снег з паліто, выпрастаўся. Чым вышэй узбягалі коні па ўздыме дарогі, тым мацнеў вецер, што вольна і шырока рушыў з-за Прыпяці, насустрач. Дарога пайшла тут цвёрдая, без сумётаў, падмеценая, вылізаная ветрам. Ці ад таго, што і Ігнат як бы ажыў, ці ад таго, што коні самі пажвавелі — пачулі блізка дом,— вазок па ўздыме памчаў лягчэй, лётам. Бліснуў,— здалося, весела — агеньчык, і вось ужо блізка відаць сталі і само акно, цёмны абрыс хаты — адной, другой. Уехалі ў Юравічы, у верхнюю вуліцу. На спуску зноў раз-пораз дарогу пераймалі сумёты, але тут гэта нават памагала: ямчэй было спускацца з кручы. У прарэзе між гор зажаўцела ўжо некалькі блізкіх ніжніх агеньчыкаў. Усяго мястэчка не было відаць — засцілала завея.

Жаўцеў агеньчык і ў выканкоме. Апейка затрымаў Ігната, узбег па зледзянелым — з трэскам — ганку на другі паверх. Павітаўшы, павіншаваўшы з Новым годам санлівага дзяжурнага, які адказаў узрадавана, галасна,— убег у свой пакой, хапаючыся, запаліў лямпу. На стале было некалькі лістоў папер, паперка са зводкай аб стане калектывізацыі ў раёне. Ён паглядзеў: дваццаць дзевяць і сем дзесятых працэнта. Пісана рукою Зубрыча, унізе яго ж акуратны, сціплы подпіс.

Лісты, паперы. Адносіны з Мазыра: на папяроснай паперы, пад капіроўку — хутка прагледзеў адну, дру-

гую. Разарваў канверт, дастаў пісьмо. Чытаючы, схамянуўся, адкінуў крысо паліто, дастаў гадзіннік: яшчэ не позна. Можна ўправіцца. Сабраў паперы, лісты ў папку. Узяў тэлефонную трубку, крутнуў ручку. Райкомаўскі дзяжурны адазваўся адразу. Башлыкова яшчэ не было. Не вярнуўся. Ужо сабраўшыся ісці, Апейка кінуў позіркам на стус газет, складзеных ускрай стала. Заўважыў адразу на верхняй: «І. Сталін. Да пытанняў аграрнай палітыкі ў СССР». Забраў увесь стус пад паху, хукнуў у лямпу і рынуў уподбег назад.

Ледзь сеў у вазок, Ігнат шмаргануў коней. Даляцелі дамоў у момант.

— Прывяжы пакуль — ды ў хату. Здаецца, управіліся!..

Тут намёрзлыя ступенькі таксама трашчалі пад нагамі, нецярпліва і радасна. Стукаць не трэба было: дзверы нібы самі адчыніліся. У цёмных сенцах абняў жонку. У хату ўвайшоў, абдымаючы за галаву сына. Валодзя папракнуў:

— Каб трохі, пачалі б без цябе.

— Усё-ткі ж управіліся!

Стол быў засланы белым абрусам. На стале ўсё было падрыхтавана да сустрэчы. Ніначка, што таксама не спала, адразу пабегла да стала. Апейка пацалаваў яе, хутка скінуў паліто, рушыў умывацца. Калі вярнуўся, Ігнат быў у пакоі ўжо, і лямпа гарэла ярка, святочна. Вера памагала Ігнату распрануцца.

— Што ж, каб гэты год быў не горшы за іншыя. За шчасце ўсіх нас!..— Апейка па чарзе паднёс да ўсіх сваю чарку: да малых, якім налілі чырвонага морсу, да Веры, да Ігната.

Ігнат, як і каля коней, трымаўся за сталом чынна. Сказаўшы за Апейкам: «За тое, штоб дабро не пераводзілася ў етым доме!» — ён потым і піў, і закусваў ужо моўчкі. Як і ў дарозе, і ў сёлах, ён трымаўся незалежна, з годнасцю, як бы паказваючы ўсім, што ведае мяжу, якая ёсць паміж ім і старшынёй. Ён і тут не бянтэжыўся — ды і чаго было бянтэжыцца: свой, лічы, даўно ў хаце,— але і не дапушчаў, хоць павесялеў ад гарэлкі, якой-небудзь вольнасці. Вера гасцінна сачыла, каб у яго ўвесь час было і выпіць, і закусіць. Ён браў гэта як належнае, са звычайнай паважнасцю.

Ігнат не спяшаўся асабліва, але неўзабаве паважна ж устаў, падзякаваў. На Верына запрашэнне пабыць яшчэ сказаў цвяроза:

— Не. Трэба і пра другіх не забуваць.— Апейка здагадаўся: «другія» на той час — коні.

Апейка правёў яго на ганак, хвіліну пастаяў пад павевамі халоднага ветру. Весела пайшоў зноў у бесклапотны, шчаслівы гоман і смех за сталом. Вясёлай, бясхмарнай была гэта ноч, гэта сустрэча года, які потым суджана было Апейку ўспамінаць і з нязменным гонарам, і — не адзін год — з болеснай крыўдай. Годам, у які суджана было зазнаць і вялікія радасці, і вялікія няшчасці.

Тады ж, у тую ноч, усім ім за сталом было вельмі весела. Дзеці дурэлі, рагаталі, смяялася па-маладому, закахана тулілася Вера. Молада, хораша было і Апейку. Весялосць прыціхла ненадоўга толькі тады, калі паявілася жонка Харчава, стрымана і неяк вінавата загаварыла:

— З Новым годам вас, суседзечкі нашы! Хай будзе добра ўсё!

І гаварыла, і кланялася яна па-вясковаму. Ва ўсім яна была вясковаю жанчынаю: жывучы даўно ў «горадзе», яна, Маруся, амаль нічога не змяніла ў звычках. Нават крамныя кофта і спадніца, пашытыя ў юравіцкай швейнай, выглядалі на ёй па-вясковаму.

Вера з радасцю пасадзіла яе за стол, наліла ў чарку. Выпілі разам.

— На Новы год неяк нядобра адной. У другія дні — дак не так... А ў Новы год — дак проста сэрца смокча...

Апейка заўважыў, што яна, гамонячы па-вясковаму ахвотна, амаль увесь час услухоўвалася, ці не чуваць чаго на вуліцы, на двары. Ці не прыехаў чалавек. Добрая душою, Апейка ведаў, яна няёмка чула сябе за свайго мужа, за яго разлад з ім, з Апейкам. Не магла згадзіцца сэрцам і абыходзілася заўсёды лагодна і вінавата, хоць і стрымлівалася і пабойвалася Харчава. От і цяпер Апейка чуў і яе дабрату, і прыхаваную апаску, што чалавек, калі пабачыць, не пахваліць. «А ўсё ж такі — прыйшла...»

Ёй не сядзелася. Пагаманіўшы столькі, колькі трэба было для прыліку, яна падалася дадому. Пайшла ў

час — амаль адразу за гэтым пад'ехаў Харчаў. Ён прыехаў не адзін, з нейкімі знаёмымі, за сцяной стала адразу шумна — затупалі боты, загаманілі дужыя галасы. Апейка мімаволі прыслухоўваўся да гэтых галасоў, стараўся пазнаць, хто там: выдзеліў сярод іншых напорлівы барытон Дубадзела. Сябры! Здалося, пачуў свае прозвішча: успомнілі! Але не разабраў — што казалі, ды і не хацеў разбіраць: яны вясёлыя, і яму няма чаго псаваць весялосці!

Пазней падляцеў яшчэ нехта. Апейка прыслухаўся да хуткіх крокаў: можа да яго. Не, таксама да Харчава. Вера сабралася ўжо весці дзяцей спаць, калі на іх ганку пачуліся крокі. Хтосьці ўвайшоў у сенцы. Апейка адчыніў — у пакой ступіў Башлыкоў, вясёлы, п'янаваты.

— Чытаў? — Ён усміхнуўся шырока, па-п'янаму прасцецкі, як бы ўрачыста.

— Што?

На твары Башлыкова паявілася, праўда, паблажлівая, пагарда:

— Адстаеш!.. Зараз жа вазьмі! Праштудзіруй!..— Ужо па-сяброўску, з захапленнем: — От — галава! От — розум! Не дарэмна — на самым версе! Прачытаеш — і ўсё ясна становіцца! На сто вёрст наперад відаць! І ўглыб — на сто! Усё ясна! Як двойчы два!..— Паблажліва, па-сяброўску ж папракнуў: — Ну, чаго стаў?! Як сустракаеш госця! Налі! Выпіць трэба!

Ён звонка чокнуўся, хвацка перакуліў чарку. Весела, узнята прайшоўся, стройны ў сваім амаль вайсковым гарнітуры, у хромавых ботах, дужы ў хадзе, прыгожы.

— Усё — ясна! Як двойчы два! Усё — па палічках разлажыў! Гэта — сюды, гэта — туды! Не дарэмна — на самым версе! Самога Энгельса, брат, на месца паставіў!.. Зараз жа вазьмі!.. Ну, яшчэ па адной! Раз такое дзела!

Ён выйшаў так жа хутка, як і паявіўся.

2

Вера засталася ў спальні з дзецьмі, і Апейка ўзяў стус газет, палажыў на стале, дзе яшчэ былі чаркі, навагодні пачастунак. Зверху апынулася газета, у куточку якой у рамачцы было надрукавана пісьмо Сталіна,

якое ён чытаў ужо спехам, калі ехаў у раён. Пісьмо яму тады спадабалася сціпласцю, якая Апейку не здзівіла ні трохі, бо так пасавала з тым абліччам Сталіна, якое нязменна бачылася яму і якое ён заўсёды паважаў. Сталін быў Апейку чалавекам і незвычайнай адвагі, і незвычайнай цвёрдасці ў нялёгкія гады барацьбы з трацкістамі і бухарынцамі. У яго, у Сталіна, былі найвялікшыя заслугі перад партыяй, і тая сціпласць, з якой адзначылі яго пяцідзесяцігоддзе, сціпласць, якою было поўна і гэта пісьмо, яшчэ ўздымалі ў Апейку павагу да Сталіна.

З гэтай павагай ён стаў нанава перачытваць: *«Усім арганізацыям і таварышам, якія прыслалі прывітанні ў сувязі з 50-годдзем Сталіна...* Вашы віншаванні і прывітанні аднашу на рахунак вялікай партыі рабочага класа, якая нарадзіла і выхавала мяне па ўзору свайму і падабенству. І іменна таму, што аднашу іх на рахунак нашай слаўнай ленінскай партыі, бяру на сябе смеласць адказаць вам бальшавіцкай падзякай... Можаце не сумнявацца, таварышы, што я гатоў і ў далейшым аддаць справе рабочага класа, справе пралетарскай рэвалюцыі і сусветнага камунізму ўсе свае сілы, усе свае здольнасці і, калі спатрэбіцца, усю сваю кроў, кроплю за кропляй... З глыбокай павагай І. Сталін. 21 снежня 1929 года».

За гэтым, не чытаючы больш нічога, Апейка выбраў той артыкул Сталіна, пра які казаў Башлыкоў. Гэта была прамова на канферэнцыі аграрнікаў-марксістаў 27 снежня 1929 года. З першых радкоў прамова зацікавіла Апейку: Сталін гаварыў пра тое, што найбольш хвалявала — пра калгасы, пра калгасны рух. «Калгасны рухператварыўся з руху асобных груп і праслоек працоўных сялян у рух мільёнаў і мільёнаў асноўных мас сялянства...» «Але калі мы маем падставы ганарыцца *практычнымі* поспехамі сацыялістычнага будаўніцтва, то нельга тое ж самае сказаць пра поспехі нашай *тэарэтычнай* працы ў галіне эканомікі нагогул, у галіне сельскай гаспадаркі ў прыватнасці...» Багата што з таго, што чытаў Апейка, пераклікалася з тым, пра што ён думаў, як бы падмацоўвала яго развагі, давала яго думкам упэўненасць і зладжанасць. Яснасць, лагічнасць, прастата, з якімі Сталін тлумачыў, раскрываў самыя складаныя, супярэчлівыя пра-

блемы, надавалі радасную яснасць і прастату і думкам, якія не адзін раз вярэдзілі Апейку. Звыклы верыць розуму Сталіна, цешачыся, што от яны ёсць самыя дакладныя адказы на самыя трудныя пытанні, Апейка проста ўбіраў у сябе думку за думкай, развагу за развагай. Ён ахвотна згаджаўся з усімі доказамі, цвёрдымі, абгрунтаванымі, якімі Сталін разбіваў адну за адной буржуазныя тэорыі ў сялянскім пытанні. Падуладны роўнай, моцнай плыні сталінскай логікі, ён гатоў быў, здаецца, даверліва ісці за прамоўцам да канца, калі раптам наткнуўся, як на нечаканы пень, на адну думку. Думка гэта здзівіла, запыніла ўвагу. Ён, яшчэ добра не цямячы, як бы не верачы, што не памыліўся, перачытаў неспадзяваны радок другі раз. Не, ён не памыліўся — так і было напісана: «У нас няма... рабскай прывязанасці селяніна да шматка зямлі... якая ёсць на Захадзе...»

Няма? Няма — «рабскай прывязанасці да зямлі»?.. Сталін тлумачыў гэта тым, што ў нас няма прыватнай уласнасці на зямлю. Ён лічыў, што гэта «акалічнасць» «не можа не аблегчыць» пераходу сялян «на рэйкі калгасаў». Больш таго, ён гаварыў, што гэта дае калгасам магчымасць *«так лёгка»* дэманстраваць свае перавагі перад аднаасобнымі сялянскімі гаспадаркамі. З дзіўным адчуваннем, і разгубленасцю чытаў Апейка тое, як Сталін тлумачыў, чаму Энгельс у сваёй брашуры «Сялянскае пытанне» раіў быць асцярожнымі і ўважлівымі да селяніна, ведучы яго на новую дарогу калгаснага жыцця. Гэта, мабыць, было тое, што ўзрадавала Башлыкова: «Самога Энгельса на месца паставіў!» Апейку зноў усхвалявала вялікая чуласць, з якой пісаў пра селяніна Энгельс: «Мы будзем рабіць усё магчымае, каб яму было лягчэй жыць, каб аблегчыць яму пераход да таварыства...» Сталін не пярэчыў, згаджаўся нібы з Энгельсам; але ўслед гаварыў такое, што можна было думаць: чуласць да селяніна, пра якую пісаў Энгельс, неабходна нібы толькі на Захадзе. Дзе ёсць прыватная ўласнасць на зямлю. «Ці можам мы сказаць,— што ў нас, у СССР, ёсць такое ж становішча? — спытаўся Сталін і тут жа адказаў: — Не, нельга гэтага сказаць. Нельга, бо ў нас няма прыватнай уласнасці на зямлю, якая прыкоўвае селяніна да яго індывідуальнай гаспадаркі. Нельга, бо ў нас ёсць

нацыяналізацыя зямлі, якая аблягчае справу пераходу індывідуальнага селяніна на рэйкі калектывізму... Вось дзе адна з прычын,— упэўнена гаварыў Сталін,— той парадунаўчай лёгкасці і быстраты, з якой у нас развіваецца ў апошні час калгасны рух...» Тут Апейка зноў спыніўся, вярнуўся, перачытаў сказ. Сталін лічыў, што калгасны рух расце «параўнаўча *лёгка»! Лёгка!*

Нецярплівая цікавасць павяла Апейку далей, але сачыў ён за прамовай Сталіна ўжо як бы з насцярожанасцю. Згадзіўся, што і ў калгасах застануцца яшчэ элементы класавай барацьбы, што там могуць быць перажыткі індывідуалістычнай ці нават кулацкай псіхалогіі, некаторая няроўнасць у матэрыяльным становішчы. Раптам напаткаў ленінскую думку, душа ўзяла яе ахвотна, узрадавана: у словах Леніна была падтрымка таму, што нарадзілася з незлічоных сустрэч з людзьмі і што разам як бы пярэчыла поглядам некаторых лішне хуткіх, «прынцыповых» дзеячаў. Апейка хапатліва пашукаў аловак у пінжаку, акуратна, задаволена двойчы адкрэсліў збоку. Перачытаў, стараючыся запомніць слова ў слова: *«Справа пераробкі дробнага земляроба, пераробкі ўсёй яго псіхалогіі і навыкаў ёсць справа, якая патрабуе пакаленняў».* «Пакаленняў!» — паўтарыў ён думкаю, нібы гаворачы Башлыкову.

Башлыкова, мабыць, найбольш усцешыў раздзел, дзе Сталін казаў, што партыя ад палітыкі абмежавання кулацтва перайшла да ліквідацыі яго як *класа.* Сталін разважліва даказваў, чаму правільнай была ў свой час палітыка *абмежавання* кулацтва. Заявіў, што цяпер створана эканамічная аснова для таго, каб замяніць кулацкую прадукцыю — калгаснай і саўгаснай. «Ну, а як быць з палітыкай раскулачвання,— лавіў Апейка з вострай увагай,— ці можна дапусціць раскулачванне ў раёнах суцэльнай калектывізацыі? — пытаюць з розных бакоў. Сталін цвёрда адказваў: — Смешнае пытанне! Раскулачвання нельга было дапускаць, пакуль мы стаялі на пункце гледжання абмежавання эксплуататарскіх тэндэнцый кулацтва, пакуль мы не мелі магчымасці перайсці ў рашучае наступленне супраць кулацтва, пакуль у нас не было магчымасці замяніць кулацкую вытворчасць вытворчасцю кал-

гасаў і саўгасаў... А цяпер? Цяпер другая справа... Цяпер мы маем магчымасць павесці рашучае наступленне на кулацтва, зламаць яго супраціўленне, ліквідаваць яго як клас і замяніць яго вытворчасць вытворчасцю калгасаў і саўгасаў».

Як стрэмка, упілося ў памяць — першымі словамі адказу Сталіна было: «Смешнае пытанне!» Што ў гэтым было смешнае! Далей Сталін зноў амаль паўтарыў гэты выраз: «Смешна і несур'ёзна гаварыць доўга цяпер пра раскулачванне. Зняўшы галаву, па валасах не плачуць». Нешта гуллівае пачулася Апейку ў гэтым новым «смешна». «Не менш смешным,— гаварыў зноў Сталін,— здаецца другое пытанне: ці можна пусціць кулака ў калгас?.. Канешне, нельга яго пускаць у калгас. Нельга, бо ён з'яўляецца заклятым ворагам калгаснага руху...»

3

Дачытаўшы, Апейка хвіліну сядзеў ціха. Потым закурыў над шклом лямпы, стаў хадзіць па пакоі. Хмелю ў галаве не чулася, стомы як не было. Адну за адной успамінаў ён думкі з прамовы, цвёрдыя, упэўненыя довады. Тое, што яшчэ нядаўна здавалася цьмяным і выклікала трудныя развагі, сумненні, стала раптам простым, ясным. Было такое адчуванне, быццам пасля блуканняў і пошукаў у тумане выбраўся раптам на чыстае, дзе ўсё ляжала адкрытае вачам, з палямі і лясамі, з дарогамі і сцежкамі. Чалавеку заўсёды хочацца прастаты, яснасці, Апейка ж у той вечар зусім не меў схільнасці такой, каб ацэньваць ці ўзважваць нешта, правяраць у прамове. Для яго гэта была найперш прамова кіраўніка партыі, тлумачэнне найбліжэйшай задачы ўсіх войск, у якіх ён, Апейка, быў можа толькі аддзялённым камандзірам. Кім бы ён ні быў, задача гэта датычылася яго, і ён перш за ўсё з клопатнасцю думаў пра тое, на што яна скіроўвала ўвагу, якую ставіла мэту, чаго патрабавала ад яго.

Пры ўсім давер'і да Сталіна, разбіраючы са сваёй няўціхнай і ўедлівай паляшуцкай уважлівасцю прамову, Апейка хутка зноў запыніўся, задумаўся. Насуперак таму, што казаў Сталін, улезла сумненне, што калгасам так проста — са сваімі сялянскімі конікамі

ды дзядоўскімі плужкамі — паказваць перавагі над аднаасобнымі гаспадаркамі. Варта толькі, выходзіла з прамовы, проста сысціся разам — і з'явіцца цудадзейная сіла: можна і араць, і сеяць наўздзіў, паказваць цуды і з тымі конікамі ды плужкамі. Неяк лёгка, здавалася, разворвалі так багата цаліны названыя да прыкладу данскія казакі, без машын, без трактароў.

Ён закурыў, пастаяў каля акна: у святле за шыбай круціла снег. Завіруха ўсё мяла. Падумаў: «Замяце ўсе дарогі: чорт знае, як дабірацца будзеш... Самы час, каб дарога была, а яе замятае. Як знарок...» Ён згадаў Загалле, апошні сход, не скончаны з-за гэтай віхурнай навагодняй ночы, адчуў імкненне ехаць назад, давесці справу да ладу. Стары год сышоў, а клопаты не сыходзілі; без мяжы, без якога-небудзь прыпынку пераходзілі ў новы. Амаль адразу ж Апейка цвяроза падумаў, што — пры ўсім гэтым — новы год будзе не зусім працягам старога. «Тая ж дарога, але ўздым другі. Другая круцізна пачынаецца...»

Мяло, кідала снегам у шыбу. У галаву раптам зноў увайшло здзіўленне: «лёгка!.. параўнаўча лёгка і быстра!..» Ён падумаў пра свае амаль няспынныя паездкі па сёлах, пра незлічоныя, бясконцыя, зацятыя сходы. Падумаў пра тую ўпартую нязгоду, якая была ў Глінішчах, калі спрабавалі зноў зладзіць калгас. «Параўнаўча лёгка»! Чаму — «параўнаўча лёгка»?! Думка адразу падказала: лёгка — у другіх месцах; але цвярозая разважнасць запярэчыла: законы сялянскай псіхалогіі — адны ўсюды...

«У нас няма рабскай прывязанасці да шматка зямлі...» — успомніліся яму словы Сталіна. «На Захадзе ёсць, а ў нас — няма...» «Бо ў нас няма прыватнай уласнасці на зямлю...» У вельмі яснай галаве паявілася здзіўленне: «Няма прывязанасці да зямлі? Рабскай прывязанасці?.. Чаму — няма?!.» Не толькі прыдзірлівая разважнасць — душа запярэчыла: «Ёсць!.. У тым і бяда — што ёсць!.. Фармальна можа — няма, а фактычна — ёсць!.. Той шматок зямлі селяніну — свой! Не чый-небудзь, а *яго, свой*! Ён зямлю — гэта праўда — не купляў, але ж яму дала яе рэвалюцыя! Дала, і ён — узяў, з радасцю ўзяў, як справядлівую дачу,— і стаў лічыць сваёй! І яна, шматок той, стала яго найдаражэйшым набыткам, яго ўласнасцю, яго —

не чым іншым — *прыватнай* уласнасцю!! І ён любіць яе, як немаведама што, прывязаны да яе, як уладар яе і *раб* яе,— *па-рабску* прывязаны! У яго *ёсць* — рабская прывязанасць! *Ёсць*! У тым і ўся бяда!.. І прывязаны ён, пэўна, не менш, чым той селянін — на Захадзе! Той — купіў; а гэты — за «шматок зямлі» — паліў памешчыкаў, гнаў пілсудчыкаў і дзянікінцаў; як адзіную надзею сваю на жыццё ратаваў Савецкую ўладу. Ён — не купіў; ён — заваяваў сабе яе, зямельку сваю,— штыком, агнём, крывёю! Хіба ж — меншаю цаною?!. Ці ж выпадкова — першыя савецкія дэкрэты былі — аб міры, аб зямлі? Самае дарагое, да чаго рваліся людзі ад веку, ад дзядоў і прадзедаў, у гэтых дэкрэтах: мір і — зямля! Савецкая ўлада, абвясціўшы іх, адразу заваявала мужыцкія сэрцы мільёнаў. Не трэба думаць іншага — амаль кожны з тых, хто змяніў на шынель світку, бачыў больш не зямлю наогул, а зямлю за сваім сялом, свой шматок зямлі!.. І вось — калі параўноўваць селяніна ў нас і на Захадзе, то ці трэба забываць, што наш набыў свой шматок зямлі толькі дзесятак гадоў якіх! Можна сказаць, хвіліну якую назад! Можна сказаць, не спатоліў яшчэ ахвоту сваю! І як яно выходзіць, калі глянуць збоку, адтуль: тая самая Савецкая ўлада, якая хвіліну назад дала яму зямлю, сёння ў нашым абліччы прыходзіць да яго ўгаворваць адмовіцца ад свайго шматка, падзяліцца ім з другімі. Прыходзіць — дакажы катораму іншае — адабраць яе! «Учора далі, а сягоння — адбіраюць! Ето — ваша справядлівасць?!. Ашукалі!!!»

«Не, Энгельсава парада — быць чулым да селяніна, каб памагчы лягчэй выйсці яму на новую дарогу,— не лішняя і ў нас. Не лішняя. Можа быць, у нас яна яшчэ больш важная...»

Апейка падумаў: чаму Сталін сказаў, што ў нас — «параўнаўча лёгка»? Яму, які верыў Сталіну, які верыў у вялікі вопыт Сталіна, яго розум, не прыходзіла нават у галаву, што Сталін мог гэта сказаць таму, што не ведаў добра селяніна, усяго таго складанага, супярэчлівага, што стаяла на калгаснай дарозе. Самому Апейку, звычайнаму, радавому аддзялённаму ў вялікай арміі, усё гэта здавалася такім зразумелым, простым для разумення, што нават на момант не падумалася: Сталін мала ведае селяніна. Як Сталін мог не

ведаць самага важнага і самага простага, самага віднага ўсякаму, хто бачыў блізка мужыка. Натуральна прыйшло меркаванне: Сталін сказаў гэта з асаблівых, тактычных меркаванняў...

Ужо раздзеўшыся, слухаючы цягучы посвіст ветру, гледзячы ў поцемак, Апейка як бы пачуў зноў: «Смешнае пытанне!» Чаму смешнае, калі яно такое — важнае?! Калі яно — перад такою вялікай і цяжкай бітвай!.. «Смешна і несур'ёзна!..» «Зняўшы галаву, па валасах не плачуць!..» «Несур'ёзна!..» — як бы гучала ў яго галаве.

Думкі блыталіся, у галаве звінела. Ён чуў ужо нечадольную стому, што раптам навалілася на яго, зрабіла яго бяссілым. Пабачыў зноў мяцельную ноч, сумётную дарогу, мернае пакалыхванне конскіх клубоў. Пачуў маркотны гул правадоў. «Смешна і несур'ёзна...» — прабілася яшчэ, і, каб адагнаць, ён загадаў сабе: «Спаць, спаць!.. Нарэшце — выспацца...»

Дарога бегла ўсё мякчэй, хутчэй.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### 1

Пачынала днець, калі Башлыкоў прачнуўся. Ён заўважыў: у вокнах бела — і адразу пацягнуўся да гадзінніка. Было без дзесяці дзевяць. Ганьба! Даўно так доўга не валяўся ў ложку.

Ён адкінуў коўдру, ускочыў. Хапатком нацягнуў галіфэ, абуў боты, сарваў з цвічка, накінуў ручнік на шыю. У майцы рушыў да ўмывальніка.

Умывальнік — жалезны бачок — вісеў на сцяне каля дзвярэй у бакоўцы кухні. Блізка ад умывальніка была печ, крываватая, пабеленая, падобная на іншыя печы ў мястэчку і ў вёсках. Пры печы корпалася гаспадыня, Цыля. Башлыкоў прывітаўся з ёю і дзелавіта схіліўся над эмалевым тазікам, што стаяў пад бачком на табурэтцы.

Цыля адхілілася ад печы, выцерла па-сялянску твар, адказала на прывітанне весела, са святочнай урачыстасцю:

— З Новым годам вас!

— А! Дзякую, Цыля Савулаўна! З Новым і вас!

Вада ў бачку здалася цеплаватаю. Змыўшы мыла з рук, Башлыкоў выйшаў у сенцы, у вялікім медным карцы нанасіў з вядра халоднай. Наліў поўны бачок. З асалодай халадзіў рукі, шыю, твар, ледзь стрымліваўся, каб не закрактаць.

Калі дужымі і хуткімі рухамі выцерся і пакіраваў назад у свой пакой, злавіў сябе на тым, што мармыча нейкую вясёлую мелодыю. Гатоў быў заспяваць, хоць спяваць наогул не любіў і не ўмеў. У душы ўздымалася невядомая, хлапчукоўская радасць.

Толькі намерыўся адчыніць дзверы ў свой пакой, як хтосьці праляцеў паўз вокны, у сенцах бразнула клямка. Праз момант з сенцаў уварваўся расчырванелы, у паліто нарасхрыст Лёва.

Лёва таксама быў у выдатным настроі. Ці ад таго, што зрабіў нешта ўдалае, ці ад таго проста, што прабег па марозе, што маладая кроў загаварыла, Лёва быў перапоўнен энергіяй. Можа пачаў бы мітусіцца, кідацца па пакоі, спрачацца задзірыста з маці, але адразу вясёлым, гарэзным позіркам трапіў на паважанага іх кватаранта. І хоць сакратар райкома быў без гімнасцёркі і ўсміхнуўся ў адказ таксама гарэзна, Лёва адразу схамянуўся. Амаль у момант стаў тым разумным, разважным Лёвам, якім яго Башлыкоў ведаў звычайна.

— Добры дзень, Аляксей Іванавіч! — прывітаў ветліва і стала зняў паліто, павесіў на цвік.

Цыля была ўжо ля дзвярэй з кухні, з насмешачкай, пад якой таілася пяшчота, глядзела на сына. З другога боку, ад акна на вуліцу, у камізэльцы і расшпіленай сарочцы, з сумнаватай усмешкай сачыў стары Савул.

— Сабраў? — сказала Цыля.— Ад усіх сабраў налог?

І ў твары, і ў голасе была пяшчота да сына, але яна выстаўляла насмешачку.

— Сабраў,— адказаў Лёва з годнасцю.— Але не налог, а — попел.

— Дак попел ето, мабуць, твой налог.

— Попел ето попел! — адрэзаў, не дазваляючы жартаў, Лёва.

— Дак ты ж сабіраеш яго па хатах як налог,— сказала Цыля, яўна маючы на ўвазе Башлыкова.—

Нашы жанкі смяяліся, гаварылі: дзеці сабіраюць попел як налог.

— Не трэба слухаць глупства,— адрэзаў Лёва.

Башлыкоў ведаў, пра што гаворка: Лёвавы камсамольцы ўзяліся сабраць для падшэфнага калгаса, для «Рассвета», трыццаць пудоў попелу. З гэтай мэтай хлопцы абышлі многа местачковых хат, растлумачылі, што попел ёсць карыснае ўгнаенне, і дамовіліся, што попел будуць зберагаць і аддаваць ім. З дня ў дзень камсамольцы абыходзілі хаты, збіралі попел. Вось і сёння Лёва вярнуўся якраз з аднаго такога абходу.

Башлыкоў разумеў, што гаспадыня запаліла гэту гаворку дзеля яго забавы, але не лічыў годным забаўляцца з таго, што рабілі хлопцы. Рызыкуючы, што яго палічаць няўдзячным і нетактоўным, цвёрда стаў на бок Лёвы, пахваліў за карысную справу.

Ён рушыў у свой пакой. Надзяваючы гімнасцёрку, падпяразваючыся, думаў пра камсамольцаў са школы: нямала добрага рабілі хлопцы і дзяўчаты — лом металічны сабралі, бібліятэчкі падарылі калгасам, са спектаклямі ездзяць. З сабранага лому скавалі некалькі плугоў, перадалі калгаснікам. Але думкі пра гэта былі нядоўга і хвалявалі мала. Карцела іншае. Карцела радасць, тая, якая бруілася, калі плёскаўся пад умывальнікам, якую перапынілі Лёва і Цыля. Ён злавіў сябе на адчуванні, што радасць яго зусім не без прычыны, што яго чакае штосьці добрае і важнае. Тады ж згадаў прычыну радасці: Сталін, яго выступленне! Газета з выступленнем у кабінеце, чакае!

Услед, а можа і разам, дзіўна з'яднаўшыся са згадкай пра выступленне, увайшло ў душу: быў у школе, дамовіўся! Сёння, як сцямнее, пабачацца!.. Гэта ўзрушыла моцна, гэта аж заліло гарачым, нецярплівым. Сёння, як сцямнее!

Ад хвалявання ён захадзіў неспакойна і дужа. Першы момант не думаў нічога, быў перапоўнены хваляваннем, незвычайным, здавалася, неймаверным прадчуваннем. Сэрца білася так гулка, так молада, што адчуў няёмкасць, папракнуў знарок сябе: як хлапчук!

Тады ў хваляванне яго прарваліся ўспаміны: нібы нанава ўбачыў яе перад сабой, зноў уразіўся яе характву. Якая красуня! І дзе вырасла! І колькі хараства не

толькі знешняга, а і ўнутранага! Якая годнасць! Згадаў, як кіўнула: сёння, як сцямнее!.. Успомніў: нялёгка было сказаць ёй, але ён сказаў, дамовіўся! Зрабіў тое, чаго так хацелася.

Але калі думаў гэта, у душу ўжо тачылася штосьці нядобрае. Успомніў Параску, як няёмка было перад ёй. Як давялося таіцца, фактычна, калі глядзець праўдзе ў вочы,— маніць. Ён запярэчыў сабе: не маніў ён, нельга было інакш. Не меў ён права, калі на тое, выдаваць тайну іх без згоды яе, кахання свайго. Але неспакой, недавольнасць сабой не сыходзілі ўжо. Бачыў ужо, што і адзін перад ёю паводзіў сябе нядужа. Недарэкам, мусіць, выглядаў у яе вачах. Папракнуў сябе: не пагаварыў як след. Мала ведае пра яе. Амаль нічога не ведае.

Ён адагнаў нядобрае, перапыніў думанне. Няма калі думаць попусту. Час дарагі. Трэба на працу. Энергічнымі рухамі зняў паліто, надзеў. З шапкаю ў руцэ выйшаў у суседні пакой, кіруючыся на вуліцу.

— На работу? — сустрэў яго стары Савул.

— На работу.

У голасе старога было ці то здзіўленне, ці то папрок. Савул глядзеў з-пад акуляраў востра, дапытліва. Нібы турбавала штосьці і не мог сам высветліць.

— Сёння — Новы год,— аб'явіў ён значным тонам. І змоўк, і глядзеў, дапытваючыся, з-пад акуляраў.

Башлыкоў не разумеў, што ад яго трэба.

— Так, Новы год...

Савул кіўнуў. Аказалася, яму гэтага было пакуль даволі.

Памаўчаў, як бы даваў зразумець значнасць таго, што сказана, ці — скажа зараз. З кухні паявіўся, дажоўваючы нешта, Лёва, зірнуў насцярожана на дзеда. Але не сказаў нічога.

— Раней пасля Новага года,— загаварыў Савул тонам прапаведніка,— быў святочны дзень. Ці, як цяпер гавораць,— выхадны дзень. Цяпер гэты парадак адмяняецца?

Башлыкоў усміхнуўся. Усмешка была паблажлівая. Стары настроены па-філасофску. Адказаў з адчуваннем перавагі:

— Раней многа чаго было.

— Многа розных забабонаў! — пацвердзіў упэўнена Лёва.

Дзед кінуў на яго пагардлівы позірк. Як бы загадаў маўчаць, не ўцінацца ў гаворку сталых, мудрэйшых. Глядзеў толькі на Башлыкова. Глядзеў востра, строга.

— Ёлку на Новы год, напрыклад, вы лічыце таксама — забабонам? — Дзед вымавіў «забабонам» з націскам, яхідна.

— Забабонам,— усміхнуўся Башлыкоў.

Стары не адступіў. З вядомай ужо Башлыкову звычкі дабіваўся высветліць усё дарэшты:

— Новы год без ёлкі — хіба ето свята?

— У нас Новы год будзе ў працы.

— Праца ето наша свята! — убіўся зноў Лёва.

Дзед зноў звысака зіркнуў на ўнука. Памаўчаў засяроджана.

— Значыць, выхадны дзень на Новы год не будзе?

— Рабіць будзем!

Дзед улавіў нецярплівасць Башлыкова, спыніў цікаўнасць сваю. Пачціва падзякаваў, пакланіўшыся.

Башлыкоў рушыў да сянец.

2

На ганку вочы засляпіла белым, мітуслівым, грудзі заліло свежым халадком.

Мяло, круціла. Сонца весела паблісквала ў белай мітусні. Сама прырода нібы радавалася з ім.

«Выхадны дзень!» Які тут можа быць выхадны! І што такое наогул — выхадны! Забыў ужо, што гэта такое! Ніякіх выхадных даўно няма. Ад таго і забыў, можна сказаць.

Даўно не было выхадных. І сам не сядзеў, і людзям не даваў. Раней не да таго было, цяпер — тым больш. Няма калі сядзець. Не да таго. Боты цвёрда мералі мяккую ружаватую бель. Чуў у нагах, ува ўсім целе маладую, нецярплівую дужасць.

Сам добра разумеў прычыну яе: Сталін, яго выступленне. Памяць пра гэта ўвесь час жыла, бруілася, праменілася. Як сонца ў снежнай мітусні.

Ішоў лёгка і молада. З юначай задзірыстасцю паглядваў на вуліцу, на дамы абапал, на людзей. Учар-

нелыя драўляныя пабудовы і аблезлыя камяніцы хмурна і санліва драмалі абапал. На дзвярах і аканіцах крам усюды завалы. Людзей амаль не відаць. Ды і тыя марудлівыя, як бы санлівыя. Спакой і ціша ў мястэчку.

Драміце, драміце! Хутка абудзіцеся! Разварушым вашы бярлогі запляснелыя! Новы год гэты будзе сапраўды новым! Пабачыце!

Ледзь распрануўся ў баковачцы ў сталоўцы, прысеў да стала — Ліза была побач. Толькі зірнула пільным вокам, зразумела настрой сакратара райкома. У момант на стале з'явіліся талерка з хлебам, талерка з рагу і пюрэ, шклянка чаю. Еў маўкліва, засяроджана і хутка, непрыкметна для сябе, па даўняй звычцы налягаў на хлеб. Апетыт сёння быў выдатны, Башлыкоў усё ўбіраў са смакам.

Быў заклапочаны, спяшаўся, а ў памяць зноў увайшло — школа, яна, размова з ёю. «Да цябе прыехаў... Сёння, як сцямнее...» Захвалявала, пагнала кроў гарачэй, унесла ў бадзёрую яснасць клопатнасць, што і радавала, і непакоіла.

Гэта разбівала думкі, і ён адагнаў непатрэбнае думанне.

Зноў былі ганак, санлівая ціша і снежная мітусня. Жыццярадасны, засяроджаны чалавек цвёрда крочыў вуліцаю да райкома.

На ганку значыліся сляды, прыцярушаныя снегам і зусім свежыя. У калідоры патхнула цяплом жылля, жыццём знаёмым, добрым душы і надзейным. Поцемкам калідора ён звыкла пакіраваў да дзвярэй прыёмнай. Міша, што гнуўся над нейкай паперай, адразу ўскочыў. Ускочыў, вядома, хвалячыся спрытам, гатоўнасцю зрабіць усё.

— Добры дзень, Аляксей Іванавіч! З Новым годам вас! — сказаў, нібы робячы падарунак.

Башлыкоў павіншаваў таксама, ветліва і сабрана.

Фрэнч, галіфэ Мішавы былі прымяты, а зграбная Мішава постаць была поўная энергіі і імкнення. Аднак Башлыкова гэта не ашукала, пільным вокам адзначыў адразу: Мішаў твар быў шараваты, прытомлены. Спаў Міша, было відаць, мала. Пагуляў у гонар Новага.

Распрануўшыся ў кабінеце, прычасаўшыся, абцягнуўшы рэмень, стрымаў Мішу, што ўварваўся з папкаю ў руцэ.

— Пачакай. Потым.— Паказаў далонню пачакаць у прыёмнай.

Энергічны, стройны, рушыў з кабінета. Як заўсёды выказваючы сабранасць, ён цяпер не таіў урачыстасці ў абліччы, у словах. У кожным кабінеце, пакоі — шчырае, узрушанае: «З Новым годам!» — кароткае пажаданне і моцны, дужы поціск рукі.

На віншаванне і пажаданні адгукаліся ахвотна, радасна, асабліва жанчыны. Адчувалася, што ўсе жылі разуменнем: новы год. У кожнага былі свае надзеі, і надзеі радасныя. Кожны раз, калі віншаваў, ціснуў руку, узнікала адчуванне асаблівай таварыскасці, еднасці, якое расчульвала самога. З расчуленасцю прыйшло перакананне, што вельмі добра гэта, чалавечна — аказаў увагу, праявіў такт, у такім выпадку.

Праўда, з гэтым кінулася ў вочы: людзі жылі яшчэ нібы не на зямлі, луналі ў святочных марах. Настрой быў яўна святочны, лёгкі. Падобна было, што ніхто не працаваў як належыць. Не было сапраўднай, рабочай сабранасці. Гэта не падабалася: не да часу бесклапотнасць, размагнічанасць.

Цешыла, супакойвала, што двое: другі сакратар Сташэўскі і загадчык аддзела кадраў Сагайдак — былі на раёне, Каржыцкі збіраўся ехаць. Памчаў толькі што, раніцаю, на раён Кудравец. Гэта як бы пацвярджала, што людзі райкома і ў гэты дзень з народам. Што і сёння нешта робіцца для вялікай справы, якой так неабходны тэмпы і якой гэтых тэмпаў не хапае.

— Зводку,— загадаў ён, вярнуўшыся зноў у прыёмную.

Міша адказаў: зводка на стале. У тоне голасу было здзіўленне: як гэта ен, Башлыкоў, можа думаць, што Міша будзе чакаць, калі яму загадаюць прынесці яе? Можа, яшчэ пачне рыхтаваць яе, пасля таго як напомняць? Нібы Міша не ведае, што трэба ў першую чаргу.

Башлыкоў у кабінеце адразу пакрочыў да стала. Сапраўды, на самай сярэдзіне стала бялеў ліст. Башлыкоў зайшоў за стол, нецярпліва ўзяў ліст паперы. Рост ёсць. Лічба зноў пайшла ўгару. Але які малы рост. За тыдзень — пяцьдзесят пяць гаспадарак. Менш працэнта ад агульнай колькасці гаспадарак. За цэлы тыдзень. Чарапашыя тэмпы.

Увайшоў Міша. Башлыкоў узняў вочы: што яшчэ? Міша сказаў: трэба падпісаць. Так, трэба падпісаць, паслаць у акружком. Падпісаць, распісацца ў сваім адставанні. У няўменні павесці народ за сабою. У насцярожанай увазе мімаволі адзначылася: Мішаў твар, не адпаведна падзеі, недарэчна быў вясёлы, бесклапотны. Але не сказаў нічога, перамаўчаў.

Калі падаваў падпісаную зводку, здзівіўся: Міша па-ранейшаму пасміхваўся. З нейкім нібы намёкам. Незразумела гулліва.

Башлыкоў зірнуў недавольна, патрабавальна.

Міша засмяяўся па-дружбацку, змоўніцкі.

— Соня ўчора пра вас гаварыла,— растлумачыў ён шчыра.— Глядзі, кажа пра вас,— прыклад табе!.. Яна лічыць, што я, як яна выражаецца, за кожнай спадніцай гатоў пагнацца! Што я толькі і думаю — пра іх спадніцы...

Башлыкова не надта вабіла гаворка такая і зусім не падабалася Мішава панібрацтва, але ён стрываў. Помніў, што — Новы год і гэта абавязвае да нечага.

Міша яшчэ асмялеў.

— Аляксей Іванавіч, можна — па сакрэту? — Ён ледзь не падміргнуў. Паведаміў як тайну, як сябру: — Дзяўчаты ўсе проста захапляюцца вамі. І — дзівяцца!..

— Чаго гэта? — нахмурыўся Башлыкоў.

— Дзівяцца, што малады вы, прыгожы, а нікога з дзяўчат не заўважаеце! Яны глядзяць на вас, а вы — хоць бы адным вокам! Саша, Соня, Маруся, Сара — усе дзівяцца!

— Скажы, няхай не дзівяцца.

— Я разумею — становішча ваша,— сказаў Міша тонам мудрага.— Становішча ваша ёсць становішча. Кожы крок бачыць усё мястэчка, увесь раён! Могуць пабачыць тое, чаго і не было! Трэба думаць пра кожны крок. Але і так нельга. Што за маладосць — без любві!

Башлыкоў перарваў яго:

— Міша, зводку трэба паслаць зараз жа.

Міша глянуў на Башлыкова і ўсё зразумеў. Твар і ўся пастава ў момант змяніліся.

— Ведаю! — адрапартаваў Міша. Тон быў такі: гаварыць пра гэта лішне.

Вочы і ўвесь Міша чакалі распараджэнняў. Іншых распараджэнняў не было. Міша знік за дзвярыма.

Застаўшыся адзін, Башлыкоў падумаў, што ў нечым ён няправільна паставіў сябе з Мішам. Канешне, работнік ён нядрэнны. На сваім месцы. Але панібрацтва гэтае — ні да чаго. Трэба гнаць гэтае панібрацтва. Даць трэба яму ўрок належны.

«Завёўся ўночы і ніяк не можа перастроіцца на рабочы лад...» — прайшло ў думках. Але больш хвалявала іншае. І згадка пра тое, што дзяўчаты дзівяцца, і словы Мішавы пра яго становішча. «Кожны крок бачыць усё мястэчка...»

У гэтае думанне зноў уварвалася — школа ў Глінішчах, аблічча той. «Да цябе прыехаў». «Сёння, як сцямнее...»

3

Ён прымусіў сябе супакоіцца. На стале ляжалі іншыя зводкі — з сельсаветаў, з райза, быў пакет з акружкома. Ён прачытаў усё хутка, пахапкам і працягнуў руку да «Правды», што ляжала побач на стале. Тут ён палажыў яе ўчора з намерам — вярнуцца, перачытаць. Цяпер ён і браў яе дзеля гэтага — перачытаць на ясную галаву, паглыбіцца, удумацца. Высвет-ліць усё. Учора ён быў для гэтага занадта ўсхваляваны.

За некалькімі сказамі рука яго пашукала аловак. Важныя думкі ён меў звычку падкрэсліваць.

Чытаў ён сёння не так хутка, як учора. Гэта было зусім не тое, што ўчора, гарачае, ліхаманкавае чытанне, калі ён нецярпліва бег вачыма ўперад: а што далей, а як там? Ён сёння не рваўся так наперад, ён добра помніў, што там, далей. Яму сёння важна было пранікнуць глыбей, высветліць усё. Вызначыць усё ясным поглядам, цвярозаю думкаю.

Сёння чытаў ён не хапаючыся, паволі. Раз-пораз нават вяртаўся назад, калі думка бачылася асабліва важнаю або калі што-небудзь з першага разу, здавалася, не спасцігаў да канца. Чытаў, можна сказаць, больш цвяроза і разважна. Аднак і гэтае, сённяшняе чытанне не было зусім спакойным. Працятае цвярозасцю, разважнасцю, чытанне гэтае было поўнае ўзрушэння.

Узрушала Башлыкова, як і ўчора, найперш тое, што Сталін адказваў на самыя вострыя, пякучыя пытанні. Хоць Сталін у сваім выступленні, як ён сам казаў, высвятляў тэарэтычныя асновы становішча ў вёсцы, для Башлыкова ўсё, што ён чытаў, мела перш за ўсё значэнне практычнае. У сталінскім выступленні ён найперш шукаў адказ на тое, што турбавала і мучыла. Чытаючы, Башлыкоў амаль увесь час чуў побач Апейку: чытанне гэтае было нібы працягам той спрэчкі, якую яны фактычна няспынна вялі. Падобна было на тое, што Сталін уступіў таксама ў іх спрэчку, выказвае свае погляды.

У выступленні Сталіна Башлыкоў шукаў падтрымку сабе. Ён, вядома, не сумняваўся, што погляды яго ва ўсім адпавядаюць сталінскім, што гэта ва ўсім — бальшавіцкія погляды. Ён быў упэўнены, што не мог ні ў чым памыліцца, што не магло чуццё ашукаць яго. І з уцехай знаходзіў усё новыя доказы правільнасці сваіх меркаванняў. Як і ўчора, як падтрымку сабе чытаў ён развагі Сталіна аб адносінах сялян да зямлі на Захадзе і ў нас. І Апейка, і Гайліс ніяк не здольны зразумець простую ісціну, што зямля ў нас не прыватная, што яе нікому не дадзена права прысвойваць. Башлыкоў над гэтымі радкамі думкамі пераносіўся на глінішчанскі сход, у Курані, з абурэннем успамінаў галасы-пагрозы: «не дадзім», «не згодны». Якое права мелі яны там не даваць зямлю, якая належыць не ім, а народу, дзяржаве. Ён пашкадаваў, што тады, на сходзе, у вёсцы, сам не дадумаўся, не сказаў гэтага.

Адсюль, ад гэтага, браў вытокі і другі важны вывад, які Башлыкоў выразна вычытваў у выступленні. Ён, Башлыкоў, не памыліўся, бачачы небяспечную шкоду ў Апейкавых павучаннях пра «псіхалогію» і нейкі спецыяльны падыход да селяніна. Вось тут, дзе Сталін успамінае пра Энгельса, пра розніцу між сялянамі на Захадзе і ў нас, ён жа фактычна высмейвае «мудрых падыходчыкаў». Ён жа фактычна строга судзіць апартунізм, міндальнічанне, спекуляцыю на «чуласці»! Па сутнасці, судзіць апейкаў і гайлісаў.

Зноў, як і ўчора, асабліва хвалявала і радавала тая частка прамовы Сталіна, дзе ён аб'яўляў аб пераходзе ад палітыкі абмежавання кулацтва як класа да раскулачвання. Башлыкоў яшчэ ўчора, адразу, асабліва

адзначыў гэты факт як факт незвычайны, у поўным сэнсе — гістарычны. Сёння, цвярозым, праніклівым розумам, ён яшчэ мацней адчуў значэнне гэтага як аднаго з самых рашучых крокаў у рэвалюцыі на сяле. Тут Сталін, бачыў Башлыкоў, асабліва моцна біў па асцярожненькіх ціхаходах тыпу Апейкі, з асаблівай смеласцю зваў наперад. Башлыкова проста захаплялі цвёрдасць і рашучасць Сталіна.

У памяці між іншага мімаволі праходзілі глінішчанскі сход, гаворкі ў Куранях, і душу радавала прадчуванне блізкіх вялікіх падзей, рашучых дзеянняў. Ён усёй душой прагнуў гэтых рашучых дзеянняў. Так і трэба! Даволі слоў, асцярожнасці, міндальнічання!

Башлыкоў з захапленнем ухваліў, што пытанне пра тое, ці можна дапусціць раскулачванне, смешнае. Гэта пытанне могуць ставіць толькі недарэкі-бухарынцы ці падобныя ім недабіткі. Такога пытання няма і быць не можа ў сапраўднага бальшавіка! Башлыкоў зноў засмяяўся, калі прачытаў: «Зняўшы галаву, па валасах не плачуць!» Вельмі падабалася Башлыкову гэта ўменне Сталіна ў належны момант сцебануць слоўцам, прымаўкай. Тут яно здалося асабліва ўдалым.

Так, «па валасах не плачуць»! Наогул, плакаць нам — ні да чаго! Нам — калі што — то радавацца! Пачынаем рашуча брацца! Даём апошні бой кулацтву! Цвёрдасць, рашучасць Сталіна як бы перадаваліся Башлыкову, поўнілі яго ўпэўненасцю, імкненнем ісці, зрабіць усё, што належыць. Хоць зараз гатоў быў Башлыкоў зрабіць усё, што патрабавалі законы класавай барацьбы дзеля перамогі над апошнім, зацятым ворагам. Непахісна, бязлітасна.

Дачытаўшы, устаў, энергічна захадзіў. Зноў, як і ўчора, адчуў, што спаў з душы паганы цяжар. Было адчуванне радаснай палёгкі. Увесь поўніўся імклівай дужасцю. Здалося: пакуль чытаў, нібы падужэў.

Мераючы пакой, калі ішоў да стала, узняў позірк на партрэт: Сталін, стоячы ўрост, нібы глядзеў насустрач уважлівымі вачыма. Башлыкоў мімаволі спыніўся, прыгледзеўся. Глядзеў хвіліну з удзячнасцю, з павагай. Падумаў: якое ўменне бачыць углыб і вучыць нас бачыць! Так ясна бачыць, мабыць, толькі адзін ён умее.

Усё было добра відным. Ясным і простым. Ясным было становішча. Яснымі — задачы.

«Як двойчы два!» — успомніў Башлыкоў словы, што вырваліся ў яго ўчора. Удала сказаў: сапраўды, пасля прамовы ўсё — як двойчы два! Усё відаць.

Пахадзіўшы, вярнуўся зноў да стала, схіліўся над газетаю. Але чытаў ужо не ўсё падрад — асобныя радкі. Хацеў запомніць найбольш важныя, вострыя выразы даслоўна. Для будучых сваіх выступленняў.

Запомніць самае важнае даслоўна — у гэтым была асаблівая адзнака прачытання.

Тады зноў хадзіў, думаў. Пра тое, што сказаў Сталін. Пра тое, як выглядаюць становішча раёна, яго дзейнасць у святле выступлення. Якія вывады зрабіць з выступлення Апейка. Што належыць зрабіць райкому, усім арганізацыям раёна дзеля выканання ўказанняў Сталіна. Пра многае думаў.

Сярод гэтых думак адна была асаблівая. Яна не была выказана ў прамове, але, Башлыкоў лічыў, вынікала з яе. Ён лічыў, што яе ўбачаць усе дасведчаныя, праніклівыя людзі. Яна не выказана адкрыта таму, што гаварыць яе не варта, з няпісаных, але вядомых кожнаму разумнаму дзеячу меркаванняў. З меркаванняў, як ён адзначыў, палітыкі.

Гэта здагадлівая думка Башлыкова была ў тым, што раскулачванне, ён лічыў, мае значэнне не толькі як справядлівая дзея супраць кулака. Якая вырве з асяроддзя сялян класавага ворага, абясшкодзіць яго для грамадства, расчысціць глебу для новага. Башлыкоў лічыў — хоць пра гэта ў прамове не было тактоўна ні слова — яшчэ больш важным тое, што раскулачванне дасць адчуць іншым, што Савецкая ўлада не збіраецца доўга ўгаворваць. Не збіраецца цырымоніцца надта. Дасць адчуць не толькі кулакам, а і астатнім сялянам. Тое, што гэта, вядома ж, падзейнічае і на іншыя пласты сялян, Башлыкову і здавалася вельмі важным для яго, для цяперашняга становішча ў раёне. Раскулачванне, прадбачыў ён, павінна падахвоціць многіх іншых, асабліва сераднякоў, да калгасаў. Небяспека страціць усё: маёмасць, хату, сесці на пясок, на балота каму не паддасць ахвоты!

Трывожны тым, як марудна ідзе калектывізацыя ў раёне, ён у гэтай акалічнасці бачыў абнадзейлівую, ра-

дасную прасветліну. Ён быў проста ўпэўнены, што самае непадатнае павінна хутка зрушыць. Не можа быць, каб не зрушыла!

Ад таго, што блізка чуў жаданую перамену, брала нецярплівасць. Мімаволі пачаў крочыць хутчэй, дужэй.

Усё мацнела, вярэдзіла імкненне: пачаць дзейнічаць зараз жа. Але нейкі час замінала раскіданасць думак. Не адразу ўдалося засяродзіцца.

На паўдарозе спыніў крок, цвёрда пакіраваў да стала.

Бюро. Трэба рыхтаваць бюро. Справу Гайліса і іншых. З гэтага пачне.

Гэта будзе пачатак новага этапа ў яго дзейнасці. Этапа рашучай дзейнасці.

4

З гэтым увесь час, амаль не сціхаючы, жыло іншае. Што ні рабіў, пра што ні турбаваўся, увесь час помніў: «Сёння. Як сцямнее...»

Амаль неадступна, ці хадзіў, ці рупіўся за сталом, адчуваў побач тую, глінішчанскую. Нельга сказаць, каб прагнуў гэтага, больш было такое меркаванне, што ёй тут пакуль не трэба быць. Цяпер не яе час. Яе час будзе пазней. І месца іх іншае. Увечары, як сцямнее. На дарозе з вёскі. Дзе бярозы...

Цяпер у яго справы. Важныя абавязкі адказнага за цэлы раён чалавека. Да таго ж, у яго сёння такая падзея, такі важны дакумент перад ім. Гэты дакумент вызначае, можна сказаць, новы кірунак у яго жыцці, трэба добра падумаць над многім, засяродзіцца. Нельга рассейваць увагу.

А ў важныя раённыя клопаты, як ні праціўіўся, унізвалася, урывалася тое, патайное, недазволенае. Сціснала сэрца радасцю і нецярплівасцю, тлуміла галаву іншымі згадкамі і клопатамі. Згадваліся школа, сустрэча, зноў і зноў вярэдзіла сэрца. Мроілася — вечар, бярозы, яна; такое, што дзіўна кружылася галава...

За вокнамі ўсё мітусілася белае і зіхцела сонца. І падобна — мітусілася, зіхцела штосьці ў душы Башлыкова.

Радасць, нецярплівасць былі не адны ў душы. З імі тачыліся, трывожылі Башлыкова нядобрая вінаватасць і незычлівы одум. І раз, і другі назалелы одум тэты судзіў: што ты робіш? Ты — кіраўнік раёна. У такі час, калі ўсё трэба аддаваць справе. Замест таго, каб думаць пра справу, пра раён, ты думаеш пра непатрэбства. Пра жанчыну. Да таго ж — пра выпадковую жанчыну.

У рэшце рэшт, разважаў одум,— калі табе ўжо так захацелася жаночай ласкі, хіба мала тут дзяўчат, прыгожых і надзейных. Адданых справе, з ясным жыццём. Дзяўчат, якія могуць стаць сапраўднымі таварышамі ў справе. Колькі дзяўчат — камсамолак — з радасцю пайшлі б насустрач, каб ты зажадаў гэтага. Чаго ж ты паўз іх прайшоў і прыліп да нейкай невядомай?

Башлыкоў пярэчыў сабе: чаму — невядомай? Ведае і самую, і нават бацькоў яе. Таксама — наш чалавек, няхай і не камсамолка. І што, калі на тое, перашкаджае ёй, калі прыйдзе час, стаць таксама камсамолкай, таварышам па справе? Бацькі — беднякі, можна сказаць, пралетарыі сельскія. Праўда, не калгаснікі, гэта, вядома, мінус, пляма. Ва ўсім віною — маці, цёмная, злая істота, непрыемная, скажам шчыра, асоба. Відаць, з-за яе дачка і пакінула бацькоўскае гняздо. А бацька — чалавек што трэба. Хоць зараз мог бы на новую дарогу пайсці... Так, аднаасобнікі — гэта, канешне, мінус. Але ж, калі на тое, то яна ж ужо не ■ бацькамі. Сваё становішча ў яе — на службе. Савецкая служачая. Ды і з бацькамі павінна паправіцца. Быць не можа, каб не паправілася. Да таго ідзе.

Сярод усяго ўнізвалася няёмкае: становішча яе. Школьная тэхнічка. Прыбіральшчыца. Ён, кіраўнік раёна, і — прыбіральшчыца школьная!.. А што — прыбіральшчыца? — ўздымалася нязгода. Хіба на ўсё жыццё гэта — прыбіральшчыца! Хіба не відаць — што выпадкова там! Што прыладзілася, відаць, на момант. Пасварыўшыся з маці-ўласніцай. Рашыўшы пачаць новае жыццё. Сёння — тэхнічка ў школе, а заўтра работніца арцелі. Можа быць, актывістка новага жыцця.

«Прыбіральшчыца». Можна падумаць, што сам — сакратаром нарадзіўся. Не з таго пачынаў. Колькі

прайшло з той пары, як сам падмятаў за кульгавым шаўцом? А ўжо — арыстакратычныя замашкі. Арыстакратычныя не арыстакратычныя, а мяшчанскія — то яўна. Мешчанінам добра папахвае.

Раз-пораз у развагі прыходзіла горшае. Такое, ад чаго здавалася, нібы трапіў у тупік. З якога адзін выхад — назад. Гэта звычайна было тады, калі ўспамінаў сустрэчу ў школе, той момант, калі прыйшла Параска. Няёмка зноў было, што таіўся, хлусіў фактычна, і з гэтым неадступна вярэдзіла: не ўтаіў, напэўна, здагадалася, ведае. Яна-то, відаць, не панясе навіну па свеце, чалавек разумны, але, як там ні таіся, заўтра вядома ўсё будзе многім. У вёсцы ўсё на віду. Усё на віду ў раёне.

Як бы ні хаваўся, раней ці пазней усё адкрыецца, стане вядома, у тым ліку і тут.

Як ён будзе выглядаць перад людзьмі, перад раёнам! У такія моманты першай думкай было: спыніцца, пакуль не позна. Не ехаць, не сустракацца. Кончыць.

У такія моманты ўсё станавілася раптам ясным. Ні да чаго гэта, асабліва цяпер, калі такія справы. Усяго сябе, усё трэба аддаваць справе. Не драбніць сябе.

Тады завіхаўся хутка, хадзіў цвёрда. І чуў лёгкасць і дужасць у сабе. Нібы скідваў цяжар з плеч.

Але лёгкасць, і дужасць, і яснасць былі не доўга. Кожны раз за гэтым чуў яе перад сабою, блізкую, вабную, і чуў, як непаслухмяна захлынаецца нечым гарачым, пранізлівым сэрца і тлуміцца галава. І як з гэтым знікаюць і лёгкасць, і яснасць, і як незразумелая сіла адбірае дужасць, вабіць, вядзе, наперакор разумным развагам.

Тады не першы раз думаў здзіўлена: што ў ёй такое, чым яна займела такую ўладу над ім? Іншы раз, злуючыся на сябе, дакараючы сябе і яе, убіваў у сябе знарок груба: ва ўсім вінаваты яго дурная ўражлівасць, мяккацеласць! І тое, што кроў дурная гуляе, маладая, дзікая. Усё ад таго, што захацелася жанчыны, бабы! І ад таго, што характар, натура дурныя. Калі захацеў што, не ўмее стрымлівацца, адступаць. Ад прыроды такі. І не ўмее зыначыць сябе.

Калі спакайнеў, здзіўленне было іншае. Закахаўся, любіць! Сустрэў выпадкова, у такі паганы вечар, і за-

кахаўся. Не разгледзеў толкам у той вечар, а прыкіпеў. Не разгледзеў, а не памыліўся. Колькі бачыў жанчын, а такую, здаецца, першую сустрэў! За ўсё жыццё першую такую. І дзе!..

І вось жа, у душы так — нібы нікога не было дасюль роўнага ёй! І такое ў душы — нібы не сустрэне больш такой, як яна!

А можа і не сустрэне. Не сустрэў жа раней. Не было ж раней такога ні да адной. Можа гэта — доля яго. Не, гэта не абы-што, гэта — рэдкасць. Такое хараство, такі розум. І да таго ж — дзіва — неабыякавая да яго. Відаць было. Хінецца душой. Рада была. Хвалявалася. Ці ж разумна — страціць гэта. Самому адмовіцца, загубіць. Загубіць і потым не знайсці больш.

Што ж, што ён кіраўнік, што да яго патрабаванні асобыя? Што, яму і любіць нельга?

У такія хвіліны турбавала практычнае: дзе б ім знайсці нейкі прыстанак для сустрэч? Ну, сёння сустрэча кароткая, можна і пастаяць пад бярозамі. А дзе потым? Не стаяць жа сярод дарогі ці лесу, марозіць яе? Але што рабіць? У Юравічы прывезці, да сябе? Цяпер, калі яны адно аднаму яшчэ невядома хто? Выклікаць такую ўвагу да сябе?

У школу, да яе — таксама нельга. Нельга і ў Куракі яе, да бацькоў. Нельга.

Як бы ён ні тлумачыў, што ў яго сур'ёзныя пачуцці, гэта выкліча крыватолкі. На яго рэпутацыю, бясспрэчна, ляжа пляма. Яго аўтарытэт будзе падарваны. Загадзя можна сказаць.

Ён ад душы пашкадаваў, што жыве не ў Гомелі. Там усё зрабіць было б прасцей.

Нялёгка і няпроста Башлыкову было ў гэты дзень. Не раз яшчэ брала цвярозае: спыніцца, не ехаць. І кожны раз за гэтым было: паехаць, пабачыць. Хоць адзін, апошні раз.

Вочы нецярпліва паглядвалі на гадзіннік. Дзень ішоў паволі.

5

Пад вечар ён загадаў запрэгчы каня. І Міша, і возчык ведалі, што трэба ў Загалле, на сход.

Калі запрэжаны конь стаў каля вокан, Башлыкоў нехапатліва пакіраваў на вуліцу. Ледзь ён падышоў да

вазка, возчык падабраў лейцы, намерыўся сесці на звычайнае месца. На лавачку ўперадзе вазка. Башлыкоў спакойна стрымаў яго.

— Дайце,— ён узяў лейцы, пугу. Растлумачыў возчыку: — Адзін даеду.— Пажартаваў: — Каню лягчэй.

Заўважыў: возчык неахвотна аддаў лейцы, пугу. У вачах былі здзіўленне і недавер'е: сакратар першы раз выбіраецца адзін. Ніколі раней такога не было.

— Дарога цяжкая...— сказаў Башлыкоў.

Возчык кіўнуў: цяжкая. Свежы снег. І ўсё ж было яму дзіўна. Вядома, дзіўна. Але што ты зробіш. Нельга інакш.

Башлыкоў памацаў наган у кішэні, усеўся ў вазку. Перш чым шмаргануць лейцамі, загадаў Мішу, што цікаўна глядзеў побач з возчыкам: ноччу каб былі зводкі. Ноччу вернецца. Тузануў каня лейцамі.

Ехаў вельмі неспакойны. Не бачыў вуліцы, не заўважыў толкам, як уз'ехаў на гару. Толькі тут, на гары, апамятаўся: мястэчка было ззаду. Былі ззаду сумненні: ехаць — не ехаць.

Поўны супярэчлівасці ў душы, разумеў: едзе. На дабро ці на зло — едзе.

Як там ні будзе, трэба ехаць. Не можа не ехаць.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### 1

На дварэ было свежа і ціха. Лёгка мяло.

Абышла школу, сцежкай, пратаптанай малымі, выбралася за сяло. За загуменне.

У полі — як вокам кінуць — бель, чысціня. Толькі наводдаль вятрак круціць крылы. Вецер свежы, незласлівы.

Ад загумення проста да шляху — дарога, вылізаная саннымі палазамі. Між іх снег, пабіты капытамі коней. І каляіны, і сляды капытоў ледзь прыцярушаны свежым снегам.

Ішла каляінамі. Ісці было лёгка, як па падлозе, толькі ногі часам паслізгваліся. За тым толькі і сачыць трэба было. Тут, у полі, святлей было на душы. Не трэба было хавацца перад Параскаю. Але радасць не адну

несла ў сабе, радасць хмарылася непадатным одумам. Чула сябе так, як бы грэх рабіць намерылася, вінаватая.

Яна запярэчыла сябе: няма перад кім ёй вінавацiцца! Няма! Вольная птаха. Усё ж калі не вінаватасць, то няёмкасць нейкая тачылася ў душы, і яна падумала разважліва: мабыць, такое таму, што не дзеўка ўжо. Што была — сплыла пара на спатканні бегаць. Што трэба б ужо жыць, як жывуць усе сталыя. За розум трэба б узяцца. Яна рашуча заспрачалася: што ж, яна такая ўжо, што ёй і шчасця хацець грэх? Што ж ёй — усё кончана?

Ад таго не толькі радасць несла, хоць і нібы падганяў нехта нецярпліва, завабліва: хутчэй, хутчэй! З гэтым поўз у душу, хмарыў усё важкі одум, лажыўся на плечы, чапляўся за ногі, перасцярожваў: не бяжы, стань, пакуль не позна, вярніся. Але, як ні назаляў одум, не тое што вярнуцца, але і прыпыніцца ўжо не магла. Пасля Яўхіма, пасля дурных, не аціхлых, здаецца, яшчэ здзекаў як ёй было спыніцца, не бегчы, калі наперадзе бліснула надзея. Як ёй было стаць, калі звала радасць.

«Што будзе, тое будзе!» — прайшло ў галаве, гарачае, адважнае.

Злева сярод поля зацямнеў гаёк, Ганна ўспомніла: яго звалі таксама, як вёску, Глінішчы. Далей, сярод аднастайнай белай роднядзі, доўгі, са шчарбінамі, значыўся строй старых бяроз. Шлях. Здалёк заўважыла: насустрач з-за бяроз выкаўзнуліся сані. Дробны конік трушком хутка набліжаў кагосьці. Яна насцярожана ўгледзелася, паспакайнела, адзначыла: не ён. Пэўна, нехта з глінішчанскіх.

Пайшла цішэй. Знарок нагнала абыякавасць на сябе. Калі пад'ехалі, саступіла з дарогі, уехала валёнкамі ў снег. У санях было трое: два дзядзькі і цётка, захутаная хусткай. Дзядзька і цётка сядзелі, другі дзядзька ляжаў, уткнуўшыся галавой у каўнер, відаць, п'яны.

— Куды ето проціў ночы? — зачапіў гарласта чалавек, што правіў канём.

Цётка нядобра зіркнула з-пад хусткі. Той, што ляжаў, варухнуўся, але не ўзняўся. Не чакалі адказу, праехалі сабе далей.

Яна зноў выбралася на дарогу. З тым жа супярэчлівым хваляваннем падалася коўзкаю каляінаю далей.

Вось і бярозы, шлях. З-за бярозы вызірнула востра ў адзін, другі бакі — нікога. Паглядзела яшчэ са шляху: пуста. Кранула прыкрая маркота: нібы ашукалася. Бегла, бегла, дурная, а тут пуста. Паспрабавала супакоіць сябе: рана яшчэ.

Што рабіць? Не тырчаць жа тут, навідавоку! Можа шляхам пайсці насустрач? Не, яшчэ чаго не хапала.

За шляхам пачынаўся лес. З гэтага боку, пры бярозе, цямнела купка хмызняку. Вунь і пратаптаная сцежачка ў хмызняк. Падалася ў заснежаны зараснік, перабыць.

Ціха, халаднавата, мяце трохі. Колькі таго пастаяла, дайшло, акурат ад Юравіч,— раз-другі пырхнуў конь. Адразу навастрылася ўвагаю: хутка пачула, як парыпвае вупраж. Калі рыпанне наблізілася зусім, зірнула на шлях — і ў момант адхіснулася за куст. Ад неспадзеўкі аж пахаладзела.

Трэба ж такое! У санях горбіўся Яўхім. Шапка была насунута, каўнер наставіў, але яна адразу пазнала. Мала не сутыкнуліся! Затаілася ў не надта густым цяпер хмызняку, чакала. Пабачыў ці не пабачыў? Здалося, як бы зірнуў у яе бок. Не, паехаў далей...

Ужо калі мінуў, выглянула зноў: Яўхім ехаў па дарозе, аддаляўся. Адчула палёгку: небяспека адыходзіла. Ад перажытага ўтрапення не адразу дайшло, што Яўхім паехаў не па сваёй дарозе. На Курані паварот быў далей, ён жа збочыў тут, на гэты край Глінішчаў. Дзе школа.

У школу наведацца рашыў? Глядзела ўслед яго саням ужо з іншым неспакоем: заедзе, запытаецца, чаго добрага — кінецца сюды?.. Не, не кінецца, супакоіла ўпэўнена сябе. Не вернецца. Параска не скажа. Пашле, не інакш, у другі бок...

Ледзь паспакайнела, пачула — мерзнуць калені. Холад ішоў вышэй, стаў лезці ў валёнкі. Яна пачала тупаць, біць валёнкам аб валёнак. Пашкадавала: як павольна ідзе час, як марудна цямнее — цемра неяк асцярожна, нясмела абступае. І цішыня, ад якой аж ломіць у вушах. А на дарозе — ні гуку.

Рана прыйшла, падумала яна. Казаў жа: «Як сцям-

нее». Нібы апраўдваючыся, гаворачы яму у думках растлумачыла: давялося раней выйсці. Не надта зручна было б ісці пазней, поцемкам. Адной, сярод поля. Ды і ад Параскі адысці раней хацелася, пабыць вольна...

Пацямнела даволі. Можна ўжо і выйсці на шлях. Стала каля бярозы, затулілася ёй ад ветру, прыслухалася. Ні гуку на дарозе. Адно бярозы ледзь чутна шумяць. І мяце снегам. Дарогу не далёка відаць.

А можа і не прыедзе? — узяло раптам. Можа яна дарэмна бегла, попусту калее тут упоцемку, дурная. Можа толькі так сабе сказаў, а яна і паверыла, прыбегла. Гэта, аднак, не надта занепакоіла, падумала пра гэта нібы знарок. Думкі гэтыя ў момант сышлі, іх выгнала моцнае, упэўненае: не, не так сабе сказаў. Хацеў сустрэцца, сама бачыла. Можа, падумала разважліва, няўпраўка якая выйсці хіба. Не здолее чаму, заняты нечым. Ні то з папрокам сабе, ні то са спачуваннем яму адзначыла: ёсць калі яму займацца гэтым. Такою для такога чалавека драбязой.

Мяло, і шумела бяроза, маркотна, безнадзейна. На дарозе нікога ўсё не было. Праз мяцеліцу і поцемак убачыла каня, калі ён падышоў ледзь не ўсутыч. За канём вызначыла цёмны вазок і постаць. І конь, і вазок рушылі нячутна, павольна.

Было відаць, возчык прытрымліваў каня. Чалавек быў адзін і нібы прыглядваўся. Зноў ускінулася хваляванне. Білася моцна сэрца. Прытулілася да бярозы бліжэй. Вазок праехаў паволі, потым вярнуўся, стаў. Ён. Няхай пастаіць, пачакае! — падумала раптам ганарліва.

Ён пастаяў хвіліну, пачаў заварочваць каня на дарогу да школы. Хоча насустрач ёй.

Яна адарвалася ад бярозы, ступіла на шлях. З нявёмкасцю, цяжка гукнула: «Эй, дзядзько!»

Ён павярнуў каня да яе, пад'ехаў. Саступіўшы з вазка, прывітаўся.

2

— А я ўжо рашыў...— прамовіў Башлыкоў весела, з кпінкай над сабой. Ён схамянуўся, сказаў урачыста: — Ну, з Новым годам.

— І вас таксама!

Бачыла: рады быў. Ад хвалявання маўчаў трохі, не знаходзіў слоў.

— Даўно тут?

— Не. Толькі што.

Каб яна ды выставіла сябе цяпер недарэкаю, прызналася: як бегла, як мерзла! Як магла, яна таіла радасць, паказвала сябе спакойнаю. Папрасіў, ну і прыйшла. І ўсяго.

— Не замерзла?

Яна стрымлівала дрыжыкі.

— Не.

Башлыкоў яшчэ памаўчаў. Здагадалася: думае аб нечым. Ён сказаў, запрашаючы:

— Сядай.

Сказаў не вельмі ўпэўнена. Не ведаў, мусіць, што рабіць. Яна села ў вазок. Пад ёй былі кажух, мяккае сена. Ён зайшоў на другі бок вазка, сеў побач.

— Паедзем,— сказаў ён весялей, чым трэба было. Як бы падбадзёрваў не толькі яе, а і сябе.

Зноў са здзіўленнем адзначыла ўжо вядомае ёй: ён з ёю не такі важны, жалезны, як на людзях. Далікатны на дзіва і нібы разгублены. Як бы бянтэжыцца і не хоча, каб яна заўважыла. Як хлопец. Ёй гэта падабалася.

Башлыкоў крануў лейцамі каня. Намерыўся ехаць па шляху. Яна спыніла яго:

— Лепей сюды... У лес...

Калі ён павярнуў каня, больш каб не маўчаць, каб выказаць яму ўдзячнасць, што поўніла невядома чаму яе, дадала ціха, па-сяброўску:

— Дарога тут ціхая... Тут і днём мала хто... А цяпер...

Яе нястрымна апаноўвала хваляванне. Усё, што было да гэтага, растала, змыла гэтае хваляванне, хваляванне першай блізкасці з ім. Звінела ў галаве, калацілася сэрца, мала не калаціла яе ўсю. Шчасце ці прывід шчасця, што з таго, завалодалі ёю, залілі ўсю яе. Калі б гэта зычыла і пагібель, Ганна, напэўна, кінулася б, не раздумваючы, не шкадуючы.

Самае незвычайнае было ў тым, што яна чула: і ён так жа хвалюецца. Што і ў яго тое ж самае, як і ў яе. І што хоць яны сядзяць толькі побач, яны нібы з'дна-

ны. Цішынёй гэтай, цемрай, лесам, ноччу. Вазком, у якім яны адны. І ад таго, што ён маўчыць, далікатна стрымліваецца, шануе яе, гэта іх еднасць чулася яшчэ нібы вастрэй.

— Стань. Давай пастаім,— папрасіла яна, калі праехалі трохі. Прамовіла ціха, далікатна, быццам баялася парушыць нешта. І быццам змоўніца.

Чамусьці хацелася стаяць. Стаяць сярод ціхага, з ледзь чутным угары пошумам лесу і маўчаць. Маўчаць, як гэтыя засяроджаныя, зацятыя дрэвы.

— Ты змерзла,— заўважыў ён, што яна дрыжыць.

— Не, нічого...

— Уздыміся трохі.

Ён дастаў кажух з-пад яе і сябе, накрыў ёй плечы, затуліў калені. Заклапочана і пяшчотна. З насцярогай пільнавала — абдымаць возьмецца, абшчэпіць. Чамусьці вельмі не хацелася цяпер гэтага. Здавалася, гэта разбурыла б тое харошае, што поўніла ўсю. І рада была, што з пашанай абышоўся.

Адзначыла толькі: рука яго на момант затрымалася на яе каленях. Даўгавата затульваў калені ёй. Але адарваў руку.

— Я ненадоўга, — сказала яна.

Сказала невядома чаму. Бо хто ёй не даваў быць тут доўга. Сама сабе нібы загадала. Нібы баялася чагосьці, калі застанецца доўга.

— Я таксама,— прамовіў ён. Дадаў тонам важнага клопату: — Сход у Загаллі.

Заўважыла: ён нечым недавольны. Незразумела чым. Здалося: далёка думкамі ён. Сваімі думкамі, далёкімі ад яе. І ўвесь ён, пабачылася, далёкі. Узяло раптам вострае: нераўня яны, чужыя. Падумала з папрокам сабе: божа, што яна ўдумала! На што спадзявалася! Чаго прыйшла!

Ледзь стрымала сябе.

— Е ў вас калі час для сябе? — прамовіла здзіўлена і нядобра.

— Цяпер мала,— адказаў ён, тоячы недавольнае.— Цяпер не да асабістых спраў.

— Як жа жыць так?

— Гарачая пара ў нас цяпер. Адказная.

Ён сказаў шчыра, дружалюбна, нібы са спадзяван-

нем, што яна зразумее, адчуе, як яму. Яна адчула, згадала на момант той даўні сход у школе. Душу кранула спачуванне яму, але блізкасць, якая так хораша толькі што чулася, усё ж не вярнулася.

Нейкі час маўчалі побач, розныя, далёкія.

Ён, відаць, адчуваў гэту адасобленасць, яна яму, пэўна ж, не падабалася, але ён не рабіў нічога, каб развеяць яе. Ці ўзрушаны быў вельмі, ці неспрактыкаваны ў такіх справах. Вельмі магло быць, што ён не знаходзіў, як трымацца, як павесці гаворку.

Можа і недавольнасць, і стрыманасць яго былі ад гэтага.

— Як ты жывеш? — павярнуўся да яе. Цяжкавата вымавіў «ты».

— Так і жыву...

Яна сказала знарок весела, бесклапотна.

— Трэба выходзіць на дарогу,— параіў ён шчыра.— На сваю. Сапраўдную.

— Дзе яна, тая мая? — Ганна нібы пакпіла задзірліва.

Ён не адгукнуўся на смех яе, сказаў пераканана, сур'ёзна:

— У цябе добрыя здольнасці. Ты многа можаш дасягнуць.

— Агеl — падхапіла яна насмешліва.— З маёй граматай.

— Колькі яе ў цябе?

— А нікольні!

— Зусім не вучылася?

— Вучылася. І багата. Толькі не таму, што некаторыя. Кароў даіць, на кроснах ткаць.

— Трэба вучыцца.

Ён цяпер знайшоў сябе. І гаварыў, і трымаўся ўпэўнена. І, падобна было, давольны быў сваёй роляю, дужага, дасведчанага. Мужчынскай роляю.

— Цяпер усюды патрэбны пісьменныя. На любым заводзе. У арцелях. Ды і калгасах. У вас жа, у школе, гурток ёсць!

— Е.

— А што ж, не вучышся?

— Спрабую.

— Трэба!

Ён памаўчаў. Ганне здалося: пра яе, мабыць, ду-

мае — от з якой цемнатой звязаўся. У душы ўскінулася ганарлівае: не ўсё шчасце ў вашай грамаце. Свая грамата ёсць. «Звязаўся!» Нядоўга і развязацца. Ніхто не набіваецца. Ён раптам ашаламіў:

— А то можа ў мястэчка давай? — Апярэджваючы яе пытанне, дадаў: — У мястэчку лягчэй будзе вучыцца.

Яна ў момант убачыла мястэчка, чыстае, святочнае, сябе ў ім, прыбраную, незнаёмую. Мястэчка было, што там ні думай, як бы вышэйшым светам, яно вабіла. І словы Башлыкова завабілі, аж нібы закружылася галава ад прадчування нязнанага, цудоўнага...

Яна намаглася, адолела непатрэбнае захапленне, прамовіла разважліва, з насмешачкай:

— Што я там рабіць буду!

— У нас арцелі там,— сказаў Башлыкоў стала, надзейна.— Работніцай можна будзе ўладзіць. Спачатку — падвучыцца трэба будзе, канечна. Пабудзеш вучаніцай. А там — майстрам станеш. Спецыяльнасць і прафесія рабочая! Рабочы клас, можна сказаць! Ну, а там і далей можна пайсці. Адтуль табе ўсе дарогі адкрыты.

— Унё, так проста! — стрымала яна сябе, хоць ад слоў яго ўсё ж нібы кружылася галава.

— Не проста, і не так страшна, як ты думаеш.— Ён, чула, зазлаваў на яе недавер'е, загаварыў гарачэй: — Я, ты думаеш, з чаго пачынаў? З таго ж, можна сказаць, што і ты. Распісацца ледзь умеў! Але рашыў: вазьмуся, адолею ўсё! І ўзяўся! Гурткі, курсы, камсамол! Работа і самаадукацыя! І дабіўся!

— Дык то вы! — знарок запярэчыла яна.

— Галоўнае: захацець і праявіць настойлівасць. І ўсяго даб'ешся. Ты зможаш, я бачу!

Праз некалькі хвілін ён раптам перарваў гарачую гаворку, сказаў клопатна:

— Ну, мне трэба ехаць. Справа чакае.

— Трэба дык трэба,— згадзілася яна, тоячы шкадаванне.

Ён завярнуў каня, тузануў лейцамі. Вазок лёгка, нячутна паплыў да шляху, пераццяў шлях. Ужо калі па баках разышлася роўнядзь шэрага поля, ён аб'явіў:

— Заўтра выберуся на больш. Зможаш?

— Прыйду.
— Туды ж?
— Добра.

3

Башлыкоў падвёз яе да гумнаў і адразу завярнуўся. Хутка вазок яго знік упоцемку.

Яна прайшла некалькі крокаў і стала на сцежцы, поўная тлумнага, супярэчлівага хвалявання. Стаяла, адна сярод цемнаватага поля між загуменнем і школаю, сярод цішыні, у якую адно ўбіваліся п'яныя галасы, аднекуль з сярэдзіны сяла. Там спрабавалі спяваць. Яна не думала ні аб чым, не спрабавала разабрацца ў тым, што адбылося. Нібы разумела, што ні да чаго ўсё роўна цяпер думанне, не дадумаецца ні да чаго.

Проста хацелася пастаяць адной, пабыць з сабою. Пабыць пад гэтым паяснелым небам, з якога перастала сыпаць снегам. Цешачыся халаднаватаму ветру, што свежа абвяваў твар, парадавацца адчуванню волі, прасторы, якія так мілы цяпер душы.

Можа ёй пасля Башлыкова нядобра было бачыцца цяпер з Параскаю. Можа было і такое. Але яна не думала ясна пра гэта. Не хацела думаць ні аб чым. Нейкі час яна цешылася адно ноччу, цішынёю, воляю.

Неахвотна падалася да школы. Акно ў Парасчыным пакоі свяцілася, і яе кранула вінаватасць. Узяла няёмкасць перад Параскаю, і яна ўжо ясна адчула, што не проста будзе пабачыцца, глядзець у вочы ёй. Падумала мімаволі: лепш было б, каб яна спала ўжо. Каб не бачыцца цяпер, не сарамаціцца.

Нацятаю была, калі, прыцішваючы крокі, прайшла паўз паску святла з Парасчынага пакоя. Чакала з насцярожанасцю, што выйдзе з дзвярэй сама, паглядзіць, зразумее ўсё. Не выйшла. На кухні Ганна намацала лямпу, запаліла, больш для таго, каб прыглушыць сумяціцу ў душы, няцвёрдасць, стала пераціраць чысты посуд, перастаўляць тое, што было на месцы.

Рабіла так, нібы вярнулася з нейкіх адведак з сяла. Параска ўсё не выходзіла, гнулася, пэўна, над сваімі сшыткамі. Ці можа разумела ўсё, што на душы ў яе, Ганны, не хацела даваць прыкрасці. Ганна ж ужо як

бы пачула дакор свайму хаванню, якое прыніжала яе, кранала яе гонар.

З вяртаннем гонару вярталася ўпэўненасць. Ужо як бы захацелася пабачыцца вочы ў вочы, выказаць годнасць сваю. Няхай не думае пра яе, Ганну, чаго не трэба!

Смела адчыніла дзверы.

— Слепіш вочы ўсё? — прамовіла амаль задзірыста.

Параска як бы неахвотна адарвалася ад стала. Але сустрэла нечпадзявана давольнаю, нават шчаслівею ўсмешкаю:

— П'еску выкапала! Такая смешная! Рогату будзе, на ўсё Глінішча! Тут адна ролька ёсць, удавы-барыні! Хочаш, дам табе, па знаёмству?

— Найшла пра што! — папракнула Ганна.

— Не, я праўду! Згаджайся, пакуль не позна! А то перадумаю, сама вазьму! Зайздросная ролька! Кар'еру можна зрабіць адразу! Адразу славутай артысткай стаць! На ўсё Глінішча праславіцца! Ну?

— Хопіць мне той славы, што ўжэ е.

— От дзівачка! Удачы сваёй не бярэш! Ну што ж, я сказала! Дзела твае! Кусай потым локці сабе! — Параска памаўчала, амаль не мяняючы тону гаворкі, сказала: — Заязджаў твой, былы.— «Былы» прамовіла з націскам, з насмешачкай.

— Гаварыў што? — не таіла насцярожанасці.

— Не, нічога. Пабачыць захацеў! Занудзіўся!

— І не пачакаў!

— Негасцінна сустрэла!

Пагаварылі яшчэ тым жа ладам, Параска раптам з адчайнай рашучасцю пазвала:

— Давай пагуляем! Першы ж дзень новага года як-ніяк! Не будзе ж больш першага!

Учора быў вечар у школе. Было поўна дзядзькоў, цётак, вучняў. Як заўсёды і ў класах, і ў калідоры, і пад вокнамі. Даклад быў Парасчын пра новы год, вучні групкаю і паасобку спявалі песні, чыталі вершы. Была і п'еса маленькая, позна пачалі і позна скончылі, апоўначы. Параска, шчаслівая і стомленая, адно павіншавала Ганну і павалілася спаць.

Параска адразу захадзілася, кінулася ў куток, дзе

стаяла шафа з адзеннем, выхапіла адтуль фасоністую бутэлечку, што бліснула густа-чырвона.

— О! Наліўка вішнёвая!

— Галіна Іванаўна спіць ужэ,— паспрабавала ўгаманіць яе Ганна.

— Ну, дык мы тут!

Параска змяла са стала кніжкі, журналы, сшыткі, паставіла слупам бутэльку. Ганна заспяшалася на кухню. Стараючыся не стукаць, хапатком унесла што было закусіць. Як ведала, уранку зрабіла студзень. Так што закускі было добрай.

— Ну от! — І словы, і выгляд Параскі гаварылі, што вось яна хацела і дабілася таго, што належала. Яна з разуменнем важнасці моманту ўзняла чарку з наліўкай, стукнула яе з Ганнінай.— Штоб добры быў год!

— Няхай бы.

— Ды і не год. Дзесяцігоддзе пачынаецца,— прамовіла Параска задуменна.— Дзесяць гадоў... Якімі яны будуць?

Яна тут жа адагнала смутак: не для таго селі за святочны стол. І гаварыла, і трымалася весела, па-сяброўску, знаку не дала, што яна ў якой-небудзь крыўдзе на Ганну. Як бы паказвала, што толькі дабра зычыць Ганне.

Ганна бачыла, што зычлівасць яе ад душы, што не тоіцца, і ёй станавілася ўсё лягчэй, вальней. Нарэшце разышліся так, што адна адну са смехам стрымлівалі, нагадвалі: Галіна Іванаўна спіць.

Спаць лажыліся вясёлыя, давольныя вечарам, адна адной.

У ложку, у цемры, Ганна чула, што нібы плыве. Узяла, хмеліла Ганну салодкая Парасчына наліўка. Праз хмель Ганне бачыліся дарога сярод белага поля, пусты шлях, Башлыкоў на вазку. Пачула сябе на вазку, побач з ім, так жыва, нібы і праўда цяпер сядзела з ім. У памяці пайшла іх гаворка, загучалі, захвалявалі яго словы: «Трэба вучыцца!.. А можа ў мястэчка давай? Там лягчэй будзе вучыцца... У нас арцелі там... Адтуль табе ўсе дарогі адкрыты... Я сам з таго пачынаў. Распісацца не ўмеў... Галоўнае, праявіць настойлівасць — і ўсяго даб'ешся!.. Ты зможаш, я бачу!..» Слухаючы гэта, поўнілася непаслухмяным, радасным

хваляваннем. Бачыла сябе, незнаёмую, чыста апранутую, годную, у мястэчку, у Юравічах. Не адна была там, з ім! Нібы была ўжо гарадская зусім, такая граматная, як Параска. У трызненне гэта амаль неадчэпна прадзіралася цвярозае, недаверлівае. Паддаючыся яму, аберагала сябе, наганяла ў думанне одум: «Настроіла сабе бог ведае што! Так ето ўсё проста!» І ўсё ж бачыла мястэчка і сябе ў ім, і Башлыкова, і галава кружылася ад незвычайнага, што мроілася ўжо як рэальнае. «Новы год,— прайшло ў думках, як поўнае важнага значэння.— Новае пачынаецца. Пачалося!..» Чула, што як бы разарвалася ці вось-вось разарвецца ўсё, што аблытала, абціскала яе.

Сярод гэтага думання халадком праціняла: ці ведае ён пра Яўхіма? Што ў яе такі муж, з такой сям'і. А калі не ведае і даведаецца, то што скажа? Але гэта адышло лёгка: мала хто быў яе мужам! Што было — сплыло.

У сне ёй бачыўся горад. Не Юравічы, а нейкі нябачаны, неймаверна вялікі. І снілася, што яна блукае, блукае па незнаёмых вуліцах, шукае і ўсё не можа знайсці свой дом. У адчаі яна прагне знайсці Башлыкова, ён ведае ўсё. І не можа ніяк знайсці яго...

4

Назаўтра, пад вечар, яна зноў была ля шляху. Першым поцемкам убачыла вазок. Башлыкоў здалёк выгледзеў яе, борзда пад'ехаў. Калі зноў збочылі ў лес, Башлыкоў спытаў раптам:

— Ты была ў Нароўлі?

— Не...— здзівілася яна.

— Я — адзін раз. З'ездзім?

Яна зразумела: сказаў не выпадкова. Абдумаў загадзя. Адказала, не вагаючыся:

— А чаго ж.

— Так і быць,— прамовіў ён задаволена.— Адзначым Новы год і сустрэчу!

Ён завярнуў вазок. Выкіраваў на шлях. Між двух блізкіх адхонаў спусціліся на грэблю. На грэблі мацней хадзіў вецер — абапал было адкрытае поле. Балота. Калі ўздымаліся шляхам пасля бало-

та, насустрач прайшлі сані. Моўчкі размінуліся. Упоцемку было не разабраць — хто. І іх, мабыць, не пазналі.

Зноў былі адны, адны з цемрай, з ноччу.

— Утаміўся я,— сказаў Башлыкоў шчыра.— Усе гэтыя ночы — сходы. І без поспеху, можна сказаць. Не паддаюцца мужыкі. Рукамі і нагамі за лапік свой трымаюцца. Як у тваіх Глінішчах.

Ён загадаў пра Глінішчы без злосці, пакпіў нібы смехам.

Ёй спадабаліся яго шчырасць і давер'е яго, якое за шчырасцю адчувалася. Кранула яе, што ён так проста прызнаўся, нібы папрасіў падтрымкі ў яе.

— Трудно ето людзям,— сказала яна, як бы супакойваючы яго.— Усё ж кроўю нажывалі. А тут зразу — аддай.

— Ведаю, што — нялёгка... Але ж талкуем, убіваем у галаву: ніхто не адбірае. Аб'ядноўваем для вашага ж дабра. Каб вылезлі з беднасці, з голаду.

— Многа чуў мужык абяцанак на вяку... Таму і верыць няпроста.

— Да, спадчына мінулага жыве. Але ж пара ўжо і адвыкаць ад гэтай спадчыны!.. Злуе, разумееш, глухата страшная! Колькі ні талкуй, не даходзіць!

— К мужыку падход трэба, — як больш дасведчаная, лагодна аб'явіла Ганна. Папракнула па-таварыску: — У цябе падходу не хапае. Гарачы ты, хутко хочаш! Па-гарадскому ўсё мерыш!.. Ты глядзі от як Апейка!..

— Апейка, Апейка!..— нецярпліва перарваў яе Башлыкоў.— Не хачу я глядзець: як Апейка! Апейка кульгае — правы ўхіл, яўны!

— Ухіл ці не ўхіл, не знаю. А толькі ў яго — падход! Хітры ён!

— Хітры. Гэта — праўда, — згадзіўся ён ахвотна. Засмяяўся нават: удала падмеціла.— А я не люблю хітрасць,— выказаў ён як вельмі важнае, дарагое.— Я люблю проста, па-рабочаму! Па-партыйнаму... Я ўвесь час дасюль сярод рабочых жыў,— з гонарам і давер'ем адкрыў ён частачку мінулага свайго.— На чыгунцы... Прывык рэзаць проста. І далей буду так.

Ёй не хацелася спрачацца з ім. Але была нязгода з тым, што ён казаў; у жыцці не заўсёды разумна гэта — рэзаць. Памкнулася памагчы, падказала яму:

— Знаеш, часам, абышоўшы, хутчэй дойдзеш, як напрасткі.

— Гэта — на балоце,— сказаў ён рэзка, амаль з насмешкай.— У палітыцы трэба ісці толькі прама.

Яна прамаўчала яму. Прытаіўшы крыўду, падумала: усё ж яны розныя вельмі, і ганарлівы занадта ён, не ўмее слухаць. Ехалі зноў моўчкі і нібы адасобленыя. Башлыкоў, мабыць, каб разагнаць гэту нядобрую маўчанку, чужаватасць, пакпіў з сябе:

— Не прыжывуся я ўсё ніяк да вашай зямлі і да вашых парадкаў. Па дому свайму ўсё нуджуся.— Як мару выказаў: — Вось выканаю тут заданне і папрашуся назад, да сваіх. У Гомель, на чыгунку.

І гэта не спадабалася: хоць і кпіў, а нібы хваліўся горадам, парадкамі сваімі. Нібы вышэйшасць сваю паказваў. Але не адазвалася на яго прымірэнне больш з-за ранейшай крыўды. Няхай ведае, што ў нас таксама гонар ёсць.

Башлыкоў трохі маўчаў. Потым раптам захваляваў гаворкаю пра тое, што быў у Куранях, у яе хаце, пазнаёміўся з бацькамі яе.

— Маці ў цябе — з характарам!

— З характарам...— згадзілася яна.

Усё, што было да гэтага, у момант выветрылася з душы. З раптоўным халадком у грудзях чакала, што скажа зараз пра Яўхіма.

Чакала, быццам удару.

Доўгім, назольным здалося гэта чаканне. Пакуль чакала, зазлавала на сябе, на Башлыкова: што пачаў гэта; пацвярдзела душой. Гатова была ўжо як мае быць сустрэць удар, калі Башлыкоў уразіў нечаканым:

— Ты чаму адна? — Растлумачыў: — Не замужам?

Яна прыслухалася, старалася зразумець: шчыра ён гэта, сапраўды не ведае ці ад яе пачуць хоча. Па тону пытання цяжка было зразумець, чула толькі, што пытанне гэта — важнае яму. І што можа думаў пра гэта.



*Іван Мележ,*
*балгарскі пісьменнік Д. Ангелаў і Ніл Гілевіч*
на ўрачыстым вечары,
прысвечаным святу балгарскай культуры
і славянскага пісьменства
і Дням балгарскай культуры ў Беларусі.
*Мінск, 24 мая 1972 года.*



Іван Мележ з дачкой Ларысай.

Нялёгка адужала хваляванне, выціснула, нібы жартуючы:

— Не бярэ ніхто...

— Не падобна,— цвёрда, сур'ёзна прамовіў ён. Не падтрымаў жарту.

Яна спахмурнела. Адказала нелагодна:

— Паспытала. Больш не хачу.

— А што... разышліся?

Божа мой, няўжо ён, праўда, нічога не ведае! Не ведае, пэўна ж. Што яму сказаць?

— Разышліся.— Зазлавала.— Няма яго, лічы. Памёр.

— Памёр?..

— Не хачу пра яго! — адрэзала.

Ехалі зноў моўчкі, кожны па сабе. Тады ён загаварыў, стаў лагодна, раздумліва расказваць пра сябе. Можа таму, што вінаватым чуў за тое, што зрабіў прыкрасць ёй, а можа ад таго, што згадка пра яе бацькоў напомніла яму пра сваё. Аказалася, і яму паспытаць давялося: не ў харомах рос, у цёмным бараку, бязбацькавічам. Бацька кінуў сям'ю, маці цёмная, зарабляла грашы, хоць рабіла свету не бачачы. Пасля работы на складзе — там прыбіральшчыцай была — вечарамі, вольнымі днямі мыла бялізну багацеям. У пакоі іх тады не было як дыхаць ад пары, сцінала грудзі, кашаль душыў. А жылі так, што хлеб не заўсёды быў на стале.

Ён старэйшы. Ледзь хадзіць навучыўся, давялося памагаць маці, зарабляць. Пачалося з бялізны, якую маці мыла, — разносіў па дамах. Тады аддалі вучыцца ў майстэрню, на цесляра. Багата перапрабаваў ён работ, пакуль знайшоў сваё месца. Але і цяпер няпроста ў яго дома: сястра, Нінка, няшчасная, калека, брат — здаровы, пешчаны, разбэсціўся зусім. З нэпманаўскай дачкою надумаў ажаніцца. Робіць яго, Башлыкова, нэпманаўскім сваяком...

Апошняе — словы пра «нэпманаўскага сваяка» — Ганну кальнула, але яна адагнала думкі пра гэта. Шчырая гаворка Башлыкова ўзрушыла яе: акрамя таго, што ёй неабыякавым было ўсё, што яму давялося паспытаць, шчырасць яго кранула Ганніна сэрца тым, што ён, не таячыся, шануючы, як бы ўвёў яе ў сваю сям'ю, у сваё жыццё. Яе ўсхвалявала, што жыццём

сваім ён падобны на яе, можна сказаць, блізкі ёй. З удзячнасцю яму за шчырасць яна пачула блізкасць сваю яму.

Ад звычкі за дабро плаціць дабром яна, хоць і стрымана, коратка, расказала яму пра сваіх — бацьку, мачыху, Хведзьку. Расказала таксама шчыра, праўдзіва, ні словамі, аднак, не згадала Яўхіма і Васіля. Да тайны гэтай яна не захацела дапусціць яго. Тайна гэта, здалося, лягла між іх як нейкая вельмі чутная мяжа.

Ён ці не пачуў гэту тайну, ці не надаў ёй значэння. Абняў Ганну за плечы, прытуліў да сябе. Яна не здзівілася, не спрабавала вызваліцца. Не дзеўка, ведала, што гэта будзе. Раней ці пазней — будзе. Тоячы сваю тайну, чутную ёй цяпер, маўчала, паслухмяная ў яго абдымку.

Каб не тайна гэта, ёй было б зусім хораша. Але тайна была, жыла ў ёй. Мімаволі прайшло ў думках: няўжо ён так і не ведае нічога пра Яўхіма? Для іх, для партыйцаў, гэта, здаецца, важна ж? Ці — ведае і не зважае? Смелы такі? Любіць так? Праўдзівая і смелая, яна, аднак, не наважвалася высвятляць. Баялася рызыкаваць тым, што ёсць. Адагнала думанне, неспакой, моўчкі цешылася яго ласкай, цішынёй, бегам вазка, шараватай упоцемку дарогай.

Толькі калі пачула яго далонь пад кажухом, на грудзях, адвяла руку Башлыкова.

— Не трэба.

Ён паслухаўся.

Мелькам адзначыла: ехалі незнаёмым полем. Шлях на Юравічы быў даўно ўбаку. Ішло і ішло гэта шэрае, нібы зажуранае поле. Потым поле скончылася, палезлі насустрач хаты, кінуўся пад каня сабака. Калі хаты адступілі, пачаў выбягаць чорнымі купамі нейкі лазняк. Вазок стала моцна хіліць з боку на бок, так што самой трэба было туліцца да Башлыкова.

За лазняком пайшла роўная дарога. Рака, напэўна. Штосьці бліснула ўперадзе, як бы на ўзгорку,— агеньчык нейкі. Потым яшчэ адзін, другі. Раптам вырасла, амаль усутыч, не відная раней града-бераг. Нейкім ярам сталі ўздымацца на яе, уехалі ў вуліцу. Чым далей, больш свяцілася агнёў. Башлыкоў адхінуўся. Сядзеў ужо роўна, трымаў аберуч лейцы.

Ля нейкага чалавека Башлыкоў прыпыніў каня, запытаў, дзе тут сталовая. Дзядзька расказаў, як праехаць да яе. Башлыкоў падзякаваў, рушыў далей. На плошчы яшчэ спыніў чалавека, запытаў. Нарэшце прытрымаў каня каля нейкіх светлых вокан. Загадаў ёй пачакаць, саскочыў на зямлю. Вярнуўся давольны:

— Тут. Прыехалі!

5

У вялікаватым пакоі, дзе стаяла поўна сталоў, было амаль пуста. Пасля змроку і холаду дарогі весела было мружыцца ад святла, чуць утульнасць, цяпло жылля. Святло і цяпло нібы зычылі радасць.

З чаканнем гэтай невядомай радасці Ганна і села за стол, які выбраў Башлыкоў. Ён зняў шапку, але не сеў, стоячы ля стала, заклапочана азірнуўся. Быў ён цяпер засяроджаны, строгі, падобны на таго, якім яна бачыла яго на сходзе ў Глінішчах.

Паявілася аднекуль, штосьці дажоўваючы, таўставатая цётка з фартушком, кінула нядобра позіркам на Башлыкова, на дзверы, крыкнула недавольна: хто адчыніў дзверы! Рушыла проста да іх, не гледзячы, адрэзала:

— Усё. Зачынено.

Яна аб'явіла так, што пярэчыць было лішне. Башлыкоў не варухнуўся. У твары яго з'явілася нешта цвёрдае. Ён, відаць, стрымаў сябе, прамовіў спакойна:

— Мы з дарогі. Нам перакусіць.

Цётка ікнула. Жалезна паўтарыла:

— Сказано. Зачынено.

Твар Башлыкова яшчэ пацвярдзеў.

— Дзе загадчык?

— А што загадчык? Няма загадчыка!

— Тады паклічце буфетчыцу.

У голасе яго чулася такая цвёрдасць, што таўстуха, каб не дурная, павінна была б скеміць, з кім мае гаворку. Але не адступала, усё насядала са сваім: «Сказано!»

Башлыкоў, нібы не лічыў годным весці з ёй спрэчку, моўчкі, рашуча пакрочыў да буфета. Буфетчыца

корпалася за доўгім сталом сваім са шкляным верхам, сустрэла таксама не надта ветліва, але адказала яму, і ён смела адчыніў дзверы побач. Паявіўся ён з дзвярэй з маладым, хударлявым чалавекам, што пакульгваў. Чалавек гэты штосьці сказаў буфетчыцы і пазваў афіцыянтку, тая была ўжо ля аднаго століка, разлічвалася з людзьмі. Яе, аказалася, звалі Надзяй.

Афіцыянтка, не хапаючыся, строячы з сябе няшчасную, паклыпала да буфета.

Усё гэта здарэнне адазвалася ў Ганне такой прыкрасцю, што яна глядзець на гэта не хацела. На яе характар, яна з такой ласкі ўстала б даўно і, пекануўшы належным слоўцам дурную таўстуху, з пагардай на твары выйшла б сама. Трэба яна ёй, такая вячэра, калі такі прывет. Але разам з тым, бачачы ўсё гэта, яна не магла не адзначыць, як трымаўся ў паганай гэтай гісторыі Башлыкоў. Тое, як ён годна гаварыў, як настойліва дабіваўся і дабіўся свайго, выклікала не толькі павагу да яго, але і ўдзячнасць: так клапаціўся, можна сказаць, пра яе. З гэтым жылі і прытоенае захапленне, гонар: з такім можна не баяцца нічога, такі не дасць у крыўду.

Ён прынёс ад буфета цёмную бутэльку, дзве шклянкі. Бутэльку паставіў між іх, адну шклянку перад Ганнай. Спрэчка, было відаць, запаліла яго, твар быў неспакойны яшчэ, але было ў ім ужо задавальненне тым, што ўсё ж дабіўся свайго.

— Ёсць толькі катлеты,— буркнула таўстуха, стаўляючы сподак з тоўстымі скрыдлікамі хлеба.

— Давайце катлеты.

Башлыкоў не глянуў на яе. Помсціўся за абразу. Узяў бутэльку, адкаркаваную ўжо — корак тырчаў толькі для прыліку,— лёгка выняў корак. Паднёс бутэльку перш да яе шклянкі, стаў далікатна наліваць. Калі наліў да паловы шклянку, яна ўзялася за бутэльку, сказала, што ўжо годзе, але ён лагодна адвёў яе руку, даліў поўна. Тады ўжо наліў сабе.

Віно было чырвонае, густое, падобнае на вішнёўку. На бутэльцы, аднак, была паперка з нейкімі зялёнымі ягадамі, гарамі, прыгожымі залатымі літарамі.

— За наша шчасце, Ганна,— Башлыкоў глядзеў ёй у вочы, глыбока, прыхільна.— За новы год!

У голасе яго як бы было штосьці асобае: абяцанне і спадзяванне нібы. Голас гэты незразумела хваляваў.

Віно было добрае, салодкае. Не вішнёўка, невядомае нейкае. Не тое што дурная самагонка. Гэтае хацелася піць, смакуючы. Яна і смакавала, хоць і старалася не паказваць гэтага.

Незвычайнае, дзіўнае віно гэтае як бы ўзмацняла незвычайнасць усяго, што адбывалася. Ён выпіў, адзначыла, да дна, адзначыла з павагаю, бо помніла, Параска казала, не п'е наогул. Дзеля яе, значыць, выпіў. Яна ўсё ж стрымалася, выпіла толькі палову, як і належала. Палову пакінула ў шклянцы. Ён заўважыў, папрасіў дапіць, але яна не паддалася. Паказала, што дбае аб прыстойнасці. І ела катлету з тоўчанай картопляй, таксама помнячы сябе. Не як галодная.

Башлыкоў даліў ёй у шклянку, а сабе зноў наліў поўна. І зноў яна не дапіла. Елі моўчкі. Трымаліся як проста знаёмыя, нібы нават чужыя. Ганне гэта падабалася: нашто ж сарамаціцца перад людзьмі, выстаўляць тое, што ў душы. Тое, што ў душы, у душы і павінна быць. Для адных іх. Башлыкоў на людзях, бачна, паводзіў сябе так, нібы за ім увесь час назіраюць. Яна — разумела ж усё — трымалася таксама так, каб ніхто не падумаў нічога. Не глядзела нават на яго, хоць некалькі разоў чула вострыя позіркі яго на сабе. Але, хоць амаль не гаварылі, хоць амаль не перамаўляліся і вачыма, было ў Ганны і, пэўна ж, у Башлыкова харошае адчуванне блізкасці, сваточнасці.

Да ўсяго і віно, хоць і слабое, а ўсё ж паволі брала больш і больш. Хмеліла галаву, усё цела. Ганна чула сябе ўсё лягчэй. Усё весялеў і ён, весялеў і нібы прыгажэў. Рабіўся прасцейшым, бліжэйшым.

6

Яны скора ўзняліся, выйшлі. Калі сталі пры вазку, Башлыкоў узяў яе за локаць, нахіліўшы твар да яе, сказаў шчыра, з прыяцельскім смехам:

— Ты ведаеш, ад самага прыезду ў мяне першы такі вечар. Што я вось так — гуляю...

Ён дзівіўся з сябе, запрашаў яе падзівіцца. Захмялелы, ён быў, здавалася, зусім адкрыты і дабрэйшы. І нібы маладзей выглядаў.

Тут, упоцемку, на адзіноце, было лепш, лягчэй: не крывілася таўстуха, не карцелі іншыя, не трэба было так берагчыся чужых вачэй. Вальней было. І пасля цяпла і віна ў радасць быў халодны вецер, што пачынаў мясці снегам.

Яны селі ў вазок і паехалі па мястэчку, што моўчкі абступала іх каменнымі і драўлянымі пабудовамі, дрэвамі, цемраю, сярод якой яшчэ часта значыліся светлыя вокны. Але усё гэта мала цікавіла Ганну: мястэчка як мястэчка, што тыя ж Юравічы.

На халодным ветры хмель хутка сыходзіў, у галаве яснела. І хоць нібы, як і раней, добра было, ужо больш і больш учэпліваліся, вярэдзілі думкі. Ноч. Дадому няблізка. Пакуль дападуць, будзе за поўнач. Як яна явіцца да Параскі ў такі час. І не так Параскі трывожыцца трэба, як Галіны Іванаўны. Гэтая не тое што Параска — строгая, недавольная век. Пачуе адразу, выгаварваць стане. І да дня далёка; калі надыдзе той цяперашні, позні дзень! Дзень, у які можна будзе вярнуцца як бы з адведзін. Узяло раптам: можна было б, праўда, явіцца ў Бярозаўку, да цёткі! Можна было б, запярэчыла сабе,— але не сярод ночы!.. Як ні думай, пакпіла з сябе, застаецца адно: начаваць у полі ці ў лесе, на марозе!.. А чаго ж, падхапіла задзірыста,— можна і ў полі, на марозе! Такой бяды!..

Пра штосьці, можа пра тое ж самае, думаў і Башлыкоў. Яна наогул не любіла, калі ён уцінаў падбародак у каўнер паліто, задумваўся: тачылася падазрэнне, нібы яго бярэ нядобры одум. Цяпер падавалася, быццам ён шкадуе, што выдумаў гэта, палез невядома чаго ў такую далеч.

Яна першая і бадзёра заявіла, што — пара дадому! Нагляд зеліся, наездзіліся ўжо. Башлыкоў як бы толькі і чакаў, адразу павярнуў каня, відаць, да берага. Вецер біў цяпер амаль насустрач, кідаў свежым снегам. Адчувалася, што завея ўсё разыходзіцца. Ганну не палохала завея, нават радавала яе, уздымала дзіўна весялосць. Разганяла нудныя развагі. Нешта завейнае, мяцельнае білася ў Ганне.

Праз завейную мітусню яна чула адгукалася на ўжо рэдкія агеньчыкі ў хатах. Агеньчыкі гэтыя трывожылі і вабілі яе: там, дзе яны бліскалі, мроілася Ганне жыццё, якога яна не ведала, не падобнае на яе. Там, з гэтымі агнямі, бег паўз яе свет, не толькі незнаёмы, але і ўтульны, поўны святла і цяпла. Свет, які ледзь адкрыўся ёй, дзякуючы Башлыкову. І які павінен быў вось-вось знікнуць.

Што іх чакае там, у полі? Сярод мяцеліцы, што разгульваецца. На самым выездзе з вуліцы, дзе блізка зашарэла шырокая рухомая роўнядзь, бліснуў яшчэ агеньчык, як апошні кліч. І яна раптам з тым імкненнем, якое ўскідвалася ў ёй у момант, схапіла Башлыкова за руку, за лейцы.

— Давайце заедзем!

Ён стрымаў каня. Азірнуўся на акно. Нейкі час глядзеў туды. Адарваў позірк, думаў, вагаўся.

— Дадому позно,— выказала нецярпліва яна.— Да й мяцеліца...

Ён без асаблівай ахвоты пад'ехаў бліжэй, сышоў з вазка. Пастукаў у акно, на якім ад святла з сярэдзіны паблісквалі марозныя ўзоры. Там, за марознай мярэжай, паявіўся цень. Прытуліўшыся да яго, Башлыкоў папрасіў:

— Выйдзіце на хвілінку.

Цень нейкі час яшчэ чарнеў на шыбе. Потым прапаў, у доме чулася нейкая гаворка. Нарэшце стукнулі дзверы недзе, потым рыпнулі веснічкі пры варотах. У іх акрэслілася цьмяная постаць, можна было вызначыць — мужчына ў кажуху.

— Хто тут? — У голасе дзядзькі чуліся цікаўнасць і неспакой. Але ён прыхоўваў іх, гаварыў спакойна, амаль абыякава.

— Мяцеліца разгульваецца,— сказаў Башлыкоў, здалося, яшчэ з нерашучасцю.— Ці не можна спыніцца ў вас, пакуль прыціхне?

Так, Ганна прыкмячала, Башлыкоў адчуваў сябе няёмка. Але можна было падумаць, няёмкасць гэта была ад таго, што трэба прасіць, даваць людзям клопат. Бачачы, што дзядзька-гаспадар прыглядаецца да іх, ахвотна памагла Башлыкову:

— У Хвойнікі едзем. З Міхалак. У гасцях булі, дак от позно выбраліся.

Яна лёгка выдумляла, было весела ад таго, што яна вось лаўчэй за Башлыкова ўмее распарадзіцца ў бядзе. Як бы разумней за яго.

Дзядзька прыгледзеўся і адчыніў вароты. Заехалі, распраглі каня, паставілі ў хляве, далі з вазка сена. Разам з дзядзькам падаліся да ганка. Башлыкоў доўга абтрэсваў, абіваў снег на ганку, у сенцах.

Усе, хто быў у хаце, адразу з цікаўнасцю навастрыліся на іх. Былі тут немаладая, вясковага выгляду жанчына, што нешта латала, чарнявая, падобная на маці, дзяўчынка гадоў дванаццаці за сталом, з кніжкай.

Адзін хлопец, трохі меншы за дзяўчынку, стрыжаны, бялявы, сядзеў на палку пры печы. Двое ці трое зырылі з печы.

Ганна і Башлыкоў весела прывіталіся.

— Папрасілі ў гаспадара вашага дазволу перабыць ноч. Мяцеліца разгулялася...— сказаў Башлыкоў да гаспадыні, стараючыся трымацца проста.

— А чаго ж, пабудзьце,— адказала прыхільна жанчына.— Тут і заблудзіцца нядоўга. На рацэ і ўдзень, бувае, з дарогі збіваешся. Калі ў мяцеліцу бярэшся з таго боку...

Башлыкоў, бачыла Ганна, быў насцярожаны. Перахапіла, як ён востра зірнуў на гаспадара, нібы правяраў: ці не знаёмы той, ці не пазнаў, хто да яго ў госці. Хоць стараўся трымацца ўпэўнена, Ганна адзначыла, што ён стоена нацяты. Неспакойнаю была і яна. Нават пашкадавала раптам, што падбіла Башлыкова завярнуць сюды. У той момант здалася не так ужо і страшнаю ноч у полі.

Але змяняць позна было. Заехалі, дык заехалі, трэба прынараўлівацца да таго, што ёсць. Павяла бяседу, якую належала весці ў чужой хаце, каб паказаць сябе як гасцей найлепшым чынам. Як бы дзякавала за прытулак, паскардзілася: на вуліцы мяце — страх, холад бярэ, конь змарыўся. Упікнула сябе за неразумнасць: позна выбраліся, не паслухаліся добрых людзей, раілі ж пачакаць да раніцы. «Праўда,— разважыла з одумам,— хто ж тады знаў, што будзе так. Ціха ж саўсім було!»

За гэтым узялася распытваць пра сям'ю. Перш пра

дзяўчынку, што хілілася над сталом,— як завуць, як вучыцца, пахваліла: відно адразу, што старатлівая. Пацікавілася пра хлопца на прыпеку, пра тых, што зіркалі з печы. Башлыкоў гаварыў мала, Ганна проста падзівілася, да чаго ён няспрытны быў тут. Праўда, гаспадар трапіўся таксама не надта гаваркі, але ж няўжо не можна было яму, такому адукаванаму, разгаварыць дзядзьку. Маўчалі абодва, дымілі адно папяросамі.

Падобна было: Башлыкоў усё не мог прызвычаіцца да таго, што заехаў сюды. Папракае, пэўна, сябе, яе. Зазлавала раптам на яго, ну і хай, сам вінаваты за ўсім! Сам выдумаў ехаць на ноч гледзячы! А мерзнуць у полі яна не будзе! Вялікая ахвота калець у полі такую ноч! Тут гаспадыня ў гаворцы, нібы знарок, назвала ёй Башлыкова: «ваш чалавек»! Ганна ад неспадзеўкі ледзь не выказала праўду, але ў час спахвацілася: паказала абыякавасцю, як бы даўно прывыкла да гэтага — яе «чалавек». Пазней ужо не вытрывала, хітравата блiснула на Башлыкова, затаіўшы смех: значыцца ўжо «чалавек і жонка»! Як ён да гэтага, неспадзяваны «чалавек»?

Гаспадыня перарвала гаворку, захадзілася: трэба ж даць павячэраць людзям з дарогі. Яна адразу папрасіла прабачыць, што жывуць бедна, ды і павячэралі ўжо, так што няхай госці не крыўдуюць. Башлыкоў адразу перастаў дыміць, устаў нават, цвёрда аб'явіў, што павячэралі зусім нядаўна таксама, заехалі ў сталовую. Ганна памагла яму. Але гаспадыня ведала закон, зрабіла сваё: паставіла міску з гуркамі, міску з капустай, нарэзала трохі хлеба. Ганна для прыліку ўзяла гурок, з'ела са скібачкай хлеба. Паспытала капусты, пахваліла ўсё, падзякавала. Следам за ёй пачаставаўся і яе «чалавек».

— Мы вам у баковачцы,— сказала раптам гаспадыня.

Ганна ад гэтай навіны стаілася. Мімаволі зірнула на Башлыкова.

Башлыкоў не паказаў неспакою. Ён ужо ўстаў з-за стала, намерыўся было, відаць, зноў задыміць, пацягнуўся ў кішэню за папяросамі. Пачуўшы словы гаспадыні, перахапіўшы Ганнін позірк, ён прамовіў паважна, стрымана:

— Не трэба.— Ён павёў вачыма па лаўках абапал стала.— Нам вось тут. На лаўках.

Гаспадыня разважыла па-свойму.

— Вы не думайце нічого,— супакоіла Башлыкова і Ганну.— Там — чысто.

— Я не пра тое,— заявіў Башлыкоў. Ён на момант запыніўся: што ж сказаць.— Што ж мы — прыехалі і адразу — высяляем гаспадароў.

— А нічого! — не адступала жанчына.— У нас такі парадак. «Госцю — гадзі», кажуць.

— «Госцю гадзі, да й сябе — глядзі!» — падхапіла, падтрымала Башлыкова Ганна.

— Глядзім, глядзім і сябе! — запэўніла гаспадыня.— На палку паспім. Пры цяпле. А вы не сумнявайцеся. Там — чысто. Добра будзе. Ідзіце, перадыхніце. Рано ж ехаць, да й дарога не блізкая.

— У вас і тут, на лаўках, добра,— паспрабавала адгаварыць гаспадыню Ганна.— Лепей не трэба!

Гаспадыня палічыла іх развагі, мабыць, за звычайную гаворку для прыліку. Загадаўшы малым спаць, запытаўшы старога, ці зачыніў вароты, параіла Башлыкову і Ганне:

— Лямпу вазьміце.

Спрачацца не мела толку. Ганна для прыліку сказала:

— Нічого. Так разбярэмся.

Праз адчыненыя дзверы Ганна ўжо разгледзела: баковачка была вузенькая, адразу за дзвярыма пры сцяне стаяў ложак, засланы даматканаю, у клетачку, коўдраю. Ганна, ідучы туды, пачула, як стала холадам поўніцца, калаціцца сэрца. Яснай, ліхаманкавай свядомасцю чула: гаспадары сочаць, чакаюць, стаяць нельга, трэба ісці. З абыякавым выглядам рабіць усё, што належыць. Перамагаючы халадок у сэрцы, трывогу, зайшла ў баковачку і раптам зазлавала на сябе: чаго гэта яна так, бы на шыбеніцу! Адчула такі прыліў смеласці, хоць з гары галавой уніз. Рашучымі рухамі зняла валёнкі, скінула жакет, паклала на спінку ложка, каля акна. Мелькам адзначыла: акно зеленавата шарэла ад нейкага святла.

Не раздзяваючыся больш, адважна ўзняла коўдру, схавалася пад ёй.

Без трывогі слухала, як мерным крокам увайшоў

Башлыкоў. Зачыніў дзверы. Упоцемку сеў на край ложка, пачакаўшы момант, нібы яшчэ падумаўшы, стаў шаргаць ботамі. Здымаў іх. Спачатку адзін, потым другі. Распераzаўся, зняў гімнасцёрку. Рабіў усё марудна, цяжка. Як бы раздумваў усё — рабіць не рабіць. Лёг, нарэшце.

Ляжаў нерухома. Можа, раздумваў: правільна ці няправільна зрабіў. «Муж і жонка»! Ганну раптам узяў дураслівы смех, ледзь утрымалася, каб не зарагатаць.

Не зарагатала. Помніла: гаспадары не спяць, чуваць усё.

Ён доўга ляжаў, думаў. Потым Ганна пачула, павярнуўся да яе, на плячо яе лягла гарачая рука. Пагладзіла плячо.

— Давай спаць! — параіла шэптам яна.

Ён не паслухаўся, абняў, прытуліў да сябе. Яна пацалавала яго, як хлопца, і рашуча адхіліла. Загадала:

— Спі!

Ён сілаю прыцягнуў яе да сябе, сціснуў. Стаў нецярпліва шукаць яе вусны, цалаваць. Цалаваў вусны, цалаваў шчокі, шыю. Гарачэў. Рукі нецярпліва хадзілі па спіне, па плячах, дакраналіся грудзей, дрыжалі. Яна адказвала на яго пацалункі, адзывалася на яго пяшчоты, яе самую ўсё больш паліў агонь. Ёй самой хацелася згарэць у гэтым шалёным, нясцерпным агні.

Але калі рука яго, пагладзіўшы калена, хутка пайшла вышэй, яна сціснула руку, адвяла яе. Выдыхнула горача, непахісна:

— Не.

Ён ці не паверыў ёй, ці не мог стрымацца. Стаў дамагацца, злаваць, хацеў узяць сілаю. Але чым больш шалеў ён, тым больш упарцілася ў ёй нейкая нязгода, крыўда. Нешта такое, цераз што яна і сама не магла пераступіць. Што мацней было за яе.

Ён не разумеў гэтага. Не дабіўшыся, знясіліўшыся, прымушаны маўчаць, ён потым глядзеў кудысьці ў столь, часта, злосна дыхаў. Мабыць, лаяў моўчкі яе. Не мог зразумець яе.

А ў ёй расла крыўда. Крыўда і расчараванне. Доўга не магла заснуць.

7

Яна прачнулася ад таго, што побач успыхнуў агеньчык.

Ад сну першы момант не магла ўцяміць: хто побач, дзе яна. Кальнуў неспакой: Яўхім? Тады ўжо стала ўспамінаць учарашняе.

Башлыкоў свяціў запалкаю на гадзіннік.

— Трэба ўставаць,— сказаў клопатна, заўважыўшы, што яна прачнулася.

Ён узняўся, пашукаў рукамі ўпоцемку, надзеў гімнасцёрку, стаў абувацца. Тады, як ён адзеўся, абуўся, усхапілася яна, знайшла валёнкі, звыкла ўздзела жакет. У акне было цёмна, відаць, толькі бралася на золак.

Пад дзвярыма засвяцілася паска святла, прарэзаліся шчыліны з боку дзвярэй. У хаце запалілі лямпу.

— Чаго ето так рано? — спаткала іх гаспадыня, калі яны, жмурачыся ад святла, выйшлі ў пакой.

— Пара,— сказаў Башлыкоў сабрана.— Дарога няблізкая.

— Ці добра хоць спалі?

Пытанне гэта нядобра кальнула Ганну. Здалося, нібы не толькі гасцінная зычлівасць была ў ім.

— А як жа,— знарок абыякава адказала.— Добра. Як лягла, дак зразу — як у прорву. І не паварухнулася.

Гаспадыня, больш для прыліку, сказала, што — можа перакусілі б перад дарогаю. Але Башлыкоў, не вагаючыся, адмовіўся.

— Дзякуем. Не хочацца яшчэ.

Ганна адзначыла: быў ён сёння, падобна, больш затоены і нейкі будзённы. Твар выдаваў цвёрдым, строгім. Інакш і яна адчувала ўсё, будзённа і цвяроза. Як бы пасля хмелю.

З гэтым настроем абое моўчкі адзяваліся каля парога. Завязаўшы хустку, яна падзякавала гаспадыні, гаспадару, што от далі прытулак, выратавалі, можна сказаць. Выйшла нібы заклапочаная на двор. Башлыкоў, адзеты зусім, не пайшоў услед. Затрымаўся, сказаць свае словы ці можа — падумала раптам — заплаціць!

На дварэ было вельмі холадна. Рана. Яшчэ і не днела. Згадала востры развітальны позірк гаспадыні, нямкасць гаспадара: нешта прыкмецілі, мабыць. Здагадаліся, ці што, якія чалавек і жонка?.. Не дай бог, яшчэ за начаванне плаціць захоча! Зусім здзівіць, насцярожыць...

Лягчэй стала, калі выехалі з варот, засталіся адны. Пацвеаразелым позіркам у паяснелай, без завеі, шэрані бачыла, як сыходзілі яшчэ хаты, трохі ўбаку, якіх учора нібы не было відаць. Спусціўшыся па схіле, апынуліся на цёмнай аднастайнай роўнядзі. Былі цяпер навокал толькі снег, ноч, шырокая цішыня, і яны адны сярод снегу, цішыні.

Снег свежа, чыста пах. А ў душы свежасці, чысціні не было. І лёгкасці, радасці не было.

Дарога была там і тут замецена гурбамі снегу, і конь груз, ішоў паволі. Яго ніхто і не паганяў, спяшацца не было чаго, часу было даволі. Ужо добра ўехалі другім берагам, калі развіднелася, прасторна расхінулася белая шырыня. Амаль увесь час Башлыкоў маўчаў, думаў, жыў нейкімі сваімі сур'ёзнымі клопатамі.

Калі завіднелася наводдаль Бярозаўка, Ганна папрасіла стаць. Сказала: пайдзе далей пешкі.

— Падвязу яшчэ,— прамовіў ён.

— Не трэба.

Ён спыніў каня.

Яна не адразу сышла. Сядзела момант, унурыўшыся ў каўнер, думала яшчэ. Потым ускінула галаву, зірнула адважна ў вочы яго. Асмелілася на тое, што гняло і што баялася адкрыць. Што будзе, тое будзе! Няхай ведае!

— Ты чаго? — здзівіўся ён.

— От думаю. Вінавата я перад табой...

— Вінавата?

— Вінавата. Вельмі. Не сказала табе, што трэба.

— Што?

— Хто быў мой муж.

— Хто ён?

— Яўхім. Глушак Яўхім. З Куранёў.

— Яўхім Глушак!

Яна бачыла: твар Башлыкова раптам вачавідкі пашарэў. Твар гэты працяла трывога. Але разам Башлы-

коў глядзеў так, як бы не верыў. Як бы чакаў, што яна зараз скажа — пажартавала.

— Вы разваліся?..

Пытаў так, нібы шукаў прасветліну. Бязлітасная да сябе, адказала:

— Развяла нас доля.

Яна саскочыла з вазка. Намерылася ісці, але стала, павярнулася да яго. Момант глядзела на яго, як бы чакала чагосьці. Тады штосьці ўскінулася ў ёй. Хутка, парыўна ступіла да яго, сціснула, пацалавала. Аддала пацалунку, здалося, усю сябе.

— От усё! — сказала рашуча, жорстка.

І з той жа рашучасцю адарвалася. Пайшла ад яго. Разумеючы ясна, што ідзе назаўсёды. Што ўсё скончылася. Ледзь пачаўшыся.

## АД РЭДКАЛЕГІІ

Цяжка, складана і горка гэта — разбіраць рукапісы, накіды, якіх нядаўна яшчэ краналася рука Івана Паўлавіча Мележа, і з гэтага спрабаваць скласці нешта, што павінна хоць аддалена нагадваць незавершаны яго твор, які і для самога аўтара не быў яшчэ бачны да канца.

Немагчыма гэта — аднавіць плынь памяці, фантазіі, шматгадовых думак, ваганняў, сумненняў, што стаялі за кожным запісам, за кожным радком...

Але падаць чытачу матэрыялы, якія могуць дапамагчы яму адчуць хоць бы напрамак працы і пошукаў Івана Паўлавіча над няскончанымі раздзеламі яго апошняга рамана,— паспрабаваць гэта можна. Тым больш што матэрыялы ёсць, засталіся, а некаторыя часткі, раздзелы выглядаюць амаль закончанымі і, магчыма, у такім выглядзе ўвайшлі б у раман «Завеі, снежань», калі б Іван Паўлавіч паспеў яго поўнасцю завяршыць і надрукаваць у канцы 1976 года, як гэта ён збіраўся зрабіць.

Калі надрукаваны былі першыя раздзелы рамана «Завеі, снежань», Іван Паўлавіч не раз гаварыў пра тое, што ўсё ж такі, мабыць, у гэтай кнізе ён вычарпае, завершыць «лінію Башлыкова». Зноў і зноў вяртаўся да гэтай размовы. І яшчэ гаварылася пры гэтым, што вось у Бальзака кожная кніга яго «Чалавечай камедыі» хоць і звязана ўнутрана з усім «цыклам» раманаў, але можа існаваць для чытача і асобна. Бо асноўныя характары ў кожнай раскрыты вычарпальна.

Было і гэта — эстэтычная патрэба закончыць «лінію Башлыкова» іменна ў рамане «Завеі, снежань», дзе Башлыкову дадзена была магчымасць раскрыцца да канца. Але і яшчэ нешта прысутнічала ў тых размовах, у намеры не адносіць, не адкладваць да наступнага рамана некаторыя свае думкі, мэты, ідэі, сцэны, мастацкія адкрыцці. Схаваная трывога, што не паспее зрабіць, здзейсніць усяго задуманага, узняць усю цаліну, якую адзін ён бачыў з канца ў канец. «Здароўя няма» — гэта ў яго гучала як скарга земляроба, што «надвор'я няма»...

На лістах, на лістках з блакнотаў, а дзе і на картоне (ад папак) сабраны яго запісы, накіды, планы, а таксама амаль закончаныя раздзелы, што павінны былі «нарасціць» сюжэт і вобразы рамана «Завеі, снежань», завяршыць гэты твор.

Засталіся (яшчэ раней напісаныя) цэлыя раздзелы пра далейшы лёс Ганны, Васіля, Яўхіма, Міканора — прадваенны і нават ваенны. Але гэта, вядома, адкладвалася надалей — для наступных кніг палескай хронікі. (Замах Яўхіма на жыццё Васіля (Міканора) — цяжка параніў пры гэтым Ганну,— уцёкі Яўхіма за мяжу, вяртанне ў сваю мясцовасць разам з немцамі.)

Не можа быць упэўненасці, што раней, даўно напісаныя, гэтыя раздзелы ў такім выглядзе ўвайшлі б у наступныя кнігі хронікі. І наогул — што ўсе ўвайшлі б. Тое, як ішла, як пайшла праца над раманам «Завеі, снежань», сведчыць пра ўсё большую, узрастаючую патрабавальнасць Івана Паўлавіча да ўсяго ім зробленага.

Рэдкалегія палічыла мэтазгодным даць, як асобную публікацыю, тое, што магло быць выкарыстана Іванам Паўлавічам непасрэдна для рамана «Завеі, снежань».

# I. НАКІДЫ ДА РАМАНА «ЗАВЕІ, СНЕЖАНЬ»[1]

«Пісаць — зразу ж — самае галоўнае, важнае: калектывізацыю, раскулачванне.

Імкнуцца пісаць лаканічна. Ёсць пагроза — расцягнуць кнігу. Раман не павінен быць доўгім.

Раман павінен быць дынамічным. Дзеянне, дзеянне, дзеянне. Змены, змены. Усё ламаецца. Паварот за паваротам.

Менш расказваць (чым у «Подыху»). Больш — паказ! Дыялог!

Сюжэт, інтрыга! Не пагарджаць. Павінна добра чытацца!

Драматызаваць падзеі як мага. Напружанне трэба!!! Драматычны час. Поўнае драм жыццё!

Выполваць лішняе бязлітасна! Ніводнага лішняга сказа, слова. Гнаць паўторы!!

Не забываць Галенчыка, Белага, Сопата.

Не баяцца: чалавечнае ў Глушаку старым і іншых. Глушак баіцца ссылкі. Разгублены. Гатоў на ўсё, толькі пакіньце тут. Страх перад невядомасцю. Чуе смерць.

Паказаць праз асабістае «страсці эпохі».

Не расплывацца!!!

---

[1] Публікацыю падрыхтавалі Л. Я. Пятрова Мележ і А. М. Адамовіч.

Філасофія паводзін герояў часу. Філасофія поглядаў аўтара. І не баяцца.

Пішу не таму, што задумаў цыкл і трэба працягваць, а таму, што яно паспела ва мне і я маю нешта сказаць і зусім новае...»[1]

— Яўхім. Глушак Яўхім... З Куранёў.

— Яўхім Глушак!

Яна бачыла: твар Башлыкова раптам вачавідкі пашарэў...

— От усё! — сказала рашуча, жорстка.

І з той жа рашучасцю адарвалася. Пайшла ад яго. Разумеючы ясна, што ідзе назаўсёды. Што ўсё скончылася. Ледзь пачаўшыся[2].

Далейшае Івану Паўлавічу бачылася так.

Далей: Башл[ыкоў] вяртаецца. Дома (у РК) шукалі звечара, тэлеграма ў Мінск. Ванілі. Звоніць: паехалі ўжо.

Адразу збіраецца.

У дарозе — ашаломлены — пра Ганну. Ашаломлены сабою: такое ўчыніў. Як дурны хлопец.

Часам: пасмяялася, можа, яна?

Часам: трэба ж такое. Не прыдумаць. Бачыў жа сам — адкуль.

Кулачка ці не яна? Кулачка не кулачка, а лепш далей... Трусасць. Які прыклад ён дасць? Што думаць пра яго будуць? Пляма. Трэба ірваць. Добра — у самым пачатку. Ніхто не ведае...

Абарваў — была палёгка. Але потым — успамін. Так нічым і кончылася. Вабіла яна.

У Мінску. У пакоі ўдваіх — яшчэ двое, сакратар. (Башлыкоў спазніўся на дзень.) Пытае ў яго: пастанова ЦК пра тэмпы. Прачытаў.

---

[1] З гэтага пачыналася праца над раманам «Завеі, снежань». Новы падыход, новае адчуванне матэрыялу і самога сябе як пісьменніка.

[2] Закончыў Іван Паўлавіч апублікаваную частку рамана, памятаеце, нечаканай і для абодвух жаданай сустрэчай Ганны і Башлыкова, начной паездкай у райкомаўскім вазку — ноччу, якая абяцала ім шчасце надоўга. А развітваючыся, Ганна раптам гаворыць Башлыкову тое, што — ведае загадзя — перакрэсліць і гэтую ноч і саму магчымасць падобных сустрэч у будучым. Яна гаворыць, хто быў яе муж.

Адчувае палёгку. Ёсць час. Запас часу. Сабрацца з сіламі. Сакратар таксама думае: пастанова добра.

Але ўсе выступаюць: перакрыць тэмпы. Да вясны. Як нейкая іншая сіла дзейнічае.

Усе разумеюць — трэба час, і ўсе адзін перад адным — да вясны. Нейкая сіла іншая дзейнічае. Як іншая пастанова.

Сакратар — яго сусед — выступае да вясны.

Башл[ыкоў] думае: чаму так? Трусасць? Ён — не трус. Ён не хоча быць трусам. Тым больш што барацьба. Не хоча, каб думалі пра яго — трус, што ўхіляецца.

Ён з усімі будзе. Наперадзе. У адных радах. У такі час. Сярод смелых.

Ён выступае. Непахісна — за тэмпы. Да вясны.

Едзе дадому. Усё ясна ў яго.

Апейка ўсё ж падзейнічаў на яго. «Расслабляе». «Нявер'е ўводзіць». «Змагацца з апейкаўшчынай». «Даволі міндальнічаў з самім Ап[ейкам]». «Прэч гайлісаў і ап[ейкаў]». З гэтага пачне.

*...Брыдка: у рабочы час. У такі момант кінуў работу. Асабістым заняўся. Чым? Як зацьменне найшло. Захапіла. Любоў. Ці любоў. Якая можа быць любоў, ды яшчэ такая? А хто ж ведае?* [1]

Б[ашлыкоў], едучы ў Мінск, думае складана і разумна. Пра Ганну. Хто яна? Як да яе? Не памыліўся — не простая штука. Выпадкова там, у школе. Далёка і высока ляцець. А вось сядзіць — тэхнічкай.

Як яна звязалася з тым? Такая разумная, сялянка. Што звяло? Маці?

Як ён, так несур'ёзна з ёю? Не даведаўшыся. Хто ж знаў такое? Сам судзіў Барыса. Няёмка было: як груба дабіваўся ласкі яе. Сорамна было. Як гомельскі кавалер з вуліцы. Палез так груба. Што яна падумае пра яго! А яна — такая далікатная, годная. Дала ўрок яму прыстойнасці, паводзін.

Брыдка чуў сябе, нікчымным паказаўся перад ёю. Дзівіла — не ў першы раз: як ён, такі часта высокі, належны, часам можа так нізка падаць. Сорам. Перажыткі, ці што — гомельскія, былыя. Звычкі жывучыя. Жывёльныя...

Пра яе: розум які. От табе і вясковая дзеўка. Чым яна вабіць? Адкуль сіла такая! Змагла ж зламаць долю. Памылілася і змагла — такога звера пакінуць. «А нас куды?»

---

[1] Напісанае Іванам Мележам на палях тут і далей даецца курсівам.

Не па сабе: от як жыццё. З аднаго боку той, з другога ён. Два светы [1].

Чуў: жыццё наогул заблытвае, захліствае яго. Як у моры неспакойным [2].

Як усё заблытана ў жыцці. Успамінаў Курані: маці Глушака, яе філасофія. Не адна так. Глушака Ігната — былы чырвонаармеец. У яго развагах ёсць рацыянальнае. Але — шкоднае. А гэты — «нас куды?»

Цемра, ■ нямала такога — дзіву дацца. Апейка — не дурань.

«Не паддавацца» — думае.

Думаў. Што з ёю. Было нават: забраць, жаніцца.

Думаючы пра паездку з Ганнай, папракае сябе: трэба было заходзіць яму ў хату? Начавацы! Захацелася ёй зайсці — не змог запярэчыць! Размяк... Трэба было наогул ехаць яму ў гэту Нароўлю! Не збіраўся ж! Захацеў пацешыць яе! Як хлапчук! Проста дзіўна! Незразумела.

*Сакратар і Башл[ыкоў] і іншыя прыехалі з Мінска, з Пленума ЦК. «Якія навіны?» — гадаюць другія* [3].

(Пленум — у «Гіст[орыі] БССР», т. 2).

Нарада.

Башл[ыкоў] выехаў раней. Пра размову з сакр[атаром] Апейку раск[азвае] Байкова.

---

[1] Пісьменніку бачылася і такая сцэна (далей):

«Калі Ганна прыходзіць у кабінет.

Прымае. Годна трымаецца. Імкнецца быць годным. Не паказваць слабасці сваёй.

— Як ты гэта, за яго?

— А як ты? Са мной?

Замоўк.

— Да...

Памякчэла.

— Мамент усё. А — на ўсё жыццё.— Гарката ў голасе.— Уся жызнь — ■ маментаў. Толькі другія — нічога асобага, а адзін бывае на ўсю жызнь. Усё калечыць.

— Да... Але ж вырвалася?

— Вырвалася. Далей бы вырвацца куды.

— Заходзіць? Пагражае?

— Ну, канешне, не без таго. Толькі я не такая. Не вельмі баязлівая.

— Такая — смелая ўжо?

— Ну, не такая, а ўсё ж».

[2] Напісана на палях.

[3] Напісана на палях.

Па тым, як трым[аецца] Башл[ыкоў], Ап[ейка] здагадваецца. Нацятасць іх адносін.

Знаёмыя. З Турава. Што там? Мяжа. Пераходзіць. Затрымалі. «Зіма. Лягчэй цяпер. Асабліва ў мяцеліцу».

— І адтуль падсылаюць паны. (Шпіёнаў). Так што трэба глядзець.

«Тураў. Старажытнасць... Не быў ніколі». Што там засталося? — Нічога. Тураўца называе — князь Тураўскі. Жартуе ўсё. (Ап[ейк]а). Тады — Байкова. Башлыкоў.

На Пленуме ЦК.

Башл[ыкоў] любіў Пленумы. Башл[ыкоў]: свае, аднадумцы. Сіла. Тут ўсё ясна. Ясныя адносіны.

Цвет народа, партыі. Тут рашаецца лёс тысяч, мільёнаў, народа. І ён таксама рашае.

Тут — гісторыя сама. І ён адзін з удзельнікаў гэтай вялікай гісторыі.

Усё гэта выклікала душэўны ўздым. Пачуццё значнасці і святочнасці. Сама абстаноўка, увага і цішыня ў зале былі значныя і святочныя.

Здаецца, у рознай меры прыкладна тое ж адчувалі іншыя. Значнасць была і святочнасць.

І ўпэўненасць. Калі і было нешта — сумненні нейкія, то ў глыбіні, тут — значнасць і ўпэўненасць. Цвёрдасць.

Той жа настрой — на Пленуме акружкома і ў Юравічах — на актыве. З тым настроем сярод тых, што прыехалі на Пленум, і разам вышэй за іх: ён быў там, у сталіцы, прыехаў адтуль, у яго самыя важныя весткі. Ён быў адным з тых, што рашалі гістарычныя падзеі.

Упэўненасць і рашучасць.

Ён павінен перадаць гэтыя ўпэўненасць і рашучасць усім, узняць, дабіцца пералому. Павінен дабіцца і — даб'ецца.

(У такім настроі разбірае Гайліса, рашае «справу» Апейкі).

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### 1

Яны прыехалі рана: сярод першых. Каля акружкома стаяла толькі двое вазкоў.

Зусім мала кажухоў і паліто было на вешалцы. У невялікім вестыбюлі перад залай, дзе збіраліся Пленумы акруж-

кома, як звычайна, сядзела ўжо жанчына з аркушам паперы. Спіс тых, што прыбылі, быў кароткі.

Башлыкоў, вясёлы, жвавы, ледзь зарэгістраваўся, адразу энергічна кудысьці пакрочыў. Харчаў і Апейка засталіся ўдвух; Харчаў сустрэў знаёмага, загаманіў з ім, а Апейка падаўся да кіёска купіць газету, паглядзець кнігі.

Ён толькі адышоў ад кіёска з газетай, што купіў, калі Башлыкоў паявіўся зноў. Быў ён, як і раней, жвавы, энергічны, крочыў са сваёй звычайнай, гаспадарскай упэўненасцю,— але і нешта новае, незразумелае хаваў у сабе. Гэтае незразумелае свяцілася ў яго вачах, вяло яго з асаблівай лёгкасцю.

Башлыкоў з радаснай і загадкавай усмешкай упэўнена ўзяў Апейку за локаць, нецярпліва азірнуўся, шукаючы вачыма Харчава. Кінуў адно, прытоенае, значнае: «Навіны!» — павёў Апейку да Харчава.

Адвёў абодвых крыху ўбок, наблізіўшыся ўсутыч, тонам даверным і значным аб'явіў:

— Недарэмна пазвалі!

Ён не спяшаўся тлумачыць, маўчаў, змястоўна і важна. І ўвесь поўніўся радасцю. Ад таго, відаць, што мае быць, і ад таго, што такую вестку першы пачуў. Ён нібы адчуваў у сабе асаблівую вагу ад таго, што ведае такое.

*Знаёмая Апейкі тут гаворыць яму пра Башл[ыкова]. Пра камісію* [1].

— Так, вось яно! — сказаў ўзрушана.— «Это есть наш последний и решительный!» Ён перавёў позірк з аднаго да другога,— вочы ў вочы: позірк значны і запытальны: разумееце, што пачынаецца? З тым жа адчуваннем асаблівага свайго значэння, глядзеў дапытліва. Нібы чакаў, калі дойдзе да іх, калі будуць у стане зразумець як належыць.

— Гэта — навіна!.. Я прадчуваў. Як чытаў Сталіна — выступленне перад аграрнікамі-марксістамі... Зразумеў — пачынаецца!..— Дакончыў выразна: — «Рашучае наступленне! Ліквідаваць — як клас!»

Зноў паглядзеў — вочы ў вочы: разумееце?

Цяпер, здаецца, зразумелі. Бачачы, як усхвалявала абодвых навіна, усміхнуўся задаволена і па-прыяцельску. Як бы з'яднаны з імі навіной, якой падзяліўся.

Да іх падышло некалькі — толькі што з марозу. Ці заўважылі, што тут узрушаны нечым цікавым, ці проста так.

---

[1] Напісана на палях.

Адзін, адзначыўшы, што трое змоўклі, стрымана запытаўся:

— Што будзе?

— Будзе — важнае.— На твары Башлыкова зноў з'явілася загадкавасць і значнасць.— Не памыліцеся.

— Трэба думаць! А што?

— Пачуеце скора.

Ён сказаў мякка, але цвёрда. З такім сэнсам, што прыйдзе пара і вам будзе вядома. Трэба чакаць.

Як бы аддзяляючы ад усіх, што яшчэ не былі далучаны да навіны, весела зірнуў на Апейку і Харчава.

— Спусцімся! Пакуль збіраюцца!

Павёў уніз, са ступенькі на ступеньку. У цеснай каморачцы, падобнай на склеп, быў буфет. За сталамі было некалькі постацей — Апейка пазнаў — дальнія, тураўскія. Прагаладаліся, няйнакш.

Яны, юравіцкія, не былі галодныя. Башлыкоў заказаў тры кухлі піва, але Харчаў адмовіўся, сказаў, што хоча чаю. «Пагрэюся!»

— От чорт, не зварыў! — пашкадаваў весела Башлыкоў.— Загадаць сабраць на заўтра.

Ён гарэў ужо радаснай нецярплівасцю.

— Прыедзем — спіскі зразу. Сходы беднаты — і рашэнне! Пад корань!

— Хопіць цырымоній,— падтрымаў Харчаў, апякаючыся кіпнем.

Апейку не падабалася гэтая гульня — не дагаворваць. Цікава было ведаць, што іменна ён ведае, але не стаў распытваць. Як бы не хацеў прыніжаць сябе.

Чамусьці кінулася ў вочы: акно насупраць было ўсё ў снезе, дашчэнту. Яно і ўлетку ледзь не даверху пад зямлёй.

## 2

Калі ўзняліся наверх, было відаць — народу пабольшала. Усюды былі купкі, гаманілі. Чулася ўзрушэнне.

Ён хацеў прыстаць да адной, паслухаць, але паклікалі ў зал. Усе сталі цiснуцца каля дзвярэй. Сеўшы пры акне, Апейка азірнуўся: былі кіраўнікі раёнаў са ўсёй акругі. Кіруючыя работнікі акружкома.

Яшчэ некаторыя стаялі ў праходзе, як з дзвярэй каля сцэны зайшлі ў зал сакратары акружкома, старшыня акр-

выканкома, іншыя члены бюро, зайшлі за стол прэзідыума. Усе заспяшаліся садзіцца, хутка стала ціпэць.

Сакратар стаяў, аглядваў зал.

*Галенчык, новы сакратар* [1].

У гэтай цішыні сакратарка, што запісвала, похапкам падышла, падала сакратару спісак. Ён, стоячы, пераглядзеў яго, палічыў, запытаўся, каго няма. Не было толькі з Лельчыц.

— Ну што ж,— сямёра аднаго не ждуць.

Апейка адчуў — ва ўсіх быў адзін настрой: усхвалляванасці і сабранасці. Над усім было чаканне надзвычайнага, важнага. Цішыня была нецярплівая і сур'ёзная.

За акном мяло. Вецер раз-пораз сыпаў у акно снег хвалямі. Падумалася: вялікае і звычайнае, усё разам. Такое пачынаецца, а тут — снег сыпле, круціць...

— Таварышы,— сказаў сакратар.— Мы сабралі вас, каб паведаміць вам вельмі важны дакумент. Гэта пастанова ЦК ВКП(б) «Аб тэмпе калектывізацыі і мерах дапамогі калгаснаму будаўніцтву...» ад 5 студзеня 1930 года. Я думаю,— загаварыў ён дзелавіта,— што мы перш за ўсё прачытаем яго і тады абмяркуем. Прашу слухаць уважліва.

Ён сам жа стаў чытаць стоячы за сталом. Апейка і ўвесь зал — працяліся ўвагаю. Апейка адразу адзначыў: «У апошнія месяцы калектыўны рух зрабіў новы крок наперад, ахапіўшы... цэлыя раёны, акругі і нават вобласці і краі... Усе намечаныя планамі тэмпы развіцця калектыўнага руху перавышаны...»

— Такім чынам мы маем матэрыяльную базу,— роўна і з націскам чытаў сакратар,— для замены буйной кулацкай вытворчасці буйной вытворчасцю калгасаў... Гэтая акалічнасць, маючая рашаючае значэнне для ўсёй народнай гаспадаркі СССР, дала партыі поўную падставу перайсці ў сваёй практычнай рабоце ад палітыкі абмежавання эксплуататарскіх тэндэнцый кулацтва... да палітыкі,— сакратар вылучыў голасам,— ліквідацыі кулацтва як класа.

«Вось яно, на што намякаў Башлыкоў!» — прайшло ў Апейку. Ён заўважыў: у зале заварушыліся — усе зразумелі значэнне гэтых слоў.

Так, пастанова была надзвычай важная. Наступным пунктам яна даводзіла, што за пяцігодку замест калектыві-

---

[1] Напісана на палях.

зацыі 20 % зямельнай плошчы ёсць магчымасць калектывізаваць большасць сялянскіх гаспадарак. Апейка адзначыў: пастанова вызначыла важнейшыя зерневыя раёны — Ніжняя і Сярэдняя Волга і Паўночны Каўказ калектывізаваць — да восені 1930 ці да вясны 1931. Калектывізацыю іншых раёнаў,— Апейку гэта асабліва захвалявала,— пастанова намячала — «у асноўным» — закончыць восенню 1931, «або ва ўсякім разе вясной 1932 года».

Апейка ўзрушана павярнуўся да Башлыкова: яшчэ амаль два гады ці нават два з паловай! Такі тэрмін іх зоне, ім, Юравіцкаму раёну, а не тры-чатыры месяцы, што яны мелі дасюль! Зусім іншая гаворка!.. Ён тут жа спахапіўся, стаў слухаць далей: ЦК патрабуе ўзмацніць тэмпы пабудовы заводаў — трактарных, камбайнавых, сельгасінвентару. Павялічваецца крэдыт на калг[аснае] будаўніцтва: павінны перабудаваць сваю работу машынна-трактарныя станцыі... А вось зварот непасрэдна да яго: рашуча змагацца з недаацэнкай коннай цягі, ствараць змешаныя конна-машынныя базы. Паскорыць падрыхтоўку калгасных кадраў, шырока ствараць паскораныя курсы для калгаснікаў...

Вось яшчэ важнае: галоўная форма калгасаў — сельскагаспадарчая арцель, у якой калектывізаваны,— сакратар падкрэсліў,— асноўныя сродкі вытворчасці. Мёртвы і жывы інвентар, гаспадарчыя будынкі, таварна-прадуктовая жывёла... Таварна-прадуктовая жывёла... Наркамзем разам з калгаснымі арганізацыямі павінен у найкарацейшы тэрмін выпрацаваць прыкладны Статут калгаснай арцелі...

Узначальваць калгасны рух, які стыхійна расце... Рашуча змагацца з усякімі спробамі стрымліваць развіццё калектыўнага руху з-за недахопу трактараў і машын... Разам з тым ЦК з усёй сур'ёзнасцю перасцерагае... супроць якога б то ні было дэкрэтавання зверху... якое можа стварыць небяспеку падмены... спаборніцтва па арганізацыі калгасаў... гульнёй у калектывізацыю...

## 3

— Вось усё,— сакратар змоўк, пайшоў позіркам па радах. Нібы хацеў паглядзець, як дайшло ўсё, што ён прачытаў. Позірк на момант спыніўся на Апейку, перайшоў на Башлыкова.

Хвіліну было маўчанне, потым нехта бадзёра выказаўся:

— Яс-сна!

Сакратар спыніўся, кінуў позірк туды, адкуль пачуўся голас. У радах заварушыліся, пайшоў гоман.

Апейку было не тое што не зразумела, але ўсё яшчэ неяк пераплятался, блыталася. Ён лепш разбіраўся, калі чытаў сам. Калі мог, дзе трэба, спыніцца, падумаць, перачытаць нанова, каб запомніць, дайсці глыбей. Вось і цяпер хацелася ўзяць лісткі, перагледзець самому. Аднак, з усяго таго, што блытана хвалявала, дзве акалічнасці ўжо і цяпер вылучаліся асабліва: першая — пра тое, што пачынаецца новы этап у палітыцы — ліквідацыя кулацтва як класа, і — вызначэнне тэрмінаў. Першая акалічнасць гаварыла Апейку, што ў яго жыцці і жыцці раёна пачынаюцца вельмі важныя падзеі, як бы новая і жорсткая атака, што патрабуе сабранасці і цвёрдасці. Другая — давала палёгку, давала выхад з таго крытычнага становішча, у якім яны былі. Ён з радасцю запомніў папярэджанне — «супраць якога б то ні было дэкрэтавання зверху», гульні ў калектывізацыю. Гэтым нібы ўводзілася яснасць у яго сумненні, у яго спрэчкі з Башлыковым...

Сакратар запытаўся, якія ёсць пытанні па пастанове.

Хтосьці пацікавіўся раптам, што такое жывы інвентар, і ў зале засмяяліся. Потым: як быць з камунамі цяпер — пакідаць ці перарабляць... Вядома — пакідаць. Калгасы з цягам часу павінны ўзняцца да камуны...

— Калі пачынаць гэтае — раскулачанне?

— Аб тэрміне будуць дадзены ўказанні дадаткова... Бліжэйшы час неабходна скарыстаць на падрыхтоўку да справы. Каб зрабіць яе належна... Я скажу пра гэта ў прамове...

— Раскажыце, як практычна гэта будзе? — папрасіў нецярпліва хтосьці.— А то тут — ёсць няяснасць. Кожны думае па-свойму.

— Практычныя ўказанні дадзім. Падрабязныя. Калі прыйдзе час.

Сакратар акружкома пакуль паведаміў: у кожным раёне, як і ў акрузе, пад кіраўніцтвам райкома ствараюцца штабы. У кожным сельсавеце — камісія па раскулачванню. Гэтыя камісіі і павінны праводзіць вопіс гаспадаркі і канфіскацыю іх...

— Яшчэ якія пытанні?

Тады падняўся Апейка.

— Як з тымі дырэктывамі, якія дадзены нам раней? У прыватнасці — Юравіцкаму раёну?

— Якія дырэктывы?

— Пра тэрміны калектывізацыі.

— Дырэктывы трэба выконваць.

Апейка таксама адчуў упартасць у сабе.

— Мы павінны калектывізаваць раён да вясны. Правесці суцэльную калектывізацыю. Пастанова дае нам тэрмін — да восені 1931 або да вясны 1932 года...

— Пастанова дае гэты тэрмін — як крайні. Для завяршэння.

Трэба было б сесці, Апейка заўважыў, што сакратару не падабаецца гэта. Ды і ўсе прыціхлі, слухалі. Але ён не мог цяпер сесці.

— Ужэ відаць, што к вясне мы не ўправімся.

— Вядома. Калі вы будзеце так разважаць.

— Я думаю так,— узяла Апейку ўпартасць,— зыходзячы з вопыту. З рэальнасці.

— Вы думаеце, спадзяючыся на ціхі ход. На спячку...— сакратар павёў позіркам: — Ёсць яшчэ пытанні?

Апейка сеў. Усхваляваны, кепска чуў, што пыталіся іншыя і што адказваў ім сакратар.

Вярнуўся ён да навакольнага толькі тады, калі першым у спрэчках узяў слова Башлыкоў. Башлыкоў пачаў з таго, што сказаў, якое вялікае значэнне мае гэта пастанова, якая з'яўляецца, можна сказаць, баявой задачай і якая азначае пачатак новага і рашучага наступлення на апошні эксплуататарскі клас. «Это есть наш последний и решительный бой» — вось што значыць гэтая пастанова. Гэта пастанова абавязвае кожнага з нас яшчэ смялей ісці наперад, руйнаваць крэпасці кулацтва, хутчэй пашыраць калгасны сектар.

— Задача гэта цяжкая. Але яна па плячу нам. І калі мы ў Юравіцкім раёне не спраўляемся яшчэ з ёю, то таму, што ў нашай рабоце мы многае пускаем на самацёк. Але гэта значыць, што мы павінны падцягнуцца і ісці яшчэ больш рашуча. І я хачу тут рашуча адмежавацца ад заявы, якую кінуў тут таварыш Апейка. Гэта заява — асабістая думка т[аварыша] Апейкі, якая ні ў якой ступені не выказвае погляды райкома. Наадварот, яна супярэчыць тым устаноўкам, якіх прытрымліваецца наш райком партыі, уся наша партарганізацыя...

Ён заявіў, што бальшавікі Юравіцкага раёна зробяць усё, каб выканаць сваю задачу.

Як ні хваляваўся Апейка, слухаючы Башлыкова, ён заўважыў, выступленне Башлыкова спадабалася сакратару.

Увесь час, калі выступалі іншыя, жыло ў Апейку жаданне — выступіць, даказаць тое, што ён пачаў, паспрачацца з Башлыковым. Сказаць, што ён гаварыў не таму, што тэмпаў хоча менш за таварыша Башлыкова, а таму, што яго трывожаць вельмі нездаровыя з'явы, якія ёсць ужо ў раёне. Многія сяляне ўступілі пад прымусам, калгасы створаны фармальна, дысцыпліна нізкая. Нельга заганяць у рай дубінай! — пякло яго, і нельга бегчы навыперадкі, без агляд-кі. Мы не хлапчукі і не бегаем... Тут правільна сказана: не гуляць у калектывізацыю. Гэта — не гульня!

Думаў, збіраўся і ўсё адкладваў. Ці ад таго, што не хапала рашучасці, ці таму, што разумеў загадзя, што бескарысна. Вельмі можа быць, што стрымлівала апаска: была ў ім агідная яму асцярожлівасць, але ён супакоіў сябе прыстойным: усё адно, галоўнае ён выказаў ужо...

4

Спрэчкі завяршыў сакратар.

Ён пачаў з таго ж, з чаго пачыналася і пастанова,— стаў расказваць, як імкліва ідзе калектывізацыя. Што яна ў цэлым далёка перарасла ўсе папярэднія планы. Ён паказваў поспехі прыкладамі з таго, як ідзе яна ў рэспубліцы, у асноўных зерневых раёнах — у Паволжы і на Кубані, у цэлым па краіне. У яго былі, адчувалася, самыя новыя і дакладныя лічбы і факты, і гэта выклікала цікавасць і давер'е. І разам нібы ўздымала яго самога.

За гэтым ён стаў тлумачыць значэнне пераходу да новай палітыкі ў адносінах кулацтва. Нагадаў падрабязна тое, што казаў Сталін у выступленні перад аграрнікамі-марксістамі. Тады павёў гаворку да таго, якую шалёную барацьбу разгарнула супраць калгасаў кулацтва. Напомніў, як кулацтва спрабавала сарваць нарыхтоўкі ў 1928 годзе, узяць нас за горла голадам. Цяпер яно перайшло да адкрытых тэрарыстычных дзеянняў, забойстваў актывістаў, селькораў, калгаснікаў. Штодня гінуць ад рукі ворагаў лепшыя людзі. За мінулы 1929 год толькі ў адной РСФСР зарэгістравана каля (неразб.) тысяч падпалаў. Гэта значыць, штодня па адной рэспубліцы калгаснае дабро знішчаюць сотні пажараў!..

— Перад намі на бліжэйшы час стаіць задача: нанесці рашучы ўдар па кулацтву! Па апошняму эксплуататарскаму класу! Ядавітае пустазелле — прэч з бальшавіцкага по-

ля! З дарогі — прэч! — Яго словы падтрымала нецярплівая, гарачая хваля воплескаў. Перачакаўшы воплескі, ён загаварыў строга: задача надзвычай адказная і цяжкая. Няма сумнення, што вораг свае пазіцыі добраахвотна не здасць. Ён усюды, дзе толькі зможа, будзе аказваць супраціўленне, не выключана, што і ўзброенае. Гэта патрабуе бальшавіцкай смеласці, цвёрдасці і пільнасці. На рашэнне гэтай задачы трэба будзе падняць усіх камуністаў і камсамольцаў, увесь раённы актыў, бядняцкія масы сялянства... У нашых радах не павінна быць ніякага вагання, ніякай разгубленасці. Трэба рашуча біць па праваапартуністычных настроях. Па ўсякай мяккацеласці, слюнявасці!..

Слухаючы гэта, як бы пацверазеўшы пасля першай нецярплівасці, Апейка ўжо без ранейшай упэўненасці думаў пра сваю нядаўнюю спрэчку. Была ўжо ў ім няясная трывога і няёмкасць за сябе, за нястрыманасць. З неспакоем чакаў ён, што скажа сакратар, калі пачне гаварыць пра тэмпы. Не міне яго, не інакш — не міне...

— Пастанова ЦК дала поўную яснасць і ў пытанне аб тэрмінах калектывізацыі,— дачакаўся, нарэшце, Апейка, стаў насцярожана ўслухоўвацца.— Нашай рэспубліцы, як вам вядома, устаноўлены тэрмін — восень 1931 або ва ўсякім разе — вясна 1932 года... Што значыць гэты тэрмін? Гэты тэрмін значыць — час, да якога мы павінны закончыць калектывізацыю ў акрузе. Каратка кажучы, гэта — крайні час, да якога мы павінны рашыць задачу. Але ці значыць ён, што мы абавязкова павінны імкнуцца прыйсці толькі к гэтаму часу? Не. Калі б мы думалі так, то гэта было б падобна на тое, што пяцігодку трэба выканаць толькі ў пяць гадоў. А наш народ, наша партыя рашыла інакш — 5 у 4! Ясна, што і задачу, якая пастаўлена нам, мы павінны рашаць таксама. Дабіваючыся найкарацейшых тэрмінаў, скарачаючы іх да мінімума. Мабілізуючы ўсё, усе сілы! Толькі такі адказ будзе бальшавіцкім адказам! Усякі іншы адказ — будзе патураннем апартунізму. Будзе папахваць правым ухілам!..

Апейка не мог не адзначыць: была ў гэтым свая праўда. Але ж хіба ён, Апейка, меў што супраць гэтага, калі казаў. Ён жа гаварыў пра рэальную магчымасць.

— Ёсць тут «рэалісты»,— нібы чуючы пярэчанне, загаварыў сакратар,— якія лічаць нерэальнымі тэмпы, якія мы ўзялі. Якія фактычна лічаць, што нам трэба паслабіць тэмп. Адпусціць паясок. Даць палёгку сабе... Так яны,— у голасе

сакратара пачулася насмешка,— зразумелі пастанову ЦК. Але мы разумеем пастанову інакш. Мы разумеем яе так, што — нельга дэмабілізоўвацца! Нельга паслабляць рух. Нельга паслабляць удар па ворагу! I — ніякай панікі!

— А ў каго паніка? — загарэўся Апейка.

— У цябе, напрыклад.

— У мяне яе няма. I не было.

— Ты толькі што паказаў яе!

— Я гаварыў пра тое, што ёсць у нашым раёне. Рэальна.

— Я ведаю: ты — рэаліст.— Зноў насмешка.— Некаторыя рэалісты, наогул, сумняваліся, што варта брацца пачынаць калектывізацыю!..

— Я з тых рэалістаў, якія напісалі гэту пастанову,— знайшоўся Апейка.

Сакратар, чырвоны, момант маўчаў.

— Гэта мы паглядзім! З якіх ты рэалістаў!

5

Калі скончылася нарада і пачалі тоўпіцца ў вестыбюлі, ля вешалкі, адны падыходзілі да Апейкі, паціскалі руку. Нібы выказвалі павагу, падтрымлівалі. Другія, заўважыў, абміналі, адводзілі вочы ўбок. Асуджалі.

Харчаў падышоў спакойна. Апейка адчуў нават павагу да сябе: не інакш — за адкрытасць, за смеласць. Наўрад ці за погляды. Што да Башлыкова, Апейка разумеў: асуджае за ўсё. Тут усё зразумела. Гэта адчувалася і ў яшчэ больш прыкметнай стрыманасці, і ў тым, як ухіляўся сустрэцца позіркам.

Башлыкоў сказаў адно, што лічыць — зараз жа трэба ехаць.

Апейка кіўнуў. Нельга было траціць часу попусту.

Апрануўшыся, выйшлі на мароз. Паселі ў вазкі: Башлыкоў з Кудраўцом, Апейка з Харчавым.

Коні адразу рушылі ўніз, да ракі. Наперадзе вазок Башлыкова, за ім — Апейкаў. Апейка, не пытаючыся, зразумеў, пойдуць карацейшым шляхам: цераз раку.

Хутка пабегла насустрач набярэжная. Драўляныя, ашаляваныя дамы і камяніцы, на адзін і два паверхі, вузенькія тратуары. Дамы абапал першым радам беглі на адным узроўні, далей — на вельмі розных. Правыя — уздымаліся па схіле гары, левыя — хаваліся пад бераг так, што бачыліся часам адно дахі. Справа ўставалі крутыя бакі гары, а злева — за радамі хат шэравата бялела роўнядзь ракі.



Іван Мележ дае аўтограф
узбекскаму пісьменніку Юсупу Ібрагімаву.
*1970 год.*



Аляксандр Аўчарэнка, Іван Мележ і Іван Навуменка
на Пленуме СП БССР.
*1973 год.*

Яна ўсё шырэй прарывалася між будынкаў: дамы ішлі радзей. Пайшлі адна за адной прырэчныя вербы. У прамежку між вербаў вазкі збочылі з берага і, падганяючы коней, пачалі адно за адным спадаць да ракі. Лёгка пабеглі па роўных каляінах, паляскваючы па ўезджаным снезе. І ў нязвыклай роўнядзі, і ў ляску капытоў добра чуўся пад снегам лёд...

На рацэ шырэй стаў біць насустрач вецер Больш чуўся холад, што мацнеў пад вечар. Круціла снегам.

Хутка гусцеў сумны вячэрні змрок. Суму дадавалі мёрзлыя купы лазняку справа, цьмяны, ледзь відны пас лесу.

Чым далей, цямнела больш, і больш круціла снегам.

Беглі коні, лёгка плыў вазок, сцябаў вецер, а лёгкасці на душы ў Апейкі не было. Можа, ад гэтага поцемку, што абступаў мацней, ад гэтага снежнага мітусшэння, было неяк няпэўна. І свежасць нейкая, і маркота, і як бы неспакой.

Можа, тут вінаваты быў поцемак, што гусцеў. Нешта маркотнае, незразумелае было ў гэтым поцемку.

Мабыць, ад поцемку ці ад язды драмалася. Пэўна, ад язды: едучы, даўно ўжо звык драмаць: каб аддыхацца і час перабавіць. Усё ж у дрымоту, у маркоту лезла разарвана рознае, і дробнае, і значнае, і проста немаведама што. Ні з таго ні з сяго ўбачыў луг з кустамі лазняку, блізка ракі, сябе з касою. Луг быў поўны сонца, і ўсё аж зіхацела. Раптам адчуў у сабе тую былую радасць і сілу. На нейкі час вярнуўся да рэальнасці: заківаліся перад вачыма клубы коней, заматляліся хвасты, засіпеў тоненька снег. Потым зноў улезла: Байкова з оргаддзела спачувальна паціснула руку. Нібы пашкадавала, пацвердзіла сваю вернасць. Прыйшло тое няпэўнае, нібы вінаватае пачуццё, што было да яе. Ведаў, нераўнадушная да яго, не можа забыць, згадзіцца, нібы спадзяецца на тое, чаго няма. І што выклікае век у яго вінаватасць і жаль да яе. Байкова, Зіна Байкова, ведаю, ва ўсім свеце няма друга больш надзейнага за цябе. Знаю, што б ні здарылася, не адступішся, не здрадзіш. Усе іншыя могуць, а ты не. Адразу памяць навяла Веру, навяла маркотнасць. Вера не адступіцца таксама. Не адступіцца. Але чаму яна часам не разумее? Чаму не даходзіць да яе?..

Зноў матляліся хвасты, і круціла снегам, мяло. Зноў задрамаў. Вырваўся з дрымоты, з раптоўным узрушэннем падумаў: выказаў, нарэшце, што думае, на такім зборы. Перад усім акружкомам. Перад самім. Пачуў радасць, як заўсёды, што сказаў сумленна тое, што няпроста было. Ска-

заў. Адразу ж унізалася прыкрасць: сказаў, а што толку? Ніякага толку. Толькі раздражненне ў першага... Абвінавацію — як недаверка нейкага. Як ненадзейнага...

А Башлыкоў — у сваім рэпертуары. Малайчына Мікалай! У час выступіў і як трэба. Гэта залічыцца. Паглядзім толькі, як ты выканаеш свае клятвы? Урэшце, не так важна, як ты выканаеш, важна, што ты сказаў як належыць.

Заўсёды добра крычаць: наперад... Чуў: імкненне наперад — наперад ■ усёй сілы, без аглядкі — захапіла многіх, шырока. Не прыпыніцца і не прыпыніць, мусіць. І ў пастанове ж не надта слухалі пра «гульню», пра дэкрэтаванне. Нібы гэта так, для прыліку там... Хоць гульні ж, дэкрэтаванне — вачавідкі. Сляпому відаць.

Усё ж было весялей, як бы поле раскрылася шырэй і была далей відна дарога. Як бы спецыяльна для іх у пастанове: восень трыццаць першага ці ва ўсякім разе вясна трыццаць другога. Што б там ні казаў першы, а пастанова ЦК — гэта пастанова ЦК. Відаць, па некаторых выразах, Сталін пісаў: «...восень ці ва ўсякім разе...» Яго стыль... Што там ні казаў першы, гэта будзе мець значэнне. Тэрмін гэты — зусім іншае!.. Зусім іншая рэч...

Захвалявалі думкі пра раскулачванне. Было відаць: набліжаецца рашучы момант. І ад таго, што разумеў гэта, больш як калі трывожыла няяснасць. Было яшчэ багата няяснага. Куды дзяваць гэтых раскулачаных? На запасныя землі? Дзе яны, тыя запасныя землі? І які сэнс у тым, каб збіраць кулакоў разам, ствараць пасёлкі? Хтосьці — здаецца, на сесіі ЦВК — правільна казаў гэта. А больш трывожыла: не ўсё ясна з тым, каго практычна раскулачваць. Ну, ёсць яўныя, тут усё зразумела, а колькі такіх, дзе і так, і так можна рашыць? Дзе ўсё будзе рашаць сумленне і сэрца таго, ад каго гэта будзе залежаць? Як гэта будуць рашаць, калі той-сёй лічыць: лепш перагнуць, чым недагнуць. Тут, канешне, патрэбен кантроль пільны раённага кіраўніцтва. Але як кантраліраваць будзе Башлыкоў, мяркуючы па ўсёй яго ранейшай лініі?

А ў гэта, як ні гнаў, нізалася сваё: Саўчык. Таксама з тых, каго можна і так, і так рашыць. Вельмі, вельмі можа быць, што і рэшаць на той бок. Вельмі можа быць, тым больш, што, дурань, нібы знарок выхваляецца. Сам на ражон лезе. Апейкаўская ўпартая парода!.. Не толькі парода, а і дурната. Знарок лезе на сцяну, каб даказаць сваю нягоршасць перад братам. Не разумее, што цырамоняцца з ім, мо-

жа быць, з-за гэтага брата, якому з-за яго мулка сядзець на старшынскім крэсле. З якім і самім, у выпадку чаго, могуць і так, і так рашыць. Які сам таксама любіць аб сабе заявіць, можа, на бяду сабе.

Пашкадаваў маці, бацьку: калі што здарыцца з Саўчыкам, бяда найперш на іх ляжа. Ды і не адна, пэўна: наўрад ці застанецца ў райвыканкоме старшынёй брат раскулачанага. Злосць нахлынула: на брата, з якім лёс нібы на здзек звязаў. На недарэчную заблытанасць сувязей сваяцкіх сваіх.

Усё ж цвёрда рашыў: што там ні будзе, у лёс Саўчыкаў не ўмешвацца. Як будзе, так будзе.

Башлыкоў чуў сябе ўзрушана. На ветры, што халадзіў твар, у бегу вазка неяк асабліва брала нецярплівасць. Хацелася хутчэйшай язды. І думкі біліся жвавыя, нецярплівыя. І неспакойныя.

Ён успамінаў выбрык Апейкі і сваё выступленне. Ведаў, што Апейка зрабіў па-дурному, не сумняваўся ў гэтым,— а сам, таксама быў упэўнены, выступіў добра. Сказаў як належыць. Адмежаваўся, даў правільную палітычную ацэнку. Ён, усе бачылі, правільна палітычна дзейнічае і правільна нацэльвае раён... Заява Апейкі яўна выкрыла яго як чалавека з апартуністычным настроем. З яўным правым ухілам. «Дзеяч» гэты яўна выкрыў сябе перад партыйным актывам, перад кіраўніцтвам акружкома. Фактычна паказаў, на кім вялікая віна ў тым, што раён ідзе так туга. Мільганула патаемнае, агіднае: у выпадку чаго, віна найбольшая ляжа, канешне, на Апейку. Ён тут жа адагнаў агіднае: ні на каго віны ён спіхваць не будзе. Ён адказвае за ўсё, і ўсё возьме на сябе. Ухіляцца не стане. Але ён не давядзе да бяды... Ён не дапусціць прарыву. Ён выйдзе наперад... Абстаноўка цяпер яўна спрыяе скачку ўперад. І ён, Башлыкоў, рушыць хутка...

У ім было адчуванне моцы. І з гэтым адчуваннем ён падумаў пра Апейку: трэба яго ўчынак разабраць на бюро, і неадкладна. Даць палітычную ацэнку да таго, як гэта зробяць у акружкоме. Даволі спрэчак, асабістых угавораў. Сёння ж, на бюро, трэба даць ацэнку выбрыку. Сур'ёзна папярэдзіць... Даволі міндальнічання...

Думаў пра пачутую пастанову. Тое, што было пра тэрміны, у душы выклікала супярэчлівыя пачуцці: і нібы гарантыю — на ўсякі выпадак, і разам з тым як бы паляўчвала значэнне таго, што тэрміны ў іх будуць скарочаны.

Але куды больш за гэта яго хвалявала тое, што ён даведаўся пра раскулачанне. Трэба сказаць, што ён, хоць таіў гэта, быў даволі-такі расчараваны гэтым. Па тым, што ён пачуў па сакрэту перад нарадай, ён чакаў большага. Чакаў практычных і рашучых дзеянняў. Неадкладна. Гэта выходзіла з таго, што ён ужо ведаў з выступлення Сталіна. Пастанова ж тут, хоць і мела моцныя выразы, нібы паўтарала ранейшае, давала толькі агульнае ўказанне. Не ставіла практычнай задачы, якую ён чакаў. І якую, на яго думку, трэба было ўжо даць... Час было дзейнічаць ужо і тут!..

Ва ўсё гэта важнае, годнае яго становішча лезла няпрошана, назольна тое, што ён не адкрыў бы нікому. І цемра, і снег, і бег вазка да нейкай памарокі напаміналі другую цемру, і другі бег, другую ноч. І так напаміналі, што часам трацілася розпасць, мроілася, што тая ж і цемра, і дарога, і яна. Ён нібы чуў яе побач. Не побач, а ў сабе. У яго ныла ўсярэдзіне ад яе блізкасці. І як у трызненні круцілася ў памяці ўсё, што было: і першае застолле ў Парaскі, і сустрэча адзін на адзін у яе пакоі, і першая з замяццю ноч. І ноч, незвычайная, ганебная і цудоўная, ноч у нейкай хаце. І тое працверазенне, калі развітваліся. Калі яна сказала страшнае прызнанне. Калі ён думаў, што між іх усё скончана. Калі ён так лёгка і проста адчуў гэта. Як вызваленне.

Якім усё аказалася ашуканствам гэта: палёгка, вызваленне. Не вызваліўся, а толькі мацней прывязаўся. Як на бяду. Прывязаўся так, што не разарваць. Чым больш стараецца ён разарваць, тым больш чуе, як моцна звязаны. Скаваны. Наперакор усякім развагам сэнсу, разумнасці. Свядомасці, у якую ён так верыў і верыць.

Ах, як трэба яна яму. Як ён чуе яе, яе рукі, шчокі, вусны. Як ён чуе ў сабе яе голас. Як бачыць яе вочы, адзін позірк якіх запальвае яго, робіць яго падуладным ёй. Калі б ён верыў у забабоны, ён бы мог думаць у нейкую нечалавечую сілу. Але ён свядомы чалавек, ён ведае, што нічога незвычайнага не можа быць. Ёсць фізіялогія, і ёсць свядомасць. Нізкая, ад дзікіх продкаў фізіялогія, і высокая, класавая свядомасць, вялікі набытак чалавека новага часу. Якім ён, бясспрэчна, з'яўляецца. Чаму ён думае пра яе, якую так мала ведае, з нячыстай біяграфіяй, калі так багата сапраўдных сяброўак, кожная з якіх рада была б даць руку яму.

Ці тут праклятая спадчына, якая брата ўвяла ў абдымкі нэпмана? Праклятая сіла, якая аблытвае, губіць людзей,

столькіх загубіла. Ён з агідай думаў пра брата, і вось, аказваецца, сам нікольки не лепшы. Горшы нават, бо ад брата ўсяго чакаць можна было. Але ж ён, ён, Аляксей (спачатку было: Мікалай) Башлыкоў, кіраўнік раёна, чалавек такога гарту, такой волі...

«Не трэба было пачынаць. Зразу трэба было заціснуць, задушыць! У самым зародку... Не трэба было рызыкаваць. Добра, што абышлося так, што не ведае ніхто. А калі б даведаліся... Ды і хіба лягчэй ад гэтага: ведаюць не ведаюць, сам ведаеш жа!.. Ад сябе не схаваешся». Грызе сумленне. Нячыстае, нібы бруднае сумленне.

Прэч, прэч трэба гнаць. Не думаць. Не можа ж быць, каб нельга было адолець. Калі, нарэшце, нельга ўжо інакш, пазнаёміцца з кім-небудзь. З талковай якой дзяўчынай, сваёй па духу... Пэўна, пара прыйшла...

Саскочыў з вазка, стоячы ў снезе ледзь не да кален, прапусціў, трушком пабег следам. Пад тупат валёнак, у галаве ападала: «пара прыйшла, пара прыйшла...».

Доўга ехалі левым берагам, між кустоў голай лазы. Раз-пораз коні ўлазілі ў намеценыя гурбы снегу, ступалі цяжка, натужна. Потым пайшлі сосны, лес. Блізілася мястэчка.

Калі ў поцемку выказаліся жаўтлявыя агеньчыкі, Башлыкоў прытрымаў свой пярэдні вазок, саскочыў, падышоў цвёрдым крокам:

— Бюро збярэм.

Апейку пачулася ў голасе штосьці незычлівае, нядобрае. Як бы пагрознае. Не ўстаючы з вазка, адказаў хрыпла:

— Бюро дык бюро. Перакушу і прыбуду.

Заехаў да дому, паабедаў без смаку. Вера глядзела дапытліва, чакала навін мазырскіх, але ён не стаў расказваць. Не было часу і не было ахвоты.

Калі прыехаў у райком, Башлыкоў з Харчавым сядзелі за сталом Башлыкова. Збоку, ля сцяны, сядзелі яшчэ двое членаў бюро. Астатніх пакуль не было, чакалі.

Башлыкоў з Харчавым глядзелі спіскі. Апейка ўлавіў: на адгорнутым лісце быў акурат спіс жыхароў Глінішчаў. Башлыкоў глядзеў узрушана і нецярпліва.

— От дзе прайсціся трэба! — сказаў пераканана.

Не мог ніяк забыць сходу. Чырвоным алоўкам з націскам паставіў некалькі птушачак, энергічна перагарнуў ліст.

Калі падышлі астатнія, адсунуў ліст, узняўся, энергічна, поўны жадання дзейнічаць,— нібы і не было дарогі, нялёгкага дня,— маладым, звонкім голасам стаў расказваць

пра пленум акружкома, пастанову ЦК. Адзначыўшы, што ў пастанове ўказаны тэрміны калектывізацыі, што гэта ўносіць поўную яснасць у гэтае пытанне, ён разам з тым растлумачыў, як бясспрэчнае, што тэрміны гэтыя — крайнія і што задача, ганаровая задача наша застаецца ў тым, каб перакрыць указаныя тэрміны ў мінімальны час. Толькі так бальшавікі раёна павінны разумець сваю задачу. З асаблівым уздымам, як аб самай важнай, Башлыкоў расказаў пра тую частку пастановы, дзе гаварылася аб пераходзе да новай палітыкі ў адносінах кулака. У голасе яго, у самой маладой, падцягнутай, абціснутай акуратнай гімнасцёркай і ваенным поясам постаці былі дужасць і рашучасць. Задача гэта, бясспрэчна, самая адказная і цяжкая, і яе належыць зрабіць з усёй бальшавіцкай цвёрдасцю, не дапускаючы ніякіх хістанняў.

Апейка слухаў Башлыкова з насцярожанасцю: не давалі спакою памяць пра спрэчку ў акружкоме, пра затоеную пагрозу, што пачулася ў голасе Башлыкова, калі паведаміў пра бюро. Праз гэту насцярожаную зацятасць адзначыў, што Башлыкоў з недаравальнай адвольнасцю, як мала істотнае, падаў значэнне ўстаноўленых у пастанове тэрмінаў: па сутнасці, абышоў найважнейшае палажэнне пастановы. Ды і пра дэкрэтаванне зверху, пра гульню сказаў мімаходзь...

«Кожны вычытвае ў кнізе тое, што падабаецца...» — мімаволі падумалася Апейку. Але яго больш усхвалявала ў гэты момант іншае: як гэта Башлыкоў ні словам не крануў яго, Апейкавага, выступлення. Рашыў не адводзіць увагу ўбок?

З гэтай няцямнасцю ён слухаў, што казалі члены бюро. Галасы былі ўзрушаныя, пастанова рашала вельмі вострыя, блізкія ўсім пытанні. Вызначала жыццё раёна, кожнага з іх. Апейка, слухаючы гэтыя галасы, нейкі час вагаўся: выказаць свае меркаванні ці перамаўчаць. Меркаванні гэтыя трывожылі, уздымалі, але жыццёвая практычнасць стрымлівала. Выказаў ужо, пачуў. Ды і ці варта заядацца лішне.

Усё ж не вытрываў, як бы ўзняў нехта другі. Шануючы самалюбства Башлыкова, не чапаючы яго, мякка звярнуў увагу на ўказанне пра тэрміны, на папярэджанне пра «гульню». Улавіў, як націнаецца твар Башлыкова, вузеюць яго вочы. А ў вачах раптам — нібы злая радасць.

Што значыць гэтая зларадласць? Ад чаго яна?..

Хутка пасля Апейкі гаворка сціхла, той-сёй загаварыў

пра сваё, асобнае. Рашылі, што бюро канчаецца. Але тут Башлыкоў прымусіў прыціхнуць:

— Ёсць яшчэ адно важнае пытанне.— Голас яго быў жорсткі і значны.— Я павінен далажыць бюро пра выступленне таварыша Апейкі на пленуме акружкома. Таварыш Апейка на поўны голас выказаў сумненне ў тых тэмпах, якія мы ўзялі. Ён заклікаў знізіць тэмпы. Сваім выступленнем ён паказаў нявер'е ў нашы сілы, па сутнасці, заклікаў да змяншэння класавай барацьбы. Яго пазіцыя, па сутнасці,— капітулянцкая!..

— Ого! — сказаў насмешліва Апейка.

— Выступленне было рашуча асуджана,— голас Башлыкова яшчэ памацнеў, набыў большай настойлівасці. Непахісна пайшоў далей: — Мы павінны адмежавацца ад заявы таварыша Апейкі. Як заявы, якая не адпавядае думцы бюро, а разыходзіцца з ёю! Асудзіць яе, як, па сутнасці, непартыйную заяву.

Апейка адразу ўзняўся, слова за словам адкінуў недарэчныя абвінавачанні. Гаварыў горача, злосна і насмешліва, і гэта, чуў, пераконвала. Пераконвала ў галоўным, што ён ні ў чым не пагр011ашыў супраць пастановы. Супраць думкі таварыша Башлыкова — можа быць, а супраць пастановы — не. Башлыкова яго выступленне, і злосць, і насмешлівасць распалілі яшчэ, і ён загаварыў больш жорстка і ўparта. На бюро настала цяжкая, нечуваная цішыня. Запанавала разгубленасць. Гэты вузел узяўся развязаць Харчаў. Ён не пахваліў Апейку за выступленне, папракнуў за тое, што яно можа выклікаць паслабленне, дэмабілізоўваць. Але не падтрымаў ён і жорсткага тону Башлыкова, яго вывадаў. Гэта, аднак, не зменшыла той рэзкасці, якая ўзнікла між Башлыковым і Апейкам.

Бясконца доўга, здавалася, ішло абмеркаванне спрэчкі, у якой большасць членаў бюро адчувалі адно няёмкасць і імкнуліся прымірыць двух кіраўнікоў. Гэтаму яўна спрыяў Харчаў, якім, не тоячы гэтага, Башлыкоў быў вельмі незадаволены. Нарэшце падтрымалі прапанову загадчыка аддзела прапаганды: «Лічыць, што ў сваім выступленні т[аварыш] Апейка выказаў асабістую думку, і ўказаць яму на няправільную тэндэнцыю, якая можа прывесці да змычкі з правым ухілам».

Разыходзіліся найбольш моўчкі, стомленыя і з адчуваннем няёмкасці. Башлыкоў застаўся ў кабінеце, за сталом. Схіліўшы галаву, пачаў зноў разбіраць паперы.

Ён не таіў нездавальнення.

Мястэчка спала. Хаты былі цёмныя. Вецер прыціх. Спакой і мір чуўся навокал, і ў Апейкаву стомленасць улазіла адчуванне дзіўнасці гэтага сляпога спакою. Спяць і не чуюць, якія падзеі збіраюцца перад іх вокнамі і ганкамі. Спяць, бачыць нічога не хочуць.

Было ў тым глухім, векавечным спакоі ночы і як бы супакаенне: як бы меншай бачыліся прыкрасць, трывога перад шырынёй гэтага. Па меры таго як прыкрасць аціхала, у праяснелую ў марознасці ночы галаву ішлі развагі пра сапраўднае значэнне таго, што адбылося, што пачынаецца, развінаецца.

Харчаў, мусіць, таксама стомлены, ступаў моўчкі, і гэта нібы збліжала іх.

— Усё-такі ты, брат, падумай,— прамовіў раптам Харчаў, нібы здалёк. Апейка не адразу дайшоў да гэтага.

— Ты што? — не зразумеў Апейка.

— Атака пачынаецца, разумееш? А ты — падпругі хочаш адпусціць. Перад самым скачком. Знаеш, што можа быць?

— Знаю. Сядло з седаком пад каня можа пайсці... Так?

— Знаеш.

— Дак ты ж таксама знаеш, што не ўсякую пазіцыю з наскоку ўзяць можна? От пра што я.

— Чорт яго разбярэ тут! Толькі я знаю: і зяваць няма чаго. І сіла трэба! Сілай браць трэба! Без сілы тут нічога не зробіш.

— Дак к сіле трэба розум. З розумам трэба сілаю брацца!

Харчаў прамаўчаў. Потым сказаў шчыра:

— Не падабаецца мне, што ён, Башлыкоў, не па-таварыску неяк робіць. Як скажы ты — разумней за ўсіх і правільней. Як усе нулі без палачкі перад ім...— Падумаўшы, прамовіў: — А так — мужык смелы. Далёка пойдзе!..— Дадаў незразумелае: — Калі не спаткнецца!

Зноў ступаў моўчкі. Ужо каля дома сказаў разважнае:

— Д-да, жывем! Не занудзішся!..

Разышліся кожны на свой ганак. Дзверы былі не замкнёны. Вера адразу запаліла лямпу, стала збіраць вячэру.

Апейка павячэраў без ахвоты, звыкла пайшоў у бакоўку паглядзець на дзяцей. Абое спалі. Пастаяў каля іх, чуючы пяшчоту і раптоўны наплыў скрухі, падаўся назад. На этажэрцы ляжалі сённяшнія газеты, узяў, разгарнуў. Пачаў чытаць, але сэнс таго, што чытаў, не ішоў.

Стала зноў апаноўваць нядаўняе хваляванне, прыкрасць. Нібы нанава вярнуўся на пленум, нібы зноў паўтарылася, што сказаў, што пачуў у адказ. Унізаліся жорсткія, паганыя словы Башлыкова. Ён устаў, закурыў, вахадзіў па пакоі.

— Што здарылася? — трывожна зразумела Вера.

Ён нахмурыў бровы нездаволена: не пытайся. Яна і не спыталася, але ён адчуваў — сачыла за ім, старалася зразумець сама. Ён не вытрымаў, коратка і нібы пакепліваючы, знарок лёгка пераказаў ёй, што было.

Яна выслухала сур'ёзна і адчула ўсё сур'ёзна. Яна наогул была чалавекам, не ў прыклад яму, вельмі сур'ёзным. Трывожна маўчала, і гэтае маўчанне вярэдзіла Апейку, нібы дакарала.

— Не заядайся,— сказала яна потым. Здаецца, так, як гаварыла вучням.— Адзін нічога не зробіш.— Крыху пазней.— Там наверсе таксама думаюць. Абдумалі.

У яе была слабасць: вучыць яго, як цверазейшая, больш практычная; слабасць, якой у яе змоладу не вадзілася. Апейка не любіў гэту рыску ў ёй наогул, а сёння жончыны павучэнні проста нервавалі яго.

Яна ці ўлавіла гэта, ці здагадалася проста, змяніла тон.

— Табе больш як усім трэба,— прамовіла мякка, пажаноцку.

Лежачы побач, доўга не спалі. Думалі, пэўна ж, пра адно, але Апейка не мог адолець чужаватасці да яе. За папрок, за павучальны тон злаваў. За нячуласць.

Ён разумеў яе: за дзяцей трывожыцца, за лёс сям'і. Але гэта не рабіла мякчэйшым да яе. Хіба ён не думае пра іх, не клапоціцца.

Ён разумее яе, а вось яна зразумець не можа. І ледзь толькі што здарыцца, заўсёды гэтае нездавальненне яе і — неразуменне.

Як бы адзін застаешся. Тады, калі так трэба чуць друга побач. Калі пякуць недасяжныя: што рабіць. Што будзе?

Б а ш л ы к о ў[1]

Башл[ыкоў], па сутнасці, чалавек малапісьменны. Раней

---

[1] Цікава і важна, мабыць, адзначыць такую асаблівасць працы Івана Паўлавіча: падзеі, сюжэт — гэта таксама «плануецца» ў яго накідах, запісах. Але асноўная ўвага скіравана на характары. Разгадваючы характары, адкрываючы іх для сябе і ў той жа час будуючы іх, «плануючы», пісьменнік плануе і будуе і свой раман. Башлыкоў... Ганна... Апейка... Дубадзел...

мала вучыўся. Не да таго было, трэба было зарабляць. Потым таксама не да таго было, клопаты іншыя. Толькі месячныя курсы, лекцыі, даклады. Газеты прыхваткамі. Па сутнасці: сачыў, каб быць у курсе. Быў у курсе, але ўсё па вярхах. Павярхоўны ўвесь.

Спасылаўся на Леніна. Але Леніна самога амаль не чытаў. Не ведаў. І зусім не чытаў Маркса і Энгельса. А што ўжо да іншых філосафаў. Іх, і не ведаючы, адкідаў як нікчэмнасць.

Невук, па сутнасці, быў перакананы ў сваёй вышэйшасці. Глядзеў на іх звысака. Жыло недзе ўглыбіні ў ім разуменне сваёй дасканаласці.

Як жа — чалавек у курсе. Яму ўсё ясна.

Даць Башлыкова знутры. Яго разуменне часу, падзей. Яму ўсё ясна, проста. Ён ганарыцца гэтым... Лічыць сябе вышэй за Ап[ей]ку.

Ён лічыць: на такіх, як ён, усё трымаецца. Баец. Не ўхіляцца.

Ён не хоча ведаць слабасці. І не будзе ведаць. (Ганна.)

Башлыкоў на раздарожжы. Што рабіць? Ніколі нікога так не хацеў.

Жаніўся б. «Кулацкая жонка». Прапашчае жыццё. Хто жонка? У любой анкеце.

Сама ж не кулачка — з беднякоў! Дакажы потым. Усе адно — цень.

Сардэчныя пакуты. (Першыя) сардэчныя пакуты Башлыкова.

Ганарыцца сваім рабочым паходжаннем. Апейка: які ты рабочы! Ты ж звычайны гарадскі люмпен-пралетарый!

Хоць, па-мойму, паходжанне — не ўсё наогул. Рабочы, ты мне пакажы — які ён. Яны таксама — пярэстыя. Розныя. Не трэба ківаць на паходжанне... Паходжанне паходжаннем, ■ трэба сумленне мець. І галаву.

Ганна — недзе — прыходзіць у райком. Засумнявалася. «Сабе шчасце падсекла». Сустрэча ў райкоме. Башл[ыкоў] каменны.

Ганна ўсё зразумела. Ідзе назад: баба дурная. Знала ж: не раўня. Трэба было сунуцца.

Супакойвае: добра — усё ясна. А хацелася плакаць.

Ганна рашыла пераехаць у мястэчка. Пачаць новае жыццё. Не прыбіральшчыцай жа век. Вядзе яе колішняя парада Башлыкова.

Прыходзіць да яго. Ён як каменны. Кулацкая жонка.

Не падае рукі (дапамогі).

Апейка

Пасля таго як Башл[ыкоў] паскардзіўся ў акружком, прыехаў чалавек правяраць яго, рыхтаваць да бюро. Ап[ейка] прадбачыць, чым скончыцца. Добра не будзе. Трывожыцца, і ў гэты час — так не ў пару — брат. Явіўся.

Брат прыехаў к Апейку. Апейка, вяртаючыся, убачыў воз яго, каня.

Прыехаў з братам і бацька. Шкадуе абодвых. Далі зямлю. Гаспадарнічай. Вядзі культурна гаспадарку. Выпісвай, чытай часопісы. Падтрымлівалі культуру! Граматы давалі! «Апейка — культурны гаспадар, бярыце прыклад!» От яна, ваша культура! Вашы граматы — падцерці імі!

Чуў справядлівасць: заклікалі, падтрымлівалі. І ён, Апейка, таксама. Брат распаліўся.

Апейкаў брат: крычалі: «Мір народу. Зямля — мужыкам!» «Дзе ён, ваш мір? Толькі пачулі сілу — і пайшлі на людзей! Абрэзкі, налогі! Усе — класавыя ворагі! Век — вайна з мужыком!» «Зямля — мужыкам!» Падзялілі — от вам — на векі вечныя! Дурань мужык і паверыў! За бальшавікоў, за Леніна — хоць у агонь! Нарадаваўся! Аддай цяпер тую зямлю — у калгас. Аддай назад! От вам ваш мір і ваша зямля! Ні міру, ні зямлі! Абдурылі мужыка!»

З роздумам, са шкадаваннем: «Быў бы Ленін — усе было б не так. Ленін панімаў мужыка. Хоць бальшавік, а панімаў мужыка. Знаў, што без яго дабра не будзе, што з мужыком трэба па-добраму... Хоць бальшавік, а стараўся, штоб і мужыку добра було. Знаў, добра будзе мужыку, добра будзе і ўсім. Савецкай уласці будзе добра. То — галава була! — пашкадаваў.

*Апейка — схільнасць да жарту, усмешкі, прымавак вострых* [1].

Апейка брату:

— Ідзі ў калгас. Калі прымуць...

---

[1] Напісана на палях.

— Дулю!

— Раскулачаць.

— Ну і няхай! — злосна.— Няхай! Усё адно!

Іх, апейкаўская зацятасць. Дурная зацятасць. Злосць у Апейкі на яго. Проста нянавісць. Дурань, разумець нічога не хоча. Сям'ю загубіць. Усіх загубіць.

Успамінае потым, як брат выжыльваўся. І ганарыўся граматамі. Якое імкненне. Калі б правільна пайшло, на грамадства.

Трывожыцца за сябе (шукае апраўдання сабе). Спадзяецца на справядлівасць.

Сакратар акружкома — стары бальшавік — вагаецца караць Апейку. Разумее яго праўду. Але жыццё (і Сталін) падштурхоўвае сакратара. Патрабуе ад яго. Ён паддаецца жыццю. (Баіцца сам адстаць. Непакоіцца — жыццё яго выкіне.)

Потым сакратар акружкома чуе раскаянне: што не ўтрымаўся. Што несправядліва абышоўся з Апейкам. Дае ўказанне: абследаваць Юравічы. Унесці яснасць. Апейку, хоць са спазн[еннем], рэабілітаваць.

«На бюро»

«А можа, не даваць само пасядж[энне]. **Мнагавата** іх. Сумнае гэта. **Даць**: *выключылі, перажыванні. Адчай*»[1].

Башл[ыкоў] едзе ў акрком. «Не магу працаваць з ім (з Ап[ей]кам). Або — мяне, або — яго». Сакр[ата]р: «Не можаш уздзейнічаць на аднаго...» «Добра, разбярэмся».

Тады — камісія ў Юравічах.

Апейку перадаюць пра Б[ашлыкова], папярэджваюць (яго знаёмая).

Паяўляецца — коратка — Галенчык, праехаў па раёне.

У гэты трывожны час прыязджае брат Саўчык. Просіць заступкі.

Пытанне іх было другім. За дзвярыма — ледзь чуваць галасы.

Апейка, Башл[ыкоў], Харчаў сядзелі моўчкі. Башл[ыкоў] часам уставаў, праходзіў, глядзеў за акно. Стройны, прыгожы, дзелавы. Ёсць у ім прываблівасць, прызнаў Апейка.

---

[1] Заўвага-сумненне пісьменніка на палях.

Харч[аў] глядзеў газету. Важкаваты, абветраны. Апейка не чытаў і не думаў. Дзіўна, нічога не думалася. Нават пачуцця чакання не было. Ні турботы, ні трывогі. «Прайшлі трывогі».

У зале чакання яшчэ багата народу. Чакаюць. То перагаворваюцца, то маўчаць. Засяроджанасць агульная.

Выйшаў памочнік сакратара, сказаў:

— Тав[арышы] Башл[ыкоў], Апейка, Харчаў, калі ласка.

І вось ужо за дзвярыма, там, дзе працуе акружком. Башл[ыкоў] ветліва, з годнасцю прывітаўся. Апейка таксама кіўнуў галавою. Заўважыў цішыню і ўвагу. Ёсць нешта асаблівае ў гэтай цішыні, у позірках. Нібы першая праверка. Адчуванне як у школьніка. Што першы раз на экзамен. Дзе яму могуць паставіць нзд.

— Прашу сядаць,— ветліва, але па-дзелавому сакратар. Ён аб'явіў іх пытанне аб кіраўніцтве Юрав[іцкага] райкома і райвык[ан]кома калектывізацыяй у раёне і аб мерах узмацнення тэмпаў яе.— Я думаю, першым дадзім слова тав[арышу] Башлыкову, як сакратару райкома.

Башл[ыкоў] лёгка, упэўнена ўзняўся.— Колькі вам трэба часу? Па праграме-мінімум? Пяць хвілін даволі?

— Пастараюся ўкласціся.

*«Тут — Галенчык»* [1].

Апейка проста зайздросціў яго ўменню дакладваць: чоткасці, яснасці. Уменню трымацца. Заўважыў, члены бюро слухалі з павагай і прыхільнасцю. Ён жа не мог ніяк адолець хмурнасці, хоць ведаў, што гэта не на карысць. І не мог ніяк трымаць стройна думкі. Раскіданасць была недаравальная.

Так заўсёды, папракнуў сябе, калі загадзя «падрыхтуешся».

Адзначыў правільны тон дакладу Башлыкова: пасля сціслага ўступу, лічбаў на памяць, строгая самакрытычная ацэнка зробленага. Сціпласць, дзелавітасць, самакрытычнасць — ідэал кіраўніка.

— Я думаю — пытанні потым. Разам таварышу Башл[ыкову] і Апейку.— Згода.— Позірк на Апейку ветлівы: — Таварыш Апейка.

Апейка момант маўчаў. Адчуў, як зацягнулася цішыня. Важкаватая. Пачаў не так ясна, чотка, лёгка. Словы нібы выламваліся. І нейкі нібы фальш быў у голасе. Сам чуў:

---

[1] Напісана на палях.

непрыемны голас, непрыемная манера гаварыць. Ненатуральнасць. Ад чаго гэта? Ад таго, можа, што разумеў, што ён тут не проста дакладчык і што рэч не ў тым, што ён скажа. А ў тым, што скажуць іншыя. Не, і яго слова важнае. І яно будзе значыць. Чаму ж ён так няўдала вядзе.

Гэтыя за кожным сказам прыпынкі, цяжкія, нязграбныя словы. І ўвага, мімавольнае адзначэнне пабочнага: Васільеў штосьці паглыблена малюе, на акно ўскочыла, павярнулася сінічка. На схіле гары за акном — хлопчык. Бесклапотны хлопчык.

— Пытанні?

— Што там у вас з Гайлісам, прашу больш падрабязна.

— Я думаю, пра гэта скажа таварыш Кандратовіч,— Васільеў кіўнуў у бок інструктара.

Башлыкова папрасілі расказаць пра шэфскую работу ў калгасах. Аб метадах прапагандысцкай работы. Ён зноў гаварыў лёгка, прыгожа· і, было відаць, спадабаўся.

— Ну, што ж, слова таварышу Кандратовічу.— Васільеў выразна зірнуў на інструктара.— Пятнаццаць хвілін... Таварыш Кандратовіч выязджаў у раён, вывучаў пытанне,— растлумачыў ён. Паставіў галачку ў лісце паперы.

Апейка насцеражыўся: ішло галоўнае. Кандратовіч пачаў з агульнага. Становішча ў раёне цяжкае. (Нібы ў каго іншага лёгкае?) Тэмпы калектывізацыі нездавальняючыя. (Раён, праўда, не апошні, але гэта — правільна.) Абвастрэнне класавай барацьбы ў вёсках, прамыя выступленні кулацкіх элементаў. Асабліва нездавальняючае становішча з гаспадарчымі паказчыкамі. Вялікая запазычанасць па падатках. Драпежніцкае знішчэнне жывёлы. Усё гэта было справядліва.

— Такое, проста скажам, пагрознае становішча накладае на кіраўніцтва асаблівую адказнасць. Патрабуе асаблівай цвёрдасці, рашучасці і дзелавітасці. І партыйнай спайкі: — У апошніх словах Апейку пачуўся асаблівы сэнс.

На бюро акр[уж]кома. Дакладвае інспектар.

— У такі адказны момант разброд у кіраўніцтве. Мы старанна разабраліся: хто вінаваты? Тав[арыш] Башлыкоў — малады кіраўн[ік], вылучэнец, нядаўна на адказн[ай] рабоце сакрат[ара] райкома. У новых умовах, у с/г у цяжкі час. Тав[арыш] Башл[ыкоў] ■ усёй энергіяй, аддана. Дзелавіта. Тав[арыш] Апейка — стары, вопытны работнік. Ведае раён. Павінен быў бы разумець становішча. Здав[алася], ака-

жа дапамогу малад[ому] кіраўн[іку]. Замест гэтага — павёў няправ[ільна]. Трэба адкрыта сказаць: тав[арыш] Башл[ыкоў] праявіў стойкасць.

— Мы даследавалі прычыны. Тав[арыш] Апейка і раней — лібералізм. Падтрымку чуждым элементам, апартунізм. На чыстцы ўказана было.

У апошні час, калі Башл[ыкоў] пачаў наводзіць парадак, Ап[ейка] выступіў адкрыта ў абарону. Дзіўная, мякка сказаць, лінія.

— Вывады?

— Вывады. Мы лічым, што трэба прыняць неадкл[адныя] меры, аздаравіць абстаноўку. У першую чаргу, у кіраўн[іцтве] мы лічым лінію т[аварыша] Башл[ыкова] правільнай, дзелав[ітай], дзейнасць — здавальн[яючай]. У адносінах] тав[арыша] Апейкі камісія лічыць патрэб[ным] — строгія парт[ыйныя] вывады. У тым ліку — оргвывады.

— Канкрэтна?

— Камісія лічыць, што тав[арыша] Апейку трэба вызваліць ад займаемай пасады. За праяўленыя хістанні ў правядз[енні] лініі партыі тав[арыш] Апейка заслугоўвае выключэння з партыі.

Апейка прадчув[аў], што многа будзе. Але не ведаў, што наплятуць столькі. Усё сабралі. Раздулі.

Справу Апейкі разбіраюць у акружкоме. Прыпісв[аюць] яму ўсе, што Гайлісу, і Гайліса. І даўнія «грахі»: афіцэра, Сцяпана. І брата яго. І чыстку. Не зрабіў урокаў.

І «памагае» яму тое, што Яўхім зрабіў замах. Гэта напаляе абстаноўку.

А галоўнае — нецярплівасць і нецярпімасць тых дзён. Жорсткасць абыходжання. Псіхоз. (Апейка адчувае псіхоз.)

Адчувае, што апраўданняў не слухаюць. І гэта расслабляе. Не знаходзіць сілы ў сабе.

Кончыць Башлыковым. Прыехаў дадому. У кабінеце. Давольны. Адкінуў са шляху ўсе перашкоды. Усе ў яго руках. Шлях вольны. Раён у яго руках. Ён павядзе раён як належыць. Да перамогі.

...Дарога. Башлыкоў едзе. На кані. Дзень марозны, але хмурны. Пасля раскулачвання. Аб'язджае раён — калектывізацыя пайшла ваўсю.

Праўда, рэжуць жывёлу. Дзе-нідзе ўтойваюць інвентар. Агітацыя — ёсць весткі — не спыняецца. Злосная.

Але ўсё гэта — другараднае. Галоўнае — лёд крануўся. Супраціўленне ворага зламана. Вось — галоўнае.

Калектывізацыя ідзе поўным ходам.

Раён стаў на новыя рэйкі.

Нядоўга і да суцэльнай. Можна будзе далажыць — заданне выканана.

Ён не ашукаў надзей, якія ўскладвалі на яго. Апраўдаў. Цяпер прыціхнуць тыя, хто пачаў быў сумнявацца ў ім.

Ён цвёрда вёў лінію. І перамог. Не паддаўся ныццю, падобна некаторым слюнцяям. Падобна Апейку. З іроніяй: знаўца сялянскай душы! Жыцця! Настаўнік няпрошаны! Са сваёй гнілой мяккацеласцю! Яўна — правым ухілам! Цяпер ты бачыш — чыя праўда!

Наколькі лягчэй стала, калі прыбралі яго з райвыканкома! Калі перастаў цягнуць увесь час назад. Калі адышоў разнабой!

Так, цяжка, вядома, ламаць. Сам ён, Башлыкоў, хіба не разумее, бачыць! Але ў тым і гонар — каб задушыць жаласць у сабе, паказаць цвёрдасць! Адданасць сваю!

Ён паказаў! Паказаў і — даказаў! Пра Харчава: нядрэнна ў цэлым! А ўсё ж такі таксама — вагаўся. Іншы раз цягнуў Апейку. Выцягваў...

Так, паварот такі — выпрабаванне! І нямногім удаецца!

Башл[ыкоў] з Ганнай знарок строга, афіцыйна. Нібы помсціць за слабасць сваю.

Час ад часу Башл[ыкова] бяруць сумненні. Задумваецца. Але ён душыць сумненні, як слабасць.

Імкнецца быць цвёрдым.

У той дзень, калі трэба было ехаць у Мазыр, Башл[ыкоў] зайшоў у райком. Трэба было ўзяць апошнія весткі, яшчэ раз праверыць, што падрыхтавана на ўсякі выпадак.

Калі ён чытаў, увайшоў Міша са свежай газетай. Башлыкоў завёў такі звычай, што газеты, асабліва «Праўду», зразу прыносілі ў райком. Сакратар райкома павінен быць у курсе падзей у краіне першым.

Газета як бы далучала да жыцця краіны, давала арыентацыю. Па газетах Башл[ыкоў] вызначаў і сваю задачу на бліжэйшы час.

Прыйшла якраз «Праўда», нумар за 1 лютага. Вочы адразу вылучылі баявы загаловак: «Не назад, а наперад».

Башл[ыкоў] разгарнуў газету, хапатліва схіліўся над перадавой. Што-што, а перадавую трэба было ўведаць, выпраўляючыся ў такую дарогу.

«Мы паставілі перад сабой задачу ліквідацыі кулацтва як класа. Гэта сур'ёзная і вялікая палітычная задача...— Башлыкоў хутка прабег першыя радкі, усё гэта было вядомае, агульнае. Але далейшае ўжо захвалявала, захапіла энергіяй: — Вырашэнне яе патрабуе бальшавіцкай цвёрдасці і рашучасці і ў той жа час умелага і правільнага падыходу, стараннага ўліку палітычнай абстаноўкі ў кожным раёне».

Другую частку гэтага сказу Башлыкоў прыняў з ухвалой, але спакойна: гэта былі аксіёмы, якія ён ніколі не забываў, якімі заўсёды кіраваўся; у чым іншым, а ў палітычным поглядзе на рэчы, Башлыкоў ведаў, ён быў моцны. І ўмеласці ў падыходзе таксама не трэба было пазычаць. Гэта датычылася іншых. Са звыклай праніклівасцю Башлыкоў адзначыў — тут галоўнае: бальшавіцкая цвёрдасць і рашучасць.

*«Скараціць!»* [1]

Далейшыя радкі пацвердзілі яго кемлівасць. «У нашых мясцовых арганізацыях,— нецярпліва бег ён вачыма,— ёсць элементы, якія да гэтых пор не ўсвоілі лозунга ліквідацыі кулацтва як класа ў раёнах суцэльнай калектывізацыі, якія да гэтых пор топчуцца на месцы і не прымаюць рашучых мер супраць кулака, што разбазарвае сваю жывёлу і інвентар, якія сплош і радам знаходзяцца пад яўна кулацкім уплывам.

Несумненна, што гэтыя элементы — яркія прадстаўнікі правага ўхілу — на практыцы будуць фактычна сабаціраваць праз тыя органы, у якіх яны сядзяць (а яны сплош і радам сядзяць і ў калгасах, і ў партячэйках, і асабліва ў сельсаветах), правядзенне мерапрыемстваў па ліквідацыі кулацтва. Рашучае пераадольванне іх супраціўлення — адна з неабходных умоў хуткага і цвёрдага правядзення гэтых мерапрыемстваў. Задача ліквідацыі кулацтва як класа ў раёнах суцэльнай калектывізацыі патрабуе перш за ўсё ўзмацнення барацьбы з праявамі правага ўхілу на практыцы...»

Башлыкоў выхапіў аловак і імкліва падкрэсліў найбольш важнае: «...якія да гэтых пор топчуцца і не прымаюць рашучых мер супраць кулака...», «...прадстаўнікі правага ўхі-

[1] Напісана на палях.

лу на практыцы будуць фактычна сабаціраваць...», «...сплош і радам сядзяць і ў калгасах, і ў партячэйках, і асабліва ў сельсаветах...» «...Рашучае пераадоленне іх супраціўлення — адна з неабходных умоў хуткага і цвёрдага правядзення...»

Чуў у сабе ўздым радасці: кожны радок падмацоўваў яго лінію, пацвярджаў яго партыйнае чуццё. Ён з тым жа настроем кінуўся далей, але тут пайшло іншае, якое ажывіла патайныя сумненні, трывогу... «...Існуе і другая небяспека... Неабходна з самага пачатку перасцерагчы ад спроб магчымых адміністрацыйных перагібаў... Ад спроб замены і падмены адмініструраваннем самадзейнасці бядняцка-серадняцкіх мас у справе ліквідацыі кулацтва...» «...І трэба рашуча папярэдзіць наймалыя тэндэнцыі распаўсюджання тых мерапрыемстваў, якія партыя праводзіць супраць кулацтва і толькі супраць кулацтва, на серадняка...» Нібы голас Апейкі пачуў Башлыкоў.

Блытала думкі Башлыкова папярэджанне, што могуць «...знайсціся таварышы...», «... якія пажадаюць практычна паставіць пытанне аб раскулачванні па-за раёнамі суцэльнай калектывізацыі...» Пасля разваг пра тое, што тэмпы калектывізацыі ў розных раёнах краіны розныя і, значыць, розная палітычная абстаноўка, зноў падкрэслівалася думка, што ліквідацыя кулацтва можа весціся толькі ў раёнах суцэльнай калектывізацыі, што для іншых раёнаў застаецца ў сіле па-ранейшаму лозунг абмежавання і выцяснення кулацтва.

Канец артыкула, як і пачатак, захапіў бадзёрым, баявым настроем: «...За дванаццаць гадоў мы ўзняліся далёка ўперад, на вышэйшую ступень. І на гэтай вышэйшай ступені мы даём апошні і рашучы бой рэшткам капіталізму ў нашай краіне... У гэтым баі мы пераможам... Партыя здолее з непахіснай бальшавіцкай цвёрдасцю і вытрымкай гэту справу давесці да канца».

Башлыкоў, як вельмі важныя, падкрэсліў гэтыя радкі і стаў збірацца.

Калі ён потым у дарозе ўспамінаў артыкул, то на душы была непатрэбная смутнасць. Смутнасць гэта была ад той няяснасці, якая засталася ад разваг пра розныя тэмпы, розную палітычную абстаноўку і розныя метады барацьбы з кулаком. Трывожылі папярэджанні аб перагібах, аб падмене адмініструраваннем самадзейнасці мас. Усё гэта выклікала ў душы супярэчлівасць, якая блытала ўсё.

Самадзейнасць мас... У душы сваёй Башлыкоў не тое што слаба, а можна сказаць амаль не верыў у гэту самадзейнасць. Ён быў перакананы, што спадзяванні на гэту самадзейнасць, па сутнасці, чысты апартунізм, ён бы так і сказаў, калі б гэта не было ў газеце. І які ні быў высокі аўтарытэт газеты для Башлыкова, ён не мог адагнаць ад сябе думкі, што там ёсць пункцікі, якія могуць быць выкарыстаны ў сваю карысць living рознымі малаверамі, ахвотнікамі таптацца на месцы, а то і ворагамі, якія ўзрадуюцца такой падтрымцы.

Імкнучыся, як заўсёды, да яснасці, чысціні ў думках, ён спыніў сябе на думцы, што самае важнае выказана ў пачатку артыкула. Там, дзе гаворыцца пра засілле ўсякіх правых сабатажнікаў, пра тое, што неабходна рашуча адкідаць іх, цвёрда весці лінію на ліквідацыю кулацтва. «Не назад, а — наперад» — успомніў ён назву артыкула і ўбачыў у гэтым як бы ўвесь сэнс. Наперад поўным тэмпам.

Чуццём сваім ён зразумеў, што артыкул гэты прадказвае, што пачынаецца бой, сапраўдны бой з кулацтвам. Што, відаць, з гэтай прычыны і выклікалі іх у акругу і, значыцца, чакае ў Мазыры не справаздача, не звычайная нарада, а нарада перад боем, перад апошнім і рашучым наступленнем.

*Пастанова ЦВК і СНК СССР*
*1 лютага 1930 года*[1]

*Пра мерапрыемствы па ўмацаванню сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі ў раёнах суцэльнай калектывізацыі і па барацьбе з кулацтвам.*

*З мэтай забеспячэння найбольш дабратворных* (благоприятных) *умоў для сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюза ССР пастанаўляюць:*

*1. Адмяніць у раёнах суцэльнай калектывізацыі дзеянне закона аб дазволе арэнды зямлі і аб прымяненні наёмнай працы ў аднаасобных сялянскіх гаспадарках (VII і VIII раздзелы агульных пачаткаў землекарыстання і землеўпарадкавання).*

*Выключэнні з гэтага правіла ў адносінах серадняцкіх гаспадарак рэгулююцца раённымі выканаўчымі камітэтамі*

[1] У паперах Івана Паўлавіча, сярод іншых матэрыялаў да «хронікі», ёсць выпіска з дакумента, які чыталі, якім кіраваліся ў тыя дні «на месцах». Башлыкоў — таксама.

*пад кіраўніцтвам і кантролем акружных выканаўчых камітэтаў.*

*2. Даць краявым (абласным) выканаўчым камітэтам і ўрадам аўтаномных рэспублік права прымяняць у гэтых раёнах усе неабходныя меры барацьбы з кулацтвам да поўнай канфіскацыі маёмасці кулакоў і высялення іх з меж асобных раёнаў і краёў (абласцей).*

*Канфіскаваную маёмасць кулацкіх гаспадарак, за выключэннем той часткі, якая ідзе на пагашэнне належачых з кулакоў абавязацельстваў (даўгоў) дзяржаўным і кааперацыйным органам, павінна перадавацца ў непадзельныя фонды калгасаў у якасці ўзносу беднякоў і батракоў, якія ўступаюць у калгас.*

*3. Прапанаваць урадам саюзных рэспублік, у развіццё гэтай пастановы, даць неабходныя ўказанні краявым (абласным) выканаўчым камітэтам і ўрадам аўтаномных рэспублік.*

(Апублікав[ана] ў 1957 г.)

## ВАРЫЯНТ РАЗДЗЕЛА «ЖЫЦЦЁ Ў МЯСТ[ЭЧКУ]» [1]

Коратка, сцісла гаварыў упаўнаважаны. Ён папярэдзіў: трэба нанесці ўдар так, каб вораг не мог сабрацца з сіламі. Каб ні адзін не мог уцякці ў лес. Усіх раскулачаных адразу не выпускаць з двара.

Гаворка яго была дзелавой. Што дазваляць браць, раскулачаных адразу садзіць на сані і адпраўляць на зборныя пункты ў раёне. Адтуль — на станцыі. Ён прачытаў назвы станцый, дзе будуць раскулачаных грузіць.

Юравіцкі раён павінен быў адпраўляць сваіх у Калінкавічы.

Ён паведаміў, што ва ўсе раёны будуць пасланы атрады рабочых. Што каму будзе паслана, ён паведаміць пасля нарады асобна кожнаму раёну.

---

[1] Падзеі «ў мястэчку», дзе свае драмы (страсці, праблемы (Башлыкоў — Апейка — Харчаў і г. д.), і падзеі ў вёсках (Глінішчах, Куранях) у планах-накідах Івана Паўлавіча ўвесь час суправаджаюць адны другіх: як у люстры (павелічальным) адбіваецца ў вёсках тое, што дзеецца, завязваецца ў Юравічах, у Мінску, што прыносяць газеты.

Пасля даклада былі выступленні: усе, хто выступаў, былі настроены рашуча. Пад корань. Прэч з дарогі. Правільнае рашэнне. Былі пытанні: калі лепш праводзіць раскулачванне: днём ці ноччу? Што з тымі, каторыя не будуць вызначаны пад ссылку? Ці можна ім пакуль дазволіць аставацца ў сваіх хатах? Што з тымі, каторыя будуць супраціўляцца.

Але пытанняў было небагата. Адчуваўся агульны настрой: гаварыць няма чаго, трэба дзейнічаць. Гэтым настроем жылі і ўсе трое з Юравіч: Башлыкоў, Харчаў.

— Усё ясна,— крыкнуў Башлыкоў.

Некалькі хвілін потым стаялі ў натоўпе каля ўпаўнаважанага. Ён пазнаёміў іх з кіраўніком атрада рабочых. Папрасіў Харчава застацца.

На ганку развіталіся з Харчавым. Аддаў яму свой вазок, а сам перасеў да Башлыкова. Коні весела пабеглі ўніз, да ракі.

*Тут Апейку гавораць, што камісія ў вывадах на баку Башл[ыкова]. Што Ап[ей]ку будуць слухаць. Першы — недавольны. Ён адчувае, што яму — дадуць. Што толькі? Трывога. Буду абараняцца. Дакажу. Слабая пазіцыя. Вецер у твар яму, у спіну Башл[ыкову]*[1].

Ледзь увайшлі, Башл[ыкоў] загадаў дзяжурнаму паззваць Мішу. Калі той увайшоў — загадаў склікаць членаў бюро.

— Заўтра на дзесяць — усіх сакратароў ячэек і старшынь сельсаветаў.

Ён быў радасна-ўсхваляваны. Поўны жадання дзейнічаць. Усхваляваны, але неяк больш суровы, хадзіў Харчаў.

Пасля нарады — усе па сельсаветах. Да вечара — сходы беднаты. Вынесці рашэнні і адразу прыступіць.

— Да вечара наўрад ці ўдасца,— прамовіў Апейка.— Людзі могуць быць у ад'ездзе.

(Скласці камісію па раскулачванню.)

Местачковых актывістаў-камсамольцаў — мабілізаваць. Кудраўца Мішу.

Калі адзін, Б[ашлыкоў] думае пра Ганну. Калі спіскі раскулачв[аемых] таксама. Знарок — цвёрдасць. Не паддацца дурной мяккасці.

---

[1] Напісана на палях.

На бюро.

Башл[ыкоў] увесь час адчувае вясёлы, радасны ўздым. Як наступленне, і ён — камандзір. Башл[ыкоў] паведаміў, што было ў акружкоме. Заўтра нарада зранку. Збор раскулачаных у нардоме. Размеркаваў членаў бюро па сельсаветах.

Яшчэ ішло бюро, калі на двары пачуліся галасы. За Харчавым у суседні пакой увалілі гаманкі натоўп.

Башл[ыкоў] выйшаў: камсамольцы, рабочыя, чырвонаармейцы. Весела прывітаўся.

У тым, што былі чырвонаармейцы — яшчэ ўзмацнялася падабенства з ваеннай аперацыяй. Як перад наступленнем.

— Добры вечар, таварышы!

Яны адказалі.

— На падтрымку?

Чырвонаарм[ейцы] маладыя, чырванашчокія, вясёлыя.

Дзе размясціць.

— У выканкоме частку. Частку ў нардоме — у ленінскім кутку.

— Ложкаў пакуль не будзе. На саломе прыйдзецца пакуль...

— Мы — прывыкшыя!..

— Ну, і добра.

Правёў. Увёў у пакой, вызваліў ад усяго. Другую групу ў нардом павёў Харчаў. Загадаў возчыку свайму прынесці саломы.

— Як з харчамі?

— Ёсць,— адказаў камандзір.

Загадаў: бак для чаю прынесці. Згатаваць.

Сцісла.

Члены бюро. На бюро. Важная падзея: нарада сакратароў партячэек с/с, упаўнаважаных па раскулачв[анню]. Гістарычная, можна сказаць, нарада. З'язджаліся сані, вазкі.

*Местачковыя актывісты — камсамольцы, моладзь. Радасць. Смех. Запал. Міша* [1].

I

З'язджаліся сані, вазкі. Першыя заварочвалі ў двор, уладжваліся на ім. Двор быў невялікі, пазнейшыя станавіліся каля плота па вуліцы.

[1] Напісана на палях.

Прывязвалі коней да плота, кідалі сена коням і адзін за адным рушылі ў будынак. У цесным калідоры ціснуліся кажухі, чуйкі, паліто. Кручкоў на вешалцы вольных хутка не стала, пачалі скідаць вопратку на стол у кутку. Той-сёй уваходзіў адзеты ў залу пасяджэнняў.

Па ўсяму будынку ішоў жвавы гоман, часам ускідваўся рогат. У гэтым тлуме можна было бачыць расчырванелых з марозу Міканора, Дубадзела. Міканор сустрэў знаёмага, (уступіў.— Рэд.) у ціхую гаворку з ім. Гайліс, у фрэнчы, сухаваты, сабраны, адразу ўліп у крэсла ў зале, чакаючы. Дубадзел хадзіў, шукаў, шумліва здароваўся, здавалася, не ведаў, куды дзець сілу...

У калідоры паявіўся Міша, гаспадарскім вокам агледзеў зал, паздароваўся за руку ■ тымі, хто аказаўся бліжэй. Ён рухава павярнуўся ў калідор і тут спаткаўся з Башлыковым. Башлыкоў нецярпліва спытаў: каго яшчэ няма? Міша, што на людзях паводзіў сябе асабліва руплівa, адказаў, што няма толькі з Тульгавіч, але яны даўно выехалі...

Нарэшце прыехалі з Тульгавіч, і ў зальчыку пасяджэння райкома асела цішыня. Цішыня важнай нарады: усе, хто быў у зальчыку, ужо ведалі, якую важную падзею трэба будзе ім абмеркаваць. І якая адказная задача кожнаму з іх будзе.

Башлыкоў, дзейсны, сабраны, коратка расказаў пра пастанову ЦВК, зрабіўшы асаблівы націск на тую яе частку, дзе гаварылася пра пераход да новай палітыкі ў адносінах да кулацтва. Як бы пацвярджаючы рашучасць у гэтым пытанні, нагадаў, што казаў Сталін. «Смешнае пытанне!.. Зняўшы галаву, па валасах не плачуць!»

Тым, як ён строга трымаўся і скупа гаварыў, ён нібы паказваў, што задача патрабуе дзелавітасці і строгасці! Вельмі хутка, тымі ж кароткімі, рашучымі словамі, ён перайшоў да практычнага. Аб'явіў, што створан раённы штаб па раскулачванню, назваў яго склад, назваў упаўнаважаных па кожнаму сельсавету. Аб'явіў, што ў кожным сельсавеце работай па раскулачванню кіруюць камісіі, што яны павінны пачаць дзейнічаць з сённяшняга дня. Папярэдзіў, што, не выключана, могуць быць спробы супраціўлення, таму заклікаў — быць пільнымі. Дзейнічаць рашуча.

На пытанні адказваў таксама коратка, дакладна. За ім таксама ж коратка выступіў і Харчаў. Расказаў, як канкрэтна павінна праводзіцца раскулачванне; параіў асабліва сачыць за тым, каб добра быў зроблен улік маёмасці. Каб

папярэдзіць спробы раскрадвання... Харчаў растлумачыў, як быць з тымі, хто паспрабуе супраціўляцца...

Спісы тых, каго рэкамендуецца раскулачыць па сельсавеце, Башлыкоў аб'явіў, будуць дадзены сельсавецкім камісіям, кожнай асобна.

Калі Міканор, Дубадзел знаёміліся са спісам, Башлыкоў падышоў да іх, запытаў Міканора, на які час яны могуць сабраць сваю камісію.

Тады аб'явіў, што сёння прыедзе да іх сам. Сказаў, каб падрыхтавалі сход бедняты ў Глінішчах.

2

Гадзіны праз паўтары, пасля таго як раз'ехаліся ўсе, ён выехаў у Алешнікі.

Калі ён увайшоў у знаёмы будынак сельсавета, усе ўжо былі ў зборы, чакалі яго.

Трывожыла ўсярэдзіне, калі бачыў, як праз строй старых бяроз абапал стала набліжацца тое скрыжаванне, дзе яны пабачыліся ўчора і дзе дамовіліся сустрэцца зноў. Вунь скрыжаванне, а вось і дарога ў лес, дзе яны былі. Яго лес, іх лес. Мімаволі азірнуўся ў той бок, дзе была школа і яна. Нават падумаў, ці не ўбачыць раптам на дарозе яе постаць. Ні яе постаці, ні нават школы не было відаць. Белае, роўнае поле толькі.

Калі Башл[ыкоў] раптам — даведаўся пра Ганну (уцякла ад кулака). Думае пра яе — як аднесціся?

Гаворыць з Параскай у Глінішчах. Чаму прытуліла кулачку. Тая адказвае — горача хваліць Ганну.

Дваістасць Башл[ыкова] да Ганны. Разумее — трэба пільнасць і — цікаўнасць з гэтым.

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ [1]

### РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

1

Да самага новага году дужалася з восенню зіма. Адлігі і туманы бараліся з марозам, з'ядалі снег, агалялі мокрую, хмурную зямлю.

---

[1] У больш закончаным выглядзе засталіся накіды пра тое, як і што адбываецца, дзеецца ў гэты час у Куранях.

Пад новы год ледзь не тыдзень валіла з нізкага неба снегам, а з самага пачатку закруціла, замітусіла белым пылам завіруха.

Пашалеўшы, завіруха змаглася, аціхла, і Куранямі запанавала звонкая, марозная цішыня. Пад глыбозным блакітным небам востра блішчала халодная бель, ядрана парыпвалі крокі на вуліцах. Рыпелі змерзлым дрэвам жураўлі калодзежаў, зелена пабліскавала наледзь пры збуцьвелых калодзежных зрубах, на саміх зрубах.

Жылі, падобна было, будзённымі клопатамі. Той-сёй спрабаваў па снезе прабіцца ў лес — прывезці дроў. На дварах там і тут можна было чуць шарханне пілы, цюканне сякеры. Пратаптанымі сцежкамі снавалі з хат у хлявы — да скаціны.

Вечарамі з-пад нізкіх стрэх мігліва выглядвалі жоўтыя агеньчыкі. Патрэсквалі дошкі на ганках, чыста гучалі задзірыстыя маладыя галасы, плялася стрыманая гамонка старэйшых. Па ўсім сяле, як заведзена, збіраліся на вячоркі. Ночы былі звонкія, лютыя, як гарматы бухала ў сценах скалелае дрэва. Раз-пораз усчынаўся шалёны сабачы брэх: кожнай ночы абложвалі Курані ваўкі, унізвалі ў ледзяную халадзечу хаўтурнае выццё.

У такую пару па хлявах скаціна стрыгла вушамі, храпла, спалохана кідалася з кута ў кут...

Знешне зіма гэтая падобна была на іншыя зімы. Але падобнасць яе напраўду была зманлівая, пад нібы звыклай абыдзённасцю мела яна, як і мінулыя лета і восень, адметнае абяцанне блізкіх перамен.

Яшчэ па бездаражы прабілася ў Курані неймаверная навіна: ёсць загад раскулачваць. Неўзабаве навіну гэту, так можна было зразумець, пацвердзілі і газеты, якія прынёс Андрэй Руды.

Усе меркаванні і гаворкі ў Куранях круціліся цяпер вакол гэтага — раскулачвання. Ад таго, што ўсё было няясна, асабліва ж тое, каго будуць раскулачваць,— кінуліся высвятляць. Кінуліся найперш, вядома, да Міканора і да Андрэя Рудога.

У гэтыя дні асабліва вырасла палітычнае значэнне Андрэя. І не надта гаспадарлівы, і не надзелены ўладаю, ён у вачах многіх узвышаўся цяпер ледзь не над усімі Куранямі як асоба, якая грунтоўна ведае, што дзеецца ўва ўсёй дзяржаве, а значыць, і што блізіцца да кожнага.

Цэлымі днямі ў яго хаце не счыняліся дзверы.

Амаль кожны, завязаўшы гаворку для прыліку адным-двума звычайнымі пытаннямі, меркаваннямі, услед прыцішваў дыханне, вастрэй прыглядваўся:

— Кажуць, етае — кулачыць будуць?..

Андрэй звычайна перш, чым адказаць, далікатна дыміў папяросінай. Заглыблены ў сябе, паважна маўчаў. Паказваў, што не ўпершыню чуе, разумее, што значыць пытанне. Спакойна пацвярджаў:

— Будуць. Сталін заявіў.

Казаў так, нібы Сталін сам аб'явіў яму.

— У газеце, ето, напісано?

— Е ў газеце.

— М-гу...

Што тут казаць: напісана ў газеце, значыць — цвёрда.

Той-сёй з недаверлівых прасіў паказаць газету, грамацеі ўпіваліся вачыма ў надрукаваныя радкі.

Газету хутка зашмальцавалі, і Андрэй паказваў найбольш неахвотна, з асцярогай, а то і зусім не даставаў. Не напаказваешся ўсім: берагчы трэба.

— Па валасах, сказаў, не плачуць...

— Не плачуць. Іч ты!

Здаралася, на гэту важкую Андрэеву заўвагу адгукаліся, не разумеючы:

— Як ето?

— А так...— Андрэй маўчаў, і гэтае маўчанне значыла больш любых слоў.

— Каго ето будуць? — амаль нязменна чуў Андрэй.— Тых, у каторых цвёрдае заданне, ці як?

Андрэй добра разумеў сэнс пытання, адказваў з належнай значнасцю:

— Вызначаць. Спіцыяльно.

Загадзя ўжо ведаў наступнае пытанне: яно хвалявала ўсіх асабліва.

— Дак, а хто вызначаць будзе?

— Будзе раз'ясненіе. Дапалніцельно.

Андрэй тлумачыў спакойна, паблажліва. Яго трывогі гэтыя не турбавалі, яны, можна сказаць, не датычылі Андрэя. Новая, незнаёмая падзея яго нават нібы забаўляла.

— А Ленін казаў, што кулачыць не павінны! — запярэчыў дасведчана Міця Ляснік, ля якога, выцягнуўшы пысу, ляжаў сабака.

Руды з вышыні сваёй далікатна ўсміхнуўся: над Міцевай палітычнай прасцяцкасцю.

— І Калінін казаў,— прамовіў як малому.— Да тое ўжэ даўно мінулася. Устарэло.

Усе гаварылі, меркавалі пра палітыку. Меркавалі зацікаўлена, заклапочана. Развялося ў гэту зіму палітыкаў у Куранях.

І ці дзіва: хочаш не хочаш — станеш палітыкам. Нікому не хацелася быць сляпым. Усе стараліся разабрацца, што чакае. Ва ўсім разабрацца...

Такія ж гаворкі вяліся і ў хаце Міканора.

Міканор, вяртаючыся [redacted] Алешнікаў, натрапіў на воўчую гайню. Ледзь вырваўся. Добра, што дзядзькі ззаду пад'ехалі.

Заводзячы гаворку з Міканорам, найперш пачыналі пра гэта. Міканор спачатку са знарокавай весялосцю расказваў як было. Потым адгаворваўся скупым словам: нашто хітрыць — давайце пра асноўнае.

Ён не стаяў нібы збоку, як Руды. Не тлумачыў проста.

— Будзем раскулачваць. Як клас... Усіх, хто стаіць на дарозе калгасаў, скінем з дарогі.

— Як усіх? Тут толькі — пра кулакоў!

— Кажны, хто не ідзе ў калгас, іграе на руку кулакам. Вядзе кулацкую лінію і, значыць, заадно з кулакамі. І няхай атрымае — як кулак... Думалі — хаханькі вам! Плясці папусту ўсё будзем!.. А то — сабіраюць іх, сабіраюць, сход за сходам, а яны — як аглухлі!

Міканор не таіў радасць і гнеў.

— Таварыш Сталін ясно сказаў: па валасах гладзіць не будзем. І галавы шкадаваць не будзем. Калі хто стане ўпоперак.

Маці, слухаючы гэтыя сынавы гаворкі, круціла галавою ды хрысцілася.

— Міканорко, што ето ты кажаш: галоў шкадаваць не будзем! Ето так можно з людзьмі!

— Мамо, людзей цяпер няма: е — трудавыя і е кулакі. Такая наша паліціка.

— Не можно так [redacted] людзьмі, Міканорко!

— Не лезь ты старая не ў сваё! — умяшаўся Міканораў бацька. Бацьку, было відаць, захапляла тое, што казаў сын.

— З корнем вырвем эксплаататарскі клас! Хваціць ужэ чыкаліся!

У кожнай хаце абмяркоўвалі, разбіралі навіну. Загадзя стараліся разабрацца, што яна зычыць кожнаму.

Пільна паставіліся да яе ў Чарнушкаў.

— Халімоніка і Яўхіма — першымі! — сказала нервова мачыха. Сказала як бы з радасцю.

Чарнушка зірнуў на яе: от зайздрослівая, і злая.

— Етых — адразу...— згадзіўся. Нібы пашкадаваў.

— Збіраў, збіраў Халімончык. І ўсе — умэнт!

— Збіраў...

— Задраў нос. Першы багацей. Не дацягнешся!

— Дацягнулася ж!

— Дацягнулася! Язык у цябе паварочваецца! — Мачыха плюнула ў злосці, дакончыла сваё: — Абраўняюць! Савецкая ўлась усіх абраўняе. Калі ўжэ ўзялася, то — абраўняе.

— Такая ўжэ ты сазнацельная стала.

— Сазнацельная.

— Глядзі, штоб і цябе — не абраўнялі!

— А чаго мяне аброўніваць? Няма чаго — аброўніваць. Гола, дзякуй богу, з табой жывучы.

— Сваячка ж як-ніяк.

— Була. Ды — сплыло.

Думкі яе ўзялі іншы кірунак:

— Як чула, скажы ты, Ганна!.. Ето ж так даўмелася ў пару!..

— Даўмелася! — Чарнушка ўздыхнуў.

Гэта яго затоенасць узлавала яе. Як на някемнага паглядзела: не разумее выгады сваёй, дурань!

— Цяпер Яўхім адчэпіцца.

— Адчэпіцца...

Ці адчэпіцца? У Чарнушкі, падобна, не было пэўнасці: не бачыў, як яно там павернецца. Нічога не было відаць. Таіў страх: як бы Яўхім, ▪ адчаю і зла, не папомсціўся Ганне. Цяпер гэтаму будзе ўсё ніпачым. Трывожыла, што ўсё гэта блізка падступала да Ганны.

Як бы там ні было, дадавала новай невядомасці ў лёс Ганны.

У Дзятлікавых таксама меркавалі пра навіну, калі надвячоркам уваліўся ў хату Нібыто-Ігнат. Быў добра такі п'яны, адразу кінулася ў вочы па тым, як весела грукнуў дзвярыма, павёў шалёным позіркам. Ледзь даўшы «добры вечар», рушыў да стала, весела аб'явіў:

— У госці от рашыў!

— Ну, і добра зайшоў,— гасцінна адгукнулася Васілёва маці.

— Дай, думаю, зайду, пачастуюся.

— Ужэ ж пачаставаўся,— зазначыў Васіль.

— Пачаставаўся. Дома. А і ты не скупіся!

Маці ўвішна разгарнула настольнік, крылом махнула над сталом. Васіль дастаў бутэльку з самагонкаю.

Толькі ўзнялі налітыя чаркі, як бразнулі дзверы і ў пакой ускочыў праворна Міцеў сабака, а за ім высунуўся і Міця. Як падсцярог, скажы ты!

Выпілі ўжо разам з ім.

— Дык што ето будзе? — першая пачала пра галоўнае Дзятліха.

— А што будзе! Ліквідзіруюць, сказано! — весела адказаў Нібыто-Ігнат.

— Як ето — ліквідзіруюць?

— А так — пад ногаць! І гатоў.— Ігнат паказаў.

— Ха? — не паверыла Дзятліха.

— От табе і ха!

Дзятліха скеміла: нібы дражніцца з ёю, знайшоў калі дурэць!

— Там пра кулакоў запісано,— паддобрыўся да гаспадыні Міця.

— Якія тут у нас кулакі! Гора адно,— уламілася горача Маня.

— Е крывапіўцы, не кажы! — запярэчыў важка Васіль. Усе зразумелі, на каго намякае.

— Е! Хваціць! — падхапіў Ігнат.— Абы захацелі, знайдуць!

Усё хацелася яму дражніцца. Піў, рагатаў, адчайная душа. Дарагатаўся ж, дакаціўся сваімі гаворачкамі, трэба было б, здавалася, паразумнець. То ж як вярнуўся некалі з Чырвонай Арміі, з граматамі сваімі, ды заняў пост у сельсавеце, колькі разоў вучылі за язык, за смелую гаворку. А не, не навучыўся нічаму.

Падсмейваўся, чапляў, потым сказаў Дзятлісе як бы цвяроза:

— Нічога, цётко. Не памірайце да пары! Ні адна ўлась — нібыто — без мужыка не жыла шчэ! Без мужыка ніхто не пражыве. Хлеб усім трэба! Ці так, ці так — мужык будзе! Не абыдуцца без нас! Нідзе не дзенуцца!

— Дак яно ж можа шчэ і так буць: што карміць будзеш, а сам — зубы на паліцу!

— Нічого. Сколькі ні бралі, а і ў нас нешта аставалася. Яны разумныя, дак і мужык — нібыто — не дурань. Робячы на другіх, і мы як-небудзь, цётко, пракормімся!

Міця заківаў галавою: ухваліў.

Нібыто-Ігнат як не чуў, што потым гаварылі Дзятліха, Міця, Васіль. Доўга еў затоена, зноў выказаў сваё:

— Жывучы звер, мужык! Як з яго — нібыто — цягнулі, а ён усё — жыве!..

— Неахвота гнуць спіну на кагось! — паскардзіўся Васіль па-прыяцельску.

— Неахвота, дак едзь у горад! На хвабрыку,— параіў Міця.

Глушак яшчэ ў той першы дзень зазірнуў да Рудога.

Гаварылі пры ім мала, асцярожна. Ён знарок трымаўся спакойна, глядзеў на Рудога як на мудрэйшага. Пытанні ставіў дзелавыя: хто будзе вызначаць на раскулачванне, колькі набяруць кулакоў на Куранях, куды дзенуць тых раскулачаных.

Андрэй тлумачыў, а ён пакорліва слухаў.

— Па цяперашніх часах дак самы вялікі кулак ты. Газету маеш. Цябе б і раскулачыць найперш.

Не засмяяўся. Папрасіў газету такім тонам, што Руды не адмовіў.

У той жа дзень прынёс газету, акуратна згорнутую, паклаў перад Рудым, сказаў, што цяпер усё ясна.

— Бяруцца за мужыка — як трэба. А то волі багато було, у мужыка...

Шаргаючы лапцямі, прыгорблены, выбраўся з хаты.

Болей не паказваўся на людзі, сядзеў у сваёй хаце.

Сарока, што наведалася неўзабаве, вынесла толькі адну, але важную яго думку:

— Ето ўсе для калгасаў. Штоб падагнаць мужыкоў у калекціў. Зануздаць хутчэй!

Зайчык панёс ад яго па сялу, што першых раскулачаць — для прыкладу. Што пазней пусцяць на вецер усіх, хто захоча жыць па-свойму.

З тымі рэдкімі наведвальнікамі, што зазіралі да яго, быў ветлівы і роўны. Трымаўся так, нібы паказваў, што сумленне яго чыстае і што будзе, тое будзе. Ён гатоў на ўсё.

Амаль увесь час высіўся пры ім пануры Лясун. Глядзеў так, нібы хацеў знайсці паратунак, параду.

— Дак ето ўсё? — вывалак з сябе важкае, калі засталіся адны, выпілі па чарцы.

— Усё. Канец.

Лясун маўчаў, маўчаў, дзіка рыкнуў:

— Не!

— Усё, Пракоп. Старцамі пойдзем. Скарынку хлеба прасіць... Калі не ўкінуць у каталажку...

Пракоп з адчаем уціснуў галаву ў плечы, затросся.

Глушак падставіў яму яшчэ чарку, хацеў сказаць супакойлівае. Але Лясун адсунуў рэзка яго руку, замычэў, важка ўзняўся.

Не зашпільваючыся, без шапкі, рушыў з хаты. Глушак здагнаў яго, уздзеў шапку на яго.

Вечарам не запалілі лучыны. Ляжаў на ложку пад кажухом, пакуль не застукалі ў сенцах крокі. Ён устаў, выйшаў насустрач са свечкай. Двое незнаёмых, не куранёўскіх, пыталіся Яўхіма.

Яўхім быў на сваёй палавіне. Стары правёў іх, запаліў лямпу. Яўхіма ледзь ускорпалі, ляжаў грудзямі на стале ў дым п'яны.

— А, Ц-цацура! — непрыветліва мацюкнуўся ён.

Глушак пазнаў ужо аднаго: душагуба, з Гаротнікаў сям'я.

Стары папракнуў Яўхіма строга: нельга так гасцей сустракаць.

Той, каго звалі Цацурам — бяскрыўдна ўхмыльнуўся старому: нічога, мы свае.

Яўхім ачомаўся, памякчэў, запрасіў да стала. Бутэлька была амаль пустая. Стары супакоіў:

— У мяне е. І закуску знойдзем.

Калі вярнуўся, між маладымі быў мір.

Стары разумеў: не так сабе прыйшлі. Ведаў, што могуць сачыць, заўважылі гасцей. Але разважыў, што асцярога цяпер — нінашто, усё адно — канец. А можа, што людскае скажуць.

Пілі, чвякалі гуркамі, жавалі хлеб. Гаварылі абы-што. Зп'яна ўпікалі Яўхіма, што адзін, у халасцяках.

— Такі мужчына! А як жарабец непрыручаны!

— Жарабцу і лепей воля,— стрымаў сябе Яўхім. Схаваў, што непрыемная гаворка. Нядобрае чапаюць.

Старому падабалася іх весялосць. Усё ж не так безнадзейна.

— Пагуляем, пакуль можна.

Ужо як выпілі добра, Цацура адкрыўся:

— Дакуль сядзець будзем!

— Мало ўжэ і сядзець засталося...— прамовіў стары.

— Мало. Як куранят па аднаму расчавяць..,

— І так, і так — адно...

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

Пад гэтым, відным усім, жыло такое, што адкрывалі толькі нямногім, сваім. І такое, што таілі ў сабе.

Неўзабаве пасля таго, як сышлі Нібыто-Ігнат і Міця, першымі поцемкамі Маня ўскінула кажух, хапатліва выбралася з хаты. Вярнулася яна не вельмі хутка, з-пад кажуха выняла штосьці загорнутае ў палатно, паклала на стол.

— Сало,— узрушана далажыла: — Бацько — як хмара. Ад Халімона вярнуўся. Не гаворыць ні з кім... Матка плача. «Ці будзе прыткнуцца дзе, як ■ хаты выкінуць?..» Няўжэ выкінуць?

Васіль нядобра адвёў позірк. «Пытае. Бы знае хто».

— Не выкінуць,— пашкадавала Васілёва матка.— А калі і што якое — на вуліцы не астануцца.

— Ой, не кажыце!

— Не астануцца.

Маня паспакайнела.

— Каня, кажа, забралі б... Няхай бы буў у вас, добры ж вельмі... І авечак — можно б...

У яе вачах было запытанне.

— Самы час — браць,— буркнуў рашуча Васіль.

«От галава. Знайшла калі!»

Дзятліха не ўлезла ў спрэчку.

Доўга была турботная цішыня. Цішыня гэта і адасабляла кожнага і звязвала. Тады Дзятліха аб'явіла:

— А Петрыкавы — упісаліся.

— Тым часам, і разумно,— адзначыў дзед з печы.— Бо кеб не було позно.

— Аге!

— Як здымуць голаву, не прыставяць патом!

Васіль не азваўся.

У агульнай турбоце было разуменне таго, як блізка падступіла бяда. Калі будуць раскулачваць, то пэўне ж за ўсё — за Карчамі — зачэпяць Манінага бацьку. Зачэпяць

Пракопа, а там каб — не дай бог — не напалі і на іх, на Дзятліху. Сваякі ж такія, звязаны адной вяроўкай.

Да гэтага прынізвалася іншае: Маня багата дабра перанесла, а толькі як бы гэта бокам не вылезла. Раптам дакажа хто-небудзь на іх,— пачнуць дакопвацца, абшукваць, знойдуць?..

Калі Пракопа раскулачаць, то, пэўне ж, трэба будзе недзе даць прытулак. А каму прытуліць яго, і жонку яго, і сына, як не дачцэ, не Мані? Значыцца, унесці ў хату трэба будзе падпалку, праз якую і самім згарэць нядоўга.

Вось як яно павярнулася, сваяцтва гэтае, ліха на яго. Як гіра на шыю выйшла, калі і так цягне да дна. Мімаволі зразумееш неспакой маці, якая хітра падступае: ці не ўпісацца загадзя. Пакуль не позна...

Няпроста адазвалася ў сэрцах многіх куранёўцаў тая небяспека, што падступіла да Глушака.

Не трэба думаць, што ён быў зусім адзін, як гэта магло падацца. Адасоблены ад іншых, ён разам з тым звязаны быў з многімі. Звязаны нявідным, але даволі моцным, пераплеценым — сваяцкімі адносінамі.

У гэтых адносінах час, новыя звычаі і звадкі многае надарвалі ці аслабілі. І ўсё ж для многіх у Куранях Халімон Глушак быў сваім, роднай крывёю. Ён быў блізкім ці дальнім сваяком ледзь не чвэрці сямей. Лёс так распарадзіўся, што па «матчынай лініі» ён даводзіўся, як аб гэтым не раз нагадвала матка, сваяком самому Міканору.

Дзе-нідзе аслабелыя, сувязі сваяцкія ў Куранях усё ж моцна паважаліся і чуліся. Адвечныя сувязі гэтыя абавязвалі трымацца адзін аднаго, памагаць адзін аднаму. Не заўсёды бясхмарныя, яны зводзілі разам на радзінах, на хрысцінах, на вяселлях.

Закон гэты быў дасюль для многіх як неадменны абавязак, як запавет ад бацькоў і дзядоў, як адзнака чалавечай годнасці.

Глушак у былыя часы не вельмі песціў дабратою сваіх, але як там ні было, знешне цвёрда трымаўся закону: у належны час — на святы — нязменна запрашаў сваякоў да сябе і сам хадзіў да іх, з належным пачастункам. Датрымліваўся ён, бачылі, закону і ў большым: хоць і скупа, і з рэктам, памагаў не раз, і не аднаму. Было такое, што ў крутую пару выбаўляў проста: з голаду, з бяды. Памога гэта, праўда, амаль ніколі не заставалася без аддзякі. Аддзяквалі Глушаку звычайна працаю, памагалі жаць, малаціць. У рэшце

рэшт невядома было, хто больш меў выгады з усяго, але пра гэта звычайна не думалі. Рукі чалавечыя, у Куранях лічылася, не каштавалі нічога. Добры ж Глушакоў чын помніўся і цаніўся.

Калі Халімон Глушак трымаў сваяцкія адносіны раней, то ці дзіва, што ён бярог іх цяпер. Глушак цяпер, здаралася, часам проста бянтэжыў зычлівасцю і нават шчырасцю. То малака прынясе Зайчыку, у якога здохла карова, то сала заніпто — Сароцы, куме сваёй — для сына яе, каб дужэў. Сваяцкая салідарнасць ды Глушакова просьба-парада не пушчалі вельмі да чужых вачэй такія драбніцы, што Глушак таму-сяму даваў і насенне тайком і браў потым доўг — каб «з голаду не памерці». І памагаў коньмі таксама па-сваяцку, за сваяцкую ж аддзяку.

Вядома, у Куранях было нямала такіх, якія радаваліся, што от і на старога Карча ўправа знайшлася. Як ні круціў, ні вярцеў, а — знайшлася. Але было багата і такіх, што, у цяжкім яго становішчы, старому спачувалі. Адны з-за сваяцкага абавязку, закону, а другія — і проста ад сэрца. Не ў аднаго ў Куранях, асабліва між жанчын, сэрцы былі спачувальныя.

Не раз папракала сына за тое, што не помніць закону, нападае на сваіх, Міканорава маці. І ў той вечар, калі гаварылі пра раскулачванне, пасля таго як сышлі ўсе і Дамецікавы засталіся адны, маці папярэдзіла, як мудрэйшая:

— Не кідайся ты вельмі, Міканорко... Не бяры грэх на душу...

— Грэх, мамо, цяпер ето стаяць убаку.— Міканор быў настроены нямірна. Не меў ахвоты спрачацца. Але старая нібы не заўважала. Нязгодна пакруціла галавой.

— От што хочаш кажы. А на людзей грэх кідацца, Міканорко. Да шчэ на сваіх...— дадала з намёкам.

Міканор адразу ўлавіў намёк.

— Хто ето свае? Халімон? — Міканор апусціў лыжку ў боршч.

— І ён,— цвёрда адказала старая.

— Мамо, я такіх сваякоў не прызнаю,— заявіў Міканор.— Казаў ужэ...

— Сваякі. Радня чыстая.— Старая не першы раз дзяўбла: — Ён і я — дваюродныя брат і сястра. А бацькі нашы дык родныя булі. Блізкая радня.

Дамеціха зірнула на старога, як бы загадала падтрымаць. Той неахвотна адгукнуўся ад палацяў:

— Знае ж ужэ. Ахвота плясці.

Старая не хацела адступацца. Не траціла надзеі навесці на праўду.

— На хрысцінах тваіх буў. Краму фабрычнага прынёс тады тры метры. Паркалю з кветкамі... І патом падаркі прыносіў. Ты малы буў, не помніш.

Міканор устаў, недавольна захадзіў па хаце, аж зазвінела шкло аб дрот.

— Мамо, етыя разгаворчыкі, што б я не чуў болей. Ясно?

Міканор сказаў так, што яна зразумела: больш гаварыць пра гэта не трэба.

Але не магла ўжо маўчаць. Пякло яе, не давала спакою вялікае неразуменне.

— Ці канешне ето людзей нішчыць, як сабак якіх...— Бачыла, як Міканор ускінуўся нядобра, але павяла далей: — Ці ім і жыць не можно? Ці свет зазасцілі ўвесь?..

— Не разумееце вы, мамо, нічого. Самой асновы класавай барацьбы не разумееце!

— Бедным з-за іх жыць не можно? Як ето — не можно? Цяпер бедным толькі і жыць. Улась бедным толькі і прыяе. Жывіце!.. А толькі, я так думаю,— мякчэй, павучальна сказала яна,— па-божаму...— яна паправілася: — Па-людску так трэба: жывіце і другім жыць давайце.

— Бухарынец вы нейкі, мамо, ей-бо!.. Давайце другім! А ён убярэцца ў сілу, ды — зноў!..

— Не ўбярэцца! Вы не давайце! — раптам дзелавіта параіла яна.— Вы ето правільно, што абрэзалі іх, прыціснулі! Волі багато ў іх було, ето праўда! Правільно, што абсеклі! Улась ето правільно зрабіла!

— Хоць раз разумнае сказалі.

— І яшчэ — што трэба, зрабіце. Землю хоць усю забярыце. І ў калгас, скажыце, няхай ідуць!..

— У калгас?! От урэзалі!

— Не бойся,— не зразумела яго маці.— Пойдуць. Ето так спярша пакруцяцца, а патом — пойдуць.

— Пойдуць — шкодзіць, разваліваць!

— А вы нашто ж, штоб пазваляць! А вы не пазваляйце! Вочы на што, улась на што! Міліцыя! Нашкодзіў — штраф яму! А не спраўляецца — у цюрму! Аднаго ў цюрму, другі — падумае! А там і прывыкне. Пакруціцца, пакруціцца ды — і прывыкне! Чалавек усё-такі, не авечка! Галова е на нешто!

— Е галова. Толькі ў адных на дабро, а ў другіх — на шкоду!

— Дак я ж і кажу: глядзець трэба! Ад людскіх вачэй — нічого не ўтоіцца!

— Не, мамо, паганы вы паліцік! — рашыў канчаць Міканор.— Мы, мамо, зробім па-генеральнаму! З коранем! Вырвем і выкінем, штоб і не смярдзело!..

З крыўдай на яго неразумнасць яна стала прыбіраць са стала.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

На самым разломе жыцця прыйшлі ў Курані гэтыя марозныя дні.

Гэтыя марозныя дні былі часам ці не самага вялікага неспакою ў Куранях.

Неспакой у Куранях не забіваў зусім надзей. Людзі цешылі сябе надзеямі, што, можа, яшчэ павярнуцца і на добрае. Але надзеі не развейвалі зусім неспакою. І трывога, і страх, і адчай не раз гнялі многіх у гэтыя звонкія дні, у марозныя, бясконцыя ночы, калі прамярзалі да інею на сценах хаты і бухалі гарматамі сцены. Палілі печы, кармілі жывёлу, насілі ваду па ўтаптаных рыпучых сцежках, вазілі сена. Жылі нібы звыклым жыццём. Але жылі ўжо быццам ад старога заводу, які прыкметна аслабеў. Жылі ўжо не чуючы былой яснасці наперадзе і цвёрдасці пад сабой.

Хваляванне гэта мела многа featured рознага ў розных людзей. Але сярод гэтай разнастайнасці пачуццяў было адно агульнае для ўсіх. Усе ў Куранях з месяца ў месяц адчувалі, што жыццё, як крыгу, выносіць на вялікую ваду і што па крызе гэтай ідзе, шырыцца небяспечная трэшчына. І што нельга марудзіць, трэба выбірацца ці на той, ці на гэты бок...

У той сумяціцы, што поўніла куранёўцаў, свой асаблівы свет быў у тых, што ўступалі ў калгас. Ён не быў аднастайны, як не былі аднастайнымі і самі калгасаўскія. З таго часу, як лёгка і весела сышліся ў сям'ю першыя, самыя смелыя, увайшлі ў калгасны дом яшчэ паўтара дзесятка гаспадароў. Увайшлі яны ў большасці не так упэўнена, як папярэднія, і ў большасці не так лёгка адчувалі сябе на новым прыстанку. Не раз і не аднаго брала сумненне, ці не даў ён маху, уступіўшы націску, збаяўшыся; зрабіўшы цяжкі крок, не адзін такі выглядваў, ці не момант, каб кінуцца назад.

Такім тыя навіны, што прыйшлі, давалі як бы супакаенне, цвёрдасці, што зрабілі няўхільнае, што і другія нідзе не дзенуцца.

У тым хваляванні, якім жылі, калектыў для ўсіх быў цэнтрам думак. Для адных ён быў ужо сваім домам і светам, для другіх ён меў значэнне будучыні, якая, падобна было, непазбежна значылася наперадзе.

Як там ні было, калектыў набыў для ўсіх асаблівае значэнне. Усе, нібы зусім далёкія, прыглядваліся да яго, як да жывога аблічча таго, што іх чакае.

Быццам блізкае, асабістае, пільнавалі тое, як там жылі — там даілі, кармілі коней, архавалі, рыхтаваліся да вясны. Па заснежаных дарогах калгаснікі прабівалі дарогі ў лес, вазілі бярвенне для канюшні. Карысталіся марозам, што праклаў дарогі там, дзе ўлетку была багна.

Вечарамі і свае, і чужыя, некалгасныя, таўкліся нярэдка ў Міканоравай хаце. Пільна ўслухоўваліся, улазілі ў гаспадарчыя гаворкі. Улазілі з асцярогай, аберагаючы прывязвацца да калгаснага, захоўваючы сваю волю.

І ўсё ж прыглядваліся, вымяркоўвалі, стараліся загадзя вызначыць: як там будзе? Калі прыйдзе нявыкрутка...

Чым далей, тым больш цвярдзела ў людзей адчуванне, што, як там ні думай, прыйдзе, і, можа, у недалёкім часе, і іх пара. У гэтым пераконвалі іх тыя незлічоныя сходы, на якіх адно настойвалі перад імі: ідзіце, уступайце,— тое, што настойлівасць гэта з кожным месяцам і тыднем усё мацнела. І не толькі на словах. Як знак новага наступу, узялі сабе куранёўцы і апошнюю навіну, якая, на думку некаторых, магла мець дачыненне да многіх.

Нярэдка стылі холадам хаты, звала не накормленая, не напоеная ў час жывёла.

З восецяў, з гумнаў начамі патыхала цёплаю брагаю, несла асцярожным дымком. Мала калі гналі столькі самагонкі, як у гэтыя дні і ночы. І мала калі столькі пілі.

З разумення таго, што трэба аддаць заніўто, загубіць самому ўсё набытае, нарадзіўся зусім іншы погляд на дабро сваё, на гаспадарку.

Незвычайнае рабілася з людзьмі: яшчэ нядаўна ашчадныя, беражлівыя, яны цяпер не надта дрыжэлі над набыткам сваім: штоночы ў розных кутках з хлявоў выбіваўся перадсмяротны віск і мэканне. У паветра цяпер больш, чым калі-небудзь, унізваўся пах смажанага, пах сытага жыцця. І рэзалі і смажылі потай, хаваючыся ад суседзяў, а тым

больш ад начальства, можна сказаць з большай, чым заўсёды, стоенасцю.

Рабілі так, нібы хапаліся, нібы баяліся не ўправіцца. Адчай весялілі самагонкаю, ад таго, што адчай, трывога за заўтрашняе тачылі ўсё ж, ахвотна аддаваліся весялосці, аж лішне нібы бесклапотнай. Знарок падбівалі весялосцю: рэдкая, працятая хмелем весялосць карагодзіла ў хлявах і хатах Куранёў.

У тых адважных гаворках, што прарываліся між адчайных, захмялелых сваякоў і сяброў, мудра раілі адзін аднаму: «Пусціць трэба ўсё!..» «Пажывіцца хоць раз — перад камулекцівам!» «Казна багатая — дасць усё сваё. З горада прывязуць!»

З гэтым паўзла па хатах іншая гаворка-чутка: казалі, нібы ўсё тое, што хочуць адабраць у калгас, потым перададуць у горад. Для таго і збіраюць. Чутка гэтая змрочна гняла душу, але ж яна і паддавала ахвоты і весялосці.

Як бы там ні было, дзень за днём меншала і меншала ў Куранях авечак, свіней, цялят.

Было б несправядліва казаць, што ў Куранях ніяк не думалі пра заўтрашні дзень. Думалі як заўсёды, і можа надумалі больш, бо большая была трывога. Гаспадарлівых трывожыў прывід чорнага дня, голаду. Прадбачачы загадзя, турбуючыся, рабілі што маглі, каб спаткацца з днём гэтым не з голымі рукамі. Запасалі, запраторвалі ўсё, што магло захоўвацца, не псавацца. Мяшкі з жытам і бульбаю, торбы з крупамі давалі нейкую пэўнасць на выпадак чорнага дню.

З турботай пра чорны дзень, пра тое, што немагчыма прадбачыць, было і яшчэ адно стаpанне гэтых дзён. Затойвалі — закопвалі, засоўвалі ў патайныя месцы — найбольш важныя для сябе, дарагія прылады. Ворчык, вось, новае кола, вуздэчку — усё, што магло спатрэбіцца на выпадак, калі давядзецца ладзіць гаспадарку нанава...

Хоня глядзеў на ўсё, што адбывалася ў Куранях у гэтыя дні, вясёлымі вачыма. Ніколі не было яшчэ такога цікавага ў Куранях! А, заварушыліся, закруціліся, прыпякло. Захадзіла, балота. Ляжала, ляжала, ціхае, і от на табе: як чэрці захадзілі ў ім.

Як не смяяцца было вясёламу Хоні, калі бачыў смешную баязлівасць, бачыў, на якія хітрыкі ідуць, каб ашукаць небакага. Як калолі, рэзалі, і смажылі, і елі столькі, што жывакаты трашчалі. Каб маглі, дык і хамуты і колы пераганялі б, пэўна, на гарэлку ці смажылі. Пацеха, ды і годзе!

Вестка пра раскулачванне Хоню ўзрадавала. Не трэба было быць прарокам, каб загадзя падказаць, што першымі пад раскулачванне пойдуць Карчы. І што старому вырвуць корань — рад быў, але асабліва цешыла, што саб'юць пыху нашчэнт — маладому Глушачку, Яўхіму. Які яшчэ нешта строіць з сябе. Нібы яму ўсё ніпачым. Брала асцярога: як бы Яўхім не выкінуў чаго, калі прыціснуць, але вопыт падказваў: нічога не зробіць. Сілы слабаватыя, уміг, калі захоча разгарнуцца, скруцяць. Не тая пара!

Думкі нязменна вяло да Нібыто-Ігната. Крыху шкрабло неспакойнае: як бы не зачапілі і гэтага: невялікі багацей, але і бедняком не палічыш. А галоўнае: па гаворках, па настрою, дык мала лепш за Глушачкоў, язык, можа, і даўжэйшы. Ды і замашкі проста панскія. Але супакойваў сябе, схільны бачыць усё ў добрым святле: не раскулачаць, якніяк чырвоны кавалерыст, герой вайны за савецкую ўладу. Не забылі гэтага, улічаць, затое, пабачыўшы, што робіцца, задумаецца, не інакш, прыціхне. Гэтае заставіць збавіць пыл. Зразумеўшы, што робіцца, і на яго, Хоню, канечне, інакш зірне, «багацей». І Хадоська прыціхне, за розум возьмецца.

Пара канчаць камедыю. У калекціў пара...

Чарнушка глядзеў на куранёўскае ўтрапенне са шкадаваннем. Спачуваў людскому неспакою, не судзіў строга: ці людзі вінаваты, што кідаюцца з апаскаю? Кожнаму дабра хочацца. Не судзячы людзей, Чарнушка без зларадиасці думаў і пра Глушакоў. Што б там ні было, Глушакі былі сваякамі, хоць і паганымі; стары меў рацыю, калі напамінаў: як там ні выйшла ў Яўхіма з Ганнаю, а ім няма чаго есці адзін аднаго. Чарнушка і не меў ахвоты есці некага, мірны характарам заўсёды, ён і тут за лепшае лічыў мір. Не любіў Чарнушка злосці. Не толькі таму, што быў паблажлівы,— ведаў, пераканаиы быў: злосць родзіць злосць, помста — помсту. Толькі і толку з усіх гэтых звадак. Казаў гэта і жонцы, але тая не разумела: уся была поўна помслівасці на Глушакоў. Поўная была злосці на іх, на ўвесь свет: адкуль толькі набралася столькі.

У адносінах да Глушака мела значэнне такая развага: усім трэба жыць, трэба і яму. Абрэзалі, прытрымалі — гэта добра, а так — няхай жыве. А што багаты быў — дык тое было раней, ды і ці адзін ён да багацця рваўся. Хіба другія, каб маглі, не ўлезлі б у багатыя. Мала хто не лез, ды не ўсім

удалося... Яўхім — гэта другое, гэта — паганец. Етаго зануздалі б. Каб прыціх трохі, на Ганну не шчэрыўся.

Ганна, Ганна,— пра што ні думаў, думкі нязменна вяло да яе. І ўсе трывогі, і надзеі былі аб ёй, для яе. Яна і цяпер была яго самым вялікім клопатам. Не чуў супакаення ад таго, што яна ў школе. І там дастаць можа яе бяда. Ды і што гэтае яе становішча, часовы прыстанак. Няма ў чалавека надзейнага месца ў жыцці.

Хоць насядала Куліна, Чарнушка амаль нічога не рэзаў. Не хаваў нічога. Хоць і маркоціла вайна ў хаце, трымаўся свайго, як вялела сваё сумленне. І ўсё цвярдзела думка пра калгас, і паказваў гэта Куліне: трэба ісці. Дабівающца, значыць — трэба. Па ўсім жа відаць: другой долі не будзе. Толькі гэта. Дык чаго кідацца попусту, цягнуць дурное...

Гэтыя дні былі неспакойнымі і цяжкімі для Міканора. Яны ставілі Міканора перад няпростымі загадкамі. Пачаць хоць бы з таго, што ў калгасе аказалася ўсё не такім простым, як спадзяваўся. Не ўсе рваліся рабіць, не ўсе так балелі за агульнае, як трэба было.

Не заўсёды ў час кармілі і не заўсёды добра даілі кароў. І малако не бераглі, не так, як сваё. І пра падсцілку для кароў і цялят напамінаць трэба было. І коні, калі ля іх хадзіў Зайчык, не заўсёды добра былі накормлены. Падкіне сена, што пад рукой, і даволі. Усё хаханькамі адбываўся. Як бы ў гульню якую гуляў.

Не толькі Руды, а і некаторыя іншыя неахвотна ішлі на гразкую ці халодную работу. Шукалі выгаду, лягчэйшую і прыемную работу. У мароз у лес ці па сена загадваць трэба было выбірацца...

Былі ў калгасе, а не забывалі старых звычак. Да абагуленай скаціны адносіліся па-рознаму, помнілі яшчэ, каторая свая і каторая чужая. І чужую не надта шкадавалі: і падлажыць маглі пабольш, і гналі нялітасціва, і кінуць маглі ў канюшні без догляду. З-за гэтага між былымі гаспадарамі ўзгаралі нават сваркі, звадкі.

Чым больш ішло ў калгас, тым цяжэй было дабівацца ладу. Не толькі таму, што за ўсім трэба было сачыць, выпраўляць усё, а клопату з большаннем людзей дадавалася. Сярод тых, што прыходзілі цяпер, больш было несвядомасці і няшчырасці, якія дадавалі Міканору турботы. Да тых прыкрасцей, што меў Міканор, людзі нярэдка з самага пачатку

прыносілі яшчэ адну, самую агідную. Ужо, калі ўступалі, Міканор не аднаго лавіў на тым, што абагульняюць, няцуць у агульную сям'ю не ўсё. То калёсы прыхоўваюць, то цяля ці авечак не аддаюць або аддаюць не ўсіх.

Міканор, ловячы такіх, гнеўна выкрываў і загадваў не ашукваць, абагульваць усё. Гразіўся, што прымаць не будзе і таго-сяго не прымаў. Але гэта мала памагала: людзі выкручваліся, даводзілі, што цялят і авечак тых даўно няма, і яго ж самога вінавацілі, што не прыяе працоўнаму сялянству, што хоча ў калгас. Заблытанасць становішча была ў тым, што зверху націскалі даваць тэмпы, і прымаць трэба было пабольш і хутчэй, тым больш што і Курані і сельсавет у цэлым і так ужо адставалі ад агульнай хады. І таму стрымліваць вельмі людзей нельга было, і даводзілася прымаць.

У газетах, якія чытаў Міканор, пісалася, што ўсюды серадзякі масай хлынулі ўжо ў калектывы. У Куранях і вёсках навокал Міканор не бачыў такога. Серадзякі ішлі няпорстка, а бяднейшыя часам — дык яшчэ горш. Хоць, здавалася, і траціць не было чаго асабліва. Проста з-за асцярогі. І не спяшаліся надта, і, рашыўшыся нарэшце, стараліся даць паменш.

Міканор не дзівіўся асабліва: ведаў сваіх. Але ад гэтага не меншай была злосць: разумнейшымі за ўсіх быць хочуць. Абхітрыць усіх намерваюцца. Усё толькі аб сваёй выгадзе. Усё — аб сабе толькі.

З такімі — даб'ешся дабра! — брала часам невясёлае. Брала, хоць гнаў як мог, трывога за калгас, за яго будучае...

Гонар перадавога чалавека не даваў яму сaступаць перад цёмнай, мужыцкай хітрасцю. Яны «разумныя», і ён таксама не дурны, супакойваў не раз сябе Міканор, які не даваў сабе траціць адчуванне, што бачыць усё навылет.

Калі зашалела дзікая, мужыцкая сіла знішчэння, Міканор рашуча рынуў у Юравічы да Башлыкова.

— Хутчэй абагульняць трэба,— заявіў ён непахісна.— Покуль не перарэзалі ўсяго. Толькі так астанецца нешта.

Башлыкоў падтрымаў яго. Сказаў, што хутка пачнецца рашучы наступ.

Вестку пра раскулачванне Міканор і зразумеў як абнадзейлівы знак таго, што нецярпліва чакаў.

Цяжкія, супярэчлівыя думкі Міканора пранізвала спадзяванне на раптоўныя змены...

Калі адзін на адзін пільна перабраў пісаніну ў газеце,

Глушак зразумеў: кончаць. У халодных, нялёгкіх для разумення вучоных выразах вычытаў: літасці не будзе. «Па валасах не плачуць».

Усе дні помніў прамову Сталіна. Помніў: тое, чым жыў, руйнавалася. Усё, што рабіў, чаго дабіўся, пойдзе пылам. Канец прыходзіў. Канец, якога не ўхіліцца, ні адвесці.

Прысуд ужо гатовы, самы жорсткі прысуд: на знішчэнне. Хоць прадбачыў раней, што да гэтага ідзе, супакойваў усё ж, дурань, што неяк абыдзецца. Ёсць, маўляў, бог на свеце. Не абышлося. Халадзела ўсярэдзіне, калі ўяўляў, як будзе далей.

Цэлымі днямі сядзеў дома, не паказваўся нідзе. Не было куды паказвацца. Што за толк быў паказвацца, бачыць, як драпежна цікуюць: як табе гэта?

Сланяўся з кута ў кут. Усё валілася з рук. Дрыжэлі калені, брала такая слабасць, што садзіўся.

Бачыў, старая бядуе, сочыць здурнелымі сабачымі вачыма. Яўхім нібы і не бачыць,ззелянелы ад п'янства, як бы няцямны, абыякавы да ўсяго. І так цяжка, а тут і ў доме няма да каго прыткнуцца. У доме, сярод сваіх, адзін. Адзінокі, як друк гнілы. Ні на што не здатны.

Пагана было на душы, так пагана, як ніколі, пэўна. Горш за ўсё было ад таго, што разумеў: ніякага ратунку няма і не будзе. І нельга было нічога зрабіць для сябе. Заставалася адно: бязглузда сядзець ды бязглузда чакаць канца...

Тое-сёе зрабіў загадзя. Хоць па дзяшоўцы, сплавіў двух коней, зарэзаў цяля, карову адну аддаў далёкаму сваяку ў Мокрым. Грошы, што заставаліся з той вайны, нікчэмныя цяпер, на ўсякі выпадак бярог, перахаваў у лесе, прыбярог у патайной схоўцы, сала. Яшчэ ўвосень зварыла вопратку галава. Хоць балела душа — нішчыць лад свой самому, але адужаў сябе, хапіла розуму.

Цяпер часам прыходзіла: як бы яшчэ прыхаваць. Затраторыць ад вачэй варожых. Але цяпер, па снезе, пад наглядам, і думаць не было чаго. Ды думаць і не маглося.

Вярэдзіла больш заглядка ў будучае, практычнае: як будзе далей? У турму пасадзяць ці на волі пакінуць? Калі на волі — то ці дадуць хоць што з сабой, на пражытак? Ці пакінуць хоць стопку якую пасяліцца? А не дадуць — як і дзе жыць? Куды падацца? Да дачкі ў Алешнікі?.. Успамінаў ясна: зяць коса глядзеў. Родная дачка не рада будзе. Не захоча.

Старцам хадзіць? Прасіць скарынку? Як апошняму жабраку.

Калі прыходзіла такое, гарачае пякло душу, злосць кідалася ў галаву. Бліскала момантнае, ярае, сляпое: спаліць усё сваё, агнём пусціць! Перабіць жывёлу ўсю, пасеч прылады. І спаліць. Каб нікому не дасталася. Сляпая пякла нянавісць да галоты, асабліва да Дамецікавага сабакі Міканора. Біў бы, здаецца, душыў бы!

Але тут жа брала звыклая, праклятая цвярозасць. Не папаліш, не пасячэш, не задушыш. І сілы няма, і адвагі няма. Паліць хіба — дык так, каб згарэць і самому. Але згарэць сам не мог. І богам гэта, ведаў, не дазволена, і — баяўся. Стары, на прытыку канца, баяўся смерці. Хацеў жыць, жыць.

Проста стагнаць гатоў быў — так хацелася жыць.

Ад таго, што хацеў жыць, чуў страх. Незвычайны, агідны страх. Страх за заўтрашняе, за гаспадарку, за сябе. Найбольш за ўсё — за сябе.

Страх і бяссілле, бадай, больш за ўсё чуў у гэтыя дні. Ад гэтага часам думалася: няхай бяруць усё, калі ўжо іншага выхаду няма. Толькі дадуць жыць, рабіць. Ён рабіць можа, не адвык, на сябе заробіць.

Настрой, характар паводзін чалавека вельмі залежыць ад яго становішча. Калі б Глушак, як калісьці, чуў моц сваю, іншы быў бы Глушак, асабліва ў такой сітуацыі, калі бяруць за горла. Дужы, упэўнены, цвёрды быў бы Глушак, як мае быць даў бы таму, хто пацягнуўся да горла. Даў бы так, што кроў з носа. Але цяпер чуў, што даць нельга. Замахнуцца нават нельга, бязглузда. Няма грунту пад нагамі.

Гэта мяняла ўсё. Ад гэтага бяссілле было і крыўда ад бяссілля. Бяруць за горла, а не дасі ў пысу. Каб кроў з носа. З бяссілля строіў сабе надзею, хапаўся за яе. Хоць ведаў: пустое, прасіў-маліў бога, каб стварыў цуд. Каб вайну наслаў. Вайну б! Яна адна магла б змяніць усё. Адна надзея на яе. Дык не ж! Балбаталі, балбаталі, грэзіліся з-за мяжы, а ўсё — не, няма. Больш на словах смелыя, паны! «Ваякі!»

А як няма адтуль нічога, дык тут няма чаго і рыпацца. Самім падстаўляць галову пад колы... Успамінаў смелыя замашкі Цацуры і Яўхіма і зноў казаў сабе: дурны. Правільна казаў: калі ўжо жыць нязмога — за граніцу паспрабуйце. А так няма чаго і рыпацца...

Ад бяссілля, ад крыўды, плакаў старэчымі, кволымі слязамі. У наплыве каяння ўспамінаў грахі, маліў бога зліта-сціцца. Як рэдка калі, апантана цягнуўся да бога. Бог быў падтрымкай, адзінай надзеяй у яго адзіноце і бездапаможнасці.

Яўхім, на дзіва сялу, не паказваў страху. Ды і суму не надта відаць было. У расхрыстанай сарочцы, у хвацкі нахіленай на вуха шапцы, з-пад якой лез чуб, ішоў па вуліцы так, што было відаць: усё ніпачым.

Праўда, гэтая хвацкасць, аж лішняя для яго гадоў, паказвала найбольш праніклівым куранёўцам, што не так лёгка на душы яго. Ды п'яны век нездарма ж крочыў, не з добраганаліваў у сябе без продыху самагонку. Ды і ў позірку з шалёнай задзірыстасцю стыла нядобрая, важкая маркота.

Весяліўся. Чуючы, што дні злічаны, што мала засталося, як бы наліўся раптам адвагаю, сілаю. Ведаў: не адзін са зларадн асцю цікуе, чакае яго бяды, знарок, як з выклікам ім, ускінуўся — няхай глядзяць. Толькі пабачаць, што ён не з тых, што гнуцца. Што яму напляваць на ўсіх іх.

Дружку свайму Ларывону, што трохі дрыжэў, са смехам казаў: «Пагуляю да астатку! Вазьму сваё!»

Ларывон з дурнаватай прастатой усё хацеў выпытаць: «А што далей?» Яўхім не казаў, але выглядам паказваў: далей таксама не прападзем. Няма чаго да часу забіваць галову.

На адзіноце, асабліва ў хвіліны працверазення, калі ламіла галаву ад гарэлкі, упарта браў цяжкі роздум. Цяжка варушылася злосць на Міканора, на Ганну, на старога, на Зубрыча. На ўвесь свет, што гняце з усіх бакоў. Жыць не дае.

Балела, пякло па-рознаму. Успамін пра Ганну пёк больш крыўдаю: не любіла, кінула, ганарліўка, строіць невядома што з сябе. Пайшла шукаць лепшага,— з асалодай, з помслівасцю прыніжаў яе, прыдаваў ёй: захацелася большага, новага кныра. Лаяў яе апошнімі словамі і не мог супакоіцца: вярэдзіла недзе тонкае, унізлівае жала шкадавання.

Пра бацьку думаў з раздражненнем: з-за гэтага хліпкага, баязлівага старога аказаўся ў дрыгве, з якой чорт ведае як выбрацца. Замест таго каб недзе раскошаставаць на волі, вымушан чакаць, калі зацісн уць на шыі вяроўку. Старая ламачына, і сам нічога не робіць для ратунку і нікому не дае.

Як пра ашуканца думаў і пра Зубрыча, балбатуна і слімака, што тлуміў яму галаву, прымусіў спадзявацца. Праўда, у думкі пра Зубрыча ўбівалася іншы час надзея: ва ўсім свеце быў адзіны чалавек, што абяцаў падтрымку. У выпадку чаго.

Самая вялікая злосць была на Міканора: усё варожае бачылася ў ненавісным васпаватым аблічны куранёўскага актывіста. Тым больш ненавісным, што блізкім, рэальным і разам — нахабным. Іменна гэтага рукі цягнуцца, бачна, зашмаргнуць пятлю. Цягнуцца нецярпліва, на пацеху ўсёй навакольнай галоце. Думаючы пра Міканора, не раз цешыў сябе відовішчамі: Дамецікаў выблядак у лужы крыві. Да нецярплівага дрыжання ў руках проста, вачавідкі бачыў, як цэліцца ў ненавісную пысу. Рукі самі сабой ціснулі на кручок абрэза.

Думкі, відовішчы ішлі, беглі, мяшаліся, блыталіся. То прабіваліся, нібы ў тумане, то акрэсліваліся з хваравітай яснасцю, спляталіся жаданні, надзеі, кружылі, ціснулі галаву. Спрабаваў і часта не мог выбрацца з неадольнай блытаніны.

З блытаніны гэтай стараўся вырваць галоўнае: як ■ усяго вылезці. Трэба рашаць штосьці як хутчэй, штосьці дзеяць. Разумеў: трэба кудысьці кінуцца, пакуль не захліснулі пятлю. Але куды кінуцца?.. Тут не раз цьмяна бачыўся Зубрыч, яго падмога.

Трэба кінуцца, а не кідаўся. Не мог. Не было ахвоты, імкнення. Не па ім гэта, кідацца так, як заяц. Кінуцца, дык так, каб зналі Яўхіма. Каб зналі, што Яўхім гэта Яўхім. Быў Яўхімам і застаўся. Кінуцца — дык каб пачулі. Каб прымоўклі, прыкусілі языкі. Тады ўспамінаў закопаны пад сцяною ў гумне абрэз, які чакаў пары.

Пара гэта прыйшла. Ударыць па васпаватай заразе. А тады ўжо махнуць куды-небудзь. Хоць за граніцу, як раіў стары. Недалёка. Ці яшчэ куды. Тут, пэўне, гэты гарадскі «друг» памагчы можа...

Аб чым ні думаў, прыходзіла на памяць Ганна. На ўсё нібы глядзеў і яе вачыма. Нібы і для яе рабіў. Хацелася: яшчэ раз пабачыцца. Перад тым як знікнуць... Думаў, строіў планы і ўсё адцягваў. Не ведаў сам: чаму? Можа, яна, Ганна, трымала тут, блытала...

Піў, думаў, чакаў.

## [РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ]

Васіль, як і належыць мужчыне, стараўся увесь час трымацца паважна і смела. Але ні паважнасці, ні смеласці цяпер у яго не было.

Тое ўтрапенне, якое вярэдзіла іншых у Куранях, лезла ўпарта і ў Васіля. Як было не чуць гэтага: усё сяло жыло адным хваляваннем: калектывам, адчуваннем, што ўсё ідзе да яго і іншага не будзе. Пра гэта гаварылі на вуліцы, на кожным двары, гэтым жылі ўсе ў Васілёвай хаце: дзед, матка, Маня, смаркач Валодзька.

Васіль — чалавек цвёрды, свайго розуму — разам з тым не мог не слухаць, што робіцца. Слухаць, бачыць навокал належала яму, як першаму, старшаму каню ў статку. Уся адказнасць, не забываў ніколі, найперш на ім: прамаргаеш — усё пылам пойдзе, загубіш не толькі сябе, сваіх усіх і ўсё загубіш. Ганьбай вечнай зганьбіш сябе.

Чуццё, адказнасць увесь час прымушалі трымацца пільна: момант востры. Усё паварочваецца, ідзе на злом, і што там далей — адзін чорт ведае. І хоць невядома, не відаць нічога, трэба рашаць, бо і так можа быць, што, спазніўшыся, можаш усё загубіць.

Усе вунь рашаюць. Адзін за адным, прыбярогшы тое-сёе на чорны дзень, кідаюцца ў плынь, да іншых. А тыя, хто не кінуўся, гатовы вось-вось таксама за імі. Толькі, бадай, адзін Нібыто-Ігнат, прыяцель найлепшы, цвёрда трымаецца ранейшага свайго: што б там ні было, стаяць на сваім беразе. Васіля ўражвае яго цвёрдасць і смеласць, Васіль для прыліку нават падтрымлівае словам яго: так і трэба. А ў душы яго цвёрдасці такой няма, трывожыць у душы Васіля смеласць Ігната, здаецца проста безразважнай. І Васіль чуе, што не ведае, чым усё гэта можа скончыцца для Ігната.

Так што ў адносінах Васіля з найлепшым сваім прыяцелем паявілася насцярожанасць і некаторая няшчырасць.

Усяляк паказваючы нібы былую самастойнасць, Васіль прыглядваецца да іншых, шукае парады. З Чарнушкам неяк шчыра пагаварыў, параіўся: стары чулым, разумным словам крануў Васілёў неспакой, амаль пераканаў, што і ім, нідзе не дзенешся, дарога з усімі, у агульны кагал. Пацягнула раптам у гэтыя дні Васіля да Хоні: чулася, што і Хоня, падобна, у яго ж стане. Праўда, у Хоні свая завязка, але ж таксама чалавек на раздарожжы. «Упіраецца ўсё! —

скардзіўся Хоня.— Але нічога, уламаю, буць не можа... А ты — ідзі. Не мароч галову сабе лішне!..»

Але Васіль не мог не марочыць галаву. Не было яснасці: крыга пад нагамі то ламалася, але кідацца ў ваду не было пэўнасці. Хоць іншы раз, з адчаю, быў ужо блізкі да гэтага: а, што будзе, тое будзе! У гэтым балючым разломе, калі моташна станавілася ад думання, страхаў, дома часта кіпеў, выбухаў. Дома, замест таго, каб супакоіць, падтрымаць чалавека, яшчэ дадавалі неспакою, болю.

Злаваў яго і малы, які, прыбягаючы дахаты, радаваўся вэрхалу, што рабіўся ў сяле; наслухаўшыся настаўнікаў, хмурна зіркаў на Васіля, што трымаецца невядома чаго. Злавала і Маня, што самымі дурнымі словамі кляла ўсё: і калгасы, і людзей, і ўвесь свет. І ніяк не хацела даўмецъ, які камень павесіла яму, Васілю, на шыю сваім бацькам, сваяцкасцю такой. Якая як бы не пацягнула і іх на дно, калі возьмуцца раскулачваць. Мала цешыў стары Дзяніс, які то раіў не хапацца, агледзецца яшчэ, то памагаў матцы: слухацца трэба яе. А матка дадавала страху, пэўне, найбольш: то прынясе чутку: «Усіх, хто не пойдзе — раскулачаць», то ўсё пералічвае, хто падаў заявы, хто збіраецца. Уся ў трапятанні, як асіна...

Усе раяць, а рашаць Васілю аднаму. І адказнасць за ўсё — на адным. І рашаць пасля ўсіх парад не толькі не лягчэй, а ўсё цяжэй робіцца. Кожны толькі яшчэ заблытвае.

А тут пад бокам яшчэ Міканор. Міканорава хата, у якой век поўна народу, Міканораў двор, у якім кожны дзень нібы не зусім знаёмыя, розныя людзі: лёгкія, адчайныя, нявесёлыя. Усё перад тваімі вачыма. З усёй мітуснёй, разламанасцю, бязладдзем і як бы напамінкам: што не мінеш і ты. Як бы з папрокам: пагана, што ты дасюль яшчэ цягнеш. Мазоліш вочы...

У цяжкім, няроўным думанні ішлі дні. Ці ў хляве, ці ў гумне: усё пра адно. І нязменна пры гэтым нібы чуў непазбежнае: блізка канец. Як бы там ні было. І таму, усё што рабіў па гаспадарцы, усё, што бачыў, было ▪ сумам: як бы чуў развітанне. Ад гэтага бачыў усё са шчымлівым жалем: каня, карову, гумно, хлеў. Як ніколі, было ўсё дарагое, мілае душы.

У такія хвіліны не раз прыходзіла на ўспамін Ганна: незразумелы, нейкі цьмяны жаль пёк аб ёй. І тое, што ў яе так няшчасна склалася, пякло асабліва. І асабліва непакоіла, што цяпер яна зноў адна, гадаў: як яна там? І так хацелася

да яе, прытуліцца, не пажаліцца, а хоць бы проста памаўчаць. Хоць бы штосьці мілае было побач, калі так баліць. Калі немаведама што чакае.

«Не судзілася. Цяпер — позна»,— стрымліваў сябе. Нагадваў сабе: малое ў яго.

Цвярозым розумам адчуваў, што ўсё, чым жыў, што целыла і вяло, прападала. Не было куды ісці, дарога прапашыла. Была вялікая, маладая сіла, звычка рабіць, а ісці не было куды. Не было чаго рабіць. Усё страціла сэнс.

«Нічога не зробіш. Трэба к новаму прынараўлівацца»,— пераконваў мудра, па-мужыцку сябе. Як сталы, як стары. А спакою не было.

Цэлымі днямі сланяўся без толку. З безвыходнасці, паддаючыся агульнаму настрою, гнаў самагонку, піў. Не любіў гарэлкі, ад смуроду яе нудзіла проста, але адольваў, піў. Лягчэй станавілася. Усё прасцейшым здавалася.

Аднаго не мог: рэзаць, губіць заніштo жывёлу, набытак свой. Напіўшыся, нярэдка сунуўся ў хлеў і там, абняўшыся, калываўся каля каня. Старая Дзятліха падгледзела: гаманіў пра нешта з канём, як з чалавекам. Аднойчы ўбачыла: прыткнуўшыся да каня, плакаў, як на плячы прыяцеля. Квола здрыгаліся плечы. Дзятліха сама не ўтрывала, зашморгала носам.

Нярэдка ўставаў начамі. Не спаў начамі, уздыхаў...

Ночы доўгія былі. То неба чырвона гарэла і ціснуў мароз. То мяло і не было відаць нават вуліцы.

Марознымі начамі вылі ваўкі...

Ночы, ночы. Дні і ночы студзеня трыццатага года. Дні і ночы цяжкага, пакутлівага думання, вялікіх рашэнняў.

Схіляю перад вамі галаву ў пашане, людзі трыццатага года.

**Раздзелы трэба перапланаваць!** *Ёсць блытаніна. (Можа, Гл[інішчы] асобны раздзел?) Даць недзе: вячоркі, гулянкі (гармонік, Алёша). Наогул — не павінна быць безнадзейнасці. Жыццё ідзе. У маладых — каханне, вера ў сваё! Даць, відаць, пад канец раздзелаў. Пасля ўсіх размоў*[1].

Усюды — і пазней — даваць: вячоркі, гулянкі, заляцанні не спыняюцца. Над Куранямі — бывае рогат, песні. Мо-

[1] Не адзін раз пісьменнік запісвае (на палях), «падказвае» сабе.

ладзь. Жыццё ідзе, сваё бярэ. У дзяцей сваё. Жывёла — карміць трэба. Жыццё ідзе.

Услед за Башлыковым усё большае месца ў рамане (і ў падзеях) бярэ Дубадзел. Сам выходзіць, Башлыкоў выводзіць, падзеі выштурхоўваць яго, Дубадзела, наперад.

Дуб[адзел] адразу чула скеміў: Гайл[ісу] — хана. Ён, Дуб[адзел], зноў на кані. Не сёння-заўтра будзе.

Дубадзелу заўсёды чаго-чаго, а энергіі пазычаць не трэба было. Не было ніколі недахопу энергіі. Цяпер гэта энергія проста рвалася з яго нецярпліва. З таго часу, калі яго знялі з-за ўсякіх падкопаў розных незычліўцаў, швалі рознай, якой ён насаліў, у Дуб[адзелу] жыло адчуванне, што гэтыя падкопшчыкі перамаглі яго і ён жыў імкненнем вярнуць сваё, узяць зноў верх над імі. Не такі быў Д[убадзел], каб проста так змірыцца з тым, што яму падстроілі я́му і ён павінен сядзець у ёй як дурань.

Ён, канешне, знаў, што навялі яго на гэту яму не таму, што ён ціснуў на людзей, еў і піў з іх, мацаў і валіў баб, калі можна было: хто б рабіў інакш на яго месцы. Ён, не дурны, знаў, што злосць на яго і падкопы таму, што ён не крывіць душою, што ён у гэтым муравейніку вядзе бальшавіцкую лінію, што ён барэц за Савецкую ўласць. Што ён бачыць навылёт, хто чым дыхае, хто дзе хоча скруціць перад Савецкай уласцю і што ён цвёрда дае па руках.

Дуб[адзелава] энергія рвалася вонкі і таму, што ён жа бачыў, што навокал рабілася; рабілася такое, чаго ніколі не было. Калектывізацыя ўлезла ў самае балота, разварушыла ўсіх чарцей, захадзіліся, закруціліся чэрці. Як Дуб[адзелу] спакойна было сядзець збоку, не ўлезці ў гэтае сама кодла, не ўткнуць дубіну, папужаць, а потым, як яны вылезуць, пачаць дубасіць іх па чортавых галавах. Ён, можна сказаць, толькі і чакаў такую пару! Яго пара. Пацеха.

Можна было б яшчэ сказаць, што Дуб[адзел] наогул ужо не ўмеў сядзець у цішыні. Ён мог быць толькі на віду, ва ўладзе. Такая была ўжо патрэба. Ён знаў: у гэтым было яго права, якое ніхто не мог аспрэчыць. А як жа, нашто было рабіць рэвалюцыю і грамадзянскую вайну?

З вялікай энергіяй і з разуменнем асаблівага свайго права і абавязкаў узяўся Дуб[адзел] за справу.

(З жаданнем паказаць чарцям, што не скруцілі і не скруцяць, паказаць сябе ва ўсёй сіле.)

Збірае ўпаўнаважаных, дае ўказанне: узняць. Не па-творстваваць.

Гайсае па сельсавеце нястомны, вясёлы — ажыў чалавек, дарваўся!

Працэнт прыкметна ідзе ўгару.

Важна: не такі ён просты. У тым, што ён рабіў, быў свой сэнс. І Башл[ыкоў] не памыляўся, што ён ведае людзей. У Дуб[адзела] быў свой моцны практыцызм, моцная хватка. Ён адразу ўзяўся за слабае звяно: падаткі. Стаў ціснуць тут.

Ведаў, у кожным сяле ёсць такія, да каго прыслухоўваюцца, на каго раўняюцца. Ведаў: абламаць рогі такім, прымусіць пайсці ў к[алга]с, значыць, падзейнічаць на астатніх. І ён узяўся за такіх. Афарміў некалькі спраў, адправіў у Юравічы.

Адным з іх быў Нібыто-Ігнат.

«Я вам не які-небудзь упаўнаважаны. Я вас наскрозь бачу!»

Стычка Дуб[адзела] з Яўхімам. Дуб[адзел]у не дае спакою ўлада. Хочацца паказаць сваю сілу. Каса на камень.

Правацыруе фактычна.

Яўхім робіць замах. Уцякае.

Пагроза арышту над Васілём. Васіль трывожыцца. Але пагроза мінае. Міканор утаіў. Пашкадаваў.

Пасля замаху і ўцёку Яўхіма, старога Глушака раскулачв[аюць]. Выкідваюць з дому. Бяруць гаспадарку.

Калі Яўх[ім] уцёк, бяруць, дапытв[аюць] Ларывона. Да Ганны заяўл[яюцца]. Сочаць за Глушаком.

Яўхіма дома не засталі.

Да Глушака:

— Дзе сын?

— Ён не малы ўжэ. Не пытае ў мяне.

Населі на старую.

— Дзе?

— А я знаю?

Адчувалі па спалоханым твары: ведае. Пагразіліся.

— Анціхрысты.

У слёзы.

Дубадзел вылаяўся:

— Улізнуў, гад. Дачуўся. Хто сказаў?

На Міканора з падазрэннем.

— Ды ты што? Мне не верыш?

— Брату роднаму цяпер верыць не можна!

Сеў.

Нібы рашыў чакаць. Улавіў: трывожныя Глушакі. Можа, не ўзлізнуў? Зноў:

— Дзе ён?

Выйшаў на двор. Прайшоўся з наганам. Можа, дзе тут хаваецца.

— Абшукаць,— загадаў.

Грыбок нясмела. Міканор таксама з наганам. Міканора — агледзець двор, сам насцярожана — к свірну, к гумну. З міліцыянерам.

Каля гумна Міканор нагнаў.

— Не шукай. Каня няма.

Усё ж на ўсякі выпадак агледзеў гумно.

— Стой ля дзвярэй. Напагатове.

Засунуў наган у кішэню. Вілы ўзяў, пачаў пароць у салому ў застаронку.

Відаць, няма.

Калі вярталіся, Міканор прыкмеціў: няма і саней.

Зноў да старой:

— Дзе сын?

Тая ўжо не плакала. Злосць у вачах.

— Ты ў каго выпытваеш, гад?

Выбег на двор. Загадаў Міканору: апытаць суседзяў.

Пайшлі ён да аднаго, Міканор да другога.

Суседзі не ведалі.

Скрывавілі ці баяліся. Заадно з гэтымі.

Міканор даведаўся: паехаў кудысьці за сяло ўранні.

— Праверыць дарогу.

За сялом адразу дзве вялікія дарогі. Раздзяліліся. Міканор з міліцыянерам па адной, Дубадзел па другой.

Прагналі коней кіламетраў па пяць, вярнуліся.

— Празявалі. Апярэдзіў нехто.

Падаліся да Нібыто-Ігната.

Зайшлі ў хату. Дубадзел аб'явіў, што бярэ пад арышт.

— За што?

— Знаеш, нябойсь.

— Не знаю.

— За летнюю кампанію. На абрэзцы. Пакушэнне на ўласць.

— Якое пакушэнне?

— Калі тое було. Спахваціліся!

— Няма твайго заступніка! Гайліса. Прыйдзецца адказаць. Сабірайся.

Што тут пачалося. Жонка ў голас. Дзеці за ёй. Усе — і большыя і меншыя.

Міканору яўна стала не па сабе. Да і міліцыянер, смаркач, сагнуўся.

— Сабірайся!

Нібыто-Ігнат стаў збірацца. Цыкнуў на жонку, на малых. Раззлаваўся раптам.— Дай лепш у дарогу чаго!

Жонка аціхла, схамянулася. Прынесла з сенцаў сала, дастала круглы бохан хлеба. Хацела сунуць у торбу. Ён узяў бохан, адрэзаў акраец, астатняе паклаў на стол.

— Хваціць покуль. На харчы дарэмныя бяруць. Накормяць.

Сала паклаў увесь кавалак.

— Етаго, нібыто, не даюць. Няхай будзе.

Строга, са злосцю нават:

— Дзяцей глядзі! — Абвёў позіркам малых: — І вы, штоб ціхо тут!

Дубадзел думаў было звязаць рукі. Але тут стрымаўся. Адно махнуў рукою.

І тут пачалося. Ледзь вывелі, явілася дачка. Хадоська. Кінулася да бацькі.

— Татачко, куды ж ето яны цябе!

Нібыто-Ігнат хацеў прыкрыкнуць і на яе, але яна не паслухалася. Яшчэ ўзняла голас. За ёй і жонка ззаду. І дзеці. Некаторыя, як былі ў хаце, босыя на ганку.

— Ну, давай! — загадаў непрыступна Дубадзел.

Паўсяла сышлося. На сход, бывае, не даклічашся, а тут — спектакль знайшлі.

Калі Нібыто-Ігнат сеў, загадаў міліцыянеру ехаць.

Моршчыўся: Хадоська бегла за санямі. Муж хацеў затрымаць, вырвалася і за бацькам:

— Татачко, татачко!..

Сапсавала настрой Дубадзелу зусім. Пасля няўдачы з Глушаком і так было прыкра, дык яшчэ дадала.

— Разыдзіцеся! Спектакль закончан!

Загадаў Грыбку пайсці прасачыць за Глушакамі. Калі паявіцца, даць знак у хату Міканора.

Трэба было перакусіць.

Старая Дамеціха коршакам глядзела. Давялося Міканору самому даставаць.

— Не скупіся, стары, развеяцца трэба. Бачыш, якія песні.

Стары дастаў пляшку.

— От, маць яго работа. Другія чысценькімі хочуць быць. А ты за іх старайся!.. Да трэба. Раз трэба — значыць: трэба. Загадае Савецкая ўласць: усё зраблю.

— Ето табе Савецкая ўласць загадувала?

— Ты, старая, маўчы!

Між тым Яўхім вяртаўся ў Курані. Паныла тупаў побач з возам. На возе ацярэбленыя бярозкі, розны падлесак.

Холад выгнаў з хаты. Стары даняў папрокамі. Толькі ў лесе, секучы, павесялеў. А цяпер зноў ціснула нуда, маркота.

Наперадзе быў доўгі вечар. Гарэлкі не было. Надакучыў Бугай. Дый пабойваецца, відаць, слізняк. Круціць стаў. Ці не падацца ў Агароднікі, в Цацурам адвесці душу. А то, можа, да законнай заявіцца,— каб не забывала?

Пасля той размовы з гарадскім, з Башлыковым, начамі багата думаў. Тачыла трывога. Цяпер не трывожыўся. Надакучыла трывожыцца. Абыякавым, здавалася, было гэта, заглядка ўперад.

Ужо на выездзе з лесу наперарэз выскачыла матка. Зводдалек заўважыў: задыханая, напалоханая. Прытрымаў каня.

— Бяда, сынко!

Азірнулася назад.

— Крывароты прыходзіў, пад стражу хацеў узяць!

Ён стаяў. Хацеў думаць і не мог. І дзіўна — не трывожыўся. Не мог.

Як у сне было ўсё. Варухнуў лейцамі, цмокнуў, крануўся побач з возам.

— Не можно! Сынко! Забяруць!

Ён не адразу, абыякава адказаў:

— Завезці дровы трэба!

На самой справе: не мог жа ён кінуць воз. Насек, дык трэба завезці. Там відаць будзе.

Яна ішла ўслед, божкала. Потым ухапіла за руку, затрымала. Стала маліць яго не ісці. Ён пачуў трывогу, але не паслухаўся. Як апоены, рушыў да сяла. Што ж было рабіць?

Сяло — даходзіла ўжо — таіла небяспеку. Але гэта як бы і цешыла. Не было ўжо нуды. Як бы гуляўся з небяспекаю, цікавіў яе. Цікавіў за сялом. Ціха было. Можа, паехалі ўжо. Мінавала ўсё.

Уехаў у сяло, заўважыў блізка ад дому Грыбка. Назірае, значыць, небяспека не мінавала. Заўважыў, як Грыбок асцярожна і хапатліва падаўся кудысьці. Не інакш, да васпаватага.

Насустрач выбег бацька, але ён, не слухаючы яго, павёў каня да павеці. Спыніў, стаў скідаць дровы. Гаворка і стогны старых раздражнялі, замінілі слухаць. Скінуў некалькі дручкоў.

Трымаўся спакойна, ■ быў ужо нацяты. Думаў неспакойна: што рабіць? Упершыню пашкадаваў: праўда такі, мусіць, трэба было спыніцца там. Дарэмна не паслухаў, чуў ужо бяду, якая навальвалася.

Бяда гэта, новая, неўсвядомленая як мае быць, можа, ад стомы, не давала яснасці: што рабіць? Толькі прымушала востра сачыць.

Ага, паявіліся. З-за хаты заўважыў крываротага, потым Дамецікавага. Крывароты, расчырванелы, у шапцы на вуха, у расшпіленым кажуху ўскочыў у двор. Заўважыў у руках яго наган. Наган быў і ў Дамецікавага. Яўхіма працяў момантны страх.

— Матка накарміць от хацела. Да і пагрэцца трэба.— Як бы гуляў.

— Накормяць і нагрэюць! — сказаў грубавата. «Здзекуецца».

— Давай! — ткнуў наганам у плячо.

— Ах ты, гад!

Яўхімірвануўся да яго, ударыў па руцэ. Грымнуў стрэл. У наступны момант Дубадзел ойкнуў ад болю. Яўхім выкруціў руку.

Наган упаў.

Яўхім кінуўся за рог хаты. І ў час: ударыў наган Дамецікавага. Яўхім адказаў з Дубадзелавага.

Васпаваты кінуўся з двара, за плот. Прытаіўся за схо-

ваю, прыцэліўся. Ледзь высунуўся Яўхім, куля чыкнула ля вуха.

Больш Міканору не ўдалося стрэліць. Раз'ятраная Глушачыха, затульваючы сына, раскінуўшы рукі, рушыла на яго.

— Ах ты, аспаваты!..

Яна наравіла дастаць цераз плот. Міканор вымушан быў адхіляцца. Стрэліў яшчэ два разы, але ў такім становішчы — не ўцэліў.

— Прэч, старая! — гаркнуў Дубадзел.

Ён выхапіў з рук Міканора наган і, ашалелы, стаў біць у бок Яўхіма. У белы свет. Пакуль не выпусціў усё.

Тады мацюкнуўся. Загадаў:

— Здавайся, сволач!

Яўхім гарачкава разумеў: цяпер адступаць няма куды. Цяпер — вышэйшую, не менш, дадуць!..

Азірнуўся, як звер. І ўбачыў каня. Убачыў, старая насела на Дубадзела. Кінуўся да каня.

Чуў вецер за сабою, калі ляцеў на кані на загуменне. Да самага гумна дарога была вольная. Веснічкі на двары, як знарок, былі адчынены (Дубадзелам, які хадзіў на гумно).

Ля гумна з каня адчыніў зашчапку, азірнуўся — і на прыгуменную дарогу. Усё было як за туманам, адчуваў толькі лёгкасць: вырваўся. Вырваўся...

— Прэч, старая! — злосна адкінуў Глушачыху Дубадзел.

Ён глянуў на пусты двор, заўважыў: далёка між гумнаў мільганула Яўхімава шапка.

— Упусцілі! — плюнуў. Да старой і Глушака: — Адкажаце за ўсё.

Потым знайшоўся:

— Дагнаць.

Ён кінуўся з Міканорам да саней. Прамчалі на санях за сяло. Але неўзабаве вярнуліся адны.

У той жа дзень Дубадзел арганізаваў пошукі Яўхіма Глушака.

— Нідзе не дзенецца! Як міленькага, паймаюць.

Загадаў Міканору выставіць пост, назіраць за домам Глушака. Як толькі явіцца, акружыць дом з актывам,— не даць вылузнуцца. Паспрабаваць узяць. Зразу ж даць знак у сельсавет.

Тады ж рынуўся ў Глінішча, у школу. Заявіўся да Ганны.

— Уцёк твой законны!

— Такі ён мой, як і твой!

— Такі да не такі! Не паяўляўся? — строга стаў насупраць.

Глядзеў патрабавальна.

— А чаго яму паяўляцца?

— Не було?!

— Буў. Пад ложкам.

— Ты адказуй як належыць. Знаеш, што за ето можа буць!

— Ты чаго прыліп, як ліст!

Дубадзел высвятліў усё ў настаўніцы. Не было. Не паяўляўся.

Тады заехаў да Казачэнкі, загадаў назіраць за школай. Калі што якое, прыняць меры.

З Алешнікаў пазваніў Харчаву, паведаміў пра ўцёк Глушака. Трэба было б раней, але Дубадзелу не хацелася спяшацца, што ні кажы, гэта гісторыя клала пляму на самога. Не змог арыштаваць. А горш за ўсё, што страціў зброю.

— Эх, разявы! — прахрыпеў Харчаў з пагардай.

Харчаў коратка распытаў, як здарылася. Дубадзел расказаў, разумна скрыўшы ўсе падрабязнасці, якія маглі б скампраментаваць яго...

— Чым ён узброены? — запытаў Харчаў.

— Наган у яго. І ўрэзак.

— Адкуль наган?

— А хто яго знае. Прыпас... Хтось папярэдзіў яго,— знарок перавёў гаворку на іншае Дубадзел.

— Куды ён можа падацца?

Дубадзел з палёгкай пераказаў свае меркаванні.

Харчаў сказаў, што прыме меры. Распарадзіўся сачыць, прыняць захады з актывам. Дубадзел паведаміў, што свае меры ён ужо прыняў.

Але, калі павесіў трубку, на душы было трывожна. Чорт пабяры, трэба было так неасцярожна сунуцца. Усё ад таго, што выпіў, дурань. Развезла. Не быў бы выпіўшы, не выкруціўся б так Глушачок.

Так пляснуў яго, гад. Самае паганае гэта — гісторыя з наганам. Што б ні было, гэту гісторыю трэба зацерці. Калі выплыве, сказаць, што гэта паклёп ворагаў. Пакуль жа зноў узяць наган у Качана.

У той жа дзень ён выехаў у Мокрае прыняць захады там. Па дарозе, у Куранях, зазірнуў да Міканора, высветліў, што вядома. Навін не было.

Нібы між іншым папрасіў часова наган на дарогу. Качан не адразу згадзіўся, неахвотна выпусціў з рук.

Як знаў, што назад яго не хутка возьме.

Яўхіма высочвалі, шукалі не толькі ў бліжэйшых вёсках, але і ў суседнім сельсавеце. Але ніякіх знакаў не знайшлі. Як пад лёд праваліўся.

Вырваўшыся ад Дубадзела, Яўхім згарача праляцеў у лес, некалькі кіламетраў лесам, ледзь не выскачыў у Мокрае. Але схамянуўся, недалёка ад сяла, звярнуў на лясную дарогу, дзе па дарозе, а дзе па цаліку абмінуў сяло, у якім чуў небяспеку, і аказаўся ў вялікіх лясах за Мокрым.

Тут былі і вялікія лясы і вялікія балоты, якія перараралі дарогі ў гэты бок. Летам тут не было праезджых дарог, толькі сцежкі для смелых. Цяпер было не лета, былі дарогі, але дарогі таксама нязвыклыя, рэдкія. Тут і Яўхіму было ўсё мала знаёмае. Небяспека як бы адступіла назад, але Яўхіму не было спакою.

Як тут можна было быць спакойным, калі адусюль мроіліся нежаданыя, незычлівыя вочы. Калі становішча было такое няяснае.

Больш таго, ён толькі цяпер пачынаў па-сапраўднаму ўсведамляць сваё становішча. Усведамляць, што здарылася непапраўнае і што дарогі назад усе адрэзаны. Што за ўсё турмой проста яму цяпер не абысціся. Не інакш кокнуць. Ды і сам крывароты можа кокнуць па дарозе. Але што было рабіць, сярод зімняга лесу, сярод халадзечы. У пасталах, у світцы, у штанах, якія абцінаў холад.

Чуў, як стыне на спіне пот. Як вецер халодзіць твар. Слухаў цішыню: ці не чуваць крокаў, і думаў: што рабіць, куды падацца?

Злез з каня: каб даць адпачыць яму. Каб не застудзіцца, пайшоў паволі, поўны сваім клопатам.

Ясна было, назад патыкацца нельга. Там, канечне, цікуюць. Толькі сунься туды, накінуцца ў момант. Пэўне ж, і міліцыю паднялі. Перабіраў магчымае: да лесніка, да якога калісьці захаджваў? Ці ў Агародніке, да Цацуры? А можа, да гэтага ў Юравічах, што абяцаў?

Усё можна было паспрабаваць, і ўсюды магла быць пастка. Але ж трэба было некуды падацца: ныла ў жыва-

це, выбіраючыся зранку ў лес, ён толькі перакусіў так-сяк. Ды і ноч блізка зімняя, і акалець нядоўга.

Калі б не галодны і торба была, мог бы ўсё ж залезці ў які-небудзь стог. Балоты тут вялікія, стагоў тут усюды, што лазы. У любы — выбяры нару і залазь, закрыўшыся, перабыць можна. Конь, праўда, каб не замерз, мароз нешта ўцінаецца.

Недалёка быў дом лесніка, таго самага, да якога ён калісьці бегаў. З дачкой якога круціў любоў. Верачка ўжо замужам, але ляснік, пэўне, не даравяў у думках яго адступлення. А ўсё-ткі нідзе не дзенецца, пусціць у хату, калі добра націснуць на дзверы. Не пабяжыць у сельсавет, наказваць міліцыі, калі даць намёк, што можа быць з ім у выпадку чаго. Калі вока трымаць на ім.

Дом у лесе, у баку ад людскога нагляду. Канечне, там не надта надзейна. Могуць кінуцца якраз туды. Не дурныя ж таксама. Ад Мокрага рукой падаць. Ды і выходзіла як бы кругам вяртацца назад, лезці самому ў зяпу.

Але больш не было куды падацца. Лепшага не было. Свет шырокі, а дарога была пакуль адкрыта адна. Іншай не бачыў. Мерзнучы адзін на дарозе, сярод сцішнага лесу, ён не надта доўга і вагаўся. Рызыкоўны, трохі легкадумны Яўхімаў характар памог хутка павярнуць каня назад.

Ехаў ён аднак асцярожна, увесь час прыслухоўваючыся. Чуў, як недзе секлі дровы, трымаў на ўвазе. Раз-пораз намацваў наган, баяўся згубіць. Сачыў, каб не трапіўся хто-небудзь на дарозе, але абышлося. Дарога была глухая, цяжкая каню.

Ужо вечарэла, калі ён, азіраючыся, збочыў на дарожку, што вяла ўжо толькі да леснікова хаты. І тут ён раптам пачуў сабачы брэх, злы, залівісты. Па брэху ён адразу зразумеў, што ў лесніка на двары — хтосьці чужы. Ён хапатліва прытрымаў каня і адразу павярнуў назад. З'ехаўшы з большай дарогі ў гушчыню ельніку, прытаіўся. Не злазячы з каня, слухаў. Супакойваў каня, што стрыг вушамі і, здавалася, гатоў быў заржаць.

Ён улавіў у цішыні тупат капытоў і гаворку. Цікаўнасць па тупату і галасах адзначыла, што з дарожкі сані павярнулі ў процілеглы бок, сталі аддаляцца. Ён не вытрываў, саскочыў з каня, грузнучы ў снезе, падбег да краю дарогі, адсунуў галіну елкі. Ухапіў позіркам: у санях было трое. Адзін здаўся падобным на Дубадзела.

Яўхім перачакаў і рушыў да дому лесніка. Пад'язджаў

ужо ў поцемку. Яшчэ не ўехаў у двор, як сабакі зноў узнялі гвалт. Ён пазваў старэйшага, знаёмага, і той, малайчына, пазнаў. Моўчкі пайшоў побач з канём.

Гаспадар, што выйшаў на ганак, першы час не мог выціснуць слова.

— Ну, што аслупянеў! — рэзка сказаў Яўхім. Цвёрдым голасам загадаў: — Пастаў каня.

У хаце ён, захліпаючыся, стаў тлумачыць: толькі што быў тут Дубадзел з двума, пра цябе пыталіся. Не паверылі, абшукалі ўсё, сена, салому віламі перапаролі.

— Бачыў,— адказаў Яўхім знарок абыякава.— Паехалі. Значыць, можна буць спакойна. Пад'есці дай, дзядзько.

Перад тым як легчы, ён прыгразіўся лесніку, што, калі той што намерыцца, на тым свеце дастане. Папярэдзіў, што спаць будзе адным вокам.

Узяў толькі падушку пад галаву, выцягнуўся на лаўцы ля акна. Хацеў трымацца ■ асцярогай, але і не заўважыў, як праваліўся ў забыццё. Абудзіўся адразу, у момант ускочыў трывожна, гатовы да ўсяго.

У хаце было ціха. У хляве недзе гарланілі пеўні. Ён прыслухаўся, на палацях нехта не спаў. Падумаў, недавольны сабою: лесніку як плюнуць, проста было звязаць яго ў сне. Трэба было так разлегчыся, як дома.

Ён пазваў лесніка, той адразу адгукнуўся.

Значыцца, не спаў ён. Загадаў яму: даць харчоў на дарогу. За дзядзькам адразу ў поцемках устала яго жонка, узнялася сабраць перакусіць.

— Дзякую,— сказаў ён, адзеўшыся.— Вярнуся калі, аддзячу за ето... Толькі што б покуль — язык за зубамі, ясно. Вы мяне знаеце.

Яшчэ толькі пачынала днець. Яўхім на ганку адно дазволіў бацькам пры выпадку намякнуць, каб не хавалі пакуль. Жыве, маўляў, Яўхім.

Дзень заспеў яго ўжо між балот. А пад вечар ён быў ужо далёка, і за балотамі, і за лясамі. У іншым раёне, і нават іншай акрузе.

Тут, у такой жа балотнай, як Курані, вёсачцы, жылі далёкія матчыны сваякі. Сваякоў у Глушакоў было нямала ў розных краях, але цяпер Яўхіму спатрэбіліся якраз гэтыя. Яны якраз аказаліся на яго дарозе.

Сюды Яўхім прыязджаў яшчэ падлеткам, таксама зімою. Тады дарога сюды здалася бясконцай і нуднай: сваякі былі

бедныя зусім, і Яўхім не разумеў маці, якая пацягнула яго бацькам чорт ведае куды да нейкай галоты. За дзесятак ці паўтара дзесяткі гадоў Яўхім амаль ні разу не ўспамінаў сваякоў, ды і яны толькі раз выбраліся ў Курані, і Яўхім не быў упэўнены, ці знойдзе, ці застане іх, а калі знойдзе і застане, ці прымуць яго.

Ён знайшоў на дзіва хутка: нейкая цётка паказала хату. Сваякі падазрона сустрэлі на двары чалавека з канём, нібы ведалі ўжо, што за госць наведаўся, з якой нагоды. Яўхім не вельмі ўпэўнена назваў сябе, але сваякі, адразу як напомніў пра матку, прызналі за свайго, дзядзька захадзіўся каля каня.

Распрануўшыся, за сталом Яўхім пільным вокам цікаваў, ці не ведаюць што-небудзь пра яго. Хутка зразумеў: не ведаюць, адчуваў адно, што турбуе адна прычына, чаго заехаў, што прывяло. Сказаў, што едзе на станцыю: бацька паслаў, дык матка папрасіла наведацца, пабачыць. Расказаў пра сваіх, строіў з сябе клапатлівага сына, разважнага гаспадара.

Гаворка была мірная, дзеці ўжо не вельмі (неразб.) на госця, дурэлі на печы, на палацях, Яўхім усё прыслухоўваўся да крокаў, да гукаў на вуліцы. Раз крокі затупалі на двары, падабраўся, але зайшла цётка,— аказалася, суседка, спытала пра свайго хлопца: загуляў недзе.

Пілі самагонку, закусвалі агуркамі і кіслаю капустаю. Вялі гаворку. Тут было тое ж, што і ў Куранях, дабіваліся, каб ішлі ў калгас. Дзядзька бядняк, а не спяшаўся, не верыў у калгасы, плююючыся, лаяў камуну, выдумку. Яўхім спачатку падазраваў, што лае для прыліку, каб быць даспадобы яму, сыну багацея, але хутка пераканаўся: гаворыць шчыра. Здаўся ён Яўхіму скупым і прагным страшэнна, і чым далей, тым больш Яўхім чуў да яго непрыхільнасць. Праўда, пачуццё гэтае было прыглушанае: не да таго было Яўхіму. Тачыла ўвесь час Яўхіма трывога і турбота: як быць далей?

Яшчэ днём, едучы, абдумваючы сваё становішча, ён востра адчуў сваю няпэўнасць. Ніколі ён не быў доўга па-за Куранямі і ўвесь дзень чуў сябе, як трэска, кінутая ў ваду. Не ведаў, куды падацца. Ведаў толькі, што трэба некуды падалей, каб Дубадзел не дастаў. Каб выкруціцца ад турмы ці, можа, і большага. Маляваўся нейкі далёкі край, які-небудзь горад, у які трэба будзе дабрацца чыгункай. Конь яму ні на што, каня трэба было б прадаць, тым

больш што грошай у кішэні ні капейкі. Але каму ты цяпер прадасі яго, калі не кожны і дарам возьме. І сярод усяго цвярозую галаву Яўхіма турбавала, што ў кішэні ў яго не толькі грошай пуста, а і паперкі ніякай. Як птушка, без дакументаў. А гэта значыла, ён ведаў, што на любой дарозе сцапаць могуць і не выкруцішся. Ды і на работу, на харч які наўрад ці прычэпішся.

Гэта турбота і жыла ў Яўхіме. З ёю ён і паглядваў, прымяркоўваўся да дзядзькі.

Пад поўнач лучына на прыпечку, што кідала водсвет на стол, дагарэла, дзеці заціхлі, задрамала пры печцы цётка. Яўхім пазваў дзядзьку на двор, каня праведаць.

На двары Яўхім агледзеўся, пайшоў напрасткі:

— Заехаў я да цябе, дзядзька, не па сваёй ахвоце.

Ён памаўчаў, даў зразумець значэнне сказанага.

— Даў я там аднаму гаду ў пысу. Ну і прыйшлося даць драла.— Дзядзьку, у поцемках бачыў, не спадабалася гэта, напалохала. Цвёрда, як загад, аб'явіў яму: — Пра ето не павінна знаць ні адна душа, ясно? Аднаму табе кажу... Астаўляю каня табе. — Бачыў: гэта спадабалася, дзядзька захваляваўся страшэнна. Яўхім аднак не змякчыў тону: — Няхай служыць табе. У цябе сям'я і гаспадарка, такі конь — скарб... — Дзядзька заківаў, стаў разгублена дзякаваць. Яўхім перапыніў яго строга: — Толькі і ты ўдружыць мне павінен: чобаты ці валёнкі, абуцца.— Знарок, з разлікам пачаў абутку: каб завязаць зразумелым умову. Тады, як пра дробнае, быццам у дадатак, прыступіў да галоўнага: — І паперкі ў мяне няма, білета ўзяць... Спяшаўся з дому, забуў...

Дзядзька цяжка даходзіў да таго, якая паперка патрэбна, усё ж чуў нейкую загадку, баяўся. З сумненнямі і цяжкімі думкамі вяртаўся ён назад у хату, пакляўшыся Яўхіму, што нікому нічога не скажа. Яўхім бачыў, што нагнаў турботы яму як належыць.

На другі дзень дзядзька, вярнуўшыся з доўгай адлучкі, пазваў Яўхіма ў хлеў, не пазіраючы ў вочы, уручыў паперку. Яўхім прачытаў: усё як трэба. Даведка сельсавета: «Дадзена ў тым, што гр-н Кашэль Гаўрыла Апанасавіч сапраўды пражывае ў вёсцы...» З пячаткаю і подпісам. Усё як трэба.

— Не хацелі даваць. У Гомель, казаў, трэба, у бальніцу. Не даў бы Хорык, калі б паўлітра не сунуў у рукі заразе...

Тым жа вечарам Гаўрыла завёз Яўхіма на станцыю. Хутчэй пакіраваў назад: рады быў, што можа нарэшце збыць сваяка.

У той жа вечар Яўхім, у тамбуры таварнага вагона, выправіўся ў бок Гомеля.

У Гомелі быў іншы свет. Пра гэта сведчылі рады рэек, вагоны, незвычайны рух, нязвыклыя, каляровыя агні. Нязвыклы, едкі пах гары ад паравозаў.

Але Яўхім не даваў сабе спакою. Ён глядзеў на гэты свет, як на чужы і небяспечны. Свет, у якім любы момант можа чакаць неспадзеўка, што загубіць усё.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

Глушак жыве ў Сарокі. Аглушаны. Стараецца трымацца. «Трэба жыць, як набяжыць».

Стараецца памагаць Сароцы. Але ўсё валіцца з рук. Нават да старой пацішэў.

Сарока не паказвае, дагаджае. Устрывожана. Пра Яўхіма — ні слова. Сын яе коса. Недавольны. У глыбіні — пабойваецца.

Заўважылі — сочаць за імі. Яўхіма сцерагуць. Глушак трывожыцца: каб, дурны, не прыперся.

Прыехаў Сцяпан. На бацьку — холадна, з маткай — шкадуючы. «Убярогся. Як чуў. Етаму ўсе адно. Адрэзаная скібка». «Камунар!»

Глушак пачуў: угаворвае старую, каб перайшла да яго ў камуну... А з ім, як з чужым. Але старая адказала: «Разам звекавалі. Разам дажываць будзем».

Глушак думае: як далей жыць. Не ведае.

І зноў мястэчка, Юравічы — Апейка, яго лёс і яго адчуванні. Думкі яго пра тое, што і як адбываецца. Жаданне разабрацца, зразумець і нечага дамагчыся — не аддаваць усяго Башлыкову, Дубадзелу...

Грэх Апейкі. Бачыць, што калгас распаўзаецца: дазволіў свіней, кур, па карове вярнуць людзям. Гэта абурае Башлыкова.

Антыпартыйнае выступленне.

Бюро. Асудзіць.

Спрэчка. Бой адкрыты.
Дакладвае ў акружком.
Выклікаюць у акруж[ком].
Трывога. Супакойвае: дакажу!

## РАМАН 4-ты

### РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

*Канфлікт Апейка — Башл[ыкоў] адна з галоўных ліній кнігі.*

*Пачаць з Ап[ейкі]. Ці з Дубадз[ела] — кароткі раздзел. Энергічны* [1].

Пастанавілі:

1) Зняць [redacted] пасады старшыні райвыканкома; 2) прапанаваць пярвічнай партячэйцы разгледзець справу т. Апейкі і вынесці належныя вывады.

Яго партыйны лёс цяпер залежыць ад Башлыкова. Апейка ведаў гэты лёс. Ведаў, але цяжка было паверыць, не мог проста ўявіць.

Стаіць над Прыпяццю, думае. Едзе дадому. Ён не памыліўся: выключылі. Неахвотна, але выключылі: Башлыкоў настаяў. Харчаў заступаўся.

— Ты думаеш, усё скончылася.— (Башлыкову) — Ты памыляешся! Я буду дабівацца! Я дакажу!

Ён ужо ведаў: напіша, паедзе у Мінск, у ЦКК. А калі гэтага мала будзе — у Маскву. Ён давядзе сваё.

І ён піша.

Дні беспрытулля і бяздзейнасці. Страшныя дні. Самыя страшныя ў жыцці. Спачуванне жонкі; яе адносіны. Сын — недавер'е і разгубленасць. Добра малая яшчэ не ведае.

Бачыць — кожны ранак Харчаў ідзе на працу. З верай: «Пабачым, хто з нас будзе разумным потым!»

Башлыкоў Апейку як бы не пазнае. Глядзіць, як на слуп. Сустрэліся — не паздароваўся нават; зрабіў выгляд, што — заклапочаны — не бачыць.

«Напалеончык. На шчасце, разгону мала — адзін раён!.. Для каго — на шчасце? — Яшчэ жартаваў.— Для акругі. Не для раёна... на жаль!»

---

[1] Напісана на палях.

Трывога: што робіцца! Рэжуць скаціну! Гаворыць з Чарнушкам. Не вытрываў — у Мінск едзе. «Головокружение от успехов!»

Апейка: псіхоз. Бяссілле сваё. Неспакой.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

Апейка пасля таго, як выключылі, знялі.

а) Несправядлівасць.

б) Дзеці. Як ім растлумачыш? Трэба...

Валодзя пабіўся за бацьку.

в) **Сёстры прыехалі.** Спачатку адна (за брата дакарае), потым другая — з маткаю.

Адна ўздыхала, другая — плача. **Брат.** Як бы вінаваты. Прывозяць **харчы.** Было нешта крыўднае ў гэтым. Але харчы — патрэбны былі. Апейка жыў заўсёды сённяшнім днём. Запасаў не рабіў. Зразу — нястача адчулася.

*Апейка робіць выпіскі з Леніна. Даць. Раней даць. Ноччу — пасля Мазыра* [1].

Галадаў. Аддаваў дзецям.

г) Як бы вінаваты ўсё ж. Як ні апраўдвайся, нібы вінаваты.

Ёсць у людзей вера ў справядлівасць. Калі знялі, значыць, ёсць нешта. Здагадкі. **Плёткі.**

Прыкра ад таго, што ведаў — некаторыя рады.

Спачуванне Зубрыча.

д) З Харчавым (Харчаў на бюро — супраць выключэння. Строгую вымову).

Потым зайшоў.

Дзіўна, калі Ап[ейку] знялі, нават бліжэй сталі. Ён усяляк выказваў падтрымку.

Зайшоў. З бутэлькай, закускай.

Шчырая размова.

— Я так думаю. Пачынаецца новая вайна. І як у вайну: загадана — выконвай.

— Якая ж вайна?

— Вайна, Іван. Не лепш грамадзянскай. Усё пераблыталася... Дзе свой, дзе чужы — разбярыся...

---

[1] Напісана на палях.

— Трэба разбірацца...

— Чорт яму ўлезе ў душу. Другі такі ласкавы, а што тоіць там?.. Зазявайся — можа...нож усадзіць...

— Ёсць такія. Але ж нельга.

— Думаеш, мне не шкода. Не баліць, думаеш, тут.— Стукнуў у грудзі.

— І мне баліць. От як раскулачвалі Ігната з Куранёў. Як высыпалі. Адзін другога менш. Пакуль даехалі — смаркатыя... Як даедуць? Бывае, ноччу прачнешся, ды ўсё ўспомніш. І не заснеш. Таксама — людзі. Калі б мая воля, дарослыя няхай едуць, а малых каторыя — у інтэрнаты. Спецыяльныя. Няхай перавыхоўваюцца... Ну, калі каторае воўкам будзе глядзець потым, тады іншая рэч... Дарослы — па ўсіх законах... Асабліва не магу я дзяцей бачыць. А дзеці ў кожнага, лічы... Думаеш, чым яны вінаваты?..

Апейка маўчаў спачуваючы.

— Але я душу гадзюку-жаль. Нельга шкадаваць. Калі шкадаваць — нічога не зробіш. Усё загубіш. Ты яго пашкадуеш, а ён... Нельга. Вайна.

— Няхай — вайна. Але ж — асобая. Нам жа жыць з імі...

— От ты кажаш — пераконваць. Добра. «Пераконваць». Знаеш, як пераконвалі! Многа — пераканалі?

— Не ўсё адразу...

— Мяккацелы ты, Іван. Бабскае ў табе нешта... Яй-богу, злуйся не злуйся. Строгасць трэба. Асабліва цяпер.

— Я хіба супраць...

— Чакай. Супраць не супраць. Рассусольваць нельга. Трэба, значыць — трэба! І няма чаго доўга. Няхай адчуваюць. Людзям трэба цвёрдая рука. Спачатку — пакрываяцца, а потым — прывыкнуць.

Апейка бачыў: спрачаецца дарэмна. Харчаў ляпнуў па плячы.

— Бач, як пайшлі, калі адчулі цвёрдасць. Толькі саслалі некалькі дзесяткаў, перамяніліся ўраз. Бачаць — чыкацца не будуць...

Задумаўся.

— А наогул — чорт ведае што. Галава кругам ідзе. І ноччу, брат, прачнуся...— Павёў сумотна галавой.— Дзяцей — шкода.

Набалелае:

— Не пашанцавала мне з дзяцьмі.

Апейка ведаў: дзеці паміралі, ледзь нарадзіўшыся...

(Харчаў: раіць пайсці да Башлыкова. Ці кажа: гаварыў.) Пра Башлыкова.

— Дзейны хлопец. Далёка пойдзе, калі не зверне галаву... — Раздумліва: — Толькі — вельмі сам сябе любіць. Так любіць, што не наглядзіцца на сябе. Ад таго лічыць, што і ўсе павінны любіць яго... Пры тым — разумны, сабе наўме. Не зразу і зразумееш... Але — галава кружыцца. І можа — закружыцца! А можа і далёка пайсці. Зялёны пакуль. Абрасце пер'ем, далёка можа ўзляцець!..

Жонка з Апейкам. «Разумней за ўсіх хочаш». Практыцызм жаночы ў яе. За сям'ю трывога.

Разыходжанне. Балела. Стамлялася, нервавацца стала. Пра дзяцей трывога.

Папрокі Апейку.

Яна звычайна стрымлівалася. Таіла. Але ён адчуваў гэта. Маўклівы папрок яшчэ горш.

Думкі апаноўвалі: «Розныя ўсё ж мы... Сухаватасць нейкая ў ёй».

Успамінаў: захопленасць яе грамадскім. Гэта тады зачароўвала. Захапляўся: разумная. Цяпер бачыў: абмежаванасць. Ён, можа, паразумнеў. А ёй — не даходзіць нешта...

І разам — яе страх за сям'ю, за дзяцей. Жаночы страх і жаночае адчуванне небяспекі. Ад гэтага было і шкадаванне да яе.

У размове. Тоіць нешта. Гаворыць пра школу, пра дзяцей — дробнае. Ён адчувае: хвалюе іншае.— Што такое?

— Знаеш, у мяне на ўроку быў загадчык... І з райана.

(Ого! Увага! — хацеў пакпіць ён.)

Яна не падтрымала!

— Правяралі...

— Ну, і што...

— Нічога. Толькі, відаць, мне нядоўга вучыць...

— Гэта — чаму ты думаеш?

— Чула. Таму і прыйшлі.

Ён чуў, як папрок: з-за цябе гэта. Я ні пры чым тут. Яна трымалася. Потым хутка выйшла ў суседні пакой. Плача. Ён не пайшоў. Ведаў, што ўсякае суцяшэнне цяпер — толькі горш зробіць.

Устаў. Стаяў. Гэтага, вядома, трэба было чакаць. Ён і чакаў. І ўсё ж цяпер, калі даведаўся, было пагана.

Ён і ў гэтым нібы вінаваты быў.

Харчава падсцярог. Падышоў. Загаварыў адкрыта. Ведаў: з гэтым так і трэба.

— Ну, я вінават. Чаму ж яна павінна адказваць?

— Добра. Я пагавару.

Ён адразу пайшоў да сябе. Але Апейка чуў: сказаў — зробіць.

Да Апейкі. Калі ён зняты — прыходзіць ад Параскі Ганна. Трэба было ў Юравічы.

Прыносіць сала.

Падсмейваецца з нядолі.

Калі Апейку выключылі з партыі, калі сядзіць мучыцца без справы, ён прыходзіць (да Башлыкова): дайце працу, хоць якую. У калгас пашліце.

Башлыкоў не дае. У школу таксама не дазваляюць.

У млын ідзе.

Да Башлыкова параіў пайсці Харчаў. Харчаў хадайнічае. Сварыцца з Башл[ыковым]. Трэшчына ў іх адносінах. Ап[ейка] вінавата адчув[ае] да Харч[ава].

Хочуць зняць з працы жонку. У школе нельга.

Жонка вагаецца. Папракае: нашто лезці — лбом не праб'еш сцену.

Адчужэнне. Нялад. Прыкрасць.

## [РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ]

Сустракае Сопата — з млына.

Той да яго:

— Што парабляеце?

— А так што — нічога. Па гаспадарцы.

— Не гадзіцца.

— А што ж рабіць?

— Няма работы?

— Так работы хапае... Напісаў я. Чакаю адказу.

— Не адказваюць?

— Разглядаюць, відаць.

— А што разглядаць?

— Ну, праверыць усё трэба.

— Мала правяралі?

— Ды і не сказаць,— засмяяўся.— А ўсё-ткі яшчэ, выходзіць, трэба.

— Штоб гэта ў такі час такі чалавек павінен быў сядзець без справы! — Сопат пакруціў галавою.

— Ну, гэта нядоўга.

— Усё-такі.— Зноў: — Не гадзіцца! — Хітравата, лагодна зірнуў: — Іван Анісімавіч, дак ідзіце ка мне. Калі вам не знаходзяць работы.

— У млын?

— А што ж. Канешне, работа пыльная.

— А я пылу не баюся.— Добра, што на вясёлае павялі: — А чаго ж, можна і ў млын.

— Можна за начальніка. З вамі я гатоў у памочніках.

— Не. Я чалавек не горды. Магу і ў вашых памочніках пахадзіць.

— Яй-богу. Лепей, як там сядзець.

— Я ж кажу. Згодзен.

*З Харчавым (ці з жонкаю дома)*[1].

— Мужык ты,— сказала. Не зразумець: ні то з папрокам, ні то ■ ухвалай.

— Мужык,— згадзіўся Апейка.— Быў і астаўся.

— Шкадуеш ты яго? — з хітраватым, праніклівым позіркам.

— Шкадую.

— Ах ты, Зіна, Зіна, чаму з табою так лёгка? Як ты змагла так, што разышлася паскудная безнадзейнасць, нямілаець да ўсяго. Не можа ж быць, што ўсё гэта гарэлка. Не, гэта таму, што ты, Зіна — чалавек, добры, разумны чалавек. Які пашкадаваў і разумее. Вялікая штука гэта, Зіна, калі разумеюць. Калі ўмеюць зірнуць вось так хітравата, праніклівa.

— Шкадую,— сказаў ён, адчуваючы раптам нястрымную патрэбу гаварыць. Выгаварыцца.— А як жа яго, мужыка, нашага, не шкадаваць? Мы ж ад яго трэбуем, каб ён аддаў самае важнае. Зямлю, плуг, хлеб. Тое, чым ён, жонка, дзеці яго жывуць. Чым жылі яго бацька, дзед, прадзед. У чым аснова яго жыцця. Трэбуем, каб аддаў ён нам усё

---

[1] Важнай для разумення поглядаў і «лініі» Апейкі магла быць размова-спрэчка, спрэчка-споведзь Апейкі ў прысутнасці Харчава (спачатку аўтар на месцы Харчава бачыў жонку Апейкі, затым — Зіну Байкову, якая даўно па-жаночаму сімпатызуе яму, але потым і некалькі разоў напісаў на палях — «З Харчавым»).

гэта — напавер. Бо шчасце калгаснае, якое мы яму зычым, для яго — байка толькі. А ён наслухаўся баек. І па старых — знае цану байкам. Што б мы ні казалі, для яго гэта — байка. Бо жыццё гэтае, якое мы зычым, яму невядомае, нерэальнае. Ён не мацаў яго. Яго трэба было б памацаць. От калі б ён патрымаў яго ў руках — тады б іншае было... Мужык — звер практычны, недаверлівы. Многа яму спявалі баек, абдурвалі, каму толькі ахвота была, от ён і не верыць. І кажа: пачакайце, не ганіце, дайце прыгледзецца! І правільна кажа!.. Ён мае права на роздум, на развагі, на сумненні, і трэба даць яму падумаць, не гнаць яго ў каршэнь! Няўжо трэба розуму багата, каб даўмець, як яму цяжка, да адчаю цяжка! — Апейка памаўчаў. — Тут аднаго, здаецца, даволі было б: уцяміць, што ў ім няма такой яснасці, як у нас, а трэба аддаваць такое...

— Мужык — мужык і ёсць... — свяціліся Зініны вочы. Разумна, зычліва.

— Уся соль, па-мойму, у тым, каб нам паверылі. Паверылі, што тое, што мы робім,— талковае, надзейнае. Каб справа гэта стала справай сэрца людзей. Цяжка гэта, маркотна, і нецярплівасць нас пячэ, але нічога не зробіш. Трэба — каб паверылі! Адзіны сродак: пераканаць, дабіцца, каб паверылі! Толькі там, дзе вера, дзе душа — будучыня надзейная! Толькі там чалавек будзе лічыць усё сваім, кроўным! Не чужым, панскім!.. Вялікая рэч: вера, вера народа! — Сказаўшы апошнія словы, Апейка падумаў, што размахнуўся шырока: вера народа, але ўжо не мог спыніцца.— У рэвалюцыю ж мы перамаглі таму, што ў нашу партыю, у Леніна — паверылі. Народ паверыў. Не забываць бы трэба!..

— Час нас падганяе, Ваня,— ласкава пашкадавала Зіна.

— Падганяе.— Апейка задумаўся.— У арміі добры камандзір, абмазгоўваючы будучую аперацыю, думае, Зіна, не толькі над тым, як дабіцца перамогі, а і якой цаной. З многіх спосабаў выбірае той, які дасць найбольшую карысць пры найменшых стратах. А вера — вялікая страта, Зіна. Добры камандзір павінен бачыць не толькі тое, наколькі хутка возьме вышыню, а і як надзейна замацуецца на ёй. Вялікая ўцеха гэта: бачыць, што кожнае слова тваё даходзіць, што разумеюць цябе.

— Прымусам, вядома, можна многа дабіцца. Народ наш звыклы да гэтага. Мінулае прывучыла. І цяпер можна, улада ў нашых руках...

Многа можна дабіцца прымусам, а і многа страціць! Не ўсяго можна дабіцца прымусам.

Думак было многа, ціснулі, перабівалі адна адну. Нібы зачакаліся, ірваліся на волю. Багаты быў Апейка думкамі ў гэтыя хвіліны, рад быў, што ёсць з кім падзяліцца.

— Каб ён паверыў нам, мужык, трэба, Зіна, каб і мы яму верылі. Верылі хоць бы ў тое, што ён не вораг сабе. Дабра сабе хоча!..

— Галава ў цябе, Ваня! — Зіна дакранулася пяшчотна, пашкадавала: — Неспакою многа дае табе!

Успомніла, на парткурсах Іван Апейка заўсёды церабіў выкладчыкаў пытаннямі: дзівіліся на курсах Апейкавай уедлівасці. Бывала, папракалі за вымудры.

— Дурная галава. Ёй бы і адказваць!.. — Адразу спыніў сябе: вось-вось разжаліцца: — Давай вып'ем яшчэ,— стукнуў шклянкай аб яе.— Слабая гарэлка твая нешта, не бярэ!.. — пакпіў, наганяючы весялосць. Потым зноў задумаўся: — Хочацца ўсё зразумець! Да ўсяго дайсці розумам і сэрцам! Ёсць людзі, якія лічаць за доблесць, што яны ўмеюць не разважаць. Партыя сказала, партыя рашыла!.. Няма чаго разважаць!.. А я хачу думаць, хачу зразумець усё, адчуць, як сваю праўду! Я павінен быць перакананым ва ўсім, і для гэтага я павінен зразумець усё, адчуць! Розумам і сэрцам! Сапраўдны бальшавізм і ёсць перакананасць! Мы бальшавікі — ад перакананняў. У гэтым наша асаблівасць і наша сіла! Сіла! Бо няма нічога мацней за цвёрдыя перакананні! Я бальшавік не па білету, а па перакананнях! Быў такім, і буду такім! Буду заўсёды дабівацца, каб не было нічога няяснага, нявысветленага! Быў і буду заўсёды! — Ён гаварыў горача, адчуваў у сабе ўпартасць, непадатную нічаму. Адчуваў сябе здатным адолець усё, што трапілася і трапіцца. Бачыў перад сабой Зіну, а адчуваў Башлыкова, усіх, хто думаў, што змаглі яго.

Гарэлка хмеліла яго, памагала разганяць скруху. Але ён усё-ткі быў даволі яшчэ цвярозы, каб праз павалоку хмелю чуць бяду, якая ўсё хацела вярнуцца, затуліць, задушыць усё. Гаворачы, чуючы Зіну насупраць, ён увесь час як бы імкнуўся адагнаць бяду, крыўду, роспач. Утрымаць у сабе цвёрдасць духу!

Ён быў нічым. Без працы, без партыі. Багата часу. Куды дзець сябе.

Нікуды не ходзіць. З людзьмі цяжка. Чытае Леніна. Прыязджаюць сёстры, бацька. Брат.

...Трывога Апейкі. Скаргі на прыцясненні. Жорсткасць да сераднякоў.

[РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ]

Разгарнуць шырока Дубадзела тут.

Характэрная фігура. Яго пара.

Паказаць, як разгортваецца погань у такія моманты. Як спрыяе погані такі момант.

Да гэтага Дубадз[ел] едзе з Міканорам. Па грэблі.

— Лішняе ето — сход бедпаты. Нашто ето. Рашылі — і ўсё. Сход шчэ. Валаводзіцца лішне.

— Паложано. Што б — з народам.

— З народам? Сабярэцца ўсякаго — шум падымуць. Гвалт. Распужаюць. А так — зразу б. Цёпленькіх узялі б. Прыйшлі б. Так і так — сабірайся!

— Нарушэнне.

— Знаю. Кажу — як лепей. От сабярэш, скажаш. А ў таго — брат, у таго сват!.. Марока адна!

— Ето праўда.

Міканор сам пра гэта непакоіўся. Канечне, так лягчэй было б, але — рашэнне. А ён сакратар ячэйкі — не абы-што. Павінен сам прыклад паказваць.

Сумненні — аб Ганне. Шкода. І ці правільна.

У с[ель]савеце. Калі абмяркоўвалі спіскі, Дубадзел — калі да Яўхіма:

— Утачніць. З сям'ёю.

— Якая ў яго сям'я...

— Е сям'я.

— Ён адзін.

— Не адзін. Жонка ў яго, па дакументах.

— Дак яна ж кінула.

— Мало што, для віду.

Спрэчкі. Але ўпісалі. Утачнім.

А да гэтага ўтачніў: Сцяпана Глушака ўпісаць — з камуны.

— З коранем ірваць. Не кідаць адросткаў. А то і не агледзішся, як вырасце шчэ!

Быў у сяле багацей — злодзей, канакрад. Нажыў сабе дабро цёмнымі начамі. Не любілі. Яго ахвотней за ўсё рашылі раскулачыць — рукі падняліся ахвотна, дружна.

А аб Глушаку — разброд. Нават крычалі ў падтрымку: сам нажыў! Дабра многа бачылі! З зайздрасці!..

Калі пра Пракопа — маўчанне.

Была ў некаторых і зларадн асць. Гатовы б усіх панішчыць.

Як і чакаў, асноўныя спрэчкі пра тое, каго раскулачв[аць]. Спрачаліся пра Глінішча. Многа. Абаранялі некаторых. Ён настаяў.

Курані — пад канец. Тут было двое. Дуб[адзел].

Тады — спрэчкі пра Ганну. Башл[ыкоў] насцеражыўся.

Калі абмяркоўваюць у с/с на высылку, Дубадз[ел] да Глушак[оў] прывязвае Ганну.

— Што ты ў яе раскулачыш? Спадніцу?

— Дак яна ж кінула. Жыве асобна.

— Мало што асобно. А ў прошлом — була ў родственнай связі. Па дакументах да сённяшняго дня значыцца жонкаю етаго гада — Глушака Яўхіма.

— Чаго ты прычапіўся да яе?

— З коранем ірваць, дак — ірваць не толькі самы галоўны, а і ўсе адросткі.

Башл[ыкоў] складана. Канечне, Дубадзел перагінае. Але заступацца — палітычна няправільны кірунак — на заціск ве ініцыятывы. Можна падумаць: прыкрывае. (А раптам: ведаюць...) «Асабістыя матывы: трэба адкінуць».

— Далей давай.— Башл[ыкоў]. — Пытанне засталося адкрытым.

Можна было падумаць і так, і так.

Дубадзел гэта пазней выкарыстоўвае па-свойму. Прыходзіць раскулачваць.

Думае: як усё рабіць? Ахова патрэбна. Не хопіць сваіх. Ці не будзе выступленняў. Каго ў першую чаргу?

Куды ссылаць будуць?..

*Трэба больш дзеяння. Дыялог. Людзі! Сустрэчы. Размовы. Куранёўцы! Хоня. Зайчык* [1].

[1] Напісана на палях.

**Пагроза арышта над Васілём. Васіль трывожыцца. Але пагроза мінае. Мікаанор утаіў. Пашкадаваў.**

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

Васіль, калі раскулачвалі, не хадзіў нікуды, але сачыў за ўсім, што дзеелася. Бачыў, як праехаў Глушак і Яўхім, як павезлі.

Потым маці прывяла Маню, якая білася ў слязах.

Гэтым жылі і іншыя ў хаце. Маці, што знікла была на нейкі час, вярнулася з навіною.

— Кажуць, шчэ будуць браць. І першымі нас упісалі... Як Ракопавых сваякоў. І шчэ за тое, што з Ігнатам дружыў.

Дзед памог матцы:

— Ето, тым часам, можа быць.

Матка нецярпліва:

— Усе ў калгас упісвацца сабіраюцца. І Петрыкавы, і Сарока, і Чарнушкавы.— Горача: — Васілько! Покуль суд ды справа! Мо злітасцяцца! Усе адно ўсе забяруць ды шчэ й у сані пасадзяць! Ехаць на край свету, на чортаву пагібель!.. Усе адно прападзе ўсё! Дак хоць самім астацца! Малое хоць уберагчы! Да і дзеда, куды яму! Да і самому!.. — Васілю гэта не спадабалася, заўважыла адразу: — Ну, як пра сябе не баішся, дак за іншых пабойся! За малое! Усе адно прападзе!.. — Знайшлася, змяніла кірунак: — А і там жывуць людзі! І мы жыць будзем не горай за другіх. Там, бачыў жа, жывуць, у каго рукі е. А ці ж мы без рук, зломкі якія!

— Праўду матка кажа,— заступіўся за матку дзед.

Васіль адарваўся ад маткі, выйшаў на двор. Прыкра было слухаць: не таму, што няпраўду казала, а таму, што ўсё было праўда і ўсё біла проста ў сэрца, не ведаў, чым запярэчыць.

Неспакойны, трывожны быў гэты дзень у Васіля. Ніколі не адчуваў Васіль так блізка небяспеку: з двух бакоў зачапіла Васіля падзея — і з боку Ігната, прыяцеля, і з Пракопавага боку, боку Мані. Не як пра штосьці далёкае, думалася пра тое, што і самому недалёка трапіць у такое, паехаць у такіх жа санях.

Пайшоў у хлеў, да каня: дзіўнае было, глядзеў, быццам не на сваё, быццам аддаваў ужо. І авечкі бачыў нібы не сваімі.

Па хрусткім снезе выбраўся за хлявы, пайшоў да гумна, адчыніў вароты. Рыпенне было як скарга: і нас аддасі?

Пахла саломаю, трухою. І зноў бачылася нібы і сваё, і не сваё. І якім дарагім, мілым здалося ўсё: голыя дубовыя сохі з крывымі сукамі, цэп на сасе, застаронак з саломаю, горка мякіны ў кутку.

Сеў на застаронак. Ціха было. Сядзеў, адпачываў. Адчуў раптам, як стаміўся. Нібы ўсю ноч і раніцу махаў цэпам. Добра, што нікога няма. Пасядзець можна, не чуючы нічога.

Потым ужо сталі тачыцца думкі. Праўду казала: няма выхаду. (З'ехаць хіба куды, дык дзе ж дзенешся, калі свету далей Куранёў не бачыў. І што там за жыццё яму, на чужыне. Ды і малы, матка, дзед як? Не кідаць жа іх! Ён жа аснова ўсім, і яму адказваць за ўсіх.)

Звыклы цярпець усё, браць самы цяжар на сябе, ён і гэтае ўзяў як неадступны абавязак: нічога не зробіш, трымаўся, пакуль можна было. А цяпер прыйдзецца саступіць, паддацца. Ілбом сцену не праб'еш адзін!.. Трэба да новага прыстасабляцца.

Куранёўцы павалілі ў калгас. Сяло (малюнак). Едуць, вязуць, звозяць. На двары Глушака. У гумне яго і іншых. Галас. Натоўпы.

Падвыпілыя. «Последний нынешний денечек», «Камыш».
Рэжуць скаціну. Закопваюць маёмасць. Тояць. «Можа?»

*«Развіць»* [1].

Васіль ідзе. К Міканору.
— Позно.— Міканор. Не прымае.
Раскулачваюць хату.
Раскідаюць...

I

Васіль. Пасля раскулачвання Лесуна і калі адабралі хату, чакае, што і яго адправяць. У Сібір.

Напіўся ■ гора. Як зямля. П'янка гэта. «Няхай гарыць!» Як зямля. Матка плача. Прападай усё!

Нянавісць і страх. Нянавісць да Міканора.

Страх. Куды іх павязуць? Малявалася жахлівае. Ка-

---

[1] Напісана на палях.

жуць, марозы. Адны звяры. На сотню вёрст жывога чалавека няма.

Шкода малога асабліва. Ды і Валодзькі. Гэтаму ўсё цікава. Малое шчэ — дурное.

Маці бядуе. Раздражняе сваімі хітрыкамі: усё будзе добра. Туды якраз ідзе!

Дзед рэжа. «Раскулачаць». Вярэдзіць яшчэ.

Маніны слёзы. Праклёны.

(Зноў успамінае Ганну). Праўду казала. Трэба было ісці. Не было б гэтага.

Трэба было б. Хто ж ведаў. Думалася на добрае.

Добрага чакаў. Дачакаўся. Дурань — у добрае спадзяваўся.

А можа, цяпер не позна. Як бы пабачыцца? Пагаварыць.

Дайшло: да яе ездзіць з райкома. Чуткі нейкія. Можа — плёткі. Плёткі, канечне.

Ідзе ў Глінішча.

Сустрэча. Яна — халодная.

— Не, Васіль.

— Чаго?!

— Е прычына.

— Дзіця ў мяне будзе, Яўхімава.

Памаўчаў. І тут Яўхім. Як і не саслалі. Век будзе.

— Дагледзім як-небудзь.

— Не.

— Сама ж казала.

— Казала. Была пара.

— Дак а цяпер што?

— Чуў жа.

— Дак я ж сказаў.

— Не адно ето...

— А што?

— Перагарэло.

Не адразу:

— А, ну, тады... канешне...

Ішоў і думаў. Той гарадскі ўсё. Адбіў. Ведама. Дзе яму з тым цягацца!

І так шкода. Так крыўдна было,— што страціў. Што ўсё так няскладна выйшла.

Доля нібы смяялася.

Зноў — чаканне. Чаканне бяды. Без надзеі на прасветліну. Нянавісць і страх.

Няміла ўсё. Чаго і жыць.

(Васіль пакідае сяло. Ідзе на лесанарыхтоўкі. Адчуванне палёгкі. Не так гняце.)

Многа такіх.

Было людзей на Пракопавым двары. (Старога ўжо не было: сядзеў у Юравічах.) Жонка, трое дзяцей. Сярод іх стаяла, хліпала Маня. Васілёва матка бралася за яе, уга-ворвала: «Усё роўна не паможаш»,— спрабавала адвесці. Быў дзед Дзяніс — глядзеў моўчкі. Валодзька сачыў жаласліва і з цікавасцю.

Пракоп

*Даць трэба*[1].

Назначылі раскулачыць. Дайшло.

Калі ўпаўн[аважаны] прыгразіўся, маўчаў, маўчаў. Пайшоў грозна на ўпаўнаважан[ага]. Каб трохі, зламаў бы.

Моўчкі пасунуўся дадому. Моўчкі — з тапаром — на двор. Пад павеццю — сані. Стаў біць, ламаць. Калёсы, коз-лы каля дроў. Жонка ў галас. У хлеў. (Замахнуўся тапаром на каня. Рука абамлела: вочы каня перад сабою. Апусціў тапор. Замычаў з адчаем. Убачыў карову...)

Выскачыў. Дзікі позірк. Жонка з жахам назад. Як бы схамянуўся, але ўспомніў — зноў у твары дзікі гнеў.

Выбег к свірну. Намацаў у кішэні красала. Выкрасаў агонь, у салому.

Жонка ў лямант. Стаяў, глядзеў, як бярэцца агонь. На двары народ гамоніць; баяцца заходзіць. Падняў тапор, к гумну.

Баяцца падступіцца. З калом — Хоня. Зайшоў ззаду, стукнуў. Пракоп — аб'ехаў.

Звязалі. Ляжаў моўчкі, дзіка вадзіў вачмі. Ля свірна завіхаліся з вёдрамі. Дым круціў. Ухапіліся рана — атушылі. Ветру не было, адзін свіран згарэў.

---

[1] Напісана на палях.

Калі Глушака вязуць сялом — матка Мікanора ў голас.

— Халімонко, Халімонко! Куды ж ето цябе!

— Запытай сына свайго, Адар'я! — задрыжалі губы, злосць з крыўдай.

— Ой, не трэба! Не трэба! Ой, нашто ж ето!.. Не сярдуй, Халімонко! Не хацелі мы!

— Хто не хацеў, а хто — хацеў!.. — Ён адолеў злосць і крыўду, сказаў велікадушна. — Аставайся шчаслівая, Адар'я! Не памінай ліхам.

— Ой, не! Толькі — добрае буду! Маліцца буду, Халімонко! Што б добра було і там.

— Бог не пакіне, можа ж!

Стары Дамецік ледзь адцягнуў яе.

Самы вялікі натоўп быў каля хаты Нібыто-Ігната... Гайліс тут — сачыў, распараджаўся. Ігнату (пра дзяцей): — Пачэму не адзеў харашо!

— А вы б выдзялілі, таварыш, з раскулачаных запасаў!

Худы, строгі загадваў, дзе каму сесці. Хадоська, заплаканая, клапатліва ўсаджвала, глядзела, дзе што палажылі. Хадоська забедавала, Ігнат азірнуўся:

— Не плач!..

Калі загадалі ехаць, агледзеў усіх:

— Дзякуваць нашаму старшыні за тое, што так забоцяцца пра трудавых людзей!..

— Ві не разводзьце агітацыю! — сказаў Гайліс.

Хадоська бяжыць за возам, на якім вязуць бацькоў, лямантуе! «І я! Няхай і мяне!» Хоня стрымлівае, вырываецца.

Маня хліпае: бацьку яе павезлі ў турму. Матка адна ды браты на возе.

Па Глушаку ніхто не плача. «Бывайце, людзі добрыя!..»

**Даць Сцяпана жыццё. Вобраз.** К яму ў Вадавічы прыязджае матка — шкадуе. Яўхім заехаў аднойчы. Прыглядаецца. Сустрэў Сцяпан нядобра: і так коса паглядваюць.

Калі сталі раскулачваць, ідзе ў Курані. Хоча выратаваць матку. Шкадуе яе вельмі. Гаворыць з ёю. Яна плача, адмаўляецца. Куды ж яго аднаго. «Разам звекавалі, разам і прападаць будзем».

Сястра прыбягае ноччу да яго. Ці дачка яе — па яе просьбе. Адпусцілі збегаць. Развітацца.

Развітваецца. Ён — каб асталася з ім. «Куды ж ён адзін». Ён: «І я з табою». Яна просіць: каб і не думаў.

Але ён выходзіць. Чакае.

Ён пры дарозе быў. Выглядваў, як будуць везці. (Сустрэў. Развітанне з маткаю, слёзы. Бацька праслязіўся — не памінай богам.) А можа — не пасмеў падысці. Пабаяўся. Матка адгаварыла перад тым.

Пасля бюро, калі Гайл[іса] выключылі і Апейку «далі», Крываротыя дамагаецца: Ганну раскулачыць. Прыходзіць: «Сабірайся».— «Куды ето?» — «За чалавекам сваім».

— Ты што, гад, смяешся?

«Міліцыя прыйдзе. Угаваруваць не будзем». Выйшаў. Параска супакойвае.

Сабіраецца ў Юравічы. Зразу ў Юравічы. Башлыкову. Напала на таго. «У Мазыр паеду!»

Той вагаецца момант. Потым:

— Самаўпраўнічаць не дадзім нікому.

Пазваніў: Крываротага] не было.

— Напішыце. «Ты што ж гэта?»

## («ЖЫЦЦЁ Ў МЯСТ[ЭЧКУ]»)

### РАЗДЗ[ЕЛ] ПЕРШЫ

Да Зубрыча прыязджае ўпаўнаважаны. Пра паўстанне. Зубрыч рэзка адмаўляецца. Фантазіі пустыя.

— Калі вам надакучыла жыць, паспрабуйце. Я — не буду.

(Курані: маці Міканора)

— Па-людску рабіце!.. А як бы твайго бацька, да тваю матку — пад корань! Да дзяцей бедных, не вінаватых ні ў чым перад богам! Дзе ето відано, штоб дзяцей малых не шкадавалі! Дзеці, яны ў чым вінаватыя? Яны — каго ік... ісплуіціравалі... пілі чыю кроў? Не аднакія ўсе?

— Неаднолькавыя, — упарціўся Міканор.

Старая не адазвалася, Міканор прамаўчаў, і бацька таксама сціх. Тым спрэчка і скончылася.

Ідучы назад, Міканор доўга думаў над тым, што пачуў

ад маці. Старая неўлым замутніла яснасць лініі, свядомую цвёрдасць Міканора. Усё станавілася як бы блытаным, складаным.

*Даць ад аўтара — псіхоз* [1].

Псіхоз. Калі націскалі — хутчэй — і Апейку выключылі, Апейка ў Мазыры адчувае — псіхоз. Літасці яму не будзе. Друг яго здзіўляецца: — Нашто ты гэта, дзівак!

Потым пасля «Галавакр[ужэнне] ад поспехаў» — як працверазелі.

У Мазыры іншы настрой. Як бы вінаватасць.

Башлыкоў. «Разгублены. Не разумее нічога. Падазравае: варожы выпад. Ці — «тактыка, падыход, часовае».

Пасля пастановы «Аб скрыўленні» прыехала камісія акружкома. Тры чалавекі. Башлыкоў прыняў гэта як належнае: натуральна.

Было ўсё ж трывожна: камісія гэта камісія. Працуе, каб знайсці. Пагана, што прыехала ў такі час. Як знарок, у раёне — бедлам. Усё рушыцца. Людзі пасля артыкула «Галавакружэнне» адчулі лазейку. Усе з калгасаў. Калгасы разлазяцца...

Ён прадчуваў гэта, калі чытаў артыкул. Палёгку далі адсталым настроям. Што ж, відаць, так трэба. Раз Сталін зрабіў, значыць, так трэба. Сталіну і ЦК відней, яны ўлічвалі становішча краіны ў цэлым. А для яго раёна гэта не на карысць.

І як знарок, такое ў раёне, і на табе, камісія. Што ж, камісія разбярэцца. Яна ўбачыць, што ён рабіў усё як належыць, цвёрда вёў бальшавіцкую лінію. Дзейнічаў адпаведна ўказанням вышэйшых органаў. Не шкадаваў сябе для справы. Зрабіў усё, што можна.

Ён дзейнічаў як бальшавік. Гэта відаць усім. Гэта давала падтрымку яму.

Ён спакойна, з годнасцю далажыў камісіі пра становішча ў раёне, пра тое, што яны рабілі ў выкананне пастаноў. Называў рашэнні, паведамляў захады, падмацоўваў лічбамі. Па памяці. Яны слухалі, запісвалі. Яго расказ, было відаць, выклікаў у іх ухвалу.

Потым яны распытвалі іншых, у райвыканкоме, гутарылі з Кудраўцом. Наколькі Башлыкоў ведаў — Кудравец

[1] Напісана на палях.

перадаў —тут таксама ўсё было добра. Горш было, калі паехалі па раёне. Дайшло, што ў Алешніках зацікавіліся Гайлісам, гутарылі з ім. Што была доўгая гаворка ў Глінішчах. Заязджалі ў Курані. Дапытваліся пра Ігната Шкоду. Пра гэта і многае іншае паведаміў Дубадзел. Паведаміў недавольна, з пагардай.

З яго тону Башлыкоў зразумеў, што не ўсё ідзе гладка. Не самі факты трывожылі Башлыкова, а тое, як яны пададзены. Тое, наколькі здолее камісія ўзняцца над усякімі настроямі і нагаворамі. Ці здолее наогул узняцца. Любы факт можна павярнуць па-рознаму.

У такіх умовах ён працаваў. І ўсе бачылі яго нязменна роўным, упэўненым. Абцягнутым гімнасцёркаю, па-вайскоcваму падпаясаным, у начышчаных ботах. З роўнай, стройнай паставаю, з лёгкімі крокамі. Дзейным, як заўсёды.

Мала хто ведаў, што на душы ў яго было пагана. Што тыя адчуванні, якія ўзніклі, калі чытаў «Галавакружэнне», точаць яго мацней і розней. Усутыч была, кругом, абступала яго бяда. Бяда ў жывых праявах, якія чуў усё вастрэй. І якія множыліся.

Азіраўся, згадваў і бачыў, колькі можа павярнуцца супраць яго. Думкі не давалі спакою, ён глушыў іх працаю. З-за іх ён гайсаў па раёне, спрабаваў развеяць. Але яны ўсюды былі, асабліва ў раёне, дзе ўсюды быў відаць бедлам. Ён адпачываў па дарозе. Але горш было вечарамі. Ён страціў сон. Начамі ў бессані мераў ён кабінет. Сядзеў, сашчапіўшы рукі на скронях, якія ламіў боль.

Тады быў яшчэ дзень сустрэчы з камісіяю. Цяпер пыталі толькі яны, а ён чакаў. Тлумачыў, тоячы неспакой, пра Шкоду, пра Гайліса, пра Глінішча. Тлумачыў, выходзіла так — нібы апраўдваўся. Ён бачыў: яны не ўхвалялі за многае, у тым ліку за Ігната, за Гайліса. Пагана было ад таго, што ён і сам цяпер бачыў, што схібіў, перагнуў тут. Цяпер і сам ён не зрабіў бы так. Цяпер усё бачылася інакш. Тады ўяўлялася іншым, як яны не разумеюць.

Але яму брыдка было апраўдвацца. І ён стараўся адказваць коратка, з годнасцю. Не траціць годнасці.

Урэшце, калі ён і памыліўся ў нечым, то сумленна. Памылак няма ў таго, хто не робіць нічога. Праўда, супакаення не было. Ён быў строгі не толькі да іншых, а найперш да сябе.

Члены камісіі зачапілі тую гісторыю з Яўхімам Глушаком. Ён расказаў, што ведаў з расказаў Харчава, Дубадзе-

ла. Тут усё ў парадку. І раптам старшыня камісіі — Башлыкоў улавіў праніклівы позірк:

— Вы знаёмы з яго жонкаю?

Башлыкоў анямеў на момант.

— Так... — Амаль не мог скрыць трывогу. Што яшчэ яны ведаюць?

— Вы сустракаліся з ёю?

— Як вас разумець?

— Ну, у школе і — за межамі яе?

Стрымаў сябе. Зноў глядзеў з годнасцю.

— Сустракаўся. Два разы.

— У вас былі, прабачце, сардэчныя адносіны з ёй?

— Сардэчныя.

Больш не сказаў нічога. Больш яны і не пыталі. Усё і так было ім зразумела.

На гэтым гаворка скончылася. З усяго, што было на сустрэчы, апошняе асабліва ўразіла.

Доўга хадзіў, не мог супакоіцца. Не мог прымаць нікога. Тут яны ўлучылі найбольш балюча. У самае слабае месца.

«Ведаюць. І гэта ведаюць. Адкуль!» Але здзіўленне гэта адступіла перад большым, няўціхным: як гэта, у іх вачах, у вачах усіх, кампраметуе яго. У іх вачах ён чалавек, які ўблытаў сябе ў амуры з жонкаю кулака, ды яшчэ якога бандыта.

Для іх ён — чалавек маральна нячысты, ненадзейны. І як ім растлумачыш усё. Ды і што тут растлумачыш. Усё і так ясна. І ні да чаго філасофія, апраўданні слюнявыя. Кожны апраўдацца можа.

За ўсім гэтым Башлыкоў адчуў бяду — рэальную, неадступную.

*«Галенчык тут на чале. Ці — на бюро потым. Ён пераструіўся»*[1].

Адчувае: вецер падзьмуў з іншага боку. Убок дзьме. Сіла павароту гатова выкінуць з сядла.

Камісія з акругі. Слухаюць у акрузе. Здымаюць з пасады. Пленум райкома. Усё правільна. Цяпер, калі павярнулася, усё выглядае інакш.

Едзе з Юравіч. Так кончылася кар'ера. Ганебна.

---

[1] Напісана на палях.

«Калі Башл[ыкоў] адчувае, што рушыцца ўсё, адчувае сябе малым, бездапаможным. Скардзіцца хочацца. Чаго несправядліва крыўдзяць.

Абуджаецца, мацнее чалавечае. Пашкадуйце. І адчувае — шкадавання няма.

Гіне на людзях. Ніхто не хоча руку даць» [1].

Трагедыя Башл[ыкова] — трагедыя чалавека сумленнага. Які хоча адпавядаць ідэалу часу. Яго «падводзіць» час, ідэалы часу.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

У Жлобіне ўбачыў Апейка натоўп вакол газеты. Хлопец чытаў. Чалавек дзесяць ціснуліся, перабівалі, спрачаліся. Зацікавіўся. Артыкул Сталіна! «Галавакружэнне»... Слухаў. Чытаў і не верыў: з душы як бы спаў камень! Значыцца, ён быў правы!..

У Бабруйску выбег купіць газету, прачытаць яшчэ раз, учытацца: не было — усё прадалі.

Радасна стукалі колы. Свяцілася і надзея.

У Мінску вільготны вецер. Нібы на адлігу. Пад нагамі раставала. На тратуарах сляды.

Пры вакзале купіў нарэшце газету,— перачытаць яшчэ раз усё самому.

Зазірнуў у гасцініцу: месц не было. Мелася нейкая нарада ці Пленум ЦК. Пайшоў у Дом калгасніка — дабіўся ложка. Пакой быў вялікі — на пяць ложкаў. За акном — аблезлая сцяна старога манастыра.

Усюды гаворкі пра артыкул. Вялікае ўзрушэнне і разгубленасць многіх. Пайшоў к Беламу. Не было.

Дачакаўся:

— Прыйдзецца пачакаць. Пленум заўтра. Пасля пленума...

---

[1] Іван Паўлавіч, напружана абдумваючы заключныя раздзелы рамана «Завеі, снежань», не раз гаварыў, падкрэсліваў — і ўсё з большай настойлівасцю: мабыць, гэта важна вельмі для яго было: Башлыкоў, з усім, што ў ім было дрэннага ці добрага — сын свайго часу. Чалавек ён па-свойму сумленны, адданы, прынцыповы. І трэба бачыць, дзе яго віна, а дзе бяда...

Не хацелася сур'ёзнаму пісьменніку, які глядзеў глыбока ў самую сутнасць грамадскіх падзей, зводзіць усю праблему да «дрэнных кіраўнікоў на месцах».

І адсюль, магчыма, гэты запіс пра Башлыкова, які зняты з пасады і павінен вярнуцца ў свой Гомель — з ганьбай.

Разважаючы, што трэба зрабіць за гэты вымушаны вольны час, рашыў пабачыцца з Алесем.

Памяць зберагла адзнакі вуліц і вулачак, паваротаў, што мінаў мінулы раз, і ён лёгка знайшоў той драўляны дамок, дзе жыў Алесь. Адчыніў тую ж веснічку, узышоў на ганак, у пакоі ўбачыў тую жанчыну, гаспадыню. Глядзела як і тады няветліва, хмурна.

На прывітанне адказала так жа няветліва. Стала раптам зноў корпацца ў рыззі, раскладзеным на стале. Штосьці шукала.

— Я хацеў бы пабачыць Алеся.

Яна не адказала. Корпалася нядобра на стале.

Апейка цярпліва пачакаў.

— Дзе ён?

Доўга корпалася зноў. Потым зірнула ўзлавана.

— Забралі.

— Як — забралі? — Апейка ўсё ж не чакаў гэтага.

Яна не адказала.

— Даўно?

— Паўмесяца...

— Ён не перадаваў нічога?

Яна пакорпалася на стале, знайшла нарэшце гузік, адрэзала. Потым устала, выйшла.

— Вось прасіў зберагчы...

Аддала сшытак.

Апейка ўзяў. Выйшаў аглушаны.

Выклікалі толькі праз два дні. Апейка пражыў гэтыя дні ў неспакойным чаканні. Але ўсё кончылася добра: у партыі аднавілі. А вымову ўсё ж упісалі. «На ўсякі выпадак»,— падумаў Апейка: яшчэ не звыклі да новага павароту.

Ехаў назад усё ж з настроем пераможцы. Бог з ёю, ■ вымовою: факт, што цяпер знята абвінавачанне. Лёгка з сумленнем.

За акном было вясёлае веснавое сонца. Сіняе неба шырокае. На станцыях чутно было, як крычалі гракі. «Скора сяўба...»

Уяўляў, як цяпер трымаецца Башлыкоў. Заехаў у Мазыр. У акружком. (Былы друг, які адвярнуўся.)

«Да, да, ведаем. Званілі. Што ж... віншуем... Н-да... Моцная прыпарка... Сталінская! Хе-хе...»

«Прымаем меры. Рашучыя. Башлыкова вашага правя-

раем: факты цяжкія. Проста пад пастанову! Оргвывады, відаць, будзем рабіць!»

Было штосьці фальшывае між іх. І намёк, што Башлыкоў паляціць, не радаваў. У Апейкі была дзіўная абыякавасць да яго.

Работы яму пакуль не прызначылі. Было толькі ясна, што ■ Юравічамі прыйдзецца развітацца. Там новы чалавек працуе: не здымаць жа адразу.

Але як бы там ні было, у Юравічах пакуль быў прыстанак. Туды пацягнула паехаць ■ палёгкай. З папутнай падводай падаўся дадому.

Людзі валяць з калгаса.
Калгасы распадаюцца.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

У Куранях (у сёлах) пасля артыкула Сталіна «Галавакружэнне».

Як іх прынялі.

Як валяць з калгаса.

Як хваляць Сталіна, Сав[ецкую] ўладу. Лаюць «сваіх» кіраўнікоў.

Супакаенне.

Башлык[оў]. Харчаў. Разгубленасць.

Сонца. Ганна вяртаецца дамоў. Снег. Вясна. Курані.

Вольна. Глушакоў няма. Селішча іх пустое. Дзе столькі пакутавала.

(Сабака Глушакоў.) Шкода Сцяпана.

Дома. Са сваімі. Пачынаць нанава. Бацька. Мачыха. Хведзька. Валодзька прыходзіць. Сябры.

Бацька, мачыха — спрэчкі. Мачыха недавольна — уступілі. Трэба было дзяржацца. Ганна заступаецца за бацьку.

(Даць падрабязна.) Прыглядваецца да калгаса. Да новых парадкаў. Жанкі: «Адвыкла ад граznай работы!»

Васіль. Сочыць. Як жыве. Цікава.

Думае пра Башлык[ова].

Сустрэлася ■ Васілём. Мелькам. Некалькі слоў. «Як усё з'іначылася!»

Маня зіркае на яе.

Аб сабе Ганна. Як быць? Васіль — адрэзаная скібка. Башлык[оў] — пустое. Здурнела.

Пра дзіця думаць. Будзе памяць Яўхімава. На ўсё жыццё!
З Міканорам.
— Узяў бы сабе.
— А не. От і вазьму.
— Трэба я цяпер такая.
З Хадоськаю. Хадоська.

Васіль уступае позна. Толькі (ў 1933 г.).

Лінія Васіля. Пасля раскулачвання Глушака і інш[ых] просіцца ў к[алга]с. Міканор не прымае. («Не прымаць кулакоў!»)

(Тады Васіль з'язджае з сяла.)

Потым — пасля артыкула Сталіна — вяртаецца. (Не верыць. Ведае: спакою не будзе.)

Можа — запісацца? (Тут і Ганна мела ўплыў), і тое, што Нібыто-Ігната саслалі. Галоўнае — трывога за лёс свой. За сына. І матчыны страхі. І дзедавы парады.

*Дваістасць настрою. Шкода свайго набытага. Каня. («Ат не адзін ён, Васіль».) «А можа — пранясло б?» («Выпішуся, калі што якое». Зберагчы.)*

*(Падае. Потым —* выходзіць?!) [1]

Вясна, арэ. (Праз год? два?)

Толькі б тут. Хоць што.

От яна, Карчова паласа. Якую прагнуў. Усё паламалася. Ні Ганны, ні зямлі. «Дурань».

Так, пэўне, трэба.

І трэба жыць, як е. Як доля наканавала.

Жыць.

*Добры канец* [2].

* * *

Тое, што вы прачыталі — вядома, не сам раман, а ўсяго толькі матэрыялы да заключных раздзелаў рамана «Завеі, снежань». Нешта ўгадваецца болей, нешта — менш, але ўгадваецца. Напрыклад, лінія развіцця характараў і лёс Башлыкова, Апейкі, Ганны, Васіля...

---

[1] Напісана на палях.
[2] Напісана на палях.

Гэтая кніга, як бачым, заканчваецца трагічнай нотай — паколькі гэта датычыцца Васіля Даятла. Напрошваецца нават паралель з «Ціхім Донам», яго апошнімі старонкамі.

Але меўся на ўвазе і працяг «Хронікі» і лёсу галоўнага героя. Як ўспамінае І. Я. Навуменка, у размовах з ім Іван Паўлавіч выказваўся ў такім кірунку, што добра было б «пасадзіць Васіля ў акоп». Мабыць, ужо бачыў, які гэта будзе ўпарты баец. Калі перад ім будзе вораг, што прыйшоў у народа адабраць зямлю. І, мабыць, абавязкова паслаў бы Васіля на фронт ці ў партызаны — туды скіроўваюцца падзеі ў накідах, матэрыялах, якія выходзяць за ханалагічныя межы апошняга прыжыццёвага рамана «Завеі, снежань». Тым больш, што адзін з прататыпаў Васіля — Павел Матора якраз і быў салдатам Айчыннай вайны, разам з Іванам Паўлавічам служыў у Карпатах (ён дзейнічае ўжо ў апавяданні «У гарах дажджы» — памятаеце, ратуе каня?).

Ад наступных пасля рамана «Завеі, снежань» ненапісаных кніг «Хронікі» ў архіве Івана Паўлавіча засталіся кавалкі, раздзелы, значна раней напісаныя. Вялікіх — два.

Самы цікавы — пра тое, як Яўхім вяртаецца ў Куранi, каб адпомсціць усім — Ганне, Васілю, Міканору. Гэты ўрывак і прыводзіцца ніжэй. Напісан ён быў яшчэ да працы над раманам «Завеі, снежань».

Яўхім страляе ў Васіля. Гэта ў тэксце і было распрацавана: як Ганна спрабуе ўратаваць Васіля. Але маецца пазнейшая аўтарская праўка: замест выкрасленага Васіля надпісана імя Міканора. Вядома, усё ў гэтай сцэне перараблялася б «пад Міканора». Але тут мы даём тэкст першапачатковы — дзейнічае Васіль і Ганна.

## РАЗДЗЕЛ

## I

Міліцыянеры ішлі ўслед нядоўга. Пастраляўшы зводдалек, адчуўшы, што ўзяць лёгка не ўдасца, адсталі.

А яны ўсё гналі і гналі сябе. Грузнучы ў глыбокім снезе, ламаліся праз зараснікі, азіраючыся, сунуліся цераз палянкі. Каб збіць тых, хто мог ісці па следзе, з непакоем, пахапліва беглі па чужых сцежках, па дарогах. Гналі амаль усю ноч, пакуль не знемагліся ўшчэнт.

Толькі пад золак, у нейкім глухім хвойніку, паваліліся адыхацца. Паваліліся проста на снег, пад ніскае калючае вецце, з

якога сыпаўся востры, марозны пыл, моўчкі астывалі ад бегу. Усе былі панурыя, усе, мусіць, думалі аб адным. Гэта быў канец, гібель. (Шайка разбіта, бярлога раскідана.) Ім траім удалося выратавацца: Сацуру, рудому Кандыбовічу і Яўхіму. Яны вырабіліся з бяды, выратаваліся, але смерць яшчэ нібы абдымала іх, была яшчэ такая блізкая ў памяці. І не толькі ў памяці, яна, здавалася, ішла за імі, цікавала кожны момант...

Угары сумна прашумеў вецер, нізкае галлё сыпнула снежным пылам. Недзе далёка цягуча праскуголіў воўк,— ад гэтага скуголення зрабілася яшчэ трывожней і адзінока. Яны былі адны сярод гушчару, здрадлівага гушчару і золкай халадзечы.

— Кеб крыху — каюк!..— першы адагнаў і маўклівасць Сацура.

Кандыбовіч, што беражліва трымаў перавязаную брудным шматком раненую руку, прастагнаў:

— Выказаў нехта...

— Зіма... Сляды навялі...— запярэчыў Сацура.

Кандыбовіч скрыгатнуў зубамі:

— Трэ знайсці, дзе сагрэцца!..

— Аге, знойдзеш! Акраз на міліцыю нарвешся!..

— І назад, ядры яго, няможна...— не так разважаў, як паскардзіўся Кандыбовіч.

— Аге. Чакаюць там.

— Такая схоўка была! Абагрэтая, цёплая...

Кандыбовіч застагнаў. Яўхім, якога даўно злавалі і плаксівасць у голасе Кандыбовіча, і стогны, нарэшце не вытрываў:

— Сціхні ты!.. Зануда!

— Табе б так! — пакрыўдзіўся Кандыбовіч.— Костку, мабыць, зачапілі... Гарыць...

— Цярпець трэба!

— Паспытаў бы ты!..

— Знайшлі час грызціся,— умяшаўся разважліва Сацура.

Яўхім згадзіўся ў думках, стрымаў сябе, сказаў, як бы апраўдваючыся, прымірэнча, мякка:

— Чаго тут плакаць аб тым, што было... «Абагрэтае, цёплае...» Было — ды сплыло... Бедаваць няма чаго. Цяплей ад гэтага ўсё роўна не будзе...

— Гэта праўда,— згадзіўся Сацура.— Новую шукаць трэба схоўку ды — абаграваць! — ён дадаў разважліва: — Пакуль бы хоць на ноч, каб не акалець... Мо дзе на лузе? У стагу, а?

Яўхім запярэчыў:

— У стагу — пагана. Могуць па сена прыехаць...

Але выхаду іншага не было. Холад падбіраўся ўсё мацней,

усё злей, і таму не разважалі асабліва, вылезлі з-пад веццня, пацягнуліся пашукаць, хоць на першую пару, стажок. У густым сосніку, грабучыся глыбокім снегам, неспадзеўкі набрылі на вываранень,— агромністая сасна, падаючы, зачапіла за сваіх сяброваў і завісла, вялізная шапка вывернутай з карэннем зямлі легла над ямай, як страха. З гэтай страхі, абсыпанай снегам, быццам жэрдкі-латы, тырчэлі голыя, пабеленыя пальцы карнявішча, з двух бакоў парванае карнявішча так і засталося ў зямлі: звісшы, сасна не адарвала зусім зямлі з карэннямі, а толькі з таго боку, дзе была шапка-страха, прыўзняла. Зрабілася штосьці падобнае на пяшчэру.

— Во тут, можа,— сказаў Сацура.— Адграбці снег толькі.

Адгрэблі снег з пяшчэры ложамі абрэзаў. Калі сяк-так дабраліся да зямлі, прыклады жалезна зашаргалі,— мерзлы пясок унізе быў прыхоплен зледзянелай коркай. Яўхім памацаў рукамі ў глыбейшым месцы — на шчасце іх, лужыны не было, лядок лёг, мусіць, ад позняга дажджу ці вільгаці.

Ён выняў нож і стаў біць, скалваць лядок.

Наламалі сасновага веццня, падаслалі пад ніз, колькі можна было, прыкрылі веццем дзірку, залезлі адзін за адным. Стомленыя, галодныя, ляжалі чужыя адзін аднаму, злыя на ўсё на свеце — маўчалі, стрымлівалі дрыжыкі холаду. У гэтай бярлозе было мала цяплей, як знадворку. Кандыбовіч зноў шыпеў, стагнаў, і Яўхіму хацелася проста задушыць яго. Ніколі не думаў, што — такі слімак, і без таго моташна, а тут яшчэ ён, з гэтым ныццём!

Трэба было Сацуру сказаць, што ў яго ёсць тытунь! Ёсць тытунь і няма запалак! Такая злосць на ўсё, што, каб мог, пайшоў бы ў першае бліжэйшае сяло, падпаліў бы, здаецца, каб сагрэцца, але не мог, не мог зноў устаць, вылезці на мароз, на вецер, ногі, рукі, галава, усё цела былі як чыгунныя.

Сон быў важкі, дурнотны, таксама быццам чыгунны. І спаў, і нібы не спаў, трызніў, як у хваробе, і, калі прачнуўся зусім, галавы не мог падняць. У бярлозе было сыра, мокра, цела было быццам сціснута бляхаю, але ўставаць, вылазіць на свет не хацелася. Не спалі ўжо і іншыя, таксама не варушыліся, не вылазілі.

Яўхім заўважыў, што Сацура штосьці лянiва жуе, павярнуў да яго галаву.

— Што ясі?

— Каўбасу. Цешча зараз прыслала, з сарокаю...— каўтнуўшы, панура пажартаваў Сацура.

— Не плявузгай, бугай! Праўду кажы!..

— Напраўду — табак...

— Які табак?

— Той, што ўцалеў... які кураць, калі агонь е...

Апошнія словы Сацура завяршыў лаянкаю. Яўхім папрасіў:

— Дай мне...

Вылезлі з пяшчэры позна, маўклівыя і злыя, як галодныя ваўкі. Горбячыся, важка грабучыся, засунуўшы абрэзы пад паддзеўкі і кажухі, пасунуліся па гушчары. Хутка натрапілі на след саней, не ўтрывалі, пайшлі па лёгкіх санных каляінах, пры якіх дзе-нідзе жаўцелі дробныя абскубкі сена. Санная вілюжына прывяла іх на лясную дарожку. Дарожкай сунуліся неспакойна, адзін за адным наводдаль, гатовыя ў любы момант выхапіць зброю. Калі наперадзе выглянула чыстая роўнядзь поля, цёмныя хаты і гумны за платамі, сталі, нейкі час моўчкі назіралі. Дзе-нідзе з каміноў прынадна віліся белыя пасмы дымкоў.

Ад выгляду гэтых хат, дымкоў яшчэ больш заныла ў страўніках. Пахапліва глытнуўшы сліну, Кандыбовіч прапанаваў ісці ў сяло — ціха, міліцыі і духу блізка не чутна, можна падсілкавацца, ядры яго. Але якой ні вялікай была спакуса напхацца ежай, абагрэцца каля печкі, Яўхім не паддаўся, не згадзіўся: вельмі ж помнілася ўчарашняе, каб так проста даць міліцыі вестку пра сябе, самому палезці на ражон. Яму яшчэ не надакучыла жыць.

З учарашняга ўлада і сіла Яўхіма перад іншымі прыкметна паслабла — Кандыбовіч не толькі не паслухаўся яго, а гатоў быў са злосцю накінуцца на яго, і толькі слова Сацуры, які падтрымаў Яўхіма, спыніла спрэчку. Кандыбовічу засталося толькі незадаволена падтуліць губу. Адно, што цікавіла цяпер Яўхіма, калі ён глядзеў на чужыя, пагрозна затоеныя хаты,— было: што гэта за сяло, дзе, у якім яны цяпер месцы? Але ні Кандыбовіч, ні Сацура гэтага таксама добра не ведалі.

Калі абышлі сяло, паслухаўшы, агледзеўшыся, зноў выбраліся на дарогу і пацягнуліся далей. Яшчэ зводдалек пільным, насцярожаным слыхам учулі рып саней, роўны стук капытоў, хутка збочылі, грузнучы ў снезе, нырнулі за кусты. Сагнуўшыся, цікавалі за дарогай: нічога асаблівага, ехаў аднекуль стары ў чуйцы і валёнках, угнуў галаву ў плечы, нібы драмаў...

Як і ўчора, іх накіроўвала, вяло адно жаданне — далей ад міліцыі, ад аблавы, ад бяды, з якой ледзь выбавіліся,— але стома і голад прыглушвалі гэтае жаданне. Пад поўдзень ужо не тое што па цаліку, а і па дарозе ледзь ногі цягнулі. Ад Сацуравага тытуню, які жавалі, каб адагнаць голад, у роце было моташна.

Кандыбовіч раптам захістаўся і, ухапіўшыся за блізкую лазіну, стаў.

— Ну, чаго? — кінуў яму Яўхім, амаль з нянавісцю.

— Галава кружыцца...

— Галава!.. То галава, то рука, то — яшчэ што...

Адышлі ад дарогі, селі на пні, на снег. Кандыбовіч зграбаў далоняй снег і клаў у рот, Сацура раз-пораз пляваў, харкаў. Яўхім стараўся не глядзець ні на кога, утаропіўшы важкі позірк перад сабой, думаў пра тое, што трэба рабіць, дзе шукаць выхаду. Чым больш думаў ён над учарашнім, тым мацней адчуваў, што гэта не проста бяда, што пятля сыходзіцца ўсё бліжэй, яму толькі ўдача памагла вылузнуцца, а заўтра ўдачы гэтай можа і не быць. Свет населены нягоднікамі, падлюгамі, нават тыя, хто не чужы быў, адвярнуліся, прадаць у любы момант гатовы — каб прымеў — перадушыў бы ўсіх, як гадаў, як клапоў, агнём і попелам развеяў бы паганыя іх гнёзды, каб ведалі, дрыжалі каб,— але ён адзін, Сацура толькі з ім, [redacted] іх, гадаў гэтых, тысячы. І ён зноў і зноў вяртаўся да думкі, якая прыходзіла ўжо не раз яшчэ там, на Чортавых балотах: трэба адступіцца, выйсці з гульні. Да пары, да часу... Помач знайсці, добрую, надзейную сілу... Падрыхтавацца, выбраць момант — і ўдарыць!

Кандыбовіч, аказалася, таксама думаў над тым, што рабіць:

— У Кабылеве — сваякі ў мяне... Цесць... Перасядзець можна было б, ядры яго...

— Выдумаў! — запярэчыў Сацура.— Праз тыдзень накрыюць... Як піць даць...

— Паграбок у іх е... Ціхі... І каля лесу...

Сацура прамаўчаў. Яўхім пачакаў, прамовіў задуменна:

— Ілбом сцяну адзін не праб'еш...— І ён адкрыў раптам дарагое, запаветнае: — За граніцу падавацца трэба... У Польшчу...

— У Польшчу — пляснуў!

— Хто — пляснуў? — нядобра пачырванеў Яўхім.

— Чакаюць там цябе...

— Чакаюць не чакаюць.— Яўхім дадаў са злосцю: — Адзін выхад.

Кандыбовіч не сказаў нічога, але, было відаць, застаўся пры сваім меркаванні. Сацура, харкнуўшы жоўтай слінаю, прамовіў да Яўхіма:

— Мо і твая праўда. Не адчэпяцца лягавыя, мусіць...

— Дыхнуць не дадуць!

Кандыбовіч адгукнуўся не адразу.

— Вам добра казаць,— прамовіў ён з раздражненнем.— А як я, з такой рукою!

— Палечаць! — кінуў Яўхім.

— Ахвота ім там важдацца!.. І зноў жа — мяжа чорт ведае дзе! Пакуль даграбешся! А тут — ногі гнуцца! Не еўшы!..

— Дацягнеш!..

— Не век без харчоў будзем! —падтрымаў Яўхіма Сацура.

Доўга маўчалі. Хоць сядзелі ўсе разам, адчувалі, што падзяліліся, што Кандыбовіч — адасоблены, чужы.

Яўхім кіпеў ад злосці. Злосць гэтая была ўся на Кандыбовіча, на якога Яўхім цяпер не мог спакойна глядзець. Яўхіма ўсё дзіўна злавала ў ім: і тое, як ён сядзеў на пяньку, як трымаў руку, як глытаў снег, і, вядома, кожнае слова. Але калі б Яўхім умеў зазіраць у сябе, шукаць прычыны свайму настрою, ён не мог бы не заўважыць, што злосць на Кандыбовіча ішла зусім не ад Кандыбовіча, не ад таго, што той адмовіўся ісці. Кандыбовіч не менш узлаваў бы Яўхіма, калі б рабіў адваротнае: прасіў-маліў забраць з сабою за граніцу, кляўся, што, не зважаючы на раненне, замінаць не будзе ў дарозе. Яўхім тады б злаваў на яго, і, напэўна, з большым правам, што прыйдзецца яшчэ важдацца лішне, калі і без таго клопату даволі. Яўхім злаваў на Кандыбовіча таму, што ў ім кіпела злосць — злосць на няўдачы, на няшчасці, якая шукала, на кім спатоліцца,— яна знайшла таго, хто быў блізка, перад вачыма, быў даступны...

— Ну як? — кінуў Кандыбовічу, коратка, жорстка, Яўхім.

— Што?

— Чаго дурня гнеш? За намі — пойдзеш?

— У Польшчу?

— Не ў Салаўкі. За граніцу, сказаў ужо.

— Не.

Яўхім рэзка рвануў сук ад алешыны, паспрабаваў зламаць: аж пабялелі пальцы.

— Куды ж падасіся?

— К сваім. Перахаваюся.

— К сваім? — недаверліва ўчапіўся позіркам Яўхім.

— К цесцю.

— Не брэшаш?

— Чаго брашу?

— Не гні дурня... Не ў міліцыю?

— Гэта чаго?

— К Харчаву.

Кандыбовіч вяла запярэчыў:

— Што ты пляцеш?

— Што пляту, ведаю.

— Ерунду ты ведаеш, вось што.

— Не віляй! Бачу ўсё! Духам чую...— Ён свідраваў Канды-

бовіча вачыма.— Грахі замалівацьзахацеў?.. Другіх выказаць, навесці на сляды?

— Ну, пляснуў! Трэ мне гэта.

— Ведаю я цябе, падла!

Тут раптам умяшаўся Сацура — нібы загадаў:

— З намі пойдзеш!

— А калі — не?

— Пойдзеш. Нас — болей. Двое, а ты — адзін.

— Ну, дак што — што адзін?

— Падначаліцца павінен... Акрамя таго, Яўхім — старшы.

— Няма цяпер старшых... Усе роўныя...

— Усе да не ўсе!

Яўхім, нарэшце пераламаўшы, шпурнуў алехавы сук, галасам, у якім чулася незатоеная пагроза, сказаў Сацуру:

— Няхай ідзе! — І, зірнуўшы ўжо на Кандыбовіча, дадаў: — Ідзі!

— І пайду!

— Ідзі!

Кандыбовіч, трымаючы пад пахай абрэз, згроб снегу каля сябе, пасмактаў, як сядзеў, так і застаўся сядзець.

— Ідзі! Чаго не ідзеш?

— А мне не к спеху... Упраўлюся...

— Баішся? — Яўхім ледзь стрымаўся, каб не кінуць: «Гад!»

— Чаго?

Не пазіраючы на Кандыбовіча, Яўхім адчуваў, бачыў, што той сочыць насцярожана, абрэз, што дулам ляжыць на каленях, трымае ўжо напагатове ў руцэ. Раненая рука таксама напагатове. Куды і ўтома сышла. Яўхім падняўся, знарок спакойна сказаў:

— Хадзем!

Сацура паслухмяна ўстаў. Кандыбовіч па-ранейшаму рабіў выгляд, што не сочыць, не цікавіцца імі.

— Мы — сюды,— кіўнуў Яўхім наперад.— А ты — туды. Адным разам.— Яўхім сказаў гэтыя словы жорстка, рашуча, як неадменную ўмову.— Ды глядзі, каб без штучак якіх! — папярэдзіў ён пагрозна.

— Трэ мне штучкі гэтыя! — лагодна, прымірэнча адказаў Кандыбовіч.

Яўхім заўважыў, што, пачуўшы яго папярэджанне, Кандыбовіч як бы крыху паспакайнеў: відаць, тое, што Яўхім сам папярэджваў, каб ніякіх «штучак», было яму знакам, што штучак не трэба апасацца. Насцярожанасць у Кандыбовіча, праўда, прапала не зусім — Яўхім гэта адчуваў, і ўсё ж і пільнасці ранейшай ужо не было.

Яўхім устаў з такім выглядам, нібы зараз жа гатоў быў рушыць у дарогу,— ён н пайшоў адразу ж, здавалася, толькі таму, што чакае, калі і Кандыбовіч вытрымае ўмову, устане. І Кандыбовіч варухнуўся, каб устаць. Толькі на момант, падымаючыся, выпусціў ён з-пад увагі Яўхіма, аслабіў руку, што трымала абрэз, але і гэтага было даволі. Яўхім толькі і чакаў гэтага: улучыўшы зручны міг, кінуты выбухам нянавісці, якую так доўга стрымліваў, імгненна, як рысь, ірвануўся да Кандыбовіча і усёй сілы ложай абрэза ўдарыў таго па руцэ, што трымала зброю. Абрэз Кандыбовіча адразу адляцеў убок, ткнуўся ў снег, кісць рукі, перабітай ніжэй локця, звісла, як зламаная галіна. Яшчэ, напэўна, не дайшоў Кандыбовічу боль, не ўцяміў Кандыбовіч, што трэба зрабіць, хоць на першы час, толькі згарача, дзіка ступіў да супраціўніка, як другі, страшэннай сілы ўдар абрэзам упаў на яго твар, праламаў шчаку, нос, вока. Кандыбовіч хітнуўся, як п'яны, ледзь устаяў — падняўшы да твару раненую руку і зломак другой, нема зароў ад болю. Асцеплены болем, ашалелы, ён ступіў яшчэ крок да Яўхіма, але тут яго збоку ўдарыў Сацура, і Кандыбовіч, дзіўна тузануўшыся, стаў аб'язджаць на снег.

Ужо калі ён упаў, Яўхім, не маючы сілы стрымаць сябе, даўшы волю дзікай злосці, раз'юшана ўдарыў яго наском бота па галаве. Ён біў і біў, не выбіраючы, па чым прыйдзецца, біў і ўсё не мог спатоліцца. Сацуру не адразу ўдалося адцягнуць яго.

— Хопіць! Гатоў! — сказаў Сацура, моцна трымаючы Яўхіма за локаць.

Толькі тут, пад прыглядам Сацуры, што сам сачыў за ім з боязню, Яўхім нарэшце нібы апрытомнеў.

— Падлюга! — прамовіў ён, яшчэ ўзрушаны, заўважаючы, што ўвесь хваравіта дрыжыць. Ён адчуў у сабе вялікую стому, абапёрся плячом аб алешыну.

Сацура, стараючыся не глядзець на заліты крывёю праламаны твар Кандыбовіча, абшукаў яго кішэні, выняў усё, што было: ножык, запальнічку, пусты партабак, чорную, брудную насоўку, аддаў Яўхіму, які моўчкі сунуў усё за пазуху кажуха.

— Галіхве ў яго добрае,— прамовіў Яўхім, і Сацура стаў здымаць з трупа прадраныя валёнкі.

Зняўшы з Кандыбовіча, што варта было ўзяць, Сацура ўсё разам з галіфэ аддаў Яўхіму, асцярожна заікнуўся, што не трэба заседжвацца лішне, месца неспакойнае. Яўхім схамянуўся, моўчкі кіўнуў, што згодны з ім, адхіліўся ад алешыны. Зірнуўшы на абадраны труп, прамовіў незадаволена:

— Прыбраць, падлу, трэба... Далей — каб не смярдзела...

За жоўтыя, брудныя ногі адцягнулі Кандыбовіча ў зараснік,

непадалёк, прысыпалі снегам, кінулі зверху ламачыну, вярнуўшыся, утапталі ў снег залітую крывёю світу, валёнкі, анучы. Толькі тады Яўхім сказаў супакоена:

— Ну,— цяпер — крыта...

Яны, азірнуўшыся, пабраліся ў бок дарогі.

## II

Пад поўнач Яўхім з Сацурам выходзілі з цемры да маўклівых, схаладнелых гумнаў Куранёў.

Сяло, прыціснутае змрокам і вялікай цішынёю, здавалася, моцна спала. Хаты, што ледзь значыліся далей за дрэвамі, за хлявамі і свірнамі, былі, як гумны, таксама маўклівымі. І ўсё ж у цішыні гэтай, у марознай маўклівасці таілася штосьці нядобрае, пагрознае, і абедзве постаці мімаволі спыніліся, пастаялі.

Яўхім крануўся першы. Ідучы, засунуў руку за пазуху, пад кажух, пацягнуў з-пад аперазкі абрэз, зрабіў так, каб у любы момант было зручна дастаць. Сацура падаўся за ім пакорліва, але, было відаць, без ахвоты. Калі б Яўхіма цікавілі думкі яго паплечніка ў гэты час, ён мог бы даведацца, што Сацура лічыць іх заход у Курані рызыкоўным, нават бязглуздым: хто ж разумны сам палезе туды, дзе больш за ўсё можа цікаваць небяспека. Сацура ішоў к гумнам, к сялу, як на кару,— толькі таму, што гэтага хацеў Яўхім і што баяўся яго.

У іншы час — раней — і Яўхім таксама наўрад ці зрабіў бы гэтак. Перасцярожлівая развага, якую Яўхім пры ўсёй сваёй гарачкаватасці, бывала, рэдка траціў, напэўна, утрымала б яго ад лішне рызыкоўнага ўчынку. Але цяпер Яўхім быў ужо інакшым: няўдачы, што падалі на яго адна за адной, і асабліва апошняя бяда на Змяіных балотах, выбілі Карча са звычайнай раўнавагі. Ён проста здзіўляў неаднолькавасцю, няроўнасцю сваіх паводзін,— то быў нейкі асабліва насцярожаны, нібы баязлівы, то на дзіва бесклапотны, неразумна адважны. І ўчынкі яго былі часта дзіўныя, незразумелыя, неспадзяваныя.

Сацуру запомнілася, як спалохана Яўхім кінуўся ў кусты, пачуўшы блізка па дарозе рып саней, як невядома чаму чапляўся к Кандыбовічу, кіпеў ад злосці,— нямала незразумелага асела ў памяці Сацуры. Але больш за ўсё непакоіла апошняе — гэты Яўхімаў заход у Курані. Трэба ім гэтыя Курані, калі на кожным кроку можна наткнуцца на міліцыю, на смерць, калі яшчэ такая далёкая граніца, адзіны ратунак.

Яўхім і сам добра ведаў, што ідзе на рызыку і што рызыку гэтую можна было б абмінуць, і ўсё ж, пры ўсім тым, зрабіць

інакш: як трэба было для перасцярогі, як раіла развага,— не здолеў бы. Ён не мог інакш зрабіць, бо на тое, чаго яму трэба было рабіць, у яго якраз было вялікае хаценне, упартае, неадменнае,— і ён не мог, не меў моцы такой у душы, каб зацішыць, адолець гэтае хаценне. У тым і непадобны быў Яўхім цяпер да сябе ранейшага, што не было ў яго моцы прымусіць сябе адкінуць жаданне, хоць і непатрэбнае, рабіць так, як належала яму, як падказвала цвярозая развага. Над стомленай, аслабелай воляй яго бралі верх настроі, пачуцці.

Не, ён не мог сысці адсюль з людскіх чутак, з людской памяці надоўга — можа быць, вельмі надоўга — проста так, ціха, непрыкметна знікнуць, нібы ў дрыгве прапаўшы,— быў Яўхім, і няма Яўхіма. Не мог Яўхім ціха панесці міма Куранёў, якія бачылі яго ганьбу і перад якімі ён не раз жадаў паявіцца зноў у сіле былой, у страшнай славе,— баязліва, пакорліва панесці ў душы сваёй прагу аб недагавораным, недаробленым, аб неспатоленым, потым многія дні ў далечы шкадаваць пра тое, што быў час: можна было зрабіць, разлічыцца, пайсці са спакоем задавальнення, а ён пабаяўся, абышоў міма.

Яўхім павінен быў, што б ні было, развітацца, расплаціцца, сказаць апошняе сваё, моцнае слова. Каб не забывалі, каб помнілі доўга — нават, калі чуткі аб ім перастануць прыходзіць, калі ён будзе далёка.

У думках аб Куранях у яго не было ні любві, ні шкадавання аб ростані з ёй, як з родным кутком. Да Куранёў у яго было куды больш гаркаты і нянавісці. Чым іншым магла адгукнуцца ў Яўхімавай душы панурая пустэча роднай сялібы, з разлезлымі камякамі тынку і бітым каменнем на месцы хаты, з сіратлівымі яблынямі і грушамі на чужым цяпер агародзе, з уцалелым свірнам, што быў як хата вартаўніка на могілках. Калі што і нейк цікавіла яго ў Куранях, дык гэта Ганна, дачка, якія не раз згадваліся яму ў доўгія вечары на балоце. Яны былі таксама сумам, болем, але болем больш блізкім, больш жывым. Як ні далёка было мінулае, звязанае з імі, памяць пра іх на дзіва ўпарта не гасла, тлела ў ім, цягнула сюды.

Суджана ж было так, што думкі пра Ганну, сумныя і злосныя, зноў мяшаліся з думкамі пра Дзятла Васіля. Згадкі гэтыя аб Васілю ішлі, аднак, не ад даўніх дачыненняў, хоць былая варожасць да яго ляжала важка ў душы Яўхіма, да старых, не адплочаных Яўхіму даўгоў жыццё дадало новы. Хоць і не было ў яго дакладных доказаў, хоць звычайна трымаўся правіла: «не злавіў — не злодзей», Яўхім усё ж на гэты раз лічыў, што ў бядзе, якая здарылася на Змяіным балоце, вінаваты, не інакш, гэты,

як Яўхім нязменна называў цяпер у думках, подлы Дзятлік. Няважна, што Яўхім не бачыў яго, «не славіў», ніхто іншы, акрамя Дзятліка, не мог высачыць іх, выказаць міліцыі і навесці яе. Гэта, вядома, яго работа, і дарэмна ён думае, што Яўхім не ведае ці, калі і ведае, нічога не зробіць. Ён паплаціцца, подлы Дзятлік, пабачыць, што значыць — падымаць руку на Яўхіма! Дзятлік пабачыць, не толькі Дзятлік, усе Курані, што пець адыходную Яўхіму, радавацца яго пагібелі рана,— ён жыве, жыве і — жыць будзе! Яўхім — гэта Яўхім!..

Падышоўшы да плота, за якім быў іх колішні агарод, Яўхім кінуў позіркам туды, дзе за шэрымі дрэўцамі дрымаў свіран,— але ні на момант не спыніўся. Хада яго нават пацвярдзела, ён нібы стаў мацнейшым. Прыпыніўся Яўхім толькі перад селішчам Дзятлаў, вагаючыся: зараз зайсці зрабіць свой прысуд ці пазней, пабыўшы ў Ганны, у дачкі? Можа, зараз: вось адсюль павярнуць, пералезці цераз плот і паўз гумно выбрацца прастком да хаты...

На сяле цягуча, трывожна завыў сабака, за ім яшчэ адзін, другі. «Як на ваўкоў...» — мільганула ў галаве Яўхіма, ён хіснуўся і пацягнуўся далей.

— Пойдзем спярша — у госці...— сіпла, прастуджана сказаў Сацуру, што падаўся ўслед.

Абышоўшы Чарнушкава гумно, Яўхім, як і Сацура, ішоў ужо асцярожней, трымаючы зброю напагатове. Ён раз-пораз прыпыняўся, недаверліва прыслухоўваўся да цішыні на вуліцы — у сяле, як і раней, было ціха, нішто не паказвала на небяспеку. Крыху пастаяў каля хлява, [redacted] якога ішло дамавітае, з пахам малака цяпло, пачуў санлівае ўздыханне каровы.

Адарваўшыся ад хлява, па пратоптанай сцежцы, што паскрыпвала, з той жа цвёрдасцю, як і перад сваім селішчам, падаўся да хаты. Тут каля ганка, тулячыся да сенечнай сцяны, выпусціў ужо наперад Сацуру, прашаптаў:

— Пастукай... у акно... Скажы, [redacted] Юравіч...

Сацура, схаваўшы абрэз пад світу, падступіў да акна, ціха задзяўбаў кручкаватымі пальцамі па шыбе. Пастаяў, пачакаў, задзяўбаў зноў.

— Абагрэцца б... Акалеў зусім... да пячонкі... З Юравіч...— казаў ён, тулячыся да шыбкі.

У хаце доўга маўчалі, і Яўхім з неспакоем падумаў, што могуць і не адчыніць ім,— што тады рабіць? «Не адчыняць па сваёй ахвоце, дык адчыняць па загаду»,— пагразіўся ён у думках і раптам адчуў, як бязмежна прагаладаўся. Ён устрапянуўся, пачуўшы, як бразнула клямка ў хатніх дзвярах, як асцярожна зашар-

галі ў поцемках крокі,— Яўхім пазнаў: Ганніны крокі. Завішчэла засаўка.

Яўхім парывіста, адным махам, ускочыў на ганак. Ён апынуўся на ганку якраз пад той момант, калі расчыніліся дзверы і ў цёмнай пройме сенечнага змроку паявілася маўклівая постаць. Ён, з ходу ўвесь падаўшыся наперад, прыпыніўся перад ёй амаль упрытык. Яўхім адразу пазнаў: так, гэта яна, Ганна, ён не памыліўся, чуючы ў сенцах крокі,— шэры водбліск ад снегу добра акрэсліваў бледны, спакойны твар, які здаваўся пры гэтым святле мармуровым.

— Позно як!..— сказала яна, стрымліваючы пазяханне.

Яна амаль не змянілася. Той жа пад казырочкам абы-як накінутай на галаву хусткі чысты, адкрыты лоб, без адной — пры такім святле — маршчынкі, тыя ж яркія, строгія вочы, якія ад прыцемку здаваліся глыбейшымі і цямнейшымі. Гэтыя вочы, якія калісьці зводзілі яго і якія ён потым ненавідзеў, як ненавідзеў усё ў ёй, глядзелі на яго на дзіва раўнадушна, нібы на незнаёмага, нібы на чужога. Яна ці нядобра бачыла яго твар, ці не пазнавала.

Яўхіма спакой яе ўзлаваў.

— Што, не пазнаеш? — прасіпеў ён сярдзіта.

Ганна спалохана хіснулася назад, нібы наткнулася на гада. Яўхім адразу заўважыў, як мармуровы твар яе перайначыўся страхам, жахам. Яна мімаволі ступіла крок у сенцы, як бы асцерагаючыся ўдару,— Яўхіму здалося, што яна хоча схавацца, зачыніць хутчэй дзверы. І ён рысем рынуўся ўслед.

— Пачакай! Не рвіся!

Ён моцнай рукой хапіўся за клямку, спяшаючыся стрымаць дзверы, не даць ёй зачыніць. Але дзверы нават не варухнуліся, яна, было відаць, і не думала зачыняць іх. Ён зразумеў — яна адхіснулася толькі не ад страху, ад неспадзяванасці.

— Вядзі ў хату! — загадаў ён строга.

Яўхім нецярпліва штурхнуў яе рукой у плячо. Ён трымаўся знарок груба, падганяў, жадаючы прымусіць яе слухацца ва ўсім, і Ганна падпарадкавалася, пакорліва, як асуджаная, пайшла ў хату. Яўхім падаўся за ёй — ідучы ўжо, загадаў Сацуру зачыніць дзверы на засаўку.

— Занавесь вокны! — тым жа ўладным голасам прасіпеў ён у хаце.

Ён быў тут не госць, гаспадар быў, муж, у праве і ўладзе якога не магло быць ні ў каго ніякіх сумненняў.

У цемры нейчы немалады жаночы голас спалохана ўскрыкнуў:

— Ой!.. Хто тут?!

Яму, гэтаму голасу, ніхто не адказаў, ды і казаць, напэўна, не было ніякай патрэбы: адчувалася, што жанчыне, якая пытала, прыйшла ўжо адгадка. І праўда, у наступны момант мачыха — Яўхім адразу пазнаў, што гэта яна,— прамовіла:

— Яўхім?!

У голасе яе Яўхім улавіў цяпер іншую нотку: мачыха, як магла, старалася затаіць страх, намагалася паказаць калі не радасць яму, то прыязнасць, задавальненне тым, што ён прыйшоў. Яна борзда заварушылася, зашамацела вопраткай, хутка адзяваючыся:

— Я зараз... Я зараз, Яўхімко...

Яўхім угледзеў карэц на лаўцы каля дзвярэй, зачэрпнуў з вядра вады, абліваючыся, прагна прыпаў да яе, абцёршы рукавом бараду, падаўся к сталу. Тут ён і сядзеў, зморана, нерухома горбячыся, пакуль Ганніна мачыха хапаючыся занавешвала вокны. Толькі калі старая стала дрыжачымі рукамі запальваць газоўку, па-воўчы важка павёў галавою — у цьмяным, варухлівым святле ўбачыў Ганну, што стаяла каля печы. Яна яшчэ гарэла, не магла супакоіцца — трывожныя вочы глядзелі на яго, не хаваючы непрыязнасці.

Яўхім хацеў усміхнуцца — выйшла не ўсмешка, а грымаса.

— Што, не ждала?

Яна не сказала нічога.

— Думала, згніў?.. А я — не! Жывучы!

Ён нібы помсціў тым, што жыве, нібы пагражаў, што жыць будзе. Але яна зноў не адказала. Яўхім заўважыў, што Сацура няёмка мнецца каля парога, і ўладна прасіпеў:

— Садзіся! Будзь як дома!

Сацура сеў на лаўку. Яўхім, паклаўшы абрэз каля сябе, яшчэ не вельмі паслухмянымі пасля холаду пальцамі расшпіліў каўнер ватоўкі.

— Дай есці, старая! — кінуў ён мачысе.

Мачыха, якая ўжо даставала хлеб з палічкі, заварушылася барзджэй.

— Зараз... Зараз, Яўхімко...

Яна хапаючыся падала каравай хлеба на стол, збегала ў сенцы, прынесла паліваную міску гуркоў і капусты.

— От. А я, тым часам, яечню,— гаварыла яна, ужо завіхаючыся пры печы.— Яечкаў колькі зберагла. Нібы ведала... Раптам, думаю, госць які заявіцца. І на табе, як у ваду глядзела,— заявіўся... А на сала, прабач. Кабанчыка гадаваць думалі, ды няўдалы папаўся. Прырэзалі малога...

Яўхім, прагна жуючы адламаны чорнымі рукамі акраец хлеба, перабіў:

— А пагрэцца — няма?

— Ой! Забыла! Здурнела! — Яна кінулася да скрыні, дастала чорную з раздутым горлам пляшку.— Сляза! Агонь!..

— Давай!

Ён сам наліў сабе ў карэц — наліваючы, заўважыў, што гарэлкі ў пляшцы мала, і грозна зірнуў на старую, але не сказаў нічога, выпіў адным духам, даў пляшку Сацуру. Пад моцнымі зубамі жаласна чвякнуў гурок — Яўхім еў хапаючыся, нібы баяўся не паспець, не насыціцца ніколі.

«Чорны, брудны, аброслы да вачэй...— думала Ганна, сочачы за ім.— Як лясун... Сеў за стол і ватоўку не зняў, а ватоўка ж — пуд гразі начэплена! Абрэз паставіць убаку баіцца, так з ім, пэўна, і спіць, а рук не выпускае! А рукі — сеў есці і нават не падумаў памыць. Ды і мыў іх, можа, яшчэ калі ў Куранёўцы жыў. Кара вунь на пальцах якая—здалёк відаць!.. Але ж як есць, згаладаўся як! Відаць, не соладка было!.. Не есць, а рве, як воўк клыкамі! І позірк нейкі не чалавечы, дзікі, звярыны!.. Божа мой, які ён агідны і страшны!»

Яна сачыла за ім, разглядала яго, не тоячы пагарды і нянавісці, знарок адзначаючы брыдкае ў ім. Яна адзначала са злой радасцю, з асалодай — гэта давала ёй цяпер палёгку і ўцеху ў бядзе, вяртала ёй адчуванне переваі над ім, сілы сваёй. Поўнячыся ўсё больш агідай да яго, яна дзівілася, як магла калісьці паслухацца ўгавораў, згадзіцца, прымірыцца пайсці за яго, стаць яго жонкай, ляжаць з ім, гэтым нелюдзем, на адным ложку — як яна магла!

Яўхім нарэшце заўважыў яе непрыязны позірк, перастаў жаваць.

— Чаго глядзіш?! Вочы лопнуць!..

— Даўно не бачыла...

— Што, не падабаюся? Некрасівы? Непрыбраны?

— Прыбраны! Куды ж яшчэ!..

— «Прыбраны!» — перакрывіў ён яе.— Пабыла б ты на маім месцы!

— Мне і сваё падабаецца...

Лепш бы яна не чапала яго. Яўхім, брыдка вылаяўшыся, злосна правёў позіркам па ложку — і раптам дзіўна змяніўся, зацікаўлена, заклапочана ўзняў галаву. Заўважыўшы яго позірк, Ганна пабляднела: як яна ў момант зразумела гэты позірк! Галька — ён убачыў на ложку дачку! Убачыў і ўспомніў!

Яўхім устаў так рэзка, што штурхнуў стол — ступіў да лож-

ка. І адразу куды падзеўся яе, няхай знешні, спакой. Сарвалася са свайго месца каля печкі, кінулася наперарэз яму, стала, затульваючы сабой ложак, Гальку:

— Не чапай!

Ён, нічога не гаворачы, паспрабаваў адвесці яе, але яна не паддалася. Ганна блізка бачыла ўпартыя, памутнелыя ад самагонкі харковыя вочы, разумела, што не спыніць яго, і ўсё ж сказала:

— Адыдзі!

Яўхім сілай адштурхнуў яе. З роспаччу ад сваёй слабасці перад ім, з баязню разбудзіць Гальку, якая найбольш і ўтрымала яе ад таго, каб не ўчапіцца ў Яўхіма, Ганна глядзела, як ён нахіліўся над дачкой. Шум каля ложка ўжо амаль разбудзіў Галю, яна адчула блізкі, пільны позірк, паморгала вейкамі — вось-вось прачнецца. Але не прачнулася: моцны сон дзіцячы за поўнач! — смачна чмокнуўшы вільготнымі губкамі, адвярнулася к сцяне.

Яўхім стаяў перад ложкам ціха, згорблены, нерухомы, збоку можна было падумаць, што дрэмле. Але ён не драмаў, прыжмураныя вочы яго глядзелі, штосьці дзіўнае, супакоенае, усцешанае было на зарослым, здзічэлым твары.

Ганна і мачыха сачылі за ім з трывогай — хто мог ведаць, што ён выкіне ў наступны момант, асабліва зараз, калі стаіць перад дачкою. А ён усё не адыходзіў — каб адвесці яго як-небудзь, мачыха хутчэй падала на стол гарачую скавараду з яечняй.

— Пакаштуй от яечні, Яўхімко!..

Ён, хіснуўся, нязвыклым, няўпэўненым рухам паправіў коўдру, якая спаўзла з Талькі да ног, і вярнуўся к сталу. Задуменна, задаволена прамовіў раптам:

— Мая кроў! Глушакоўская!

Так, гэта была і яго кроў, Галя была і яго дачкой,— што тут магла сказаць яму Ганна! Ён мог, меў права хваліцца! Былое, як кара, вярнулася, прыгняло Ганну, зноў, наперакор яе волі, нібы нанова, звязала з гэтым ненавісным чалавекам. Ёй захацелася закрычаць ад крыўды, ад адчаю. Дакуль жа ён будзе ўбівацца ў яе жыццё, стаяць на яе дарозе?!

У гэты момант яна ненавідзела яго, як, можа, ніколі раней,— за ўсе свае няшчасці, за ўсё сваё няўдалае, навек пакалечанае жыццё!..

Яўхім правёў па стале мутным позіркам, грозна зірнуў на мачыху:

— А дзе яшчэ — агонь?.. Гарэлка дзе?!

Мачыха няёмка адказала:

— Няма болей. Заставалася трохі, сляза... Аддала ўсю...

Сацура паспрабаваў утрымаць Яўхіма:

— Хопіць і гэтага, Яўхім! Панюхалі і — досыць!.. Хопіць пакуль — не еўшы...

— Чаго хопіць?

— Каб не размарыла!..

— Ерунда!

Мачыха зноў сустрэлася з патрабавальным Яўхімавым позіркам.

— «Сляза»! Скупая твая сляза, старая!.. Дастань шчэ!

— Няма, Яўхімко.

— Брэшаш!

Яўхім, бачыла мачыха, не збіраўся далікатнічаць. Ацаніўшы ўсю сур'ёзнасць сітуацыі, яна завагалася:

— Ну, пайду, пашукаю мо...

— Пашукай!

Яна для прыліку пакапалася ў скрыні і дастала яшчэ пляшку.

— Ой, праўда твая!.. Зусім забулася!..

Яўхім наліў сабе ў карэц, потым даў таварышу. Сацура, аднак, за пляшку не ўхапіўся, думаў яшчэ: піць ці не піць.

— Пі! — прасіпеў Яўхім.— Пакуль даюць!

Сацура ўзяў карэц, паслухмяна, без ахвоты.

Ганна, што сядзела цяпер на ложку, як бы прыкрываючы сабой дзіця, бачыла, што яны ўжо даволі добра ап'янелі. Яна мімаволі здзівілася, як хутка разморвала гарэлка Яўхіма, калісьці такога здаровага і непадатнага. Але ён не стрымаўся і выпіў яшчэ, цяпер адзін — на гэты раз Сацуру не стаў няволіць.

П'янымі, пасалавеўшымі вачыма ўпершыся ў Ганну, Яўхім раптам узняўся і зноў падаўся да ложка. Яна падумала, што ён ідзе, як і першы раз, да Галькі, і ўстала, рыхтуючыся абараніць малую. Аднак Яўхім ішоў не да дачкі. Хіснуўшыся, спыніўся перад Ганнай так блізка, што яна вымушана была адхіліцца назад.

Ён прасіпеў:

— Адна жывеш...

Як ні дзіўна, у голасе яго Ганна ўлавіла раўнівы неспакой, які ён, цвярозы, мусіць, таіў. Ён яшчэ неабыякавы да яе, раўнуе яшчэ!.. Яўхім ступіў крок, збіраючыся сесці на ложак, цягнучы з сабой і яе, але Ганна адвяла яго к сцяне, далей ад дачкі.

— А я думаў, знайшла каго-небудзь...

Ганна прамаўчала, з насцярожанасцю чакала, што будзе далей.

— Няўжо ж — не знайшла?.. Ахвотніка не знайшлося?.. Н-на такую бабу?

Ён і здзекваўся, і паддабраўся. Ганна знарок, каб укалоць яго, зманіла:

— А мо і знайшла...

— Брэшаш! — нібы пачуў ён май.

Яўхім тузануўся і моцна, упэўнена абхапіў яе за плечы, прыціснуў да сцяны, пацягнуўся да яе губамі. Ганна, задыхаючыся ў гэтым абдымку, убачыла перад сабой, так блізка, што твары іх амаль датыкаліся, дзікія, з бязлітасным, страшным бляскам у расшыраных зрэнках чырванаватыя вочы, якія прасілі, прагнулі, патрабавалі,— крыху далей, збоку лба, заўважыла густа налітую крывёю тугую жылу, гатовую, здаецца, лопнуць. Ад едкай хвалі самагоннага перагару, што ўдарыў з яго адкрытага, ашчэранага рота, ёй зрабілася моташна. А Яўхім усё ціснуў яе да сцяны, набліжаў гарачы, шалёны твар, колючы яе шчокі, шыю, намёртва сашчэпленыя, упартыя губы цвёрдым шчаціннем. Ганна адчула мокры дотык каля рота — пацалаваў!

Яна паспрабавала вывернуцца, вырвацца, але не змагла і паварушыцца і застагнала ад бяссільнай злосці.

— Пусці! — прашаптала яна, амаль не расшчэпліваючы губ.

— А калі — не пушчу?..— Ён лез яшчэ цалавацца.

— Пусці! — ірвалася ўсё, задыхаючыся.— Адыдзі... Звер... Як са зверам... Пусці! — У ёй усё шырыўся, рос гнеў, і, поўная гневу гэтага, яна прыгразіла: — Пусці! Плюну!

Яўхім не паслухаўся. І Ганна, у роспачы, непадатная, але без надзеі вырвацца, як бы сабраўшы ўсю агіду да яго, плюнула ў ненавісны твар. У дзікія, страшныя вочы.

Яўхім ад такой нечаканасці на момант разгубіўся. Большай абразы для яго, самалюбнага, ганарлівага, і быць не магло. Абдымак яго адразу паслабеў, але ён яшчэ не здымаў рук з яе плеч — Ганне добра было відаць, як хутка мяняўся яго твар, стаўнавіўся пагрозным, жорсткім. Яна адчула, што абразы гэтай ён не даруе, і мімаволі насцеражылася.

Удар яго кулака трапіў ёй у шчаку. Ён быў такі рэзкі і важкі, што яе, як якое-небудзь дзіця, кінула наўкась на сцяну, на лаўку,— яна ўстаяла, утрымалася на нагах толькі таму, што наткнулася бядром на лаўку. Абапіраючыся аб яе, асцярожліва, увагнуўшы галаву, Ганна чакала, што на яе ўпадзе другі ўдар, але Яўхім толькі брыдка вылаяўся і падаўся зноў к сталу.

Яна пракаўтнула кроў, што набегла ў роце, села на край лаўкі. Ногі, рукі яе дрыжалі, былі дзіўна аслабелыя. Яўхім наліў у карэц гарэлкі, са злосцю выпіў.

— Хто?.. З кім? З кім — цешышся?!

За Ганну адказала мачыха:

— Няма... няма ў яе нікога, Яўхімко... Вот,— яна перахрысцілася.

— Пры мужу, як сука, бегала! А цяпер, без мужа!..

— Няма, Яўхімко. Праўда...

— Брэшаш, старая! — Яму прыйшла здагадка, якая ажывіла даўні боль, выклікала лютасць.— Ці, можа, усё той? Дзятлік усё?

— Не, Яўхімко...

Але Яўхім не слухаў старую. Ён глядзеў на Ганну, ад Ганны чакаў адказу — хай адмовіцца, скажа, што дарэмна ён балючую рану вярэдзіць. Дзятлік, нікчэмнасць, колькі ён прыкрасці даў Яўхіму... І ва ўсім больш шчаслівы аказаўся... Не, можа, ён тут і праўда ні пры чым, можа, Яўхім падазравае дарэмна?

Але Ганна маўчала, не апраўдвалася. Ужо, гледзячы на яе, непадатную, чужую, не сумняваўся — любіць па-ранейшаму таго. Яўхім скрыгануў зубамі так люта, што ўсе на яго паглядзелі.

— Нічого! Адбегаў ужо, лічы!..— пачула Ганна.

Хоць словы гэтыя і не зусім былі ёй ясныя, Ганна, больш па тым, як Яўхім сказаў іх, пачула штосьці страшнае. Гэта не былі словы, якія кажуць проста для таго, каб папалохаць,— Ганна і хвіліну не цешыла сябе зманлівай надзеяй, яна добра ведала цану Яўхімавых слоў! І тое, што страшныя гэтыя словы датычылі не каго іншага, а Васіля, ураз насцеражыла Ганну. «Адбегаў? Чаму Васіль адбегаў?! Яна ж яшчэ днём бачыла яго. Ён ехаў на санях, дужы, здаровы,— бачыла з акна... Што яны з Васілём зрабілі?! Забілі яго?! Не, не, не можа гэтага быць! Не можа!!»

«Але ж чаму Яўхім сказаў — адбегаў? — горача хапалася яна разгадаць страшную загадку.— Не, ён сказаў не проста — адбегаў, а сказаў — лічы, адбегаў! Значыцца... Як гэта трэба разумець, ці так, што ўжо зроблена ўсё, ці — што ён усё роўна не міне пагібелі? Божа, няўжо ж Васіля ўжо няма? Няўжо?!» Поўная трывожных думак пра Васіля, яна нецярпліва, пільна сачыла за Яўхімам, чакала, што якое-небудзь слова раскрые ёй таямніцу, але Яўхім ужо, здавалася, не думаў ні аб Васілю, ні аб ёй. Успершыся на стол грудзямі, важка згорбіўшыся, ён то піў, то еў яечню, то мармытаў нешта. Ганна, урэшце, разабрала:

«...этат случай быў у первым гаду...
як убіў ацец... сваю дочачку... доч-чачку...
за ўтарую красотку — жану...»

Ён спяваў. І песня яго была — пра забойства! Ён мармытаў з такім выглядам, быццам і сам не ведаў, што спявае, і не чуў свайго спеву, сціхаў на паўсказе, потым даспеўваў. Ён паўтараў

усё адны і тыя ж словы. Яго, відаць, усё больш разморвала: талерка і цяпло бралі сваё.

Сацура трымаўся мацней, сядзеў неспакойна, недаверліва паглядваў то на Ганну, то на мачыху, якая сумна стаяла пры печы, прыслухоўваўся да цішыні на вуліцы і, было прыкметна, чакаў, не мог дачакацца, калі можна будзе пайсці адсюль.

— Трэба ісці!..— нарэшце не вытрываў ён.— Няровен час...

— Ер-рунда!.. Ніякага тут... ч-чорта...

— Позна будзе!

— Управ-вімся!..

Галава яго, нястрыжаная, ускудлачаная, ляжала ўжо на стале. Ён мармытаў песню, абарваў і, як бы тлумачачы таварышу, прамовіў:

— Кок — і гатово!..

Праз момант ён ужо хроп. «Божа мой, жывы ён ці— нежывы? — думала Ганна пра Васіля.— А можа, жывы, спіць і не ведае, што смерць каля галавы!.. Трэба штосьці зрабіць! Перашкодзіць неяк!.. Як? Іх двое, здаровыя, са зброяй... Пабегці б да Васіля, папярэдзіць... ці хоць даведацца, мо памагчы трэба! Але як выйсці — не пусцяць! Ці мо мачыху папрасіць, хай скажа, што капусты прынесці хоча?..»

Не, лепш самой паспрабаваць. А можа, і не спыніць — што, ёй і выйсці з хаты нельга? Яна ўстала, патупала па пакоі, але, як толькі падышла да дзвярэй, бяссонны бандыт грозна варухнуўся:

— Куды? Назад!

Ён не стаў нічога слухаць. І Ганне прыйшлося вярнуцца,— села на ложак, затуліла Гальку. Паказвала, што пазяхае, што хоча спаць, а сама ўсё думала, гадала пра Васіля, ледзь магла ўтрымаць сябе, каб не кінуцца зараз жа к яму. Сачыла за бандытам, бачыла, што ён таксама разморany, вось-вось засне, а ўсё ж трымаецца. «Чорт, сну на цябе няма, каб ты заснуў навек!» — кляла яго ў думках.

## III

Доўгім, доўгім здалося гэтае чаканне. І ўсё ж не дарэмна цярпела, адолеў сон і другога — схіліў галаву на плячо і мірна засоп. Адразу і не паверыла, што ён спіць, пачакала, пераканалася, асцярожна, на пальчыках прайшла паўз мачыху, якая слова не сказала,— азірнуўшыся на бандыта, ціха-ціха падняла клямку, адчыніла дзверы. Толькі б не бразнуць нічым, не скрыпнуць, не

разбудзіць. Зачыніўшы дзверы ў сенцы, паслухала: у хаце, як і раней, ціха.

Ах, як зарыпеў снег на ганку, вымерзлыя дошкі! Хутчэй саскочыла з ганка ў гурбачку, кінулася за рог сянец, на той бок, дзе была глухая сцяна хаты,— каб не ісці пад вокнамі, каля якіх драмалі яны! Суседскім агародам, грузнучы голымі каленямі ў снег, не чуючы пякучага холаду, без вопраткі, без хусткі, з раскіданымі косамі выбралася на пустую, як мёртвую, вуліцу, пабегла ў той бок, дзе віднелася Васілёва хата. У яго хаце, як і ва ўсіх іншых, было цёмна і ціха, але што там чакае яе за гэтай цішынёй?!

«Толькі б...— калацілася, задыхалася сэрца.— Толькі б усё було добра! Толькі б добра!..» Дабегшы да яго хаты, Ганна азірнулася: не, на вуліцы за ёй было пуста, не гнаўся ніхто. Але яна не прыцішылася, ускочыўшы на ганак, зазваніла ў шыбку так трывожна, што ў сенцах спалохана закудахталі куры.

— Хто там? — зашарэў за шыбкаю цьмяны твар. Ганна па голасу пазнала: маці яго.

— Васіль... Васіль дома?

Твар за акном знік у цемры. «Чаму яна пайшла, нічога не адказаўшы? Няўжо ж бяда ўжэ здарылася?! Але, каб здарылася, у хаце не было б так ціха! І маці не была б такой, млявай, заспанай!.. Але, можа, яна проста нічога не ведае? Можа, гэта здарылася не дома ў яго? Можа, падсцераглі дзе-небудзь?.. Божа ж, няўжо ён не дома? Калі не дома, значыцца, усё кончана!..»

Зноў зазваніла па шыбцы нецярпліва, настойліва. Азіраючыся — ці не гоняцца за ёй, пачула ў сенцах крокі, цвёрдыя, мужчынскія, яго крокі! Ён дома, жывы! Ледзь толькі дзверы адчыніліся, памкнулася насустрач:

— Васіль!

Ён, у шэрай, сподняй сарочцы, няцямна, здзіўлена адступіў. Ён не разумеў нічога — ні гэтага незвычайнага прыходу, ні яе дзіўнага парыву, і Ганна ўраз схамянулася. Ён спаў, не ведаў, якая бяда каля яго!

— Васіль,— выдыхнула трывожна,— беражыся!..

— Што? — Яму ўсё было як у сне. Ды калі ж ён прачнецца!

— Яўхім прыйшоў!

— Яўхім?!

Здаецца, дайшло да яго, затрывожыўся.

— Забіць гразіўся!..

— А!..

— «Адбегаў, лічы»,— сказаў...

— Дзе ён?..

Ганна раптам заўважыла на вуліцы постаці, што хутка ішлі, беглі ў яе бок, трывожна кінулася да Васіля.

— Ідуць!

Сама ўміг зачыніла дзверы, спалохана прыціснула плячом, на ўсякі выпадак! Крыкнула яму:

— Засаўку зачыні!..

Ён зачыніў, раптам ірвануўся, кінуўся ў хату. Ганна адпусціла дзверы, пабегла за ім.

— Што там? — цераз сон запыталася Маня.

— Бандзіты! Яўхім!

— Ой! Божа!..

У святле, што ішло знадворку, Ганна ўбачыла: Васіль стаяў каля ложка, надзяваў сарочку, спяшаўся так, што не мог адразу трапіць у рукаў. Надзеўшы, нахіліўся, стаў штосьці шукаць на падлозе. Маня, спалоханая, у адной сарочцы, саскочыла з пасцелі, бязладна замітусілася, забожкала.

— Дзе апоркі? — не так запытаў, як загадаў Васіль. Ганна здзівілася таму, які ў яго дзіўна стрыманы голас.

— А я знаю?..

У голасе яго маці былі слёзы роспачы і страху.

— Ой, божа ж!.. Божа ж!

— Сціхні ты! — загадаў ён і застукаў нарэшце апоркамі.

Піск веснічак, хапатлівы рып крокаў прымусіў адразу ўсіх замерці. У хаце стала страшэнна ціха, у гэтай трывожнай цішыні толькі чулася мернае, спакойнае дыханне дзіцяці, што спала, як і раней. Але яго ніхто цяпер, здаецца, не заўважаў. Усе стаялі анямелыя, слухалі, чакалі.

Спыніліся, слухалі, чакалі і тыя, што былі на двары.

— Прамаргаў! — пачуўся раптам адтуль злосны голас Яўхіма.

Сацура прамовіў вінавата:

— Я толькі на мінуту і задрамаў...

— На мінуту!.. Папярэдзіла, курва! — Яўхім люта вылаяўся.

Хвіліну на двары было ціха, як бы там раілі, што рабіць, потым рама акна застугнела ад моцных удараў абрэзам.

— Выходзь! Падабру-паздарову!

Там маўчалі, чакалі. Маня не вытрывала, жахнулася богам.

— Не выйдзеш падабру, сілаю выцягнем!..— Нібы паказваючы, што гэта не пустая пагроза, на двары аб нечым параіліся, затупалі. Мяркуючы па кроках, пайшоў адзін, другі застаўся пад акном.

Нядобра завішчэлі вароты ў хляве. Васіль занепакоена варухнуўся, кінуўся пад лаўку, знайшоў сякеру: жывёлу перарэжа,

гад, калі не адагнаць,— але на парозе стала Ганна. Узяла за руку так, што ён адчуў: не пусціць, адчуў, што трывожыцца яго неразважнасці. І ён як бы адумаўся, спыніўся.

Крокі на дварэ зноў наблізіліся, сціхлі, потым на шыбе раптам ускінуўся, варухнуўся незразумелы агністы водбліск. Ніхто яшчэ не зразумеў, што гэта значыць, як на шыбу ўпаў моцны ўдар і асколкі шкла пасыпаліся на падаконнік, лаўку, падлогу. Амаль адразу ж за імі ў змрок пакоя ўляцеў іскрысты камяк агню. У хаце стала светла. Барвова асветлены гэтым агнём, Васіль кінуўся на камяк, стараючыся хутчэй затаптаць, не даць яму разысціся, свяціць для тых, хто цікаваў з-за акна,— і ў той жа час Ганна ўбачыла ў пройме акна галаву Яўхіма, яго калматую шапку, кончык дула абрэза.

— Васіль!!

Пахаладзелая ад жаху за яго, прагнучы толькі аднаго, каб аберагчы, папярэдзіць, управіцца вырātаваць, кінулася да Васіля, хутчэй затуліла сабою — хацела крыкнуць, каб хаваўся, і не змагла, не паспела: штосьці дужае, страшнае, з громам і агнём, ударыла, апаліла, прымусіла анямець, спыніцца адразу. Не разумеючы, не думаючы, што здарылася,— усё, што было, уяўлялася ёй цяпер нібы ў гарачцы трызнення,— яна ойкнула, хіснулася і стала, дзіўна аслабелая, асядаць на падлогу. Яшчэ перад тым як яна ўпала, у хаце зноў стала цёмна — растаптанае сена пагасла.

Ужо ў цемры грымнуў другі стрэл, трэці. І адразу постаці за акном зніклі, прытаіліся, мабыць, прыслухоўваліся. У хаце залівалася плачам перапалоханае, знянацку разбуджанае дзіця, але яго ніхто не супакойваў. Цераз выбітыя шыбкі густа ішоў марозны холад, студзіў хату. Яго не заўважалі. Васіль асцярожліва азірнуўся на акно, трывожна схіліўся над Ганнай, якая ляжала на падлозе нерухомая і маўклівая, як нежывая...

— Пайшлі! Гатоў ужо! — пачулася за акном. Бандыт запэўніў: — Не прамахнуўся!

Яўхім адказаў не адразу, прамовіў аб іншым:

— Падлезла, курва! Сама нарвалася!

Ён, адчувалася, злаваўся і не хацеў адыходзіць. Прыслухоўваючыся да іх і сочачы за імі, Васіль у гэты момант пачуў ціхі, стрыманы, заціснутымі зубамі Ганнін стогн. Значыцца, яна яшчэ жыве... Не насмерць... Але — што рабіць?.. Бандыт за акном зноў нецярпліва сказаў Яўхіму: хадзем, Корч момант пачакаў, пагрозна мацюкнуўся і, хрупаючы снегам, пайшоў з двара. Яны падаліся вуліцай к лесу.

— Божа мой...— нарэшце ажыла, зварухнулася Маня.

— Ціхо ты! Ганна памірае!

Асцярожна ўзняўшы Ганну, Васіль паклаў яе на лаўку каля стала. Падсунуўшы пад галаву ёй падушку, запытаўся, куды ранілі, але яна як бы і не пачула пытання, не варухнула губамі. Ён чыркнуў запалку, каб самому пабачыць, дзе тая рана, але запалка ад ветру з разбітай шыбы адразу патухла.

— Акно затулі! — загадаў Мані і, не чакаючы, калі яна зробіць, узяўся запіхваць шыбу лахманамі сам.

Яшчэ да таго, як жонка па яго камандзе запаліла лучыну, у поцемках намацаў — усё левае Ганніна плячо было мокрае ад крыві. Не думаў ніколі, што так успомніцца навука з вайсковых заняткаў, як памагаць раненаму салдату,— дрыжачымі рукамі, пераадольваючы звычайную, недарэчную цяпер няёмкасць, стаў расшпільваць Ганне каптан, парваў верх зрэбнай сарочкі: рана крывавілася на белым-белым плячы пад самай ключыцай.

Крыкнуў Мані, каб дала чысты ручнік, як мог, згадваючы паўзабытую навуку, перацiснуў рану, прыпыніў кроў. «Сыдзе крывёй усё роўна... У бальніцу б, к доктару... Але пакуль да таго доктара!..»

— Па бабку Андрэіху трэба!

Маня завагалася, баялася яшчэ выходзіць: а мо тыя бандыты толькі і чакаюць? Ён зірнуў на яе, не сказаў нічога, раптам, як стаяў, без шапкі, без вопраткі выскачыў на ганак. Маня памкнулася вярнуць, гукнула, але ён і не азірнуўся.

## IV

У полі за сялом дарога разгалінавалася на дзве. Адна з іх, шырэйшая, больш уезджаная, вяла проста к лесу ці, лепш сказаць, к лясам, што цягнуліся адсюль на многія вёрсты, а другая, паўзасыпаная снегам, крута паварочвала ўбок. Амаль усе, хто ехаў сюды з сяла, звычайна браліся прамым кірункам — тут ехалі і па дровы, і па сена, ехалі ў Маклішчы і ў іншыя вёскі за лясамі, за балотамі — у царства гушчароў і багны. Але Яўхім і Сацура крута сышлі на бакавую дарожку.

Яны сышлі сюды не выпадкова, Яўхім прадбачыў гэта, яшчэ калі бандыты сядзелі ў Ганнінай хаце. Ён быў упэўнены, што вестка пра яго прыход у сяло не пройдзе так сабе, і асцерагаўся пагоні, якая, як ён лічыў, хутчэй за ўсё пойдзе ў бок лесу, к якому ён знарок нібыта і падаўся, для людскіх вачэй. Збочыўшы ж на дарожку-сцежку, яны быццам бы ўхіляліся ад пагоні, збівалі са следу.

Ішлі па гэтай дарожцы Яўхім і Сацура нядоўга, пакуль у хмызняках не дапалі да другой дарогі, якая ўжо кіравала прыкладна ў бок Прыпяці, туды, куды ім цяпер і хацелася. Дарогай гэтай яны ішлі якраз наадварот кірунку, якім выбіраліся з Каранеўкі, яны як бы абыходзілі сяло.

Рушылі Яўхім і Сацура хутка, час ад часу борзда трусячы ўподбег. Хмель ад самагонкі, што брадзіў у іх галовах, калі былі ў Каранеўцы, на марозе хутка выветрыўся, а з ім выветрылася і лішняя, сляпая ад шаленства смеласць. Яўхім ужо не выхваляўся адвагай, не стараўся нават паказваць лішне спакой, не марудзіў, ступаў хутка і шырока, так што ператрывожанаму Сацуру самому прыходзілася пяцца з усіх сіл, каб не адстаць. Так, подбегам, спехам, яны перайшлі хмызнякі і лес паміж Каранеўкай і Глінішчамі, каля могілак перасеклі грэблю, вылезлі ў марознае пустое поле. Тут ішлі асцярожней — недалёка быў шлях, людная, добра знаёмая міліцыі дарога. Калі сунуліся да яго, пільна ўзіраліся ў рад старых, екацярынінскіх бяроз, што цьмяна шарэў абапал шляху, шукалі прытоеныя постаці, лавілі падазроныя гукі. Яўхім трымаў руку на абрэзе.

На шляху было ціха. Цішыня гэта не ашукала, перабраліся без якіх-небудзь прыгод. І ўсё ж, мінуўшы яго, раз-пораз недаверліва азіраліся, пакуль не аддаліліся на добрую адлегласць. Абмінуўшы яшчэ адно сяло, што перарэзвала дарогу за шляхам, яны нарэшце з палёгкай выбраліся на больш бяспечную пуцявіну, якая аж да самай Прыпяці ішла адно між хмызнякоў, балот, стагоў, дзікага лесу. Тут ужо паспакайнелі, перасталі гнаць сябе.

Блеклая раніца застала іх далёка сярод гэтых, здавалася, бязлюдных абшараў. З яе надыходам мароз прыкметна паслабеў, пачаў нячутна сыпаць мяккі снег, што поўніў наваколле яшчэ большай цішынёй. І дарога, і нізкае неба, і зямля, увесь абсяг якой звузіўся да паўсотні крокаў, былі няпэўнага шэра-белага колеру. Ад гэтай цішыні, ад бяссоннай ночы, вялікай пройдзенай дарогі неадольна апанавала санлівая змора: цягнуліся, заплятаючыся нагамі, дрэмлючы на хаду,— і ледзь заўважылі ў прагаліне між хмызняку аснежаны стог, не разважаючы доўга, збочылі к яму. Ад гэтага стога ў мігатлівай шэрані завідненіся абрысы яшчэ двух стажкоў, яны, перасільваючы змору, дапалі да аднаго з іх, выграблі норы і зашыліся з галавою.

Вылезлі яны перад вечарам, падужэлыя, абчэпленыя сенам. Снег церусіў, як і зранку, але зацішку не было: неспакойнымі парывамі шастаў шырокі вільготны вецер. Пад нагамі снег асядаў, як бы з кракtаннем, не марозным ядраным рыпам,— відаць, таксама быў вільготны.

«Адліга... Вясна падступае»,— падумалі абодва, абтрэсваючы, абабіраючы сеннае ашмоцце, падумалі моўчкі — гаварыць не хацелася. Моўчкі і выйшлі на дарогу. Дарога таксама змянілася, пацямнела, зрабілася слізкаю, іісці стала цяжэй, бо ногі часта касоўзаліся. Праз некалькі вёрст спусціліся з лесу ў нізіну, перарэзаную шырокімі паўзамеценымі раўчакамі, абветранымі ўзгоркамі і купамі лазняку, не адразу здагадаліся, што гэта ўжо Прыпяць, рачная пойма. Рака паявілася пасля незлічоных лагчын і хмызнякоў непрыкметна, звычайнаю снежнаю паласою, амаль нічым не адметнаю ад такіх жа скаваных лёдам рукавоў. Яна была толькі шырэй і прамей, усцяж яе паўз бераг наперарэз двум злым пешаходам бегла гладкая санная дарога.

На Прыпяці вецер біў мацней, здаваўся больш дужым і прасторным.

Выбраўшыся на ўздым другога, вышэйшага берага ракі, Яўхім адчуў, быццам перабраўся цераз нейкую мяжу, ад якой пачынаецца іншае, поўнае няпэўных надзей і загадак жыццё, рысу, за якой, ззаду, мусіць назаўсёды астацца, сацьмець мінулае з усімі яго зманлівымі радасцямі і злымі няўдачамі. Не ў першы раз, але цяпер, аддзелены пяройдзенай мяжой, асабліва ярка, усхвалявана ўспомніў падзеі мінулай ночы, і сумненне, якое ўвесь час не давала спакою, кальнула востра, злосна: што ж з Дзятлікам? Коцнуў ці не?!

Зноў згадалася Ганна, і непрыязнасцю падумаў: падскочыла, курва, затуліць захацела, сама на абрэз налезла!.. Што ж, атрымала тое, чаго даўно шукала, дакруцілася!.. Усё ж на душы было прыкра: не такой развязкі чакаў. Не мог, нават, можа, мёртвай Ганне дараваць нелюбоў да сябе, гатоў быў скрыгатаць зубамі, згадваючы, як кінулася на ратунак да Васіля. А самае галоўнае: ішоў і не ведаў — што з Дзятлікам? Пашанцавала гаду,— пашкадаваў Яўхім,— давялося адступіць да пары, народ мог апомніцца, сабрацца, прыйшлося кінуць Курані, не ведаючы, ці спраўдзіў вялікую помсту сваю! Сацура, трус паганы, таксама пашкодзіў, тузаў усё: хутчэй, хутчэй, блытаў толькі планы... Яўхім, аднак, стараўся не вярэдзіць сябе лішне, супакойваў тым, што, можа, Дзятлік і схаладнеў даўно нежывы, а яшчэ больш важна, што ён, Яўхім, усё ж паказаў сябе ў Куранях і паказаў не абы-як — доўга помніць будуць!..

За Прыпяццю, глыбей засунуўшы пад вопратку абрэзы, зайшлі ў сяло. Было яшчэ не позна, і на вуліцы трапілася ім некалькі людскіх постацей — гурток хлопцаў, што ішлі, рагочучы, галасна гамонячы, і пажылы селянін. Адзін і хлопцаў падышоў да бандытаў, прыгледзеўся, наблізіўшы твар амаль усутыч, хутка

адступіў, падаўся да іншых. Яўхім, востра ўслухоўваючыся, пачуў: «Хто гэта?» — «А чорт яго ведае, незнаёмыя якісь... Думаў, Свердлік...» — бесклапотна адказаў малады, вясёлы голас.

Трэба было б не затрымлівацца ў сяле, хутчэй выбірацца далей, але вельмі хацелася есці. Уцякаючы з Куранёў, яны не захапілі нічога з яды, прагаладаліся за дзень, і жаданне паесці, злоснае і нецярплівае, глушыла і асцярогу і страх. Ад голаду яны былі гатовы на любы ўчынак.

Яўхім усё ж стрымаўся, пакуль не дайшлі амаль да канца сяла. Тут ён выбраў хату, не вельмі ясную, не відную з выгляду,— не хацеў выпадкам натрапіць на якога-небудзь саветчыка ці актывіста, зазірнуў у светлы кружочак расквечанай марозам і водсветамі лучыны шыбы. Цвёрда ўзышоў на ганак.

Дзверы ў хату былі нізкаватыя, уваходзячы, прыгнуў галаву.

— Добры вечар! — з-пад навіслых броваў зноў уміг пільна акінуў хату: дзяўчына з самапрадкай пры лаве, жанчына нешта мяшае ў цэбры. Хтосьці ляжыць на ложку, хлопчык...

— Добры вечар...

Старая і дзяўчына таксама акінулі іх позіркамі — не з падазрэннем, а з цікаўнасцю і здзіўленнем: выгляд іх, мусіць, здзівіў. «Трэ было б пастрыгчыся, бароды пагаліць,— падумаў Яўхім.— Ды — абчысціцца крыху, каб не кідацца вельмі...»

— Можна пагрэцца крыху? — Ён стараўся гаварыць мякка, як мог, паказваць добрага, бяскрыўднага чалавека.— Скалелі, як старцы!.. Вецер — слізкі, проста прашывае...

— Сядайце,— запрасіла старая.— Услон не праседзіце.

— Дзякуем на тым...

Селі. Маладая была зусім побач з Яўхімам, але ніяк не цікавілася ім, нібы сядзела са старым ці калекам, і Яўхіма гэта мімаволі кранала. Дзеўка ж была відная: здаровая, грудзі тугія, аж напіналі кофту, скура на шыі, на руках чыстая, маладая... Губы крутыя, прагныя... «Гарачая, мусіць, курва!.. Самы сок!.. У лесе б такую!..»

Старая дамясіла ў цэбры, выпрасталася, і Яўхім разглядзеў і яе як мае быць: сухі твар, шчокі ўваліліся, губы шчыльна сашчэплены. «Злая, мусіць, як ведзьма, уедлівая... Ахвотніца на чужое дабро...»

— Здалёка бо ідзеце? — пацікавілася старая, сціраючы з рук наліплую мешаніну.

— З Нароўлі цягнемся...

— А... Дадому, пэўне?

— Дадому. Куды ж шчэ?.. Другія ідуць куды хто, а кулік —

дык да свайго балота...— Гаворачы гэта, думаў, рыхтаваўся да наступнага пытання: «А дзе тая дамоўка, калі яна папытаецца?»

Але старая не пацікавілася іх заўтрашняю дамоўкаю.

— Рабілі там, у Нароўлі, ці ў краму хадзілі?

Рабілі. Грошай накаваць думалі... Словам, у заработкі падаваліся.

— Зарабілі што?

— Зарабіць ці зарабілі, а нагараваліся і абадраліся — аж занадта... Словам, праўду гаворыцца: добра там, дзе нас няма...

— А што там рабілі? — адгукнулася нечакана дзяўчына.

— Каму што,— варухнуўся да яе Яўхім.— Каму дровы папілаваць, каму падладзіць што-якое. У хаце, у хляве: ганак, акенічкі, вароты. Мы — па цяслярскай справе...

Дзяўчына не сказала нічога,— старая ў гэты час сабралася несці цэбар, і яна ўстала, падалася да маці:

— Дайце лепей я, мамо!

Яна лёгка ўзняла цэбар і, стукнуўшы моцна дзвярыма, схавалася ў сенцах. Хоць цэбра ў хаце ўжо не было, пах яго, саладкаваты, цёплы, па-ранейшаму спакусліва казытаў востры нюх згаладалых бандытаў — у перамешаным паху добра чулі яны ўвапрэлую, раздушаную бульбу. Яўхім узлавана пракаўтнуў сліну: свінням, чаго добрага, пазайздросціш!..

— А гаспадар дзе? — запытаў ён старую, стараючыся перавесці сваю ўвагу ў іншы бок.— На сходзе мо?

— На сходзе, з якога не вяртаюцца...— адказала яна і змоўкла. Потым дадала, тлумачачы: — На могілках... Бандзіты забілі шампаламі. Балахоўшчыкі...

Яна не бедавала ўжо, гаварыла сумна, але спакойна, з той мудрай ураўнаважанасцю, якая прыходзіць, калі боль перакіпіць.

— Вунь! — паказала яна на картку ў рамачцы, што вісела каля акна. Яўхім, а за ім і Сацура ўсталі, падышлі да карткі — з-за шкла глянуў на іх бялявы чырвонаармеец з упартымі, як у дачкі, губамі, з бязлітаснымі вачыма. Ён стаяў смірна, у поўнай форме, у высокай будзёнаўцы, трымаў руку на эфесе шаблі. Яўхім падумаў: «За шаблю, гад, трымаецца», для прыліку пацікавіўся:

— У будзёнаўцах забілі?

— Тут, у сяле. Ранены быў у будзёнаўцах, прыехаў дамоў. А тут у савет яго выбралі. За ўладу вельмі стаяў, за справядлівасць — за гэта і звялі са свету, нелюдзі!..— Яна ўся кіпела нянавісцю да гэтых нелюдзяў.

— Вось гады! — прасіпеў Яўхім.

Дзяўчына між тым вярнулася, спаласнула рукі, выціраючы іх аб спадніцу, раптам запыталася:

— А дзе ж інструмент ваш?

— Бяда здарылася. Словам, праспалі інструмент! Леглі спаць, паклалі каля сябе, а прачнуліся — нічога!

— Глядзіце,— паспачувала старая.— Жулікаў у горадзе развялося, як саранчы...

Яўхім рашыў, што нарэшце настала пара перайсці ад пустой балбатні да галоўнага, кашлянуў нібы з няёмкасцю, нібы прызнаўся шчыра:

— Прагаладаліся мы, прызнацца. Цэлы дзень без яды...

Сацура нецярпліва падтрымаў:

— Кішкі марш іграюць — аж цярпення няма!..

— Небагатыя мы,— прамовіла старая, як бы просячы прабачыць.— Картоплі вось хіба ў мундзірах. Ды гуркоў з расолам...

Калі дзяўчына ўнесла з сяней міску з гуркамі, госці ўжо ваўсю церабілі бульбу з чыгунка, што стаяў на стале, душыліся, заглыналіся. Старая была поруч, пазірала на іх з такім выглядам, быццам голад спатольвалі яе бедныя, няшчасныя браты.

— Ешце, ешце, не глядзіце! — гасцінна сказала яна, падаючы дзве лыжкі.— Расол у нас добры, ядраны!..

## V

Так і прабіваліся далей, выдаючы сябе за абакраных жулікамі цесляроў. Стараліся, аднак, трымацца як можна цішэй, не кідацца ў вочы лішне. Дарогі выбіралі малаезджаныя, ішлі спачатку начамі, а потым толькі вечарамі і раніцамі — ноччу таксама лёгка можна было наткнуцца на непатрэбную ўвагу. Калі трэба было распытацца пра дарогу, выбіралі людзей з асцярожнасцю, роспыты вялі як бы між іншым, хаваючы іх у рознай балбатні. З асцярогай выбіралі і хаты, вялікія вёскі, тым больш мястэчкі, наогул абыходзілі — хваліць бога, іх у гэтым балотным краі было нягуста...

Каля аднаго сяла пад вечар яны ўбачылі непадалёк першых пагранічнікаў. Праўда, пагранічнікі гэтыя былі без зброі, ехалі на возе, везлі мяхі, напэўна, з мукою і не звярнулі ніякай увагі на двух незнаёмых, але Яўхіма і Сацуру гэта насцеражыла. У абліччах пагранічнікаў на іх нібы зірнула небяспека, якая разам з граніцаю была ўжо так блізка...

За гэты вечар і раніцу бандыты не прайшлі і дзесятка вёрст. Вечарам наступнага дня яны выйшлі з хмызняку, у якім мерзлі з ранішніх поцемкаў, ужо к гумнам ціхага прыгранічнага сяла. Яны ішлі з лесу па дарозе, і постаці іх не павінны былі б прыцягваць асаблівую ўвагу, яны ўлічвалі гэта,— дарогай зайшлі яны

і за гумны. Тут яны сталі, перад імі была цяжкая загадка — у каго выведаць, дзе граніца, як ісці да яе. Дзе, у каторай хаце, ім менш за ўсё будзе рызыкі?

Прайшоўшы амаль усю дарогу за гумнамі, яны заўважылі хату наводшыбе, агледзеліся пільна, асцярожна падступіліся да яе. У хаце была адна жанчына ды некалькі малых круціліся на печы, занятыя нейкай сваёй гульнёй. Яўхім і Сацура, асмялелыя, абнадзеіўшыся адразу, увайшлі. Жанчына, што ўвіхалася каля печы, спаткала іх гасцінна, але калі яны, пагаманіўшы для прыліку аб тым аб сім, намерыліся закінуць у гаворку пытанне аб галоўным, каля двара неспадзявана пачуўся скрып саней, крокі. Жанчына, што прыліпла вастраносым тварыкам да абмерзлай шыбы, сказала:

— Чалавек прыехаў!..

Дзеці загаманілі задаволена, гадаючы, што тата прывёз на гасцінец ім, але ніводзін не злез з печы. Чалавек увайшоў у хату не адразу — няпэўна, уладоўваў каня,— высунуўшыся ж з сенечных дзвярэй, на момант спыніўся, не тоячы незадавальнення, з падазрэннем хмурнымі, нязветлівымі вачыма агледзеў іх.

Ён скінуў аблавухую, аблезлую шапку, задрыпаную світу, важка сеў за стол. Дзеці з печы сачылі за ім моўчкі, з трывогай.

— Есці дай! — коратка загадаў ён жанчыне.

Тая борзда забегала, падала хутка хлеб, нож, выняла з печы чыгунок. У пакоі разышоўся пах сытнага баршчу. Чалавек, не падымаючы ні на кога вачэй, стаў часта, прагна сёрбаць проста з чыгунка — еў так, быццам баяўся, што адбяруць у яго.

— Прадаў? — прамовіла няўпэўнена жонка.

— Прадаў... Занішто...

Ён адказаў не адразу і з такім выглядам, што было відаць— не хацеў гаварыць. І жонка не стала дамагацца, дапытвацца, толькі пакорлівым тонам паясніла Яўхіму і Сацуру:

— Картоплю вазіў у мястэчка прадаваць...

Насыціўшыся, чалавек аблізаў лыжку, адсунуў чыгунок, выцер аб валасы рукі, рыгнуў сыта. Ён збіраўся ўстаць, калі жонка кіўнула ў бок Яўхіма і Сацуры, праказала нясмела:

— Мо пакарміць бы? Галодныя...

Прышэльцы зноў улавілі на сабе яго касы, незадаволены позірк.

— На ўсіх галодных не напасешся!

— Бяда ў нас,— адгукнуўся пакрыўджана Сацура.— Абакралі...

— Мала каго абкрадаюць!..— Чалавек рэзка, з грукатам адсунуў стол.— Не сталоўка тут!

У Яўхіма закіпела лютая злосць: «Трапіўся б ты мне, падла, дзе-небудзь у іншым месцы, папрасіў бы я цябе!.. Помніў бы ты доўга просьбу гэтую!..» Сацура варухнуў торбачкай, якую трымаў каля сябе:

— Мы заплоцім. Анучы е добрыя...

Ён развязаў матузок, выняў анучы, знятыя з Кандыбовіча. Чалавек узяў іх, грэбліва паглядзеў:

— Найшоў чым плаціць!.. Ну, ладна,— як бы саступіў ён, кінуў жонцы: — Дай, хай паядзяць!

Тым часам, калі Яўхім і Сацура накінуліся на чыгунок з недаедзеным баршчом, ён дастаў з-пад лаўкі верчык лазы, кінуў у цэбар з вадою мокнуць.

— У сельсавеце былі? — знянацку ляснуў ён.

Сацура ледзь ухаваў трывогу:

— А чаго?

— А таго, што дазвол трэба.

— Які дазвол? Мы не жулікі якія...

— Жулікі не жулікі — на твары не напісана. Дазвол усім трэба, каб пры граніцы быць!

Сацура паспрабаваў супакоіць яго:

— А што нам, тая граніца? Мы... дадому ідзем...

— Там разбяруцца, куды ідзеце!

Яўхім спасцярожліва зірнуў на яго і сустрэўся з нядобрым, халодным позіркам. «Вось гад, утопіць! Утопіць, як піць даць!.. Трэба было так наскочыць — перад самаю граніцай!»

— Ты не палохай нас, чуеш! — стрымана сказаў Яўхім.— Мы не такія, як думаеш. Не палахлівыя!..

— Я і чую!

— Вось і добра!.. Добра, калі адзін другога бачыць. Лягчэй дамовіцца могуць!

Цвёрды, прыкметна пагрозны тон, якім гаварыў Яўхім, падзейнічаў не толькі на жанчыну, што глядзела на гасцей ужо са страхам,— памякчэў і яе чалавек.

— А ты — не вельмі! — прамовіў ён, стараючыся адступіць з годнасцю.

— І ты — не вельмі! — Яўхім па-ранейшаму паказваў, што жартаваць з сабой не дасць.— Дык што яна, калі на тое пайшло, граніца, недалёка адсюль?

Чалавек зірнуў на іх, як бы ацэньваючы, памаўчаў, штосьці сам з сабою разважаючы, прамовіў ціха, са змоўніцкай мнагазначнасцю:

— Можна правесці да яе... паказаць... Толькі гэта, канечне, каштаваць будзе...

Ён дыпламатычна спыніўся, чакаючы, напэўна, пытання: колькі? Сацура ўзрадавана тузануўся, нецярпліва глянуў на Яўхіма, але Корч спыніў яго стрыманым позіркам. «Правядзеш ты, падла, пад чырвонаармейскую казарму!» — падумаў, сочачы за хутаранінам.

— Грошай у нас няма,— сказаў ціха, выдзяляючы кожны склад, быццам жадаў, каб той не прапусціў чаго, запомніў найлепш.— І пераходзіць граніцу — запомні — мы не збіраемся. Не забудзь!.. А вось дзе яна — усё ж скажы! Каб, скажам, не... заблудзіцца часам туды...

Ён гаварыў так, што за гэтымі словамі добра чуўся іншы, сапраўдны сэнс. Хутаранін нейкі час панура маўчаў і, было відаць, не мог стрымаць расчаравання адказам, першымі словамі Яўхіма. Твар яго зноў зрабіўся халодным, жорсткім.

— А калі няма нічога і не збіраецеся пераходзіць,— загаварыў ён са зласлівым спакоем,— то і цікавіцца асабліва не трэба. Граніца, дзе яна ёсць, там яна ёсць. На месцы...

Ён са знарок абыякавым выглядам дастаў з кішэні капшук, але не паспеў развязаць, рука раптам як бы застыла — твар прышэльца ўраз люта наліўся крывёю, пагрозна падаўся ўсутыч да яго.

— Я пытаюся: да-лё-ка? — зласліва прасіпеў Корч.

— Ой, божа ж! — жахнулася жанчына і анямела на міг ад касога раздражнёнага позірку бандыта. Спалохана выціснула:— Рыгор, скажы!

Чалавек апаскай адхіснуў галаву ад Яўхіма, глянуў на яго руку, якая была ўжо за пазухай, дзе вытыркалася штосьці падобнае на зброю.

— Не... недалёка...

— Колькі?

— Вярстоў дзевяць...

— У якім баку? Точна!

Чалавек паказаў галавою: там.

— Якая яна? Як пазнаць яе?

— Прасека ідзе... Слупкі... Па балоце — слупкі адны...

— Прасека, слупкі — і болей нічога?

— Вышкі стаяць яшчэ... каб глядзець далей...

— Калі відна. А ўночы — як яны сцерагуць?

— Уночы — ходзяць... Сядзяць дзе-небудзь у тайным месцы... глядзяць, слухаюць...

«Наткнуцца можна знянацку,— прайшло ў галаве Яўхіма заклапочанае, трывожнае.— І — снег скрыпіць, здалёк чуваць...»

— Дом ці казарма, у каторай жывуць,— дзе?

— Застава па-іхняму...

— Няхай — застава. Дзе?

— У бярэзніку, блізка ад хутара. Хутар той убаку з паўвярсты... А застава — адразу каля балота, злева так будзе...

— Балота канчаецца там?

— Улева — пад заставаю канчаецца, а так, напрасткі, ідзе шчэ далёка. І на тым баку краю не відна... Вялікае балота...

— Як дабірацца адсюль да яго?

— От тут, за сялом, скора лес. Немалы, вярстоў тры, не менш, калі па дарозе лічыць... Дык на тым баку за лесам — яшчэ сяло...

— Далёка?

— Рукой падаць. Відаць будзе... За ім адразу і балота...

— А — далей? Па балоце — як? Балота — вялікае!..

— Перад сялом краем лесу направа... Да возерца... Яно каля самага лесу, з пачатку балота... А адтуль па канаве...

— Па якой? Дзе яна?

— Ад балота цягнецца. Як абыдзеш возера, дык адразу і ўвапрэшся ў яе... Старая яна, амаль зарасла, лазняк па ёй радком, як бы цугам... Дык гэта канава бярэцца — напрасткі — да самай рэчкі...

— Другіх канаў на дарозе няма?

— Няма. Адна ідзе... Вярстоў пяць паўз яе, не менш, трэба...

— А за рэчкай што?

— За рэчкай ужо, можна сказаць, усё. Граніца, і гоні так...

— Застава адтуль далёка?

— Вярстоў мо тры з гакам...

— А вышка блізка? — запытаўся Сацура, які моўчкі слухаў ды стараўся ўсё як найлепш запомніць.

— Паўтары ці дзве вярсты, не меней...— Хутаранін глянуў на Яўхіма.— Ды вышка ўночы — праўда — што сляпая. Тут засады сцерагчыся трэба...

Яўхім упяў у яго вострьі, пранізлівы позірк:

— А дзе яны сядзяць,— ты ж знаеш, канечне!

— Каб у іх было пэўнае месца!.. Сёння яны тут, а заўтра... угадай, дзе яны заўтра зашыюцца...

«Палохае, падла»,— падумаў Яўхім, як бы супакойваючы сябе гэтым,— невядомасць з заставамі яго вельмі трывожыла.

— Дзе ў іх — слабінка, няўпраўка?

— Места там усё нядобрае ім. Дрыгва ды кусты. Летам — ведаючы кудою — дык як плюнуць перайсці. А цяпер — замерзла, дарога ім усюды, і — снег, віднавата... Але от калі адліга не сыдзе, то таксама, можа, лоўка...

Яўхім устаў.

— Што ж, дзякуй,— калі не брэшаш? — Ён пільна паглядзеў на хутараніна. Той занепакоена перахрысціўся.

— Праўду. Чыстую праўду казаў...

Жонка, якая па-ранейшаму спалохана сачыла, чым усё скончыцца, заступілася: праўда ўсё, не зманіў. Яўхім, холадна адвёўшы ад яе вочы, падумаў: «Коцнуць бы, і — канец! Спакой — што на след не прывядуць. Дык смярдзець будуць жа. Зазірне хто і суседзяў — лямант, вэрхал, аблава. А мо яшчэ і не перабярэшся адразу, сядзець будзеш блізка... Лепей, калі язык за зубамі патрымаюць...»

Яўхім зірнуў на чалавека, на жонку, як бы хацеў пераканацца: будуць ці не — трымаць?

— Калі збрахалі ці ляпнеце каму — кішкі выймем! З-пад зямлі выцягнем!

Жанчына, пабялеўшы, мімаволі трывожна азірнулася на малых, якія таксама прыціхлі, нібы разумелі, што адбываецца.

— Ніхто слова не пачуе!.. Хай я з места не сыду!..

Вочы Яўхіма ўпалі на паўбохана хлеба на стале, даў Сацуру знак узяць. Сацура ўхапіў, запхнуў за пазуху — гаспадар і не варухнуўся, як бы не бачыў. Сацура кінуўся шнарыць на палічцы, жанчына падбегла, сама дастала жоўты кавалак сала, цыбулі, хутчэй сунула яму.

Яўхім зашпіліўся, грозна ступіў да чалавека:

— Дык — вы нічога не чулі, не бачылі!.. Ясно?

— Ясна...

— Калі што якое, тут нашы рукі ёсць!.. Не забувайце!

Жанчына паклялася:

— Не забудзем! Ніколі...

— Глядзіце!

Ён апошні раз кінуў на іх вачыма, зірнуў на печку і як мог цвёрда, гаспадаром над усім і ўсімі, пайшоў з хаты.

## VI

На дварэ было цёмна, сыра. Яўхім моўчкі адчыніў веснічкі, зірнуў туды, дзе, казаў хутаранін, быў лес. Наводдаль, пад шэрым сподам панурага неба, сапраўды штосьці цямнела.

Яўхім рашуча пакрочыў на дарогу. І праўда, чорная, выслізганая вілюжына дарогі неўзабаве падвяла іх да лесу. Адразу, як нырнулі ў яго жаданы змрок, іх агарнула важкай, быццам набраклая вільгаццю зямля, цішынёй. Яна неўзабаве нібы яшчэ пацяжэла ад таго, што зацерусіў дождж. Аднак трывалая, здава-

лася, непарушная цішыня гэтая, што глушыла ціхі, прыдушаны шум угары, не давала супакаення — яны, можа, назаўсёды перасталі верыць цішыні пасля здарэння на Змяіным, калі яна так здрадзіла, стаіла ім пагібель. І цяпер цішыня хавала здрадлівую невядомасць — размова, якая неспакойна брадзіла ў іх, малявала граніцу такой трывожліва-блізкай, рэальнай. Мяжа не была цяпер проста нечым жаданым, яна была ўжо з балотам, на якім небяспечна заблудзіцца, з рэчкай, якую трэба добра перайсці, з заставай у бярэзнічку, якая расставіла на іх дарозе чырвонаармейцаў. Яна была ўжо не ў марах, а на зямлі, яе трэба было хутка пераходзіць.

Яшчэ крыху — і яны могуць быць на другім беразе, могуць пляваць на ўсю міліцыю, на ўсіх суддзяў, на ўсё. Засталося зусім мала — лес, возера, балота, прасека са слупкамі... Некалькі вёрст усяго, апошніх вёрст, пасля далёкай дарогі... Але — якія гэта вёрсты! І балота, і возера, і рэчка — не проста балота і рэчка, і прасека — не прасека, смяротная мяжа,— усё тоіць тут у сабе небяспеку, пагрозу, тым большыя, што яны невядомыя, непрадбачаныя. Іх можна чакаць адусюль, як ■ безлічы дрэваў і кустоў вылучыць тыя, дзе прайсці вольна і дзе смерць цікуе?

І Яўхім, і Сацура былі гатовыя да ўсяго. Жыццё, якое яны ведалі дасюль, было таксама поўна асцярогі, воўчага цікавання, і ім не трэба было прывыкаць, перайначвацца. Блізкасць небяспекі на шляху да мэты толькі больш насцярожыла іх, зрабіла слых больш чулым, вочы больш пільнымі, крокі мякчэйшымі, пругкімі. Ногі гатовы былі любы момант кінуць іх за дрэва, рукі — ухапіць абрэз, ударыць агнём.

Ужо нямала ўвайшоўшы па маўклівым лесе, у якім адно ціха, сумна шамрыў дождж, яны раптам улавілі ззаду адрывістыя галасы, тупат конскіх капытоў і адразу збочылі, прытаіліся за дрэвамі. Неўзабаве на дарозе паявіліся постаці трох коннікаў, што ехалі трушком. Блізка ад тых дрэваў, з-за якіх выглядвалі бандыты, коннікі перавялі коней на хаду, а адзін з іх амаль насупраць прыпыніўся зусім, і Яўхім засунуў руку за пазуху, падцягнуў абрэз. Не варушачыся, сачыў, чакаў — той, што стаў, адвярнуўся ўбок і, горбячыся, затульваючыся, мабыць, ад дажджу, ад ветру, закурыў. Твару яго не было відаць, але ад водсвету агню на момант акрэсліўся абрыс вінтоўкі і шышкастая будзёнаўка.

«Чырвонаармеец!» — У бандыта ўміг успыхнула думка: ці не пагоня гэта за імі, ці не прадаў іх падла-хутаранін?..

Адзін з коннікаў, што праехалі наперад, таксама прыпыніўся.

— Палавіну — нам з Ярмольчыкам! — пачуў Яўхім.

— Па дзве заццяжкі! — рагатнуў той, што закурыў, і крануў каня.

Бандыты падаліся ўслед за імі, толькі калі добра перачакалі. Спачатку хацелі было ісці не па дарозе, збоку, але ногі глыбока грузлі, снег рыпеў, і яны выбраліся на ўтоптаны грунт. Ішлі яны цяпер яшчэ асцярожней — трымаліся бліжэй да дрэваў, прыпыняліся, прыглядаліся, услухоўваліся. Абодва шкадавалі, што не запыталі ў хаце, на ўсякі выпадак, ці няма другой дарогі.

Але дабраліся да краю лесу ўдала. Не вытыркаючыся з-пад сховы дрэваў, агледзелі шэрую цьмяную прастору, што была наперадзе, на якой, з паўвярсты ад лесу, штосьці чарнела ў рад,— не так разабралі, як здагадаліся — хаты, гумны, дрэвы. Вёска, мусіць, больш хавалася ў лагчыне, бо значыўся наперадзе толькі невялічкі гурт пабудоў, які з аднаго боку танчэў, як бы ўлазіў у зямлю. Ад таго, што сяло танула ў змроку, было без звыклых абрысаў, яно здалося асабліва затоеным, небяспечным.

На тым месцы, дзе яны стаялі, віднеліся глыбокія раўчакі ад санных палазоў, што ішлі якраз управа, і яны збочылі на гэту сцежку. Яны звярнулі ў лес, не пакідаючы за сабой знаку, які мог бы выклікаць чыё-небудзь падазрэнне. Гэта была не лішняя асцярога. Сані, праўда, хутка загнулі ў глыб лесу, і ім давялося лезці на цалік, але тут знак свежых слядоў, які заставаўся за імі, ужо не быў такі відны, кідкі: тут хадзілі рэдка.

Ісці было цяжка, на кожным кроку да кален уязджалі ў мокры снег, часта спыняліся, аддыхваліся, услухоўваліся. На твары, на шыі было брыдка ад поту, перамешанага з вадой ад дажджу, што стаў зноў сеяць. Прыпынкі рабілі кароценькія, ледзь перадыхнуўшы, упарта лезлі далей, уважліва сочачы каб не адыходзіў край лесу. Мяжа лесу, поле, цёмныя плямы хат наводдаль былі адзінымі знакамі, якія паказвалі кірунак, не давалі заблудзіцца, і ўсё ж сумненне не раз падступала, трывожыла, і чым далей, тым больш — ішлі, ішлі, выглядвалі яго нецярпліва, а яго ўсё не было. Вось ужо зніклі ў цемры плямы — хаты, кончылася поле, папоўз луг з купамі хмызняку — думалі спачатку, што тут і ёсць возера, выйшлі к яму — аж не, ніякага знаку, адны цёмныя лужыны пад нагамі. Ці ёсць яно наогул, гэтае возера? Ці не ашукаў іх подлы хутарчук?

Яўхім не раз ужо думаў сам сабе, ці не кінуць шукаць яго, павярнуць і ісці наўгад да мяжы, але цягнуўся і цягнуўся. «Ну, падла, калі збрахаў,— думаў пра чалавека з хутара,— не пагляджу, што назад ісці, вярнуся і — пакажу!..»

Але пагроза гэтая была лішняй — возера знайшлося, знайшлося, праўда, далей, чым думалі, але ўсё ж знайшлося. Акружа-

нае хмызняком, паўзарослае чаротам, спаткала бандытаў халоднай цішынёй, звычайнай змрочнай затоенасцю, але і Сацура, і Корч адчулі сябе лягчэй. Значыцца, хутарчук не ашукаў, і не збіліся, усё ішло пакуль як трэба. Канаву, аброслую абапал лазняком, знайшлі хутка, яе простая, шэрая ад снегу роўнядзь добра віднелася на чарнаце лазнякоў. Знайшлі на беражку нават асклізлую сцежачку, не ўтрывалі, асцярожна пасунуліся па ёй, адчувалі ўжо, што кожны крок набліжае да граніцы. Гэта і хвалявала, і напаміпала пра небяспеку, прымушала неспакойна мацаць прыклад абрэза.

Сцежка, аднак, неўзабаве адышла ад канавы, знікла за вялікай лужынай у зарасніку, і ім прыйшлося зноў ісці па цаліку. Яны паспрабавалі было ісці ў канаве, але яе перабівалі мокрыя гурбы, у якіх даводзілася грузнуць па пояс. Ды і нязручна тут, небяспечна, як-ніяк, усё ж відна з кустоў, бо на чыстым лезеш. Выбраліся на бераг, раз-пораз настаўляючы рукі ад гідкіх, слізкіх галін, плюючыся вадой, што паўзла ў рот, палезлі лазняком паўз канаву.

Было ўжо, мусіць, за поўнач, мокра, веграна, цёмна, зручна для такой справы. Але ад хмар наперадзе, нізкіх, чорных, у сэрцы гусцела трывога, яны нібы прадказвалі нядобрае... «Ідзеш, як сляпы,— лаяўся ў думках Яўхім.— І не заўважыш, як налезеш проста на чырвонаармейца. Пікнуць не ўправішся!.. Налезеш як піць даць, асабліва каля канавы гэтай...» Ён падумаў, што канава вельмі зручная адзнака кірунку да мяжы,— але хіба ж тыя, што вартуюць граніцу, не падумалі пра гэта. Калі пільнуюць яны, то хутчэй за ўсё ў такіх месцах,— таксама не дурні. Але і яны з Сацурам не павінны дурнямі быць...

Яны лезлі ў кустах ужо наводдаль, толькі здагадкаю трымаючыся таго ж кірунку, што і канава. Яўхім не вельмі непакоіўся, што канавы не было відаць,— не першы раз ішоў уночы, нюхам, як звер, умеў чуць кірунак. Нюх гэты яшчэ ніколі не падманваў. Тупа, зморана пазіраючы пад ногі, стараўся абыходзіць лужыны, якіх тут было на дзіва многа. Цэлае разводдзе, хто б мог падумаць, што так ужо распусціла. Ён чуў, як дзе-нідзе мякка паддаецца дрыгва, таго і глядзі, што ўвалішся!..

Абмінаючы вялікую лужыну пад кустом, Яўхім пачуў,— побач з трэскам важка шухнула, кінуў хутка вокам.

— Гух,— спалохана выдыхнуў Сацура, стоячы па пояс у вадзе.

Ломячы лядок, ён, хапаючыся, па-сабачы рынуўся з лужыны, выбраўся на куп'ё, стаў атрасацца.

— Лёд, думаў, як лёд... А тут...

— Думаў,— прасіпеў Корч.— Аслеп!.. Няўклюда!..

— Відушчы які! — ашчэрыўся Сацура.

— Маўчы, зануда!

Сацура прамаўчаў. Але ў думках сам даў волю: «Зануда! Калі хто і зануда, то гэта ты!.. Корч пракляты, ніякай літасці чалавеку... Радуецца быццам...» Ад душы захацеў — няхай бы і ён, Корч, уехаў, няхай і яго б так абхапіла холадам — ведаў бы, як сіпець! І калі пачуў, як неўзабаве Яўхім аб'ехаў у дрыгву, узрадаваўся, вельмі ўсцешыўся: «А! Чаго ж не хвалішся, відушчы!.. Соладка?»

Але радасць яго была нядоўгая, ён не ступіў і трох крокаў, як уехаў у гразь таксама. Яўхім паспрабаваў абмінуць яго, абысці бяду, але праваліўся ў другі раз. Яны вярнуліся крыху, пашукалі сцежку сабе ў іншым месцы. Але і тут неўзабаве пачалі грузнуць...

— Трэ было канавы трымацца!..— злосна папракнуў Сацура Яўхіма.

Яўхім плюнуў, але не сказаў нічога. Паспрабаваўшы прабіцца яшчэ ў адным месцы, ён, раз'юшаны, палез напрасткі. Вада, гразь дзе-нідзе падступалі аж да грудзей, але ён усё сунуўся — не мог спыніцца. «Трэ было лезці мне за ім, у гэту дарогу! — маладушна пашкадаваў Сацура.— Не мог асесці дзе-небудзь каля дому, перабыць час...»

Хутка гнілая, разлезлая дрыгва скончылася, і яны выбраліся на сушэйшае. Мокрыя ўшчэнт, брудныя, заходзячыся ад гарачага холаду, што поўніў усё цела, адплёўваючыся, паперлі далей у цемру, у дождж. Ішлі, аднак, нядоўга, не згаворваючыся, адзін пры адным зваліліся перадыхнуць. Абодва былі зморадыя, як чэрці.

Дзе яны? Дзе тая рэчка, якая даўно павінна была застацца ззаду? Ці не прайшлі яны непрыкметна яе? Дзе мяжа, далёка ці блізка? Ці, можа, яна ўжо ззаду — магло ж раптам здарыцца такое?.. Палоска вузенькая зямлі, маглі лёгка пераступіць і не заўважыць?.. Ім зусім не хацелася думаць, што заблудзіліся, хоць непакой пра гэта ўпарта прабіваўся ў атупелыя галовы...

Нечакана парыў мокрага ветру данёс да іх дзіўны гук — вельмі блізка, амаль побач, штосьці бразнула, і яны ў момант насцеражыліся: было падобна на тое, што бразнула клямка. Яны ўчулі скрып варот, ціхі мужчынскі голас. Бандыты адразу ўскочылі, пачалі ўглядацца, але ў цэмры нічога не было, ніякіх абрысаў пабудовы,— і ніякіх гукаў больш не даходзіла. Можа, будынак быў не так ужо і блізка — проста вецер наблізіў гукі.

І ўсё ж трывога не адступіла ад іх. Як тут было ім не тры-

вожыцца — там, куды яны ішлі, рукой падаць, таілася не інакш — застава, жылі пагранічнікі; хто ж мог іншы выходзіць і гаварыць у такі позні час! Яны ледзь не напароліся на яе, самі, каб крыху, улезлі б у пастку! Стараючыся не хлюпнуць, не рыпнуць, застываючы пасля кожнага няўдалага кроку і ўслухоўваючыся, пачалі хутчэй аддаляцца ад небяспечнай мясціны.

— От — твой нюх! — упікнуў нарэшце Сацура, які ўсё яшчэ халаднеў ад адной думкі, што магло б здарыцца, каб не добры выпадак.

— Нюх!.. У гэтай слаце, у прорве!.. Сабака —і той, мабуць...

— Чалавек сам набіваўся правесці!.. Даўно булі б ужэ...

— Замры!..

Так і ішлі далей моўчкі, таілі адзін на аднаго злосць. Хтосьці ж мусіў быць вінаваты за ўсе іх сабачыя пакуты, за лужыны, за блытаніну ў цемры, за разлезлую дрыгву, за азвярэлую ад мокрай золкасці душу, якая выць хоча, люта прагне крыві, адплаты,— брылі, трымалі, як трымаюць на ланцугу лютага сабаку, злосць адзін на аднаго. Больш не было на каго злаваць, удвух ішлі...

Цяпер яны ведалі, дзе ідуць і як лезці далей. Знайшлі рэчку, агледзеліся — ціха, мёртва, толькі дождж шапаціць,— угнуўшыся, выставіўшы абрэзы, пачалі адзін за адным пераходзіць. Рэчка была такая — пераплюнуць можна, і ўсё ж стала, калі нырнулі ў лазняк,— схова ўсё-ткі. Лезлі далей, ужо не выпростваючыся, крок адзін, другі і — прыпынак, каб паглядзець, паслухаць. Як ні ўзіраліся, амаль нічога не бачылі, хмызняк увесь зліваўся ў адно чорнае — цемра зрабілася яшчэ гусцейшаю, напэўна, было блізка да світання. Цяжка было і ўлавіць што-небудзь слыхам: усё вакол поўніў гулкі шум мокрага ветру.

Што ж, хоць у гэтым ім пашанцавала: самы час пераходзіць. А яны ўжо недзе блізка, недзе каля самай прасекі — Корч, туляючыся амаль да зямлі, цікуючы не-не ды і паглядваў, ці не прасека, ці няма слупкоў...

І раптам здарылася тое, чаго з непакоем чакалі і што выдалася ўсё ж такім незразумелым, нечаканым,— побач, як патрывожаная птушка, ускінулася ціхае:

— Стой!..

Ён, гэты голас, быў па-юнацку кволы, птушыны, і чулася ў ім разгубленасць,— відаць, той, хто казаў, таксама не чакаў, можа, абудзіўся ад дрымоты, не верыў сабе,— але ён прымусіў іх у момант замерці, пахаладзець. Яны так і застылі, як ішлі, прыгнутыя, выставіўшы рукі з абрэзамі,— не маглі зварухнуцца, азірнуцца, чакалі, што будзе далей... Голас, што спыніў іх, ішоў

з цемры аднекуль збоку і нават ззаду, яны амаль мінулі яго... Каб яшчэ крыху...

— Хто ідзе?! — пачулася з цемры.

Яўхім зварухнуўся, хутка скіраваў на голас абрэз, цвёрда націснуў «сабачку». Чырвоны, прагны бляск, тугі, знаёмы гром яго стрэлу ўраз як бы вярнулі моц Яўхіму. Ён, як воўк, скокнуў убок, стуліўся, прыгнуўся ледзь не да зямлі і, не разбіраючы нічога перад сабой, натыкаючыся на кусты, ламаючы галлё, колючыся, драпаючыся і не чуючы гэтага, адно — хапаючыся: хутчэй, хутчэй! — ашалела рынуўся ў цемру перад сабой, туды, дзе — гарачаю, як у ліхаманцы, здагадкаю, звярыным нюхам чуў, спадзяваўся — былі яшчэ збавенне, ратунак! Ззаду яго запар ударылі два стрэлы чырвонаармейцаў, потым адзін — карацейшы — Сацуры, але ён гэтага амаль не чуў, яго ўсяго поўніў толькі гарачы туман, у якім жыло, білася адно дзікае, жывёльнае — хутчэй, хутчэй. І ён, ламаючы галлё, лез, лез, бег...

Знянацку ён за штосьці зачапіўся і, як бег, з усяго маху паляцеў потырч галавою ў снег, ледзь не прадавіў жывот аб ложу абрэза. Гэта неспадзяванасць яго, можа быць, выратавала: адразу ж услед ударылі яшчэ два стрэлы, ускінулася балючае:

— Ой!!!

Гэта быў крык Сацуры. «Уцэлілі! — пранізала гарачы туман у галаве Яўхіма страшная здагадка. Яўхім думкаю заенчыў, замаліўся: «Толькі б не мяне!.. Не мяне!..» Ён хапаючыся перазарадзіў абрэз, стрэліў, усхапіўся і што духу кінуўся далей.

За ім ззаду пачуўся зноў крык болю, адчаю, просьбы, але Яўхім, пачуўшы гэты Сацураў кліч, толькі наддаў ходу. Хутчэй, хутчэй, хутчэй! Насцярожаны небяспекай смерці, ён не адразу і паверыў, што па ім ужо не б'юць і, можа, біць больш не будуць, ён чакаў — зараз яшчэ стрэляць, стрэляць, асеплены, ашалелы, задыханы, лез, бег і бег. Ён упаў, толькі ўшчэнт знямогшыся, задыхаўшыся,— як звер, што, ашчэраны, збіраецца ўчапіцца зубамі ў таго, хто гоніцца, дзіка азірнуўся, перакруціўся назад, як клыкамі, клацнуў затворам. Ён жывым не дасца!

Але к яму ніхто не бег. Яўхім чакаў, сачыў, аддыхваўся, чуў наводдаль галасы — раз адтуль дайшоў востры Сацураў стогнкрык, але каля яго было ціха. І тады ў сэрцы нясмела, соладка варухнулася надзея — можа, перабег? Можа, ужо там, куды рваўся? Мусіць, перабег — не сунуцца ж сюды!.. Але чаму ж тады няма і палякаў? У іх жа таксама тут варта!.. Коса павёў вачыма: у змроку, што радзеў, былі кусты, голыя кусты, алешнік, лаза, зламаная яго ботам дробная крушына, асклізлая ламачына — усё такое, як на Змяіным... А мо зноў не дапяў?.. Збіўся, не туды

бег?! Але ж чаму тады чырвонаармейцы не ідуць? Не ведаюць, дзе ён, ці не адважваюцца лезці, чакаюць, калі добра развіднее?.. Перабег ці — не?!

Яўхім пачуў, што сцягно мерзне асабліва і цягуча ные, памацаў рукою, скрывіўся — забалела мацней. На пальцах адчуў нешта ліпкае, паднёс да вачэй — рука была чорная ад гразі. «Кроў?! Ранены?.. Калі ж гэта было? Чаму не пачуў?.. Згарача... А што, калі цяпер — і ісці не зможа?..» — Ён, аднак, падумаў пра гэта без страху, тупа: усё роўна ўсё залежыць ад таго, дзе мяжа, перайшоў ці не?..

Адольваючы боль, Яўхім узняўся, сеў — ляжаць больш было нязносна, мокрае цела проста дубянела на снезе. Пад ім ужо насачылася лужынка. Ён зірнуў на рану — штаны былі разарваны, над каленам, як сабачае вуха, вісела вялікая латка. Усё каля раны запэцкалася ў кроў, але рана сама аказалася невялікай: можа, і не ранілі, а на сук напароўся...

Ён хацеў бы перавязаць яе, калі раптам учуў тое страшнае, што ўраз прымусіла забыцца на ўсё іншае: крокі! Дастаў з кішэні патроны, загнаў у магазінную каробку, стаў, стрымліваючы дрыготку ад холаду, чакаць. І раптам, яшчэ да таго, як убачыў, хто ішоў, пачуў незнаёмую лаянку. Польская гаворка!.. Палякі!

Хутка Яўхім убачыў, як яны, асцярожліва зірнуўшы тудысюды, вытыркнуліся з-за недалёкіх кустоў. Так, гэта былі палякі, польскія салдаты — яму ўжо была вядома іх вопратка, такія ж калісьці стаялі ў Куранях. Жаўнеры, адчуў Яўхім, шукалі яго. Ён кінуў абрэз і, брудны, заляпаны ўвесь да барады граззю, з дзікімі вачыма, скрыгануўшы зубамі ад болю, абліваючы крывёю бот, устаў.

— Я тут... Я... здаюся...

Ён падняў рукі ў плямах бруду і крыві — яны дробна дрыжалі.

Наставіўшы карабіны, жаўнеры падаліся проста да (яго).

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

#### 1

Ганна едзе на луг. Дамеціха астаецца дома — дзяцей, хату глядзець.

У Ганны ўжо трое: самы малы — на Міканора падобны — сінявокі, сярэдні — чарнявы, як Ганна. Старэйшаму Андрэю ўжо дванаццаты год.

Ён не Міканораў, але Міканор не крыўдзіць. І Дамеціха, як да свайго ўнука. Ёсць у ім нешта ад Яўхіма, але прыгожае, харошае. Харошы хлопец расце.

Гэты старэйшы ўпрасіў ехаць на луг. Сонечная раніца, звон галасоў. Калёсы пад'ехалі брыгадныя. Бабы збіраюцца, укладваюцца, садзяцца на воз. Зайчык дурэе.

— А я от памочніка хачу ўзяць! — кажа Ганна, трымаючы хлопца.— Просіць вельмі!

— Няхай едзе!

Паселі. Паехалі. Ззаду воз з мужчынамі. Там і Васіль. Скора ўжо ў лесе.

— Душно будзе!

Побач з Ганнай Васілёва Маня. Маўчыць, нібы дрэмле. Да Ганны яна цяпер нібы спакойная, але ўсё ж даўняя крыўда недзе жыве, не забываецца.

Мужчыны даганяюць, едуць зусім блізка. Коні проста лезуць мордамі ў воз, скубуць сена.

— Не наязджайце бо!

— А вы едзьце скарэй, а то паўзеце!

— Дак абганіце!

— А як не хочацца!

Да Ганны (Хоня):

— Нешта ж ето, Міканора саўсім не чутно. Забуў, мабуць, саўсім!

— Забуў! — згаджаецца Ганна.

— Найшоў, мабуць, якую гарадскую.

— Найшоў, не інакш.

Андрэй хмурыцца. Ганна ўсміхаецца, абдымае яго: — Смяюцца ето дзядзькі! Не забуў, прыедзе!

Ганна едзе з адчуваннем шчасця. І ўвесь дзень поўніць яе шчасце: учора прыйшло пісьмо, што Міканор канчае сваё вучэнне і цераз тыдзень будзе дома! Усе разам будуць!..

Сена добра падсохла. Грэбці любата. Канешне, ад гарачыні — млявасць, легчы хочацца. Але добра на душы — Андрэй тут, пад рукамі — усё бярэцца памагчы.

— Ідзі пагуляй! Ці — ідзі от памажы, за коньмі паглядзі!

— Глядзеў ужэ!

— Ну от шчэ раз ідзі!

— Я тут памагу!

Бярэ граблі. Коціць сена. Высільваецца, але коціць, як трэба Чыста грабе!

— От і дажыла! Памочнік ужэ! — кажа Хадоська.

— Памочнік!

Андрэй давольны. Знясілеўшыся, засопшыся, ён ужо не ўпіраецца, аддае граблі. Цягнучы ногі, ідзе ў бок коней, не хоча паказваць сваю слабасць. Нібы толькі з іншага клопату ідзе...

Шчасце поўніць Ганну. Шчасце ад Андрэя, ад Міканора, які хутка прыедзе, ад гэтага гарачага лугу, гарачай травы, ад сонца, ад сіняга-сіняга неба. Здаецца, што і шчасце яе такое ж бязмежнае, як гэта неба.

У той дзень ні яна, ніхто на лузе не ведаў, што дзень гэты стаў ужо для многіх і многіх — для мільёнаў людзей — днём гора, днём слёз. Ніхто не знаў, што ўжо гарэлі гарады, што грымелі бомбы, што стагналі раненыя, што была ўжо вайна. Тут жа шалясцела ціха, звыкла сена — сухое, пахучае, стрыкалі адно конікі, ды млела чыстае, спакойнае неба...

Толькі пасля абеду прыляцеў сюды на калёсах запатнелы, устрывожаны Руды, перадаў страшную навіну.

— Палез германец! На сваю пагібель, так сказаць: не пройдзе і месяца, следавацельно, як адны аскепкі астануцца. А мы ў Берлін войдзем, савецкі сцяг паднімем!..

Хоня загадаў рабіць, як бы нічога і не было: без панікі, а сам з Рудым жа падаўся назад: трэба было быць у сельсавеце, дазнацца пра ўсё самому.

## [РАЗДЗЕЛ ДРУГІ]

### 2

Неба над Куранямі сінела і ў той дзень, і ў наступныя. Усё было такім звычайным, што не верылася ў страшную навіну,— але спакою ўжо не было. Трывога ўжо была нібы ў паветры, нібы ў каласах жытніх, у ціхай вадзе, у лазняках...

Ужо на другі дзень некалькі чалавек пазвалі ў Алешнікі, а адтуль адправілі ў Хвойнае. З таго дня кожны дзень бралі каго-небудзь, кожны дзень з куранёўскай вуліцы праводзілі каго-небудзь з торбай за плячыма. Кожны дзень прыносіў каму-небудзь жаль расставання, слёзы, галашэнне.

На трэці дзень прыйшла чарга Васіля. Моўчкі сабраў ён торбу, паглядзеў на малых, стрымана пагладзіў галоўку старэйшаму, што туліўся да ног.

— Не дурэйце тут! Памагайце тут, бо як прыйду скора...

Ён не дакончыў: жонка захліпала, і ён строга кінуў на яе вачыма: от бо, плакса. З-за гэтых слёз, з-за таго, што ўсярэдзіне нешта квола, балюча запякло, хутка ўзняў торбу, падаўся на двор. Дзеці падаліся ўслед: малыя, а ведалі, што

Васіль. Васіль, Хоня, Ларывон... Едуць на калёсах.

У Алешніках яшчэ падводы. Цугам у раён. Гаворкі: немцаў разбілі! Скора назад вернемся.

У Хвойным. На двары ваенкамата. Поўна народу. Ваенныя. Правяраюць, адбіраюць. Вядуць некуды групамі. На вакзал. Горача, душна. Тут і начавалі на траве. Васіль думае пра дом.

Сабралі іх у групу. Куранёўцы згаварыліся трымацца разам: смялей. Упрасілі начальства.

Пешкі па дарозе к вакзалу. «Паедзем». Міма. Пешкі далей. Брукаваная дарога ў лесе. (Поезд загружаны.) Лес увесь час, і балота бясконца. Цень пад вечар. Лягчэй. Ідуць абочынай, каб не падбіцца. Начуюць на ўскрайку. У другі дзень ідуць. Камандзір увесь час камандуе падцягнуцца. Ларывон кульгае, ные: нага баліць.

Пайшлі палі, прастор. Незнаёмыя сёлы. Чужына. «У Рэчыцу, кажуць, вядуць». Блізка Рэчыцы ў лесе, у казармах. Адзелі, новы загад — далей.

Рана. Доўгі мост. Дняпро. Кулямёты. Варонкі ад бомб. Прайшлі ціха.

Да Гомеля не дайшлі. Горад быў відаць наводдаль на плоскай раўніне. Павярнулі ўбок некуды. У новую часць.

Абжываліся, вучыць спрабавалі.

У першым баю. Акапаліся на полі. Поле як поле — наперадзе. Ззаду лясок.

Паявіліся постаці на матацыклах. «Немцы». Страляніна. Зноў ціха. Потым пачалі біць гарматы. Зразумеў: «Свае». Потым і нямецкія. Страляў, не бачыў. Прыляцелі самалёты. Уціскаўся ў зямлю.

Потым танкі — пайшлі ўбаку. Адзін загарэўся. Сталі біць аднекуль збоку. Галаву не высунуць з акопа. Паднялі з акопаў, павялі некуды лесам, беглі полем к ляску. Тут як ударылі. Васіль пачуў — рука адляцела.

Слабасць. Сеў. Кружыцца галава. Хтосьці крыкнуў: чаго сеў? «Рука!» Хацеў перавязаць сам. Потым хлопец нейкі з торбай перавязаў, забінтаваў.

Сказаў ісці назад. Пайшоў з трудом. Пачуў раптам страляніну. Зноў убачыў танкі — свае, чужыя. Наўкася беглі постаці. І ён пабег. І тут ударыла выбухамі. Ён упаў. Чарната.

Ён ужо не чуў, як паўз яго прабег Ларывон.

Ноччу, калі ён ачнуўся, было ціха і пуста. Успомніў усё — без страху, абыякава. Пра дом падумаў — без болю, таксама нібы абыякава. Варухнуўся — галава бы чыгуном сціснутая.

«Ліхалецце»

Ён быў ужо блізка ад Куранёў. Гэта — хоць чакаў, марыў пра гэта даўно — здавалася амаль няпраўдзівым. Не верылася таму, што бачыў, што ведаў. Можа, якраз таму, што столькі чакаў, столькі думаў пра гэта ў марах.

Перад тым як заявіцца туды, ён уладкаваў сваё становішча. Нельга ж было прыблукацца проста чалавекам без роду, без племені, уцекачом з лагера. Яшчэ дабіраючыся да Хвойнага, ён у кінутым доме маўклівага, кінутага бальшавікамі гарадка выпароў касцюм, шпурнуў з агідай арыштанцкае рыззё. Касцюм, праўда, быў вялікаваты, але не цяжка было падгарнуць, падшыць рукавы — у лагеры і не такому навучыўся...

З Хвойнага ён таксама не паляцеў сюды: сядзеў цярпліва, ад'ядаўся, пакуль там дапытваліся, вызнаваліся, пакуль, нарэшце, не паслалі на пастаяннае месца, не далі апору. І ў Загаллі ўседзеў — цярплівасці таксама навучылі ў лагеры — агледзеўся, прымерыўся да месца; пагаліўшыся, і ехаў цяпер на калёсах са сваім уласным чалавекам, можна сказаць, дзеншчыком сваім!

Ехаў, глядзеў навокал поўны нецярплівасці і дзіўнага хвалявання. За тыя два дні, што прыглядаўся да камендатуры, знарок не выказваў асабліва сябе, не распытваў пра тое, што і як у Куранях. Чакаў, прыглядваўся, ці не пазнае хто, ці не сустрэне знаёмага,— як-ніяк колькі ўжо адсюль да тых Куранёў,— аж не, не пазналі, і ён не сустракаў знаёмых. Усё-ткі, хоць недалёка, сельсавет зусім другі, а галоўнае — гады; дзесятак гадоў, лічы, было ззаду ад той пары, як навала сагнала адсюль...

Нацярпеўшыся, падступіўшы, стоячы блізка ад таго, што ўжо іншы раз самому здавалася беззваротным, ён знарок не спяшаўся адкрываць загадкі, якія былі цяпер такімі даступнымі. Ён чуў добра, што амаль беззваротнае вярнулася, што ён можа спраўдзіць сваё, палічыцца за тое, што даўно гарэла. Ён быў на вяршыні жаданага, і яму не было чаго хапацца. Слодыч адплаты найбольш вострая тады, калі ты чакаеш яе, калі ты рыхтуешся да яе. Але і цягнуць не было чаго вельмі.

Ён ехаў на лёгкім вазку, на якім не так даўно ездзіў калгасны старшыня. Ён ехаў, і так вясёлы, дужы, але яшчэ і стараўся, каб гэта было відаць і збоку. Чыста паголены, у белай сарочцы, з гальштучкам, у наваксаваных ботах. У кепцы, насунутай набок; з-пад казырка, праўда, не выглядваў, як некалі, хвацкі чуб; парадзела з-за скрухі яго чупрына,— не чупрына, а рудаватая, арыштанцкая шчэць, якую рэгулярна раз у месяц раўняла лагерная машынка. Шчэць гэтая пакуль што і дасюль тырчэла на галаве,— шышкатай, недарэчнай, але кепка хавала ўсё. Кепка,

якая зухавата ссунута на вуха, быццам сведчыла, што ён які быў некалі, такі і цяпер едзе. Едзе пераможцам.

Калі калёсы, пракаціўшыся цераз шырокае, вжатае поле, уз'ехалі на ўзгорак, з якога завідненіся добра алешніцкія хаты, ён пачуў, што ўсярэдзіне заныла нейкая незразумелая кволасць. І поле, і Алешнікі паказаліся нейкімі іншымі, як тыя, што ён помніў. Ён нібы ехаў па незнаёмаму полю, нібы бачыў незнаёмае, чужое сяло. Ён нібы ашукаўся. Адно ўзрадавала вока — вятрак у полі ды цэркаўка, што выглядвала з-за прысад,— але побач з цэркаўкай доўга цягнулася нізкая будыніна з шырокімі вокнамі. Пры ёй было яшчэ некалькі будынкаў, ужо даволі ўчарнелых. Але чаго рабіла сяло незнаёмым, дык гэта тое, што знікла зусім чарада гумнаў. У вочы лезлі зразу хлявы і хаты.

Ён праехаў недалёка ад будынка — гэта была, відаць, школа, стаў узірацца ў хаты, у вуліцу. На дварах дзе-нідзе былі відны людзі, хто-ніхто глядзеў на яго, але насцярожана, недаверліва. Хаты абапал дарогі былі і знаёмыя і нібы незнаёмыя, і людзі таксама нібы і тыя, і не тыя. Чужыя... «Не пазнаеце,— падумаў ён раптам са злосцю.— Нічога, скора пазнаеце!..»

Раптам недарэчная кальнула згадка: тут ён ехаў жаніхом з гэтай, з Ганнай. Вымак у грэблі, сушыўся,— ён уміг успомніў, як перабіраліся, як ішлі потым вуліцай, адагнаў успаміны знарок зларадная думкай: «Сагніла, пэўне, незде мая суджаная! Не ўпадабаўся, бач!.. І шчэ, як прыйшоў з лесу, уратаваць кінулася. Падлезла сама пад вінтоўку, курва!..» У душы варухнулася думка, што, можа, яна і не загінула, жыве, можа, але адышла ж адразу: супакоіў сябе: няма, згніла даўно. Усе гады, пакуль ён гібеў за мяжой, пакуль сядзеў у лагеры, гэтае вялікае пытанне безліч разоў тачыла яго сваёй невядомасцю, хоць ён і не прызнаўся б нікому нізашто. Ён адганяў гэту адгадку, гэты клопат, які ўносіў у душу толькі прыкрасць.

От жа глупства, праз столькі год ён думаў пра гэту гадзіну, нібы ў душы яшчэ жыло для яе, неабыякавае, чулае. Ён знарок даў думкам іншы паварот: шкода, што, мабыць, не дажыла, няхай бы пабачыла, як ён уедзе ў Курані, чым усё кончылася! З усіх, хто мог яго пабачыць у Куранях, ён бы хацеў, каб на яго паглядзела ў гэты дзень яна. Тут жа яго ўзяў клопат: а што ж з малым яго, які ён цяпер, калі жыве?.. Як ён сустрэне бацьку, якога, лічы, не бачыў, не ведаў змалку, пра якога, можа, і не чуў!.. Яўхім рашыў: ён абавязкова забярэ яго сабе, перавучыць па-свойму.

Грэбля... Коні падымалі капытамі хмаркі чорнарудаватага пылу, колы сталі дробна падскокваць на старым галлі. Калёсы і

машыны выбілі грэблю, і па ёй тут і там значыліся глыбокія ямы. Вады абапал грэблі, заўважыў Яўхім, амаль не было, толькі ў канавах, што ішлі паўз самую грэблю, едка зелянела раска. З-пад мосціка, на які ён уз'ехаў, цякла канава — відаць, нестарая, бо зарасніку ў ёй амаль не было, ды і вада цямнела яшчэ ледзь не ад берага да берага. І гэта дадавала яму адчуванне таго, што вакол многа невядомага, чужога. Але ўспаміны, успаміны — яны проста самі лезлі ў галаву так, што адбіцца нельга: успомніў, як сам некалі хадзіў на грэблю, капаў канаву, можа, гэтую самую. Ларывон тады зрэзаўся з гэтым васпаватым, вылез, пакрыўджаны, як малое... От, каб пабачыць Ларывона,— калі не падстаўляе недзе дурную галаву сваю пад нямецкія кулі. А васпаваты той, пэўне, недзе там, гэты свядома, ахвотна...

Ён аж пашкадаваў: эх, шкода, далёка недзе, гад, не счэпішся, не дастанеш! А счапіцца, дастаць бы трэба — напомніць тую сустрэчу, з-за якой два гады вошай гадаваць у лагеры прыйшлося! А можа, і ўдасца, можа, палучыцца? Можа, і недалёка, тут, можа,— вунь сколькі засталося па сваіх хатах...

Заныла сэрца, калі паказалася цагельня. Яшчэ зводдаль кінулася ў вочы, што з дружнай купы сосен і асін, якую помніў, сіратліва тырчэла толькі некалькі дрэваў. І цагельня была як бы не тая. Калі пад'ехаў, убачыў: ад іх паласы не было і знаку, усё было зраўняна ў агульным полі. Ён загадаў дзеншчыку стаць, саскочыў з калёс і хутка пайшоў туды, рашуча топчучы пожню.

Прайшоў туды-сюды, толькі па памяці адгадваючы: от тут, тут было. Але ж — хоць бы знак які дастаўся, як знарок выраўнялі. У ім закіпела злосць: гады, памяць самую сцерці хацелі з зямлі! Упершыню, можа, так востра кальнула думка пра бацьку і матку, як яны гібеюць, дажываюць дні недзе ў далёкай ссылцы. Дажываюць, а можа, ужо і дажылі!..

Але ж, гады, не мог супакоіцца ён, хоць бы знак які аставілі!.. Ідучы назад, ён успомніў, з чаго ўсё пачалося: абрэзку, Дзятлікавага смаркача Васілька, крывавую бойку. Гэта як бы паддало злосці,— вось жа ўдача будзе, калі Дзятлікаў прыблуда ў Куранях цяпер!..

Узрушаны, поўны прадчування трыумфу, глыбокай помслівай радасці, глядзеў ён на стрэхі куранёўскіх хат, што ўжо значыліся наперадзе. Ён здалёк пазнаў крайнюю хату, Чарнушкава дамоўка была такая ж, як і тады, амаль дзесяць гадоў таму; але селішча перамянілася многім: за хатай адно гарбаціліся прыгрэбнічак ды хлявок, іншы, драбнейшы, ні павеці, ні гумна не было. Журавель над калодзежам новы, садок новы разросся весела.

Што ні кажы, а яго ўсё гэта хвалявала, ныла ў ім, як бы стрэмка ў сэрца ўпілася.

Калі ён пад'ехаў блізка, убачыў: з хлява выйшла постаць, падалася к хаце. Заўважыўшы яго, цікаўная постаць спынілася, стала ўглядацца. Яўхім яшчэ зводдалек здагадаўся, хто гэта,— яна ж, згорбленая, сухенькая, з вядром у руцэ, глядзела простай цікаўнасцю, нібы не пазнавала. Думаць, пэўна, не думала. З таго ж свету, лічы, чалавек ехаў...

Ад таго, што Яўхім глядзеў на яе, што пад'язджаў, яна затрывожылася, памкнулася, здаецца, схавацца ў хаце: нероўен час, мо немец які! Яўхім ураз узняўся, перахапіў яе воклічам:

— Пастойце!

Яна стала, з трывогай, насцярожанасцю стала чакаць. Ён ужо добра бачыў пільны, чырвоны, сухаваты твар, па якім, як цень, прабегла нейкая, яшчэ неўсвядомленая здагадка; не даючы ёй усвядоміць самой, урэзаў давольна:

— Што ж ето вы не прызнаецеся, цётко!.. Шчэ і як бы ўцякаць хочаце!

У яе аж рот разявіўся, вочы як не выскачылі. Засмыкала хапатліва сухімі, злымі вуснамі, але слова не магла выціснуць. На твары быў страх.

Яўхім, давольны ўсім, засмяяўся:

— Сваякі ж булі некалі!..— Ён важна павёў позіркам па двары, пацікавіўся абыякава: — Дзядзька Цімох тупае шчэ?..

— Тупае,— заківала яна галавой. Але Яўхім не даў нібы ні ёй, ні дзядзьку Цімоху ніякай увагі. Яўхім быў цяпер ого як высока, гэта было відаць па ўсім, нават па тым, як ён загадаў свайму фурману:

— Трогай!..

Ужо ад'ехаўшы трохі, ён азірнуўся, не цураючыся важнасці,— мачыхі ўжо не было. «Пабегла паведаміць навіну,— падумаў ён.— Гаворыць ужо... Няхай скажа... парадуе!..»

Яўхім бачыў ледзь не ў кожнай хаце асцярожныя пільныя твары, што ліплі да вокан, і гэта поўніла яго адчуваннем высокасці, сілы сваёй, адчуваннем перамогі сваёй. Ён бачыў гэтыя твары, амаль не гледзячы на іх, бачыў не толькі твары, чуў, што поўніць іх душы; ён чуў, што і ўвага іх на ім адным, чуў, што ў гэты момант няма чалавека, які б цікавіў іх больш. Ён ведаў, што іншыя, можа быць, не пазнавалі яго, і адчуваў сябе тым славутым генералам, які едзе перад сваім войскам; генерала гэтага не толькі не крыўдзіць тое, што яго імя да многіх яшчэ не дайшло, ён едзе з годнасцю, ён знае сабе цану. Ён знае, што імя гэта загрыміць так, што кожны затрапеча. І генерал-Яўхім — ехаў з адчу-

ваннем годнасці, сілы сваёй, якая налівала дужасцю шыю, рукі, грудзі. Шыя сама як бы падымалася, грудзі шырэлі, сам ён шырэў, здаецца, так, што цесна станавілася на пыльнай Куранёўскай вуліцы.

Недзе за гэтым, самым важным і дужым, жыла звычайная, чулая цікаўнасць: увага ўвесь час адзначала знешнія асаблівасці таго, што паяўлялася перад вачыма: хаты, двары, агароды. Ён пазнаваў старое, адзначаў новае, нябачанае: ужо цераз некалькі хат улез яму ў вочы жаўтлявы, відны дом з акуратным агародчыкам, абгароджаным роўненькім штыкетам. Ён першы момант нават не пазнаў, чый ён, гэты дом, як не пазнаў і таго старога, што вельмі ж абыякава зірнуў на яго і пайшоў кудысьці па двары; ужо потым цюкнула Яўхіма здагадка, што дом — Васіля Дзятліка, і варухнулася ў ім нядобрае, помслівае. «Вылез усё-такі!.. Выперся ўсё-такі, упартая дзюба!..» Ён знарок адагнаў прыкрасць, прыгледзеўся да дому Дамеціка: мала чым змянілася старая камора — небагата аддзячыла Савецкая ўлада свайму актывісту!

Хата Нібыто-Ігната. Хадоська... Дзе яна? З кім жыве?.. Сарочына хата — усё тая ж. Пракопава — хто тут жыве?.. На Зайчыкавым селішчы — новая хата. Не вельмі відная, але лепшая за тую.

І вось бацькава селішча... Злез з каляскі, пайшоў. Памацаў рукамі. Клеці на двары, у якія ён поўзаў. Зноў наблізілася ўсё, што было. Туга і злосць. Дзе бацька, дзе матка. Дзе яго маладосць, яго надзеі... Яны тут жывуць, як бы нічога і не здарылася, а ён, а яму па лесе бадзяцца, у балотах мокнуць, калець, за граніцу ўцякаць! Гнуцца ў лагеры, за калючым дротам!.. А яны тут, як бы нічога і не было, растарэквалі, у поле хадзілі, дзяцей гадавалі!..

Тато, калі вы жывы, то і вы не знаеце, што я тут. Што я вярнуўся. Даказаў. Вярнуўся — значыць, і вярну ўсё. Толькі што вас няма! Але — я вярну ўсё. Наша пара настала!..

Зноў сеў, паехаў цераз сяло. Там яго недабудаваная хата. Убачыў — некалькі новых хат. Калгасны двор шырокі.

Захацелася — пагаварыць. Успомніў Ларывона, пацягнула к другу лепшаму свайму. Дзе ён?

— Пастой тут,— сказаў дзеншчыку.

Пайшоў к Ларывонавай хаце.

— Яўхім я.

— Які Яўхім?

— Карчоў! Не пазнаеце? Карчоў!

— Які Карчоў?
— Ужэ і Карча не помніце?
— Няма тут Карчоў. Колісь булі. Ды саслалі іх... Няма цяпер...
— Дык я ж уцёк. Яўхім... Не помніце?
— Дзе яго запомніш! — Прыглядалася.— Столькі було ўсяго!..
Раптам штосьці як бы ажыло ў твары:
— Яўхім?
— Яўхім.
— Той, каторы за Ганну сватаўся?
— Успомніла!
— Помню!..
Азірнуўся:
— А дзе Ларывон?
— Няма.
— А дзе ж ён?
— Няма.
— Пайшоў куды?
— Пайшоў...
— Куды?
— На вайну,— адказаў стары.
— А... Ваюе...
— Ваюе...
— За бальшавікоў...
— Забралі...
Пад ложкам пачуўся шорхат, потым паказалася чырвоная галава.
— Едры его! — няёмка, але ўзрушаны ўстаў Ларывон.
— От як ён ваюе! — зарагатаў аж лішне весела Яўхім.
— Як хто ўмее!.. Думаў, чужы хто!
— Усякае цяпер бувае! — сказаў стары.
Ён угледзеўся як бы недаверліва, ляпнуў магутнай рукой:
— Няўжо ето ты?
— А хто б ты думаў.
Хутка яны сядзелі за сталом, на якім скавародка з салам і яешня і пляшка самагонкі. Яўхім п'янеў не толькі ад гарэлкі, але і ад сустрэчы. Тое, што Ларывон сядзеў побач, трохі пастарэлы, але ўсё-такі ж чырвоны, здаровы, гарласты — як бы ўраз вярнула назад, ураз прывязала да Куранёў. Цяпер ужо нібы не было ні тых бадзянняў у Польшчы, ні лагера. Былі толькі Курані, толькі Ларывон.
— Дак ты выкруціўся ад вайны?

— Няма дурных! — Ларывон зарагатаў.— Хай ваюе, каму жыць надаело!

— Лоўко ты! Не думаў, што розуму хопіць!

— Я як толькі стало грымець ды замітусілася ўраз, і шаснуў у кусты. Ды да сваіх!..

Ён пытаўся:

— Ад бацько майго було што?

— Пісаў. Аж з-за Котласа якогась...

— Даўно?

— Да гадоў пяць...

— А болей не було?

— Не було...— Ларывон успомніў.— А Пракопа пусцілі. Пятро яго прыехаў...

Яўхім перабіў.

— А Сцяпан?

— Сцяпан,— здзівіўся Ларывон.— Тут у Алешніках. За бугалцера буў... Устроіўся нічого, не абіжаецца на Савецкую ўласць!..

— Непагано, значыць?

Ларывон перастаў смяяцца:

— Було трохі і яму. Як саджалі ўсіх парційцаў за ўрадлівцельство, дак і яго чуць не заперлі. Знялі, з калгаса хацелі.

— За што?

— Да хто яго знае. Казалі, за тое, што бацько кулак, за цябе. Маўляў, сувязь...

— І ўсе-такі не пасадзілі?

— Не.

— Шкода. Няхай бы і ён пакарміў трохі вошай!

Яўхім сказаў гэтыя словы з такой нянавісцю, што Ларывон з апаскай зірнуў на Яўхіма.

— Ўратаваўся...

— А жонка...— Яўхім пракаўтнуў.— Ганна?..

— Што Ганна? — не зразумеў Ларывон.

— Дзе?

— Чаго — дзе? — Ларывон здагадаўся: не ведае.— У Куранях.

— Жыве?

— А чаго не. Дзяцей трое.

— Замуж... выйшла?

— Цераз год мо, як ты прапаў...

— За каго?..

— За старшыну калгаснаго. Непагано ўгадала!

— Якога старшыну?

— Ну, Міканора.

— Міканора! — Яўхім пачырванеў. Наліў у шклянку гарэлкі, выпіў адным духам. Памаўчаў.

— Сын жыве? Старэйшы?

— Жыве...

Зноў маўчаў, думаў аб нечым. Потым неспадзеўкі:

— А Васіль Дзяцел?

— На вайне. Разам булі. Коцнуло яго. У першы ж дзень. На вачах маіх, можно сказаць. Ён наперадзе буў трохі, як — снарад — бах! Дым, агонь!.. Просто перад ім. Дзятліка як і не было. Я ж адтуль і даў цыгуля... Няма дурных!

— З Ганнай у яго нічого?

— Нічого. Свая жонка, дзяцей трое... Плялі, праўда, што було штось. Што Ганна ў стагу. Але точно не знаю...

— Дак яна тут... Чаго ж яна асталася, не паехала... са сваімі, з начальствам?

— Не знаю. Міканора мо ждала. Яго ж не було тут. У Мінску на курсах буў, ды так і не паявіўся...

— Не пусцілі, мабуць. Вайна не пусціла!..

Яўхім ішоў к Ганне лёгка, молада — ад гарэлкі. Ад радасці — усё па яго выйшла. Але як убачыў Дамецікаву хату, злосць варухнулася — зламаў бы, спапяліў бы хату, вырваў бы з карэннем насенне паганае. З гэтага моманту лёгкасць прапала, узяло шаленства. Ён стаў, як бы хацеў аддыхацца. Ларывон глядзеў на яго здзіўлена.

Радасць у душы была ўжо зліта са злосцю. Лёгкасць і важкасць, сіла і бяссілле, маладосць і старасць былі разам. У целе чуў п'яную расслабленасць, а ў галаве было, як у цвярозага, але ўсё такое супярэчлівае, неаднолькавае, пераблытанае. «Ерунда! — падахвоціў ён сам сябе.— Я вярнуўся! Усё па-мойму выйшло! Не па іх, а па-мойму! Не мне, а ім — думаць трэба! Думаць ды дрыжаць!»

Усё ж была нейкая брыдкая кволасць, калі падышоў да Ганнінай хаты. «Не трэба было піць! — падумаў.— Дурная самагонка расквоіла. Дзіво — столькі не піў, адвык!..» Ён знарок стараўся не паказваць кволасць, ішоў крокам лёгкім, ганарыстым. Ішоў, як у тыя гады. Толькі што казырка бліскучага не было. І боты прыпыленыя.

Лёгка, па-гаспадарску ўпэўнена адчыніў веснічкі, цвёрда ўзышоў на ганак, адчыніў дзверы ў хату. Убачыў спалоханы твар даволі рослага, рудаватага хлопца. Першы момант не здагадаўся, думкі такой не было, што гэта — сын яго; яе і яго. По-

тым угледзеў таксама ўстрывожаны, але ўжо знаёмы твар мачыхі, мільганула думка: значыць, усё ўжо ведаюць, мачыха сказала! Толькі тады ўбачыў Ганну, яна стаяла каля ложка, трымала на руках дзіця, папраўляла на ім плацейка.

Яўхім в забытай зухаватасцю, з помслівасцю сказаў «добры дзень». Мачыха адказала хапатліва:

— Добры дзень!

Ён, як дома, прайшоў, як дома, сеў на канапу каля стала. Следам прайшоў, сеў Ларывон.

Яна мала змянілася. Нібы і пастарэла не вельмі... Той жа малады, востры позірк вішнёвых вачэй, тыя ж выпінкі шчок на твары, тая ж худаватая, лёгкая, маладая пастава. Ніводнай старэчай маршчынкі на твары. Непагана, мабуць, пры рабым сваім жылося!

Траіх дзяцей. Толькі тут ён з увагай зірнуў на хлопца, падумаў: яго сын. Яго памяць. У твары ёсць глушакоўскае; мо і сам ён, Яўхім, такі быў некалі...

— Не ждала? — сказаў ён, нібы абыякава.

Яна стаяла без трывогі, здаецца, зусім спакойна. Спакойна прызналася:

— Не ждала...

— Рашыў праведаць родныя места...— Ён нібы красаваўся перад ёю.— Пацягнуло на радзіму — пабачыць, што робіцца, як хто жыве...

— Мірыцца мо будзем?

— Чаго ето? Твая ж сіла цяпер. Улада твая. Невыгадно табе мірыцца?

— А я не злапамятны!

— А-а...— Не паверыла.

# II. АСОБНЫЯ НАКІДЫ, СЦЭНЫ ДА «ПАЛЕСКАЙ ХРОНІКІ»

## ЗАПІСЫ РОЗНЫХ ГАДОЎ

### Дыялог-спрэчка

*(Апейка з Башлыковым)*

У дыялогу. Спрэчка з Башлыковым. Сутычка. Башлыкоў: «Лібералізм»[1]. «Белыя ручкі». «Галоўная задача». «Мужык — не націснеш на яго». І ўсё яму ясна. Пазайздросціць можна.

Пачаць. Зноў — кабінет. Наведвальнікі. Скаргі.

Жанкі. Выпішыце. Не пайду.

Крык. Істэрыка.

Тая. Карову забралі. З дзіцем. Адабралі.

Зубрыч. Антысавецкая заява. Палохае. Апейка, збіты зусім: Не магу больш! Ідзе да Башлыкова.

Многа незразумелага з калгасамі. Абагульненне. Што абагульняць? Некаторыя толькі коней, кароў. Другія — падчыстую.

З-за кур ды свіней — найбольш галасу ў жанок. Ды з-за кароўкі...

Нейкую разумную памяркоўнасць трэба было б.

Башлыкоў — рашуча: усё трэба. Да астатку. Праціўнік паўмер.

І от «Правда» піша: нібы ў падтрымку Башлыкову[2].

Жорсткасць — націск. Якое тут будзе дабро — з-пад прымусу.

Але і без прымусу — як выканаеш такое заданне!

Трэба тэмпы. З акругі патрабаванне: давай.

Давай зводку.

---

[1] Тэкст: У дыялогу. ~ «Лібералізм».— І. Мележам закрэслены.

[2] Тэкст: І от «Правда» піша: нібы ў падтрымку Башлыкову.— І. Мележам закрэслены.

У зводцы і так дутыя працэнты. Падбаўлена. Прыедуць, правераць — будзе. Так, так, ён разумее — трэба тэмпы. І рашэнне ёсць рашэнне [1].

І калгасы, якія ёсць — ліпавыя. Так для прыліку. Для паказу.

Ашуканства адно. Партыю ашукваем. Як цярпець такое?

Злосць у яго была яшчэ такая гарачая, што ён не мог разважаць, разбіраць. Ды і стома была вінаватая. Пасля нядаўняга ўздыму навалілася, ціснула. Злосць мяшалася са стомаю, атупеласцю.

Так, кубло. Усё зараджанае паганым, кулацкім душком. Нават бядняцкая частка зараджана. Ці — баіцца, настрашаная кулаччом... «Вылезлі. Што ж, тым лепш. Вайна ў адкрытую. Тым лепш! Ударам на ўдар! Трайным ударам на паганы ўдар!»

(Яму лёгка). У злосці ён чуе стому ў сабе, у сваёй уладзе. Трайным ударам. Ён не ўдакладняе, як гэта будзе: злосць і стома, але, ён ведае: гэта будзе. Трайным ударам.

Вецер сячэ, холад прабірае. Здаецца, бярэцца зіма як належыць. Не хочацца думаць глыбей: са злосцю грозіцца ўпаўзці страх: чуецца — бяда. Катастрофа [2]. Развал калгаса ў такі час. Таптанне на месцы ў другіх. Дзе ўсё трымаецца на вялікім напружанні. Дзе таго і глядзі, як бы гэта не падзейнічала на іншых!

Трайным ударам! Ах, як ён нацяты ўвесь час. Здаецца, няма ўжо моцы трываць! Жывеш над меру, над сілу!

Доўга не адчынялі. Спяць.

Думкі, думкі зноў. Больш цвярозыя і таму вастрэй калолі. Заўтра вядома будзе ў акрузе. Не пагладзяць.

Мужыччо. Успамінае: «Ето па закону!» «Няма такога права!» — «Няма права». Мы вам пакажам права! Закон пакажам!..»

«Шляпы! Давялі!» — да Гайліса, Міканора. Пра Чарнаштана: мякіш. Упартасць мужычая — слепата. Ён амаль ненавідзеў гэтае мужыкоўскае, сляпое. Нянавісцю, як ён лічыў, пралетарыя. У гэты час усё мужыцкае ў яго думках злівалася з кулацкім. Адзін чорт. Адным маслам мазана.

Трэба сягоння ж прыняць меры,— думкі ўзялі на цвярозасць. Сёння, неадкладна. Зразу, як прыйду, выклікаць

[1] Тэкст: Трэба тэмпы. ~ ёсць рашэнне.— І. Мележам закрэслены.

[2] Тэкст: І калгасы, ~ Катастрофа.— І. Мележам закрэслены.

Харчава. Усіх злосных запявал ізаляваць. Пакараць! Бой кулацкай анцімоніі!.. Падаткамі прыціснуць трэба! Хадзіў. Курыў. Адну папяросу, другую. У белым, басанож.

Пад самы ранак зваліўся без сіл. Забыўся на гадзіну ў сне.

Успамінае сваю прамову. Недавольны сабой. Не тое казаў. Не трэба было гарачыцца. Дзяцел вяла выступаў, як пад прымусам. Дарошка... Сход няўдалы. Апейка праўду казаў: не трэба было. Не хацелася згаджацца. Трэба было. Трэба было высветліць усё да канца! Усе спосабы выпрабаваць! Сумленне чыстае можа быць. Усё што можна зрабілі!..[1]

Апейка супраць крутых, безразважных мер. Рэпрэсій. Цвяроза разабрацца.

«Цвяроза? Ты заўсёды цвярозы!» «Што мы скажам туды!»

«Скажам, што ёсць!»

«Распішамся ў бяздзейнасці!»

«Прызнаемся, што не змаглі. Што дапусцілі памылкі!»

Башлыкоў гаворыць Апейку: недавольны яго выступленнем і Гайліса. Апейка — байкі, апалітычна, Гайліс наогул настроіў супраць калгаса. Бяззубае выступл[енне] Міканора.

«На бюро абмеркаваць тое, што распаўся к[алга]с. Уклеіць Міканору і Гайлісу».

На бюро. Башлы[коў]:

— Шкода стала? Жаль узяў аб ворагу!

Гайліс:

— Супраць ворага рука Гайліса не дрыжала ніколі.

— Развалілі калгас! А цяпер — слёзы кулакам ды падкулачн[ікам] выціраеце!

— Ён не кулак! — Гайліс.

Як вывад: Башл[ыкоў].

— Справа ясная!

Апейка:

— Не спяшайся...

Апейка, каб не вярэдзіць самалюбства Башл[ыкова], пачаў мякка. Можна і так падумаць, але ён, Ап[ейка], ведае Ігната: гэта праўда — не кулак. Вядома, таварыш Гайліс і

[1] Тэкст: Успамінае ~ зрабілі!..— І. Мележам закрэслены.

Мікан[ор] вінаваты ў тым, што не дабіліся правільн[ага] раш[эння] праз камісію, але ў прынцыпе яны зрабілі правільна. З-за формы дапускаць памылку. Ён прапанав[аў] указаць таварышу Гайлісу і Мік[анору] больш абмеркаваць гэта рашэнне на сходзе. І ў далейшым больш уважліва абмяркоўваць.

Башл[ыкоў] не паддаўся.

— Ты, тав[арыш] Апейка, хочаш змазаць сутнасць вылазкі тав[арыша] Гайліса. Я прапаную асудзіць выступл[енне] Гайліса як антыпарт[ыйнае].

Завязалася спрэчка, звычайная ўжо. Думкі членаў бюро разышліся.

Усё ж большасць за Башл[ыкова].

— Так афіцэры распраўляліся с солдатамі раньшэ.— Гайліс Б[ашлыкову] [1].

Башл[ыкоў] пасля бюро («Головокруж[ение] от успехов») Харчаву.

— Пераводзяць на чыгунку. У палітаддзел. І вымову ўклеілі. А за што? Я апартуніст які? За што? Я зла хацеў? Раён у перадавыя вывеў!

Выпіў ужо. Раскіс зусім.

— Пляму такую!

— Таварыш Сталін як абухам па галаве. Я думаў... Не зварыла башка. І цяпер не варыць. Я, канешне, гатоў выканаць. Але нашто? Столькі зрабілі? Што цяпер будзе?

Столькі зла нарабіў!

Недалёкі ён, прамы, як друк. І няшчасны па-свойму: паставілі на крутую плынь, а ён — не разумее. І ён — рашае!

Самаўпэўнены недавук! Выпадковы!

Ап[ейку] раптам стала шкада яго. «А шкадаваць не трэба!»

«Няхай, паразумнее, можа!»

— Нічога, я там дакажу. Акуплю ўсё!»

Апейка — коратка: новае прызначэнне. Збіраецца ехаць: Бывайце, Юравічы.

Коратка — у канцы. Ганна нарадзіла. Сын Яўхіма.

---

[1] Насупраць тэксту: На бюро, ~ Б[ашлыкову].— на палях І. Мележам запісана: *Зняць з пасады. Дзятла таксама зняць. Гайліс спрач[аецца].— Выключыць з партыі.*

(Можа — з Ганнай сустрэўся. Кліча — з сабой. Яна: не. Ідзе з Глінішч у Курані.)
Вясна ідзе.

Васіль вяртаецца з лесанарыхтовак (сплава). Вясна. К зямлі. Толькі тут можа жыць. Хоць што! Пахі зямлі. (Малюнак.) Нічога няма лепш!

— Я не агіціруюі Я дзякую! — злосна сказаў Ігнат.
Гайліс загадаў ехаць. Калі сані крануліся, Хадоська раптам кінулася ўслед, упала на іх, залемантавала:
— Куды ж ето вы, татачко, мамачко! Брацікі, куды ж ето вы? За што ж ето вас?! Татачко, мамачко! Не кідайце нас! Не едзьце!
Яна ўпала з саней. Хоня падбег, хацеў падняць, яна вырвалася: кінулася даганяць.
— Мамачко, мамачко! Не пушчу! Не пушчу!.. І мяне забярыце! І мяне!..
Сані спынілі. Хадоську адарвалі. Хоня з цяжкасцю ўтрымаў яе, яна рвалася ўслед. Ужо калі сані схаваліся за сялом, аціхла. Знясіленая, няцямная, паслухмяна пацягнулася за Хонем.

Апейка ноччу бачыць: на плошчы поўна вазоў. Ахова. Смутна, трывожна на душы.— Чаму?
Як у вайну... «Вайна і ёсць. Не менш трудная, як тая».
— Давай, тр-рогай!..— скамандаваў нехта [1].

У Алешніках — Гайліс пазваў у с/Савет Міканора, Крываротага, Кудраўца.
— Памылка адна зрабілі.
— Якую?
— Ігнат Струк раскулачылі... Надо выпраўляць. Это — не кулак!
— Еты злосны падкулачнік горай любога кулака! — Крывароты.
Міканор маўчаў — вагаўся: шкода было трохі.
— Надо вызваліць!
Кудравец:
— Але ж ужо рашылі.

---

[1] Насупраць тэксту: Апейка ~ нехта.— на палях І. Мележам напісана: *пазней.*

— Рашылі ошібачно, значыць, надо выпраўляць... Два — «за», адзін утрымліваецца, адзін — «супраць». Надо вызваліць.

Выйшаў. Да Ігната.

— Вяртайся. Да язык трымай за зубамі! І дзякуй Савецкай уладзе, што яна даёт жыць тым, хто нехарошыя словы гаворыць пра яе. Не кулак ты!..

Ігнат стаяў халодны. Жонка з лямантам кінулася да Гайліса, стала цалаваць руку.

— Не надо!

— Як жа вас дзякуваць! За дзетак!.. За ўсіх нас!.. За тое, што зла не помніце!.. Дзядзько!

Нібы баючыся, што Гайліс перадумае, узяла лейцы ў дзядзькі, хутчэй завярнула коней назад. Пагнала назад. Коні, як бы разумеючы, пайшлі назад весялей.

Потым што? Апейка, ноч на плошчы. Раскулачаныя. Народу!.. Старыя, малыя, з дзецьмі. Дзеці плачуць.

Заехаў дадому. Сяло ля Прыпяці. Пясчаная вуліца пад снегам. Лазнякі замёрзлыя. У сенцах — невад на сцяне. Знаёмае, роднае.

Маці замітусілася. «Забуў, саўсім забуў». Бацька ціха сядзеў, задуменны.

Сабраліся суседзі, сваякі. Сястра, абодва браты. (Адзін яшчэ ў арміі: матка аб ім: пісаў...) Адзін брат у шахтах...

Рыбай частуюць. Налавілі ў палонцы. Сам калісьці лавіў.

Гаворка як усюды. Спачатку пра ўсякія здарэнні, са смехам, а потым да таго ж самага:

— Што ж ето будзе?

— А то і будзе. Горш не будзе. Будзе лепш...

— Ето яшчэ пабачыць трэба.

— Лепш будзе...

— Для таго ўсё і робіцца.

— Робіцца то мо і для лепшага, а як яно выйдзе — пабачыць трэба...

— Покуль не відно, штоб лепей... Паўступаць паўступалі каторыя, а самі толькі і глядзяць — як выпісацца.

— Ну ты ето! Не кажы!

— Няпраўда мо?

— Брахня.

У спрэчках разышліся. Можна казаць, не самі разышлі-

ся — выгнала маці. Трэба лажыцца сыну з дарогі. Але брат — Саўчык (спачатку было: Антон) — астаўся. Сядзеў панура (спачатку было: маўкліва).

— А мяне — от у Салаўкі, мабуць. Можа, у астатні раз бачымся...

Апейка маўчаў: што было казаць; столькі гаворана было.

— Казалі: працуй, атрабляй зямлю. Падымай гаспадарку. Дзяржаву падымаеш. Ленін абяцаў! Грамату — за культурную гаспадарку! Паход за культуру!

Недалюбліваў яго: за прагнасць. Але ж і паважаў — працавіты, сваімі рукамі. Цаліну зрабіў урадлівай. На пясчаніках. І не забыў, як калісьці пры балахоўцах насіў у лес клункі яму. Як усыпалі яму шампалоў за яго. Шчырасць былая помнілася...

— Памажы,— са слязамі матка. Кляла ці даўно: што не памагаў. Што ад (другога) брата адвярнуўся, а от — шкадуе. Бядуе. І бацька (спачатку было: моўчкі) вачэй не зводзіць, просіць вачыма.

— Мамо, я не рашаю...

— Ты — начальнік!

— У калгас пойдзеш?

— Ды — прыходзіцца...

Не спаў доўга, думаў: што рабіць? Ці ўмешвацца — заступацца за кулака. Прагны, кулак з яго можа вырасці. Але і чалавекам стаць можа. Калі даць правільны кірунак. Што рабіць?.. За акном хтосьці на вуліцы прарыпеў па снезе. Смех. Маладыя...

Памагчы неяк трэба. Не адварочвацца ж толькі таму, што брат!.. Цяжка цяпер дома. Можа, і праўда Башлыкова: сялянская стыхія заядае. Дзве душы!.. Глупства! Проста — складанасць жыцця!.. Складанасць. Як усё блытаецца!..

Раніцай паснедаў — матка напякла любімых аладак: не забыла! Пайшоў у сельсавет. Гаворачы аб справах, думаў: як пачаць пра брата?

— Рашайце прынцыпова! Ніякай патачкі кулакам! Цвёрдую лінію вядзіце! Але з серадняками разумна. Серадняк — не кулак! Серадняк з намі пойдзе.

Не сказаў пра брата [1].

---

[1] Насупраць тэксту: Але і чалавекам ~ пра брата.— на палях І. Мележам напісана: *Пачуццё віны перад братам. Пабаяўся, пакрывіў душою.*

Пазваніў у Юравічы. Хацеў заехаць яшчэ ў (неразб.), але адтуль як загад:

— Зараз жа трэба ў Юравічы! Бюро будзе! Такія справы! Антыпартыйная вылазка Гайліса і Дзятла (спачатку было: Міканора)!.. Вылазка супраць раскулачвання!

Башлыкоў як заўсёды абагульняе,— падумаў, супакойваючы. Але адразу ўстрывожыўся, стаў сабірацца. У дарозе было прыкра: віна перад братам. Пабаяўся, пакрывіў душою.

Прыехаў да пачатку бюро. Зайшоў да Башлыкова высветліць справу. Вельмі ж дзіўна было такое абвінавачванне ў адносінах да Гайліса. Ды і з Міканорам не вязалася.

— Адмянілі рашэнне камісіі беднаты аб раскулачванні аднаго чалавека.

— А хто гэтыя людзі?

Башлыкоў выцягнуў лісток. Ігнат. (Спачатку было: Хадосьчын бацька і Ракоп.) Апейка нахмурыўся.

— З кулакамі няньчыліся, а ўпусцілі бандыта мацёрага! — сказаў Харчаў.

— Каго?

— Сынка Хрола з Гаротнікаў.

— Гэта — небяспечны тып! — згадзіўся Апейка.— Не паймалі?

— Паймалі! Кінуліся — гавораць — былі — а ў яго абрэз! Цяпер — шукай ветру!..

Башлыкоў глянуў, заўважыў задуменнасць Апейкі.

— Знаеш, за іх трэба было заступіцца. Яны — не кулакі. Гэта — неразуменне. І па-мойму — Гайліс правы [1].

Абстаноўка нездаровая. Цяжка і без таго, а абстаноўка ўскладняе.

Як шкода, што Леніна няма! Балеў душой зноў і зноў! От калі шкад[аваў], што так рана не стала Леніна, от калі бачыў, як ён патрэбны. Яго парада, яго мудрае рашэнне.

Стараўся глядзець: як бы Ленін паглядзеў, што сказаў бы. Ленін нібы жыў з ім! [2]

---

[1] Тэкст: Зараз жа трэба ~ Гайліс правы.— І. Мележам закрэслены.

[2] Насупраць тэксту: Як шкода, ~ нібы жыў з ім! — на палях І. Мележам напісана: *Пазней. Спрэчка — перад выкл*[*ючэннем*] *Апейкі. (Дзе Башл*[*ыкоў*] *рашае: Хопіць. Далажыць ВК).*

— Ты ведаеш, што гэта — рашэнне ЦК.

— Ведаю. Але перш, чым яно стала рашэнне, з табой раіліся. Ад цябе чакалі слова праўды. Ты павінен быў сказаць яго.

— Я сказаў яго. І ЦК мяне падтрымаў!

— Ну, што ж! Значыць, мы па-рознаму ацэньваем абстаноўку.

— Толькі адна акалічнасць: мой погляд супадае з рашэннем ЦК, а твой — наадварот...

(Апейка не сказаў нічога).

Башлыкоў лічыў сябе вышэй Апейкі. Перш за ўсё таму, што ён сын рабоч[ага] класа, а гэта ўжо само ставіла яго вышэй ва ўсіх адносінах. (Тады гэта быў агульны погляд.)

Ён лічыў, што ў Апейку гаворыць яго сялянская стыхія.

Састаўляеце планы, а ў мужыка і забываецеся папытаць?

— Пытаемся,— запярэчыў маладзейшы голас.

— Пытаецеся.— У голасе чулася згода, з іроніяй.— Для віду. А робіце ўсё па-свойму... А яго ж таксама не можна і так і сяк. І к яму ж падыход трэба. Ленін што казаў?

— А хто ж кажа, што без падыходу? — У голасе чулася паблажлівасць і перавага.

Той, другі, маўчаў доўга. Апейка думаў ужо, што гаворка скончылася, калі той згаварыў зноў:

— Усё [illegible] мужыку ў канцы канцоў прыйдзе. Ад яго ўсё будзе ісці.— Голас быў павольны, з роздумам.— Ад яго будзе ісці. Усё ад яго, у канцы канцоў, я так думаю. І нідзе не дзенецеся. Вам планы састаўляюць, а рабіць яму.

— Без планаў,— без кіраўніцтва — таксама не пойдзеш далёка.

— Ён — рабочы чалавек у сельскай гаспадарцы. Галоўная персона. Як ён будзе рабіць, такі і толк будзе. Нічога тут не выдумаеш...

— Усё абдумана. Рашана... Рабіць будзе... Разумны вы чалавек,— пачуўся паблажлівы галасок,— толькі разважаеце як бы... па старарэжымнай мерцы!.. Філасофствуеце, як стары дзядзька. А самі забываеце, што мужыка таго ўжо — не будзе!..

— Я ж гаварыў: як вы пытаецеся!..— сказаў першы і замоўк зноў. Раптам прамовіў неяк пераканана, прарача: — Набядуецеся вы з калгасамі!

— Думайце тое, што гаворыце! — ужо недавольна, то-

нам загаду сказаў другі.— Я раю спыніць на гэтым гаворку [1].

Башлыкоў: «Заўсёды імкненне да дасканаласці, строгія адносіны да сябе, як да кіраўніка раёна». (У сцэне — думкі пра Ганну.)

Пусцілі па вёсцы (Курані) чутку: вясной — вайна!

Башл[ыкоў] (у лютым) адчувае: сіла ў яго. Вунь як павярнуў народ, масы. Ён уяўляў сябе ўжо больш высока — сярод масы. Здатны і на большае, усе бачаць.

Кіруе ўсім.

Звысака на Апейку. (Значнасць у паходцы Башл[ыкова], гаворыць мерна, значна.)

Башлыкоў праводзіць сход беднаты аб раскулачванні ў Глінішчах.

Ля будынка — варта. Каб не стрэлілі. Дамаўляюцца: трымаць у сакрэце з Барысам — сачыць за ненадзейнымі, падлеглымі раскулачванню.

Раніцай — за раскулачванне. Міліцыя будзе.

Новага старшыню прывёз. Выбралі. Дзе начаваць? Барыс запрашае. Параска раіць застацца: у Барыса — сям'я вялікая.

Башл[ыкоў] згаджаецца — тут. Пасцяліце ў класе.

Яна ўступае свой ложак сакратар[у]. У класе — возчыку. Сама — да Ганны. З ёю разам. Пераспім як-небудзь.

Башл[ыкоў] наган пад падушку.

Башл[ыкову] не спіцца.

Строгі быў у гэтым. Да ўсяго, што даходзіла. Але і сам — цяжка было стрымлівацца... Цягнула да Ганны.

Чорт ведае што? Трэба пра справу, трэба — паспаць. А тут. Круціцца. Чуе — і там — спіць адна. А другая? Хто не спіць?

Трэба было пайсці да Барыса. На лаўцы. І з маральнага боку — ніхто б не падумаў нічога.

---

[1] Насупраць тэксту: — Састаўляеце планы, ~ на гэтым гаворку.— на палях І. Мележам напісана: *З Башлыковым. (Спачатку было: З Апейкам гаворыць. Апейка спрачаецца.) (Ці ў Глінішчах?)*

Даць мінулае Башлыкова. (Прадумаць вобраз. У ім павінна быць свая чалавечнасць.)

У Башлыкова — маці, хто яна. Хворая? Сястра? Гарбатая. Брат?

Ён пасылае маці грошы. Хоць сам жыве нешырока. Адрывае ад сябе. Любіць яе, шкадуе.

(З братам здарылася нешта?.. Вучыцца. Галадае.— Ці ўкраў з голаду. Пасадзілі?)

Сам Башл[ыкоў] — галоднае жыццё. Туберкулёз [1].

Рана працаваў, цяжка. Жыў як аскет. Выбіўся.

На заработках у багацея. Той здзекаваўся, біў.

Хоча перавезці маці. Але сястры трэба вучыцца. Брат там. Маці не едзе. Пры меншых.

Дзеўка была. Кінула. Замуж пайшла за другога. Ашукала.

Башл[ыкоў] затаіў гора ад гэтай здрады. Не можа забыць.

Падазроны таму па гэтай часці. (Гэта накладвае адбітак і на яго пачуццё да Ганны.)

Ён чысты ў адносінах да жанчын. Ёсць сарамяжнасць нават.

Наогул адолець: Башл[ыкоў] не павінен быць плоскім. Складаны, супярэчлівы. У яго ёсць свая чалавечнасць. Свая бяда, і не адна. Побач з чорствасцю.

Недзе даць яго на адзіноце. У роздуме. На раздарожжы. (Можа быць, пасля таго, як знялі.)

І — у гісторыі з Ганнай. Калі думае, што рабіць.

Наогул, ён уражаны складанасцю сітуацыі, у якую трапіў. Пакутліва кідаецца. Толькі паказвае сябе каменным.

З-за віду часта лезе на сцяну. Каб не паказаць слабасць сваю.

На Башл[ыкова] наогул ціснуць усвоеныя ім правілы паводзін (бальшавіка). «Мы — людзі асобага складу». «Няма такіх крэпасцей...» і г. д.

---

[1] Тэкст: У Башлыкова ~ Туберкулёз.— І. Мележам закрэслены.

Чалавек, у многім сапсаваны аскетызмам жыцця і — ідэямі не чалавечнымі.

У адносінах з Ганнай у Башл[ыкова] больш суровасці. Напружаны час у яго. Сам ён напружаны. Мала слоў. Злосць у яго. І страсць. Гэтым ён і бярэ Ганну. І цвёрдасцю сваёй. І — непадобны да іншых.

Ён як бы падпарадкоўвае яе. Хацелася слухаць яго моўчкі. Дзіўнае.

Што Башлыкоў ведае пра сялян. (Даследаваць.)

Галадалі ў горадзе. На базары сяляне — дралі, як маглі. Непрыхільнасць. Чужы свет.

Чытаў. Двудушнасць. Уласнік. Цемра. Кулацтва — у іх асяроддзі.

Загадзя — адчуванне вышэйшасці перад імі. І чужасці да іх.

Башл[ыкоў] Гайлісу.— На бюро паставім. Адкажаце, што развалілі.

На бюро — вымову Гайлісу і Міканору. Не паправіце — з партыі паляціце.

(Пасля гэтага новая «гісторыя» — выключылі.)

Нечалавечае напружанне работы, часу (райком). Башл[ыкоў] — нервы напружаны, усе сілы на зыходзе. Стома, і спаць не можа.

Пра Ганну думае. Як зараза — не пакідае яна.

Самаадданасць Башл[ыкова], (а ў ёй і кар'ерызм).

Апейку больш праматы.

— Я браў бы з іншага боку. (Віну на сябе.) Помніш, тры месяцы назад быў Чарн[аштан] тут. Ён гаварыў недавольны: «Хто працуе, хто — не, адно. Усім палачка».

Што змянілася? А гэтым недавольны ў многіх к/г.

— Адсталыя настроі.

— Мы самі больш за ўсё шкодзім. Сабралі. Не ўмеем гаспадарыць. Дысцыпліна, парадак. Наладжваць гаспадарку. Інакш паляціць усё к чорту. Сёння «Рассвет», заўтра. Ты ўпэўнен. А мы працэнты лічым. Як кура кураняты.

— Тэмпы. Усляпую. Пара ўжо высветліць, што абагульняць.

— Ясна. І тут у цябе — тэндэнцыя патакаць адсталым, уласніцкім настроям.

— У другіх не робяць так. І правільна. Столькі крыку з-за дробязі.

— Ты ўсе недахопы звёў да гаспадарчых. Змазаў палітычны характар таго, што адбылося. Гэта палітычная з'ява. Перш за ўсё.

— Гаспадарка і ёсць палітыка. Нельга помсціць. Нам паверылі, а цяпер.

Леніна чытае. Выпісвае. У Леніна не так.

Вось як у Леніна.

Што рабіць? У ЦК напісаць. У акружком.

Спрабуе з работнікамі акружкома.

— Што, ты думаеш, там не ведаюць. Сталіну зводкі кожны дзень.

— Пісалі [1].

Апейка. Няяснасць, неразбярыха. Усё пытанні, пытанні. Аплата — як, няясна. Едакі, цягло, па паю? Няма ясных указанняў...

Усляпую. І другім няясна.

А гэтыя гіганты. Ці так гэта абавязкова. (Як імі кіраваць? — закрэслена І. Мележам.) Калі кадраў няма? Няма вопыту?

Як кіраваць у іх? Як наладзіць такую агромністую машыну?

— На свой маштаб мераеш. Прывыкаць трэба да новых. Спачатку ўсё страшна.

Прыходзяць да Апейкі жанкі з плачам. Усё забралі. Курэй не аставілі.

— Не магу больш так.

— Гэта не словы бальшавіка. А бабы. Партыя загадвае — усё павінен. Ясна. Супакойся. (На «ты») [2].

---

[1] Насупраць тэксту: Леніна чытае. ~ — Пісалі.— на палях І. Мележам напісана: *у канцы раздзела.*

[2] Насупраць тэксту: Апейка. ~ (На «ты»).— на палях напісана: *Неабходна гэта ў цэлым у частцы. Роздум. Пошукі. Няясна. Першыя, упершыню. Як нейкі лейтматыў рамана.*

Апейку амаль штодня даводзілася бачыцца з Зубрычам. Зубрыч добра ведаў становішча ў сёлах. Ён здаваўся энергічным, дзейным чалавекам, але быў лішне рэзкі ў адносінах да сялян. Некаторых крыўд сялян магло б і не быць, каб ставіцца да сялян больш чула. Нейкая абыякавасць, пагарда да сялян чулася Апейку ў Зубрычу. Некалькі разоў даводзілася адмяняць тое, што зрабіў зямельны аддзел.

Зубрыч трымаўся незалежна: яго падтрымліваў Башлыкоў.

Апейка не раз выяўляе волю, цвёрдасць. На чыстцы не прызнае віны. За брата. За заступніцтва. З годнасцю трымаецца [1].

Цвёрдасць у абароне Гайліса.

Прамата ў цяжкія моманты. Нават рэзкасць.

Паказваць цвёрды характар. І чэсны. Разумны, цвёрды, чэсны.

Нянавісць да кар'ерыстаў, да прыспасабленцаў. «Слізнякі!»

Да паказухі нянавісць.

Думкі Апейкі:

1. Пачын[аецца] новы этап.

2. Леніна: не на адно пакаленне.

3. Аб перавагах калгасаў. Цаліна. Толькі з тэхнікай. Не ствараць ілюзій [2].

На партактыве — баявы настрой. Біць.

Апейка: Разбірацца, дзе сапраўдны вораг, а дзе — друг. Не ўдарыць часам свайго. Уважлівасць.

Башлыкоў: дзіўны душок у прамове. Не аб гэтым цяпер трэба! Не туды нацэльваеш. Размагнічваеш!

Гайлісу спадабалася.— Справядлівасць трэба! Паціснуў руку.

Гэта потым успамінае і Міканор.

Ахвяры павінны быць апраўданы.

Ён не быў прарок, не было яшчэ 1937 года, але былі блізарукасць і чэрствасць, былі ўлада і сіла ў людзей, якія...

---

[1] Тэкст: Апейка ~ трымаецца.— І. Мележам закрэслены.

[2] Тэкст: 3. Аб перавагах ~ ілюзій.— І. Мележам закрэслены.

Вялікі палкаводзец выйграе вайну з найменшымі ахвярамі. (Спачатку было: стратамі). Вайна — вайна. Але — неабходныя, непазбежныя ахвяры.

Тут вайна асобая — граніца між ваюючымі невыразная. Лёгка і памыліцца. Таму трэба быць асабліва ўважлівым.

Справа самая вялікая і высакародная залежыць яшчэ і ад таго, хто яе робіць. Яе робяць людзі, разумныя, дурныя, яе могуць рабіць вартым чынам і могуць псаваць. Кожны камуніст у адказе за справу.

Жонка Апейкі.

Папярэджвае: — Не заядайся.

— Адзін нічога не зробіш.

— Там наверсе думаюць.

— Табе болей як усім трэба.

— Не ўмееш жыць.

Спрэчка. Недавольнасць. Разыходзяцца ў думках.

Як чужыя. Ён разумее: за дзяцей трывожыцца. А хіба яму не трывожна?

Што ж рабіць? [1]

Апейка, вяртаючыся дадому, бачыць сані. Прыехаў брат. Прывёз гасцінец.

Просіць заступіцца. Папракае: які ты брат. «Ты не брат!» — крычыць. «Вылез у начальства!»

Потым прыехаў бацька. Прыехаў Саўчык. Прасілі за Саўчыка.

Брат жа. Не разумеюць, як можна так да брата.

Апейка пасля выключэння з партыі. Пасля бюро акружкома. Адчай і думкі. Над Прыпяццю.

Пасля бюро. Калі ў Апейкі і Башл[ыкова] — спрэчка. Вострая размова.

Башлыкоў: — Палкі ў калёсы ставіш! Наша сіла — маналітнасць.

Апейка: — Маналітнасць — не можа быць фармальнай. На адзінстве перакананняў.

---

[1] Тэкст: Жонка Апейкі. ~ Што ж рабіць? — І. Мележам закрэслены.

Абвінавачв[ае] Гайліса — у правым ухіле, у патуранні кулакам.

Потым гэта абгінавачв[анне] — і Апейку.

Апейка знаёміцца з Ганнай. З увагай, і прыхільнасцю гаворыць, падтрымлівае. З пашанай — сіла волі. Смеласць...

Сімпатыя да яе.

Як дакрануўся да нечага светлага вельмі... Радасна, калі едзе назад.

Ён думае пра яе, успамінае.

У Апейкі ёсць адна якасць, якую ён таіў. Яго захапляла харaство. Яно авалодвала ім.

Ён ведаў гэту слабасць у сабе. І старанна скрываў. Як тайну. Але захапленне гэта жыло, хвалявала, і нічога нельга было зрабіць з ім.

Ён думаў пра Ганну, хацеў пабачыць яе.

Ён заехаў да Шуры з Башлыковым. Настроіўся: быць стрыманым, не паказаць прыхільнасць. Каб Башл[ыкоў] не заўважыў.

Але Башл[ыкоў] сам захапіўся. Як перамяніўся перад Ганнаю. Роспыты. Смяецца голасна. Рубаха-парень. Ходзіць стройна, кожная жылка іграе. Вочы гараць.

«Прыгожы»,— падумаў не без здзіўл[ення] Апейка. І нават нібы і зайздрасцю.

І прывабны...

З чулай зайздрасцю адчуў, што і Ганне ён даспадобы. О, Башл[ыкоў] мог спадабацца, калі хацеў.

Ехалі са школы. Маўчалі.

— Д-да, гэта — штука,— засмяяўся Башл[ыкоў]. Смех здаровы.

Пісаць — цяпер жа — самае галоўнае, важнае — калектывізацыю. Раскулачванне.

У раёне.

«Усё вельмі проста. Цябе заядае сялянская стыхія,— сказ[аў] Башлыкоў.— Селянін жыве ў душы... (Толькі рабочы клас да канца рэвалюцыйны...» — Закрэслена І. Мележам). Як бы пахваліў сябе.

Усё вельмі проста. У галаве тваёй проста, а ў жыцці. Колькі мы губім добрага, што от так проста глядзім на

жыццё. Не бачым, што адзін дурань, як Дубадзел, падрывае ў сельсавеце сваім усё добрае, што робіць Савецкая ўлада.

І мы, ці заўсёды мы дзейнічаем на ўзроўні Савецкай улады, па-ленінску?

Спрэчка пасля бюро. На нажах. Апейка — горача.
І Башлыкоў — цвёрда. Абодва ўпэўненыя.
(Харчаў пры гэтым: яго філасофія: палітыка) [1].

Башлыкоў. Можа, добрая — калі хто саслепу будзе ўпарціцца — можна і прымусіць!

Апейка (Башлыкову ці Харчаву): «Прымусіць (пайсці ў калгас) не цяжка, паверыць павінны — трэба дабіцца».

— Дажыў! — нібы з насмешкай над сабой. Не тое. Скардзіцца.

«Прымусіць можна, улада ў нашых руках: уся соль у тым, што каб паверылі! Паверылі ў справу гэту. Каб справа гэта стала справай сэрца людзей. Гэта задача — цяжкая, бо вялікая і новая. Чалавек аддаць павінен ледзь не ўсё, ва што верыў раней, да чаго звык,— самае дарагое, (зямлю, набытак — закрэслена І. Мележам), чым жыў усе годы, чым жылі бацькі і дзяды, у чым бачыў сэнс жыцця, (зямлю, карову, каня, калёсы — закрэслена І. Мележам) аддае ■ пэўнай доляй — напавер, бо шчасце калгаснае — пакуль што толькі нашы абяцанні, бо жыццё гэтае зусім яшчэ не вядомае яму, нерэальнае. І гэта пры добра вядомай сялянскай практычнасці, недаверлівасці! Таму трэба — каб ён паверыў новай справе, паверыў нам; а для гэтага, між іншым, трэба — і каб мы верылі яму! Верылі, што ён таксама мае права на развагі, на роздум, на сумненні, што ён мае права на ўсе чалавечыя пачуцці, бо ён — чалавек! Верылі і разумелі яго — ведалі, што яму не лягчэй, як нам, што яму — цяжка! Да адчаю цяжка! Цяжэй, чым нам, і найперш таму, што ў яго няма такога пераканання, як у нас, той яснасці, і таму, што пры гэтым яму трэба ісці на такую ахвяру!

І ўсё ж — як ні цяжка — ёсць адзін сродак: пераканаць, дабіцца, каб паверылі! Толькі там, дзе вера, дзе душа ўся, будучыня калгасаў надзейная!.. Толькі там, дзе ўсё, што мы робім, чалавек лічыць — і сваім, кроўным!.. Вялікая рэч: вера! Вера чалавека, вера народа!

---

[1] Тэкст: Спрэчка ~ палітыка).— І. Мележам закрэслены.

— Ідэаліст![1]

У рэвалюцыю мы перамаглі таму, што ў нашу партыю, у Леніна — паверылі. Народ паверыў!..[2]

«Прымусам можна, маючы ўладу, многа дабіцца, але можна многа і страціць»[3].

«У арміі — добры камандзір, абдумваючы будучую аперацыю, думае не толькі над тым, як дабіцца перамогі, але — і якой цаной. З многіх варыянтаў выбірае той, які дасць найбольшую карысць, пры найменшых стратах»[4].

Пасля спрэчкі — калі Апейка выйшаў — Башлыкоў здымае трубку тэлефона. Аня, Мазыр, акружком. Гэта быў нумар сакратара акружкома[5].

Тут: Параскі няма. Паехала. Цямнела. Не запальвалі агню. У яго галава кругам. Абдымаў. Ціснуў. «Не, не хочу. Не трэба!» Знікае цвёрдасць. Падабаўся. А тут яшчэ такое — адна ў свеце.

Хацеў тут. Яна: не. З ім выйшла. У поле паехала. Снег ішоў.

Цалаваліся. Ён укрываў. Усё настойлівей дабіваўся.

А, што будзе, тое будзе.

Ішла назад. Як п'яная, хісталася. У калідоры сустракае Галіну. Тая так паглядзела. Нібы ўсё зразумела.

Няёмка было.

А, што будзе, тое будзе.

Калі ўсе рэжуць жывёлу, Васіль шкадуе яе. Не рэжа.

— Сумленне не дае. І чалавечнасць. Як можна так губіць!

І — баліць, што нанішто ўсё. Як бы страціла сэнс (закрэслена І. Мележам).

---

[1] Тэкст: Башлыкоў. ~ Ідэаліст! — І. Мележам закрэслены. Насупраць яго на палях напісана: *Усё гэта вельмі важна і вельмі правільна. (Абавязкова даць у рамане),*— але і гэты тэкст закрэслены.

[2] Тэкст: У рэвалюцыю ~ паверыў!..— І. Мележам закрэслены.

[3] Тэкст: «Прымусам ~ страціць».— І. Мележам закрэслены.

[4] Тэкст: «У арміі ~ стратах».— І. Мележам закрэслены.

[5] Тэкст: Пасля спрэчкі — ~ акружкома.— І. Мележам закрэслены.

У к[алга]се шкадуе жывёлу. І не ўхваляе безгаспадарчасць. Не можа трываць яе. Счапіўся з адным.

Сцэны ў Куранях:

1) Звозяць маёмасць тыя, што ўступілі, баючыся раскулачвання.

2) Разбіраюць калгас — пасля артыкула Сталіна. Даць з Васілём.

Васіль прыглядаецца, як калгаснікі жывуць, працуюць. (Не толькі ён, усе аднаасобнікі глядзяць)[1].

Неяк глядзеў — робяць яслі. «Кураць больш. Эх, маць, работнічкі».

— А ты вось вазьмі сякер, ды пакажы (закрэслена І. Мележам).

Узяў. Глядзіць. Ларывон абпяк.

— Хто так робіць?

— Ты хто такі, штоб указуваць. Сваіх хапае.

— Гнаць вас такіх (закрэслена І. Мележам).

Каня Ларывон б'е (?) Заступаецца за каня.

## З ЗАПІСНОЙ КНІЖКІ

1957, 1958, 1961 гг.

«Ліхалецце»

Яўхім вяртаецца ў Каранеўку. Чаканне перамогі — вярнуўся. На старых руінах. Сустрэча з Ганнаю. «Не чакала?» Страх яе — як нябожчык. «Жывы!» Васілю перадаюць: «Хавайся! Яўхім». Нямецкі наместнік. «Усё пачынаецца спачатку» (на бацькавай магіле).

Гіне (тут — закрэслена І. Мележам) «дома».

«Доля брата»

Валодзя на фронце. Першыя баі. Адступленне. Ранены хаваецца. Прыходзіць у Каранеўку. Хаваецца. Любоў да сваёй зямлі.

---

[1] Насупраць тэксту: Васіль прыглядаецца, ~ глядзяць).— на палях І. Мележам запісана: *Даць сцэнку-малюнак.*

Трахім (спачатку было: Прахор, Сцяпан) Іванавіч — меліяратар-фантазёр. Лазіць па балотах. Нарваўся на бандытаў. Хочуць «стукнуць», б'юць. Удалося вырвацца. Ноччу ў балоце блытаецца. (Можа, угаварыў бандыта з сабой, той выпусціў.)

Потым прыходзіць у воласць. Да старшыні валвыкан-к[ома]. Пра бандытаў кажа. Збіраецца наладзіць аперацыю. «Трэба спачатку балоты ад гэтай погані ачысціць». «Ачысцім яшчэ раней, чым асушым».

Сц[япан] Іванавіч гаворыць пра' балоты з дзедам Дзянісам.

Сцяпан (спачатку было: Трахім) — сын Карча. Хвараві́ты, цягнецца да навукі, не гаспадар. У сельсавеце працуе. Узяў туды старшыня-падкулачнік, потым сам быў не рады: сумленны, дзівак.

Старшыню прагналі. А ён застаўся. Ветэран. Ніхто не мог уявіць потым с/с без яго. Калі раскулачылі бацьку, яго знялі, але потым вярнулі. Прывыклі.

У старога Карча ўся надзея — на Сцяпана (спачатку было: Яўхіма).

Перад прыходам немцаў Сцяпан (спачатку было: Яўхім) паліць дакументы с/с. Акуратна. Прыгнечаны. Чэсны.

Прыходзіць Яўхім — ворагі. Аб'ясненне — стычка.

Трахім (спачатку было: Сцяпан) гіне (віна Яўхіма).

У вайну — Валодзя. Працаваў на балотах, рыхтаваўся ў інстытут. У Хвойным — мабілізацыя. Бой пад Гомелем. Трапіў у палон. Лагер. Потым — Германія — шахты. Уцёк — з партызанамі ў Бельгіі і Нармандыі. Пасля вызвал[ення] — дзень у Парыжы. Братэрства. Зварот дамоў. Карціна звароту. Палессе яго вачыма. Разбурэнне, сум.

Васіля ў першыя дні мабілізавалі. Хвойнікі ваенныя. Спачатку — без баёў. Гомель ваенны. Бой пад Гомелем.

Ранілі. Астаўся на полі. Ачнуўся, выпаўз у лес. У сяле падлячылі, падмацаваўся. Дадому прыйшоў. Дома: сустрэча з жонкай, дзецьмі. Трывога. Дазнаецца: прыехаў Яўхім. Нямецкі начальнік! Што рабіць?

Васіль хаваецца. Больш у лесе. Трывога за сям'ю.

(Пазней — сустрак[аецца] з партызанамі, ідзе да іх.)

Жонка, дзіця адно спалілі ў Каранеўцы. Другое дзіця — цудам уцалела.

Думкі пра Валодзю, брата: дзе? Што з ім? Бачыліся ў Хойніках, і апошні раз — пад Гомелем, перад боем.

Трэці раман: пачатак — Валодзя вярнуўся з Масквы, працуе на меліярацыі. Планы асушкі Палесся. Шырокія планы, надзеі. І тут — вайна (першая частка). Другая частка: вайна: мабілізацыя, Хойнікі, Гомель, бой, Васіль вяртаецца. «Яўхім прыехаў». Яўхім на знаёмых месцах. Бацькава сяліба. Злосць — Васіль хаваецца.

Трэцяя частка: Васіль і партызаны. Каранеўка гарыць. Апошнія дні перад вызваленнем. Нашы! Калінкавічы, Мазыр. Шырокая карціна, з вобласці: разбурэнне, попел, чорная зямля. У Мінску: «Трэба жыць! Аднаўляць!»

Другі раман. Усё ў мястэчку. Палескае мястэчка. Хойнікі. Райком і міліцыя. Харчаў. Калектывізацыя, барацьба з кулакамі. Яўхім уцякае ў лес, хаваецца. Першыя налёты банды. Далей — у бандзе. Іх мэты. У раёне — меры барацьбы з бандай. Падымаюць народ. (Чырвонаармейцы былыя). Яўхім і Зубрыч. Гібель Шабеты. Васіль. У раёне атрымліваюць трактара. Трактар прыйшоў у сяло. Падрыхтоўка да сяўбы — з райкома. Разгром банды. Яўхім уцякае за граніцу.

У 1937 годзе Яўхім прабіраецца цераз граніцу назад. Сустрэча з Зубрычам. Заданне: шэльмаваць чэсных людзей, пісаць даносы. Той выведвае.

Пасадзілі. Старшыню РВК, дырэктара школы. З вобласці — старшыню.

Меліяратар трапіў да бандытаў. Бандыта аднаго пакінулі сцерагчы. Іншыя пайшлі на «аперацыю». Гаворка бандыта і меліяратара. «Стукнуць, расстраляюць». «Чаго шляўся па балоце? Шпівон?» Бандыт аказаўся нетрывалы, паглядваў, як бы выбрацца. Меліяратар угаварыў. Разам уцякаюць. У (спачатку было: мястэчку) Юравічах удваіх.

(У 2 рамане) Яўхім прыходзіць у дом Трахіма (тайком — бандыт). Трахім абураны, праганяе, пагражае. Яўхім таксама.

Трахім змрочны. Адкрывае праўду (старшыні с/с).

Яўхім прывык змалку, што ўсё павінна ісці, як ён хоча. Цяпер ішло ўсё насуперак. Ён хацеў прымусіць, павяр-

нуць так, як трэба, а яно не слухалася — крышыла яго намаганні.

(У 2 кн.) «Не, я так не саступлю. Я пакажу! Я яшчэ пагляджу, чыя сіла!» Уцёк з вагона. Які вёз у ссылку.

Прыбягае тайна да Зубрыча. Той абураны. Але памагае.

Яўхім перамяніўся: не дурэў ужо, як калісьці. Не рагатаў, смяяўся стрымана, нават рэдка. Шалёны бляск у вачах, сціснутыя ўпартасцю і злосцю губы.

**Трэці раман «Палеская нізіна».**

Праблема Палесся — пасля калектывізацыі — стала як надзённая і рэальная.

Рашэнню яе перашкаджае тое, што частка — палавіна — захоплена, у Польшчы. Тэма разарванага Палесся.

Справядлівасць — верасень 1939 года.

Войскі падцягваюцца к граніцы. Немцы наступаюць. Панская Польшча развальваецца.

Пераход граніцы. Сустрэчы на заходн[яй] зямлі.

Першы подых вайны на Палессі — якая пачалася менш, як цераз 2 гады. Першая сустрэча з немцамі. (У арміі — Васіль ці Міканор.)

Яўхім Глушак уцякае — у другі раз гоняць з наседж[анага] месца.

(Пад чужымі дакументамі?)

У 1940 ці ў 1941 г. была прынята пастанова СНК СССР аб пераробцы Палесся.

Паседжанне ў Маскве. Новыя перспектывы Палесся. (Вайна перашкодзіла.)

**Спрэчкі вучоных аб праблеме Палесся.**

**Садружнасць** — вучоныя Беларусі і Украіны. (Кіеў.)

Аб утварэнні Палесся. Аб спробах рашыць праблему. Гістарычны экскурс (думкамі вучонага).

Значэнне праблемы Палесся для Беларусі, для Украіны.

Недзе другім планам — 1937 год.

Без віны вінаватыя.

Апейку прыпісалі сувязь з ворагам народа.— Харчаў.— Знялі з пасады ў вобласці.

Ходзіць без справы. Перабірае жыццё. Крыўда. Выбіты з каляіны.

Пісьмо ў ЦК.

Заводзяць справу на яго.— «Пасадзяць».

Потым небяспека праходзіць. Але асадак застаецца. Назначаюць у меліярац[ыйнае] упраўленне. Незадаволены. Не тое.

Ціхая бухта.

Няма тэхнікі. Амаль нічога не робіцца... Сцяпан Іванавіч.

Невук. Пачынае ўлазіць у праблему Палесся. Кнігі. Сцяпан Іванавіч.

Вучоны прыехаў.

Частка Палесся ў Польшчы. Праблему нельга рашыць поўнасцю, пакуль усё Палессе не будзе вызвалена.

Немцы напалі на Польшчу. Вайна за мяжой. А мяжа — рукой падаць. Сочаць з трывогай. (Як ідзе вайна.)

Немцы падходзяць к Беларусі. Мабілізаваны Апейка. У вайск[овай] форме. Успамін[ае] грамадз[янскую] вайну.

На граніцы. «Вайна будзе?»

Войскі сканцэнтроўваюцца. Пераход.

У Пінску спаткаў Яўхіма. Дзе бачыў? Не пазнаў.

## З ЗАПІСНОЙ КНІЖКІ

### 1961—1966 гг.

К. Маркс, Ф. Энгельс: «Если характер человека создается обстоятельствами,— то надо, значит, сделать обстоятельства человечными».

(Соч., т. 2, с. 145—146).

Правілы руху (рукапісу):

1. Пісаць адразу ручкаю — і добра (прыстойна).

2. Перапісваць машынкаю.

3. Пісаць тое, што ясна; не трымацца парадку старонак. (Няяснае мінаць).

4. «Загатоўкі» запісваць неадкладна.

5. Перш за ўсё старацца развіваць галоўныя лініі і вобразы.

Не грузнуць у пабочным.

Правілы абавязковыя: выконваць няўхільна і нязменна.

Іван Мележ

1961 г.

**Палеская хроніка**

**Развіваць усямерна Васіля**, як тып селяніна-ўласніка; потым — шлях **Ганны**, доля жанчыны, жонкі-маці, пакутніцы, Яўхіма.

Міканоp — ажыве, калі ў 1937 годзе пачуе несправядлівасць да сябе. Апейка — у трагічных абставінах.

Васіль — рост чалавека ў наш час, пакутны, ломкі — к сацыялізму, к камунізму.

У вайну Васіль канчаткова наш, савецкі.

Адна з асноўных тэм (лейтматыў) раманаў — **вера ў чалавека** (давер'е). У 1-м — Васіль — Апейка — Харчаў; у 2-м — Гайліс — Харчаў — Апейка — Міканоp; у 3-м — Гайліс — Міканоp — Харчаў.

**Філасофія** падзей, філасофія вобразаў, псіхалогіі людзей.

Даваць **лірычныя**, публіцыстычна-лірычныя роздумы, проста ад **аўтара** — не баяцца гаварыць прама, з болем, з пакутаю, шкадаваннем... Аб жыцці народа, аб падзеях 1937 года і г. д.

Глушаку — **не трэба лірыкі**. Ён — характар упарты, моцны, злосці многа. Практыцызм. І — надзея да апошняга дня. Чакае — вайну.

Каларыт Палесся. Прырода. Балотная старана.

Перш за ўсё развіваць галоўныя лініі, пісаць найбольш важныя карціны — калектывізацыя, падзеі 1936—1937 года, вайна.

Інакш — можна ўгрузнуць у другарадных карцінах і праблемах.

Апейку ў 1936 г. прыпамінаюць — разам з усім,— што дзесяць гадоў назад вызваліў Васіля — пасобніка бандытаў. Фармуліроўка: «садзейнічаў развіццю бандытызма».

Можа быць, Харчаў сам прыпомніў.

У 1936—1937 г. Міканоpа здымаюць з пасады старшыні сельсавета. Акрамя ўсяго прышпілі: жанаты на кулацкай жонцы. Ліберальнічаў пры калектывізацыі.

Сцяпана выключаюць, арыштоўваюць. Кулацкі сын.

Арыштоўваюць (мабыць, расстрэльваюць) Гайліса.

Выключаюць з партыі Апейку.

У сувязі са справай Апейкі, робяць запытанне ў сельса-

вет (цяпер там — пасля Міканора — зноў пільны Дубадзел) — пра Васіля. Дубадзел дае адказ: ненадзейны.

Выклікаюць на допыт Васіля.

Трывожнасць яго: зноў Маслака прыпамінаюць.

Трывожнасць Ганны: Яўхіма напамінаюць. Як на здзек. Міканору віну прышпілілі за Яўхіма. Як за таварыша якога.

Але Міканор малайчына: не ўпікае яе! Не траціць весялосці: высветліцца ўсё, быць не можа! Прабачэння прасіць будуць!

Нешта ж не просяць! Канешне, на душы яго нялёгка, але маўчыць.

Міканор стаў рабіць радавым калгаснікам. Старшынёй цяпер — Хоня. Часта раіцца з Міканорам, хоча зрабіць брыгадзірам. Той стрымлівае.

Зноў вылез наверх, забраў уладу Дубадзел. Яго пара! Пільнасць, цвёрдасць. Цяпер пільны і цвёрды — як ніколі.

Размова калгаснікаў пра Леніна і Сталіна.

У 1940 годзе Апейка быў на пасяджэнні Савета Народных Камісараў аб Палессі (у Маскве).

Пасля пасяджэння пачуў: — Мудры! Шырыня якая! Размах! Геній.

Апейка — сумненні аб асушцы. Ці не спрасцілі праблему?.. Успамінае: 1936 год.

Хто вінаваты за гібель людзей?..

Харчаў становіцца вялікім начальнікам — па лініі НКВД. Спачатку — у вобласці, потым у Мінску.

Цвёрдасць, непахіснасць. Акружэнне, ворагі народа. Ніякіх сумненняў. А за гэтым — кар'ерызм. Але кар'ерыст — не баязлівы, смелы, рашучы.

Адчувае, што лёс узняў яго на хвалю гісторыі.

Гайліса арыштавалі як шпіёна. Думае, што — памылка. Чакае, што вызваляць. На допыце — упэўнены, цвёрды.

**«Звер»** *(у І. Мележа закрэслена)*

Уцёкшы з сяла, Яўхім дзень бадзяўся па лесе; згалада-

лы, сачыў за вёскай. Не было чаго і думаць, каб ісці туды. У любым месцы можна было наткнуцца на бяду.

З асцярогай уночы стаў церабіцца к лесніку. Дабраўся позна, не хацелі адчыняць. Але ўсё ж накармілі. Далі на дарогу ахвотна — абы сышоў з вачэй.

На другі дзень дазнаўся ад іх, што прыязджалі міліцыянеры, пыталіся, але ім сказалі — што не было. Трэба было берагчыся.

Але і туляцца было нязносна. Холад, сыры вецер. Стагі. Думаў, куды падацца. Некалькі дзён перахаваўся ў далёкага сваяка, у ціхім сяле. Але і тут трывожыліся пра калгасы, і тут коса глядзелі на яго.

Ад іх дазнаўся, што бацькоў выселілі і павезлі ў Хвойнае — на ссылку...

Ён пачуў вестку гэту спакойна: чаго ж іншага можна было чакаць? Ды і свой клопат, свая трывога, злосць выгналі чуласць да каго-небудзь, хоць бы і да бацькі. Не да смутку было, не да спачування.

У трывозе сваёй больш, чым калі раней, стаў успамінаць ён Зубрыча. Чуў раней, што калі распускалі воласць, падаўся Зубрыч у Мозыр, па дарожных справах начальнікам. Трэба было ісці ў Мозыр; ён амаль увачавідкі бачыў гэту дарогу, думаў пра небяспечнасць — пропуск патрэбен, дакументы могуць патрабаваць у горадзе. Ды і натрапіць на знаёмага няцяжка; але страхі гэтыя як бы і не тычыліся яго, не даходзілі як бы да яго страхі.

Але, калі выправіўся, асцерагаўся. Знарок падаўся не шляхам, а кругам — ляснымі, балотнымі дарогамі. Выбраўся к Прыпяці далёка за Юравічамі, перайшоў раку і падаўся другім, крутым і высокім берагам. У Мозыр увайшоў знарок сярод белага дня, з чужой падводай, з дзядзькам, які ехаў на рынак.

• Апейка чытае Леніна, шукае адказу ў яго кнігах — звярае з тым, што робіцца вакол, правярае свае сумненні.

Выступае супраць Харчава, які «перагінае». Гаворыць у вочы яму. На нажах. У райкоме спрачаецца. Наганяй яму, але ён не здаецца. У абком. Сучасны праўдалюб, праўдашукальнік.

Г а й л і с.

Дома этажэрка — кнігі Леніна, закладкі. Чытае ўрыўкі адтуль. Педантызм (няруск). Цвёрдасць.

(У 1937 гіне. Цвёрда, непахісна ідзе на смерць. Вера ў праўду, у Леніна).

Васіль — калі прыціснулі з калгасамі — кінуў сяло. Падаўся на заработак — плыты ганяць. Туга па зямлі. Вярнуўся. Абы на зямлі рабіць (?)

Ганна, поўная свайго гора, сваіх турбот, бачыла як бы праз туман усё іншае, як цераз туман даходзіла да яе і адчуванне тых вялікіх утрапенняў, якія паступова ўсё больш пачыналі хваляваць Курані. У той час турботы гэтыя здаваліся ёй не такімі вялікімі ў параўнанні з тым, што гарэла ў ёй; яе не трывожылі так, як другіх, гаворкі пра тое, што будуць забіраць у адну кучу зямлю, што і людзей быццам будуць зганяць разам. Ведаючы цану людскім гаворкам, з прыроднай недаверлівасці, яна да таго ж не надта і верыла гэтым плёткам — выдумалі, упэўнена была ў тым, што ўсё напраўду будзе прасцей. З усіх гэтых гаворак найбольш хвалявала — радавала як асабістае тое, што Карчы пачалі неяк асабліва трывожна круціцца,— стары проста ўліпаў у газеты, шукаючы нешта суцешлівае, шукаў і, чула яна, не знаходзіў; значыць, завязвалася штосьці не на жарт!

Але патайная злараднасць гэта была не такой вялікай, тым больш што ўсё малявалася ёй вельмі ж няпэўным, незразумелым; да таго ж заслоненым такімі вялікімі асабістымі парывамі і трывогамі [1].

Гэтыя Ганніны няшчасці вельмі хвалявалі і старога Чарнушку, які чулым бацькавым сэрцам — хоць не скардзілася яна — чуў, як пагана дачцэ. Тое, што Карчам новыя перамены асабліва абыходзяць, яго не толькі не радавала, а проста такі збівала з панталыку неразвязнай блытанасцю: калі пагана будзе Глушакам, то, пэўна ж, мусіць адгукнуцца гэта і на Ганне, як-ніяк іх жа нявестцы. За трывогамі пра Ганну свая трывога: як жа самому быць з гэтымі новымі парадкамі, якія будуць устанаўляць нібыта,— толькі дадавала блытанасці.

Да ўсяго справу зусім заблытвала жонка, якая думаць нічога не хацела, а толькі ведала адно, крычаць без толку: не буць па-іхняму!

---

[1] Насупраць тэксту: Ганна, ~ трывогамі.— на палях І. Мележам напісана: *(Пазней — дзе Глінішча, школа).*

Г л у ш а к.

У душы была то злосць такая, што спаліў бы, вынішчыў усё, і самога сябе без літасці, то брала слабасць маладушша. Хай усё, што хочуць, робяць, усё, што хочуць, бяруць, абы жыць пакінулі. Хай хоць курэнь які, абы пакінулі тут. Хай хоць скарыначка, абы не перлі чорт знае куды,— падумаць страх.

У Яўхіма такіх перамен не было. Злосць, ярасць на ўсіх, на ўсё. За Ганну таксама, за няўдалае шчасце. Чуў у сабе сілу. Свет, здаецца, перавярнуць мог бы, каб знаў як. От не знаў як, адно. Успамінаў часта Зубрыча, цешыў сябе надзеяй.

Схуднеў. Вочы запалі, але гарэлі. Гатоў быў на ўсё. Чакаў адно, што будзе далей. Чакаў, слухаючы, гледзячы востра. Як сабака, што чуе небяспеку, што гатоў скочыць, ухапіць скіўіцамі жалезна.

Харчаў лічыў галоўнай якасцю сапраўднага камуніста — цвёрдасць, непахіснасць, строгасць. Непахіснасць і цвёрдасць у барацьбе за справу была ў ім яшчэ з часоў грамадзянскай вайны. Тады яна ўвайшла ў душу, загартавалася, стала галоўнай рысай характару ва ўсіх учынках, рысай, якой ён ганарыўся ў сабе. Ён лічыў, што гэта рыса вылучае сапраўдных партыйцаў, якія складаюць, можна сказаць, цвет партыі, аснову, на якіх трымаецца Савецкая ўлада, савецкае жыццё [1]. Ён не заўважаў, што цвёрдасць і строгасць часоў грамадзянскай вайны ў новых умовах былі ўжо часам не да месца: цяпер гэтыя строгасць і цвёрдасць былі накіраваны не супраць ворагаў, а супраць людзей, якія ў нечым стаялі на дарозе з-за сваёй неразумнасці, недасведчанасці, цемнаты. Была іншая абстаноўка, было мірнае жыццё, няхай са сваімі вострымі супярэчнасцямі, а ён жыў усё сваімі ранейшымі прывычкамі і ўяўленнямі, дзейнічаў сваімі ранейшымі, ужо звычнымі метадамі. У гэтай іншай абстаноўцы ранейшыя асаблівасці яго паводзін як бы набывалі ўжо іншае значэнне, новую якасць. Строгасць, цвёрдасць была ўжо супраць сваіх людзей, аддзяляла яго ад іх, ставіла яго над імі.

Башлыкоў, аб чым ён гаварыў не раз, не давяраў людзям; але ён не толькі не давяраў ім, ён — хоць аб гэтым

---

[1] Насупраць слоў: Ён лічыў, ~ савецкае жыццё.— на палях І. Мележам напісана: *Башлык*[*оў*].

і не казаў і не думаў свядома — па сутнасці — не любіў іх. Тут была свая дыялектыка: той, хто не верыць, не можа любіць.

(Чарнушка) прыйшоў пасля сходу, дзе ўпісаўся. Мачыха накінулася: надзеў ярмо. Упісаўся.

Васіль пасля сходу аб калектывізацыі думае: толькі ўзбіўся на кавалак свайго хлеба, толькі на ногі станавіцца пачаў як мае быць, і от: на табе! Усё прахам! Усё як наадварот павярнулася! Як на здзек! [1]

Шчэ чаго добрага, каб у Салаўкі не ўпяклі! А і ўпякуць, ім нічога не варта! Сіла ў іх! А і няхай упякаюць — як такое жыццё, то ўсе адно. Адзін чорт, што ў Салаўках, што ў Куранях. Цяпер Курані будуць Салаўкамі.

Што рабіць? У супярэчнасцях думак, адчайнасці прыходзіла не раз: кінуць усё! Зямлю ўсю, гаспадарку ўсю, набытак! Хай яно згарыць, калі так, усе адно. Кінуць і пайсці, куды вочы глядзяць — чым так балець душой, біцца, як тая птушка, што не бачыць ратунку! У Мозыр падацца, у свет — куды вочы глядзяць! Свет вялікі!

Маня плача аб бацьках: раскулачылі! Злосць брала: тут з самім невядома што будзе!

Харчаў быў тады па-свойму сумленны. Яго сумленне было сумленнем таго салдата, які ведае — яго абавязак служыць, дзейнічаць, як палажана, які лічыць — пра ўсё далейшае думаюць камандзіры, якім болей відна і якім гэта палажана.

Башлыкоў (спачатку было: Харчаў) у глыбіні душы лічыў, што раскулачванне — патрэбная, справядлівая справа: падраўняць трэба, але таксама ж і ў саміх фактах раскулачвання, і ў ссылках ён бачыў тое, што, як ён лічыў, бачылі і іншыя разумныя людзі, але пра што яны тактоўна змоўчвалі, пра што не трэба было казаць з асобных меркаванняў, няпісаных, але вядомых кожнаму сапраўднаму кіраўніку меркаванняў,— што ён называў сам сабе палітыкай. Гэтае скрытае, палітыка гэтая, уяўлялася Башлыкову, была ў тым, што раскулачванне — дасць пачуць, што ўлада не збіраецца чыкацца, цырымоніцца,— дасць пачуць не

[1] Тэкст: Васіль ~ на здзек! — І. Мележам закрэслены.

толькі кулакам, але і астатнім сялянам. Тое, што гэта падзейнічае на іншыя пласты сялян, Башлыкову здавалася вельмі важным для цяперашняга моманту, нават самым важным. Раскулачванне, ссылка — падахвоцяць вельмі многіх да калгасаў: небяспека папасці ў далёкі край каму не паддасць ахвоты! Вось у чым бачыў Башлыкоў той няпісаны маўклівы, але ясны кожнаму палітычна разумнаму чалавеку (закон — **Рэд.**), які Башлыкоў і лічыў палітыкаю[1].

Апейка думаў пра будучыню калгасаў з трывогаю. Не, ён разумеў, перакананы быў, што перабудова не толькі патрэбна, неабходна, што гэта адзіны шлях у вёсцы, без якога не будзе сацыялістычнай будучыні. І ўсё ж думаў ён пра гэту будучыню з трывогай, з той трывогай, якую чуе кожны, што хоча дабра, які адказвае сэрцам за тое, што робіць. Ён прадчуваў, што ўсё будзе куды складаней, чым пішуць, чым гавораць. Зусім не такім ружовым. Калгасная сістэма патрабуе і большай свядомасці, і большай арганізаванасці, здольнасці падпарадкоўваць сваё эгаістычнае агульнаму. Вырасшы сярод сялян, ён бачыў, што ўсё гэта пакуль адваротна процілегла таму, што ёсць у сялян, якія ў сваёй вялікай масе і эгаістычна настроеныя, і анархічныя, і недаверлівыя. Ён бачыў, якая каласальная дарога яшчэ наперадзе, каб зрабіць тых, што ўвойдуць (увайшлі) у калгас сапраўдным калектывам, сям'ёй, аб' яднанай неабходным давер'ем і дысцыплінаванасцю.

Калгас, як больш высокая ступень гаспадаркі, патрабаваў вышэйшай ступені развіцця чалавека. Як у кожным высокаарганізаваным арганізме, тут узрастала адказнасць кожнага чалавека за сваю справу, адказнасць перад усімі. Няўпраўка, хібы аднаго дзейнічалі на другіх, на ўсю «машыну», маглі прывесці да перабояў, зламаць лад, які так не проста было ўстанавіць.

Апейка бачыў тое добрае, неабходнае, што неслі ў калгасы, але ён бачыў і тое, што магло ім шкодзіць, што магло падрываць веру ў іх, што стварала цяжкасці чалавечаму жыццю. Сярод усяго Апейка бачыў, як узрастала значэнне і адказнасць тых людзей, якія становяцца на чале новых складаных гаспадарак, якія павінны арганізаваць такіх розных, такіх цёмных, поўных індывідуалізму і эгаізму людзей, злучыць іх вераю, усведамленнем адзінства.

---

[1] Тэкст: Башлыкоў ~ палітыкаю.— І. Мележам закрэслены.

Трудна табе, чалавек!

Лірычны маналог (у раздзеле аб калектывізацыі, дзе Васіль думае).

І потым — як лейтматыў.

Эпоха цяжкая.

Дубадзел — прыцыповы. Праўда, прынцыповасць асобая, свая, для сябе: аўтарытэт і дабрабыт свой быў у яго разуменні зліты з інтарэсамі дзяржавы. (Усякі, хто замахваўся на яго, замахваўся тым самым і на дзяржаву. І ад імя дзяржавы Дубадзел мог заступацца за сябе — ён жа і дзяржава былі зліты!) [1]

Хіба ж Ганна, адштурхнуўшы яго, назваўшы «слінявым», не абразіла тым самым і дзяржаву. І хіба не павінна панесці кару, як за дзяржаўнае злачынства.

Апейка думае з трывогай: ці будзе любіць селянін гэтую, агульную зямлю так, як ён любіў свой кавалачак. Ці будзе верыць яму так? Ці будзе яна такой дарагой, як тая свая палоска, для якой ён жыцця не шкадаваў? Як захаваць гэтае пачуццё роднасці, любові? Надзеі?

А што, калі селянін зняверыцца, стане абыякавым, стане да яе, як да чужой? Захаваць веру, любоў у зямлю.

У канцы даць сцэнку: Васіль вяртаецца ў Курані. Пацягнула. Калі вясной запахла, калі пачуў пах зямлі, можа, з Куранёў данёс вецер, пацягнула — не ўседзець тут. Няміла стала ўсё тут. Хай будзе што будзе — толькі — там быць, хадзіць па сваёй зямлі, чуць яе пад нагамі, дыхаць яе пахам. Ураз сабраўся, усё кінуў. Ляцеў дадому. І вось яны — Куранёўская грэбля, цагельня, стрэхі... Хай хоць што, толькі тут быць! Толькі тут!..

Апейку абвінавацілі ў тым, што ён скаціўся ў балота правых. Калі ён паспрабаваў устанавіць дзелавітасць. «Бухарынец!» З партыі хочуць выключыць. (Ці — выключаюць!)

«Многа кулакоў мы нарабілі». Многія з тых, каго мы ссылаем, маглі б папрацаваць [redacted] карысцю на агульную справу нашу! Людзі — капітал народны! Добры гаспадар усё, што можа спатрэбіцца ў гаспадарцы, выкарыстае.

---

[1] Насупраць тэксту: (Усякі, хто ~ былі зліты!) — на палях І. Мележам напісана: *Башлыкоў.*

Апейка бачыў, што многіх з тых, каго ссылалі, можна было і не ссылаць. І не трэба было ссылаць!.. Нямала з тых з чыстай душой гатовы былі пайсці ў калгасы працаваць, пачаць жыць па-новаму! Ім можна было паверыць!..

**Кожны дзень прыходзілі, прасілі заступніцтва, кляліся, плакалі. Прасілі злітасціцца над дзецьмі!..**

Ленін давяраў нават важныя пасты людзям, што паходзілі з дваран, калі яны гатовы былі сумленна служыць Сав[ецкай] уладзе, калі яны даказвалі гэта. Чаму ж тут нельга было прасейваць з увагай, не спяшаючыся. Узважваць усё, перш чым зрабіць прысуд, да таго ж такі строгі.

Пейзажы ў кожнай карціне павінны быць. Восень, наступл[енне] зімы. Зіма (без карцін прыроды — дзеянне не будзе такім канкрэтна-зямным. Там, дзе няма пейзажу, адчуваю заўсёды нейкую пустату, абстракцыю).

І абстаноўку маляваць — канкрэтна, дакладна.

Апейку трэба многа мужнасці, каб заступіцца за нявінна раскулач[аных], каб сказаць цвярозыя словы, за якія навесяць ярлык. Бухарынец!

«Які ён бухарынец! Хіба ў яго калі было сумненне, што вёску трэба перарабляць. Сацыялістычнай рабіць. Хіба ён не гатовы к бітве з ворагам. Але — ён супраць, каб ворагам аб'яўлялі так лёгка, заніпто. Рашаецца кожны раз лёс чалавека, жыццё. Як жа лёгка яно часам, злачынна лёгка рашаецца! Колькі часам дробнага, бруднага прымешваецца, якое губіць чысціню справы!

Дробны кар'ерызм, імкненне да таннай славы — прымешваецца, падфарбоўваецца, падладжваецца! І як цяжка гэта вывесці на чыстую ваду! Фармальна яны нібы больш адданыя, той, хто крычыць «ура» заўсёды выглядае больш смелым, чым той, хто хоча агледзецца, разабрацца. Нібы каб крычаць «ура» цяпер патрэбна смеласць, як на вайне!.. Цяпер — калі і патрэбна смеласць, дык для таго, каб сказаць: пастойце, не зарывайцеся. Давайце з толкам зробім. З разуменнем усёй справы!..

Чалавек — скарб. Чалавекам нельга кідацца. Увага да яго патрэбна і чалавеку, і справе, і краіне.

І як заўсёды, калі шукаў падтрымкі сабе, успамінаў Леніна. Як ён умеў прылучаць да справы ўсіх карысных людзей. Прылучаць, а не адкідваць!»

«Самае цяжкае, я лічу, не супраціўленне кулацва. Я лічу, што з дапамогай бядняцтва, супраціўленне гэта будзе

зламана хутка. Самае цяжкае — дабіцца, каб селянін паверыў у калгас, каб ён стаў бачыць у ім адзіны спосаб жыцця. Самае цяжкае — гэта індывідуалізм сялянскі, векавая коснасць. Гэта той (праціўнік), які жыве ў мільёнах людзей і якога мы павінны перамагчы. Перамагчы сёння, перамагаць заўтра, ён доўга яшчэ будзе супраціўляцца, замінаць, тады, калі кулацтва будзе даўно сцёрта з твару зямлі. Самае цяжкае — дабіцца, каб селянін паверыў у калгас, стаў бачыць у ім адзіны спосаб жыцця [1]. Тут будзе яшчэ доўга на дарозе індывідуалізм».

На палях: *Можа даць — як слова ад аўтара.*

Філасофскі лейтматыў усяго: справа: якая б яна ні была па задуме сваёй добрая, дасканалая, яна залежыць багата ў чым ад таго, якія людзі яе робяць; якія людзі кіруюць, як кіруюць, як выконваюць указанні тыя, хто ім падпарадкоўваецца — вышэй, ніжэй, у самых «нізах». Добрыя намеры ў руках людзей паганых могуць быць сапсаваны, разумныя пачынанні ў руках дурных могуць быць даведзены да абсурду.

Ад таго, што лёс справы залежыць, урэшце, ад чалавека, ідзе абавязак: чалавек адказвае за справу, чалавек павінен быць на ўзроўні справы.

Гэта не проста: чалавек — істота не дасканалая. Чалавек можа мець слабасці, і вельмі многа: (можа быць самалюбны, няўважлівы да другіх, эгаістычны, любіць не ў меру пашану, любіць рабіць кар'еру, можа быць злапомны, зайздрослівы, зларадны). Труднасць у тым, што людзі не асабліва выстаўляюць свае слабасці, і не заўсёды відна, што хаваецца за іх учынкамі, за той прыгожай вывескай, за якой хаваецца не заўсёды тое, што відно.

Асабліва вялікая адказнасць чалавека за справу тады, калі справа вялікая, калі ідуць вялікія павароты ў жыцці. Але ў гэты час найбольш і могуць здаць, падвесці слабасці людзей, унесці ў дасканала разлічаны план свае зямныя папраўкі: слабіна якраз і не вытрымлівае вялікай нагрузкі...

У той вялікай і труднай справе, якую рабіла партыя ў сяле ў год вялікага пералому, выпрабоўваліся людзі — ад

---

[1] Тэкст: Самае цяжкае — дабіцца, каб селянін паверыў у калгас, стаў бачыць у ім адзіны спосаб жыцця.— І. Мележам закрэслены.

самага верху да нізу. Было сярод іх нямала людзей, якія рабілі на ўзроўні справы, але былі і дробныя, не здольныя ўзняцца, якія псавалі, калечылі справу. Былі, якія, можа, несвядома, шкодзілі ёй.

Асабліва чутным стала гэта, калі барацьба дайшла да крайняга напалу, калі пачалося раскулачванне, калі пачалася хваравітая гонка за працэнтамі калектывізацыі.

У той час адзінай характарыстыкай чалавека лічылі яго сацыяльнае становішча. Сац[ыяльнае] становішча рашала ўсё: рабочы — аснова, ідэал; селянін — двудушны, служачы — чалавек, да якога пільна глядзець. А жыццё паказвала: хоць у асноўным гэта правільна,— рабочыя не былі падобны адны на аднаго, і сяляне розніліся, і служачыя — кожны на свой капыл.

І не было зразумела: чаму партыю стварыў, стварыў яе вучэнне чалавек не рабочы, інтэлігент, чалавек дваранскага паходжання, чаму кіруючае ядро ў ёй — якое ішло на смерць, на ўсе ахвяры — былі інтэлігенты, тыя самыя, якім асабліва цяпер не верылі, калі партыя працавала ў куды больш лёгкіх умовах. Цяпер такіх, як тыя светлыя, слаўныя і да партыі не дапусцілі — бо яны па сацыялагічнай схеме — былі ненадзейнымі.

Цікава ўявіць, як бы паставіліся да заявы такога чалавека як Ленін, калі б гэта заява была пададзена ў гэты час (у 1929—1930 годзе). Цікава, як бы выглядаў Маркс на чыстцы са сваім сацыяльным паходжаннем?

Не, гэта не паказвала слабасць ні ленінскага, ні Марксавага вучэння. Гэта паказвала, што нельга яго талкаваць спрошчана, прымітыўна.

Гэта паказвала, што нельга яго разумець вульгарна. Гэта паказвала, што вульгарны сацыялагізм — небяспечная рэч.

Ленінізм — метад, якім трэба было карыстацца ўмела, улічваючы разумна сувязі шматлікіх жыццёвых акалічнасцей, помнячы пра галоўнае, стараючыся быць на ўзроўні вялікай справы.

Спыніся, падумай, перш чым замахнуцца шабляю ці кулаком — ці неабходна гэта: ці вораг той, што перад табой. Ці не таварыш твой — сягоння ці — няхай — заўтра. (Трэба ж думаць і пра — заўтра!) Падумай, ці страціўшы чалавека, ты не збяднііш зямлю сваю, не аслабіш народ на

аднаго працаўніка, які нямала яшчэ зрабіў бы для яе харастава, для яе славы.

Як бы пайшло наша жыццё, калі б у трыццатым быў Ленін, калі б Ленін ухіліў бы 1937 год, калі б Ленін збярог народныя сілы — сілы партыйнага кіраўніцтва, ваеннага кіраўніцтва — перад вайной. Калі б Ленін з яго чуласцю правільна павёў падрыхтоўку да вайны, правільна ацаніў сітуацыю перад вайной.

Асноўная калізія (дылема) часу і кнігі (кніг) — чалавек і справа. Справа, якая б дасканалая ні была сама па сабе, залежыць ад людзей, якія яе робяць: ад іх розуму, іх сумлення, іх сэрцаў. Людзі гэтыя могуць высока падымаць справу, могуць скрыўляць яе, калечыць яе.

Чалавек адказвае за справу. Ніколі не была адказнасць такой вялікай. І разам з тым ніколі не было так цяжка ўтрымацца чалавеку на ўзроўні — складана ўсё пераблытана, новае ўсё. Страсці да ўсяго часта тлумяць галаву.

Паказаць, як з цягам калектывізацыі ўсё больш распальваліся страсці. Як усё больш прыходзіла ў поле бараццьбы несправядлівага і неразумнага. (Так ледзь не раскулачылі Васіля.)

Характар чалавека залежыць ад характара часу. Паблажлівасць, лагоднасць Міканора змяніліся на рэзкасць, нават жорсткасць. Часам цераз гэта прабіваецца ранейшае мяккае, матчынае, але часта — і жорсткасць, злосць, нецярпімасць.

Паказаць, як усё разыходзяцца шляхі Васіля і Міканора, як яны становяцца непрыяцелямі. Ужо амаль не здароваюцца, зіркаюць варожа.

У запале злосці і жорсткасці Міканор ідзе «раскулачваць» Васіля — адбірае, раскідае недабудаваную хату яго, гатоў «растрыбушыць» зусім.

(Характар Сталіна ўплываў на характар многіх кіраўнікоў, якія станавіліся сталінцамі па дзеяннях сваіх.)

Міканор у той час гатоў і галасаваць за тое, каб разам (услед) з Глушакамі саслалі і Ганну — кулацкую жонку. Якая потым становіцца яго жонкай.

Васілю на лесараспрацоўках (на сплаве):

— А ты, мабыць, кулак?

— Чаго ето?

— Уцёк ад калгаса.

— Кулацкая душа ў цябе.

Яўхім на шахтах. (Па даведцы ад Зубрыча.) Добра плоцяць. Добра робіць. На дошку нават.

Гуляе, п'е. Душа часам тужыць па лесу, па балоце, па роднай старане. Думае, дзе бацькі, пра Ганну.

Ад таго п'е. Смяецца часам. «Жыць можно». Тут з ім Цацура — таксама па Зубрыч[авай] даведцы.

Завёў шмару-хахлушку. Поўная, вясёлая. Параўноўвае з Ганнай. Тая раўнуе, дапытваецца часам. Ён адсмейваецца. Усё — на смех.

Выклікаюць у аддзел кадраў. Дапытваюцца. Усё бурыцца. Думае, што рабіць. З Цацурай раяцца.

Калектывізацыя ў нас прайшла знешне спакойна. Без асаблівых выступленняў. Галоўнае, што праявілася — адвечная пакорлівасць сялян. Калі прыціснулі — пакорліва пайшлі. Верачы ў душы, што не загінуць. Усякае было раней — не прапалі. Не прападзём і цяпер, можа.

У адных была вера, у другіх — ілюзіі, што ўсё цудоўна і зразу пойдзе ўверх, у другіх — большасці — паслухмянасць, пакорлівасць. (Не драматызаваць дзеянне штучна?)

Гаварылі аб уласніцкай душы селяніна, аб ідыятызме. А чаму ніхто не сказаў аб яго надзвычайнай самаахвярнасці. Чаму ніхто не сказаў, што калектывізацыя патрабавала ад селяніна надзвычайнай, непараўнальнай ні з чым самаахвярнасці. Аддаць зямлю, аддаць інвентар, усё набытае ўсім жыццём — не маючы цвёрдых гарантый за выключэннем слоў абяцанняў — колькі на гэта трэба самаахвярнасці!

Кланяюся вам, людзі трыццатага года!

Самаахвярнасць, веліч душы працоўнага народа. От пра што не гаварылі. А колькі ж яе было і якой вялікай, калі гадамі рабілі, не атрымліваючы ўзамен ні капейкі, у вайну, калі, забыўшы ўсе крыўды, аддавалі апошняе партызанам, рызыкавалі смяротэльна, ішлі на смерць!

Вялікі ты, праўда, вялікі душою, народ!

Трэба паказаць, што многія партыйныя работнікі верылі, што будзе ўсё проста.

І рабілі ўсё ў імя будучыні. Для будучыні — і ахвяры можна. Будучыня апраўдае.

Калі памыляліся яны, то памыляліся сумленна.

**Час спадзяванняў**

Калі хвароба падазрэння і недавер'я ліхаманіла многія гарады і пасёлкі, многія краі і землі, то асабліва высокую тэмпературу хвароба гэта ўзняла на беларускай зямлі. Акрамя ўсіх іншых, тут былі яшчэ дзве акалічнасці, што спрыялі хваробе: блізка была мяжа, дзяржаўная граніца, той свет, які пагражаў, які пасылаў шпіёнаў і дыверсантаў. Тут асабліва важна было абясшкодзіць усякую нечысць, зрабіць парадак, тут быў пярэдні край, самы пярэдні край. У той абстаноўцы недавер'я, калі ўжо не толькі праяўлялі пільнасць, а падазравалі ўсё ўсякае, калі ва ўсім шукалі патайны, скрыты сэнс, натуральна, асцярогу, падазрэнні стала выклікаць нацыянальнае, за якім стала ўяўляцца здань нацыяналізму. Звычайныя нацыянальныя асаблівасці ў жыцці, у быцці, культуры беларусаў сталі ў вачах некаторых звышпільных і звышразумных дзеячаў таго часу зліваца ■ буржуазным нацыяналізмам. Пад падазрэнне падпадалі многія ■ тых, хто працаваў на славу і радасць народа, хто верай і праўдай служыў Савецкай уладзе. Няма ла ні ў чым не вінаватых людзей было аб'яўлена нацыяналістамі і арыштавана...

Пад знакам абароны народа, Савецкай улады рабіліся народу і радзіме балючыя, незваротныя страты.

Міканора пасадзілі ў турму. Са старшыні — у турму: за тое, што аддаў людзям тое, што яны зарабілі. Райком быў супраць: раён не выканаў план паставак. Забаранілі. А Міканор раздаў аванс: бо абяцаў раней. Напусцілі пракурора. З партыі выключылі. І ў турму. Ганна бядуе. Перадачы ў турму. Дзеці на руках. Зноў адна.

Сын Гайліса — Валодзькаў таварыш. Разам вучыліся.

Гора сына. Не верыць, што бацька такі. Яму, сыну,— не вераць другія. Сляпы ты. Ад бацькі ў сына — прамата, цвёрдасць, рашучасць.

Выключаюць з камсамола. У вайну ў арміі — геройскі ваюе.

Дачка раскулачанага, сын Гайліса, дачка Марчанкі — на вайсковых занятках: «Выйсці са строю!» Дзецям ворага не трэба даваць зброю.

(Потым — у вайну — дачка кулака стала героем падполля. Паліцаі напалі на яе след (сядзела ва ўправе), схапілі, катавалі зверскі: расстралялі.

Яна складала для партызан спісы здраднікаў, давала весткі аб немцах. Немцы і паліцаі напалі на партызан; тыя адступілі, кінулі зямлянку, а ў ёй — спісы і данясенні, напісаныя сваёй служачай. Разабралі почырк. Допыты, катаванні.

(Яе звалі — Маня Чэкан, яна з Валок, яе добра знаў Разуменка.) [1]

Васіль у першы год у калгасе вельмі стараецца рабіць. Вельмі прымае да сэрца нелады калгасныя.

Увесь год Васіль з дня ў дзень шчыраваў: на сяўбе, на касьбе, на малацьбе. Абгарэў, абарваўся: пабольш бы зарабіць. Працадні ўсё раслі. Думаў, што палучыць. Выходзіла многа. Ураджай на рэдкасць. Зерне, як боб. І жыта, і пшаніца, і ячмень. Надвор'е прыяла. Гаворка ў людзей вясёлая... І картопля ішла добра... І Міканор (ці новы старшыня) вясёлы. Падбадзёрваў. Канечне, былі і такія, што не верылі, што пабойваліся: не можа быць, каб так добра ўсё. Але надзеі былі вясёлыя. І Васіль чакаў размеркавання з нецярплівай, вясёлай надзеяй.

І ўсе надзеі рушыліся ў адзін дзень. Трэба здаваць нарыхтоўкі звыш плана. Здалі. Усё падчыстую вымелі (хоць людзі коса глядзелі і крычалі; крычалі не вельмі — вучаныя былі ўжо). І знікла радасць, і надзеі як не было. Скамячыў Васіль ліст паперы, дзе выпісваў дзень за днём — што рабіў. Кату пад хвост.

От яна, твая праца! Твая зямля. Абчысцілі, ды і маўчы! Ды і хвалі!

Якая і была надзея на калгас — прапала ўсё. Уся надзея была на кавалачак зямлі — трыццаць сотак — якая яшчэ была сваёй. Якая не падмане. На якую спадзявацца можна. На адну яе.

Ды на садок свой — грушку, вішанькі, яблынькі. Ды на свінню і падсвінка.

---

[1] Насупраць тэксту: (Потым ~ Разуменка.) — І. Мележам напісана: *Пазней.*

На другі год ледзь не выганялі з хаты: ніхто не ішоў. Усе выкручваліся: той хворы, той не ўмее. На полі — спяць упокат на сонцы.

Поле ледзь пасеялі. Праполка не ідзе — усё аж жоўтае ад свірэпкі.

Усё лета крычаў Міканор. Бегаў па хатах, гразіўся.

а) «Не крычы. Не паншчына. Не маеш права. Добрая воля — калгас. А як няма волі, няма ахвоты — дык не лезь!»

б) «А якога чорта буду ірвацца. За што? Штоб і дзякуй не сказалі». «Дзякуй скажуць!» — другі памог. «Скажуць. Няхай пацалуюць!.. Вельмі мне трэба тая дзяка іх! Сыты з яе будзеш!.. Дзеці, як ваўчаняты, скуголяць з голаду, а яны — дзякай кормяць!..» «Ордэн зарабіў унь — начальнік!»

Тады Міканор паабяцаў, што не дасць вымесці ўсё, што дасць зарабіць. Людзі амаль не верылі. Абяцаў. Ведаў — адзін выхад. Інакш — на наступны год ніякая сіла не выцягне на поле.

І абяцанне спраўдзіў. Наперакор усяму. Здаў нарыхтоўкі. Выдзеліў насенне. А ўсё астатняе размеркаваў. І дачакаўся пракурора. І трапіў у райком. Палажыў партыйны білет. Зломаны, страціўшы веру ва ўсё, з невядомасцю страшнай ішоў дадому.

Праз паўмесяца судзілі — і атрымаў: дзесяць гадоў.

Ганна — замужам за Міканорам — адчувае: не любіць яго. Спакойная. Халодны ён. Чагосьці не хапае ў яго. Увесь у справах.

— Дзеці — адна радасць.

Усё добра нібы — чаго ж нездавальненне? Быццам не хапае чагосьці! Хочацца чагосьці!..

І зноў Ганна адна. Адна з дзецьмі. Жонка не жонка, удава не ўдава. Начамі гадае: дзе ён, што з ім.

Папракае: трэба было яму болей за ўсіх. Дзяцей не пашкадаваў. Яе не пашкадаваў! Другія — унь жывуць як жывецца, прыладжваюцца!

У хвіліны цвярозасці супакойвала: а як было яму іначай! Не век жа няпраўдай жыць! Не ўсім жа няпраўдай! Таму і цяжка так, што многія папрыладжваліся, загубіць гатовы ўсё — абы на вярху быць самім! Без хлеба гатовы другіх аставіць, абы самім белай булкай ласавацца!

Людзі спачуваюць! Добрым словам успамінаюць Мікanора.

Ганну ганяюць на працу. Усіх ганяюць. Абыякавасць. Спяць у полі многія. Ганну бярэ сорам — робіць. Бярэ трывога: што ж гэта будзе? Ніхто рабіць не хоча? Адкуль жа хлебу таму?

У 1937 годзе пасадзілі Башлыкова і Галенчыка.

Польская разведка прапануе Яўхіму перайсці граніцу, выведаць, што там. (Абарончы пояс.) Ён адмаўляецца. Надакучыла. Небяспечна. Пастарэў. Хочацца спакойнага жыцця. Жонку ўжо завёў. Гаспадарка. (Змены ў ім.) Прымушаюць. Спакушаецца — грошы. «Жонка» лаецца.

Завітвае ў Куранi. Бацькава селішча. Ганна — дзе?

Сустракаецца з Ларывонам Бугаём. Выпытвае.

Зноў — за мяжой.

Харчаў. Лёс нібы шчаслівы. У Мінску, угары. Рашае лёс многіх. Ордэн новы.

Але — неспакой у душы. Сумленне мучыць. Сумненні неадступныя. Няўпэўненасць у сабе.

Падазронасць: і на яго штосьці рыхтуецца.

Чакае: і яго возьмуць.

Усё няпэўна. Ніякай апоры.

І да гэтага — неспакой у душы. Сумненні ў тым, што робіць да другіх. Сумленне не дае спакою.

Не можа звесці канцы з канцамі. Заблытаўся.

Апустошанасць і адчуванне — заблытаўся. І адчуванне — ганебнага канца. Што рабіць?

Наган да скроні. Усё разам кончыць! Кончыў. Рука не здрыганулася.

Перад смерцю — да яго трапіў Апейка. Размова шчырая. Апейка дзейнічае на яго.

Харчаў: а чаму я павінен верыць табе? Табе, другому. (Я перастаў адчуваць. Не знаю, каму верыць. Мне здаецца — усе вакол.) [1] Нікому нельга верыць!

— Ты дайшоў да канца! Далей няма куды.

— Брэшаш!.. Ты заўсёды быў — з душком.

— Ты сам ведаеш — што гэта няпраўда. Твае словы.

---

[1] Тэкст: (Я ~ вакол.) — узяты ў дужкі І. Мележам.

— Не, праўда!

— Не мані сабе. І мне не мані. Мы ж — старыя сябры. Хоць у імя гэтага.

— Мы не сябры. І не былі імі па-сапраўднаму.

— Табе — відней. Я-то лічыў цябе сябрам! Тады — прабач.

— Сабака — табе друг!

— Ну, калі так...

— Ты лепш прызнайся без утайкі. Не круці. Табе ж лепш будзе.

— Я нічога не ўтаіў.

— Лепш будзе.

— Ты хацеў бы, каб я накляпаў на сябе. Але я гэтага не зраблю. Нават у імя нашай колішняй дружбы.

— А ты мала змяніўся. Нават той жа манер гаварыць.

— А ты — змяніўся.

— Ну, ну. Не забывайся! — Харчаў.

— Але ж ты мне гаворыш...

— Я гавару, а ты — не маеш права. Разумець павінен!

— А-а.

— Ну, давай пра справу. Прызнайся.

— Там усё напісана. Я магу толькі паўтарыць...

(Вайна)

Калі Васіль ранены дабраўся ў Курані, заявіўся Яўхім. Напаў так, што не было куды дзецца: Васіль быў у хаце; Яўхім ішоў на двор. На гарышча позна, у хлеў, у лес няма як. Чакаў з трывогай.

Яўхім паздароваўся, сеў. Памаўчаў. Цішыня навальнічная. Васіль таксама маўчаў, гатовы на ўсё. Маня захадзілася — пачаставаць.

«А і не адкажуся! Стаўляй пляшку». «Ну, як ваяваў процім немцаў? Абараніў сваю Савецкую ўласць?» Маня: «Мабілізавалі». «Дзе стукнула?» Васіль: «Пад Гомелем». «Далеко цяпер ужэ немцы! От ваша — непабедзімая Красная Армія».

Васілю хацелася спрачацца — хоць сам нядаўна ж злаваў на былую балбатню; абражаў Яўхім нібы і яго, усё, чым жыў, як бы абражаў бацька і матку,— але ён маўчаў: небяспечна было спрачацца. Лезці на ражон.

Яўхім акінуў вокам хату, пахваліў: «А нішто хата! Калгас даў ці — сам?» «Сам». «А лес?» «З калгасу выпісалі». «А дабро пахаваў, пэўне». Маня: «Якое там дабро!»

Усё ўлагоджвала Яўхіма: «І майго ж татачка саслалі! Разам з тваім». Васіль падумаў: ужэ як усе адно радуецца! Яўхім нахмурыўся: «Дзе ён цяпер? Дайдуць немцы да Урала — вытрабую назад. Няхай пажыве астатак гадоў, парадуецца».

«І нас жа таксамо раскулачвалі. Хату адабралі. Землю адрэзалі».

«Ну, помніш, як біліся каля цагельні. Порсткі быў! Чужога захацеў!» Васіль чакаў: зараз устане, кінецца зноў; насцярожыўся, нарыхтаваўся.

Яўхім выпіў, жаваў доўга, люта, маўчаў. Пракаўтнуў.

«Ну, чорт з ім. Што было, тое было. Не пакарыстаўся і ты... Чорт з ім. Не буду памінаць». Маня: «Не памінай, Яўхімко!» Памаўчаў, пажаваў: «Чорт з ім! Давай на міравую!»

Васіль ахвотна паднёс чарку: на душы адлегла.

«Толькі штоб цяпер са мной заадно быў! Разам штоб ішоў. А не — дык у парашок! Ето табе не стары час! Сіла ў мяне! Захочу ўміг — скручу. І дом, і дабро ўсё — умент к чорту!»

П'яны быў, страшны. Васіль толькі глядзеў ды сачыў. Ды маўчаў, піў. Быццам вынесла з ручая на рэчку — і круціць, гоніць ліха яго ведае куды.

Пасля вандраванняў нядаўніх, грукату бою, смерці жыў Васіль цішынёю, спакоем, звыкласцю родных з'яў і клапатаў.

Цішыня як бы была не ціхаю, і ў спакоі чулася пагроза. Стараўся не заўважыць, не вярэдзіць сябе думкамі — уцехі ў іх не было.

Балела душа за малых, за агарод, за карову, за хату — няпэўным, безабаронным было ўсё, але тым даражэйшым было ўсё.

З незвычайнай любасцю песціў малых, з рэдкай, з адчаем адданасцю хапаўся па гаспадарцы.

Першы час успамінаў усе крыўды, якія былі яму ад Савецкай улады: асабліва — як запісалі падкулачнікам, як забралі радасць — хату, адрэзалі зямлю, прымусілі, можна сказаць, бадзяцца па свету. Злосць была на Міканора.

Злосць была: от хваліліся — усё пераможам, адной пядкі зямлі — не аддадзім, на чужой зямлі ваяваць будзем!

А як прыйшлося — дык як пакаціліся, дык і астанавіцца не могуць. Хваліліся: танкаў у нас цьма — а як прыйшлося, дык бачыў іх, як свой нос. Адзін самалёцік, а іх — тысячы. А столькі налогу бралі: на абарону, столькі пазыкі той! Куды ж падзелася ўсё?

Але гэта была злосць не зларадная, а — усё часцей — злосць балючая, балюча было ад яе самому.

Першы час супакойваў: а можа, і пры немцах жыць можно будзе? Можа ж, і яны людзі? Не таму, што хацеў ён іх, не хацеў і быў бы рады, каб іх не было, але былі — і трэба было рашаць жыццёвае ўсё, лічачыся з імі. Даспадобы ці не, але не дзенешся нікуды ад іх,— і трэба, хочаш не хочаш, думаць: ці можна жыць і з імі?

Супакойваў сябе: неяк абжывецца, абцерпіцца: трэба ж нейкую апору ў жыцці мець! Трэба ж для радасці — дзяцей, аб якіх толькі і баліць цяпер душа. Для гаспадаркі, без якой не пражывеш. Хоць бы пракарміцца неяк.

Часта думаў пра Валодзьку. Той недзе ваюе. Як яму там? (Бачыліся, можа, пад Гомелем).

Калі палалі Курані — (сям'я?) загінула. Выратаваўся сынок адзін. Яго выпадкова смерць абмінула.

Пасля вызвалення — узялі ў армію. Кончыў вайну — у Германіі ці Аўстрыі. Ваяваў непагана. Кулямётчыкам. Пачаў ад Мозыра.

Ехаць — не ехаць дамоў? Балела — ад адной думкі пра дом. Спачатку думаў: не паеду. Падаўся з таварышам — да яго. Пабыў — пацягнула дадому.

Прыехаў. Сустрэча з Куранямі. Боль. На могілках. Колькі тут пахавана! Але ніхто не бачыў, такой бяды!..

Курані. Нідзе мне без вас жыцця не будзе. Толькі ў вас і маё гора, і мая радасць. Маё жыццё!

І ўсё-такі мы будзем жыць. Нас — не знішчыць. Бо мы — народ!

Былы камсамолец, актывіст (Ярмольчык), лейтэнант Чырвонай Арміі — вяртаецца ў Хвойнікі з палону, выслужваецца перад немцамі, становіцца начальнікам паліцыі. Не разгледзелі кар'ерыста, шкурніка. Цяпер ён садзіст, звер. Упіваецца ўладай.

(Ярмольчык,— Разуменка знае, Саўчык)

Кулацкая дачка (Маня Чэкан) становіцца гераіняй падполля!

Вось яно — жыццё, яго крутыя павароты, яго законы! Паказваць,— жыццё — вораг мёртвай догмы, схемы, ламае яе ўсюды рэзка і непахісна.

Яўхім нібы дружыць з Ярмольчыкам. За сталом п'яны, па-таварыску Ярм[ольчы]ку:

— От я — кулак. Кулацкі сын. Мне дарога — адна, прамая сюды. А ты — чаму? Табе Савецкая ўлада ўсё дала. Вывучыла. Камсамольцам быў.

Яўхім заеўся з немцам. Адзін аднаму не верадь. Немец не зводзіць вачэй. Яўхім іграе, жартуе: злосць памагае іграць. Потым на дарозе: выбіў вінтоўку.

— Ну, фрыц.

Той пабялеў. Штосьці мармытаў па-свойму.

— Прыблудзілі сюды! Ды — камандуеце.

З асалодай выпусціў абойму. Адцёг убок. Закурыў.

Немцы захапілі Яўхіма (дазналіся пра «зло» яго).

Ён трымаецца ўпэўнена.

Павесілі яго. (Як партызанскага памочніка. «Он стрелял немец».)

Яўхім зноў трапіў у разлад.

Жыццё зноў заблыталася.

Надзея на немцаў выветрылася.

Бачыў: ім і на яго напляваць.

Глядзяць, як на жывёлу.

Падкормліваюць, як сабаку. Пакуль служыш.

Сябе толькі лічаць за людзей.

Адчуюць сілу, прагоняць друкам.

Трэба гнуцца перад кожным смярдзючым фрыцам. А ён, як на скаціну. (Пячэ: сын загінуў ад немцаў.)

Ды і — відаць: дохлае іх дзело. Нічого не выйдзе. Парцізаны і — лічы — кажны супраць. Народ.

П'е без просыпу. Самагонка, самагонка. Бабы — курвы.

Галова век баліць.

А от Ганна не выходзіць з сэрца.

Не ўдалося жыццё. Не будзе нічога. Завязалася пятлёю, вакол шыі.

Яўхім дазнаўся: схапілі некалькі куранёўцаў. І Ганна сярод іх.

Сядзяць у Загаллі. Едзе туды (вызываецца сам).

Прыходзіць у хлеў, дзе яны сядзяць.

Гаворыць рэзка, здзекліва. «У расход пусцяць. Што перадаць?» Красуецца. Не разумеў — перад ёю: няхай бачыць яго сілу.

Яна з нянавісцю.

Выходзіць у паліцыю. П'е.

Думае пра Ганну, пра жыццё.

Вечарам стычка з паліцаем. Патрабуе вызваліць. Адбірае ключы. Той бяжыць да немцаў. Ідзе ў хлеў. Ледзь стаіць.

— Выходзьце. Вымятайцеся. Покуль не позна... У лес зразу.

Сам закрывае хлеў. Немцы кінуліся да яго з крыкам.

— Век!

Страляе. У перастрэлцы ранілі.

Схапілі, звязалі.

Вядуць у Хвойнікі.

— Парцізан?

Ярмольчык тут.

Б'юць. Плюе крывёю.

Трымаецца дужа.

Думае пра Ганну. Выратавалася.

Плача па сыне.

Нічога не застанецца. Адно шкода.

**«Сцежкі ў асацэ»**

Становішча людзей у першыя месяцы вайны. У сваёй прамове Сталін заклікаў людзей паліць усё, руйнаваць, каб нішто не дасталося ворагу. Словы гэтыя не ва ўсім знаходзілі водгук у людскіх сэрцах. Было ў іх такое, што не ўлічвала рэальныя акалічнасці жыцця людзей. Гэтыя заклікі былі простыя тым, хто ішоў на ўсход, каму не пагражала няволя. Але ж большасць вымушана была аставацца ў новым, цяжкім становішчы. Людзям, што асталіся, трэба было думаць не так аб тым, каб нічога не дасталося немцам, колькі аб тым, каб не працягнуць ногі з голаду. Людзям трэба было думаць пра жыццё сваё, сваіх дзяцей, жыццё, якое стала такім незразумелым, ненадзейным і якое было асноваю ўсіх клопатаў і трывог. Людзі разбіралі ко-

ней, калёсы, плугі, граблі, вілы, разбіралі збожжа, рабілі запас на доўгую, страшную восень, зіму і вясну. Ніколі так не дрыжалі над збожжам, над бульбаю, бо збожжа многа прапала, бо чакаць яго не было адкуль, бо бульбу трэба было ўхапіць выбраць з зямлі, пакуль можна ў полі паказацца...

Усё было зрушана, усё сышло са свайго месца, з прывычнай пэўнасці, усё было няясным, незразумелым, выклікала насцярожанасць. Людзі прыглядаліся, прыслухоўваліся, чакалі. Не ўсе ў той час прымалі партызан з абдымкамі, бо тыя партызаны былі яшчэ невядомым, яшчэ часта не былі па-сапраўднаму, на справе, народнымі заступнікамі: барацьба толькі пачыналася; партызаны хоць і былі сваімі, але не былі такімі блізкімі, неаддзельнымі, як сталі пазней, калі ў кожнага быў там ці брат, ці сястра, ці пляменнік, ці проста добры знаёмы; калі сам запал барацьбы патрабаваў шукаць падтрымкі, абароны, надзеі.

Ёсць свая логіка ў поступе жыцця ў любы час. Была і тут свая логіка, якая ішла з самой асновы чалавечага існавання. Быў гэта пачатак ■ усімі сваімі асаблівасцямі.

Партызаны патрабуюць у селяніна: дай хлеба, дай мяса, сала. Калі не даюць, пагражаюць. Не вераць, што няма. Дзве праўды. Часам гразіліся і расстрэлам.

Апейка разумее, што гэта ненармальна, што такім метадам дабівацца ў людзей нельга.

Крываротcalled ў вайну — вымушаны застацца на акупіраванай зямлі — прадаўся немцам. Стаў служыць ім.

Ён у душы кар'ерыст. Яму, Крываротаму, галоўнае — быць наверсе. «На кані», як ён сам кажа. А яго з каня — на зямлю перад вайной. От і злосць на Савецкую ўладу. Яўхіма спаткаў як таварыша.

Немцы далі зноў уладу. Зноў п'янее ўладаю. Хваліць немцаў, распінаецца за іх доўгімі прамовамі, як некалі за савецкую.

У вайну — вярнуўшыся — Васіль не радуецца зямлі. Спачатку — спакуса. Бярэ яна. Маня ўгаворвае. Не верыць ёй. Усё нетрывала. Не той зялёны, наіўны. Гняце ўспамін пра бачанае. Жыве памяць пра пражытае.

Прыглядваецца. Чакае.

Не верыць у трываласць нямецк[іх] парадкаў. І ў іх дабрачыннасць. Асобна трымаецца.

Канфлікты ў сям'і. Маня радуецца немцам. Кляне Са-в[ецкую] уладу, бальшавікоў. Рада: зажывем. Не губляй часу. Хапайся. Можна разжыцца. Васіль абсякае яе. Спрэчкі. Яна крычыць на яго: «дурны!» Маці зноў разрываецца. Думае. А толькі больш за Васілёў бок. Пабойваецца Мані.

(Маня кляне: «Адальюцца ім, бальшавікам, нашы слёзы». Плача пра бацьку, зларадная, прагная.)

Васіль спачатку стрымана і да партызан. Прыглядаецца. Ім што — абы-што — у лес. А яму тут. У яго — сям'я. Яму трэба думаць пра сям'ю. Ён адно — заступка ў сям'і. А заступка трэба цяпер, як ніколі.

Зямля! Яна ляжала цяпер нібы нічыя. Бяры, колькі хочаш. Жыві, развінайся!

Звала, спакушала. Бяры, няма забароны. Няма гаспадароў.

Людзі бралі найбольш тое, што было да калгасаў. Бралі неахвотна, нібы з недаверам. З аглядкай. Глушаковага не бралі. Як бы на той была па-ранейшаму яго ўлада... Не бралі Пракопавага. На Пракопава адразу заявіла свае правы Маня.

Глушаковае можна было таксама ўзяць. Нікога з Глушакоў не было. Старога не было на свеце. А сыноў таксама вецер развеяў. Ды Сцяпан, каб і прыйшоў, наўрад ці ўзяўся б.

А Яўхіма, пэўне, даўно «рашылі». Казалі ж, Міканор злавіў, прадаў уладам.

Бяры! Тое, пра што некалі марыў, ляжала пустое. Як бы ў насмешку над маладымі яго марамі.

Маня падганяла: вазьмі. Кінь пясок, ды вазьмі тое! Прагная.

Ён хадзіў, глядзеў. Хацелася. Ды бярогся. Аглядваўся, чакаў: што будзе?

Невядома было, што будзе. Значыць, невядома, што рабіць. ...(Баяўся ўжо зямлі. Не верыў. Нямілае было ўжо ў ёй.)

## З ЗАПІСНОЙ КНІЖКІ

### 1968—1969—1970 гг.

**Чацвёрты раман** — раман-эпілог
Ці можа 2—3 маленькіх аповесці?
1935—1945 — ці да **нашых дзён**
раздзелы — ад ранейшых.
Лёс тых жа герояў.
Як вынік ранейшых, развіццё.
**Невялікі**, арк[ушаў] 10.

Назва «Некалькі дзён з многіх»
ці «Водгулле».

Узяць некалькі вузлавых падзей з лёсу герояў.

У Васіля ўсё больш адчуванне: **жыццё не туды паварочвае, куды хацеў.**

І нічога не зробіш.

«Мала, што хочацца...»

Хочаш не хочаш, а трэба прынараўлівацца к таму, як можна.

«Трэба жыць, як набяжыць».

Векавечная пакорлівасць і практычная цвярозасць ад вякоў, якая памагла выжыць, жыць заўсёды, усюды.

І ад гэтага гасла, адыходзіла мара — дзіцячая мара, нязбыўнае.

І ад гэтага стараўся звыкаць з новым...

Супакойваў: можа ж, і так жыць можна.

Пэўне, што можна. Не аднаму ж так. Усім такое.

Яму, як і ўсім.

І ўсё-ткі ныла шкадаванне. Ныла, и цвярозасць гнала, глушыла тое: няма чаго. Пустое.

Трэба — дзело думаць.

Дзело, дзело турбавала... [1]

«Хроніка» (IV)

Калі вайна, у Васіля ажываюць (прыватніцкія) надзеі.

---

[1] Насупраць тэксту: У Васіля ~ турбавала...— І. Мележам на палях напісана: *Вельмі важна і дакладна. Праўдзіва! Абавязкова даць!*

І крыўда ажывае. Забралі. Парэзалі ўсё. Па жывому.
Хваліліся: непераможныя! На ўвесь свет!

Калі прыйшоў дадому: спусцennе. Трывога ўсіх.
Шкадаванне: пахапалі, пацягалі з калгаса.
Ён таксама стараецца. Трэба па-новаму прынараўлівацца.
Трэба жыць. А то і з голаду падохнуць нядоўга.

Прыглядваецца. Чакае. Надзеі. І няпэўнасць. І чуткі, чуткі. Немцы ідуць, ідуць. Да Масквы.
Пра немцаў? Якія яны? Як пры іх?
Пра дзяцей балела: як ім цяпер.
Раней вядома было, ясна.
Цяпер — ліха яго ведае.
Але трэба варушыцца. Жыць.

Дубадзел заяўляецца ў школу. Рашучы, дзейны ўваходзіць.
— Дзе Глушак Ганна? А, тут.
Строгі загад:
— Сабірайся!
— Куды ето?
— У ссылку.
— Якую?
— Такую. З Глушакамі. Раскулачылі вас.
— Дык яна ж кінула! — умяшалася Параска.
— Ге, дурных знайшлі! Кінула для віду.
— Вы што гаворыце!
— Сабірайся!
— Вы не маеце права!
— Маем. Не разведзены. Праверано! — радасна.
— Дак куды ж ты пашлеш мяне?
— Смейся. Пасмяешся патом.
— А ўсе-такі?
— Куды Макар цялят не ганяў.
— У Салаўкі?
— Е место.
— Аге.— Трымалася.— З Яўхімам?
— З мужам.
— А я з табой хачу застацца.
— Мала што.

— Ужэ не хочаш. Перадумаў. Шчэ ж нядаўно хацеў. Не глядзеў, што кулацкая!

— Брашы!

— Забуў ужэ! Дак мо не забуў, як гразіўся, калі пасмяялася з подступаў тваіх?

— Не паклёпнічай. Ніхто не паверыць!

— А мо — павераць.

— Кулацкая плётка!.. — Строга. — Сабірайся!

— Нікуды яна не пойдзе!

— Міліцыя даставіць!

— Не маеце права!

— Маем! Рашэнне са сходу ў Куранях.

Нецярпліва:

— Хутчэй! Няма часу!

— Я ў сельсавет пайду! К Гайлісу.

— З Гайлісам дагаворано.

— Пабачым!.. А не — к Башлыкову самому!

— Хоць к Калініну!..

Міліцыянеру:

— Даставіць у Курані!

Міліцыянер казырнуў:

— Грамадзянка, збірайцеся!

Ганна:

— Назад прывязеш!

— Не бойся.

— Штоб без правалочак!

Важна, для Ганны і Параскі:

— Трэба шчэ от аднаго Глушачка забраць. Паразбегліся. Ганяйся за імі.

Параска да Ганны:

— Я ў сельсавет.— Міліцыянеру: — Падвязеце мо.

— Не паложано.

Ганне:

— Выходзьце!

Выйшла. Дубадзел услед:

— Вачэй не спускай!

Сам падышоў да другіх саней. Там быў яшчэ нехта.

— У Вадовічы! — загадаў голасна. Каб чула Ганна.

Мяло. Ганна маўчала. Усё здавалася такім дзіўным, недарэчным. Думкі не ладзіліся.

Што, калі і праўда — ■ Яўхімам?

Як на здзек. Дабіўся-такі, зараза! Вылез... Забраў зноў уладу. Горка: «От, як — пад стражай прывязуць назад!»

Чаму такая няўдалая доля яе!

«І Сцяпана, беднага, за што! Зараза паганая, рад, што дарваўся да ўлады!»

Гайліс — ці заступіцца за яе. Ды Башл[ыкоў] ці захоча. Ідэйны, не захоча рызыкаваць. Мо — каб Апейка. Няўжэ ж так нізашто і пацягнуць некуды, чорт знае куды.

Даскакалася! [1]

Дубадзел тым часам гнаў каня ў Вадовічы. Быў поўны ўвесь радасцю, ахвотай дзейнасці.

Упёк, языкатую. Будзе знаць, як смяяцца з Савецкай улады!

Закаецца сто разоў. Локці кусаць будзе. Ды позна будзе.

Пра Параску: грозіцца! Паспрабуй! Усё па закону! Ніхто не зменіць!..

Трэба шчэ от етаго Глушака. Хітрае Глушаня, куды ўлезла. У камуну. Думаў, тут не дабяруся!

Уехаў. Дзе-нідзе яшчэ агні. Пытаецца:

— Дзе тут Глушак?

— Хлопчык еты?

Паказалі.

Сцяпан вячэраў.

— Канчай.

— А што такое?

— Такое. Да бацькі павязу.

— Чаго? — не разумеў.

— Што б весялей було яму!

— Куды?

— Цьфу! «Чаго, куды?..» Раскулачаны! У Сібір ссылаем!

— А-а.

Пакорліва:

— Я зараз.

Гаспадыня ўголас.

— Харошы хлопец такі.

Выйшаў паслухмяна, сеў. Маўчаў. Потым — не вытрымаў:

— Як там, матка?

---

[1] Насупраць пачатку тэксту: Дубадзел заяўляецца ў школу. Рашучы, дзейны ўваходзіць. ~ Даскакалася! — І. Мележам на палях напісана: *На сходзе. Гвалт быў. Ледзь не ў кожнага заступнікі знайшліся. Нават у Глушака. Памагаў. Стары!*

*Асабліва за Ганну. За Ігната. Лепей бы ўзялі — канакрада.*

— Так, як і бацько! Пабачыш скора.

Потым упёк:

— Думаў, як у камуну схаваўся, дак забудзем?

— Я не хаваўся.— Ціха.

Маўчаў.

А Дуб[адзел] думаў давольна: зрабіў што належыць. Уявіў: нятутка будзе, як даставяць Ганну к Яўхіму!

Ганна да Глушакоў не паехала.

Ледзь даехала да хаты, саскочыла.

Міліцыянер загадаў, не паслухалася.

Сказаў, што страляць будзе.

— Страляй.

Стукнула ў акно. У хаце яшчэ свяцілася.

— Тато.

Міліцыянер стаяў разгублены.

За акном постаць.

— Я, тато. Ганна.

Выбегла мачыха.

— Ой, божачко! Чаго ето ты! Проціў ночы.

— Прывезлі от. Пад стражаю. Дубадзел даў.

— А-бо!

Лямант на ўсё сяло.

— Дак ідзі ў хату! — бацька.

— Не пускаюць!

— Як ето? У сваю хату!

— Стой! — міліцыянер.

— Ты што ето? — мачыха зверам на яго.

— Загадано.

— Загадано! Страляй у мяне!

Ганне:

— Ідзі, ідзі!

Ганна ўвайшла ў хату. За ёй напалоханы Хведзька, устрывожаны бацька.

— Цэлая будзе! Не ўцячэ нікуды! — міліцыянеру мачыха.

Зноў у лямант:

— А божачко. Мы ето як пачулі, што Глушакоў, дак і падумалі: не дай бог, і Ганну! Дак яно так і выйшло!

Як па нябожчыку.

— Ціхо вы, мамо! І вы, тато, не глядзіце так!.. Шчэ, можа, усё ўладзіцца. Параска кажа: не па закону. Пайшла ў Юравічы. Да Башлыкова.

— Дай бог ёй здароўя! Што ето надумалі!
Няўжо яна апошні вечар тут, сярод сваіх?
Аж паверыць цяжка.

Параска да Гайліса. Гайліс не згадзіўся: па захону ўсё. Рашэнне.

Тады яна хацела к Башл[ыкову]. Але перадумала — к дзядзьку — параіцца перш.

Апейка распарадзіўся Гайлісу.

(— Не перагінайце. Каго вы там намецілі? Праверце, падумайце яшчэ раз... Падумайце наконт Ігната. Па-мойму, незаслужана.)

Раніцай Ганну вядуць у Алешнікі. Мачыха — лямант.

Там ужо — даюць загад — адпусціць. Параска заве ў Глінішчы. Бацька з ёй ехаў (!)

— Не, трэба забегці дадому. Слёзы выцерці мачысе. Сказаць, што явілася са ссылкі. А то будуць плакаць.

— Не заседжвайся.

— Заўтра прыйду.

Апейка пасля бюро (было яшчэ рана, светла), дзе знялі яго, ідзе да знаёмай сваёй — на кватэру. Напіўся. Прачнуўся на яе ложку. Яна побач.

Баліць галава. Моташна. П'е ваду.

«Пайду». «Ноч жа». Ідзе да дома калгасніка. Дзе Ігнат начуе. Знайшоў, будзіць.

— Паедзем.

Ноч. Прыпяць. Развідняе. (Прыязджае не дадому спачатку, у выканком. Тады — дадому.)

Даць добра лінію — Ганна — Башлыкоў. Гэта лінія кахания — як аналогія лініі Васіль — Ганна. Там скалечыла, загубіла каханне нястача, беднасць, сялянская філасофія, тут — **філасофія аскетызму, падазронасці, няверʼя** чалавеку. І тая, і гэтая прычыны — аднолькава бесчалавечныя.

Башл[ыкоў] здольны моцна хацець. Таму яму цяжка ўтрымлівацца. Таму і не ўтрываў аднойчы.

**Даць:** Башлыкоў любіць Ганну, але імкнецца пераадолець. Для яго любоў гэта — як **наваждение.**

Яна недазволеная. «Была за кулаком». «Звязана з кулаком». Яму балюча, але ён хавае. У імя ідэі.

(Ён нападае на Апейку, што заступіўся за Ганну. Спрэчка ў іх. Апейка лае яго. «Фармальна яна — падляжыць...» Башл[ыкоў]. Апейка злосна. Б[ашлыкоў] адступае.) [1]

Ён здольны моцна адчуваць.

Яго цягне да яе, як атрута. Ён думае пра яе, марыць быць з ёю. І тое, што гэта немагчыма, яшчэ распальвае агонь яго.

Цікава гэта: дэфармацыя пачуцця з-за ілжыв[ай] філасофіі.

Толькі ў канцы, калі знялі, ідзе да яе. Здаўся. Хоча забраць з сабою.

Яна дае яму ўрок — з годнасцю. Насмешліва і з гонарам. «Вы ж мне ніколі не даруеце, што я была кулачкай».

Апейка таксама тайна закаханы. Любуецца. «Паспяшаўся нарадзіцца!» Калі яна: «Ой, як вам падзякуваць». «Пацалуй толькі». «Усяго». Цалуе яго. «Самы вялікі дзякуй». Смяецца: «Каб маладзейшы буў».

Смяецца над Башл[ыковым]: «Агню ў цябе няма на жанчын. Марны ты чалавек. Без карысці. Што за чалавек, які не ўмее любіць. Не чалавек. Ва ўсякім разе — не мужчына. Эх, я б на тваім месцы такі б раман завязаў. На здрасць усім!»

У канцы (шчыра): «Табе жыццё зрабіла такі падарунак. Такую жанчыну. Якую нямногім выпадае сустрэць. А ты!.. Сам адкінуў!.. З вопытам, з галавой!.. Не разумею!..»

«Лічы, што ты страціў такое. Што, можа, не заменіш!»

У канцы кнігі (II ч.). Калі Башл[ыкоў], ад'язджаючы, прызнаўся: прапанаваў Ганне... Адмовіла.

І Харчава праясніць больш трэба. Яго складанасць, супярэчлівасць.

**Частка першая**

*Пяць раздзелаў:*

1 радзел — Ганна.

2—3 раздз[ел] — сход.

---

[1] Тэкст: (Ён нападае на Апейку, ~ адступае.) — І. Мележам закрэслены.

4 раздз[ел] — 1) Башл[ыкоў] дома. 2) Апейка і Сталін [1].

5 раздз[ел] — Башл[ыкоў]. Апейка. Аб раскулач[ванні]. Падрыхтоўка. Раскулачванне.

Васіль на нарыхтоўках у лесе.

Пайшоў [illegible] сяла. Каб перабыць.

Ударнік. Заняты ў працы.

Сватаюць на сплаў.

Наймаецца. А потым да зямлі пацягнула.

Нардом даць.

Жыццё мястэчка. Норавы таго часу.

Каларыт часу. (Вечар які-небудзь).

Башлыкоў пры гэтым. Добры настрой моладзі. Надзеі на будучыню.

У Куранях. Жыццё. Хлопцы.

Вобразы ранейшых раманаў — як жывуць цяпер [2].

Паказаць барацьбу за к/г. Угаворы, пагрозы, націск.

Башл[ыкоў] не голы кар'ерыст.

Ён — адданы. Ён душой служыць. Яму хочацца апраўдаць. Хочацца дабра.

Ён проста бачыць.

Яму ўсё здаецца простым.

Для яго — Апейка мудрыць.

Яму ўсё ясна. Бядняк — бядняк. Кулак — кулак. Калектывізаваць. Тэмпы. Біць ворага. Цвёрдая пазіцыя.

Пасля таго, як несправядліва знялі з работы, выключылі [illegible] партыі, пасля ўсіх пакут потым, у Апейку нешта надламілася. Няма той упэўненасці, цвёрдасці, нейкая асцярожлівасць. І стомленасць нібы. Новы ў нечым Апейка.

Насцярожанасць... Позірк вачэй больш неспакойны.

Знешне — пастарэў. Прыгорбіўся.

Не толькі сівізны дадалося. І маршчын. Радасць сваёй перамогі прыняў неяк стрымана. Нібы стомлена.

«Нішто не праходзіць бясследна».

(Крыўда не крыўда — нешта засталося. Сумненні большыя ў людзях).

---

[1] Тэкст: I раздзел — Ганна. ~ 2) Апейка і Сталін — І. Мележам закрэслены.

[2] Тэкст: У Куранях. ~ цяпер.— І. Мележам закрэслены.

В[ельмі] важна даць
1.II.69 г.

Брат Апейкі такі ж упарты, як Апейка.

Не слухае папярэджанняў (І Апейкі). Лезе на ражон. «Мы адной крыві!»

Калі зямля гарыць пад нагамі. Стычка з Апейкам.

Калі раскулачвалі — прыйшлі ўночы сцерагчы, Яўхім ноччу — вырваўся. Міканор распараджаецца: звязаць рукі за спіной.

Навальваюцца, звязваюць. «Смелыя ж!» — здзекваецца Яўхім.

Потым удае: паслухмянага.

Дачуўся: у турму пасадзяць. «Ізаліруюць».

А там — нядоўга — і стукнуць.

(З размовы з Дубадзелам.

Той — груба. І Міканор.

Даць размову, Яўхім падначвае, выведвае. Задзіраецца).

Прыціх. Каб ашукаць.

А сам думае: рашаючы момант.

Уцёк.

Хацелі даганяць, стрэліў.

Днём міліцыя шукае.

Калі Яўхім уцёк, заяўляюцца да Ганны, пытаюць: ці не бачыла?

Як бы — не верацъ. (Дубадзел).

Дуб[адзел] пагражае Ганне.

Сцерагуць каля школы.

Чакаюць, што прыйдзе.

Сцерагуць, каля Сарокі,— дзе бацькі.

Ганна баіцца: раптам паявіцца.

Яўхім як у ваду прапаў.

Старога Глушака спачатку — са злосці — намерыліся адправіць у халодную ў Юравічы. Потым — Дубадз[ел] прыдумаў — вярнулі назад. Да Сарокі.

Як прыманку трымалі. Сядзелі ў засадзе. Назіралі. Думалі — прыйдзе. Пападзецца.

Дубадзел сочыць усё. І Міканор.

Глушак перажывае, што ўсё адабралі. І за Яўхіма трывожыцца.

Моліцца. Дурны. І — шкадуе. Старая ўсё плача.

Яўхім першы момант: роспач. Мароз. Голадна. У стозе сена. Разумна разлічыў: будуць шукаць каля дома. Не паяўляўся.

Асмеліўся — у Юравічы. Пад носам у міліцыі шукаць не будуць.

З Зубрычам. Зубрыч даведку. Завёз у Калінкавічы.

Улез ноччу потай у вагон.

Хутчэй, далей адсюль. Трывога.

Што ж гэта будзе?

Ведаў: дарогі назад няма.

Башл[ыкоў] з Ганнай суха, строга. Як бы знарок — цвёрдасць. Жорсткасць. Грубаватасць.

Яна яму тым жа, задзірыста: задзявае яе гонар.

— Сашліце, таварыш сакратар. Жонка ж я кулака.

Пэўне, свет вам зазасціла?

Яе прамата збівала яго.

Сіла была ў ёй нейкая.

І ў ім была сіла.

А без яе — пуста было. Цягнула да яе дзіўна.

Што ж гэта такое?!

Пра гэта Башл[ыкоў] — Ганна — даваць небагата. Каб не выпірала. Гэта — другі, трэці план.

У лініі Ганна — Башлыкоў увесь час даваць адчуць: Башл[ыкоў] не баіцца, ён не баязлівец; уся прычына асцярожнасці, затоенасці, скрывання — у тым, што для яго гэта — забароненае пачуццё. Уласнае, непатрэбнае, адцягвае ад галоўнага. Пярэчыць уяўленню пра ідэальны вобраз, да якога ён імкнецца.

Башл[ыкоў] забівае сваё пачуццё да Ганны.

Аскетызм, як ідэал. Норма жыцця. (І апаска — нячыстая біяграфія?)

Даць Дубадзела пры раскулачванні шырока. (З Ганнаю, са Сцяпанам, у Куранях разгарнуўся — гаспадар. Жах наводзіць).

Разгарнуўся, нарэшце. Яго стыхія. Сіла яго.

Хоча выслужыцца за вымову. І выслужваецца.

Замест Гайліса становяць.

(Тыповая фігура таго часу, каларытная).

# I

*У дадзены том Збору твораў уваходзяць трэцяя кніга з цыкла «Палеская хроніка» — «Завеі, снежань» (друкуецца ў першым раздзеле тома) і неапублікаваныя пры жыцці аўтара архіўныя матэрыялы да наступных раманаў «Палескай хронікі» (друкуюцца ў другім раздзеле).*

**I. «Завеі, снежань»** (стар. 5)

Упершыню раман «Завеі, снежань» змешчаны ў часопісе «Полымя», 1976, № 3 (Частка першая), № 4 (Частка другая), № 5 (Частка трэцяя).

Датуецца 1976 г.

Урывак з рамана друкаваўся ў газеце «Літаратура і мастацтва» ад 5 і 12 сакавіка 1976 г. пад назвай «Пачатак дня». (Тэкст гэтай публікацыі з невялікімі розначытаннямі адпавядае 10—12 старонкам тэксту часопіса «Полымя», 1976, № 4).

Першае асобнае выданне рамана выйшла ў 1978 г. (пасля смерці аўтара). Завеі, снежань. Раман. З «Палескай хронікі». Мн., «Мастацкая літаратура».

Друкуецца па тэксту адзінага прыжыццёвага выдання рамана «Завеі, снежань» (часопіс «Полымя», 1976, №№ 3—5) з наступнымі праўкамі:

Стар. 137, радкі 29—30: Хвіліну было цягучае, звыклае ўжо маўчанне, замест: Хвіліну было цягучае, звыклае маўчанне. *(Машынапіс з праўкамі аўтара).*

Стар. 144, радкі 30—32: Бо ты ж, мабуць, араць, сеяць не вучаны! — паіранізаваў Дубадзел, замест: Бо ты ж, мабуць, араць, сеяць навучаны! — паіранізаваў Дубадзел. *(Машынапіс з праўкамі аўтара).*

Стар. 173, радкі 15—16: А тут як бы і не было той цвёрдасці, замест: А тут як бы не было той цвёрдасці. *(Машынапіс з праўкамі аўтара).*

Стар. 193, радкі 1—2: ...паказаць перавагі над аднаасобнымі гаспадаркамі, замест: ...паказаць перавагі над сялянскімі гаспадаркамі. *(Машынапіс з праўкамі аўтара).*

Стар. 198, радок 20: — На работу? — сустрэў яго стары Савул, замест: — На работ? — сустрэў яго стары Савул. *(Машынапіс з праўкамі аўтара).*

Крыніцамі для вызначэння дакладнага аўтарскага тэксту рамана «Завеі, снежань», акрамя вышэйназванай прыжыццёвай публікацыі рамана (часопіс «Полымя», 1976, №№ 3—5), з'яўляюцца архіўныя матэрыялы, якія захоўваюцца ў сям'і пісьменніка:

1) Няпоўны рукапіс рамана (каля 200 рукапісных адзінак).

Рукапіс складаецца з асобных раздзелаў, частак, сцэн, эпізодаў. Запісы зроблены на вялікіх стандартных лістах паперы, на лістах у клетку, на невялікіх кавалках паперы. У рукапісу ёсць асобныя лісты з запісной кніжкі чырвонага колеру, датаванай 1968—1969—1970 гг., у якой шмат старонак займаюць чарнавыя накіды да рамана «Завеі, снежань», а таксама накіды да наступных раманаў «Палескай хронікі».

---

У падрыхтоўцы тома да выдання прымала ўдзел Т. Строева.

Асобныя кавалкі рукапісу маюць сваю нумарацыю. Часам гэту нумарацыю аўтар мяняе. Аўтарскія праўкі сведчаць аб тым, што пісьменнік першапачатковую нумарацыю асобных кавалкаў выпраўляў на агульную нумарацыю ўсяго рукапісу.

У варыянтах рукапісу, што прыводзяцца ніжэй, ёсць сцэны, якія ў асноўны тэкст рамана не ўвайшлі. Напрыклад, сцэна прыезду Башлыкова ў вёску Курані, у час якой у размове з Дубадзелам Башлыкоў даведваецца, што Ганна была жонкай кулака Глушака Яўхіма.

Пры выбары варыянтаў рукапісу звычайна прыводзіцца апошні (верхні слой) рукапісу, аднак у асобных выпадках змяшчаецца першапачатковы варыянт, які ўяўляе найбольшую цікавасць. Многія старонкі рукапісу маюць аўтарскія заўвагі на палях. Напрыклад, першапачаткова пасля слоў «у галасы» (глядзі асноўны тэкст, стар. 7, радок 31) ішоў наступны абзац: «Ганну трывожыла не толькі гэта. Якімі ні добрымі былі Парасчына зычлівасць і гэты прытулак, Ганна не магла чуць сябе тут лёгка таму, што цяпер, калі можна было ўсё цвяроза абдумаць, разумела, што гэта не на век. Не век жа яна будзе паліць грубкі ды мыць падлогу; усё — пакуль суць ды справа. Абы перабыць пакуль».

Насупраць гэтага абзаца на палях аўтар напісаў: «Скараціць» і закрэсліў яго ў рукапісу.

Сцэна першай сустрэчы Ганны і Башлыкова ў школе. Заўвага аўтара на палях: «Тут думкі Башлыкова не даваць. Ці наогул трэба зняць. Тут — Ганна». Яшчэ адна паметка: «Яму было не да гэтага. Усхваляваны».

У адпаведнасці з гэтымі заўвагамі і была перапрацавана сцэна: у рукапісу падаюцца думкі Башлыкова аб Ганне і думкі Ганны аб ім, а ў асноўным тэксце — толькі думкі Ганны аб Башлыкове.

У рукапісу пасля слова «Падаў» (глядзі варыянты: стар. 39, радкі 4—9) ідуць накіды, якія потым аўтарам закрэслены:

«Ганна бачыла яго інакшым. Просты быў за сталом. Пасвятлелы. А можа ён Ганне здаваўся інакшым. Ці можа і тое, і другое разам. І зноў было як бы нешта між іх. Ці здавалася ёй...»

«Наліўка з вішань. Сок. Вада закрашаная». Ён павагаўся момант, але — згадзіўся. Жанчыны...

Ён ужо не здаваўся Ганне такім незразумелым, далёкім. Ён быў — зразумелым (блізкі). Тое, што ўзнікла, калі ён мыўся, цяпер цёпла хвалявала. І зноў нешта нібы жыло між іх. Змоўніцкае.

Калі Параска выйшла неяк, Ганна гэта пачула. Абодва маўчалі, і маўчанне было няпростае. Нацятае. «Нашто гэта? — думала яна».

«Прыходзіць Казач[энка], Дубадзел. Ён адразу — строгасць.

— Што там?

Збіраюцца. Аб'явілі. Устаў. Захадзіў.

Маўчанне. Зноў напружанасць. Чакалі.

Ганна выйшла, запаліла лямпу».

У рукапісу, дзе апісваецца, як Ганна прыбірае стол, а Башлыкоў застаецца з Параскай, на палях аўтарская паметка: «Трэ-

ба — суровей. Башл[ыкоў] суровы, недавольны, маўклівы. Стоены. Гэта хвалюе Ганну».

На палях рукапіснай старонкі, дзе падаецца сцэна наведвання Башлыковым жыхароў вёскі Курані, такі запіс:

«Вачыма Башл[ыкова] — гарадскога чалавека — усюды беднасць, забабоны, застой, затхласць. Пахі ў хаце чуе — нясвежа. Смурод. (У Мік[анора] — партрэт Леніна, газ...а, кніжак некалькі). Справы калгасныя дома».

«Башл[ыкоў] не з «багачоў», набачыўся ўсякага. Але апошнія гады быў свой пакой, звык да чысціні. Ды і ўвогуле ў горадзе... Куды ні пойдзеш... І ў Юравічах, у райкоме, у Савула. Тут востра, нядобра чуў: усё ж вёска — вёска. Беднасць, чарната, нядобры пах. Грэблівасць. Не любіў нечысціні».

Да сцэны, у якой Башлыкоў чытае газету «Правда», на палях: «Успамін[ае] спрэчку з Апейкам пра псіхалогію, пра «пады-ход». Як доказ у сваю карысць. У гэтай — сцэне — Башл[ыкоў] думае пра тое, што бачыў у Кур[анях], у Гл[інішчах]. Думае пра бюро, пра Гайліса. Пра «ворагаў» — Яўх[іма], Н[ібыто]-Ігн[ата].

Насупраць радкоў рукапісу, дзе падаюцца разважанні Башлыкова аб будучым спатканні з Ганнай, на палях наступныя запісы:

«Згадаў тое, што думаў удзень: адмовіцца, адрэзаць! Нельга так. Была няёмкасць, што адступае ад цвёрдага дзённага рашэння: адмовіцца, спыніцца. Разважаў стала, цешачы сябе».

«А што далей? Дзе ім сустрэцца? Адкінуць думанне пра гэта. Пра Курані, пра Гайліса. Можа — пазней? Пасля Сталіна? У першы выхадны дзень думае».

«Наступны дзень ён прачнуўся з думкай пра спатканне».

«За вакном — мітусня і сонца».

«Нялёгка і няпроста ў гэты дзень.
Бы знарок сышлося».

Да старонкі 216 асноўнага тэксту. На палях: «Пачула раптам [Ганна.— Т. Д.] розніцу між сабою і ім. Пачула: чужыя яны. Божа, што яна ўдумала. На што спадзявалася. Чаго прыйшла!»

«Даць: складанасць, супярэчлівасць пачуццяў. Здымаць саладжавасць».

У рукапісу першапачатковае імя Башлыкова — Мікалай — выпраўлена аўтарам на Аляксей; першапачатковае прозвішча Міканора — Качан — выпраўлена затым на Кулеш (у асноўным тэксце, канчаткова,— Глушак); першапачатковае імя жонкі Апейкі (па рукапісу) — Марыля. У рукапісу ў некаторых месцах імя Марыля выпраўлена на Вера (як у асноўным тэксце), а ў некаторых не выпраўлена.

2) Машынапіс рамана з праўкамі аўтара (354 стар.).

Машынапіс мае адзін слой правак, аднак на асобных старонках бачны два слаі — сінім і фіялетавым чарнілам.

У машынапісу першапачатковае імя камсамольца Казачэнкі — Васіль — выпраўлена на Барыс.

Некалькі разоў мяняецца ў машынапісу прозвішча Мікaнора. У першай частцы машынапісу прозвішча Мікaнора — Козусь, у другой — Кулеш. (На асобных старонках сустракаецца і прозвішча — Качан). Пасля праўкі, канчаткова — Глушак.

На апошняй старонцы машынапісу дата адсутнічае.

3) Машынапіс другога раздзела трэцяй часткі рамана «Завеі, снежань» (18 стар.).

Маецца таксама асобны рукапіс (13 стар.) раздзела. У машынапісу ўсяго рамана гэты раздзел як бы «ўстаўны» (папера, на якой ён напісаны, адрозніваецца ад паперы ўсяго машынапісу. Аўтар перапрацоўваў раздзел, аб чым сведчаць шматлікія праўкі).

4) Яшчэ адзін машынапіс (18 стар.) другога раздзела трэцяй часткі. На палях машынапісу алоўкам зроблены заўвагі (відаць, рэдактарскія), у адпаведнасці з якімі раздзел быў перапрацаваны аўтарам. Ёсць на палях машынапісу і аўтарскія паметкі.

Напрыклад, насупраць абзаца: «Большасць Апейкавых знаёмых ~ зрабіць добрае...» (глядзі змешчаныя ніжэй варыянты: стар. 184, радок 40) — на палях рэдактарская паметка: «Цудоўна!»

Да сказа: «У нас няма... рабскай прывязанасці селяніна да шматка зямлі... якая ёсць на Захадзе...» (глядзі стар. 190, радкі 15—17 асноўнага тэксту) на палях машынапісу аўтарская заўвага: «Гэта адзін сказ у арыгінале. (гл. т. 12, стар. 151)». На гэтай жа старонцы (радкі 32—34) насупраць слоў Энгельса «Мы будзем рабіць усё магчымае, каб яму было лягчэй жыць, каб аблегчыць яму пераход да таварыства...» — на палях яшчэ адна аўтарская паметка: «Даць словы Энгельса аб чуласці да селяніна». Гэтая аўтарская паметка падкрэслена (тым, хто рабіў заўвагі на машынапісу) і да яе зроблена заўвага: «Гэта трохі розныя рэчы».

Да слоў тэксту (глядзі стар. 192, радкі 22—24) «Тое, што яшчэ нядаўна здавалася цьмяным і выклікала трудныя развагі, сумненні, стала раптам простым, ясным» — на палях рэдактарская заўвага: «Не зусім ясным, калі некаторыя думкі здаваліся супярэчлівымі».

Словы рукапісу (глядзі варыянты: стар. 192, радок 28) «**колькі людзей зачароўвала, захапляла тады сталінская прастата і ўпэўненасць**» падкрэслены, да іх заўвага: «Гэта ўжо выхад у сённяшні дзень. Не ўласціва стылю рамана».

Аналітычная зверка машынапісу з асноўным тэкстам паказала, што словы гэтыя ў асноўны тэкст не ўвайшлі, значыць, Мележ улічыў заўвагі рэдактара. Да радкоў (глядзі асноўны тэкст, стар. 192, радкі 39—41, стар. 193, радкі 1—19): «Насуперак таму, што казаў Сталін, ~ Другая круцізна пачынаецца...» — рэдактарская заўвага на палях: «Сталін гаворыць аб калгасах, якія маюць машынна-трактарную базу. Хоць і аб пярвічных — таксама. А пра простую кааперацыю і яе перавагі гаварыў яшчэ і Маркс».

Да абзаца (глядзі варыянты: стар. 192, радок 36): «Як ні

трывожыла Апейку тое, як разгортваецца ў некаторых сваіх праявах жыццё, Сталін быў для многіх кіруючых работнікаў узорам і розуму і прынцыповасці, узорам, на які трэба раўняцца, па якому трэба было правяраць сябе. І Апейка звяраў тое, што бачыў і думаў, з гэтым узорам; вінавацячы за ўсё нядобрае, неразумнае не Сталіна, а тую жыццёвую нязладжанасць, якая дзейнічае, пэўна ж, наперакор сталінскаму жаданню» — рэдактарская заўвага на палях: «Сёгняшняе пераасэнсаванне ўжо».

Насупраць сказа (глядзі асноўны тэкст, стар. 193, радкі 20—22) «У галаву раптам зноў увайшло адзіўленне «лёгка! параўнаўча лёгка і быстра» — на палях заўвага рэдактара: «У Сталіна значная нагрузка на слова «параўнальна». А слова «головокружение» ён бярэ ў двукоссі».

* * *

Неапублікаваныя пры жыцці аўтара падрыхтоўчыя матэрыялы да цыкла раманаў «Палескай хронікі», змешчаныя ў II раздзеле дадзенага тома, друкуюцца па матэрыялах уласнага архіва І. Мележа, якія знаходзіцца ў сям'і пісьменніка.

Частка іх (стар. 243) пад назвай «Завеі, снежань. Накіды, планы, запісы няскончаных раздзелаў» друкавалася ў часопісе «Полымя», 1978, № 6 пад рэдакцыяй Л. Пятровай-Мележ і А. Адамовіча.

Выкарыстаны матэрыял можна ўмоўна раздзяліць на тры групы.

*Першая група:*

матэрыялы 2-х папак з наступнымі надпісамі на вокладцы:

«Папка № 2. Палеская хроніка. Раман 4» і

«Папка № 3. Палеская хроніка. Раман 5».

Матэрыялы папак — гэта рукапіс асобных раздзелаў, сцэн, ёсць і машынапісны тэкст.

Старонкі рукапісу стандартныя і нестандартныя (сустракаюцца ліcткі з запісных кніжак, запісы на вялікіх лістах у клетку і на маленькіх кавалачках паперы). Запісы зроблены фіялетавым, сінім, зялёным і чырвоным чарнілам.

Ёсць урыўкі значныя па колькасці старонак, а ёсць кароткія — некалькі сказаў, нават адзін сказ.

**Папка № 2 (64 адзінкі)**

Сярод матэрыялаў гэтай папкі на кавалку зялёнага кардону рукой Мележа напісана:

Студзеньскія завірухі (завеі).

Завея ў полі.

Турботы ў студзені.

(Як бачна, гэта варыянты назваў 3-га рамана «Палескай хронікі»).

Ніжэй ідуць аўтарскія запісы-планы:

Далей: 1) скончыць 2-ю частку;

2) перапісаць на машынцы напісанае ад рукі.

15.VI.1974.

Тут жа заўвага:

«У Куранях паўсяла — Глушакі (і Міканор, і Васіль) — па прозвішчу.

На лістку з блакнота такі запіс: 3 ці раман (Апейка).

1. Восеньскія клопаты
ці 2. Сталічныя навіны.
ці 3. За асакою бераг
ці 4. Куды ідуць дарогі
4-ты раман (Башлыкоў)
Час рашучасці.
Клопаты ў снежні.
Турботы перад новым годам.
Турботы на новы год.

* * *

Клопаты на сярэдзіне зімы
Клопаты раённага маштабу
Снежаньскія сумёты
Перакананне ў праўдзе

* * *

Далей ідуць шматлікія варыянты назваў будучых раманаў «Палескай хронікі».

Упартая зіма
Зацятая зіма
Зіма, якая пачала
Завеі ў полі
Снежны вецер над дарогаю
Зацятая завея (мяцеліца)
Агонь у снежным полі
Тры зімныя месяцы
Зацятыя дні зімы
Жыццё на пераломе
Час спадзяванняў
Час (вялікіх / цяжкіх) рашэнняў
Віхура. Зацятая віхура
Разламаная зіма (Разломная)
Снежань, студзень, люты
Чырвоны снег
З зімы на вясну
Час рашучасці
Водсвіт агню. Пал агню
Хуткасць. Нецярплівасць } (Закрэслена І. Мележам)
Навальніца над снегам }
Блізкі агонь (спачатку было: Навальніца над снежным полем)
Бліскавіца над снегам
Навальніца ў лютым
Турботы дзеля вясны
Зімовыя турботы
Вугал павароту
Нецярплівая зіма
Рашучая зіма
Прага вясны
Дні на вясну
Жыць нанава
Зіма без літасці
Прага дзейнасці

Спрэчка без літасці (спачатку было: Працяг спрэчкі)
Гурбы на дарозе
Гурбы
Ісці па гурбах...
Гурбы ў лютым
Студзеньскія гурбы
Гурбы той зімы
Спрэчка пра дарогу
Апантанасць
Перакананне ў праўдзе
Настрой часу. Воблік часу
Праўда часу
Глыбокі снег
Строгая зіма
Аблічча зімы
Перакальнасць у праўдзе
Перакальнасць у справядлівасці
(Клопаты ў пачатку дарогі)
Клопаты ў сярэдзіне зімы
Клопаты раённага маштабу
Снежаньскія завеі (сумёты)

Захоўваюцца ў папцы некалькі машынапісных лістоў з назвамі:

Палеская хроніка
Раманы — Людзі на балоце
Подых навальніцы
За асакой бераг
(Вялікія клопаты, паездка ў сталіцу — закрэслены І. Мележам.)

(Раздзелы Апейкі)[1].
Жыццё на пераломе
Праўда вясны
Куды ідуць дарогі (эпілог).

* * *

За асакой бераг.
або Думкі на асенніх дарогах
Асеннія клопаты
або Думкі і дарогі
Дарогі і думкі
Завеі ў полі
або Завеі і чалавек у полі
або Чалавек у полі
Людзі ў полі

* * *

Іван Мележ

Колер ранішняга снегу.
Раман з «Палескай хронікі»
1973—74

---

[1] Насупраць тэксту: Подых навальніцы ~ (Раздзелы Апейкі).— І. Мележам напісана: з рамана «Подых нав[альніцы]».

* * *

Зноў на вялікім машынапісным стандартным лісце назвы, некаторыя з іх падкрэслены аўтарам фіялетавым чарнілам, некаторыя дапісаны ім ад рукі.

Ранняе ворыва
Баразна і поле
Цяжкія рашэнні
Трывожнае поле
Жыць пачынаць нанава
З зімы на вясну
Пераломны час
Лінія пералому
За асакой бераг
Жыццё на пераломе. Зіма на пераломе
Зялёнае жыта
Час рашэнняў
Вялікія перамены
Канец і пачатак
Араты выходзіць у поле
Час спадзяванняў
Веснавое поле
Трывожная баразна
Асака і бераг
Зіма пад вясну
Куды ідуць дарогі (Усюды падкрэслена І. Мележам)

* * *

У матэрыялах да кнігі «Жыццёвыя клопаты» знойдзен рукапісны лісток з наступнымі запісамі пісьменніка:

«Раман «Чалавек у полі»
Раманы (?)
1. Асенні пейзаж з дарогаю.
2. Зімні пейзаж ■ завеяю
і чалавекам (людзьмі) у полі.
Назвы добрыя, але, здаецца, не для раманаў».

Папка № 3. (Каля 106 адзінак)

Два першыя лісты рукапісу — выпіскі з газеты «Звязда» (студзень 1930 г.), у якіх адлюстраваны факты, звязаныя з правядзеннем калектывізацыі ў краіне.

У папцы захоўваюцца два лісты з часопіса «Раман-газета» з тэкстам урыўка з рамана М. Аляксеева «Ивушка неплакучая» (кніга 2, 1975). Матэрыял дадзенага ўрыўка таксама датычыць падзей калектывізацыі. Ва ўрыўку ідзе размова пра першага сакратара райкома Знобіна. Відаць, гэты матэрыял цікавіў І. Мележа ў час працы над вобразам Башлыкова.

Астатні рукапісны матэрыял — старонкі да раманаў «Палескай хронікі».

У папцы захоўваюцца таксама 2 экземпляры машынапіснага тэксту ўрыўка «Міліцыянеры ішлі ўслед нядоўга. ~ Наставіўшы карабіны, жаўнеры падаліся проста да [яго]». Першы экземпляр — машынапіс з двума слаямі аўтарскіх правак. Праўкі зроб-

лены сінім і фіялетавым чарнілам. Машынапіс мае сваю нумарацыю. 135-II —192.

На першай старонцы машынапісу з праўкамі аўтара напісана, а затым закрэслена наступнае:

«Уцёк са ссылкі. (Гэта пра Яўхіма — Т. Д.). На селішчы. Зайшоў да аднаго, другога. Тайна. Не будзе нічога. Не вярнуць. «За мяжу трэба».

Другі экземпляр машынапісу — перадрук машынапісу з праўкамі аўтара з улікам правак. У гэтым машынапісу ёсць таксама асобныя аўтарскія праўкі пераважна стылістычнага характару (замена некаторых слоў, ёсць асобныя ўстаўленыя словы). У машынапісу маецца ліст з чатырма назвамі наступнага (відаць, 4-га) рамана «Палескай хронікі»:

Асака і бераг
Першыя вёсны
Зялёнае жыта
Ранняя вясна.

Тэкст урыўка «Міліцыянеры ішлі...» друкуецца па тэксту машынапісу з праўкамі аўтара.

*Другая група:*

матэрыялы з запісных кніжак пісьменніка з накідамі, планамі да «Палескай хронікі»:

а) запісная кніжка шэрага колеру, датаваная 1957, 1958, 1961 гг.;

б) запісная кніжка фіялетавага колеру, датаваная 1961—1966 гг.;

в) запісная кніжка чырвонага колеру, датаваная 1968—1969—1970 гг.

*Трэцяя група:*

асобныя накіды, сцэны да «Палескай хронікі», знойдзеныя ў архіве пісьменніка (рукапісныя старонкі).

Стар. 97 — Ты не быў пад Варшаваю? — ні то спытаў, ні то проста сказаў.— У дваццатым. Калі наступалі.— Варшаўская аперацыя 1920, аперацыя савецкіх войск Заходняга фронту ў савецка-польскую вайну 1920.

Стар. 118 ...вазок Башлыкова шурхнуў цераз масток над Тур'ёю.— Тур'я, рака, левы прыток Прыпяці.

*Т. М. ДАСАЕВА.*

## II

## ВАРЫЯНТЫ ЎРЫЎКАЎ РУКАПІСУ РАМАНА «ЗАВЕІ, СНЕЖАНЬ»

[I]

Стар. 7, радок 3, пасля: 1 // Марозы, што нахапіліся, ужо не адпускалі зямлю. Усё навокал стыла на холадзе; гайсаў, не ўціхаючы, сухі, жорсткі вецер. І днямі і начамі ішлі над зямлёй невысокія шэрыя хмары, і ад іх наваколле здавалася яшчэ хмурнейшым, і нібы больш было холаду.

Радок 4, замест: пацерушыў ~ перастаў. //, што пачаў быў церусіць упачатку, хутка спыніўся.

Радкі 5—16, замест: пазаганяў ~ вятры: // і бель значылася дзе-нідзе па шчылінах, па ямках. Яна не магла адолець панурую аднастайнасць, а яшчэ нібы пасільвала ўражанне яе. У аднастайнай шэрасці цьмяна паблісквалі адно зледзянелыя лужы ды восеньскія разлівы.

Радок 16, замест: на // На

Радкі 16—17, замест: нібы ~ прыпыніўся //, здавалася, спыніўся

Радок 17, замест: адышла // мінулася

Радок 19, пасля: снегу //, зімы, замест: парадзелыя, чорныя // голыя

Радкі 20—21, замест: разліваў ~ гумнаў // за сялом, чорныя хаты

Радок 21, замест: скамянелых // каменных

Радок 23, пасля: нежывая // ужо

Радок 24, замест: Далёка // Чаканнем жыла Ганна. Рана, доўга, замест: світанку // світання

Радок 25, замест: вобмацкам ~ каморку // выходзіла ў вузенькі пакойчык

Радок 26, замест: поцемкі // поцемку

Радок 26—27, замест: Лупіла ~ паліла // Распальвала

Радок 27, ў калідоры — адсутнічае.

Радок 28, пасля: класы, // яшчэ

Радок 29, пасля: настаўніцы //; замест: варыць // гатаваць

Радок 31, замест: паяўляліся // чуліся

Радкі 31—32, замест: патрэскваў ~ ганак. // на ганку трашчалі першыя крокі.

Радок 32, замест: гоман // галас

Радок 33, замест: мацнелі, множыліся // жвавеў і дужэў

Радок 34, замест: самую ~ радасць. // добра думалася.

Стар. 7, радкі 34—36, стар. 8, радкі 3—4, Яна ~ знаёмая.— адсутнічаюць.

Стар. 8, радок 6, замест: класах // пакоях, утульна — адсутнічае.

Радкі 6—7, для Парасні — адсутнічае.

Радкі 7—28, замест: Калі ~ кашлялі. // Яна ўжо без няёмкасці хадзіла ў калідоры сярод таўхатні дзяцей, ды і дзеці ўжо не дзівіліся ёй: звыклі. Яна ўжо багата каго пазнавала, ведала, як зваць.

Школа жыла і ўдзень і ўвечары. Увечары прыходзілі дарослыя — уціснуўшыся ў кажухах і світах між дзіцячых парт, разгортвалі газеты і кніжкі, спрачаліся голасна, іншы раз да мацюкоў, па сваіх арцельных справах, дымілі цыгаркамі так, што і ў калідоры дым лез хмараю.

Стар. 8, радкі 29—43, стар. 9, радкі 1—10, замест: Доўгі ~ штукарствы! // Худы, доўгі хлопец горбіўся і кашляў, гаварыў старэчым голасам, а Параска вельмі ж гулліва рагатала і спявала. Параска сказала Ганне, што будзе цікавы спектакль, і нават пагразілася, што ў другой пастаноўцы прыйдзецца і ёй выступіць.

Ганна пасмяялася з Параскаю. Усе гэтыя дні яна ўдавала сябе Парасцы вясёлаю і нібы бесклапотнаю.

Стар. 9, радок 11, 2— адсутнічае.

Радкі 12—20, замест: Ганна ~ вызвалення. // Але яна зусім не была такою, як паказвала. Неспакойныя блытаныя думкі ўвесь час кружыліся ў ёй, хмарылі добрае адчуванне вялікай перамены ў жыцці.

Радок 20, замест: цвёрда //ганарліва

Радок 21, ганарліва — адсутнічае.

Радок 23, замест: помніла // помнілася, жыло ў ёй.

Радок 24, заўсёды — адсутнічае.

Радкі 24—25, знарок — адсутнічае.

Радок 26, Парасчына ~ само — адсутнічаюць.

Радкі 26—27, нагадвала ~ сабе,— адсутнічаюць.

Радок 27, замест: тут усё ж // больш пэўна.

Радкі 28—29, замест: цвярозы ~ няспынна, // усё ж, яна ведала,

Радок 29, замест: гэта ~ надзейная // і тут вельмі ненадзейная.

Радкі 35—39, замест: З~ расло, // У гэтых яе меркаваннях галоўнай была турбота пра тое, пра што не ведаў яшчэ ніхто, але да чаго яна ўсё болей звыкала і што ўсё болей вызначала цяпер, як ёй быць, што рабіць далей: дзіця. Ніхто, акрамя яе адной, не ведаў, што ўсё

Стар. 9, радкі 39—41, стар. 10, радкі 1—10, замест: сказаўшы ~ Курані... // надта блізка, але не так ужо і далёка тое — раджаць. Дзе яна будзе гэта, тут, у школе? Як ёй, адной, і ім?..

Радок 11, замест: У ~ ўлазілі // З гэтым клопатам мяшаліся

Радок 12, замест: якое ~ нарадзілася // які яшчэ не нарадзіўся

Радкі 12—13, спатыкацца ~ Паявіцца,— адсутнічаюць.

Радкі 14—15, замест: Не ~ яна // У такія хвіліны цяжка было ўспамінаць

Радкі 15—16, замест: — не ~ Яўхіма. // не яго — Яўхімава.

Радок 17, замест: хваравітай прагі // хваравітага

Радок 18, цвяроза — адсутнічае.

Радкі 18—19, Васіль ~ разам,— адсутнічаюць.

Радок 20, замест: мабыць // пэўна, замест: нядобра ~ яе. // не вельмі прыхільна, глядзеў бы на яе за гэта.

[2]

Стар. 28, радкі 12—13, замест: хто ўступіў, // якія ўступілі

Радок 14, замест: скончыцца // разысціся

Радок 15, замест: чутку // чуткі

Радкі 16—17, замест: скончыўся. ~ яна // паламаўся; яна з ганка чула ў сяле.

Радок 18, замест: глядзела // бачыла порстка — адсутнічае.

Радок 19, замест: накладзеныя // нагружаныя

Радок 22, замест: і дарослымі — // і

Радок 23, сёння толькі — адсутнічае.

Радкі 23—32, Двор ~ праявы.— адсутнічаюць.

Радок 33, замест: Небагата ~ калідоры // Мала ў калідорах, пасля: класах // было

Стар. 28, радкі 34—38— стар. 32, радкі 1—35, замест: Ганна ~ сход // Параска зранку пабегла таксама ў сяло і вярнулася

перад самымі заняткамі, узрушаная, неспакойная; ледзь выпіла паўшклянкі малака, ухапіла школьны журнал, кніжку, сшыткі, знікла за дзвярыма.

Ёй было, відаць, не да заняткаў: Ганна заўважыла, што яна некалькі разоў вярталася ў свой пакой, хадзіла па ім, паглядвала ў акно. Яшчэ не скончыўся другі ўрок, як прыйшоў Васіль Казачэнка, сказаў, што нічога не выходзіць. Яна пастаяла, падумала і раптам падалася ў клас,— амаль адразу дзеці з шумам павалілі на ганак.

Хутка адзелася і з той жа рашучасцю выйшла ўслед за дзецьмі з Васілём.

Вярнулася яна пад вечар і не адна, а з Васілём, Чарнаштанам, Дубадзелам, Гайлісам. Чарнаштан ішоў наперадзе ціхі і вінаваты, Дубадзел з ваеннай сумкай праз плячо ступаў лёгка і нібы весела. Гайліс быў сухі і затоены. Яны зайшлі ў клас, зачыніліся.

Ганна чула там гоман, спрэчкі, але не стала прыслухоўвацца. Толькі, калі разышліся, запытала нібы жартам: «Пра што ето там сакрэтнічалі?» — і Параска сказала, што дамовіліся заўтра правесці сход.

Стар. 32, радкі 37—40, стар. 33, радкі 1—23, замест: І ~ гаворкі: // Заняткі і ў гэты дзень ішлі пагана. Дзяцей прыйшло зноў мала, ды і галава Параскі была занята іншымі думкамі. А тут, амаль зранку, паявіўся госць: дзядзька, Іван Анісімавіч з Юравіч. Параска выйшла яму насустрач, зайшла разам з ім.

Іван Анісімавіч не стаў распранацца. Як быў у паддзёўцы, сеў на табурэт. Адно зняў шапку, заблішчэў лысінаю.

Стар. 33, радкі 24—26, замест: — Нічога ~ паблажлівыя. // — От нарабілі вы клопату,— папракнуў. Але паблажліва, нібы жартам.

Радкі 27—28, замест: Параска ~ шкадавання. // адказала Параска.

Радкі 29—31, замест: Апейка ~ позірк, // Ён паківаў галавою, штосьці разважаючы.

Радок 31, замест: запытаў // Запытаў

Радок 32, тут — адсутнічае.

Радок 33, замест: канешне // мабыць

Радкі 33—34, не інакш — адсутнічае.

Радкі 35—37, замест: узняўся ~ развітацца? // устаў.

Радкі 38—41,— А ~ сказаў: — адсутнічаюць.

Радкі 42—43, замест: На двары ~ пакіраваў // Ён адразу паехаў

Стар. 34, радок 1, І сёння — адсутнічаюць. Пасля: Параска // і ў гэты дзень

Радок 2, замест: да часу // раней

Радкі 2—10, замест: Спехам ~ сціхлі. // Яна неўзабаве знікла. Адпусціла дзяцей і Галіна. Прыйшоў да яе кавалер — Пятро. Доўга пра нешта гаварылі за зачыненымі дзвярыма.

Радкі 11—12, замест: хтосьці пад'ехаў // пад'ехалі на калясцы

Радок 12, вярнуўся — адсутнічае.

Радок 13, замест: каня ~ хтосьці // на ганак узышоў, пасля: незнаёмы //. Замест: малады // Малады

Радкі 13—16, замест: чарнявы ~ ганак. // танканогі ў хромавых ботах, лёгкі ў хадзе.

Радкі 17—18, замест: для ~ пакой. // увайшоў.

Радкі 18—20, замест: прыбірае ~ знарок // не бачыла на ганку. Прыбірала стол. Глянула

Радкі 21—23, замест: кінуў ~ позірк. // ўпэўнена павёў позіркам.

Радкі 24—25,— Голас ~ хрыпласцю.— адсутнічаюць.

Радок 26, замест: — Буў. Зранку. // — Быў. Даўно.

Радкі 29—31, замест: адрывіста ~ недавер'е // цвёрда. Упэўнена, аж непрыемна было, прыглядваўся да яе.

Радок 32,— У ~ строгасць.— адсутнічаюць.

Радкі 33—34, замест: У ~ вы? // — А вы? — ускінулася ў ёй упартасць.

Радкі 36—38, замест: Ён ~ пытаннем. // Чалавек не зніякавеў, але памякчэў.

Радкі 38—39. Ён ~ недавер'е.— адсутнічаюць.

Стар. 34, радкі 41—43, стар. 35, радкі 1—3, замест: не ~ нават // здзівілася: прозвішча гэта яна чула не раз, яго пабойваліся, і яна думала, што Башлыкоў — высокі, плячысты, грозны. А тут, аказваецца — дробны, зялёны хлопец.

Стар. 35, радкі 4—8,— А ~ аб'явіў: — адсутнічаюць.

Радок 10, пасля: праседзіце //, абыякава адказала яна.

Стар. 35, радкі 11—42, стар. 36, радкі 1—17, замест: Але ~ незразумелы. // Гэта абыякавасць яе, тон: нібы дазваляла! — не спадабаліся яму. Але ён не паказаў гэтага: не да твару яму быць дробязлівым. Распрануўся, расправіў гімнасцёрку пад тугім поясам, упэўнена прайшоў па пакоі, стаў разглядаць вялікі партрэт. Міхась Чарот, паэт...

Усё ж у ім было нездавальненне. Дробязь, канешне, але было непрыемна на такую негасціннасць. З гэтым адчуваннем было іншае: незнаёмая, хоць не хацелася прызнавацца, уразіла хараством. З першага позірку. Таму яе абыякавасць, мабыць, і кранула.

Між іх было маўчанне. І ў гэтым маўчанні быў неспакой. Ён асабліва чуўся, што ў Башлыкова і без таго было даволі непрыемнага. Усё гэта хаджэнне па сяле было непрыемным. Глухата і нейкая насцярожанасць усіх. Непадатнасць, ад якой брыдкае адчуванне сваёй бяссільнасці.

І да ўсяго гэтая. Якая поўна гонару сваім хараством. Хто яна?..

Ён, аднак, адолеў гэтыя думкі: дробязь, стаў думаць пра сход, пра сваю прамову. Трэба неяк выбірацца з гэтай неспадзяванай ямы. Ён успомніў гаворкі з сялянамі, з Чарнаштанам, з Гайлісам: яны — вінаваты. Шляпы, апартуністы! Ён правільна сказаў Гайлісу! І няма чаго кіпець латышу... Эх, не ў час усё гэта.

Ён устаў, неспакойна захадзіў па пакоі.

Гарадскі. Адраву відаць. Не з нашых балотных. Прысланы, пэўне. Вядома, прысланы. Граматны не інакш, не нашага поля ягада... Штосьці далёкае і як бы раўнівае было ў гэтым — гарадскі. Раўнівае і дзіўна цікаўнае... Што ў ім такога, што яго так слухаюцца, што яго паставілі над цэлым, лічы, раёнам? Ну, Апейка, там зразумела, і гады, і сур'ёзнасць, а гэты ж малады, можна сказаць, хлопец! Канешне, ён цікавіць яе не таму, што ў ім штонебудзь ёй кінулася, а проста — што яна не разумее нічога тут. І што, можа, такіх яна бачыць блізка ўпершыню.

А наогул — пустое ўсё гэта. Не цікавіць яе нічога гэта. Яўхім, вось што цікавіць яе, ды тое, пра што ніхто яшчэ не ведае.

Дзе ж гэта Параска? Ці хоць бы Апейка: няхай бы сядзелі ўдваіх, гаварылі пра свае справы.

Сцямнела, але яна не запальвала лямпы. Берагла газу. То выходзіла на кухню, то вярталася, паказвала: ёй няма чаго сядзець склаўшы рукі.

Заходзячы, яна бачыла, што ён мерае і мерае пакой, неспакойны. Раз-пораз лавіла яго позіркі. Ён глядзеў непрыхільна. Ці, можа, здавалася так — ад таго, што думаў непрыемнае.

Чакала, што ён загаворыць, запытае нешта. Чакала яго пытання. Але ён маўчаў. Хадзіў па пакоі і думаў. (Пра што?)

[3]

Стар. 36, радкі 19—40, стар. 37, радкі 1—5, замест: Ішоў ~ на Башлыкова // Прыйшла Параска.

— Што ж вы!..— Знарок весела.— Ганна! Хіба так сустракаюць госця! Ды яшчэ такога.

Жвава развязала хустку, скінула паддзёўку, так-сяк прыгладзіла валасы. Да Башлыкова:

Радок 6, замест: пэўна // пэўне ж

Радкі 7—10, замест: ужо ~ няцвёрда // адказаў з годнасцю

Радкі 12—13, замест: — Кажыце! ~ супакоіла: // — Не кажыце!..— Да Ганны: Ну, чыста — артыстка! —

Радок 14, замест: Вясёлая ~ Ганну // Пацягнула

Радкі 15—16, замест: — зашаптала ~ Башлыкова! // Башлыкова самога!

Радок 17, замест: ж ~ слацца? // ён мне?

Радкі 18—27, замест: Шчыра ~ тлумачачы: — // — Эх, Ганна!..

— Без лішніх слоў: — Што ў цябе тут?..— Сама ў печ: — Ну і добра!— Як загад: — Усё, што можна...

Радкі 29—30,— параіла ~ печы.— адсутнічаюць.

Радкі 31—34, замест: Параска ~ растлумачыла: — // Надумала! Скажы яму толькі! Ён табе дасць!

Радок 35, Добрай ~ Завадской! — адсутнічаюць.

Радкі 36—41, замест— Глядзела ~ калгаса? // Уздыхнула.

— Што вы ў ім знайшлі! — Ганна: — Я думала, ён — бы знае што!

Стар. 37, радкі 42—43, стар. 38, радкі 1—2, замест: толькі ~ стол! // Загад: — Ну, давайма жыва вячэру!

Стар. 38, радок 3, сшыткі ~ стала — адсутнічаюць.

Радок 4, пасля: сцяны // адсунула

— Зараз! Уміг з Ганнаю! Замест: На стол — чысты настольнік. // Чысты настольнік на стол.

Радкі 5—6, замест: — Вось ~ ўжо // — Ганна! — Сама кінулася, схапіла: хлеб на стол. Прынесла нож.

Радок 8, Ён ~ яна — адсутнічаюць. Замест: спахапілася. // Спахапілася.

Радкі 9—10, замест: Папрасіла Башлыкова: // Башлыкову:

Радок 11, замест: Башлыкоў // Госць

Радкі 12—13, іх ~ шыі — адсутнічаюць.

Радок 13, замест: тазікам // вядром

Радкі 13—33, замест: зачэрпнула ~ незвычайнае. // нахіліла

карэц з вадой. Убачыла: рукі з чорнымі валаскамі. Кволыя віткі валасоў на шыі. Зусім юначай. Штосьці мяккае, жаллівае ў ёй раптам.

Было нешта вельмі дамашняе, свойскае. У тым, што схіліўся, ён выцягнуў далоні, яна лье. Штосьці як бы ўзнікла між іх.

Зычліва падала рушнік. Глянула, як выцірае твар, сустрэлася позіркам, схамянулася — адвярнулася. Штосьці ў позірку яго было незвычайнае.

— Дзякую,— сказаў ён.

Ей пачулася: незвычайна.

Радок 34,— уварвалася ~ Параска.— адсутнічаюць.

Радок 35, пасля: абнавіўся //.

Радкі 35—37,— ён ~ галасе.— адсутнічаюць.

Радок 39, пасля: Нядаўна //. стаіла сябе — адсутнічаюць.

Радкі 40—42, замест: Вярнуліся ~ калі // Селі за стол. Параска

Стар. 39, радкі 4—9, замест: — Тады ~ працягнуў // — Зараз збегаем! Тут у пограбе! — Параска ўстала. Устаў і ён.

Памог за колца падняць века ў кухні. Ён узяў з Ганніных рук талерку з капустай, з гуркамі. Падаў.

[4]

Стар. 41, радкі 27—41, стар. 42, радкі 1—5, замест: весела ~ Ганна. // адразу схавала амаль пустую бутэльку, памагла трохі Ганне.

Потым яна засталася з Башлыковым, а Ганна выйшла на кухню, мыць, выціраць посуд. Яна знарок ужо не паказвалася ў Парасчыным пакоі: чаго ёй тырчэць там з імі, у іх свае інтарэсы, свая гаворка. Яны-такі — чула, і не сумавалі па ёй: увесь час даходзіла ў кухню гаворка. У мерны, стрыманы гоман увесь час унізваўся звонкі, знарок упэўнены Парасчын галасок.

І ўвесь час, калі яна важдалася з посудам і чула гамонку з пакоя, вярэдзіў Ганну неспакой, нядобры, раўнівы.

От усё ўжо зроблена, і можна было б вярнуцца да іх, але яна не ішла. Не магла ісці. Нядобрая чужасць жыла, быццам аддзяляла сцяной. Там толькі і не хапала яе, кпліва думала яна.

Радок 6, замест: сядзець ~ мала // і так сядзець тут, пасля: было // мала

Радкі 7—8, замест: Не ~ пуста, // Яна пашкадавала,

Радок 9, на сход — адсутнічае.

Радок 11, замест: падалася // выйшла

Радкі 12—13, замест: знізу ~ палоска // в якіх вырэзваліся вясёлыя палоскі

Радок 13, замест: Стала // Пастаяла

Радкі 13—17, замест: У ~ прыйдзе. // Хаты цямнелі маўклівыя, агеньчыкі цьмяныя толькі дзе-нідзе значыліся ў шэрані ночы.

Радок 18, замест: густа ішоў // біў

Радок 20, замест:, ледзь відныя, // і рэдкія

Радкі 20—21, замест: Як бы ~ абяцаючы // Ноч нібы абяцала

Радок 22, паркалёвай — адсутнічае. Замест: Ганна // яна нейкі час

Радок 23, што ~ бакі — адсутнічаюць.

Радок 24, замест: Стрымліваючы // стрымліваючы, пасля: дрыжыкі //; потым не вытрымала, вярнулася ў пакой.

Радкі 24—26, што ~ шчасцю.— адсутнічаюць.
Стар. 42, радкі 27—43, стар. 43, радкі 1—6, «Трэба ж ~ сяло...— адсутнічаюць.
Стар. 43, радкі 7—31, «Як ~ значэння.— адсутнічаюць.
Радок 34, замест: — Ты ~ Параска. // — Глядзі тут. Ідзі забаў госця.
Радкі 35—36,— А от ~ хустцы.— адсутнічаюць.
Радок 36,— куды — адсутнічае.
Радок 37, замест: У сяло. // А я ў сяло. Пасля: сход //і чаго добрага — адсутнічаюць.
Радкі 38—42, У ~ цемру.— адсутнічаюць.
Стар. 43, радок 43, стар. 44, радкі 1—10, замест: Вярнуўшыся ~ урок. // З кухні чула: ходзіць. Зайшла на момант. Зноў невясёлы. І не заўважыў нібы. Не да яе.
Радкі 11—13, Потым ~ іншы.— адсутнічаюць.
Радок 13, звыкла — адсутнічае. Замест: лямпы // лямпу
Радок 14, ў класах — адсутнічае.
Радок 15, замест: пакоі // класе
Радок 17, замест: Ганна // Яна
Радок 19, замест: Ухапіла // Узяла, замест: хутка ~ калідор. // выйшла насустрач.
Радок 21, замест: пагразіў // папракнуў
Радок 22, замест: для каго // каму
Радкі 24—25,— павысіў ~ Дубадзел.— адсутнічаюць.
Радкі 25—26,— Хто ~ прыйдзе.— адсутнічаюць.
Радкі 27—32, замест: Адчыніліся ~ гаворка. // На галасы выйшаў Башлыкоў. Башлыкоў быў строгі.
Радок 33, пасля: Ну //,
Радкі 33—34, замест: ён ~ патрабавальна. // нецярпліва
Радкі 35—37, Дубадзел ~ Ганне — адсутнічае.
Радок 38, замест: амаль ~ ён. // далажыў Дубадзел.
Радкі 38—39, У ~ патрабавальнасць.— адсутнічаюць.
Радок 40, Усім.— адсутнічае. Пасля: разы //, памог Дубадзелу Барыс.
Стар. 44, радок 43, стар. 45, радкі 1—4,— Святла ~ кпліва.— адсутнічаюць.
Радок 5, замест: Не ~ класа, // Ганна
Радок 6, замест: пакоі // класе
Радкі 7—9, замест: пакояў ~ Расхінула // класамі пакінула расчыненымі. Расчынены былі і
Радкі 10—11, замест: Тады ~ Барыс // Астатнія
Радкі 12—20, замест: строгім ~ важка: // прамовіў загадна:
Стар. 45, радкі 23—43, стар. 46, радкі 1—3, замест: гаварыў ~ сыходзіцца //, відаць, звярнуўся да Парaскі:
— Не шкодзіла б і школьнікаў мабілізаваць — каб прасачылі за яўкай.
— Сказала ўсім. І Галіна Іванаўна гаварыла.
Башлыкоў быў цяпер зусім іншы, чым за сталом. Цяпер ён, мусіць, і быў тым, якім яго асабліва паважалі і пабойваліся.
Лёгкім і цвёрдым крокам ён прайшоў па абодвых пакоях, агледзеў парты, прачытаў плакаты,— усё моўчкі, стоены. Усе астатнія ішлі за ім, чакалі. Не сказаўшы нічога, ён так і вярнуўся ў Парасчын пакой, у які зайшлі і ўсе астатнія. Ганна засталася ў

класе. У гэты момант ёй проста неяк не верылася, што гэта з ім, з гэтым чалавекам, чула нібы блізкай.

Стар. 46, радкі 3—4, замест: Яна ~ з ім // На ганку пачалася нейкая гамонка,

Радок 4, за дзвярыма — адсутнічае. Пасля: валтузня; // яна

Радок 5, ахвотна — адсутнічае.

Радок 6, весела — адсутнічае.

Радок 7, цэлая — адсутнічае. Замест: чарада // чародка

Радкі 8—11, замест: Выткнуўшыся ~ загадала // На святле, перад Ганнай прыціхлі, яна сказала

Радок 12, пасля: праходзіць // :

Замест: яны ~ рушылі // паслухмяна пайшлі

Радок 14, замест: Акцівісты. // Актывісты.

Радок 15, сама сабе — адсутнічае.

Радок 16, ето — адсутнічае.

Радкі 16—17, замест: папракнула ~ малых. // жартам папракнула.

Радок 18, замест: Ёй адказаў // Адказаў

Радок 20, Сабіраюцца...— адсутнічае.

Радкі 23—30, замест: хутка ~ жанкі, // выйшла на кухню. А калі зазірнула зноў, у пакоі было некалькі жанок.

Радок 30, замест: сярод // Сярод. Пасля: іх // —

Радкі 30—31, Ганне ~ вочы — адсутнічаюць.

Радкі 31—32, глінішчанская швейка,— адсутнічаюць.

Радок 32, замест: дужая // сытая

Радкі 33—42, замест: гаворкі ~ старая, // казалі, што яна любога мужчыну паборае. Казалі, неяк каля млына, дзе сабраўся натоўп мужчын, счапілася яна з адным, з другім і ўсіх паклала. Дыміла папяросінай яшчэ адна хмурая жанчына, з якой Ганна нядаўна пазнаёмілася і

Радок 43, пасля: Эля //,

Стар. 47, радок 1, уціснуўшы ~ ногі,— адсутнічаюць.

Радок 4, замест: Амаль ~ паявіўся // Увайшоў

Радкі 5—6, Сцягнуўшы ~ паддзеўкі,— адсутнічаюць.

Радкі 9—10, замест: адгукнулася ~ Гечыха. // адгукнуліся жанкі.

Радок 11,— бадзёра ~ Апейка.— адсутнічаюць.

Радок 12, замест: от // ўсё ж

Радкі 14—17, замест: прайшоў ~ час // здароваўся з многімі за руку,

Радок 18, пасля: дзвярэй //, то смяяўся за ім, то чакаў.

Радкі 18—21, вузкі ~ няўсмешлівы.— адсутнічаюць.

Радок 22, замест: Яны неўзабаве // Абодвы

Радкі 22—25, замест: Амаль ~ суседні, // Неўзабаве зноў паявіліся. Барыс вельмі ж рухавы, рашучы. У пакоі ён

Радок 27, усе — адсутнічае.

Радок 29, замест: знарок // хтосьці

Радок 30, пасля: задзірыста //.

Хтосьці — адсутнічае, з жанчын — адсутнічае.

Радок 31, замест: Мы // А мы

Радок 34, замест: укалоў ~ гоман // сказаў

Радок 36, пасля: нешто //. Барыско — адсутнічае.

Радок 38, пасля: ў // нейкай

Радкі 39—40, Не ~ абурэннем: — адсутнічаюць.
Радок 41, пасля: людзі // — проста сорамно перад начальством! — папракнуў ён.
Радкі 42—43, замест: сабраў ~ вуліцу. // разаслаў дзяцей звацъ мужчын, потым і сам рушыў зноў у вёску.
Стар. 48, радкі 1—2, замест: Па ~ адным. // Потым яшчэ.
Радок 2, замест: кажухах // кажушках
Радкі 3—4, замест: уткнуўшыся ~ плечы, // дружна
Радок 5, пасля: жанок //, назад, за спіны пярэдніх — адсутнічаюць. Замест: клас // пакой
Радкі 6—15, замест: нервова ~ мацнела, // курылі, гаманілі, часам знарок смяяліся. Настрой быў, адчувала Ганна, насцярожаны, нядобры. Чаканне, зацятасць як бы поўніла класы, калідор. Яны чуліся
Радок 16, пасля: народу. // Дзе-нідзе ўжо чуліся нядобрыя словы. Але, можа, нават больш пра настрой гаварыла само нядобрае, упартае маўчанне. Пра гэта гаварыў і выгляд старшыні, можна сказаць — што былога калгаса — Чарнаштана, які маўкліва, ніякава і безнадзейна цісnуўся каля дзвярэй у калідоры.
Радок 17, асабліва — адсутнічае.
Радкі 18—19, замест: сядзелі ~ відавоку // стаялі на віду.
Радок 19, чырванатвары,— адсутнічае.
Радок 20, замест: мабыць, п'яны, // таварыскі, гаварлівы,
Радок 21, замест: з ~ макаўцы. // маўклівы.
Радкі 21—22, замест: Чырвоны ~ мабыць, // Гаварлівы нешта расказваў, непрыстойнае, відаць,
Радок 23, хоць нявесела,— адсутнічаюць.
Радкі 24—25, замест: сухі ~ глядзеў // Другі паглядваў
Радок 27, пасля: счапіцца. //
— Дзядзька Есіп! Раскажы, як генеральша штаны мыла! — прасіў нейкі малады голас.
Жанкі запярэчылі, але Есіп знарок загаварыў. Ганна бачыла: яго слухаюць мала, ды і то, каб адагнаць цягучае маўчанне. Але чаканне гэтае, зацятасць усё мацнелі.
Радок 28, замест: чацвёрты // 5.
Радок 30, замест: вельмі позна // блізка да поўначы
Радкі 30—31, Усё збіралі людзей.— адсутнічае.
Радок 31, замест: пакоях // класах. Пасля: і // ў гамонцы
Радок 32, замест: недавольныя // нездаволеныя
Радок 35, заклапочаны — адсутнічае.
Радок 36, замест: важны і вельмі // яшчэ больш, замест: За імі // Следам
Радкі 37—39, замест: спакойны ~ Чарнаштан. // Міканор, Апейка.
Стар. 49, радкі 1—2, замест: прабіваўся ~ гаманіў. // поўніў абодва класы, стаў прыціхаць.
Радкі 2—3, замест: На ~ нецярпліваe // Пачуліся
Радкі 5—6, замест: у цішыні. // ледзь прыціхла трохі.
Радок 7, з ~ паперы — адсутнічаюць. Замест: спіс // спісак
Радкі 8—10, замест: ўздымалі ~ павастрэла. // галасавалі, якое маўчанне было, адчувалася, што тая насцярожанасць, зацятасць яшчэ нібы памацнелі.
Радкі 10—11, замест: З ~ насцярожанасцю // Маўкліва
Радок 11, заходзілі ~ стол, — адсутнічаюць.

Радок 12, пасля: сядалі // за сталом
Радкі 12—13, замест: аднавяскоўцаў ~ прэзідыум, // выбраных
Радок 14, замест: недаверліва. // з насцярогай.
Радкі 15—16, замест: паглядзеў ~ пакой. // аб'явіў Барыс, гледзячы ў залу.
Радкі 17—18, замест: пракураным голасам // з залы
Радок 22, замест: адразу // зразу, замест: смех // смяшок
Радкі 28—29, засмучона ~ бяду — адсутнічаюць.

[5]

Стар. 98, радкі 18—21, замест: З ~ хаваць. // Было відна, што працягваць размову далей няма сэнсу. Башлыкоў, трымаючы руку ў кішэні, бегла слізгануў позіркам над Апейкам, унікаючы сустракацца вачыма. Стаяў за сталом, адасоблены, схаваны ў сабе. Цвёрды ў сваім палажэнні.
Радок 22, замест: Была // Хвіліну была
Радкі 23—26, замест: неахвотна ~ папярэдзіў: // здагадліва падняўся, прамовіў мірна: «Да пабачэння». Башлыкоў адказаў, нават вярнуў позірк з далёкай невядомасці. Але не схаваў нездавальнення. Не лічыў патрэбным хаваць.
Радок 27, пасля: сур'ёзна //,— сказаў каротка. Як папярэдзіў.
Радкі 28—29, Апейка ~ бычынаму: — адсутнічаюць.
Стар. 98, радкі 31—41, стар. 99, радкі 1—9, замест: І ~ зразумець. // Башлыкова зноў зачапіў тон яго: нібы звысака гаворыць.
І калі зачыніліся дзверы, стаяў яшчэ нейкі час. Стаяў з адчуваннем сваёй праўды. Ён трымаўся прынцыпова. І што б ні было, з прынцыповай пазіцыі не сступіць.
Ад таго, што вёў лінію правільна, было адчуванне дужасці сваёй. Яснасці. Перавагі над чалавекам, які многае не можа зразумець. Яшчэ было, можа быць, раздражненне: што той не разумее і не хоча зразумець. Не слухае.
Дазваляе сабе гаварыць так, нібы не сам, а ён, Башлыкоў, чагосьці не разумее...
Радок 10, Ён — адсутнічае. Замест: выйшаў // Выйшаў. Пасля: стала //, і ~ упэўнена — адсутнічаюць.
Радкі 11—12, замест: Але ~ ўсё ж // У цвёрдасць, у душэўную ўпэўненасць
Радок 14, замест: з ~ нагадала, // і адразу ўспомніў,
Радкі 16—19, замест: Непрыемна ~ новае: // Што там ні думай, Апейка крануў балючае:
Радок 19, замест: быццам // нібы, пасля: кагосьці //,
Радок 20, замест: Баіцца // баіцца
Радок 21, пачулася — адсутнічае. Пасля: Башлыкову // здалася
Радкі 21—22, замест: ў ~ ускінулася // яго зноў узяло
Радок 24, замест: сіліўся // стараўся
Радкі 25, з ~ раёне — адсутнічае.
Радкі 26—40, замест: Мала ~ Рэвалюцыю // Як той стараўся, што патрэбна не цвёрдая партыйная лінія, а чуласць, мяккасць. Не класавая барацьба, а лібэральнічанне. І падумаў задаволена: правільна адказаў яму. Знайшоў дакладныя словы: рэвалюцыю

Радок 40, рашуча,— адсутнічае. Пасля: або // —
Радок 41, да ~ перамогі — адсутнічаюць.
Радкі 42—43, і ~ пераконанасцю — адсутнічаюць.
Стар. 100, радок 1, пасля: І // —
Радкі 2—3, замест: І ~ выразнасці // — Не першы раз узнікла:
Радкі 4—5, замест: — Натуральна ~ практычнае: — // — І вывад пра Апейку: —
Радок 7, пасля: вывады //.
Радкі 7—9, з ~ ацэнку.— адсутнічаюць.
Радок 10, замест: апартунізм // лібералізм
Радкі 11—12, замест: яго ~ апартунізмам. // вывады.
Радкі 12—14, замест: Вельмі ~ акружком. // У абкоме далажыць. І — вывады...
Радок 15, замест: І наогул — дзейнічаць больш рашуча! // І — наогул больш дзейнічаць...
Радок 16, 3— адсутнічае.
Радкі 17—18, замест: пакіраваў // падышоў
Радкі 19—20, замест: У ~ узняўся // Перагледзеў некалькі папер, калі той увайшоў, рашуча падняўся
Стар. 100, радкі 22—41, стар 101, радкі 1—21, замест: Башлыкоў ~ гаспадарскае: // Коратка і выразна стаў расказваць пра ўчарашні сход, пра нездаровую абстаноўку, якая склалася ў Глінішчах, што была спроба сабаціраваць сход, на самім сходзе былі адкрытыя антыкалгасныя выступленні, асабліва падкулачніка па мянушцы Свердзел. Заявіў патрабавальна: трэба зараз жа паехаць, расследаваць на месцы. Прыняць цвёрдыя меры.
З Харчавым лёгка было гаварыць. Разумеў усё без лішніх слоў. Ледзь скончыў гаварыць яму, Харчаў падняўся:
Радкі 24—25, замест: з ~ кволасць, // моцна
Стар. 101, радкі 28—42— стар. 104, радкі 1—12, замест: чорненькім ~ далажыць. // маленькім чарнявым хлапчуком, але Башлыкоў прыняў яго з усёй пачцівасцю. Ён паважаў журналістаў. Гасцінна запрасіў, высветліў, калі той прыехаў, дзе і як уладзіўся, што цікавіць. Вельмі падрабязна асвятляў абстаноўку ў раёне. Нялёгка разварушваць векавечную спячку, вораг дзейнічае ўсімі метадамі. Шалёная класавая барацьба. Але наступленне ідзе. Поспехі, на яго думку, праўда, сціплыя.
Карэспандэнт запісваў у сшытак, і Башлыкоў гаварыў павольна, так, каб той упраўляўся. А калі называў лічбы, назвы, працэнты калектывізаваных гаспадарак, то нават паўтараў... двойчы, каб газетчык не памыліўся. Ён разумее, якая адказная справа газета.
Параіў, куды паехаць, да каго звярнуцца. Паабяцаў арганізаваць падводу, наказаць, каб дапамаглі там. У карэспандэнта было пісьмо: прыцясняюць селькора. Папрасіў: пакіньце пісьмо, заявіў — прымем самыя строгія меры.
Правёўшы журналіста, Башлыкоў вярнуўся, дастаў ліст паперы, стаў пісаць спісак. Паклікаў Мішу і загадаў сабраць на семнаццаць ноль-ноль кіраўнікоў устаноў і сакратароў партячэек на нараду аб шэфскай рабоце ў калгасах. Загадаў папярэдзіць, каб прыйшлі з матэрыяламі пра зробленае. Трэба будзе дакладваць.
Стар. 109, радкі 11—43, стар. 110, радкі 1—43, замест:
Пасля ~ цяпер. // Была нялёгкая гутарка з загадчыкам райа-

на. Башлыкову не падабаўся загадчык, немалады, няўпраўны настаўнік, што яўна аказаўся не на сваім месцы. Загадчыка даўно трэба было б замяніць, але Апейка, па нейкіх сваіх меркаваннях, заступаўся за яго, ды і замяніць не так-та проста было. Адукаваных, з арганізатарскім вопытам людзей не хапала і на больш важных участках.

З павагай да гадоў і да настаўніцкага звання Башлыкоў вымушан быў гаварыць вельмі стрымана. Ён, аднак, выказаў усё, што трэба было, з усёй прынцыповасцю: настаўнікі мала працуюць з жыхарамі вёсак, не вядуць растлумачальнай работы пра перавагі калгаснага ладу. Ухіляюцца ад барацьбы з кулацтвам. Неахвотна ўдзельнічаюць у калектывізацыі, амаль не прыцягваюць да яе дзяцей, каб дзеці ўплывалі на сваіх бацькоў, дабіваліся ад іх уступлення ў калгасы.

Настаўнік асцярожна спрабаваў спрачацца: з дзецьмі вядзем такую работу і дзеці гавораць з бацькамі, а бацькі звычайна не слухаюць дзяцей. Бачачы, як недавольна слухае яго пярэчанне Башлыкоў, загадчык ніякавеў. Канешне, трэба больш рабіць, памагаць. Будзем старацца...

Стар. 111, радкі 1—30, Яно ~ іншымі.— адсутнічаюць.

Радкі 31—38, Ці ~ Глінішчах.— адсутнічаюць.

Радок 39, замест: З ~ Башлыкоў // Нямала часу Башлыкоў аддаў падрыхтоўцы

Стар. 112, радкі 2—9, Калі ~ вачыма...— адсутнічаюць.

Радок 10, замест: было цёмна // вечарэла, шэфы — адсутнічае.

Стар. 112, радкі 35—43, стар. 113, радкі 1—8, замест: Адразу ~ добрае. // Набілася ў кабінеце поўна. Усе крэслы і лаўкі, прынесеныя з іншых пакояў, былі заняты, некалькі чалавек нават стаяла. Башлыкоў паклапаціўся, каб і ім далі месца. Зразу за гэтым ён засяродзіўся, даў усім зразумець, што гаворка будзе сур'ёзная. Усё ж у яго з'явілася адчуванне як бы палёгкі. Нібы прыйшло падмацаванне.

Стар. 113, радкі 9—43, стар 114, радкі 1—35, замест:

Ён ~ адказных. // Уважліва, патрабавальна слухаў, перапыняў пытаннямі, азначэннямі. Ён ні на момант не аслабляў пільнай увагі, цвёрдай рукой вёў належную лінію. Усімі спосабамі паказваў, як мала і як кепска зроблена такой важнай справы. Якія недаравальныя адносіны да яе. Ён не крывіў душою: быў вельмі нездаволены: шэфы памаглі мала.

Строгае было яго слова. Усе зразумелі, што за зрыў шэфскай работы літасці не будзе, як за зрыў важнейшай дзяржаўнай кампаніі. Ніякія адгаворкі не памогуць.

Ведаючы, як патрэбна падмацаваць агульныя патрабаванні канкрэтнымі задачамі, ён дакладна ўказаў, што неабходна зрабіць кожнай установе.

[6]

Стар. 117, радкі 34—39— стар. 123, радкі 1—9, замест: Башлыкоў ~ Дубадзела. // У адну з раніц сярэдзіны студзеня заехаў у Курані госць з Юравіч — Башлыкоў.

Было яшчэ даволі рана, калі ён ужо пад'ехаў на вазку да Міканоравай хаты. Быў ён не адзін, з вазка вылезлі яшчэ двое: адзін з іх, Дубадзел, адразу рашуча павёў госця ў хату. За абод-

вымі тупаў добра знаёмы куранёўцам малады, у гарадскім паліто, Ракіцкі — упаўнаважаны па калектывізацыі.

На ганку госці, асабліва першы, абабілі снег, атрэслі яго з каўняроў, з шапак. Абабіў і атрос таксама і Дубадзел, але абы-як, нібы рабіў непатрэбнае. Тады ўсе трое зніклі ў сенцах.

На вуліцы пасля іх яшчэ варушыўся возчык. Але і ён, патупаўшы, падкінуўшы сена, неўзабаве пакіраваў у хату. Гэта было ўсё, што ўхапілі цікаўныя суседзі.

Башлыкоў быў заклапочаны, сабраны. Прыезд яго ў Курані не быў яму чым-небудзь асаблівым, ён багата ездзіў па вёсках, але з гэтым у яго былі звязаны важныя клопаты. Клопаты, праўда, больш тычыліся ў цэлым сельсавета: сельсавет даволі-такі цягнуў назад раён па тэмпах. Сакратар райкома меў задачу разабрацца як мае быць у становішчы на месцы і ўжыць хуткія, неабходныя захады, як таго патрабавала абстаноўка ў раёне.

Натуральна, што маючы намер высветліць становішча, Башлыкоў рашыў зазірнуць у адну з далёкіх, глухіх вёсак, у якой, ён ведаў, таксама не ўсё было добра. Трэба аднак сказаць, што разам з гэтай, важнай і бясспрэчнай, была яшчэ адна прычына, якую ён амаль таіў і ад сябе: хацелася Башлыкову больш уведаць пра Ганну, якая, як на бяду, усё неадступна цікавіла яго. Пабачыць, дзе яна жыла.

Башлыкоў, вядома, дазволіў сабе такое таму, што гэта ніяк не замінала яго важнаму, справе.

Як ні быў заклапочаны, напружаны ў глыбіні душы Башлыкоў, ён не паказаў у хаце свайго сапраўднага стану. Увайшоўшы, ён адразу выказаў сябе гасцінным госцем. Павітаўшыся голасна, зычліва, як таго патрабаваў абавязак, ён на запрашэнне адразу распрануўся, сеў на лаўку каля стала. Двое другіх паселі на лаўцы з другога краю стала.

Ім пашанцавала: Міканор быў дома. Апрануты, ён збіраўся ўжо кудысьці ісці, але адразу, як толькі явіліся госці, змяніў свой намер, стаў гасцінным гаспадаром. Праўда, у ім можна было заўважыць трывожнасць, але ён не паказваў яе. Нешта падобнае, толькі з большай доляй цікаўнасці, было і ў старой Дамецісі і Дамеціка, аднак і яны павялі сябе згодна са звычаем.

Міканор запрасіў паснедаць, і Дамеціха з ухвалай і ахвотай падхапіла сына.

— Ды мы ўжо снедалі,— пачаў Башлыкоў, але мякка, няпэўна. Дамеціха, як і належала, запярэчыла:

— Калі тое було!

Дубадзел падтрымаў яе:

— Правільна, цётко. Дзень вялікі, трэба заправіцца!

Башлыкоў не меў ахвоты сядзець: хацелася адразу заняцца справай, але ведаў ужо абавязковае значэнне гасціннага звычаю. Ды і Дубадзел меў рацыю: дзень наперадзе.

Стар. 123, радкі 11—12, пацікавіўся ~ Башлыкоў — адсутнічаюць.

Радкі 12—13, замест: па ~ старой // Дамецісі

Радкі 16—17, замест: Зноў ~ глыбіні // Тая на момант прыхільна азірнулася, стала зноў завіхацца пры

Радок 19,— Аге! ~ насмешліва.— адсутнічаюць.

Радок 20, пасля: відаць //... дома!..— адсутнічае.

Радок 21, замест: трэба // пара, пасля: пэўна //, а?

Радок 22, замест: Казала ~ хоча. // Няма калі, кажа.
Радок 26, замест: хапае // усюды
Радкі 26—28, замест: Маці ~ жывое. // Аўдоцця перастала завіхацца.
Радок 28, замест: было // дак
Радок 30, замест: Глушак-сын // Міканор
Радкі 36—42, Старой ~ печы.— адсутнічаюць.
Стар. 124, радкі 1—9, замест: Башлыкоў ~ адказала: //
— Што гэта ў калгас туга ідуць? — перавёў Башлыкоў гаворку ў свой кірунак.
Старая папраўіла штосьці ў печы, ткнула вілку ў кут.
Радок 10, замест: Чаму? // Аге, чаму.
Радок 12, замест: бацька Глушака // Дамецік
Радок 14, пасля: баяцца //.
Радкі 14—17, прамовіла ~ ведае.— адсутнічаюць.
Радок 19, замест: Маці Міканора // Дамеціха, замест: маўчала // думала
Радок 24, замест: тое // то
— сказала ~ задуменна,— адсутнічаюць.
Радок 25, замест: Прымерыцца // Прымерыць.
Радкі 27—30,— Хто ~ папракнуў: — адсутнічаюць.
Радок 31, пасля: цётко! // — папракнуў Дубадзел.
Радок 32, замест: заявіў // сказаў; спакойна,— адсутнічае.
Радкі 33—34, замест: Па ~ сумнявацца. // Таварыш Сталін абдумаў усё як мае быць.
Радок 35, замест: пэўна // пэўне, замест: кіўнула // згадзілася
Радкі 35—37, Не ~ выказала: — адсутнічаюць.
Радок 38, пасля: галава е. // — Яна прапусціла, што яны гаварылі, выказала сваё:
Стар. 124, радкі 39—43, стар. 125, радкі 1—24,— У тым ~ пустота.— адсутнічаюць.
Радкі 25—26,— адважылася ~ размову,— адсутнічаюць.
Радок 27, пасля: раскулачванне //. Не наравіцца ето людзям. Баяцца.
Радкі 28—36, Башлыкоў ~ баяцца? — адсутнічаюць.
Радкі 37—38, замест: Усе?! ~ баяцца! // Етаго баяцца павінны толькі кулакі.
Радкі 39—40,— Правільно ~ Руды.— адсутнічаюць.
Радкі 41—42, замест: Дамеціха ~ заўпарцілася. // Яна нібы не чула слоў Міканора.
Стар. 126, радок 1, пасля: пагаворуваюць //.
Радкі 1—2,— загаварыла ~ зацята.— адсутнічаюць.
Радкі 4—5, замест: — Кажаце ~ зазлавала, // Міканор зусім устрывожыўся, абурыўся, хацеў спыніць, але яна наравіста
Радкі 9—12,— Правільно ~ усім: — адсутнічаюць.
Радкі 12—13, замест: Стрымала ~ цішэй: // Яна перавяла дыханне.
Радок 15, замест: Знайшлі брата! // Знайшла брата,— хацеў абрэзаць Міканор.
Радок 16, бацька — адсутнічае, сястра і брат — адсутнічаюць.
Радок 17, пасля: родныя // булі! — старая павысіла голас. Непахісная была.
Радкі 18—27,— Ето ~ Рудога.— адсутнічаюць.

Радкі 27—28,— Павяла ~ праўду: — адсутнічаюць.
Радок 31,— Сколькі ~ нічога! — адсутнічаюць.
Радкі 32—35, Міканор ~ разумеў яго: — адсутнічаюць.
Радок 35, Глушак,— адсутнічае, пасля: Міканор //, чырвоны, нецярплівы,
Радок 36, яго,— адсутнічае.
Радок 39, было ~ хваляванцца: — адсутнічаюць.
Радок 40, пасля: кім // :
Радкі 40—41, замест: Ды ~ цешыцца. // Брыдка было яшчэ, што Крывароты яўна зларадаваўся. Прыпомніць недзе, гад!
Радок 43, замест: лагодна // мякка
Стар. 127, радкі 13—15, Башлыкоў ~ дваіх.— адсутнічаюць.
Радкі 18—19, Сын ~ нецярпліва.— адсутнічаюць.
Радок 20, замест: узняўся ~ ісці. // сказаў, што пара збірацца.
Радкі 21—36, Час ~ чакаць.— адсутнічаюць.
Радок 37, Заўважыў: — адсутнічае. Глушак — адсутнічае. Пасля: позірк //, але
Радок 38, зрабіў — адсутнічае, замест: выгляд, што не бачыць // нібы не заўважаў
Радок 39, замест: Глушак // Міканор. Пасля: вытрываў // :
Радок 40, пасля: гад //.
Радкі 40—41,— сказаў ~ злосна: — адсутнічаюць.
Стар. 128, радок 1, замест: укалоў // дадаў
Радок 2, з рогатам — адсутнічае.
Радок 3, Башлыкоў ~ позірк.— адсутнічаюць.
Радок 4, замест: Чуў: Глушак // Башлыкоў бачыў:
Качан нядобрага — адсутнічае.
Радок 5—6, Так ~ чаго.— адсутнічаюць.
Радок 6, замест: Такое // Вядома, такое
Радкі 7—8, замест: Што ~ кулаком... // Ніколі б не падумаў, што існуе такая сувязь між Качаном і Глушаком. Сувязь, якую не чапляе ні адна анкета, якая не адзначаецца нідзе, але якая тым не менш існуе і можа ўплываць на справу.
Радкі 9—12, Было ~ вінаваты! — адсутнічаюць.
Радкі 13—14, Не ~ падумаў: — адсутнічаюць.
Радок 14, пасля: разбяры!» // мімаволі прайшло ў Башлыкове.
Радкі 15—16, замест: За ~ злое: // Яшчэ падумаў з прыкрасцю:
Радок 17, пасля: лішне! // Не ў адной вёсцы заўважыў:
Замест: Крывасмокаў // крывасмокаў
Радок 18, пасля: судзяць // строга
Радкі 18—23, I каб ~ пачнем? — адсутнічаць.
Радок 25, замест: Глушак ~ цяміў. // На вуліцы Качан спыніўся няўцямна.
Радок 26, пасля: супакоіцца //, таму разважаў кепска. Пасля: Схамянуўся //, параіў зайсці да суседа. Адзін з тых, што ўпіраецца — Дзяцел Васіль.
Радкі 26—29, нарэшце ~ Васіль.— адсутнічаюць.
Радок 34, замест: Глушак // Міканор
Радок 36, замест: жанчына // проста сказала жанчына. Замест: мелькам // Мелькам
Радок 37, замест: Глушака // тады ж
Стар. 129, радок 1, замест: Глушак // Міканор
Радок 3, замест: Глушак // Ён

Радкі 3—4, замест: зноў ~ яго, // глянула
Радок 4, увагай і — адсутнічаюць, пасля: цікавасцю // і клопатам...
Радкі 6—18, замест: У ~ парога. // Башлыкоў заўважыў: каля палацяў маладая з дзіцем на руках зіркала на яго, на іншых спадылба. Глядзела, нібы крычала: чаго прыперліся.
Радок 20, пасля: трывожыцца! // — заявіў ёй Дубадзел, але Башлыкоў перапыніў:
Радкі 21—23, Башлыкоў ~ старой: — адсутнічаюць.
Радок 25, замест: Дубадзел // Качан
Радок 26, на вайне — адсутнічае.
Радок 29, Глушаку — адсутнічае.
Радкі 32—35, Дзядзька ~ спадабаецца.— адсутнічаюць.
Стар. 129, радкі 36—43, стар. 130, радкі 1—9, замест: Старая ~ парога. // Яна выйшла пазваць. Пакуль не вярнулася, была непрыемная цішыня. Башлыкоў паспрабаваў загаварыць з маладою, але тая злосна адвярнулася.
Радкі 10—11, замест: з парога ~ Башлыкове. // паздароваўся з насцярожанасцю.
Радкі 12—15, У тым ~ насцярожанасць.— адсутнічаюць.
Радок 16, замест: Позірк, прыкмеціў, // Стаяў каля дзвярэй і позірк
Радкі 18—21, замест: Башлыкоў ~ калгас. // — От прыйшлі даведацца, чаго ў калгас ісці не хочаце? — растлумачыў мякка Башлыкоў.
Радок 22, Башлыкова — адсутнічае.
Стар. 130, радкі 31—42, стар. 131, радкі 1—9, Гаспадар ~ лютасцю. // Малады гаспадар нахмурыўся, адвёў вочы. Але тут як прарвала яго жонку.
Радкі 10—11, замест: закрычала ~ прарэзліва. // крыкнула яна раптам злосна.
Радок 16, замест: Твар ~ гневу. // Гаспадар нядобра, строга зірнуў на яе.
Радок 19, замест: цвёрдасць // смеласць. Замест: зірнула // глянула
Радкі 20—21, замест: недавольная ~ наважылася // яшчэ поўная лютасці і завагалася.
Радок 22, пасля: лезуць // лезуць!
Радок 23, замест: Цішэй ужо, // Але цішэй,
Радок 25, замест: ад палацяў. //, што ўвайшоў крыху пазней за гаспадара. Башлыкоў нават падумаў было, што гэта пабочны, з суседзяў.
Радкі 26—31, замест: бачыць ~ тут. // ведае значэнне сваёй асаблівай ролі.
Радок 38, замест: лад // манеру
Радок 40, тым часам,— адсутнічаюць.
Радок 42,— здзівіўся Башлыкоў.— адсутнічаюць.
Радок 43, замест: астанецца // застанецца
Стар. 132, радкі 1—21, замест: — Аге ~ бойкі. // Нейкі час ішла размова-развага пра тое, як гэта дабро, стаўшы агульным, застанецца сваім. Дзед удаваў выгляд, што не разумее ніяк гэтага, і Башлыкоў улавіў, што ён хітруе, проста адводзіць гаворку ў спакойны кірунак. Улагодзіць хоча.
Башлыкоў не даў сябе абвесці, павярнуўся да гаспадара.

Радок 23, замест: як бы з выклікам. // цвёрда малады гаспадар.

Стар. 132, радкі 24—42, стар. 133, радкі 1—9, замест: — Значыць ~ глухім... // Да яго нібы не дахадзіла, што гаварыў Башлыкоў, дадаваў Дубадзел, Качан. Нібы не разумеў такія простыя і такія пераканальныя — дзіця зразумела б — доказы. Бачачы ў адказ тупую глухату, Башлыкоў адчуў раздражненне. Трываць не мог ён гэту глухату, гэту дзікую ўпартасць.

Узяла злая нецярплівасць, каб трохі, сарваўся б: нагаварыў бы нястрымных, гнеўных і, разумеў, бескарысных слоў.

Стар. 133, радок 10, замест: У ~ варожасць. // Відаць, настрой яго ўлавіла маці, кінулася насустрач:

Радок 11, замест: проціў // супраць

Радкі 11—14, замест: азвалася ~ злістасціўіцца. // казала ветліва, зычліва, тоячы страх.

Радок 14, замест: трудно // трэба

Радкі 15—21, замест: Яна ~ іншыя. // — Колькі ж вам асмельвацца! — папракнуў Башлыкоў.

Павёў позіркам па хаце: цесна, бедна. Як ва ўсіх беднякоў, ні аднаго ложка. Палаці, на палацях — даматканае рыззё. Падлога, праўда, не земляная, але падгніла ўжо. Гнілыя вушакі ў акенцах. Сцены — відаць — пакрыўленыя, гнілаватыя таксама, па ўсіх прыкметах — век хаты нядоўгі. Як і ў іншых хатах, бруду даволі. Чаго тут шкадаваць, зразумець цяжка. А от шкадуюць. Не стаў больш гаварыць: разумеў — пустое, не дойдзе. Адчуў раптам: даўно, страшэнна надакучыла гаварыць адно і тое ж, без адказу.

Радкі 22—24, замест: з ~ грознае. // прамовіў напаследак, з пагрозай Дубадзел.

Башлыкоў заўважыў: Дубадзел не паддаваўся смутку, быў паранейшаму бадзёры.

Радок 25, вастрэй — адсутнічае.

Радок 26, замест: старанна // акуратна. Пасля: бярвеннямі //,

Радкі 27, замест: нераўня старой // не ў прыклад той

Радок 28, замест: з размахам // відная

Радок 29, замест: шырокія // прасторныя

Радок 32, пасля: зазначыў // з намёкам, пасля: Дубадзел //.

Радкі 32—33, перахапіўшы ~ Намякнуў: — адсутнічаюць.

Радок 34, замест: Глушак // Міканор

Радок 37, пасля: роздумам //, гаспадарліва: замест: І ~ нутром. // Да і сам ён кулацкай натуры.

Радкі 39—42, замест: Дубадзел ~ запярэчыў // —А трэба було б і даць! — упэўнена заявіў Дубадзел.

Стар. 134, радок 3, цяпер — адсутнічае.

Радкі 3—36, замест: Глушак ~ позіркам: // Башлыкову вельмі закарцела запытаць пра Ганну. З самага пачатку, як толькі прыехаў, карцела гэта. Увесь час помніў: яе вёска, і таму, што б ні рабіў, глядзеў на ўсё асабліва, як на яе свет. Тут яна хадзіла, бачыла гэта ўсё, жыла ўсім гэтым. Дзе хата яе? — мімаволі загадваў. Хацеў спытаць напрасткі, але стрымліваў сябе. Асабістае, няважнае. Зразумеюць няправільна чаго добрага.

Памагла непрыхільнасць да кволасці.

— Тут, здаецца, Ганна, што ў Глінішчах у школе, жыла? — нібы ўспомніў. Строга, па-дзелавому. Ён павінен усё ведаць. Выйшла вельмі натуральна.

— Тут,— спакойна, як на звычайнае, адказаў Качан.— Вунь там, з краю, хата яе.— Ён паказаў на край сяла.

— Ето — Глушак Ганна,— уламіўся, цвёрда паправіў яго Дубадзел.— Жонка Яўхіма Глушака. Сына Глушака Халімона.

Башлыкову ў момант стала горача. Нібы ўдарылі знянацку. Адзначыў мімаволі: Дубадзел сказаў з крайняй рэзкасцю і непрыхільнасцю.

Башлыкоў ледзь ухаваў няёмкасць. Момант непрыемнай цішыні перапыніў Качан:

— Кінула яна яго.— Ён сказаў з папрокам Дубадзелу і нібы заступаючыся за яе.

Башлыкоў адчуў у ім нібы падтрымку.

— Мало што кінула,— не саступіў Дубадзел.

Пачутага Башлыкову была даволі: дзве рэзкія заўвагі Дубадзела адбілі пакуль ахвоту дазнавацца больш пра Ганну. Але Качан не мог ведаць гэтага. Нічога не падазраючы, ён пакіраваў проста да Чарнушкаў. Рашыў пачынаць з краю, па парадку. А Чарнушкава хата была якраз першай.

— З етым, з Васілём любоў у яе була,— успомніў Качан, калі ішлі.— Як нежанатыя булі. Ды Васіль адвярнуўся. Багатую рашыў узяць. Разжыцца...

— Ён за кулачку, а яна — за кулака!

— Яна што — з бедных?..— Башлыкоў прамовіў знарок абыякава.

— Бядячка, з апошніх. Бацько ў яе — калі б не мачыха — даўно ўжэ ў калгасе буў бы...

— Сердабольны ты нешта, Качан! — папракнуў Дубадзел.

Адкуль было ведаць непахіснаму Дубадзелу, што сакратару райкома куды больш падабалася ў той час прыхільнасць Качана.

З супярэчлівым настроем ступіў Башлыкоў на двор Чарнушкаў — яе двор, яе ганак. Востра адзначаючы ўсё, што траплялася, ён раптам падумаў устрывожана: а што, калі, чаго добрага, яна тут акажацца. Зайшла са школы да сваіх. Як яна прыме яго паяўленне ў хаце бацькоў.

Ён не хацеў гэтага: яна, падобна было б, усё адно, што засцігла яго на нягодным. Зразумела яго слабасць.

Радок 36, замест: у // У

Стар. 134, радкі 37—40, стар. 135, радкі 1—4, замест: Як ~ прывітанне. // Ганны не было.

Жанчына стрымана адказала на прывітанне, востра і насцярожана ўгледзелася.

Стар. 135, радкі 5—6, замест: са ~ Глушак. // весела сказаў Кулеш.

Радкі 7—14, замест: — На ~ печы. // Дзядзька ўжо злазіў з печы. Худаваты таксама, павольны і спакойны; у паркалёвай сарочцы, зрэбных штанах, босы, яе бацька.

Радкі 18—19, замест: Нібы ~ закашляў // Закашляў сіпла

Радкі 20—26, Башлыкоў ~ яму.— адсутнічаюць.

Радок 27, замест: Сочачы за дзядзькам, // Башлыкоў мімаволі — адсутнічае.

Радкі 27—28, замест: Тая, глінішчанская // яна

Радок 29, замест: твару // постаці, пасля: блізкае, // ды ў разумным, пасля: вачэй //.

нелагодны, строгі, падобны на таго, якім быў на сходзе ў Глінішчах, але ўжо блізкі, быццам родны.

Радкі 20—21, кінула ~ дзверы,— адсутнічаюць.

Радок 22, замест: Рушыла проста // Падышла

Радкі 25—27, замест: Башлыкоў ~ спакойна: // Але Башлыкоў сказаў упарта і смела. Не просячы, а як бы распараджаючыся:

Радок 30, замест: Сказано. Зачынено. // Сказано: зачынено.

Радок 31, Твар ~ пацвярдзеў.— адсутнічаюць.

Радок 32, пасля: загадчык? // — спакойна і цвёрда, нібы для яго нічога не значыў загад жанчын, павялеў Башлыкоў.

Радок 35, замест: цвёрдасць // ўлада

Радкі 35—36, замест: таўстуха ~ дурная, // жанчына

Радок 37, замест: адступала // кранулася

Радкі 39—40, замест: весці ~ пакрочыў // далей весці спрэчку, рашуча рушыў

Стар. 228, радок 1, замест: доўгім ~ верхам, // сваім шкляным столікам,

Радок 2, замест: не ~ ветліва // непрыхільна. Пасля: але // адразу

Радок 6, пасля: афіцыянтку //.

Радкі 6—7, тая ~ людзьмі.— адсутнічаюць.

Радок 7, замест: яе // Яе.

Радкі 8—9, Афіцыянтка ~ буфета — адсутнічаюць.

Радок 11, замест: Ганне // Ганны, такой — адсутнічае.

Радок 12, пасля: прыкрасцю //.

што ~ хацела — адсутнічаюць.

Радок 13, замест: з ~ ласкі // пры такой сустрэчы, пасля: пекануўшы // якім-небудзь

Радок 14, замест: пагардай // выразам пагарды

Радок 16, замест: такі прывет. // так сустракаюць. Замест:, бачачы ўсё гэта, // ва ўсёй гэтай гісторыі

Радок 17, замест: адзначыць, // усцешыцца тым,

Радкі 17—18, ў ~ гісторыі — адсутнічаюць.

Радок 18, замест: годна // смела

Радок 20, замест: павагу // пашану, пасля: удзячнасць //, за тое, што, як ні кажы,

Радкі 20—21, можна сказаць,— адсутнічаюць.

Радкі 21—22, замест: жылі ~ гонар: // была і ўцеха, што

Радкі 22—23, замест: такі ~ крыўду. // спакойнай можна быць усюды.

Радок 25, замест: між іх // пасярэдзіне стала, замест: Ганнай // ёй

Радок 26, замест:, было ~ запаліла // гэтая ўзрушыла

Радок 30, пасля: стаўляючы // ім, замест: тоўстымі // тоненькімі

Радок 32, замест: глянуў // зірнуў

Радок 38, замест: Тады // Потым

Радок 41, гарамі,— адсутнічае.

Радкі 42—43, замест: Башлыкоў ~ прыхільна. // сказаў Башлыкоў.

Стар. 229, радкі 1—3, У ~ хваляваў.— адсутнічаюць.

Радкі 4—5, замест: невядомае // неразумелае

Радок 9, пасля: незвычайнасць //, хараство

Радкі 10—13, замест: адзначыла з павагаю ~ шклянцы. // але

яна стрымалася, выпіла як і належала, толькі палову. Палову пакінула ў шклянцы, для прыстойнасці.

Радок 14, замест: не паддалася. // ўтрымалася.

Радкі 14—15, замест: Паказала ~ аб // Так, як і трэба было, для

Радок 19, пасля: дапіла //, годнасць вытрымала.

Радкі 19—26, замест: Трымаліся ~ нічога. // Башлыкоў на людзях — паводзіў увесь час асабліва паважна, паважна — разумела ж усё — трымалася і яна.

Радок 27, амаль — адсутнічае.

Радок 29, замест: пэўна ж // пэўне ж

Радок 30, замест: харошае // дзівоснае, замест: блізкасці // еднасці

Радок 34, замест: прыгажэў // харашэў

Радок 35, пасля: Рабіўся // ўсё, пасля: прасцейшым, // усё

Радок 37, замест: сталі // стаялі

Радкі 38—39, замест: узяў ~ смехам: // прамовіў шчыра:

Радок 40, замест: Ты ведаеш // Ведаеш

Стар. 230, радкі 4—7, замест: упоцемку ~ вачэй. // на марозе было па-свойму лепш: не было таўстухі, не было пабочных, не трэба было таіцца.

Радок 8, снегам — адсутнічае.

Радок 13, пасля: Юравічы. // Яна ўся была поўна бесклапотнасцю і лёгкасцю, якія тут на волі яшчэ нібы пашырэлі.

Радкі 15—16, замест: нібы ~ вярэдзілі // было добра, але бесклапотнасць пачалі вярэдзіць

Радок 17, замест: няблізка // далёка, замест: дападуць // даедуць, замест: за поўнач // зусім позна

Радок 18, ў такі час — адсутнічаюць.

Радкі 19—20, Гэтая ~ век.— адсутнічаюць.

Радкі 20—21, замест: адразу, ~ стане // адразу ж, зацікавіцца

Радок 22, замест: цяперашні, позні // студзеньскі. Замест: Дзень, у які // Калі

Радкі 31—32, замест: Яна ~ паліто, // Яе трывожыла, калі ён

Радкі 32—34, замест: тачылася ~ шкадуе, // яна чула, як такое задуменне быццам аддаляе іх. Ён станавіўся раптам незразумелым і, здавалася, шкадаваў,

Радок 34, пасля: выдумаў // усё

Радок 37, замест: Наглядзеліся, наездзіліся // Паглядзелі

Радок 40, замест: завея // мяцеліца. Замест: Ганну // Яе

Радок 41, замест завея // мяцеліца

чамусьці яе — адсутнічае.

Радок 42, замест: Разганяла // Гнала, замест: завейнае, // такое

Радок 43, пасля: мяцельнае // круцілася, пасля: білася // і

Стар. 231, радок 1, замест: Праз ~ на // Дзіўна, гэтае мяцельнае ўсярэдзіне не замінала заўважыць

Радок 3, бліскалі,— адсутнічае.

Радок 4, замест:, не падобнае на яе. // і якое здавалася ёй непадобным на тое, што яна ведала.

Радок 5, замест: яе // іх

Радок 7, замест: дзякуючы ~ І // і

Радок 13, замест: схапіла // ухапіла

Радок 17, пасля: туды //, Адарваў позірк,— адсутнічаюць.
Радкі 17—18, замест: — выказала ~ мяцеліца... // Мяцеліца пачынаецца.
Радок 20, замест: пад'ехаў бліжэй // падвёў каня да варот
Радок 21, ад ~ сярэдзіны — адсутнічаюць.
Радок 23, Прытуліўшыся да яго,— адсутнічаюць.
Радок 24, замест: папрасіў // сказаў
Радкі 26—27, Цень ~ гаворка.— адсутнічаюць.
Радок 27, замест: Нарэшце // Пазней
Радок 28, недзе — адсутнічае. Замест: рыпнулі // адчыніліся
Радок 29, замест: У ~ акрэслілася // Паявілася
Радкі 31—33,— Хто ~ абыякава.— адсутнічаюць.
Радок 35, здалося ~ нерашучасцю.— адсутнічаюць.
Радок 37, замест: прыкмячала // заўважыла
Радкі 37—40, замест: Башлыкоў ~ клопат. // як няёмка адчувае сябе Башлыкоў ад таго, што трэба было прасіць. Як цяжка знаходзіць словы.
Радкі 40—41, замест: прыглядаецца ~ іх // задумаўся
Радок 42, замест: дак // да
Радок 43, пасля: выбраліся //...
Стар. 232, радок 1, пасля: выдумляла //:
Радок 4, прыгледзеўся і — адсутнічае.
Радок 5, ■ вазка — адсутнічаюць.
Радок 6, Разам ~ ганка.— адсутнічаюць.
Радок 7, абтрэсваў — адсутнічае.
Радок 10, немаладая ~ выгляду — адсутнічаюць.
Радкі 11—12, чарнявая ~ маці,— адсутнічаюць.
Радкі 14—15, трохі ~ бялявы,— адсутнічаюць.
Радок 19, да — адсутнічае.
Радок 22, замест: жанчына // гаспадыня
Радок 23, замест: бувае ~ збіваешся. // бывае, блукаеш.
Радок 25, замест: быў // чуў сябе няўпэўнена,
Радок 26, востра — адсутнічае.
Замест: нібы // відаць,
Радок 27, замест: пазнаў ~ госці. // пазнае яго.
Радок 28, пасля: Хоць // ён, замест: упэўнена // свойскім
Радкі 28—34, замест: адзначыла ~ Павяла // бачыла, што яму ўсё ж не вельмі лёгка. Таму яна адчула быццам абавязак памагчы яму, затуліць як можна сабою. Ад таго адразу падхапіла гаворку гаспадыні, з усёй знаходлівасцю, на якую толькі была здатна, павяла
Радкі 35—38, замест: як ~ неразумнасць: // з лепшага боку. Пачала ■ таго, як мяце, і як холадна робіцца, і як конь прытаміўся. Папракнула сябе, што
Радок 43, пасля: узялася // зычліва, пасля: сям'ю //: Перш — адсутнічае.
Стар. 233, радкі 1—22, замест: дзяўчынку ~ «чалавек»? // дзяўчынку, дзе вучыцца (пахваліла: пэўне, старатлівая!), пра хлопца, пра тых хто назіралі з печы. Башлыкоў то гаварыў з гаспадаром, цікавіўся, як жывецца, як з гаспадаркаю, то найбольш слухаў, дзівячыся, радаваўся Ганне: як яна вольна і добра вядзе гаворку. Гаспадар, як і Башлыкоў, быў не надта гаваркі, а жанчыны, дзякуючы спрыту Ганны, хутка разгаварыліся і так паразумелыя, нібы даўно ўжо былі знаёмыя.

Разы два гаспадыня назвала ёй Башлыкова: «ваш чалавек», а яна і на момант не зніякавела: быццам даўно-даўно звыкла да таго, што той чалавек яе. Толькі непрыкметна хітравата бліснула на Башлыкова, затаіўшы смех, але і выгляду не падала, неспадзяваная «жонка».

Радок 23, замест: Гаспадыня ~ гаворку, // Гамонячы з Ганнаю, гаспадыня раптам

Радок 24, замест: адразу // зразу

Радок 25, замест: прабачыць // прабачэння

Радок 26, пасля: няхай // прабачаць

не крыўдуюць — адсутнічаюць.

Радок 27, замест: адразу ~ аб'явіў, // хацеў спыніць яе, сказаў,

Радок 28, зусім нядаўна — адсутнічаюць

Радок 29, пасля: сталовую //,

Радкі 29—30, ведала закон,— адсутнічаюць.

Радкі 30—31, замест: міску ~ трохі // дзве шклянкі, гладыш малака, акраец

Радкі 31—32, замест: узяла ~ з'ела // выпіла малака

Радкі 32—34, замест: Паспытала ~ пачаставаўся // За ёй узяў пачастунак

Радок 37, замест: навіны стаілася. // неспадзеўкі збянтэжылася.

Радкі 39—43, Башлыкоў ~ стрымана: — адсутнічаюць.

Стар. 234, радкі 1—2, замест: Ён ~ стала. // заявіў ён паважна.

Радок 2, замест: вось // лепш, пасля: тут //... Замест: На// на. Пасля: лаўках //...

Радок 3, Гаспадыня ~ па-свойму — адсутнічаюць.

Радкі 4—5, замест: Башлыкова і Ганну // гаспадыня

Радкі 6—7, замест: заявіў ~ Што ж // Ён растлумачыў:

Радок 9,— не ~ жанчына.— адсутнічаюць.

Радок 10, пасля: кажуць // у нас

Радок 14, Пры цяпле.— адсутнічаюць.

Радкі 19—22, замест: Гаспадыня ~ Ганне: // — Не блізкая. Ето праўда.

Башлыкоў прамаўчаў.

Радок 23, пасля: вазьміце //, — параіла гаспадыня.

Радкі 24—25, Спрачацца ~ сказала: — адсутнічаюць.

Радкі 27—29, замест: Праз ~ ложак, // У адчыненых дзвярах можна было добра разгледзець вузенькую баковачку, ложак пры сцяне, засланы

Радок 30, пасля: коўдраю. // Башлыкоў з выглядам спакойным і стомленым увайшоў услед за Ганнаю, зачыніў дзверы.

Радкі 30—31, замест: ідучы ~ поўніцца, // пачула, як раптам моцна, трывожна стала

Радок 32, замест: чула // разумела

Радкі 32—38, замест: сочаць ~ зняла // не спяць, чуюць усё, стаяць нельга. Ведучы тую ролю, якую трэба было весці да канца, перамагаючы трывогу, стала здымаць

Радок 39, пасля: акна //, што марозна шарэла ўпоцемку.

Радкі 39—40, Мелькам ~ святла. — адсутнічаюць.

Стар. 234, радок 43, стар. 235, радкі 1—3, замест: Без ~ Спачатку // Ён шаргаў па падлозе ботамі, здымаў іх.

Стар. 235, радок 3, замест: адзін // Адзін
Радок 7, замест: Можа // Ці, можа,
Радок 8, «Муж і жонка!» — адсутнічаюць.
Радок 10, пасля: зарагатаць. // Муж і жонка!
Радок 13, пасля: Ганна // раптам
Радок 14, плячо — адсутнічае.
Радок 16, замест: параіла шэптам // шапнула
Радок 18, замест: адхіліла // адхінулася
Радкі 21—32, Ён ~ — не.— адсутнічаюць.
Радкі 33—43, замест: Ен ~ заснуць. // Ён не стаў дамагацца.
Адвярнуўся, ляжаў моўчкі, глядзеў. Штосьці думаў сваё, зноў нібы далекаваты, адасоблены. Яна прыкінулася, што заснула, а заснуць доўга не магла. Была ўзрушана незвычайнасцю ўсяго, няяснай трывожнасцю і шчасцем.
Стар. 236, радкі 4—6, замест: Ад ~ учарашняе. // Прачнулася з лёгкасцю, шчасцем, але толькі пачала цяміць, кальнуў неспакой. Хто гэта? Яўхім?! Дзе яна? Тады ўжо ўспомніла ўчарашняе, зразумела. «Муж і жонка»...
Радок 8, замест: клопатна // ціха
Радкі 10—11, надзеў гімнасцёрку,— адсутнічаюць.
Радок 11, адзеўся — адсутнічае.
Радок 20, сабрана — адсутнічае. Замест: няблізкая // далёкая
Радкі 23—28, Пытанне ~ ім.— адсутнічаюць.
Радок 25, замест: знарок ~ адказала. // заспяшалася Ганна.
Радок 32, падобна,— адсутнічае. Пасля: больш // задуменны,
Радок 33, замест: выдаваў ~ строгім. // быў цвёрды, строгі.
Радкі 34—35, замест: Як бы // Нібы
Радкі 36—42, замест: З ~ заплаціць! // Яна падзякавала гаспадыні, гаспадару, што от далі прытулак, выратавалі, можна сказаць, выйшла на двор. Пакінула Башлыкова аднаго, разлічыцца.
Стар. 237, радок 1, замест: На двары было // Было на дворы
Радок 3, замест: мабыць // здаецца
Радкі 4—6, Не дай ~ насцярожыцца...— адсутнічаюць.
Радок 8, у ~ шэрані — адсутнічаюць.
Радок 9, замест: яшчэ // апошнія
Радкі 9—11, замест: трохі ~ аднастайнай // як, спусціўшыся па схіле, апынулася на цёмнай
Радкі 14—15, замест: Снег ~ радасці // Але лёгкасці, бесклапотнасці
Радок 18, замест: чаго // куды
Радок 19, замест: другім берагам // па другім беразе. Замест: развіднелася // развіднялася
Радок 24, Сказала:— адсутнічае. Замест: пойдзе // Пойдзе
Радок 27, Ён ~ каня.— адсутнічаюць.
Радок 28, замест: Яна // Але
Радкі 28—30, замест: Сядзела ~ Асмелілася // Зірнуўшы смела, адважылася
Радок 31, Што будзе, тое будзе! — адсутнічаюць.
Радок 32, пасля: ведае //: што будзе — тое будзе!
Радок 33, замест: здзівіўся // заўважыў
Радок 35,— Вінавата? — адсутнічае.
Радок 36,— Вінавата. Вельмі.— адсутнічаюць.

Радок 37,— Што? — адсутнічае.
Радок 39, ён — адсутнічае.
Радок 40, замест: Глушак // Глушакоў
Радок 42, вачавідкі — адсутнічае.
Радок 42, пасля: пашарэў //,
Радок 43, Твар ~ Башлыкоў — адсутнічаюць
Стар. 238, радок 1, замест: Як бы // Быццам
Радок 2, зараз — адсутнічае.
Радкі 4—5, Пытаў ~ адказала: — адсутнічаюць.
Радкі 7—10, замест: Намерылася ~ парыўна // Момант глядзела на яго, тады штосьці як бы ўскінулася ў ёй. Не думаючы ні пра што,
Радок 10, пасля: пацалавала //,
Радок 11, замест: Аддала // аддаючы, здалося,— адсутнічае.
Радок 12, замест: От усе! // Бывай!
Радок 13, адарвалася.— адсутнічае. Замест: Пайшла // пайшла

## III

## ВАРЫЯНТЫ МАШЫНАПІСУ З ПРАЎКАМІ АЎТАРА

Стар. 16, радок 19, Раздзел другі — адсутнічае.
Радок 20, замест 1 // 4
Радок 22, замест: Дужы // Драбнаваты
Стар. 18, радок 7, замест: наравішся // падабаешся
Радок 25, замест: стрывала ~ пагардай // адрэзала
Стар. 21, радок 27, замест: нікога // нікого
Стар. 22, радкі 1—42— стар. 28, радкі 1—6, 2.
Тады ~ «махнуць»...— адсутнічаюць.
Стар. 28, радок 7, замест: трэці // другі
Стар. 30, Радок 6, замест: Барыс // Васіль
Стар. 31, радок 28, замест: знарок строга // з годнасцю
Стар. 32, радок 3, яны — адсутнічае.
Радкі 13—14, замест: стрымана ~ пагрозай // пагрозна
Радок 21, замест: Дзіва! // Дзіва што!
Радкі 32—33, белая ~ валасамі,— адсутнічаюць.
Радок 35, замест: заўтра будзе // дамовімся заўтра правесці
Стар. 35, радок 15, замест: калектывы рабіць // на калектывізацыю
Радок 17, Канешне.— адсутнічае.
Радок 30, замест: гарадскі // асаблівы
Радок 33, Не ~ малады...— адсутнічае.
Стар. 36, радок 5, пасля: справы. // Цямнела, але Ганна не запальвала лямпы. Берагла газу.
Стар. 36, радок 36, Ганначка,— адсутнічае.
Стар. 37, радок 4, гасціннай — адсутнічае.
Радок 5, на Башлыкова — адсутнічае.
Радок 10, замест: няцвёрда // з годнасцю
Радкі 23—24, духавіты, нецярплівы — адсутнічаюць.
Радкі 24—25, Голасна ~ прамовіла: — адсутнічаюць.

Радкі 27, шэптам, па-змоўніцку — адсутнічаюць.
Радок 29, пошапкі ж — адсутнічае.
Радкі 32—33, замест: стрымліваючы ~ падахвоціла: // насмешліва параіла
Стар. 38, радок 11, пасля: Расшпіліў // бляшчаныя
Радок 22, няпрошана — адсутнічае.
Радок 24, жменькай — адсутнічае.
Радок 26, рабіў ~ моўчкі — адсутнічаюць.
Радкі 26—27, замест: здалося ёй // адчула яна
Радкі 35—36, ён ~ але — адсутнічаюць.
Радок 39, замест: стаіла // стрымала
Стар. 39, радкі 11—12, з усяе сілы — адсутнічаюць.
Радкі 16—17, з ~ выглядам — адсутнічаюць.
Радкі 19—20, От ~ гаворкі — адсутнічаюць.
Радкі 24—25, замест: не ~ госця, // і стрымана
Радкі 27—28, стрымана — адсутнічае.
Радкі 34—35, ў ~ Параскі — адсутнічаюць.
Стар. 40, радок 41, пасля: Ён // усё ж
Радок 4, хоць і неахвотна,— адсутнічаюць.
Радок 5, замест: здаваўся // быў
Радок 25, замест: — Мало ~ нелагодна // — Адкуль вам ведаць?! — рэзка
Стар. 42, радок 7, пасля: яна // ад душы
Радкі 7—8, ў ~ што — адсутнічаюць.
Радок 23, што ~ бакі — адсутнічаюць.
Радок 25, замест: ціхнуць //ціхне, адзінота,— адсутнічае.
Стар. 43, радок 15, замест: Нібы ~ зноў, // Што ён за чалавек?
Радок 18, пасля: Пасядзеўшы // нямала
Стар. 44, радок 1, замест: сагрэцца // стрымаць дрыжыкаў. Намёрзлася.
Радок 33, Дубадзела — адсутнічае.
Стар. 45, радок 9, пасля: Расхінула // абедзве
Радок 15, замест: Ганна цікаўна // Вярнуўшыся,
Радок 20, замест: важна // загадна
Радок 30, пасля: і // ўсё
Радкі 32—33, замест: Не тое ~ мабілізавалі // Не шкодзіла б і школьнікаў мабілізаваць.
Стар. 46, радок 27, замест: што адчувае, // гэты
Радкі 30—31, Ганне ~ вочы — адсутнічаюць.
Радкі 41—42, замест: злая ~ вядзьмарка, // хмурная
Стар. 47, радок 18, замест: вузкі // строгі
Стар. 48, радок 7, пасля: папяросамі //, глуха гаманілі. Настрой быў, адчувала Ганна, насцярожаны, нядобры. Зацятае чаканне поўніла клас.
Радок 27, пасля: счапіцца. // Дзядзька Есіп! Раскажы, як генеральша штаны мыла! — прасіў гарэзны малады голас.
Жанкі запярэчылі, але Есіп знарок загаварыў. Ганна бачыла: яго слухаюць мала, ды і тыя, каб адцягнуць цягучае чаканне.
Радок 30, замест: вельмі позна // блізка да поўначы
Радок 38, сціплы Міканор — адсутнічаюць.
Радок 39, замест: Чарнаштан // Міканор
Стар. 49, радок 40, пасля: Дубадзел // рашуча
Радок 43, пасля: адважны. // Нібы перад смяротнай бойкай.

Стар. 50, радкі 1—2, замест: — Граждане ~ калхознікі, //
— Грамадзяне, а таксама грамадзянкі вёскі Курані! І асабліва — калгаснікі,

Радок 2, пасля: сваю // былую

Радок 3, замест: калхоза // калгаса, пасля: «Рассвет!» — // Ён гаварыў хутка.

Радок 5, зашмальцаваны картовы — адсутнічаюць. Замест: пінжачок // гімнасцёрку

Радок 9, пасля: правільно // і канкрэтно

Стар. 51, радок 5, цыгаркі — адсутнічае.

Радок 20, 2— адсутнічае.

Стар. 52, радок 9, замест: адзначыла // заўважыла

Радок 20, не ~ Вінаваты — адсутнічаюць.

Радкі 23—25, Ён ~ чатыры — адсутнічаюць.

Радкі 25—27, з ~ Вот! // Чатыры-пяць цэнтнераў жыта з гектар! Сто трыццаць пудоў картошкі! —

Радок 27,— заявіў ~ Гайліс — адсутнічае.

Радок 29, пасля: пакой, // нібы. Усе маўчалі,— адсутнічаюць.

Радок 30, Так ~ што — адсутнічаюць.

Радкі 34—35, Многа ~ непахісна: — адсутнічаюць.

Радок 37, пасля: работа... // Такая работа была ў калгасе «Рассвет».

Радок 38, замест: горача ~ добрая // непахісна: — Трэба цвёрдая

Радок 39, замест: працаваць — як // работаць! Добра работаць. Як

Радок 40, замест: нібы // як, замест: трэба // — Трэба

Стар. 53, радок 9, замест: нікога // нікого

Радок 16, 3— адсутнічае.

Радок 31, замест: Глінішчы // Глінішча

Стар. 54, радок 5, замест: калдобіны // цяжкасці, бывае,— адсутнічае. Замест: нягладка // нялёгка

Радок 12, замест: прыгнечвае // трывожыць

Радкі 38—39, замест: людзі ~ вёсцы! // недалёкія людзі, карацей кажучы — дурні!

Радкі 40—41, замест: — у голасе ~ брат!.. // павінен ведаць усё!

Радок 42, пасля: старога! // Павінен умець адказаць на любое пытанне!

Стар. 55, радок 1, на стале ~ сшыткаў,— адсутнічаюць.

Радок 2, замест: школе // класе, а і выходзіць

Радкі 2—3, Адкладваю ~ выходжу — адсутнічаюць.

Радок 3, пасля: што // там

Радок 4, пасля: І што // там, пасля: я // і раней глядзела,

Радкі 6—8,— Ганну ~ падступіцца.— адсутнічаюць.

Радкі 10—11, замест: хадзіла ~ старалася! // разумее ўсё!

Радок 41, было ~ Ганне,— адсутнічаюць.

Стар. 56, радок 1, 4— адсутнічае.

Стар. 57, радок 7, пасля: ужэ // і

Радок 13, замест: А ~ разам. // Толькі

Радок 14, праўда — адсутнічае.
Замест: часам // іншы раз

Радкі 24—25, Ён ~ думкамі.— адсутнічаюць.

Радкі 30—31, Трэба высніць: — адсутнічае.

Радкі 32—33, замест: Я згодзен ~ дысцыпліну.— адсутнічаюць.
Стар. 57, радкі 36—43, стар. 58, радкі 1—7, замест: Мы ~ хацеў бы // Вялікая віна наша: гэта і прывяло да таго, што сарвалася важная справа... Усё ж я хачу сказаць, што з гэтай няўдачы мы зробім вывады. Мы паправілі памылкі, не будзем дапускаць іх! Але я хацеў бы і вам
Радок 12, замест Неспакойны // Дружны
Радок 35, 5— адсутнічае.
Стар. 59, радкі 6—33, замест: Ён ~ радах // — Таварышы, дазвольце мне, перш за ўсё,— загаварыў ён роўным, выразным голасам,— ахарактарызаваць абстаноўку, у якой жыве наша краіна... Абстаноўку гэту вызначаюць дзве важныя часткі жыцця СССР: міжнароднае становішча і ўнутранае становішча. Перш за ўсё дазвольце спыніцца на міжнародным становішчы... Чым яно характарызуецца? Башлыкоў вытрымаў паўзу: пачаў адказваць. Галоўная адзнака міжнароднага становішча СССР у тым, што ён — адна шостая частка зямлі — з усіх бакоў акружаны капіталістычнымі дзяржавамі, якія вядуць супраць нас раз'юшаную барацьбу... Башлыкоў стаў расказваць пра разнастайныя шкоды, якія арганізоўваюць капіталістычныя дзяржавы і іх кіраўнікі для таго, каб сарваць будаўніцтва сацыялізма ў СССР, каб падарваць яго магутнасць і ў канечным выніку знішчыць у сваёй звярынай нянавісці да Савецкага Саюза, бачачы, што Савецкі Саюз не толькі не гіне, а ўсё ўзмацняецца, яны ўпарта выношваюць планы крывавай вайны супраць нас.
Вайна ўвесь час стаіць каля дзяржаўнай граніцы нашага Савецкага Саюза. Вораг гатоў выкарыстаць любую нашу слабасць, любы зручны момант.
Радкі 34—31, Яго ~ другі — адсутнічаюць.
Радок 42, пасля: ён // складна, прыгожа гаворыць,
Стар. 60, радкі 3—7, замест: Ён ~ краіне. // — Цяпер давайце паглядзім, што адбываецца ў нас, у СССР. Якое ў Савецкім Саюзе ўнутранае становішча...— Башлыкоў асабліва вылучыў «унутранае». Асноўнае, што перш за ўсё кідаецца ў вочы кожнаму, хто прыглядзіцца да нашага ўнутранага становішча, гэта тое, што і тут,
Радок 7, замест: Унутры // унутры
Радкі 8—9, адкрыта ~ ён,— адсутнічаюць.
Радок 10, пасля: імкнуцца // сарваць наша пасяховае будаўніцтва,
Радкі 11—12, Не ~ масцей,— адсутнічаюць.
Радкі 17—19, замест: Голас ~ расказваць, // Башлыкоў пачаў прыкладамі гаварыць,
Радкі 21—29, Далёкія ~ сілы.— адсутнічаюць.
Радкі 32—33. У ~ што — адсутнічаюць.
Радкі 36—38, Тут ~ чакалі...— адсутнічаюць.
Стар. 61, радок 5, пасля: сялянства!.. // Ён зноў загаварыў раўней. Ён гаварыў так, што ніхто не павінен быў сумнявацца ў яго праўдзе.
Радкі 16—21, Сіла ~ сум...— адсутнічаюць.
Радкі 14—15,— загаварыў ~ пераконанасцю,— адсутнічаюць.
Радкі 17—18, замест: калектывізавана больш // колькасць калектывізаваных гаспадарак пераваліла

Стар. 63, радок 37, 6— адсутнічае.
Стар. 64, радок 1, пасля: балбатню! // У балаган!
Радок 43, пасля: Застаўляць! // — Не хочам! Не вернемся!..
Стар. 65, радок 1, замест: сілаю?!. // Гвалтам?!.
Стар. 66, радок 18, замест: Гарачыя галасы // Гарачы гоман
Радок 35, замест: галас // крык
Стар. 67, радок 27, Свердлу — адсутнічае.
Стар. 68, радок 20, замест: пяты // трэці
Радок 33, замест: два вазкі // двое вазкоў
Радок 40, замест: Глушак // Дзяцел
Стар. 71, радок 1, замест: Пальцам адвёў курок // Брыдка паслабелым пальцам адвёў курок
Радок 3, пасля: завалакло // слязамі
Радок 12, пасля: грымела //, не хацела супакойвацца. Мокры пот, што змачыў сарочку на спіне, не спыняўся, ліў і ліў.
Радок 16, пасля: момант?.. // Усё-такі не хто іншы — сакратар райкома!.. Не пагладзяць па галоўцы!.. Не пагладзілі б, гэта факт!..
Стар. 73, радок 35, замест: Глушаку // Козусю
Стар. 74, радок 36 замест: 2 // 8
Стар. 77, радкі 3—4, замест: праз ~ стадыён // калісьці ў чужыя сады!
Радок 11, пасля: дражнілі: // Ад таго, што ўсярэдзіне нядобра ныла і што памог гэтаму таварыш, асабліва непрыемна было чытаць, як весела жывецца там яму, які круціцца весела сабе ў гарадскім клубе, сярод радаснага тлуму і дзяўчат.
Стар. 78, радок 16, замест: Стракатае // Пярэстае
Радок 18, замест: неадольныя // несуладныя,
Радок 27, пасля: мала // Не перавез да сябе.
Стар. 81, радок 12, замест: снезе // масніцах
Стар. 87, радок 21, замест: Пагаварыць // Параіцца
Радок 43, пасля: літарах і // чырвоных
Стар. 88, радок 31, замест: насцярожаны, нацянуты // ведаў, якая чакае размова
Радок 41, пасля: хваліцца... // Ён цярпліва слухаў, што казаў Галубовіч, панура хмурыўся. У вачах з'яўлялася нават штосьці падобнае на адчай.
Стар. 89, радок 37, 3— адсутнічае.
Радкі 38—39, замест: пакруціў ~ выдыхнуў // прамовіў стомлена
Стар. 90, радок 3, замест: іх... // Тваю маладую і маю лысую...
Стар. 92, радок 42, пасля: Гайліса // Козуся,
Стар. 93, радок 17, Раздзел другі — адсутнічае.
Радок 18, I — адсутнічае.
Стар. 95, радок 33, пасля: апартунізм! // Што няма чаго тут панікаваць.
Стар. 98, радок 3, замест: проста ~ дражніла. // здалося наогул неразумным.
Радок 8, пасля: хуткіх... // Тэмпы?!.— Апейка нібы задумаўся. Башлыкоў бачыў, што ён толькі паказвае, быццам думае, што думка выспела.— Давай падумаем — пра тэмпы.
Радок 9, 2— адсутнічае.
Стар. 100, радкі 13—14, замест: акружком // абком
Радок 16, 3— адсутнічае.

Стар. 103, радок 6, пасля: людзей. // Перабіраючы ў памяці людзей, ён між іншых успомніў Казачэнку, Дубадзела, Гайліса. Да гэтай паганай гісторыі з «Рассветам» ён ставіўся да іх па-рознаму, то хваліў, то крытыкаваў, цяпер ён, і то вагаючыся, адзначыў добра аднаго Дубадзела.

Стар. 104, радок 6, пасля: спісак. // Спісак кіраўнікоў устаноў і арцелей,

Радкі 20—22, Увесь ~ Мазыра.— адсутнічаюць.

Стар. 106, радок 41, пасля: Глінішчах. // Гаворачы з сакратаром райкома

Стар. 108, радок 6, замест: Здавалася — // Можа быць, нават

Стар. 109, радок 3, асабліва спачатку — адсутнічае.

Радкі 41—42, замест: цвёрда ~ на // абапершыся локцямі аб

Стар. 116, радок 12, пасля: пяць... // Ён адолеў адчай. Адчай выклікаў у яго агіду. Башлыкоў трываць не мог адчай, гэтае нікчэмнае, буржуазнае пачуццё. Адчаю не было месца ў сэрцы бальшавіка, загартаванага рабочым і камсамольскім гартам. Месца адчаю заняла нянавісць, ясная, дужая.

Радкі 22—23, замест: Сам кульгае // Ды

Радок 23, замест: абурана // пераканана

Стар. 120, радкі 11—12, замест: Міканора Глушака // Куляша

Радок 32, пасля: Ля // Куляшовай, Міканора Глушака — адсутнічае.

Радок 37, Глушак — адсутнічае.

Стар. 121, радок 6, замест: Глушак // Міканор

Радок 16, замест: двое старых // Дамеціха і Дамецік

Стар. 121, радок 43, стар. 122, радкі 1—27, замест: ведаў ~ вачыма... // не стаў марудзіць, таксама ведаў «закон», гасцінным гаспадарам паказаў сябе прыязным госцем: адразу весела распрануўся, сеў на лаўку каля стала. Следам за ім, з сухім тварам, стрыманы, распрануўся Дубадзел, сеў з другога краю стала.

Міканор сам зняў кажух, лагодна і хітравата пасміхваючыся, дасказаў матцы, што гасцей трэба пакарміць. З дарогі, маўляў. Дамеціха ахвотна падхапіла: трэба б, канешне, трэба.

— Ды мы ўжо снедалі,— аб'явіў Башлыкоў, але няцвёрда, няпэўна. Дамеціха, як і належала, завіхаючыся ўжо ля печы, запярэчыла непадатна:

— Калі тое було!

Дубадзел, што трываць не мог цырымоній, падтрымаў яе:

— Правільно, цётко! Дзень вялікі, трэба запасціся сілаю!

Башлыкоў не хацеў пакуль снедаць, не меў ахвоты сядзець: карцела хутчэй пачаць галоўнае, тое, дзеля чаго прыехаў; але адчуваў: трэба было аддаць належнае звычаю. Паказаць сябе гаспадарам чалавекам, культурнаю істотаю. Ды і Дубадзел меў рацыю: дзень наперадзе.

Радок 31, замест: сына // Куляша

Стар. 123, радок 26, замест: Маці Глушака // Аўдоцця

Радок 28, замест: было // було

Радок 30, замест: Глушак-сын // Міканор

Радок 40, замест: Не // Але не

Радок 41, замест: гаспадарыць // порацца

Стар. 124, радок 1, замест: маці Міканора // Дамеціха

Радок 12, замест: бацька Глушака // Куляша

Стар. 126, радок 5, замест: зазлавала, // наравіста

Радок 18, Карча Халімона! Халімона — адсутнічае.
Радок 35, замест: Міканор Глушак // Кулеш
Радок 39, пасля: старая // Куляшыха
Стар. 127, радок 9, замест: Глушак // Кулеш
Стар. 128, радкі 7—12, замест: Што ~ вінаватыІ // Тут жа прыйшло здзіўленне: ніколі не падумаў бы, што існуе такая сувязь між Куляшом і Глушаком. Сувязь, якая не адзначаецца нідзе, ні ў якой анкеце. Але такая разам з тым існуе і не можа не ўплываць на справу...
Стар. 130, радкі 1—8, Башлыкоў ~ даволі — адсутнічаюць.
Стар. 131, радок 8, замест: Маладая // Тут неспадзеўкі маладая
Стар. 132, радок 34, замест: сталы // спелы
Радок 40, пасля: гэту // глухату,
Стар. 133, радок 34, замест: Глушак // Кулеш
Радок 36, замест: кулацкага // кулацкаго
Стар. 134, радок 1, Раздзел чацвёрты — адсутнічаюць.
Радок 2, замест: I // 4
Радкі 6—8, Ступаючы ~ круціць...— адсутнічаюць.
Радок 21, замест: яркім // харошым
Радок 29, замест: новае // насцярожанае
Стар. 135, радок 6, замест: Глушак // Кулеш
Радок 29, замест: твару // постаці, пасля: блізкае, // ды, найбольш, можа.
Стар. 140, радок 18, замест: неабыякавай // незвычайнай
Стар. 141, радок 14, пасля: двара. // Так між іншым аказалася ў Башлыкова памылковае меркаванне пра глінішчанскую яго знаёмую, якое неўзабаве стала прычынай неабачлівага яго ўчынку.
Стар. 143, радкі 1—2, нібы ~ разважаць.— адсутнічаюць.
Радок 14, Яўхім — адсутнічае.
Радок 33, замест: жарцікі // смешкі
Стар. 144, радок 31, замест: паіранізаваў // дазволіў ужо жарт сабе
Радкі 38—39, замест: можна ~ усім // сядзеў быццам бы нецікаўны зусім да ўсяго.
Стар. 145, радкі 28—29, замест: смелы ~ што. // нечакана (н. р. б.), нахабны, што Башлыкоў адчуў: вось ён, адкрыўся сваёй сапраўднай сутнасцю, кулацкі выкармак. Паказаў сваё аблічча. Выказаў сваё жаданне.
Стар. 148, радкі 28—29,— Ігнатко ~ яе.— адсутнічае.
Стар. 150, радок 38, замест: падумаў // здагадаўся
Стар. 151, радкі 14—20, замест: Пляце ~ буў... //
— Кантужаны буў... Нервы не дзержаць...
— Язык не дзержыць! — строга паправіў Дубадзел.
— І не шануе нешто... Пагарэў нядаўно... А заядлы зроду...
Радок 21, замест: смыкнуў губамі // паглядзеў на яго
Стар. 152, радок 25, пасля: Было // яшчэ
Радкі 29—30, замест: не надта ~ сышло // яго белая разлегласць сышла хутка
Стар. 153, радкі 13—14, замест:, што ~ самакрытычнасць, // ў неабходнасці, сціпласці і самакрытычнасці
Стар. 154, радкі 22—23, замест: слухаў ~ адчуваннем // адчуваў тое ж, што і Дубадзел

Стар. 156, радкі 10—11, Неверагоднае.— адсутнічае.
Стар. 157, радкі 10—12, У ~ такога.— адсутнічаюць.
Стар. 158, радкі 36—38, замест: Бесхрыбетным ~ цвёрдасці! // Гэта ж трэба, дакаціцца да такога! — не мог думаць спакойна Башлыкоў.
Стар. 159, радкі 35—37, Чуў ~ пакалечыла!» — адсутнічаюць.
Радок 39, пасля: вокам. // Як яна глядзела на дачку сваю? Ці не з-за яе дачка за лепшае палічыла жыць асобна?
Стар. 160, радок 28, замест: калі на тое // хцівае
Радок 29, замест: цікуе адсюль // сядзіць паўсюды
Стар. 163, радкі 7—8, замест: выправіўся // выкіраваў
Радок 8, замест: Глінішчы // Глінішча
Стар. 164, радок 4, замест: ішла зноў // ўваходзіла
Радок 33, пасля: Адно //, аднак,
Радок 37, замест: годнасці // становішчу
Стар. 166, радкі 4—7, замест: Разгублены ~ звыклай // І ад гэтай разгубленасці яшчэ больш датрымліваўся падрыхтаванай сабе
Стар. 167, радок 23, замест: адвязала фартух // перавязала хустку
Радок 32, замест: — Не. Не трэба. // — Зрэшты — не трэба.
Радок 38, замест: шчыра, цвёрда // выразна, з нейкай юначай адвагай
Стар. 169, радок 12, замест: нейкія // нейкіх
Радок 23, замест: Як сцямнее. // Пад вечар.
Радок 24, замест: Добра? // Як сцямнее.
Радок 41, замест: Даўно ж ужо // І так даўно
Стар. 173, радкі 13—16, Дзіўная ~ цвёрдасці.— адсутнічаюць.
Радок 27, замест: молада // ўзрадавана
Радок 37, замест: спыніўся // спыніў сябе
Стар. 176, радок 3, Веданне ~ умоў.— адсутнічаюць.
Стар. 178, радок 4, замест: чыркнула // віскнула
Радкі 34—35, замест: вінаватасць, якую // няёмкасць, што
Стар. 183, радок 1, замест: другі // пяты
Стар. 184, радок 15, замест: незавершанасці // заблытанасці
Радок 31, пасля: кіраўнікоў. // Кіраўнікі, праўда сказаць, былі не вінаватыя; справа ішла важка, паволі не таму, што кіраўнікі мала стараліся. Яна ішла так таму, што інакш не магла ісці. Вінаваты, калі казаць праўду, быў план. Цяпер не толькі ён, Апейка, а і Башлыкоў бачыў, што план, той тэрмін, які быў назначаны ім, нерэальныя. Але і план, і тэрмін былі зацверджаны, былі — рашэннем, і іх, што б там ні думалі, трэба выконваць. Па іх мервалі аб рабоце кіраўніцтва раёна. Па іх, а не па тым, як стараліся для гэтага кіраўнікі...
Радок 32, замест: Яго ~ трывожыла // Да ўсяго трывожыла душу
Радок 40, пасля: упаўнаважаныя. // Большасць Апейкавых знаёмых тлумачылі гэта тайнай і яўнай варожай работаю, паклёпам, агітацыяй кулакоў ды падкулачнікаў. Апейка не пярэчыў: вядома, ва ўсіх такіх настроях кулацкія старанні мелі сваё, і немалое, значэнне; але, быў ён упэўнен, можа не менш вінавата была і неразумнасць нашай работы, работы ўпаўнаважаных, актыву, у якой з-за пагоні за працэнтам калектывізацыі — цярплівае пераконванне нярэдка замянялася пагрозамі, націскам, неспра-

вядлівымі і грубымі мерамі, якія з часам не толькі не знікалі, а большалі. І большалі —
Радкі 40—42, Нецярплівы ~ падмацоўвалі — адсутнічаюць.
Стар. 188, радок 41, замест: у куточку // угары
Стар. 190, радок 16, замест: прывязанасці // прывержанасці
Радок 16, замест: прывязанасці // прывержанасці
Стар. 191, радок 10, пасля: ўжо // не так даверліва
Стар. 192, радок 28, пасля: яснасці //; колькі людзей зачароўвала, захапляла тады сталінская прастата і ўпэўненасць.
Радок 36, пасля: яго. // Як ні трывожыла Апейку тое, як разгортваецца ў некаторых сваіх праявах жыццё, Сталін быў для Апейкі, як і для многіх кіруючых работнікаў, узорам і розуму, і прынцыповасці, узорам, на які трэба было раўняцца, па якому трэба было правяраць сябе. І Апейка звяраў тое, што бачыў і думаў, з гэтым узорам; вінавацячы за ўсё нядобрае, неразумнае не Сталіна, а тую жыццёвую нязладжанасць, якая дзейнічае, пэўна ж, наперакор сталінскаму жаданню.
Стар. 195, радок 10, замест: гучала // застрала
Стар. 196, радкі 8—9, замест: злавіў ~ мелодыю. // у сярэдзіне ўздымалася незразумелая радасць.
Радок 13, замест: бразнула // стукнула
Радок 17, замест: зрабіў ~ удалае // добра ішлі справы
Стар. 197, радок 9, замест: зберагаць // збіраць
Радкі 9—10, З ~ попел.— адсутнічаюць.
Стар. 199, радок 39, замест: юначай // дзіўнай
Стар. 200, радок 5, замест: абудзіцеся // заварушыцеся
Радок 6, замест: бярлогі // кублы
Радкі 18—19, замест: пагнала ~ гарачэй // затрывожыла
Радок 30, замест: Міша // Лёва
Радкі 33—35, замест: — Добры ~ сабрана.— адсутнічаюць.
Стар. 202, радок 13, замест: Соня // Сара
Радок 40, пасля: змяніліся. // Вочы і ўвесь Міша чакалі распараджэнняў.
Стар. 204, радок 33, «псіхалогію» і — адсутнічаюць.
Стар. 205, радок 38, пасля: уважлівымі // арэхавымі
Стар. 206, радок 2, пасля: Яснымі // былі
Стар. 209, радкі 15—16, Як ~ тут.— адсутнічаюць.
Стар. 213, радкі 16—17, замест: раз ~ конь. // мернае, мяккае тупанне капытоў.
Радкі 21—22, замест: У ~ пазнала. // Яўхім.
Стар. 214, радкі 40—41, стар. 215, радок 1, Ён ~ таксама.— адсутнічаюць.
Стар. 215, радкі 21—22, замест: Зноў ~ ёю // Ёй гэта было дзіўна: ён, аказваецца,
Стар. 216, радкі 28—29, замест: тонам клопату: // просячы прабачыць
Стар. 218, радок 43, замест: выберуся на больш. // не здолею. Паслязаўтра толькі.
Стар. 223, радок 40, і давер'ем — адсутнічае.
Радкі 40—41, частачку ~ свайго — адсутнічаюць.
Стар. 226, радок 24, пасля: моўчкі //, аддана
Радок 34, замест: адступілі // кончыліся
Стар. 228, радкі 9—10, замест: няшчасную, паклыпала // паню, паплыла

Радок 13, з такой ласкі — адсутнічаюць.
Радок 26, замест: запаліла // усё ж узрушыла
Стар. 230, радок 1, пасля: Ён // нібы,
Радок 9, замест: паехалі // паплылі
Радок 16, замест: больш ~ учэпліваліся, // учэпістыя
Радок 22, замест: позні // студзеньскі
Радок 43, пасля: білася // і
Стар. 231, радкі 26—27, Цень ~ гаворка.— адсутнічаюць.
Радок 27, замест: Нарэшце // Неўзабаве
Радкі 40—41, замест: прыглядаецца да іх // не надта рады нязваным гасцям, завагаўся,
Стар. 235, радок 18, замест: адхіліла // адхінулася
Радок 25, замест: адказвала // адзывалася, замест: адзывалася // адказвала
Стар. 236, радок 19, замест: жмурачыся // хмурачыся
Радкі 36—37, замест: З ~ хустку,— адсутнічаюць.
Радок 41, падумала раптам — адсутнічае.
Стар. 237, радок 1, замест: як бы // быццам
Радок 8, замест: павярнулася // азірнулася
Радок 9, пасля: штосьці // як бы
Радок 12, замест: — От усе! // — Бувай!

*Т. М. ДАСАЕВА.*

IV

## «ПАЛЕСКАЯ ХРОНІКА» ІВАНА МЕЛЕЖА

Да гэтай кнігі — выдатнай сучаснай эпапеі народнага жыцця — Іван Паўлавіч Мележ ішоў нялёгкімі шляхамі, жыццёвымі і творчымі. Але пачынаўся ўнутраны, творчы рух у кірунку да Галоўнай кнігі задоўга да другой паловы 50-х гадоў, калі Мележ пачаў пісаць раман «Людзі на балоце».

У запісной кніжцы І. П. Мележа за 1947 год чытаем:

«Напісаць вялікую рэч (калі-небудзь) пра тое, як мянялася і ламалася псіхіка беларускага селяніна з 1914 года да нашага дня. Пражыты страшэнна жорсткія, ломкія гады. Этапы — 1914, 1917, 1921, 1926, 1930, 1937, 1941, 1945. Ісці недалёка за вобразамі — узяць жыццё бацькі або маткі».

І зноў — у тым жа годзе:

«а) «Наступленне на балоты» — вялікая, прыгожая, нацыянальная тэма. Напісаць.

б) Пяскі Беларусі. Барацьба за ўраджай на пясчаных глебах». (Нацыян. тэма)».

На запытанні карэспандэнтаў Іван Паўлавіч не раз гаварыў, настойліва падкрэсліваў, што нёс у сабе гэтую «тэму» — як пачуццё сыноўняга доўгу перад «маці, бацькам, роднай зямлёй» — даўно, вельмі даўно.

«Усе тыя гады, якія аддаў іншым творам, мяне хвалявалі ўспаміны аб Палессі. Цьмяна акрэсліваўся намер — стварыць кнігу аб родным бацькоўскім краі. Час апісання вызначаў доўга. Спыніўся на дакастрычніцкім перыядзе, бо вырашыў пачаць з самага вытоку». («Чырвоная змена», 22.IV.1972.)

«Я нарадзіўся і вырас на Палессі. Гэты сапраўды незвычайны край і яшчэ больш незвычайныя яго людзі, палешукі, увайшлі ў маю свядомасць з таго моманту, як я памятаю сябе... Я суткамі мерз у акопах, а перад маімі вачыма стаяла маё гарачае Палессе. Я месяцамі валяўся ў шпіталях — ля майго ўзгалоўя стаялі палешукі. Я пісаў раман аб вайне — яны стаялі за маімі плячыма, узбуджаючы маю фантазію...» («Известия», 5.IX.1972.)

Палешукі, памяць — свая і народная — клікалі ўсё больш настойліва, патрабавальна. Але Іван Паўлавіч быў такі чалавек: перш чым нешта сур'ёзнае распачаць, ён павінен быў усё ўзважыць, непаспешліва, з усіх бакоў (як і належыць палешуку). Напрыклад, пытанне: што такое сучасны твор, сучаснасць у літаратуры, патрэбны ці непатрэбны будуць яго палешукі і іх клопаты, лёсы сённяшняму чытачу?

Пачынаецца доўгая ўнутраная (і адкрытая — на пісьменніцкіх сходах, у друку) яго спрэчка, палеміка з рэальнымі (і патэнцыяльнымі) апанентамі.

У сярэдзіне 50-х гадоў ён запісвае — водгулле той палемікі:

«У Пушкіна лепшая рэч у прозе «Капітанская дачка» — аб падзеях стогадовай даўнасці. Тое ж у паэзіі — «Палтава», «Бахчысарайскі фантан», тое ж у драматургіі — «Барыс Гадуноў»,

«Моцарт і Сальеры», «Сцэны рыцарскіх часоў»... Суцэльны «перакос»! Усё — гісторыя!.. Уцёкі ў мінулае?.. Пушкіну, праўда, можна дараваць: ён не быў дастаткова арганізаваны. Не было Саюза пісьменнікаў, такога дасканалага апарата».

І зноў:

«Тыя працэсы, якія адбываюцца цяпер у бел. літаратуры, тлумачацца іменна гэтым — жаданнем заглянуць шырэй і глыбей — шырэй і глыбей зразумець тое, што называецца сучаснасцю. Іменна таму пішуць і пра 1905, і пра перад рэвалюцыю, і рэвалюцыйныя часы, і пра 20-я гады, і пра вайну...»

Нельга думаць, што на Івана Паўлавіча не ўздзейнічалі тыя не новыя павевы і звычныя ўяўленні, з якімі ён, як бачым, часта не згаджаўся, спрачаўся. Дзейнічалі і на яго, уплывалі. І на творы, якія пісаў у 40—50-я гг. І на выспяванне, развіццё задумы палескага рамана. Не, не, ды і пачынаў спакушаць і яго такі вось намер: «напісаць невялікую аповесць аб меліяратарах, аб людзях, якія даюць Палессю новае жыццё» [1] — замысел, як бачым, значна вузейшы і бяднейшы, чым тое, што раней сфармулявана было як «прыгожая нацыянальная тэма» («Напісаць вялікую рэч... пра тое, як мянялася і ламалася псіхіка беларускага селяніна з 1914 года да нашага дня...»).

І думаецца, што другая палова 50-х г.— той новы ідэалагічны і грамадскі клімат, які пачаў усталёўвацца ў гэты час, якраз і дапамаглі пісьменніку пераадолець спакусы вузка зразуметай «актуальнасці» і пайсці ўглыбіню — і іменна ў напрамку той «прыгожай, нацыянальнай тэмы», аб якой ён калісьці толькі марыў, а тут ужо мог рэалізаваць яе, бо і вятры самога часу спрыялі гэтаму.

«Людзі на балоце» ў такім выглядзе, у якім яны напісаны, маглі з'явіцца толькі пасля тых перамен, што адбыліся ў выніку XX з'езда партыі,— гаварыў Іван Паўлавіч Мележ у 1966 годзе.— Кажучы шчыра, не так проста, як можа здацца, было пісаць гэты твор, хоць ён і аб далёкіх падзеях. Мне прыходзілася нанава пераасэнсоўваць матэрыял, знаёмы для літаратуры, падаваць як высокую паэзію з'явы, якія мы прывыклі лічыць амаль што не вартымі паэзіі. Мне вельмі перашкаджалі многія старыя ўяўленні, да якіх я прывык і якія, фактычна, давялося пераадольваць» («Бачыць глыбока і шырока») [2].

Думаецца нам, што іменна такой была дыялектыка развіцця задумы «Палескай хронікі»: ад досыць шырокай і смелай думкі пра «нацыянальную, народную тэму» да ілюстрацыйна-звужанай — «пра меліярацыю», а пасля зноў — да эпапейнай шырыні і глыбіні. Адразу пасля вайны шмат што ў нашай літаратуры несла ў сабе зарад нейкай асаблівай моцы, народнасці і цвярозай праўдзівасці. І гэта зразумела — пасля такіх выпрабаванняў! А для Беларусі гэта тым больш справядліва. «Подзвіг народа,— пісаў І. П. Мележ,— быў велізарны; вайна абвастрыла ў кожным пачуццё злітнасці, з'яднанасці з народам; мабыць, ніколі з такой

---

[1] «Известия», 5.9. 1977.

[2] З кнігі: Жыццёвыя клопаты. «Мастацкая літаратура», 1975 (Артыкулы і інтэрв'ю Мележа, калі не агаворана, цытуем па гэтаму выданню).

сілай, як у вайну і пасляваенныя гады, не адчулі мы, што мы — народ. Вайна навучыла нас адчуваць і думаць буйнымі маштабамі» («Знайсці сябе»).

Вось тут якраз і магла, і нават павінна была захапіць такога чалавека, як Мележ (хоць ён быў усяго толькі «пачынаючы» аўтар), думка-мара пра твор аб гістарычным лёсе беларускага народа (а бліжэй — землякоў, палешукоў) — праз усе апошнія гады і дзесяцігоддзі («Этапы — 1914, 1917, 1921, 1926, 1930, 1937, 1941, 1945 гг.»).

50-я гады (другая палова) надалі гэтым думкам і творчым планам-марам ужо пасталеўшага пісьменніка больш грамадзянскі і філасофскі кірунак.

Даючы ў 1964 г. інтэрв'ю Ул. Юрэвічу («ЛіМ», 5.VI.1964), Іван Мележ з заўсёднай сваёй палемічнасцю казаў:

«Канфлікты тады жыццёвыя, калі яны ўзяты з жыцця, з самых запаветных глыбінь яго. Пасля XX з'езда партыі, калі многае мы пачалі бачыць пад выпрамленым вуглом гледжання, успрымаць больш непасрэдна, нядаўняя наша гісторыя становіцца такой жа надзённай, актуальнай патрэбай літаратуры, як і дзень сённяшні. Поле, якое аралася і не цалкам заарана, трэба заараць і заараць па ўсіх правілах «сучаснай агратэхнікі».

Ул. Юрэвіч піша: «Не магу ўтрымацца, каб не прыгадаць тыя закіды, якія рабіліся ў свой час І. Мележу за адыход ад сучаснасці. Вочы майго субяседніка загараюцца, гаворка становіцца больш суровай...»

«— Я не хаваюся ад канфліктаў сучаснасці. Усё, пра што я пішу, мне здаецца, вельмі важна для разумення канфліктаў сённяшняга дня, дня сапраўднага заглыблення ў сучаснасць. Рост дрэва цяжка зразумець, не ведаючы, якія ў яго карані, у якой глебе яны, чым жывіліся і жывяцца».

У самім поглядзе аўтара на жыццё, у разуменні гістарычнага мінулага білася напружаная думка пра «сувязь часоў» — высока грамадзянская заклапочанасць тым, як мінулае адгукнулася ў нашай сучаснасці, як і што працягваецца ці адмаўляецца, пераадольваецца сёння.

У 1965 годзе, ужо працуючы над «Подыхам навальніцы», Іван Мележ адзначаў:

«Пра калектывізацыю напісана многа. Але, мне здаецца, сказана пра яе далёка не ўсё. Хочацца глыбока і праўдзіва паказаць гэты важны паварот у жыцці вёскі. У цяжкія трыццатыя гады брала пачатак не толькі добрае, але і злое. У тым, што адбывалася тады, было нямала такога, што выклікала непатрэбную вастрыню адносін, нараджала несправядлівасці, крыўды, прыводзіла да неапраўданых ахвяр» («Не застацца ў даўгу»).

Так пачыналася, так узнікала, вырастала «Палеская хроніка» — з жыццёвага вопыту пісьменніка, гістарычнага вопыту народа, але і тое і другое было, як мора вятрамі, узбуджана, усхвалявана іменна сучаснасцю, яе небывала моцнымі парывамі да «ўсёй праўды», «усёй шчырасці...».

Працуючы над творам, пісьменнік час ад часу друкаваў урыўкі і асобныя раздзелы ў газетах, часопісах.

20 кастрычніка 1960 г. у газеце «Советская Белоруссия» пад рубрыкай «У гасцях у пісьменніка» паявілася невялікая нататка Е. Садоўскага.

«Пісьменнік прыступіў да працы над цыклам твораў, якія будуць аб'яднаны адной назвай — «Куды ідуць дарогі». Першы раман з гэтага цыкла Іван Паўлавіч цяпер завяршае. Час дзеяння — 1925—1926 гады. Месца дзеяння — беларускае Палессе... Узяўшы за пачатак 1925—1926 гады на Палессі, пісьменнік давядзе сваё апавяданне да нашых дзён».

У «ЛіМе» за [illegible] лістапада 1960 г. прыведзены словы І. П. Мележа:

«— Я пішу раман, і ён амаль закончаны. Я пачаў яго яшчэ ў 1956 годзе, але «хвароба на драматургію», калі можна так сказаць, крыху зацягнула працу над творам. Дзве п'есы і некалькі апавяданняў былі ў гэтым сэнсе як бы перадышкай.

Пісьменнік расказвае, што ім задуманы цыкл раманаў пад агульнай назвай «Куды ідуць дарогі». Раман «Людзі на балоце», над якім ён працуе,— першы ў гэтым цыкле...

— Палессе,— зазначае пісьменнік,— я выбраў не выпадкова. Там я нарадзіўся. З гадоў маленства і маладосці ў мяне захавалася пра гэты край многа ўражанняў і назіранняў. Яны дапамагаюць пры напісанні твора ў стварэнні жыццёвага каларыту, у адчуванні часу і абставін».

У «Сельской газете» з 6 студзеня 1963 г. надрукавана было інтэрв'ю, узятае ў І. П. Мележа:

«— Што прынёс Вам мінулы год, якія ў Вас планы на 1963 год?

— Я працаваў над раманам «Людзі на балоце». Ён выйшаў у Белдзяржвыдаце і ў рускім перакладзе выдадзены ў Маскве... Аб далейшым лёсе сваіх герояў я раскажу ў другой частцы рамана, над якой цяпер працую. Час дзеяння — перыяд калектывізацыі... У бліжэйшы час здам у часопіс «Полымя» першыя раздзелы».

Але гэта ўжо — пра другую кнігу «Хронікі».

Першы раман «Палескай хронікі» — хоць ён і пра «людзей на балоце» — пачатак свой, выток браў высока, на вяршынях. Там, дзе беларуская класіка. Бо ў «людзей на балоце» ўжо была і літаратура свая і класіка. Хоць яны маглі і не ведаць пра гэта — палешукі з першага рамана Мележавай «Хронікі».

Івану Мележу было на каго абаперціся — Купала, Колас, Чорны. Вельмі цаніў ён і «Сокі цаліны» Гартнага, «Вязьмо» Зарэцкага.

Ну, і, вядома, руская класіка, сусветная [1].

Асабліва настойліва падкрэсліваў значэнне, ролю ў яго творчым жыцці рамана «Ціхі Дон». Гэты твор быў для яго не толькі

---

[1] У адказ на маё пісьмо-анкету ў 1972 г. Іван Паўлавіч напісаў: «У розныя перыяды жыцця мне спадарожнічалі розныя і многія пісьменнікі. Я паграшыў бы супраць праўды, калі б выбраў двух-трох... Люблю Бальзака і Купалу, Ражэ Мартэн дзю Гара і Кузьму Чорнага, Скота Фіцджэральда і Івана Буніна, і Міхайлу Кацюбінскага. Нязменна — Льва Талстога, Міхаіла Шолахава (асабліва «Ціхі Дон»), Аляксандра Фадзеева (асабліва «Разгром»). Схіляюся перад магутным талентам Дастаеўскага. Ганаруся, што карэньчыкі яго — у нашым Палессі».

не «чужой» класікай, але самай што ні ёсць сваёй — як бы і пра яго маці, бацьку...

У 1965 годзе Іван Паўлавіч, успамінаючы пра тое, як калісьці ў растоўскім шпіталі чытаў «Ціхі Дон», гаварыў: «Я яшчэ жыў трывогамі фронту, адчуваннем нетрываласці франтавога спакою, адчуваннямі вялізнасці вайны і вялізнасці чалавечай бяды, што захапіла ў сябе мільёны лёсаў; недзе — пад нямецкай няволяй — была мая родная палеская вёска і недзе выглядвала, чакала мяне мая Ільінічна, мая маці» («Прыклад Шолахава»).

Здавалася б, не «Ціхі Дон», а «Узнятая цаліна» павінна была б больш «свяціць» аўтару «Палескай хронікі», бліжэй быць у гэты час, бо пісаў ён пра тыя ж падзеі і час той, што складаюць змест «Узнятай цаліны». Але не ўсё так проста ў літаратуры.

І справа, зноў жа, не толькі ў непараўнальнай моцы «Ціхага Дона» (хоць гэта і вельмі важна і, можа, важней за ўсё іншае). Калі Шолахаў пісаў «Узнятую цаліну», ён пісаў пра самую-самую надзённасць. А «Ціхі Дон» — ужо пра гісторыю (хоць і вельмі блізкую, «нядаўнюю»). І Мележ таксама пра гісторыю, бо калектывізацыя стала ўжо часткай гісторыі. Хоць і вельмі жывой яшчэ, пульсуючай. І тут Мележа не маглі не прыцягваць такія творы сусветнай літаратуры аб сялянскай масе, як «Ціхі Дон» Шолахава ці як «Мужыкі» Рэйманта. Дзе сялянскае і нацыянальнае праз шырокі эпічны паказ, разварот падзей пераходзіць у агульначалавечае — як бы збліжаецца там, у гістарычнай далечы, зліваецца ў гістарычным фокусе...

Не менш важным фактарам у гэтым выбары ці адмаўленні пэўнай традыцыі быў сам час — другая палова 50-х і 60-я, і пазнейшы час, які ўзбудзіў літаратурную палеміку з ранейшымі поглядамі, ацэнкамі, вобразамі. Тут можна нагадаць і аповесць «На Іртышы» С. Залыгіна, і «Кануны» В. Бялова. У творах гэтых не толькі «геаграфія» іншая, чым ва «Узнятай цаліне» — Беларусь, Сібір, Валагодчына — але таксама і цэлыя дзесяцігоддзі жыцця, вопыту, вынікаў «вялікага пералому», чаго, зразумела, Шолахаў не меў перад сабою, калі пісаў свой раман.

Вельмі ўдзячны быў Мележ і тым з пісьменнікаў, якія і асабістай падтрымкай дапамаглі яму знайсці свой шлях у літаратуры — Кузьме Чорнаму, Аляксандру Фадзееву.

У інтэрв'ю газеце «Литературная Россия» (22.IX.1972) І. П. Мележ гаварыў:

«Парады А. А. Фадзеева — і гэта, магчыма, самае важнае — дапамаглі мне выбраць свой шлях. У «Мінскім напрамку» А. А. Фадзееву асабліва спадабаўся вобраз сялянкі Шабунīхі. Усе старонкі, звязаныя з гэтым вобразам, на якіх адлюстравана жыццё народнае, адзначаны А. А. Фадзеевым як найбольш удалыя. А. А. Фадзееў быццам бы падштурхоўваў мяне ў той свет, які мяне хваляваў ужо і які я імкнуўся ўваскрасіць пазней у «Людзях на балоце», «Подыху навальніцы».

Усё гэта — уплывы, парады, падтрымка выдатных пісьменнікаў — фактары таксама творчага парадку, але, вядома, не галоўныя.

І «гліну» знайсці (у сваіх Глінішчах), і замясіць, і кожную цаглінку зляпіць, і пакласці ўласнай рукой (па ўласнаму «праекту») туды, куды трэба — усё гэта павінен быў ён сам, як і нале-

жыць кожнаму майстру. Бо майстры, як працавалі спрадвеку, так і працуюць,— па цаглінцы, па цаглінцы, а не цэлымі «блокамі», «сцэнамі», «секцыямі», як умее ілюстрацыйная літаратура.

А «Людзі на балоце» ўжо рабіліся рукой майстра. Яна адчувалася і ў ранейшых творах — гэтая рука. Але толькі адчувалася...

Радаснае здзіўленне — вось першая рэакцыя многіх і многіх на публікацыю ў №№ 8, 9, 10 «Полымя» за 1961 год новага рамана Мележа. І радасць за Івана Мележа, за беларускую літаратуру, але і здзіўленне, трохі нават крыўднае для аўтара. Не выпадкова ён потым з некаторай іроніяй і нават крыўдай гаварыў, пісаў пра гэта — вось як у інтэрв'ю газеце «Литературная Россия» (22 верасня 1972 г.):

«Сапраўды, калі для сяго-таго з крытыкаў з'яўленне рамана «Людзі на балоце» было нечаканым, то А. А. Фадзееў задоўга да паяўлення кнігі ўбачыў і прадказаў яе.

А што была радасць, было адчуванне літаратурнага свята, сведчаць самі загалоўкі рэцэнзій і пафас першых артыкулаў: Янка Брыль — «Запаветная песня» («ЛіМ», 17.X.1961), «У беларускай літаратуры — свята» (рэдакцыйны артыкул у «Калгаснай праўдзе», 26.XI.1961), «Шчырае слова пра кнігу таварыша» (Абмеркаванне рамана на пашыраным пасяджэнні прэзідыума СП БССР, «ЛіМ», 24.XI.1961), Уладзімір Калеснік — «О старом по-новому» («Литературная газета», 30 студзеня 1962), Іван Шамякін — «Начало большого пути» («Правда», 14 кастрычніка 1962), Рыгор Бярозкін — «Так пачыналася ў Куранях» («Звязда», 21 лістапада 1961) і інш.

У першай (Янкі Брыля) рэцэнзіі на раман «Людзі на балоце» гаварылася, падкрэслівалася: «У рамане гэтым дзейнічаюць героі з выразна акрэсленымі, жывымі, паўнакроўнымі характарамі. Людзі гэтыя не выконваюць па загаду аўтара нейкія глыбокаідэйныя і высокамастацкія ролі, а іменна жывуць, у чым я, чытач, не сумняваюся ад пачатку і да апошняй старонкі. І гэта — першая прычына майго задавальнення...

Раман «Людзі на балоце» — вынік шматгадовай, напружанай і грунтоўнай працы, вынік сур'ёзнага і таленавітага пранікнення ў жыццё. У творы гэтым, у прыклад некаторым іншым, не толькі беларускім творам, не чуваць у падтэксце аўтарскага поту, нагоненага кан'юнктурнай хапатлівасцю, не відаць «глыбакадумна» зморшчанага лба...

Карыстаючыся агульнапрынятымі словамі, можна сказаць, што раманам сваім Мележ ступіў далёка наперад у параўнанні з усім, што ім было напісана раней. Хочацца сказаць і больш,— ён тут, па-мойму, на самых блізкіх подступах да сваёй самай запаветнай пісьменніцкай песні.

Праўда, апублікавана пакуль што першая кніга рамана».

Што, гэта была першая ластаўка ў беларускай літаратуры 50-х г.— сапраўды мастацкая проза, без надакучыўшай кан'юнктурнай «схемы», без ілюстрацыйнай немачы?

Не, вядома. Гэта ж канец 50 — пачатак 60-х гг., і ўжо былі, паяўляліся па-новаму напісаныя творыя аб Айчыннай вайне

(В. Быкава і інш.), а пра вёску — аповесці Брыля, Кулакоўскага і інш.

І тым не менш — гэта было сапраўды свята адкрыцця і захаплення. Было і новага Мележа адкрыццё. Але галоўнае, мабыць, у тым, што наватарскія шляхі і магчымасці беларускай прозы атрымалі магутнае пацвярджэнне ў творы, які вяртаў нашай прозе па-сапраўднаму абноўленую класічную традыцыю Купалы, Коласа, Чорнага. Колькі было ў 50-я гады заяў — у друку і з трыбуны — пра «выдатны рух наперад», пра «росквіт беларускага рамана» іменна ў гэтыя гады, і называлася пры гэтым абойма твораў, у якіх калі і быў рух ад Коласа і Чорнага, дык не наперад, а ўніз — да бясколернай ілюстрацыйнасці. Раман Мележа ў параўнанні з гэтымі раманамі («За годам год» Ул. Карпава, «Даль палявая» Т. Хадкевіча, «Над Нёманам» Ул. Дадзіёмава і інш.) быў вяртаннем да традыцый беларускай і наогул савецкай класікі, але гэта быў тым самым рух сапраўды наперад — да сапраўднай (многімі як бы забытай ужо) мастацкасці і народнасці, да сапраўды сучаснага твора. Пачуцці, абуджаныя раманам «Людзі на балоце», можна параўнаць хіба што з тымі, якія потым выклікала руская «вясковая» проза — Шукшына, Абрамава, Мажаева, Бялова, Астаф'ева, Распуціна і інш. Нанова, з забытай сілай загучала слова з самай глыбіні народнага жыцця...

Па справаздачах, артыкулах, якія суправаджалі выхад мележаўскага рамана да чытача, можа скласціся ўяўленне, што твор гэты быў прыняты ўсімі — усіх абрадаваў і ўсіх прымірыў.

На самай справе так не было. І не магло так быць. Раман Івана Мележа, вельмі ўзмацніўшы той кірунак у літаратуры і крытыцы, які рэзка адмаўляў агрэсіўную ілюстрацыйнасць і спекуляцыю на тэмах (вядома, «сучасных»), павінен быў выклікаць (і выклікаў) таксама і адмоўную рэакцыю часткі пісьменнікаў і крытыкаў.

Спачатку гэта не праяўлялася выразна.

Вось справаздача аб пашыраным пасяджэнні прэзідыума Саюза пісьменнікаў БССР — «ЛіМ» надрукаваў яе пад загалоўкам «Шчырае слова пра кнігу таварыша» (24 лістапада 1961 г.):

«...Гаворку пра новую кнігу пісьменніка пачаў Янка Брыль. Ён адзначыў, што «Людзі на балоце» — з'ява цікавая і радасная ў нашай літаратуры, што кніга гэта, бясспрэчна — творчая ўдача І. Мележа. Сваім раманам пісьменнік ступіў далёка наперад у параўнанні з тым, што было напісана ім раней. Больш таго, у рамане «Людзі на балоце» аўтар на самых бліжэйшых подступах да сваёй самай запаветнай пісьменніцкай песні.

Пакуль што, сказаў Я. Брыль, напісана толькі першая частка кнігі. Наперадзе яе герояў чакае яшчэ вельмі і вельмі многае — калектывізацыя, Айчынная вайна, удзел палешукоў у будаўніцтве камуністычнага грамадства. Хочацца пажадаць ад душы І. Мележу, каб ён правёў сваіх герояў праз усе выпрабаванні гісторыі дастойным чынам, на ўзроўні сапраўднага майстэрства.

З цікавымі заўвагамі аб рамане выступіў Тарас Хадкевіч.

— Мы часта спрачаемся, на якую тэму напісаны твор,— сказаў ён,— і вельмі часта забываем, як ён напісаны. А на маю думку, безумоўна, важна і першае, і другое. Іван Мележ сваім

раманам увёў чытача ў самую палескую глуш. Пісьменнік раскрыўся ў гэтым творы па-новаму, выявіліся новыя, невядомыя раней рысы таленту празаіка. Тут Мележ — мастак сталы і таленавіты.

Адзначыўшы станоўчыя бакі кнігі, Т. Хадкевіч спыніўся і на яе недахопах. Некаторыя сцэны рамана, на яго погляд, штучныя, ненатуральныя. Так, разрыў Васіля і Ганны, на думку Т. Хадкевіча, да канца не прадуманы. Найбольш удаліся пісьменніку бытавыя сцэны, менш — тыя, дзе гаворка ідзе пра грамадска-сацыяльныя адносіны герояў твора. Відаць, што пісьменнік да драбніц ведае ўклад жыцця палескай вёскі 20-х гадоў. І тут — верыш Мележу ва ўсім.

Т. Хадкевіч падрабязна спыніўся на мове кнігі. Ён адзначыў, што мова рамана надзвычай сакавітая, жывая, каларытная. Але калі чытаеш дыялогі, падкрэсліў прамоўца, насцярожвае частае, празмернае ўжыванне дыялектызмаў.

— Пасля трылогіі Якуба Коласа «На ростанях» у нас не было падобнага твора пра Палессе,— сказаў Васіль Вітка.— Гэта — першая кніга, якая паказвае наступ новага ў жыцці палескай вёскі пасля рэвалюцыі.

В. Вітка дае высокую ацэнку раману. Ён адзначае, што кніга пакідае самае добрае ўражанне.

— У нас у апошні час,— гаворыць Вітка,— выходзіла многа кніг халодных, рамесніцкіх, скрозь сюжэтную і моўную тканіну якіх прасвячае вытворчая кухня, тэхналогія. У Мележа гэтай тэхналогіі не відно — яна стала майстэрствам, мастацтвам...

У заключэнне В. Вітка адзначыў багатую, жывую мову твора, падкрэсліўшы, што ў ёй няма фальшу, яна гучыць натуральна, свежа, па-народнаму ярка.

Цёпла гаварыў аб кнізе Янка Шарахоўскі. Ён сказаў, што раман І. Мележа «Людзі на балоце» — твор сапраўды мастацкі, з'ява ў нашай літаратуры. Прамоўца папракнуў І. Мележа за нехарактэрную, на яго думку, сцэну бойкі Васіля за зямлю. Калі б справа адбывалася раней, да 1924 года, яна выглядала б больш натуральна. Пазней жа гэты матыў ужо не характэрны для вёскі, тым больш калі надаваць сцэне абагульняючае значэнне.

Далей Я. Шарахоўскі спыніўся на характарыстыцы галоўных герояў твора — Васіля, Ганны і Яўхіма. У гэтых вобразаў ёсць будучыня, хоць, на думку прамоўцы, у некаторых дэталях Яўхім выглядае непераканаўчым...

— Новы твор І. Мележа,— сказаў Іван Шамякін,— гэта праўдзівая карціна жыцця Палесся дваццатых гадоў. Згодзен з Віткам, што сацыяльны, гістарычны фон рамана сапраўды прыглушаны. Няма шырокіх грамадска-сацыяльных карцін.

Прамоўца гаворыць пра «Ціхі Дон» М. Шолахава і адзначае, што пісьменнік не баяўся публіцыстычных адступленняў. Нявар- та гэтага было баяцца і Мележу.

У заключэнне І. Шамякін сказаў:

— Вельмі добрая мова твора. Я смакаваў кожны сказ. Ёсць што сказаць пра раман і літаратарам, і мовазнаўцам. Я ад душы жадаю, каб наступныя раманы былі напісаны на такім жа мастацкім узроўні, а можа, і на вышэйшым.

Алена Васілевіч гаварыла аб вобразах твора. На яе думку, вобраз Васіля крыху супярэчлівы. Спачатку ён абяцае быць вель-

мі цікавым. Гэта проста такі паэтычная натура. Потым жа ён расчароўвае чытача, становіцца залішне прыземленым. Прагнасць да зямлі дамінуе над усім астатнім. Удаліся аўтару, на думку А. Васілевіч, вобразы Ганны і яе бацькі...

— Новы раман І. Мележа «Людзі на балоце»,— сказаў Нічыпар Пашкевіч,— гэта добры пачатак эпапеі жыцця беларускага народа. Наколькі нам вядома, падзеі твора будуць развівацца далей аж да нашых дзён.

Значную частку выступлення Н. Пашкевіч прысвячае вызначэнню жанра. «Людзі на балоце», на яго думку, гэта яшчэ не раман, а толькі першая кніга вялікага твора. Тут яшчэ не здарылася таго сацыяльна значнага, вялікага, што адпавядае раману. Аўтар пакуль толькі прыглядаецца да герояў, а ўсе вялікія справы іх наперадзе.

Нягледзячы на тое, што пачуццё гістарызму ў творы не падлягае сумненню, усё ж, на думку крытыка, канкрэтна гістарычны фон у ім павінен быць узмоцнены. Гэта вымагае сама задума.

Станоўчую ацэнку рамана даў Алесь Адамовіч. Ён гаварыў, што ўдача Івана Мележа шырэй прыватнай. У нас выходзіць нямала кніг, якія пабудаваны па законах ілюстрацыйнасці. Раман «Людзі на балоце» — бясспрэчнае дасягненне нашай прозы, сведчанне яе сталасці.

— «Людзі на балоце» — імяніны сэрца для Мележа і свята для нашай літаратуры,— падкрэсліў Фёдар Куляшоў. Ён гаварыў аб майстэрстве, з якім Мележ лепіць вобразы... Яны сведчаць аб удачах пісьменніка ў стварэнні характару. Ф. Куляшоў таксама высока ацаніў моўнае багацце рамана, хоць і адзначыў, што часам аўтару нібы здраджвае густ.

У заключэнне выступіў Іван Мележ.

Абмеркаванне кнігі «Людзі на балоце» на пашыраным пасяджэнні прэзідыума СП Беларусі вылілася ў шчырую, дзелавую гаворку не толькі аб ёй. Ішла гаворка аб шляхах развіцця прозы, аб павышэнні майстэрства пісьменнікаў.

Такая рэакцыя на яго раман, вядома, радавала пісьменніка. Але вось што запісвае ён 27 сакавіка 1962 года, што адчуў Мележ і палічыў патрэбным запісаць:

«Ніколі не думаў, не гадаў, што «Людзі» так пойдуць. Пісаў наперакор усім заклікам (да сучаснасці), і от, на табе. Калі друкавалі ў «Полымі» — усе карэктуры расхапалі. Колькі пацiскаў рук, віншаванняў; цяпер няма такога пленума ці схода, каб не згадалі добрым словам. З усяго гэтага я не чую ніякага кружэння ў галаве. Я, аказваецца, вельмі спакойны да славы, да хвалы; мне становіцца нават сумна: і гэта — усё?!

З усіх гэтых гаворак для мяне самае галоўнае: я магу! Я зрабіў добрае, вартае; варта гэта рабіць і далей— от што самае важнае. Так бы напісаць і другую! Не горш!»

Бачыце, як бы нават спусташэнне нейкае (зразумелае пасля доўгагадовага напружання), але і як бы расчараванне. Расчараванне байца, які рыхтаваўся, падрыхтаваўся да напружанага паядынку, і раптам сур'ёзных праціўнікаў не аказалася...

Вядома, былі яны і хутка аб'явіліся — праціўнікі. (І ў рамана «Людзі на балоце», і ў наступных раманаў «Палескай хронікі».)

Бо была, заставалася, імкнулася абараніць свае пазіцыі і штучны «аўтарытэт» літаратура, якую такі раман, як «Людзі на балоце», адмаўляў і ідэйна, і сваёй мастацкай сутнасцю, прыродай. Тая самая літаратура, што сама сябе аб'яўляла «росквітам беларускага рамана».

Праўда, адкрыта выступіць рашылася яна не адразу — толькі ў 1966 годзе: артыкул Ул. Карпава «Позірк назад» («Полымя», № 3, 1966). (Гэта, дарэчы, адбывалася напярэдадні V з'езда пісьменнікаў БССР.)

Артыкул Ул. Карпава пацвердзіў тую старую ісціну, што пасрэдна-ілюстрацыйная літаратура не можа доўга «мірна суіснаваць» з сапраўднай мастацкай літаратурай: яна агрэсіўна адваёўвае сабе «першыя ролі», хоча, нават патрабуе ад усёй літаратуры, каб была такой жа, як яна... (Паводзіны такія дыктуюцца ёй пачуццём самазахавання.)

Узнёслае расхвальванне слабых, пасрэдных твораў 40—50-х гг. у Ул. Карпава суправаджалася досыць грознымі павучэннямі ў адрас Я. Брыля, І. Мележа, В. Быкава, І. Навуменкі і інш.— парадамі, як ім зраўняцца з тымі аўтарамі і творамі, у якіх «усё як трэба». (Гэта значыць — адпавядае «ўзаконеным» узорам, схемам.)

У адказ на артыкул-выклік у тым жа часопісе «Полымя» з'явіліся аж тры: артыкул «Цяжкі жанр» А. Адамовіча (№ 4, 1966), артыкул «Позірк назад ці паварот назад» В. Каваленкі (№ 5, 1966) і «Пачуццё стылю» Р. Шкрабы (№ 5, 1966).

Асобныя цытаты з іх дадуць уяўленне аб характары і накале страсцей вакол новага рамана Івана Мележа, што раптам вырваліся, як полымя з-пад тарфяной падушкі...

В. Каваленка — «Позірк назад ці паварот назад»:

«Ул. Карпаў ахвотна дае І. Мележу параду: пісаць «шматпланавы, багаты на грамадскія падзеі раман». Але ж хіба раман І. Мележа не шматпланавы, не багаты на грамадскія падзеі? Можа, Ул. Карпаў мае на ўвазе той сумна вядомы апісальна-рэгістратарскі жанр, дзе няма ні характараў, ні належнага асэнсавання апісаных падзей, а толькі бессістэмнае нагрувашчванне вялых сітуацый. Калі гэта так, то намаганні Ул. Карпава ажывіць яго кампліментамі і рэкламай наўрад ці будуць паспяховыя.

Ул. Карпаў піша, што «найбольш слабае месца ў творчай канцэпцыі» І. Мележа — вобраз Міканора. Чаму? А таму, што «асабісты лёс Міканора менш хвалюе пісьменніка, чым лёс Ганны і Васіля, хоць у сапраўднасці гэты лёс быў не менш драматычны».

Тут не трэба і здагадак, каб зразумець, што Ул. Карпаў ажыўляе антыдэмакратычную «тэорыйку» аб наменклатурных героях.

...Крытыкуючы сучасныя творы беларускіх пісьменнікаў са старых, адкінутых пазіцый, Ул. Карпаў нібы адчувае, што адной чыстай прапаганды яго літаратурных поглядаў недастаткова, што літаратура, нягледзячы на гэта, можа пайсці сваёй дарогай. Баючыся гэтага, ён у дадатак высоўвае яшчэ ідэю аб калектыўным супрацоўніцтве, аб таварыскай узаемадапамозе — ідэю, на першы погляд, вельмі высакародную і прывабную. Ён нават спасылаецца на гістарычныя прыклады...

Сапраўды, у «перадзвіжнікаў» гэта выглядала вельмі міла. Карыснай справай, бясспрэчна, быў бы той гурток і ў нас, калі б Ул. Карпаў чытаў у гэтым гуртку лекцыі па мове, кампазіцыі, стылю. Але ж, як паказвае яго артыкул «Позірк назад», Ул. Карпаў не хоча задаволіцца такой роллю... Ён хоча падказаць пісьменніку, раз і назаўсёды, як глядзець на свет, што адлюстроўваць, чым захапляцца і якімі выяўленчымі сродкамі карыстацца. А такое наўрад ці сцярпеў бы Сурыкаў і наўрад ці сцерпіць Мележ»[1].

Р. Шкраба — «Пачуццё стылю»:

«Ул. Карпаў гаворыць, што ў рамане М. Паслядовіча «Святло над Ліпскам» ёсць гераічны вобраз. Чытаючы ж ацэнку рамана «Людзі на балоце», мы бачым, што вобраз Міканора, найбольш перадавога чалавека ў Куранях, І. Мележу не ўдаўся. А што гэта нам гаварыць? Зусім нічога. Трэба высветліць, ці ставіў сабе за мэту І. Мележ даваць гераічны вобраз у сваім першым рамане палескай хронікі першым планам. Ул. Карпаву хочацца, каб гэта было так. Але тады І. Мележу трэба было б пісаць іншы твор...

Я папрашу прабачэння ў Тараса Хадкевіча за тое, што параўноўваю яго раман «Даль палявая» з раманам Івана Мележа «Людзі на балоце». Я папрашу прабачэння ў Мележа за тое, што параўноўваю яго раман з раманам Хадкевіча. Такое параўнанне напрошваецца, калі чытаеш артыкул Ул. Карпава. Яно патрэбна, каб высветліць, наколькі правамерна, робячы агляд беларускіх раманаў, параўноўваць не самі творы, а іх ідэі, так сказаць, абстрагуючыся ад іх мастацкага ўвасаблення.

Скажу шчыра: мне, чытачу, больш падабаецца раман І. Мележа. І нічога я не магу з сабою зрабіць. Я мог бы тут аб гэтым не гаварыць, прамаўчаць, дыпламатычна абысці гэтае далікатнае пытанне. Але я не хачу самому сабе хлусіць. А вядома, што можна ўтаіць ісціну проста — аспрэчваючы яе, а можна ўскосна — замоўчваючы.

Я шчыра веру, што абодва аўтары пісалі свае раманы з самымі лепшымі намерамі, што ўкладвалі ў працу ўсю душу і сэрца. Але мы мяркуем пра творы не толькі па іх ідэі альбо тэме, не толькі па добрых намерах і пахвальных імкненнях. Ул. Карпаў зрабіў, мне здаецца, не зусім прадумана, калі, пішучы пра раман Хадкевіча, пачаў гаварыць з пафасам, так, што гэты раман хочацца неадкладна прачытаць, а пішучы пра раман І. Мележа, як бы знарок стрымлівае сябе, гаворыць неяк абачліва і асцярожна. Крытык можа сказаць, што ён і не ставіў сабе за мэту параўноўваць раманы. Але ж такое параўнанне чытач артыкула павінен будзе зрабіць, а зрабіўшы — грунтуючыся на ацэнцы Ул. Карпава,— павінен будзе раман Хадкевіча паставіць навідавоку, чытаць і перачытваць яго, а раман Мележа павінен будзе адсунуць недзе надалей на паліцы нашага беларускага рамана»[2].

Як бачым, раман І. Мележа — і першая кніга, і другая (ды і трэцяя) — быў занадта буйнай і новай з'явай па поглядах, пазіцыі аўтара, па характарах і мове, каб нават бясспрэчныя мастацкія вартасці вывелі яго з-пад агню дагматычнай крытыкі. Зусім

[1] «Полымя», 1966, № 5, с. 134—137.
[2] «Полымя», 1966, № 5, с. 146, 149—150.

наадварот: высокія мастацкія вартасці таксама былі выклікам. Той літаратуры выклікам, якая (вядома, не толькі вуснамі аўтара артыкула «Позірк назад») упарта і сярдзіта настойвала: тэма, тэма, тэма — вось што ў мастацтве галоўнае!..

А тым часам пісаўся (на працягу 1958 і 1961—1965 гадоў) другі раман хронікі.

У адказ на анкету газеты «Правда» І. Мележ паведамляў: «Пішу цяпер раман пра час вялікага пералому ў Палескім краі. Гэта будзе другая кніга маёй «Палескай хронікі». У ёй мне хочацца расказаць, які складаны, цяжкі і вялікі быў шлях нашых людзей да сённяшняга дня... Хачу напісаць кнігу ў поўным сэнсе народную, якая праслаўляе народ, яго подзвіг, прасякнутую вялікай павагай да яго» («Правда», 1963, 16 чэрвеня).

Назва другой кнігі хронікі ў газетных нататках, публікацыях, у інтэрв'ю пісьменніка некалькі разоў змяньвалася.

У «ЛіМе» (жнівень 1962 г.):

«Пісьменнік Іван Мележ працуе над новым раманам «Звер сочыць з зарасніку». У ім чытач сустрэнецца з героямі, знаёмымі па раману «Людзі на балоце».

Тое ж — у «Сельской газете» за 28 лістапада 1962 г. Але ў снежні 1963 г. «Сельская газета» дае ўрывак з таго ж рамана, які ўжо названы: «Навальніца над полем».

У «Гомельскай праўдзе» за 4 красавіка 1965 г. чытаем:

«Цяпер пісьменнік працуе над другім творам — «Навальніца над полем». Гэта раман з палескай хронікі».

Поўнасцю раман «Подых навальніцы» ўпершыню надрукаваны быў у часопісе «Полымя», 1964, №№ 1, 2 (усё яшчэ называўся «Навальніца над полем») і ў №№ 9, 10 і 11 за 1965 г.

Як бы рыхтуючы чытача (і крытыку асабліва) да сустрэчы з другой кнігай, дзе ў цэнтры падзей (і роздуму аўтарскага) — Апейка, яго лёс і яго думкі пра падзеі 20—30-х гг., Іван Мележ настойліва падкрэсліваў:

«Станоўчы герой гэта не абраз, які трэба «павесіць» у творы і маліцца на яго. Гэта павінен быць жывы чалавек, чалавечны перш за ўсё. Ён павінен быць як усе людзі, але ён не можа быць адзін на ўсе часы. Кожны гістарычны перыяд «праяўляе» ў героі тыя ці іншыя рысы найбольш. Народжаны рэвалюцыяй герой нашага часу — а такі ў мяне Апейка,— гэта чалавек перш за ўсё багаты думкамі, чалавек няспыннага пошуку ісціны. Яму не можа і не павінна быць усё ясна, інакш атрымаецца схема. Ён павінен шукаць, ён мае права памыляцца, сумнявацца, як і кожны жывы чалавек... Ідэальны герой — гэта выдумка некаторых пісьменнікаў і крытыкаў. У жыцці такога героя няма. Ёсць ідэальнае ў станоўчым героі, гэта значыць, яго імкненне да нейкага, адпаведнага яго разуменню часу, ідэалу ў жыцці». («ЛіМ», 5.VI.1964).

Пра Апейку І. Мележ гаварыў, пісаў, бадай, больш, чым пра каго другога са сваіх герояў. Ён як бы чакаў абавязковай нязгоды з думкамі і разважаннямі Апейкі, востра палемічнымі ў адносінах не толькі да дзеянняў, поглядаў, «лініі» Башлыкова, але і да таго, што часамі Апейка вычытваў у цэнтральным друку.

Для Башлыкова ў такіх выпадках: «Думаць тут ужо няма чаго! Не такія розумы думалі, абдумалі ўсё!»

Апейка ж сваю ролю, сваё месца камуніста-ленінца ў справах краіны інакш разумее: «Хочацца ўсё зразумець! Да ўсяго дайсці розумам і сэрцам... Ёсць людзі, якія лічаць за доблесць, што яны ўмеюць не разважаць! Партыя сказала, партыя рашыла!.. Няма чаго разважаць!.. А я хачу думаць, хачу зразумець усё, адчуць, як сваю праўду! Я павінен быць пераконаным ва ўсім, а для гэтага я павінен зразумець усё, адчуць! Розумам і сэрцам!

Сапраўдны бальшавізм і ёсць перакананасць... Бо няма нічога мацней за перакананасць».

Не толькі герою Мележа, але і аўтару неабходна ўсё самому ацаніць, уласным розумам узважыць. Больш таго, ён хоча, каб і чытач рамана змог пакарыстацца гэтым правам — і таму звяртаецца непасрэдна да дакументаў часу, смела і шчодра ўводзіць іх у раман (стэнаграмы сталічнай сесіі). І ўжо чытач «сам» чуе іх, «уласнымі вушамі» — людзей, што вырашаюць лёс Куранёў, тысяч такіх вёсак — адны, як Апейка, другія, як Башлыкоў вырашаюць.

Апейка для Мележа — чалавек свайго часу, з усімі чалавечымі слабасцямі, але і вельмі моцны — сваёй сумленнасцю перад самім сабой і перад людзьмі.

Ужо ў «Людзях на балоце», а таксама ў накідах да рамана «Подых навальніцы» вобраз Апейкі паўстае як выражэнне асабліва блізкіх і дарагіх пісьменніку чалавечых якасцей і поглядаў, адносін да людзей, да справы.

Вось падрыхтоўчыя накіды, думкі пісьменніка — з запісных кніжак Мележа:

«Апейка і Башлыкоў. Башлыкоў — з горада, вылучэнец, ганарыцца — рабочы клас; чысты ва ўсім, біяграфія чыстая, ясна ўсё, проста, непахісна.

Апейка і Башлыкоў — два погляды на падзеі, на лёс людзей. Башлыкоў — прамы, жорсткі; Апейка — мяккаваты, чалавечны, бачыць, як ўсё сплялося, складана. Сумненняў многа, шкадуе. Разважае. Заглядвае ў творы Леніна.

Башлыкоў абвінавачвае яго: сялянская душа, не рабочая. З пачуццём переваг рабочага чалавека...

Гне — хутчэй перарабіць вёску. Выйсці ў першыя ў рэспубліцы. Не хоча лічыцца ні з чым.

Апейка: усё рашае пачуццё меры. Не адзін, не два разы ён заўважаў, што мера гэта трацілася. Зайшлі далёка. Узнікала нейкая нервознасць, падазронасць. Знікала дзелавітасць — лепей перагнуць, чым недагнуць. Кар'ерысты вылазілі — пад правільнымі лозунгамі, выскаквалі наперад,— па сутнасці псавалі справу. Заўважаў: вылазілі нейкія хапугі, якія стараліся пагрэць рукі пры агні. І ўдавалася не аднаму».

«Апейку абвінавацілі ў тым, што ён скаціўся ў балота правых. Калі ён паспрабаваў устанавіць дзелавітасць. «Бухарынец!» З партыі хочуць выключыць. (Ці — выключаюць!)»

«Многа кулакоў мы нарабілі». Многія з тых, каго мы ссылаем, маглі б папрацаваць з карысцю на агульную справу нашу! Людзі — капітал народны! Добры гаспадар усё, што можа спатрэбіцца ў гаспадарцы, выкарыстае».

«Апейка бачыў, што многіх з тых, каго ссылалі, можна было і не ссылаць! І не трэба было ссылаць! Нямала з тых з чыстай

душой гатовы былі пайсці ў калгасы працаваць, пачаць жыць па-новаму! Ім можна было паверыць!..

Кожны дзень прыходзілі, прасілі заступніцтва, кляліся, плакалі. Прасілі злітасцівіцца...

Ленін давяраў нават важныя пасты людзям, што паходзілі з дваран, калі яны гатовы былі сумленна служыць Савецкай уладзе, калі яны даказвалі гэта. Чаму ж тут нельга было прасейваць з увагай, не спяшаючыся. Узважваць усё, перш чым зрабіць прысуд, да таго ж такі строгі».

«(Трагедыя 1937 года ў асноўным прайшла сярод сялянства, потым перакінулася на камандны склад краіны, на заводы і ў установы)».

«Апейку трэба многа мужнасці, каб заступіцца за нявінна раскулачаных. Каб сказаць цвярозыя словы, за якія навесяць ярлык. Бухарынец!»

«Які ён бухарынец! Хіба ў яго калі было сумненне, што вёску трэба перарабляць. Сацыялістычнай рабіць. Хіба ён не гатовы к бітве з ворагам. Але — ён супраць, каб ворагам аб'яўлялі так лёгка, заніпто. Рашаецца кожны раз лёс чалавека, жыццё. Як жа лёгка яно часам, злачынна лёгка рашаецца! Колькі часам дробнага, бруднага прымешваецца, якое губіць чысціню справы!

Дробны кар'ерызм, імкненне да таннай славы — прымешваецца, падфарбоўваецца, падладжваецца! І як цяжка гэта вывесці на чыстую ваду! Фармальна яны нібы больш адданыя, той, хто крычыць — «ура», заўсёды выглядае больш смелым, чым той, хто хоча аглядзецца, разабрацца. Нібы, каб крычаць «ура», цяпер патрэбна смеласць, як на вайне!.. Цяпер — калі і патрэбна смеласць, дык для таго, каб сказаць: пастойце, не зарывайцеся. Давайце з толкам зробім. З разуменнем усёй справы!..

Чалавек — скарб. Чалавекам нельга кідацца. Увага да яго патрэбна і чалавеку, і справе, і краіне.

І як заўсёды, калі шукаў падтрымкі сабе, успамінаў Леніна. Як ён умеў прылучаць да справы ўсіх карысных людзей. Прылучаць, а не адкідваць!»

Палеміка гэта ў Мележа накіравана не толькі супраць «башлыкоўшчыны», не толькі ў мінулае.

Іван Мележ увесь жыў, кіпеў страсцямі свайго часу, калі многае па-новаму ўзважвалася, пераацэньвалася, і, вядома ж, былі розныя пазіцыі і погляды ў гэтай справе, абуджанай XX і XXII з'ездамі партыі.

Адкрытыя спрэчкі вакол «Подыху навальніцы» вяліся, аднак, больш па лініі мастацкай пабудовы рамана.

Нават тыя, каму і другі раман Мележа быў блізкі думкамі, грамадзянскім пафасам, задавалі сабе і аўтару пытанне: а ці на ўзроўні ён першай кнігі?

Пасля «Людзей на балоце» ад Мележа, чакалі... зноў «Людзей на балоце». І нават патрабавалі. Па праву любві. З усёй прыхільнасцю да Мележа і верай у яго талент. Шчыра палюбіўшы Ганну, Васіля і сам раман «Людзі на балоце» — сапраўды самы

цэласны ў мастацкіх адносінах з ўсёй трылогіі,— нават прыхільныя крытыкі, сябры, чытачы быццам не хацелі ўжо, каб нехта іншы (той жа Апейка) «засланяў» ад іх Васіля, Ганну (ды і самі Куранi), адцясняў іх на «другія ролі», на другі план.

Не ўсімі ўлічвалася (калі не пра пачуцці гаварыць, а ўжо пра тэарэтычную абгрунтаванасць некаторых прэтэнзій да другой кнігі хронікі), што раманы Мележа належаць да той літаратуры, у якой падзел на герояў «галоўных» і «другарадных» чыста ўмоўны. Героі Мележа вельмі лёгка і натуральна маглі б памяняцца (і мяняюцца ў кожным наступным рамане) месцамі, ролямі — «не галоўныя» на «галоўных».

З размоў з Іванам Паўлавічам ужо ў 70-я г. памятаецца, як ён цікавіўся вопытам і прыкладам тых раманістаў (К. Чорнага, О. Бальзака), якія, усё жыццё працуючы над цыклам твораў, імкнуліся, каб кожны твор мог чытацца самастойна — трымаўся на ўласнай, закончанай мастацкай ідэі і на характарах, якія, «дачакаўшыся сваёй чаргі», свайго часу, раптам выступалі на першы план, і ўжо яны вызначалі сюжэт твора...

Калі меркаваць па запісных кніжках Івана Паўлавіча, другі і трэці раманы хронікі спачатку бачыліся яму больш расцягнутымі ў часе: праз усе 30-я гады і аж у ваеннае ліхалецце!..

Вось што запісваў Іван Паўлавіч, яшчэ працуючы над «Людзьмі на балоце»:

«Другі раман. *Усё ў мястэчку. Палескае мястэчка* Хойнікі. Райком і міліцыя. Харчоў. Калектывізацыя, барацьба з кулакамі. Яўхім уцякае ў лес, хаваецца. Першыя налёты банды. Далей — у бандзе. Іх мэты. У раёне — меры барацьбы з бандай.

Трэці раман: пачатак — Валодзя вярнуўся з Масквы, працуе на меліярацыі. Планы асушкі Палесся. Шырокія планы, надзеі. І тут — вайна (першая частка). Другая частка: вайна, мабілізацыя, Хойнікі, Гомель, бой, Васіль вяртаецца. «Яўхім прыехаў». Яўхім на знаёмых месцах. Бацькава сялiба. Злосць — Васіль хаваецца. Трэцяя частка: Васіль і партызаны. Каранёўка гарыць. Апошнія дні перад вызваленнем. Нашы! Калінкавічы, Мазыр. Шырокая карціна, з вобласці: разбурэнне, попел, чорная зямля. У Мінску: «Трэба жыць! Аднаўляць!»

І яшчэ варыянт «трэцяга рамана», які тут называецца «Палеская нізіна»:

«Праблема Палесся — пасля калектывізацыі — стала як надзённая і рэальная. Рашэнню яе перашкаджае тое, што частка — палавіна — захоплена, у Польшчы. Тэма разарванага Палесся. Справядлівасць — верасень 1939 года.

Войскі падцягваюцца к граніцы. Немцы наступаюць. Панская Польшча развальваецца.

Пераход граніцы. Сустрэчы на заходняй зямлі. Першы подых вайны на Палессі — якая пачалася менш, як цераз 2 гады. Першая сустрэча з немцамі. (У арміі — Васіль ці Міканор.)

Яўхім Глушак уцякае — у другі раз гоняць з наседжанага месца...»

Так гэта бачылася ўпачатку.

Той напружаны роздум над самым-самым «пераломам», які ёсць у напісаных Мележам другой і трэцяй кнігах: калектывізацыя, раскулачванне, лёс Васіля, Ганны, Нібыто-Ігната, Глуша-

коў, канфлікты паміж Башлыковым і Апейкам і ўсё іншае — усё гэта ўвайшло ў «Хроніку» (і ў самога аўтара па-сапраўднаму ўвайшло), мабыць, далёка не адразу — ужо ў працэсе працы над «Людзьмі на балоце» і над другой (а пасля і трэцяй) кнігай. Самому важна, і цікава, і неабходна стала: не проста апісаць, як яно было — адбывалася, а ўсё, чым жылі тады людзі — «бацька, маці, родная зямля»,— зразумець, усё прапусціць праз сумленне і сэрца, праз роздум, аналіз, ацэнку. (Бо мы адказваем за ўсё, «што было пры нас», як кажа герой аднаго з твораў гэтага ж часу — Венька Малышаў з аповесці «Жорсткасць» П. Ніліна. Што было пры нас і нават да нас...) Таму і сціснуўся раптам «раманны час» у хроніцы Мележа — да болю сціснуўся. Столькі падзей, драм людскіх і галоўнае — такія, што дай бог пра адзін 1929 год— нават пра паўгода — расказаць у двух (другім і трэцім) раманах!

«Подых навальніцы» — позняя восень дваццаць дзевятага года. А «Завеі, снежань» — наогул адзін месяц гэтага ж, дваццаць дзевятага, той, што названы ў загалоўку...

Хістаўся, прыкідваўся: каб да канца выказацца, можа, даваць адступленні проста ад аўтара, філасофска-публіцыстычна-лірычныя. («Філасофія падзей, філасофія вобразаў, псіхалогіі людзей. Даваць лірычныя, публіцыстычна-лірычныя роздумы, проста ад аўтара — не баяцца гаварыць прама, з болем, з пакутаю, шкадаваннем... Аб жыцці народа, аб падзеях 1937 г. і г. д.»)

І такіх выступленняў, роздумаў — выкарыстаных пасля ў раманах і не выкарыстаных — нямала засталося ў яго запісных кніжках.

«Якія вялікія страты цярпеў рускі народ, наш народ. У войнах, асабліва ў апошніх: страты сапраўдныя, непазбежныя і страты непатрэбныя, калі чалавека зводзілі нізашто... Ламаюць жыццё ім, ламаюць жыццё іх дзяцей, лёгка, не задумваючыся, што рана, якую робяць цяпер бацькам, будзе чутна і іх дзецям, і, можа, іх унукам. Ламаюць, нібы забываючыся, што месца кожнага чэснага чалавека — не заменіць ніхто, што кожны патрэбны чалавек, загублены занішто, гэта злачынства перад народам— злачынства не на адзін дзень, на годы, на стагоддзі.

Спыніся, падумай, перш чым замахнуцца шабляю ці кулаком — ці неабходна гэта: ці вораг той, што перад табою. Ці не таварыш твой — сягоння ці — няхай — заўтра. (Трэба ж думаць і пра — заўтра!) Падумай, ці, страціўшы чалавека, ты не збядніш зямлю сваю, не аслабіш народ на аднаго працаўніка, які нямала яшчэ зрабіў бы для яе хараства, для яе славы».

Нешта сапраўды прагучала потым у «Подыху навальніцы», у «Завеі, снежні» — ад аўтара. Але шырока гэты прыём не выкарыстоўваецца. Чаму? Бо ёсць Апейка, які і сам гэтым жыве, балюча, пастаянна, і можа выказацца. За аўтара? Не, за сябе — у адпаведнасці з характарам сваім, і часам сваім. (Але дзе-нідзе трохі і за аўтара — аб гэтым потым вяліся спрэчкі, у якіх і аўтар «Хронікі» ўдзельнічаў.)

Важна вось гэта зразумець: Апейкава імкненне ўсё асэнсаваць і ацаніць, пафас думання, які пранізвае і характарызуе вобраз Апейкі — гэта перадалося яму ад самога аўтара. Сам ірваўся,

хацеў аб усім выказацца — праз лірычна-філасофскія і публіцыстычныя адступленні. Напружана думаў. Вось і пра гэта: «Як бы пайшло жыццё, калі б у трыццатым быў Ленін... Час і сумленне патрабавалі выказацца. Але адчуў, што няма патрэбы — «ад сябе». Бо ёсць у рамане Апейка — чалавек свайго часу, вядома. Але і ў тыя часы не ўсе па-башлыкоўску радаваліся і нават ганарыліся, што за іх «усё абдумана». Колькі было і такіх, што ад Леніна і ленінскай партыі неслі ў сабе, зберагалі і зберaглі гатоўнасць служыць рэвалюцыі, народу па-сапраўднаму свядома, да канца сумленна. «Ні слова на веру» — гэтыя словы Леніна асабліва былі патрэбны Апейку.

Сіла вобраза Апейкі ў гэтым «пафасе думання», напружанага і пастаяннага — ва ўмовах, калі ўсё, здаецца, патрабуе: няма калі і няма чаго думаць — дзейнічай! Глядзі, як іншыя, нічога не пытаючы, дзейнічаюць — Башлыкоў, Дубадзел, Кудравец, і рабі, як яны!

Але Апейка — сапраўдны камуніст, чалавек сумленны,— так не хоча і не можа.

Ён увесь пранізаны «думаннем» — гэты вобраз. Тут яго навізна для тагачаснай прозы. Але аўтара падсцерагалі і небяспекі — і іменна тут. Іх вельмі чуйна ўлавіў калісьці Р. Бярозкін: «Пісьменніку карцела выказацца па многіх праблемах, і ў радзе выпадкаў ён, не задумваючыся, упаўнаважвае гэта зрабіць Апейку. Той выказваецца, і найчасцей змястоўна, востра, нетрафарэтна, але, на жаль, не заўсёды ёсць адчуванне, што Апейка гаворыць толькі вынашанае і перадуманае самім сабой. Ад разнастайнага мноства праблем вобраз пачынае крыху расплывацца, траціць сваю акрэсленасць, ператвараецца ў даверaную асобу аўтара» (Р. Бярозкін. Час ідзе, раман разгортваецца, «ЛіМ», 1965, 3 снежня).

Мележ не згаджаўся з такімі поглядамі, спрачаўся. «Мяне папракалі, што Апейка вельмі многа ўмясціў у сабе, што ад гэтага ён траціць дакладнасць,— пярэчыў І. Мележ.— З назіранняў над многімі, і не выдатнымі, людзьмі я пераканаўся, які шырокі свет чалавечых думак. Мне здаецца, што мы дарэмна так мала гаварылі пра тое, аб чым і як думае чалавек. Думкі ў чалавечым жыцці, відаць, займаюць не менш месца, чым эмоцыі» («Бачыць глыбока, і шырока»). Гэта гаварылася (інтэрв'ю А. Гардзіцкаму) у часы ўсеагульнага і напружанага думання над усім пражытым, перажытым...

І сапраўды: якраз сваім раманам «Подых навальніцы» Мележ адкрывае новыя магчымасці, шляхі сучаснаму беларускаму раману. І зноў жа, як бы вяртаючы нашу прозу да вопыту класікі, бо мы памятаем, што і коласаўскі Лабановіч жыў у такім жа «шырокім свеце чалавечых думак...»

Але, здаецца, што і Мележ і яго крытыкі — кожны меў пэўныя падставы так гаварыць, пісаць, як яны гаварылі і пісалі. У самога ж Мележа знаходзім запісы «для сябе»: скараціць «Подых навальніцы» «па словах, па фразах...».

Тым больш што ў таго ж Р. Бярозкіна, у тым жа артыкуле чытаем:

«Значыць, Апейка — няўдача пісьменніка? Ні ў якім разе.

Удача, прычым прынцыповая, такая, што адкрывае новыя далягляды праўды ва ўсёй нашай прозе.

Яшчэ раз скажу: нямнога ў нас герояў, якія б так смела, сумленна, з пачуццём высокай грамадзянскай адказнасці пады-ходзілі да самых складаных і супярэчлівых з'яў рэчаіснасці як гэта робіць Апейка...

Людзі, падобныя да Апейкі, стаялі пры самым вытоку нашых агромністых дасягненняў, але і яны ж — і пра гэта, здаецца, першы ў нашай літаратуры гаворыць І. Мележ — бачылі ўзнікненне такіх тэндэнцый, што «поўнілі душу неспакоем, чуццём небяспекі» і сталі прычынай многіх і многіх цяжкасцей пазнейшага часу...

Апейка — галоўны герой рамана «Подых навальніцы», адзін з галоўных герояў рамана. Ён з найбольшай паўнатой выяўляе «народную думку твора...»

Ёсць у артыкуле Р. Бярозкіна «Час ідзе, раман разгортваецца» думка, ад якой хочацца адштурхнуцца, пайсці — у вельмі важным, як нам здаецца, кірунку.

«Няздольныя, натуральна, зразумець адразу дзяржаўны сэнс калектывізацыі, куранёўцы, тым не менш, ішлі ў калгас, бо вельмі ўжо непрыглядным, няпэўным быў іх учарашні дзень, і гэта ярка, у поўнай адпаведнасці з праўдай гісторыі паказвае нам Мележ».

Перш чым прыводзіць словы, запісы самога Мележа — як ён сам усё гэта разумеў, нагадаем такую мясціну з кнігі. А. Кандратовіча пра Аляксандра Твардоўскага:

«У канцы 1953 года Твардоўскага пазнаёмілі з адной цікавай студэнцкай працай, прысвечанай «Краіне Муравіі». Уважліва прачытаўшы яе, ён адказаў А. Р. Дзяменцеву, які прыслаў гэтую работу, грунтоўным пісьмом. Пісьмо гэта здалося Твардоўскаму настолькі для яго самога істотным, што ён папрасіў: «Скажыце, каб знялі для мяне копійку, бо тут «с ходу» я выказваю адну маю думку, што для мяне дарагая». Цікавых думак у гэтым вялікім пісьме не адна. Дык якая ж з іх асабліва дарагая для Твардоўскага? Думаю, вось гэта: «Галоўнае і асноўнае, што яму (аўтару працы.— А. К.) трэба зразумець пры разглядзе кніг, прысвечаных калектывізацыі, гэта вось што. Самы агульны іх (гэтых кніг) недахоп у тым, што аўтары вырашалі пытанне аб уступленні сялян у калгас, зыходзячы з патрэб самой аднаасобнай гаспадаркі (напрыклад, сярэдняй). Маўляў, «з нястачы не выбіцца» і г. д. Дзеля гэтага падкрэсліваліся тыя самыя «нястачы», падводзілася ўсё да таго, што, маўляў, звычайная матэрыяльная зацікаўленасць — асноўны стымул уступлення, напрыклад, серадняка ў калгас. І гэта ў той час, калі мужык меў Савецкую ўладу, атрымаў зямлю, пабудаваў хату з панскага лесу, карыстаўся с.-г. крэдытам і г. д., але галоўнае, канечне, зямля. Ён толькі што пачаў жыць, толькі што паеў хлеба ўволю. І пры гэтых умовах ён мог, па майму глыбокаму перакананню, устрымлівацца ад «камуніі».

Справа не ў мужыку, падкрэсліваў Твардоўскі, хоць літаратура таго часу якраз націскала на гэту мужыцкую неабходнасць абавязкова аб'яднацца і гэтым выратавацца ад спрадвечнай беднасці і нястачы. Разам з зямлёю, якую ён атрымаў ад рэвалюцыі, беднасць пастунова знікала. Але заставаліся і рабіліся ўсё больш

вострымі «нястачы дзяржаўныя»: дробная, раздробленая гаспадарка магла, і нават нядрэнна магла пракарміць селяніна, але яна не магла пракарміць горад, краіну, якая рыхтавалася да гіганцкага будаўніцтва, да індустрыялізацыі і, значыць, да небывалага ў гісторыі краіны росту рабочага класа, наогул гарадскога насельніцтва. «Карацей кажучы, сутнасць у тым,— працягвае Твардоўскі,— што калгасы з'явіліся не з патрабаванняў аднаасобнай (сярэдняй) гаспадаркі, а з агульнадзяржаўнай неабходнасці (адсутнасць таварнага хлеба з ліквідацыяй буйнай памешчыцкай гаспадаркі, дыктат кулацтва і г. д.) «Гэта была (цытую па памяці) рэвалюцыя зверху, праведзеная па ініцыятыве дзяржаўнай улады, пры падтрымцы самога сярэдняга і бядняцкага сялянства...» [1]

З гэтымі словамі, думкамі рускага савецкага паэта, глыбока перажытымі, раманы Івана Мележа пераклікаюцца ўсім зместам сваім.

Але прывядзем і некалькі запісаў яго: усё тая ж спрэчка, вострая нязгода Апейкі і Башлыкова.

«Апейка (Башлыкову ці Харчаву): «Прымусіць (пайсці ў калгас) не цяжка, паверыць павінны,— трэба дабіцца».

...«Прымусіць можна, улада ў нашых руках: уся соль у тым, што каб паверылі! Паверылі ў справу гэту. Каб справа гэта стала справай сэрца людзей. Гэта задача — цяжкая, бо вялікая і новая. Чалавек аддаць павінен ледзь не ўсё, ва што верыў раней, да чаго звык,— самае дарагое, зямлю, набытак, чым жыў усе гады, чым жылі бацькі і дзяды, у чым бачыў сэнс жыцця, зямлю, карову, каня, калёсы — аддае з поўнай доляй — напавер, бо шчасце калгаснае — пакуль што толькі нашы абяцанні, бо жыццё гэтае зусім яшчэ не вядомае яму, нерэальнае. І гэта пры добра вядомай сялянскай практычнасці, недаверлівасці! Таму трэба — каб ён паверыў новай справе, паверыў нам, а для гэтага, між іншым, трэба — і каб мы верылі яму! Верылі, што ён таксама мае права на развагі, на роздум, на сумненні, што ён мае права на ўсе чалавечыя пачуцці, бо ён — чалавек! Верылі і разумелі яго — ведалі, што яму не лягчэй, як нам, што яму — цяжка! Да адчаю *цяжка!* Цяжэй, чым нам, і найперш таму, што ў яго няма такога пераканання, як у нас, той яснасці, і таму, што пры гэтым яму трэба ісці на такую ахвяру!

І ўсё ж — як ні цяжка — ёсць адзін сродак: пераканаць, дабіцца, каб паверылі! Толькі там, дзе вера, дзе душа ўся, будучыня калгасаў надзейная!.. Толькі там, дзе ўсё, што мы робім, чалавек лічыць — і сваім, кроўным!.. Вялікая рэч: вера! Вера чалавека, вера народа!

— Ідэаліст!»

Апошняя рэпліка, зразумела, належыць Башлыкову.

«Башлыкоў,— піша Мележ,— у глыбіні душы лічыў, што раскулачванне — патрэбная, справядлівая справа: падраўняць трэба, але таксама ж лічыў ён і тое, што раскулачаныя не з'яўляюцца вялікай пагрозай калгасам, таму новаму, што ўваходзіла ў сяло; ён верыў, што і ў саміх сялянах, і ў міліцыі, і ва ўлады ця-

[1] Кондратович А. Александр Твардовский. Поэзия и личность. М., «Худож. лит.», 1978, с. 93—94.

пер дастаткова сілы, каб пры патрэбе прысмірыць іх. І ў саміх фактах раскулачвання і ў ссылках ён бачыў тое, што, як ён лічыў, бачылі і іншыя разумныя людзі, але пра што яны тактоўна змоўчвалі, пра што не трэба было казаць...— што ён называў сам сабе палітыкай. Гэтае скрытае, палітыка гэтая, уяўлялася Башлыкову, была ў тым, што раскулачванне — дасць пачуць, што ўлада не збіраецца чыкацца, цырымоніцца,— дасць пачуць не толькі кулакам, але і астатнім сялянам. Тое, што гэта падзейнічае на іншыя пласты сялян, Башлыкову здавалася вельмі важным для цяперашняга моманту, нават самым важным. Раскулачванне, ссылка — падахвоцяць вельмі многіх да калгасаў: небяспека папасці ў далёкі край каму не паддасць ахвоты! Вось у чым бачыў Башлыкоў той няпісаны, маўклівы, але ясны кожнаму палітычна разумнаму чалавеку закон, які Башлыкоў і лічыў палітыкаю».

* * *

Надрукаваўшы «Подых навальніцы» — раман няспешнага, але вострага роздуму, аналізу, спрэчкі, твор глыбока аналітычны і палемічны, паспяхова вырашыўшы вельмі складаную мастацкую задачу, не вельмі для беларускага празаіка звычную, Іван Паўлавіч пачаў «зблізку» прыкідваць: як і на чым, «на кім» будаваць трэцюю кнігу хронікі?

Першая кніга ўся вырастала з пачуцця роднасці з «людзьмі на балоце», будавалася на моцных, адкрытых Мележам, але і ў нечым традыцыйных для беларускай літаратуры характарах людзей і народа, сялянскіх тыпах, на паэзіі працы, першага кахання і г. д.— павольнае, грунтоўнае пісьмо, з няспешным заглыбленнем у людскія перажыванні, звычайныя сялянскія клопаты і радасці...

Кніга другая — уся ўдумлівасць, пакутлівая развага, няспынныя пошукі адказаў. І таксама павольнасць, грунтоўнасць, няспешнасць...

Трэцюю пісьменнік убачыў іншаю — сваю апошнюю, так і не скончаную, кнігу, якую назваў «Завеі, снежань»...

У 1967 годзе ён запісвае:

«Трэці раман пісаць больш сцісла. Кампактна. Можна ўжо не тлумачыць — рыхтаваць: усё падрыхтавана.

Больш дзеяння. Карціны — падраздзелы — дзеянне.

Час перамен. Усё рушыцца, мяняецца. І гэта трэба ў кампазіцыі. Змены, змены, змены.

І не траціць глыбіні».

Аб гэтым жа і гэтак жа — у 1969 годзе:

«Пісаць — *уперабіўку — розныя раздзелы,* у розных месцах. Не трымацца паступовасці ў пісанні рамана. Каб не стамляцца аднастайнасцю. Разнастаіць характар пісання. Тут напісаў, у іншым месцы трохі. Каб была навізна. Новае старацца пісаць адразу. Запісваць абавязкова *па гарачых слядах*».

«...Можа быць, варта прыехаць у Малееўку (ці Перадзелкіна) летам. Тут — ціха. Адгарадзіцца ад усяго і — пісаць, пісаць.

Хадзіць у адзіноце, думаць у адзіноце, тады — к сталу.

Год — і лета — для рамана. Трэба фарсіраваць яго. Канчаць трэба».

У цэнтры куранёўскага жыцця і аўтарскай увагі ў «Людзях на балоце» — Васіль і Ганна.

У цэнтры жыцця і падзей «Подыху навальніцы» — Апейка.

У рамане «Завеі, снежань» цэнтральным, галоўным вобразам становіцца Башлыкоў.

Вядома, у кожным з раманаў ідэйна-кампазіцыйная роля ўсіх важнейшых вобразаў таксама велізарная, і найчасцей не адзін персанаж, а два ці тры — на першым плане (Апейка і Башлыкоў — у «Подыху навальніцы», Башлыкоў і Ганна, а таксама Апейка — у «Завеях, снежні»), і ўсё ж пераход да кожнага новага рамана азначаў і новы акцэнт — на тым з герояў, праз каго аўтарская ідэя і сам «подых часу» маглі выявіцца найбольш поўна і моцна.

«Башлыкоў (у лютым) адчувае: **сіла ў яго.** Вунь як павярнуў народ, масы. Ён уяўляе сябе ўжо больш высока — сярод масы. Здатны і на большае, усё бачыць.

Кіруе ўсім.

Звысака на Апейку. (Значнасць у паходцы Башлыкова, гаворыць мерна, значна)».

Такім бачыцца пісьменніку Башлыкоў у гэты халодны, «завейны» час — у канцы 1929 — пачатку 1930-га. Гэта «яго час». Так здаецца Башлыкову.

Такім сустрэла, убачыла яго і Ганна: моцным, упэўненым у сабе. Чалавек, які ведае, што рабіць, як жыць!.. А яна сама, Ганна, на раздарожжы: пакінула хату Глушакоў, жыве ў настаўніцы Парасні, працуе ў школе прыбіральшчыцай. А ў сабе носіць дзіця Яўхіма...

І не дзіўна, што пацягнулася як на свет, на надзею — да такога чалавека, як Башлыкоў. Тым больш што адчула зноў сілу сваёй жаночай прыгажосці...

Іван Мележ, несучы ў сабе пакутлівую радасць-думку пра новы «палескі раман», унутрана не расстаючыся ні на хвіліну са сваімі палешукамі, тым не менш некалькі год,— такіх важных для яго, апошніх год — аддае іншай працы — таксама для яго важнай. Ён працуе над новай рэдакцыяй «Мінскага напрамку» — спачатку для рускага выдання, а потым і для новага беларускага.

Але ўвесь час помніць пра Ганну, Башлыкова, Апейку, Васіля, Дубадзела, Глушакоў — запісвае, робіць накіды, абдумвае, прыкідвае...

«Башл[ыкоў] здольны моцна хацець. Таму яму **цяжка** ўтрымлівацца. Таму і не ўтрываў аднойчы».

«**Даць:** Бышлыкоў любіць Ганну, але імкнецца пераадолець. Для яго любоў гэта — як *наваждение*.

Яна недазволеная. «Была за кулаком», «звязана з кулаком». Яму балюча, але ён хавае. У імя ідэі.

(Ён нападае на Апейку, што заступіўся за Ганну. Спрэчка ў іх. Апейка лае яго. «Фармальна яна — падляжыць...» Башл[ыкоў]. Апейка злосна. Б[ашлыкоў] адступае)».

«Ён здольны моцна адчуваць.

Яго цягне да яе, як атрута. Ён думае пра яе, марыць быць з ёю. І тое, што гэта немагчыма, яшчэ распальвае агонь яго.

Цікава гэта: дэфармацыя пачуцця з-за ілжыв[ай] філасофіі».

«Башлыкоў з Ганнай суха, строга. Як бы знарок — цвёрдасць. Жорсткасць. Грубаватасць.

Яна яму тым жа, задзірыста: задзявае яе гонар.

— Сашліце, таварыш сакратар. Жонка ж я кулака. Пэўне, свет вам зазасціла?

Яе прамата збівала яго.

Сіла была ў ёй нейкая.

І ў ім была сіла.

А без яе — пуста было. Цягнула да яе дзіўна.

Што ж гэта такое?!»

Спачатку не было намеру лінію гэту (Башлыкоў — Ганна) даваць «першым планам». Тое, што складае асноўны змест надрукаванага Мележам рамана «Завеі, снежань», спачатку бачылася вось так:

«Пра гэта Башл[ыкоў] — Ганна — даваць небагата. Каб не выпіраць. Гэта — *другі, трэці* план.

У лініі «Ганна — Башлыкоў»:

увесь час даваць адчуць: Башл[ыкоў] *не баіцца*, ён не баязлівец; уся прычына асцярожнасці, затоенасці, скрывання — у тым, што для яго гэта — забароненае пачуццё. Уласнае, непатрэбнае, адцягвае ад галоўнага. Пярэчыць уяўленню пра ідэальны вобраз, да якога ён імкнецца».

«Башл[ыкоў] забівае сваё пачуццё да Ганны.

Аскетызм, як ідэал. Норма жыцця (і апаска — нячыстая біяграфія?)»

Цікава, што Апейка і тут — і ў стаўленні да Ганны, нават у пачуццях да яе — супрацьлегласць Башлыкову. І нават трохі «супернік». Вядома, толькі па пачуццях. Любуецца ёю «бескарысліва».

«Апейка таксама тайна закаханы. Любуецца. «Паспяшаўся нарадзіцца!» Калі яна: «Ой, як вам падзякуваць». (За тое, што выратаваў яе ад раскулачвання, якое падстроіў Дубадзел.— А. А.). «Пацалуй толькі». «Усяго». Цалуе яго. «Самы вялікі дзякуй». Смяецца: «Каб маладзейшы быў».

Ён заехаў да Шуры з Башлыковым. Настроіўся: быць стрыманым, не паказаць прыхільнасць. Каб Баш[лыкоў] не заўважыў.

Але Баш[лыкоў] сам захапіўся. Як перамяніўся перад Ганнаю. Роспыты. Смяецца голасна. Рубаха-парень. Ходзіць стройна, кожная жылка іграе. Вочы гараць.

«Прыгожы» — падумаў не без здзіўл[ення] Апейка. І нават нібы з зайдрасцю.

І прывабны...

З чулай зайздрасцю адчуў, што і Ганне ён даспадобы. О, Башл[ыкоў] мог спадабацца, калі хацеў.

Ехалі са школы. Маўчалі.

— Д-да, гэта — штука,— засмяяўся Башл[ыкоў]. Смех здаровы».

«У канцы (шчыра): «Табе жыццё зрабіла такі падарунак. Такую жанчыну. Якую нямногім выпадае сустрэць. А ты!.. Сам адкінуў!.. З вопытам, з галавой!.. Не разумею!..»

У канцы кнігі (II ч.), калі Башл[ыкоў], ад'язджаючы, прызнаўся, прапанаваў Ганне... «Адмовіла».

«Насмешліва і з гонарам. «Вы ж мне ніколі не даруеце, што я была кулачкай».

Адносіны Башлыкова да Ганны і да свайго пачуцця — гэта яшчэ адно (у маштабах усёй «Хронікі») выпрабаванне яго на чалавечнасць. Якога ён таксама не вытрымаў.

Як не вытрымаў першага.

А першае і галоўнае — адносіны яго да той справы, якой лёс ці выпадак паставілі яго кіраваць, да сялян (і наогул людзей), якіх ён павінен «весці да лепшага і больш чалавечнага жыцця».

Калісьці наш Міхась Зарэцкі ў рамане «Вязьмо», здаецца, ці не першы ў савецкай літаратуры, пішучы пра калектывізацыю, убачыў, напісаў пра чалавека (Сымона Карызну), якому выпала клікаць і весці сялян да новага жыцця і які гэтых сялян ужо ненавідзіць, бо баіцца за свой уласны лёс. Ды і міжволі пачынае вышэйшым сябе лічыць за тых сялян: бо такія ж яны «цёмныя», «дурныя», «няспрытныя» на той дарозе, якую ён перад імі «адчыняе».

Вядома, і прыклад, адкрыццё Міхася Зарэцкага мелі значэнне, калі Мележ пісаў свайго Башлыкова: раман Зарэцкага ён высока ставіў, цаніў. І іменна за грамадзянскую мужнасць аўтара, за пачуццё праўды, справядлівасці ў адносінах да сялян. А тады ж, у 20— пачатку 30-х, асабліва лёгка кідаліся літаратары словамі «ідыятызм», «цемра», усё імі тлумачылі, і мала хто спрабаваў па-сапраўднаму і справядліва ўзважыць і ацаніць паводзіны вяскоўцаў у тых умовах — з улікам усёй сацыяльнай і псіхалагічнай складанасці і няроўнасці вёскі.

У запісных кніжках Іван Мележ не раз да гэтага вяртаецца, робячы накіды да хронікі.

«Калектывізацыя ў нас прайшла знешне спакойна. Без асаблівых выступленняў. Галоўнае, што праявілася — *пакорлівасць сялян... Верачы* ў душы, было *раней* — не прапалі. *Не прападзем і цяпер.*

У адных была вера, у другіх — ілюзіі, што ўсё цудоўна і зразу пойдзе ўверх, у другіх — большасці — паслухмянасць, пакорлівасць. (Не драматызаваць дзеянне штучна?)

Гаварылі аб уласніцкай душы селяніна, аб ідыятызме. А чаму ніхто не сказаў аб яго надзвычайнай самаахвярнасці. Чаму ніхто не сказаў, што калектывізацыя патрабавала ад селяніна надзвычайнай, непараўнальнай ні з чым самаахвярнасці. Аддаць зямлю, аддаць інвентар, усё набытае жыццём — не маючы цвёрдых гарантый, за выключэннем слоў абяцанняў — колькі на гэта трэба самаахвярнасці!

Кланяюся вам, людзі трыццатага года!

Самаахвярнасць, веліч душы працоўнага народа. От пра што не гаварылі. А колькі яе было і якой вялікай, калі гадамі рабілі, не атрымліваючы ўзамен ні капейкі, у вайну, калі, забыўшы

ўсе крыўды, аддавалі апошняе партызанам, рызыкавалі смяртэльна, ішлі на смерць!

Вялікі ты, праўда, вялікі душою, народ!»

А вось як разумее сваю ролю, місію сваю Башлыкоў, як адносіцца да людзей, да справы — гэта таксама з запісных кніжак І. Мележа, у якіх пісьменнік занатоўваў для сябе ўсё новыя і новыя грані характараў, думак, паводзін сваіх персанажаў:

«Жорсткасць — націск. Якое тут будзе дабро — з-пад прымусу.

Але і без прымусу — як выканаеш такое заданне!

Трэба тэмпы. З акругі патрабаванне: давай. Давай зводку. У зводцы і так дутыя працэнты. Падбаўлена. Прыедуць, праверацьбудзе. Так, так, ён разумее — трэба тэмпы. І рашэнне ёсць рашэнне».

Башлыкоў раскручвае калясо, махавік, але і самога яго той махавік носіць-круціць, як трэску...

«І калгасы, якія ёсць—ліпавыя. Так, для прыліку. Для паказу.

Ашуканства адно. Партыю ашукваем. Як цярпець такое?

Злосць у яго была яшчэ такая гарачая, што ён не мог разважаць, разбіраць. Ды і стома была вінаватая. Пасля нядаўняга ўздыму навалілася, ціснула. Злосць мяшалася са стомаю, атупеласцю.

Так, кубло. Усё заражанае паганым, кулацкім душком. Нават бядняцкая частка заражана. Ці — баіцца, настрашаная кулаччом... «Вылезлі. Што ж, тым лепш. Вайна ў адкрытую. Тым лепш! Ударам на ўдар! Трайным ударам на паганы ўдар!»

(Яму лёгка). У злосці ён чуе стому ў сабе, у сваёй уладзе. Трайным ударам. Ён не ўдакладняе, як гэта будзе: злосць і стома, але, ён ведае: гэта будзе. Трайным ударам.

Вецер сячэ, холад прабірае. Здаецца, бярэцца зіма як належыць. Не хочацца думаць глыбей: са злосцю грозіцца ўпаўзці страх: чуецца — бяда. Катастрофа. Развал калгаса ў такі час. Таптанне на месцы ў другіх. Дзе ўсё трымаецца на вялікім напружанні. Дзе таго і глядзі, як бы гэта не падзейнічала на іншых!

Трайным ударам! Ах, як ён нацяты ўвесь час. Здаецца, няма ўжо моцы трываць! Жывеш над меру, над сілу!

Доўга не адчынялі. Спяць.

Думкі, думкі зноў. Больш цвярозыя і таму вастрэй калолі. Заўтра вядома будзе ў акрузе. Не пагладзяць.

Мужыччо. Успамінае: «Ето па закону!» «Няма такога права!» — «Няма права». Мы вам пакажам права! Закон пакажам!..»

«Шляпы! Давялі! — да Гайліса, Міканора. Пра Чарнаштана: мякіш. Упартасць мужычая — слепата. Ён амаль ненавідзеў гэтае мужыкоўскае, сляпое. Нянавісцю, як ён лічыў, пралетарыя. У гэты час усё мужыцкае ў яго думках злівалася з кулацкім. Адзін чорт! Адным маслам мазана.

Трэба сягоння ж прыняць меры,— думкі ўзялі на цвярозасць. Сёння, неадкладна. Зразу, як прыйду, выклікаць Харчава. Усіх злосных запявал ізаляваць. Пакараць! Бой кулацкай анцімоніі!.. Падаткамі прыціснуць трэба! Хадзіў. Курыў. Адну папяросу, другую. У белым, басанож.

Пад самы ранак зваліўся без сіл. Забыўся на гадзіну ў сне».

Цікава (калі ўжо параўноўваць «Палескую хроніку» з раманам «Вязьмо»), што сітуацыі «Башлыкоў — Апейка» ў Мележа і «Карызна — Зелянюк» у Зарэцкага выглядаюць як палемічна-адваротныя. У Зарэцкага чалавек з горада, рабочы Зелянюк — носьбіт «правільнай лініі», і, вядома, ён бліжэй да аўтарскага разумення сітуацыі, да аўтарскага погляду на сялян, адносін да іх. Інакш і не магло быць у тагачасным творы. Ну, а вясковы інтэлігент Сымон Карызна, вядома ж, нясе ў сабе яўныя і тайныя «плямы» сялянскага паходжання.

У яго (як у Апейкі — брат) бацькі акулачыліся, а гэта пасяліла ў душы страх за сябе і як вынік — нянавісць да вяскоўцаў, што «перашкаджаюць» яму праявіць, паказаць палітычную адданасць справе...

У раманах Мележа ўсё наадварот, і гэта не толькі ад аўтара залежала, але і адзнака самога часу — другой паловы 50—60-х і 70-х гадоў — калі пісьменнік мог дазволіць сабе адысці ад самых трывалых схем, нават ад гэтай, за якой аўтарытэт самой «Узнятай цаліны»! Не гараджанін, не рабочы Башлыкоў, а былы сялянскі хлопец і вясковы настаўнік Апейка — вось хто выразнік ленінскага стылю працы, адносін да людзей, а для аўтара самы блізкі (ідэйна і псіхалагічна) чалавек у рамане.

У запісных кніжках Івана Паўлавіча мы знаходзім такія вось разважанні ў гэтым кірунку:

«Башлыкоў лічыў сябе вышэй Апейкі. Перш за ўсё таму, што ён сын рабочага класа, а гэта ўжо само ставіла яго вышэй ва ўсіх адносінах. (Тады гэта быў агульны погляд).

Ён лічыў, што ў Апейку гаворыць яго сялянская стыхія».

«У той час адзінай характарыстыкай чалавека лічылі яго сацыяльнае становішча. Сац[ыяльнае] становішча рашала ўсё: рабочы — аснова, ідэал, селянін — двудушны, служачы — чалавек, на якога пільна глядзець. А жыццё паказвала: хоць у асноўным гэта правільна,— рабочыя не былі падобны адзін на аднаго, і сяляне розніліся, і служачыя — кожны на свой капыл.

І не было зразумела: чаму партыю стварыў, стварыў яе вучэнне чалавек не рабочы, інтэлігент, дваранскага паходжання, чаму кіруючае ядро ў ёй — якое ішло на смерць, на ўсе ахвяры — былі інтэлігенты, тыя самыя, якім асабліва цяпер не верылі, калі партыя працавала ў куды больш лёгкіх умовах. Цяпер такіх, як тыя светлыя, слаўныя і да партыі не дапусцілі б — бо яны па сацыялагічнай схеме — былі ненадзейнымі.

Цікава ўявіць, як бы паставіліся да такога чалавека як Ленін, калі б гэта заява была падведзена ў гэты час (у 1929—1930 годзе). Цікава, як бы выглядаў Маркс на чыстцы са сваім сацыяльным паходжаннем?

Не, гэта не паказвала слабасць ні ленінскага, ні марксавага вучэння. Гэта паказвала, што нельга яго талкаваць спрошчана, прымітыўна.

Гэта паказвала, што нельга яго разумець вульгарна. Гэта паказвала, што вульгарны сацыялагізм — небяспечная рэч.

Ленінізм — метад, якім трэба было карыстацца ўмела, улічваючы разумна сувязі шматлікіх жыццёвых акалічнасцей, помнячы пра галоўнае, стараючыся быць на ўзроўні вялікай справы».

Але пабудаваўшы сітуацыю Апейка — Башлыкоў «палемічна-наадварот», у параўнанні з літаратурнай традыцыяй ранейшых дзесяцігоддзяў, Іван Мележ не стварае новай, адваротнай схемы. Ён удала пазбег гэтага.

Вобраз не толькі Апейкі, але і Башлыкова ў яго па-мастацку шматфарбны, жывы, супярэчлівы, як само жыццё было супярэчлівым.

Пагрозу ўзнікнення новай схемы ён добра адчуваў і свядома імкнуўся гэтага пазбегнуць. А спосаб выкарыстоўваў, адкрыты яшчэ класікамі рэалізму: у добрым адшукай таксама і злога, у злым — добрага, у жалезным — мяккасць, у мяккім — цвёрдасць!

«Наогул адолець: Башл[ыкоў] не павінен быць плоскім. Складаны, супярэчлівы. У яго ёсць свая чалавечнасць. Свая бяда, і не адна. Побач з чорствасцю.

Недзе даць яго на адзіноце. У роздуме. На раздарожжы. (Можа быць, пасля таго, як знялі.)

І — у гісторыі з Ганнай. Калі думае, што рабіць».

«Наогул, ён уражаны складанасцю сітуацыі, у якую трапіў. Пакутліва кідаецца. Толькі паказвае сябе каменным.

З-за віду часта лезе на сцяну. Каб не паказаць слабасць сваю».

«Даць мінулае Башлыкова. (Прадумаць вобраз. У ім павінна быць свая чалавечнасць)».

«У Башлыкова — маці, хто яна. Хворая? Сястра? Гарбатая. Брат?

Ён пасылае маці грошы. Хоць сам жыве нешырока. Адрывае ад сябе. Любіць яе, шкадуе.

(З братам здарылася нешта?.. Вучыцца. Галадае.— Ці ўкраў з голаду. Пасадзілі?)

Сам Башл[ыкоў] — галоднае жыццё. Туберкулёз».

«Рана працаваў, цяжка. Жыў, як аскет. Выбіўся.

На заработках у багацея. Той здзекаваўся, біў.

Хоча перавезці маці. Але сястры трэба вучыцца. Брат там. Маці не едзе. Пры меншых.

Дзеўка была. Кінула. Замуж за другога пайшла. Ашукала».

«Не можа забыць. Падазроны таму па гэтай часці. (Гэта накладвае адбітак і на яго пачуццё да Ганны.) Ён чысты ў адносінах да жанчын. Ёсць сарамяжнасць нават».

«Што Башлыкоў ведае пра сялян. (Даследаваць.)

Галадалі ў горадзе. На базары сяляне — дралі, як маглі. Непрыхільнасць. Чужы свет.

Чытаў. Двудушнасць. Уласнік. Цемра. Кулацтва — у іх асяроддзі.

Загадзя — адчуванне вышэйшасці перад імі. І чужасці да іх».

«Нечалавечае напружанне работы, часу (райком). Башл.— нервы напружаны, усе сілы на зыходзе. Стома, і спаць не можа.

Пра Ганну думае. Як зараза — не пакідае яна».

«Самаадданасць Башл[ыкова], (а ў ёй і кар'ерызм)».

Вось так нацэльвае сябе мастак: шукаць, знаходзіць, заўважаць і падкрэсліваць у Башлыкову неадназначнасць, «слабасці» (нават з пункту гледжання яго самога), якія б наблізілі яго да чытача, давалі б чытачу магчымасць недзе і пашкадаваць яго, нешта заўважыць, зразумець у гэтым чалавеку спачувальна...

Затое Апейка — добры, разумны, мяккі — не павінен стаць нейкім «воблакам у штанах», і пісьменнік імкнецца шукаць і знаходзіць у яго паводзінах, характары яшчэ і цвёрдасць, сілу, «больш праматы»...

«Апейку *больш праматы.*

— Я браў бы з іншага боку... Помніш, тры месяцы назад быў Чарн[аштан] тут. Ён гаварыў недавольны: «Хто працуе, хто — не, адно. Усім палачка». Што змянілася? А гэтым недавольны ў многіх к/г.

— Адсталыя настроі.

— Мы самі больш за ўсё шкодзім. Сабралі. Не ўмеем гаспадарыць. Дысцыпліна, парадак. Наладжваць гаспадарку. Інакш паляціць усё к чорту. Сёння «Рассвет», заўтра. Ты ўпэўнен. А мы працэнты лічым. Як кура кураняты.

— Тэмпы. Усляпую. Пара ўжо высветліць, што абагульняць.

— Ясна. І тут у цябе — тэндэнцыя патакаць адсталым, уласніцкім настроям.

— У другіх не робяць так. І правільна. Столькі крыку з-за дробязі.

— Ты ўсе недахопы звёў да гаспадарчых. Змазаў палітычны характар таго, што адбылося. Гэта палітычная з'ява. Перш за ўсё.

— Гаспадарка і ёсць палітыка. Нельга помсціць. Нам паверылі, а цяпер».

«Леніна чытае. Выпісвае. У Леніна не так. Вось як у Леніна. Што рабіць? У ЦК напісаць. У акружком».

«Спрабуе з работнікамі Акружкома.

— Што, ты думаеш, там не ведаюць. Сталіну зводкі кожны дзень.

— Пісалі».

«Апейка. Няяснасць, неразбярыха. Усё пытанні, пытанні. Аплата — як, няясна. Едакі, цягло, па паю? Няма ясных указанняў.

Усляпую. І другім няясна».

«І гэтыя гіганты. Ці так гэта абавязкова. Калі кадраў няма? Няма вопыту?

Як кіраваць у іх? Як наладзіць такую агромністую машыну?

— На свой маштаб мераеш. Прывыкаць трэба да новых. Спачатку ўсё страшна».

«Прыходзяць да Апейкі жанкі з плачам. Усё забралі. Курэй не аставілі».

«Апейка не раз выяўляе волю, цвёрдасць. На чыстцы не прызнае віны. За брата, за заступніцтва. З годнасцю трымаецца».

«Цвёрдасць у абароне Гайліса».
«Прамата ў цяжкія моманты. Нават рэзкасць».

«Паказваць цвёрды характар. І чэсны. Разумны, цвёрды, чэсны».
«Нянавісць да кар'ерыстаў, да прыспасабленцаў. «Слізнякі!» Да паказухі нянавісць».

Так, не адназначныя ілюстрацыі да «аўтарскай ідэі», а жывыя людзі яны — і Апейка, і Башлыкоў. Па задуме. І па рэалізацыі— у творах напісаных.

Калі браць іх індывідуальны лёс — як ён бачыўся Мележу — дык ніхто з іх не можа лічыць, што канчаткова ўзялі верх яго погляды, яго «лінія». Башлыкова, праўда, пасля артыкула Сталіна «Галавакружэнне ад поспехаў» здымаюць «з трэскам» з пасады. І пісьменнік хацеў яго — гаварыў не раз пра гэта — «адправіць назад у Гомель». А ў 1937 годзе Башлыкоў яшчэ раз пападае пад той махавік падазронасці і парушэнняў законнасці, які і сам старанна і пераконана раскручваў, не ведаючы, куды гэта прывядзе («У 1937 годзе,— запісвае І. П. Мележ,— пасадзілі Башлыкова і Галенчыка»). І Апейка не ведаў гэтага, і лёс яго такі ж... Але ён з ліку тых камуністаў-ленінцаў, якія, па думцы І. П. Мележа, ужо ў 1929-м, спрабавалі, пакуль не позна, спыніць цяжкае кола той падазронасці і тых парушэнняў... («Ён (Апейка — А. А.) не быў прарок, не было яшчэ 1937 года, але былі блізарукасць і чэрствасць, былі ўлада і сіла ў людзей, якія» ...на гэтым запіс абарваны).

Пішучы пра «завеі і снежань» 1929-га, Мележ бачыў працяг жыцця, лёс сваіх герояў у часе. Там, дзе не Башлыкову ўжо (і тым больш не Апейку) стаяць у цэнтры падзей (і магчымага будучага рамана), а можа, Дубадзелу з Харчавым.

А хутчэй за ўсё — зноў Васілю. І зноў жа — Ганне («доля жанчыны, жонкі-маці, пакутніцы»). Бо яны — народ, і яны застаюцца.

У запісной кніжцы: «1968—1969—1970 гг.» (сярэдняга памеру блакнот у чырвоным каленкоры, зроблены да 50-годдзя БССР) ёсць накіды і план рамана-эпілога.

«Чацвёрты раман — раман-эпілог.

Ці можа 2—3 маленькіх аповесці?
1935—1945— ці да нашых дзён
Раздзелы ад ранейшых.
Лёс тых жа герояў.
Як вынік ранейшых, развіццё.
Невялікі, арк. 10».
«Назва «Некалькі дзён з многіх»
ці «Водгулле».

«Узяць некалькі вузлавых падзей з лёсу герояў».

Які ж лёс герояў «Хронікі», асноўных, і як ён бачыўся (не канчаткова, вядома) Мележу?

Заглянем у яго запісы розных год...

«Выключаюць з партыі Апейку».

«У сувязі са справай Апейкі, робяць запытанне ў сельсавет (цяпер там — пасля Міканора — зноў пільны Дубадзел) — пра Васіля. Дубадзел дае адказ: ненадзейны».

«Выклікаюць на допыт Васіля.

Трывожнасць яго: зноў Маслака прыпамінаюць».

«Гайліса арыштавалі, як шпіёна. Думае, што памылка. Чакае, што вызваляць. На допыце — упэўнены, цвёрды.

Трывожнасць Ганны: Яўхіма напамінаюць. Як на здзек. Міканору віну прышпілілі за Яўхіма. Як за таварыша якога.

Але Міканор малайчына: не ўпікае яе! Не траціць весялосці: высветліцца ўсё, быць не можа! Прабачэння прасіць будуць! Нешта ж не просяць! Канешне, на душы яго нялёгка, але маўчыць».

«Зноў вылез наверх, забраў уладу Дубадзел. Яго пара! Пільнасць, цвёрдасць. Цяпер пільны і цвёрды — як ніколі».

«Размова калгаснікаў пра Леніна і Сталіна».

«У 1940 годзе Апейка быў на пасяджэнні Савета Народных камісараў аб Палессі (у Маскве).

Пасля пасяджэння пачуў: — Мудры! Шырыня якая! Размах. Геній.

Апейка — сумненні аб асушцы. Ці не спрасцілі праблему?.. Успамінае: 1936 год.

Хто вінаваты за гібель людзей?..»

«Харчаў становіцца вялікім начальнікам — па лініі НКВД. Спачатку — у вобласці, потым у Мінску.

Цвёрдасць, непахіснасць. Акружэнне, ворагі народа. Ніякіх сумненняў. А за гэтым — кар'ерызм. Але кар'ерыст — не баязлівы, смелы, рашучы.

Адчувае, што лёс узняў яго на хвалю гісторыі».

«...Васіль у першы год у калгасе вельмі стараецца рабіць. Вельмі прымае да сэрца нелады калгасныя».

«Увесь год Васіль з дня ў дзень шчыраваў: на сяўбе, на касьбе, на малацьбе. Абгарэў, абарваўся: пабольш бы зарабіць. Працадні ўсё раслі. Думаў, што палучыць. Выходзіла многа. Ураджай на рэдкасць. Зерне, як боб. І жыта, і пшаніца, і ячмень. Надвор'е прыяла. Гаворка ў людзей вясёлая... І картопля ішла добра... І Міканор (ці *новы* старшыня) вясёлы. Падбадзёрваў. Канешне, былі і такія, што не верылі, што пабойваліся: не можа быць, каб так добра ўсё. Але надзеі былі вясёлыя. І Васіль чакаў размеркавання з нецярплівай вясёлай надзеяй.

І ўсе надзеі рушыліся ў адзін дзень. Трэба здаваць нарыхтоўку звыш плана. Здалі. Усё падчыстую вымелі, хоць людзі коса глядзелі і крычалі; крычалі не вельмі — вучаныя былі ўжо. І знікла радасць, і надзеі як не было. Скамячыў Васіль ліст паперы, дзе выпісваў дзень за днём — што рабіў. Кату пад хвост.

От яна, твая праца! Твая зямля!

Якая і была надзея на калгас — прапала ўсё. Уся надзея была

на кавалачак зямлі — трыццаць сотак — якая яшчэ была сваёй. Якая не падмане. На якую спадзявацца можна. На адну яе.

Ды на садок свой — грушку, вішанькі, яблыні. Ды на свінню і падсвінка».

«На другі год ледзь не выганялі з хаты: ніхто не ішоў. Усе выкручваліся: той хворы, той не ўмее. На полі — спяць упокат на сонцы.

Поле ледзь пасеялі. Праполка не ідзе — усё аж жоўтае ад свірэпкі.

Усё лета крычаў Міканор. Бегаў па хатах, газіўся. а) «Не крычы. Не паншчына. Не маеш права. Добрая воля — калгас. А як няма волі, няма ахвоты — дык не лезь!»

б) «А якога чорта буду рвацца. За што? Штоб і дзякуй не сказалі». «Дзякуй скажуць!» — другі памог. «Скажуць. Няхай пацалуюць!.. Вельмі мне трэба тая дзяка іх! Сыты з яе будзеш!.. Яны — дзякай кормяць!..» «Ордэн зарабіў унь — начальнік!»

Тады Міканор паабяцаў, што не дасць вымесці ўсё, што дасць зарабіць. Людзі амаль не верылі. Абяцаў. Ведаў — адзін выхад. Інакш — на наступны год ніякая сіла не выцягне на поле.

І абяцанне спраўдзіў. Наперакор усяму. Здаў нарыхтоўкі. Выдзеліў насенне. А ўсё астатняе размеркаваў. І дачакаўся пракурора. І трапіў у райком. Палажыў партыйны білет. Зломаны, страціўшы веру ва ўсё, з невядомасцю, страшнай, ішоў дадому.

Праз паўмесяца судзілі — і атрымаў: дзесяць гадоў».

«Ганна — замужам за Міканорам — адчувае: не любіць яго. Спакойная. Халодны ён. Чагосьці не хапае ў яго. Увесь у справах. Дзеці — адна радасць. Усё добра нібы — чаго ж нездавальненне? Быццам не хапае чагосьці! Хочацца чагосьці!..»

«І зноў Ганна адна. Адна з дзецьмі. Жонка не жонка, удава не ўдава. Начамі гадае: дзе ён, што з ім.

Папракае: трэба было яму болей за ўсіх. Дзяцей не пашкадаваў. Яе не пашкадаваў! Другія — унь жывуць як жывецца, прыладжваюцца!

У хвіліны цвярозасці супакойвала: а як было яму іначай! Не век жа няпраўдай жыць! Не ўсім жа няпраўдай! Таму і цяжка так, што многія папрыладжваліся, загубіць гатовы ўсё — абы на вярху быць самім! Без хлеба гатовы другіх аставіць, абы самім белай булкай ласавацца!

Людзі спачуваюць. Добрым словам успамінаюць Міканора.

Ганну ганяюць на працу. Усіх ганяюць. Абыякавасць. Спяць у полі многія. Ганну бярэ сорам — робіць. Бярэ трывога: што ж гэта будзе? Ніхто рабіць не хоча? Адкуль жа хлебу таму?»

«У 1937 годзе пасадзілі Башлыкова і Галенчыка».

«Харчаў. Лёс нібы шчаслівы. У Мінску, угары. Рашае лёс многіх. Ордэн новы.

Але — неспакой у душы. Сумленне мучыць. Сумненні неадступныя. Няўпэўненасць у сабе.

Падазронасць: і на яго штосьці рыхтуецца.

Чакае: і яго возьмуць.

Усё няпэўна. Ніякай апоры.

І да гэтага — неспакой у душы. ·умненні ў тым, што робіць да другіх. Сумленне не дае спакою.

Не можа звесці канцы з канцамі. Заблытаўся.

Апустошанасць і адчуванне — заблытаўся. І адчуванне — ганебнага канца. Што рабіць?

Наган да скроні. Усё разам кончыць! Кончыў. Рука не здрыганулася».

«Перад смерцю — да яго трапіў Апейка. Размова шчырая. Апейка дзейнічае на яго.

Харчаў. А чаму я павінен верыць табе, другому. (Я перастаў адчуваць. Не знаю, каму верыць. Мне здаецца — усе вакол.) Нікому нельга верыць!

— Ты дайшоў да канца! Далей няма куды.

— Брэшаш!.. Ты заўсёды быў — з душком.

— Ты сам ведаеш — што гэта няпраўда. Твае словы.

— Не, праўда!

— Не мані сабе. І мне не мані. Мы ж — старыя сябры. Хоць у імя гэтага.

— Мы не сябры. І не былі імі па-сапраўднаму.

— Табе — відней. Я-то лічыў цябе сябрам! Тады — прабач.

— Сабака — табе друг!

— Ну, калі так...

— Ты лепш прызнайся без утайкі. Не круці. Табе ж лепш будзе.

— Я нічога не ўтаіў.

— Лепш будзе.

— Ты хацеў бы, каб я накляпаў на сябе. Але я гэтага не зраблю. Нават у імя нашай колішняй дружбы.

— А ты мала змяніўся. Нават той жа манер гаварыць.

— А ты — змяніўся.

— Ну, ну. Не забывайся! — Харчаў.

— Але ж ты мне гаворыш...

— Я гавару, а ты — не маеш права. Разумець павінен!

— А-а.

— Ну, давай пра справу. Прызнайся.

— Там усё напісана. Я магу толькі паўтарыць».

Як быццам зраўняў лёс Апейку з Башлыковым, усіх і усімі. Але ж літаратура, і асабліва вялікая літаратура, здольна бачыць і паказвае глыбей і не адны толькі знешнія падзеі, але і маральную перамогу ці паражэнне.

Крах—ідэйны, маральны спасціг іменна Башлыкова. Апейка—як бы лёс яго ні склаўся—перамог. Калі не тады, не ў 30-я гады, дык у 50-я, бо XX і наступныя з'езды партыі — вяртанне да ленінскіх норм жыцця і кіравання, гаспадарання — гэта і яго, Апейкі, перамога.

Цікава, што праз запісныя кніжкі Мележа можна ўбачыць і магчымы ваенны лёс Апейкі: ён, вядома, партызаніць, але і тут застаецца такім жа, як калісьці — нецярпімым да любой несправядлівасці. (Башлыкоў, каб быў, назваў бы «народнікам».) «Партызаны ў селяніна: дай хлеба, дай мяса, сала. Калі не даюць, пагражаюць. Не вераць, што няма. Дзве праўды. Часам гравіліся...

Апейка разумее, што гэта ненармальна, што такім метадам дабівацца ў людзей нельга».

Інакш выглядае ў часе Башлыкоў. Як толькі згубіў афіцыйную «вышыню», пасаду, адразу робіцца няўпэўненым, як бы паменшаў ростам, перастае быць ранейшым, самім сабой. Не ўмее, аказваецца, не прывык, не навучыўся быць самім сабой — без некага, хто накіруе, хто дасць каманду.

«Башл[ыкоў] пасля бюро АК («Головокруж[ение] от успехов») Харчаву.

— Пераводзяць на чыгунку. У палітаддзел. І вымову ўклеілі. А за што? Я апартуніст які? За што? Я зла хацеў? Раён у перадавыя вывеў!

Выпіў ужо. Раскіс зусім.

— Пляму такую! Таварыш Сталін як абухам па галаве. Я думаў... Не зварыла башка. І цяпер не варыць. Я, канешне, гатоў выканаць. Але нашто?.. Што цяпер будзе?

Столькі зла нарабіў?

Апейка ўбачыў: і недалёкі ён, прамы, як друк. І няшчасны па-свойму: паставілі на крутую плынь, а ён — не разумее. І ён — рашае!

Самаўпэўнены недавук! Выпадковы!

Апе[йку] раптам стала шкода яго. «А шкадаваць не трэба!»

«Няхай, паразумнее, можа!»

«Нічога, я так дакажу. Акуплю ўсё!»

Але і нешта іншае ажывае, расце ў Башлыкову, больш чалавечнае. І магло ўзмацняцца гэта, бо ён усё ж — не Дубадзел.

«Калі Башл[ыкоў] адчувае, што рушыцца ўсё, адчувае сябе малым, бездапаможным. Скардзіцца хочацца. Чаго несправядліва крыўдзяць.

Абуджаецца, мацнее чалавечае. Пашкадуйце. І адчувае — шкадавання няма.

Гіне на людзях. Ніхто не хоча руку даць».

Так, Башлыкоў — гэта не Дубадзел. Былі ў яго прынцыпы і сумленнасць нейкая.

Затое ў Дубадзела — нічога.

«Крываротый ў вайну — вымушаны застацца на акупіраванай зямлі — прадаўся немцам. Стаў служыць ім».

«Ён у душы кар'ерыст. Яму, Крываротаму, галоўнае — быць навярху. «На кані», як ён сам кажа. А яго з каня — на зямлю перад вайной. От і злосць на Савецкую ўладу. Яўхіма спаткаў як таварыша».

«Немцы далі зноў уладу. Зноў п'янее ўладаю. Хваліць немцаў, распінаецца за іх доўгімі прамовамі, як некалі за Савецкую».

«...Дубадзел — прынцыповы. Праўда, прынцыповасць асобая, свая, для сябе: аўтарытэт і дабрабыт свой быў у яго разуменні зліты з інтарэсамі дзяржавы. Усякі, хто замахваўся на яго, за-

махваўся тым самым і на дзяржаву. І ад імя дзяржавы Дубадзел мог заступацца за сябе — ён жа і дзяржава былі зліты!

Хіба ж Ганна, адштурхнуўшы яго, назваўшы «слінявым», не абразіла тым самым і дзяржаву. І хіба не павінна панесці кару, як за дзяржаўнае злачынства».

«Дубадзел заяўляецца ў школу. Рашучы, дзейны ўваходзіць.

— Дзе Глушак Ганна? А, тут.

Строгі загад:

— Сабірайся!

— Куды ето?

— У ссылку.

— Якую?

— Такую. З Глушакамі. Раскулачылі вас.

— Дык яна ж кінула! — умяшалася Параска.

— Ге, дурных знайшлі! Кінула для віду.

— Вы што гаворыце!

— Сабірайся!

— Вы не маеце права!

— Маем. Не разведзены. Праверано! — радасна.

— Дак куды ж ты пашлеш мяне?

— Смейся. Пасмяешся патом.

— А ўсё-такі?

— Куды Макар цялят не ганяў.

— У Салаўкі?

— Е место.

— Аге.— Трымалася.— З Яўхімам?

— З мужам.

— А я з табой хачу застацца.

— Мало што.

— Ужэ не хочаш. Перадумаў. Шчэ ж нядаўна хацеў. Не глядзеў, што кулацкая?

— Брашы!..

— Забуў ужэ! Дак мо не забуў, як гразіўся, калі пасмяялася з подступаў тваіх?

— Не паклёпнічай. Ніхто не паверыць!

— А мо — паверадь.

— Кулацкая плётка!..— Строга.— Сабірайся!

— Нікуды яна не пойдзе!

— Міліцыя даставіць!

— Не маеце права!

— Маем! Рашэнне сходу ў Куранях.

Нецярпліва:

— Хутчэй! Няма часу!

— Я ў сельсавет пайду! К Гайлісу.

— З Гайлісам дагаворано.

— Пабачым!.. А не — к Башлыкову самому!

— Хоць к Калініну!..»

«Параска да Гайліса. Гайліс не згадзіўся: па закону ўсё. Рашэнне.

Тады яна хацела к Башл[ыкову]. Але перадумала — к дзядзьку — параіцца перш.

Апейка распарадзіўся Гайлісу:

— Не перагінайце. Каго вы там намецілі? Праверце, падумайце яшчэ раз... Падумайце наконт Ігната. Па-мойму, незаслужана».

Башлыкоў не спыніў Дубадзела, калі дачуўся пра Ганну. Адступіў убок. Прынцыповасць? Маўляў, «асабіста зацікаўлены», а таму не павінен умешвацца. «Ён нападае на Апейку, што заступіўся за Ганну... Фармальна яна — падляжыць». Не, больш страх, што ўсплыве: знаўся з кулацкай жонкай! Той жа Дубадзел прадасць, і тады ратунку і Башлыкову не будзе.

Уступіўся за Ганну Апейка. І вызваліў яе. А за гэта (і яшчэ за Нібыта-Ігната, былога чырвонаармейца) Апейку і Гайліса прыцягваюць да адказнасці: «За апартунізм і патуранне кулацкім элементам». Той жа Башлыкоў і «раскручвае» гэту справу.

Калі адмовіўся ад кахання да Ганны — тады, першы раз даведаўшыся, што была жонкай Яўхіма Глушака, Башлыкоў павёў сябе, як Васіль. Той за зямлю, за ўласнасць прадаў сваё шчасце, а гэты — за кар'еру. («Фармальна яна — падляжыць»...) А потым абодва ўсё страцілі: той — зямлю, а гэты — кар'еру.

«Даць добра лінію — Ганна — Башлыкоў. Гэтая лінія кахання — як аналогія лініі Васіль — Ганна. Там скалечана, загублена каханне, нястача, беднасць, сялянская філасофія, тут — філасофія аскетызму, падазронасці, нявер'я чалавеку. І тая, і гэтая прычына — аднолькава бесчалавечныя».

Дык для Васіля хоць апраўданне магчыма: што, акрамя той зямлі, бачыў ён, ведаў у жыцці.

А калі другі раз — за тую ж кар'еру — Башлыкоў прадаў Ганну, здрадзіў і пачуццю, і сумленню, дык павёў сябе — і зноў у Мележа выразная паралель — нават горш... за Яўхіма Глушака.

Бо і яго, Яўхіма, далейшы лёс, прачытваецца ў запісах Мележа.

Вось гэтыя запісы, якія характарызуюць не толькі Яўхіма (гавораць пра неадназначнасць і гэтага характару), але маглі б ацэначна завастрыць і паводзіны Башлыкова — у наступных раманах.

«Яўхім зноў трапіў у разлад.

Жыццё зноў заблыталася.

Надзея на немцаў выветрылася.

Бачыў: ім і на яго напляваць.

Глядзяць, як на жывёлу.

Падкормліваюць, як сабаку. Пакуль служыш.

Сябе толькі лічаць за людзей.

Адчуюць сілу, прагоняць друкам. Трэба гнуцца перад кожным смярдзючым фрыцам. А ён, як на скаціну. (Пячэ: сын загінуў ад немцаў.)

Ды і — відаць: дохлае іх дзела. Нічого не выйдзе. Парцізаны і — лічы — кажны супраць. Народ.

П'е без просыпу. Самагонка, самагонка. Бабы — курвы.

Галова век баліць.

А от Ганна не выходзіць з сэрца. Не ўдалося жыццё. Не будзе нічого. Завязалася пятлёю, вакол шыі».

«Яўхім дазнаўся: схапілі некалькі куранёўцаў. І Ганна сярод іх.

Сядзяць у Загаллі. Едзе туды (вызываецца сам).

Прыходзіць у хлеў, дзе яны сядзяць.

Гаворыць рэзка, здзекліва. «У расход пусцяць. Што перадаць?» Красуецца. Не разумеў — перад ёю: няхай бачыць яго сілу.

Яна з нянавісцю.

Выходзіць у паліцыю. П'е.

Думае пра Ганну, пра жыццё.

Вечарам стычка з паліцаем. Патрабуе вызваліць. Адбірае ключы. Той бяжыць да немцаў. Ідзе ў хлеў. Ледзь стаіць.

— Выходзьце. Вымятайцеся. Покуль не позно... У лес зразу.

Сам закрывае хлеў. Немцы кінуліся да яго ■ крыкам.

— Век!

Страляе. У перастрэлцы ранілі.

Схапілі, звязалі.

Вядуць у Хвойнікі.

— Парцізан?»

«Ярмольчык тут.

Б'юць. Плюе крывёю.

Трымаецца дужа.

Думае пра Ганну. Выратавалася.

Плача па сыне.

Нічога не застанецца. Адно шкода».

Самы жывучы з усіх аказаўся Васіль Дзяцел. Хоць і ён прайшоў — ды і як яшчэ! — праз усё, што прайшлі ўсе іншыя. Але селянін гэты самы жывучы, бо і справа яго на зямлі вечная — рабіць хлеб.

Лёс яго, як і іншых, бачыўся Мележу таксама неадназначна — калі чытаць запісы розных год. Але ўсюды і заўсёды галоўнае для Васіля было і заставалася — усё тая ж зямля. Нават калі і глядзець на яе не хацеў, ужо баяўся...

Дубадзел не толькі Ганну, але і Васіля падводзіць пад раскулачванне, і Васіль пакідае Курані. Ён проста збег.

«Васіль — калі прыціснулі з калгасамі — кінуў сяло. Падаўся на заработак — плыты ганяць...»

«Васілю на лесараспрацоўках (на сплаве).

— А ты, мабыць, кулак?

— Чаго ето?

— Уцёк ад калгаса.

— Кулацкая душа ў цябе».

«...Туга па зямлі. Вярнуўся. Абы на зямлі рабіць».

«Калі ўсе рэжуць жывёлу, Васіль шкадуе яе. Не рэжа.

Сумленне не дае. І чалавечнасць. Як можна так губіць!

І — баліць, што нанішто ўсё.

У к[алга]се шкадуе жывёлу. І не ўхваляе безгаспадарчасць. Не можа трываць яе. Счапіўся з адным».

«Васіль у першы год у калгасе вельмі стараецца рабіць. Вельмі прымае да сэрца нелады калгасныя».

«Хроніка» /IV/
Калі вайна, у Васіля ажываюць (прыватніцкія) надзеі.
І крыўда ажывае. Забралі. Парэзалі ўсё. Па жывому.
Хваліліся: *непераможныя!* На ўвесь свет!
Калі прыйшоў дадому: спусценне. Трывога ўсіх.
Шкадаванне: пахапалі, пацягалі з калгаса.
Ён таксама стараецца. Трэба па-новаму прынараўлівацца.
Трэба жыць. А то і з голаду падохнуць нядоўго».

«У вайну — вярнуўшыся — Васіль не радуецца зямлі. Спачатку — спакуса. Бярэ яна. Маня ўгаворвае. Не верыць ёй. Усё нетрывала. Не той зялёны, наіўны. Гняце ўспамін пра бачанае. Жыве памяць пра пераж ытае.

Прыглядаецца. Чакае.

...Не верыць у трываласць нямецкіх парадкаў. І ў іх дабрачыннасць. Асобна трымаецца».

«Васіль спачатку стрымана і да партызан. Прыглядаецца. Ім што — абы-што — у лес. А яму тут. У яго — сям'я. Яму трэба думаць пра сям'ю. Ён адно — заступка ў сям'і. А заступка трэба цяпер, як ніколі».

«*Зямля!* Яна ляжала цяпер нібы нічыя. Бяры колькі хочаш. Жыві, развінайся!

Звала, спакушала. Бяры, няма забароны. Няма гаспадароў.

Людзі бралі найбольш тое, што было да калгасаў. Бралі неахвотна, нібы з недаверам. З аглядкай. Глушаковага не бралі. Як бы на той была па-ранейшаму яго ўлада... Не бралі Пракопавага. На Пракопава адразу заявіла свае права Маня.

Глушаковае можна было таксама ўзяць. Нікога з Глушакоў не было. Старога не было на свеце. А сыноў таксама вецер развеяў. Ды Сцяпан, каб і прыйшоў, наўрад ці ўзяўся б.

А Яўхіма, пэўне, даўно «рашылі». Казалі ж, Міканор злавіў, прадаў уладам.

Бяры! Тое, пра што некалі марыў, ляжала пустое. Як бы ў насмешку над маладымі яго марамі.

Маня падганяла: вазьмі. Кінь пясок, ды вазьмі тое! Прагная.

Ён хадзіў, глядзеў. Хацелася. Ды бярогся. Аглядваўся, чакаў: што будзе?

Невядома было, што будзе. Значыць, невядома, што рабіць.

(Баяўся ўжо зямлі. Не верыў. Нямілае было ўжо ў ёй)».

Запісы ў блакноце (за 1957—1958 і 1961 гады) даюць уяўленне аб тым, як бачыўся шлях Васіля праз вайну.

Шмат каго вайна раскрыла нечакана. І зусім не ў адпаведнасці з даваеннымі ўяўленнямі і анкетамі.

Вось Мележ запісвае пра тое, што, можа, пачуў у Глінішчах, яшчэ калі прыязджаў туды адразу пасля вайны.

«Яна складала для партызан спісы здраднікаў, давала весткі аб немцах. Немцы і паліцыя напалі на партызан; тыя адступілі, кінулі зямлянку, а ў ёй — спісы і данясенні, напісаныя сваёй

служачай. Разабралі почырк. Допыты, катаванні. (Яе звалі — Маня Чэкан, яна з Валок, яе добра знаў Разуменка)».

Гэтая «дзяўчына з Валок» — з раскулачанай сям'і, «якую добра знаў Разуменка» (і, мабыць, расказаў пра яе лёс Мележу), прымушае пісьменніка ўспомніць пра дзяцей Гайліса і іншых «ворагаў народа».

«Сын Гайліса — Валодзькаў таварыш. Разам вучыліся. Гора сына. Не верыць, што бацька такі. Яму, сыну,— не вераць другія. Сляпы ты. Ад бацькі ў сына — прамата, цвёрдасць, рашучасць.

Выключаюць з камсамола. У вайну ў арміі — геройскі ваюе».

«Дачка раскулачанага, сын Гайліса, дачка Марчанкі — на вайсковых зантках: «выйсці са строю!» Дзецям ворага не трэба даваць зброю.

Потым — у вайну — дачка кулака стала героем падполля. Паліцаі напалі на яе след (сядзела ва ўправе), схапілі, катавалі зверскі, расстралялі».

А вось і адваротнае:

«Былы камсамолец, актывіст (Ярмольчык), лейтэнант Чырвонай Арміі вяртаецца ў Хвойнікі [redacted] палону, выслужваецца перад немцамі, становіцца начальнікам паліцыі. Не разгледзелі кар'ерыста, шкурніка. Цяпер ён садзіст, звер. Упіваецца ўладай».

Таксама рэальная асоба, і пра яго чуў у сваіх палескіх Глінішчах Іван Паўлавіч — ад таго ж Разуменкі, ад Саўчыка.

«(Ярмольчык,— Разуменка знае, Саўчык).

Кулацкая дачка (Маня Чэкан) становіцца гераіняй падполля! Вось яно — жыццё, яго павароты, яго законы! Паказваць,— жыццё — вораг мёртвай догмы, схемы,— ламае яе ўсюды рэзка і непахісна».

«Яўхім нібы дружыць з Ярмольчыкам...

— От я — кулак. Кулацкі сын. Мне дарога — адна, прамая сюды. А ты — чаму? Табе Савецкая ўлада ўсё дала. Вывучыла. Камсамольцам быў».

Ва ўсіх запісах розных год, дзе гаворыцца пра Васіля ў часе вайны, характар Васіля Дзятла — ужо знаёмы па раманах — выразна ўгадваецца: неяк збоку прыглядваецца ён і да немцаў, і да партызан... Але, вядома, гэта ўжо не зусім той Васіль, з якім рассталіся мы ў «Подыху навальніцы». Бо ўсе трыццатыя пражыў, было і ў яго ўсялякае — і дрэннае, і добрае. Але паявіліся дзеці, і ўжо іх лёсам ён заклапочаны. А які там можа быць у іх лёс, калі чужынец запануе на тваёй зямлі. Можа, упершыню, можа, толькі цяпер «мая зямля» для Васіля, у душы яго загучала, як: мая, наша Радзіма!

А яго спакушаюць: «сваёй зямлёй» — і ўлады новыя, і ненаедная жонка, Маня. Ды толькі пахіснулася яго вера, што зямля, свая зямля — самае надзейнае. Няма нічога надзейнага ў свеце,

дзе само жыццё, тваё і дзяцей тваіх, кожную хвіліну пад пагрозай.

Невядома, на чым пісьменнік зрабіў бы акцэнт у характары Васіля, калі б напісаў кнігу «Хронікі» пра ваеннае ліхалецце, але і тыя накіды, пробныя, прыблізныя, вядома, што засталіся, гавораць пра многае.

«(Вайна)

Калі Васіль ранены дабраўся ў Курані, заявіўся Яўхім. Напаў так, што не было куды дзецца: Васіль быў у хаце; Яўхім ішоў на двор. На гарышча позна, у хлеў, у лес няма як. Чакаў з трывогай.

Яўхім паздароваўся, сеў. Памаўчаў. Цішыня навальнічная. Васіль таксама маўчаў, гатовы на ўсё. Маня захадзілася — пачаставаць.

«А і не адкажуся! Стаўляй пляшку».

«Ну, як ваяваў проціў немцаў? Абараніў сваю Савецкую ўласць?»

Маня: «Мабілізавалі».

«Дзе стукнула?»

Васіль: «Пад Гомелем».

«Далеко цяпер ужо немцы! От ваша — непабедзімая Красная Армія».

Васілю хацелася спрачацца — хоць сам нядаўна ж злаваў на былую балбатню; абражаў Яўхім нібы і яго, усё, чым жыў, як бы абражаў бацьку і матку,— але ён маўчаў: небяспечна было спрачацца. Лезці на ражон.

Яўхім акінуў вокам хату, пахваліў:

«Аніштo хата! Калгас даў ці — сам?»

«Сам».

«А лес?»

«З калгасу выпісалі».

«А дабро пахаваў, пэўне».

Маня: «Якое там дабро!»

Усё ўлагоджвала Яўхіма: «І майго ж татачка саслалі! Разам з тваім». Васіль падумаў: ужэ як усеадно радуецца! Яўхім нахмурыўся: «Дзе ён цяпер? Дайдуць немцы да Урала — вытрабую назад. Няхай пажыве астатак гадоў, парадуецца».

«І нас жа таксамо раскулачвалі. Хату адабралі. Землю адрэзалі».

«Ну, помніш, як біліся ля цагельні. Порсткі быў! Чужога захацеў! Васіль чакаў: зараз устане, кінецца зноў; насцярожыўся, нарыхтаваўся.

Яўхім выпіў, жаваў доўга, люта, маўчаў. Пракаўтнуў.

«Ну, чорт з ім. Што было, тое было. Не пакарыстаўся і ты... Чорт з ім. Не буду памінаць». Маня: «Не памінай, Яўхімко!» Памаўчаў, пажаваў: «Чорт з ім! Давай на міравую!»

Васіль ахвотна паднёс чарку: на душы адлегла.

«Толькі штоб цяпер са мной заадно буў! Разам штоб ішоў. А не — дак у парашок! Ето табе не стары час! Сіла ў мяне! Захочу — уміг скручу. І дом, і дабро ўсё — умент к чорту!»

П'яны быў, страшны. Васіль толькі глядзеў ды сачыў. Ды маўчаў, піў. Быццам вынесла з ручая на рэчку — і круціць, гоніць, ліха яго ведае куды».

«Пасля вандраванняў нядаўніх, грукату бою, смерці жыў Васіль цішынёю, спакоем, звыкласцю родных з'яў і клопатаў.

Цішыня як бы была не ціхаю, і ў спакоі чулася пагроза. Стараўся не заўважаць, не вярэдзіць сябе думкамі — уцехі ў іх не было.

Балела душа за малых, за агарод, за карову, за хату — няпэўным, безабаронным было ўсё, але тым даражэйшым было ўсё.

З незвычайнай любасцю песціў малых, ■ рэдкай, з адчаем адданасцю хапаўся па гаспадарцы».

«Першы час успамінаў усе крыўды, якія былі яму ад Савецкай улады: асабліва—як запісалі падкулачнікам, як забралі радасць—хату, адрэзалі зямлю, прымусілі, можна сказаць, бадзяцца па свеце. Злосць была на Міканора».

«Злосць была: от хваліліся — усё пераможам, адной пяткі зямлі — не аддадзім, на чужой зямлі ваяваць будзем! А як прыйшлося — дык як пакаціліся, дык і астанавіцца не могуць. Хваліліся: танкаў у нас цьма — а як прыйшлося, дык бачыў іх, як свой нос. Адзін самалёцік, а іх — тысячы! А столькі налогу бралі: на абарону, столькі пазыкі той! Куды ж падзелася ўсё?

Але гэта была злосць не зларадная, а — усё часцей — злосць балючая, балюча было ад яе самому».

Не, не збіраўся пісьменнік выпрамляць характар Васіля. Было што разгортваць, куды паглыбляцца, калі б Мележ распачаў палескі раман пра ваеннае ліхалецце.

Васіль як бы ўсё той жа. Ва ўсякім разе такі ж неадназначны. Але гэта ўжо не гаспадар-падлетак, як у першым рамане. Ён ужо бацька, ужо пабываў і на вайне. І наогул бачыў, ведае не адны свае Курані.

Праўда, аўтар яшчэ не захоплены па-сапраўднаму (толькі накіды) рухам і самараскрыццём характару Васіля ва ўмовах вайны. Не так суперажывае свайму герою, як «падглядвае» за ім, збоку неяк: маўляў, ці не ажыве горшае, што ў ім было?..

«Балела душа за малых, за гарод, за карову, за хату...»

Быццам усяму гэтаму адна цана: што дзецям, што агароду ці карове! І хоць сапраўды: як без агарода ды без каровы тых дзяцей ўратаваць ад галоднай смерці, але ёсць у такім пераліку «праз коску» як бы і папрок Васілю-«ўласніку»: ці хоць змяніўся ён, а мо застаўся ўсё ж такі?..

Ды толькі ёсць у запісах тых фраза, якая магла ўсё гэта зрабіць другарадным, усё павярнуць, скіраваць у свой бок — калі б усур'ёз распачата была праца над гэтым раманам: «Калі палалі Курані — (сям'я) загінула. Выратаваўся сынок адзін. Яго выпадкова смерць абмінула».

Першая балючая і страшная навіна, якую Іван Паўлавіч пачуў і перажыў пачуўшы, калі пасля вайны прыязджаў у свае

Глінішчы, магла быць (і была, вядома) — пра тое, як у суседніх з Глінішчамі Алексічах жыўцом спалілі, перабілі ўсіх жыхароў. Ды і ў шмат якіх вёсках навокал...

Спрабаваў апавядаць пра такія вёскі Іван Мележ і ў «Мінскім напрамку».

Але можна ўявіць, як заглыбіўся б ён у гэтую тэму (таксама нацыянальную для беларусаў, ды толькі нясцерпна жудасную!), калі б напісаў ваенны лёс Куранёў (Васіля, Ганны). І як дзеці засланілі б усё астатняе! І ў рамане. І ў душы Васіля. І з чым у душы пайшоў бы Васіль на фронт — пасля вызвалення. І якім вярнуўся б!

Бо Мележ так бачыў (на нейкім этапе сваёй працы) далейшы лёс Васіля:

«Пасля вызвалення — узялі ў армію. Кончыў вайну — у Германіі ці Аўстрыі. Ваяваў непагана. Кулямётчыкам. Пачаў ад Мозыра.

Ехаць — не ехаць дадому? Балела — ад адной думкі пра дом. Спачатку думаў — не паеду. Падаўся з таварышам — да яго. Пабыў — пацягнула дадому.

Прыехаў. Сустрэўся з Куранямі. Боль. На могілках. Колькі тут пахавана! Але ніхто не бачыў такой бяды!..

Курані. Нідзе мне без вас жыцця не будзе. Толькі ў вас і маё гора, і мая радасць. Маё жыццё!»

А далей — запіс, словы, што не вельмі, можа, вяжуцца з вобразам Васіля, які ёсць у напісаных раманах, але з Васілём ваенным і пасляваенным, мабыць, вязаўся б:

«І ўсё-такі мы будзем жыць. Нас — не знішчыць. Бо мы — народ!»

У артыкуле «Знайсці сябе» Мележ зафіксаваў тую гістарычную праўду, што ў Айчынную вайну — і «пасля такой вайны» — нашы людзі па-новаму неяк адчулі, зразумелі, «што мы — народ».

Дык чаму не адчуць было гэтага Васілю? Якога нішто не абышло і абысці не магло, бо такіх, як ён — мільёны, асноўная маса народа.

Вось дзе і як магла адгукнуцца тая першапачатковая думка пра «вялікую прыгожую нацыянальную тэму», з якой усё пачыналася. Вось які гістарычны маштаб, якую гуманістычную глыбіню яна набывала ў працэсе працы над раманамі.

«16.IX.1975 г. Надвор'е сёння зранку хмурнае. А пад вечар праяснілася. Усе дні найбольш сонечна, неба сіняе. І цёпла, уночы ўжо холадна. Але я адчуваю сябе кепска. Стомленасць агульная, і апатыя да ўсяго. У тым ліку да рамана. Не хочацца (і не можацца) нічога рабіць. Ляжыць мая кніга, якую чакаюць у «Полымі» (напаміналі).

Відаць, так і застанецца недапісанай мая абяцаная «Палеская хроніка». Гэты раман я, можа, як-небудзь са скрыпам дацягну. А як тое, што ляжыць у папцы? Тое, якое магло даць «Хронікі» выгляд хоць нейкай завершанасці...».

«23.IX.1975. Пазаўчора памёр Міхась Лынькоў. Звяршыўся яшчэ адзін лёс».

З балючай думкай, што не здолее, не паспее дапісаць нават «гэты раман» («Завеі, снежань»), як хацеў бы, як мог бы, ён сабраў і аддаў у «Полымя» тыя раздзелы, старонкі, што мелі выгляд найбольш закончаных...

«30.І.76.

Здаў вёрстку ў № 3 «Полымя» І ч. рамана.

Сяджу, чытаю «Сібір» Г. Маркава. Трэба — артыкул для «Літ. газеты». Артыкул кепска бачыцца. Задача вельмі цяжкая, і я проста пакутую душой.

І гэта пры тым, што думаю і цягнуся сэрцам — да свайго новага рамана. Трывожыўся за яго (новы, г. зн. ненапісаны)».

«Карэктура № 2. Чытаю. Адчуваю незадавальненне зробленым. Цяжка пісаць гэта. І пісаць цяжка, і кінуць не магу. Не магу спыніцца на дарозе. Як — падарожны, што стаміўся целам і душой, а павінен брацца далей».

Толькі частку раздзелаў новага рамана, больш закончаных і звязаных адзін з адным (вакол палахліва абарванага Башлыковым і горда — Ганнай іх кахання), Іван Паўлавіч выстраіў у рамане «Завеі, снежань», як толькі можна было. Астатняе зрабіць, дапісаць раман, ужо не паспеў. Тое, што заставалася на стале, у шафах, патрабавала яшчэ істотнай дапрацоўкі.

Раздзелы, накіды, асобныя старонкі і запісы да гэтага твора, якія засталіся ў папках, у блакнотах, у невялічкіх запісных кніжках Івана Паўлавіча, мы з Лідзіяй Якаўлеўнай Пятровай-Мележ рызыкнулі сабраць і асцярожна скласці, выстраіць у нейкую «сістэму» (не твор, вядома, а ўсяго толькі «штрыхі да твора»), каб чытач мог мець больш поўнае ўяўленне пра раман «Завеі, снежань» (і пра ўсю «Палескую хроніку»).

У такім (сабраным) выглядзе матэрыялы да рамана «Завеі, снежань» друкуюцца ў дзесяцітомніку.

Чым мог закончыць Іван Паўлавіч свой трэці (і апошні, як аказалася) раман хронікі? Ёсць два накіды. І абодва прымушаюць успомніць «Ціхі Дон», лёс Грыгорыя Мелехава, які пасля ўсяго ні з чым застаўся. І толькі «чорнае сонца» адзіноты над ім.

Не, у Грыгорыя сын ёсць і яшчэ — незвычайная туга па звычайнаму, ціхаму, працоўнаму жыццю. Але ж у гэтым таксама надзея.

Такі ж канец чуўся, бачыўся і Мележу — па настрою такі.

«У канцы даць сцэнку: Васіль вяртаецца ў Курані. Пацягнула. Калі вясной запахла, калі пачуў пах зямлі, можа, з Куранёў данёс вецер, пацягнула — не ўседзець тут. (Гэта калі Васіль хаваўся на лесанарыхтоўках.— А. А.) Няміла стала ўсё тут. Хай будзе, што будзе — толькі там быць, хадзіць па сваёй зямлі, чуць яе пад нагамі, дыхаць яе пахам. Ураз сабраўся, усё кінуў. Ляцеў дадому. І вось яны — Куранёўская грэбля, цагельня, стрэхі... Хай хоць што, толькі тут быць! Толькі тут!..» (Запісы ў блакноце 1961—1966 гг.)

А ў другім месцы: «Вясна, арэ. (Праз год? два?) Толькі б тут. Хоць што. От яна, Карчова паласа. Якую прагнуў. Усё паламалася.

Ні Ганны, ні зямлі. «Дурань».
Так, пэўне, трэба.
І трэба жыць, як е. Як доля наканавала.
Жыць».
І на палях аўтарскай рукой: «Добры канец».
Ну, а пераклічка з канцоўкай «Ціхага Дона» — цяжка не адчуць яе тут — што ж, можна глядзець на гэта, як на рэч звычайную ў працэсе працы: маяк удалечыні, які дапамагае выбраць патрэбны шлях — свой. І ўсё ж — не. Нешта большае, звязанае з самім векам XX-м, тут бачыцца.

Наша літаратурная навука падкрэслівае прынцыповае значэнне трагічнага фіналу «Ціхага Дона». Гэта першы ў гісторыі літаратуры выпадак, калі эпапея развітваецца з чытачом на трагічнай ноце. Не проста шчымлівай, а гучна трагічнай.
«Хаваў ён сваю Аксінню ясным ранкам. Ужо ў магіле ён крыжом склаў на грудзях яе памярцвела-збялелыя і ўсё ж яшчэ смуглыя рукі... Ён развітаўся з ёю, цвёрда верачы, што сустрэнуцца яны хутка...
У дымнай імгле сухавея падымалася над кручай сонца...»
Чалавеку, які ўпершыню чытае гэтую вялікую кнігу, спачатку здасца: гэта ўзыходзіць знаёмае па іншых эпапеях сонца надзеі, вечнае і непераможнае сонца жыцця! І цяпер, маўляў, усё падраўняецца і стане на месца...

І кожнага, як токам, пранізваюць словы, што там далей (і пры другім і пры пятым чытанні): «Быццам пасля цяжкага сну, ён узняў галаву і ўбачыў над сабой чорнае неба і асляпляльна ззяючы чорны дыск сонца».
На парозе XX стагоддзя эпапея ўпершыню закончылася на такой вось трагічнай, бясконца трывожнай ноце. Аўтар быццам і стараецца, але не можа перасіліць прароцкае адчуванне трывогі не толькі за свайго героя, але за лёс усіх...
«Што ж, вось і спраўдзілася тое, пра што ў бяссонныя ночы марыў Грыгорый. Ён стаяў ля варот роднай хаты, трымаў на руках сына...
Гэта было ўсё, што засталося ў яго жыцці, што пакуль яшчэ радніла яго з зямлёй і з усім гэтым велічэзным, ззяючым пад халодным сонцам светам».
А з другога канца — другой паловы — таго ж XX стагоддзя насустрач гэтаму гучыць (павінна было прагучаць) ужо на старонках беларускай эпапеі, на старонках беларускай сястры «Ціхага Дона»: «Так, пэўне, трэба. І трэба жыць, як е. Як доля наканавала. Жыць».
І пра тое ж, у другім месцы: «Хай будзе, што будзе — толькі там быць, хадзіць па сваёй зямлі, чуць яе пад нагамі, дыхаць яе пахам... Хай хоць што, толькі тут быць! Толькі тут!..»
Куды б накіраваў Мележ свой карабель — гэта яшчэ невядома. Але арыенціры, «маякі» ў яго вартыя і задумы, і намаганняў, і таленту яго.

Так ці па-другому заканчваўся б раман «Завеі, снежань», тым ці зусім іншым (але, мабыць, не зусім іншым) шляхам, кірункам

разгортваліся б падзеі, пайшлі б героі ў наступных раманах «Палескай хронікі», мы не ведаем.

Ведаем адно. Іван Паўлавіч Мележ ішоў да сваёй Галоўнай кнігі праз усё творчае ды і наогул амаль усё свядомае жыццё. Ён уклаў у «Палескую хроніку» ўсё самае дарагое, запаветнае, важнае — усё, што перажыў, зведаў, зразумеў. І з кожным годам працы над грандыёзнай задумай, з кожным новым раманам і задума і раманы паглыбляліся, набывалі новыя маштабы і, галоўнае, імкліва ўзрастала патрэба і рашучасць сказаць сапраўдную народную праўду аб жыцці — напісаць паэтычную і ў той жа час жорстка праўдзівую эпапею народнага жыцця.

*А. М. АДАМОВІЧ*

# ЗМЕСТ

Мележ І.
М 47 Збор твораў. У 10-ці т. Т. 7. Завеі, снежань: Раман з «Палескай хронікі».— Мн.: Маст. літ., 1983.— 558 с., 4 л. іл.
У пер.: 2 р.
Змест сёмага тома Збору твораў Івана Мележа складае раман «Завеі, снежань», а таксама накіды, планы, няскончаныя раздзелы гэтага рамана, асобныя накіды і сцэны да «Палескай хронікі», нататкі з запісных кніжак Івана Паўлавіча Мележа за 1957—1970 гадоў.

М $\frac{4702120200—011}{М302(05)—83}$ падпіснoе
ББК 84Бел7
Бел2

Иван Павлович Мележ

Собрание сочинений
в десяти томах

ТОМ 7

*роман из «Полесской хроники»*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар П. З. Шаўцоў. Мастак Н. У. Сустава. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар І. М. Паланейчык.

ІВ № 1392

Здадзена ў набор 08.01.82. Падп. да друку 24.11.82. АТ 05276. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 2. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 29,40+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 29,82. Ул.-выд. арк. 33,01. Тыраж 52 000 экз. Зак. 2274. Цана 2 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.